1922 1922

# АДРАДЖЭНЬНЕ

ЛІТАРАТУРНА - НАВУКОВЫ
ВЕСЬНІК ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Выходзіць чатыры разы на год.

Сшытак першы.

I

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ
ТАВАРЫСТВА „АДРАДЖЭНЬНЕ“. МЕНСК. 1922.

# З ПОЭМЫ „НОВАЯ ЗЯМЛЯ“.

## КАЛЯ ЗЯМЛЯНКІ.

Я буду рады, калі ўдасца
Маім знаёмым ў вашай ласцы
Хоць на кароценькі часочак
Заняць хоць цесьненькі куточак.
Іх жыцьце, праўда, няцікава,
Пра іх нідзе ня ходзіць слава.
Аб іх гісторый не складаюць,
Пра іх і песень не сьпяваюць,
Апроч вятроў, што нудна ў плоце
Зімой ў маркотнай адзіноце
Халодны сьнег нясуць-ўзьдзіраюць
І бедным людзям байкі баюць
Аб жыцьці, долі іх пахілай
І плачуць стогнуць над магілай,
Дзе косьці іх ў пясочку млеюць—
Адны вятры іх пажалеюць.
Але ня кожны сьцяміць мовы
І жальбы ветру між будовы:
Чаго ён жаласна сьпявае,
Каму ён песенькі складае?
І бацьку скора сын забудзе—
Каротка памятка аб людзе.
Аб простым людзе. І такая
Ўсім бедным доля выпадае:
Прайсьці свой круг, прамарнавацца
І невядомымі застацца
Ды быць забытымі тут ўсімі—
І сваякамі і чужымі.
І мне заўсёды горка стане,
Калі убачу на кургане
Пад шэрым прыкладам драўляным
Прыпынак вечны селяніна,
Стаіць там крыжык-сіраціна,
Сівёнькім мохам ўвесь убраны,
З павязкай белай дома тканай.
Пытаю: хто тут пачывае?
Дзяўчына можа маладая
У поўным цьвеце красы-сілы
Сышла бяз часу да магілы?
Ці здатны хлопец-малайчына?—
Маўчыць магіла селяніна,
І хто пахован, я ня знаю
І моцны смутак ў сэрцы маю.
А тут закопаны навекі
Надзеі, радасьць чалавека,
І гора схована ліхое—
Ўсё жыцьце беднае людзкое.
Мае знаёмыя няўзрачны,
Нічым ня слаўны і ня значны.
Усё людзі простыя, малыя,
Хоць па сваему і ўдалыя.
Але ўдалымі іх ня лічаць.
Жывуць, цярпліва долю смычуць
І крыж нясуць мужычы ціха,
Дабра ня бачучы з-за ліха.
Ды што зрабіць? Я-б сам быў рады
Ня ведаць крыўды тэй і здрады,
Што просты люд нясе вякамі
Сваімі ўласнымі гарбамі,
Ды горкай праўды не схаваеш,
Яе ніяк не ашукаешь,—
Ды й на вошта? Крый нас Божа!
А праўда мне ўсяго даражай,
І бацька праўдзе вучыў змала,

Дык в гэтай праўдай ступім далей.
Дзень добры, новая мясьціна!
Спаткай ты нас, як маці сына
Па часе доўгае разлукі,
І разгарні прыветна рукі
Для тых, хто змушаны ў няволі
Жывіцца хлебам твайго поля;
Зірні ты сьветлым вокам ласкі,
Авей крылом прыгожай казкі,
Каб гэта жыцьце-пуцявіна
Была нам сьветлая часіна.
Узброй надзеямі нам грудзі,
Бо мы твае, зямелька, людзі!

На першы погляд няцікава
Парэчча гэта выглядала,
І смуткам сэрца калыхала
Старых бярэзін гэтых лава,
Што на балоце між лясамі
Шумела голымі вярхамі.
Было тут ўсё параскідана,
І праслы нізкія паркана
З трухлявых шул павыяжджалі,
І трэскі кучамі ляжалі
Па ўсім двары і на дрывотні.
Стары хлявец без падваротні,
Гумно са стрэшкай пасівелай,
Абросшай мохам, збапрэлай,
Прыгрэбнік, хата,—ўсё дачыста
Казала ясна, галасіста
Аб непарадку, запусьценьні,
Аб гаспадарскім нерадзеньні.
Сьлязьмі Міхашча залілася—
Такою ямаю здалася
Старая хата ў тры ваконцы!
Парог яна нераступіла,—
О, Божа добры, як ня міла!
Ці сьвеціць тут калі хоць сонца?
Было так цёмна, няпрытульна,
У гразі, ў балоце ўсё агульна:
Як печ, як столь, ўсе сьцены, лавы,
І дух пракіслы і трухлявы
З усіх куткоў дыхнуў сярдзіта.
Зямля на ямы ўся пабіта;
Відаць было, што тут ліпелі
Да часу людзі і ня дбалі,
Гразі ніколі ня зьнімалі,
Рабіць парадку не хацелі,
Жылі па сьвінску, кацьмакамі
І ў добрай згодзе з прусакамі.

Вясна была яшчэ ўпачатку,
Але сьнягі ўжо раставалі,
І дружна ў полі балбаталі
Раўкі, рачулкі і ў грамадку
Яны ваду сваю зьлівалі,
Ад сну гаі, лясы будзілі
І людзям душу весялілі.
І ўсё патрошку ажывала:
На дрэве покаўка таўшчала,
У сабе лісточак далікатны,
Пахучы, сьвежанькі, прыўдатны
На добрым сонцы гадавала:
Старыя хвоі і яліны,
Далёка кінуўшы галіны,
Глядзелі хораша, любоўна,
Як іх патомкі згодна, роўна
Стаялі гожай чарадою,
Схіліўшысь к сонцу галавою.
У лясох, ў гаю дразды сьпявалі,
У балотах кнігаўкі крычалі;
А ў небе ўдзень і вечерамі
Высока здольнымі шнурамі
Зьлятаўся вырай жураўліны
І амярцьвелыя даліны
Будзілі звонкім сваім крыкам,
Як-бы прыветным гэтым зыкам
Віталі родныя болоты,
Густыя лозы і чароты.
І на душы нейк весялела,
І сэрца радасьці хацела,
А думкі ціхія і мары
На душу клалі свае чары.
Хацелась жыць, ушыр разьняцца,
За долю лепшую змагацца;
Ўзьнімаліcь грудзі, чулісь сілы,
І Божы сьвет здаваўся мілы.
Памалу, дзень-за-дзень, ў Парэчча
(Такая ўрода чалавечча)
Зжываліcь з месцам, прывыкалі,

Гняздо старое забывалі.
І праз якіх дзьве-тры нядзелі
Ўжо весялей на сьвет глядзелі
Будынкі гэтыя старыя,—
Яны зрабіліс як ня тыя.
Агледзіў іх Антось, падправіў
І шулы новыя паставіў
Ў гнілы паркан і лом сабралі
Ды шыбы ў вокны паўстаўлялі,
Бо ня любілі непарадку,
І пачалі жыць зноў спачатку.
Ды зноў бяда: праз год вясною
Згарэла хата з варыўнёю
І ўвесь набытак, што быў у дому.
Пажар той выбухнуў, як з грому,
Хоць ён і меў свае прычыны:
Як на бяду, пашлі мужчыны
І Ўладзік з імі ў рассыпную—
Адзін ў абход, той да адбору,
А трэці з сошкай ў гэту пору
Араў дзесь пасеку старую.
Дык што магла з дзяцьмі малымі
Зрабіць жанчына адзінютка?
І ўсё згарэла дачысьцютка,
Прапала марна ў чорным дыме:
Хоць, праўда, Костусь не збаяўся
І сьмела з пожарам змагаўся:
Звалок гарошыны з пасьцелі
Тагды, як вопраткі гарэлі,
І з імі доўга ён насіўся,
Аж покі зруб не паваліўся.
Бяда, хоць плач, і дзе дзявацца?
Куды ад холаду схавацца?
І маці з дзеткамі малымі
Нядзелі дзьве жыла з сваімі:
А на пажарышчы часова
Зьявілась новая будова—
Зямлянка-будачка малая,
Ў адно акенечка, крывая,
Але да часу добра й гэта.
  Тымчасам сонца йшло на лета.
Дык сяк-так кідаліс, качаліс,
Хоць дужа з горам спазнаваліс.
Каля зямлянкі тут прыветна
Гарэў агеньчык чудь прыметна,
Абы ня зьвёўся. Вечарамі
Тутмаці ўхаджвалась з гаршкамі—
Сям'і вячэру гатавала.
Тагды зямлянка ажывала:
Сьмяяліс дзеці, мятушыліс,
Як рыба ў букце, варушыліс,
Бярвенцы, трэсачкі сьцягалі
Ды на агеньчык падкідалі.
Шугала полымя праворна,
Як бы чагось каму сьмяялась,
І то свавольна ўгору рвалась,
То расьцілалася пакорна.
А ветрык, злодзей, ня стрывае—
З-за хаткі хітра налятае
І раптам ў полымя зарвецца,—
Агонь туды-сюды матнецца
І дымам ветра адбівае,
Як бы тых жартаў ня прыймае.
А надвары ўжо вечарэе,
І ночка блізка, змрок гусьцее.
Агеньчык колер свой мяняе--
І з чырван--жоўты блеск прыймае;
І моўкнуць птушкі ў цёмным лесе.
Баранчык божы ў паднябесьсі
Бляе маркотна над балотам,
Як бы шукае ён каго там.
І гэта смутнае бляяньне
Ў цішы балотаў ў час зьмярканьня
На сэрцы жалем аддаецца
І ціхай журбай ў душу льлецца
І мары розныя наводзіць.
І думка выпікне--праходзіць,
Як тыя хмаркі на заходзе,
Што без сьлядочка, быццам цені,
Ў тужлівым нікнуць задуменьні.
Маўкліва-сьцішна ўсё ў прыродзе!
Напрацаваўшысь, спачываюць
Усе старэйшыя--хто ў хатцы,
А хто ў гумне ва ўсей апратцы—
І гэтак ночкі прасыпаюць.
І вось, бывала, вечарамі
Каля агеньчыку часамі
Алесь і Костусь засядзяцца:

А як пачне ужо зьмяркацца,
І зоркі ў небе замігаюць,—
Пужаць іх страхі пачынаюць.
Тагды браты радком садзяцца,
Плячо ў плячо, але прызнацца,
Што страшна ім, ніхто ня хоча.
— Алесь! ты чуеш, як рагоча
Ў беразьняку баранчык божы?
Але ці ведаеш, з чым схожы
Той дробны рогат? Мне здаецца,
Антось Тацянін так сьмяецца!
І хлопцы ўраз зарагаталі,
Ды ўраз-жа сьмех той адарвалі:
Вакол было ўсё так спакойна,
Дык гэты сьмех нейк няпрыстойна
Сюды, ў пакой начны, ўрываўся,—
Самым ім дзікім ён здаваўся.
Маўчаць яны. Касьцёр палае,
Вакол усюды цьма густая
Пільнуе плямку агнявую
І гэту норку залатую,
Што ў нутрах цьмы агонь сьвідрue,
Каб ўсё закрыць. Агонь сярдуе
І цьме ніяк не паддаецца.
Часамі полымя прарвецца,
І цьма сярдзіта схісянецца,
Адскочыць далей на паўкрока.
Агонь блішчыць, як воўча вока.
Паволі дрэўцы дагараюць,
І ціха іскаркі ўзьлятаюць
І гаснуць борзда без сьлядочка.
Ужо позны час. Глыбока ночка,
А хлапчукі сядзяць маўкліва
І навакол глядзяць пужліва.
У іх фантазіі дзяцінай,
Затканай страху павуцінай,
Устаюць начныя страхі, зданьні,
І зыкі чуюцца пагані.
Чараўнікі і чараўніцы
І лопат крыльлямі начніцы;
А кожны куст ім дзеда родзіць
Таго, што ўсёды лазіць, ходзіць
З мяшком і мыліцай--кульбою
І з доўгай сівай барадою;
Ідзе і дзетак забірае
І барадой сьлед замятае.
На полі неба лес страхлівы
Стаіць, зацяты, нярухлівы.
Што ён цяпер ў сабе хавае?
Снуецца нечысьць там ліхая,
Сьмярцьвец пад ёлкай прытуліўся
На іх цяпер утарапіўся
І зараз мёртваю рукою
Пачне хрысьціць перад сабою,
Каб рух адняць, скаваць іх сілу,
Каб зацягнуць іх у магілу.
Там ходзіць страшны воўк бадзяга
Разбойнік крадзецца туляга
З арываўлёнаю рукою
І з страшнай цяжкай булавою;
Шалёны бегае, пужае,
Каго ні стрэне--ўсіх кусае...
—Ну, што брат,Костусь: ці баішся?
Куды так пільна ты глядзіш усё?--
Алесь паціхеньку пытае
І руку брата ня пускае.
--Ці бачыш што?--Не, так!нічога!--
Гаворыць Костусь, а ў самога
На лоб кучомка напаўзае...
--Мо' пойдзем ў хату?--ён гаворыць
Алесь ахвоцен і ня спорыць.
Браты за рукі пабяруцца,
Ў зямлянку вобцас панясуцца.

15/8 1911 г.

## ДЗЯДЗЬКА-КУХАР.

Наш дзядзька, мілы наш Антоні,
Ў дзіцячым часта быў палоне;
Ось так, гуртом яго абсядуць
І час работы яго крадуць:
Насі «катла», кажы ім казкі,
Ідзі на поплаў з імі ў краскі,
Давай адказы на пытаньні
І растлумачвай ўсё дазваньня—
Адкуль, з чаго дзе што бярэцца,
Вось гэта, тое як завецца?
І чаму так, чаму ня гэтак?

Прыхілен дзядзька быў да дзетак.
Ён быў настаўнікам, судзьдзёю.
Калі бывала між сабою
Наспораць дзеткі ці паб'юцца.
Дык да каго-ж тагды зьвярнуцца,
Як не да дзядзькі, да Антося?..
Ох, слаўна з дзядзькам ім жылося!
Яшчэ замецьце, што з малымі
Ён размаўляў, як са старымі,
І з імі радзіўся, спрачаўся—
Як роўны з роўнымі трымаўся!
Калі-ж хто часам з ім ня зладзіць,
То дзядзька толькі вус пагладзіць.
Але ня скажа ён нічога.
Бо ведаў, чым дапяць малога. —
Гаворыць з тым, з кім дзядзька ў згодзе:
— Калі такі ён, ну, то годзі!
І тут ён змоўкне, пачакае,
Кісет дастане і закурыць,
І вочы чуточку прыжмурыць,
Як бы і ў памяці ня мае
Таго, што з хлопцам пасварыўся.
— А як авёс наш урадзіўся?
Схадзіць-бы ў Ліпава пабачыць.—
Ужо знаюць дзеці, што-то значыць
Гаворка дзядзькава такая,
Куды ён вуды закідае.
Пайсьці з ім ў Ліпава! мой Божа!
І хто ўстаяць прад гэтым зможа?
Ды гэта-ж—сьвята, ягамосьці!
Набок тут норавы і злосьці!
І мяккім робіцца паганы,
Хоць ты яго кладзі да раны.
Адно вазьмі яго з сабою,
Ён ўсюды пойдзе за табою
І усё забудзе, ўсё даруе,
На дзядзьку больш не засярдуе.
А чым-жа Ліпава так міла?
Чым-так дзяцей яно маніла?
І што за Ліпава такое?
А гэта—поле маладое
Сярод лясоў, як скінуць вокам;
А на абшары тым шырокім
Раскошна нівы красавалі,
А ў іх мільёны красак зьялі,
Як бы на небе ўночы зоркі;
Лужкі, дарожкі і пагоркі
І купкі хвоек маладыя,
Дзе матылёчкі залатыя
На сонцы крыльцамі блішчалі,
Жучкі і конікі трашчалі
І ў стройны звон свой зык зьлівалі.
Былі тут пасекі. Што году
Там сотні блізшага народу
Дзялянкі лесу карчавалі
І на трацяк іх засявалі—
Капу да скарбу, дзьве да дому...
Ну, як тут вытрываць малому,
Таму, хто з дзядзькам пасварыўся?
Як бачыш, з дзядзькам ён гадзіўся.
А пойдзеш ў Ліпава лясамі,
Напэўне ўстрэнешся з ласямі
І зайца ўгледзіш і віёрку
І нор[illegible] воўчыя на ўзгорку
Сярод трушчоб між ельнякамі
І чортаў камень, што вякамі
Над Азярком ляжыць, як хата...
Ну, усякіх дзіў там ёсьць багата!
А дзядзька ўсё табе пакажа,
Цікавасьць ўсю тваю разьвяжа.
А найважнейшая тут мэта—
Зьвярнуць з дарогі і да цёткі
Зайсьці на час які кароткі—
Тарэсяй звалась цётка гэта.
Яна прыветна сустракала
І надта добра частавала:
Сыпячэ «цалкоў» на скавародцы
І так, бывала, наясіся,
Што хоць на пупіку круціся;
Дык ўсіх пацягнула ў госьці к цётцы
Так узмацуе на дарогу.
Было што есьці, дзякуй Богу!
О! дзядзька спосабаў меў многа
Дапяць працаўніка малога!
Пайсьці ў грыбы або і ў рыбу,
Або паехаць у сялібу,

Ці ў млын на хлеб малоць зба-
жынку,—
Усё гэта кваліла хлапчынку,
Цягнула крэпінька, бывала,
І як рукой ўсю злосьць зьнімала.
І дзядзька майстар быў на штукі
І быў механік на ўсе рукі:
І дудку скруціць вам і стрэлку,
І нарысуе нават елку,
Такую выштукае цацку,
А ў Сьвержан пойдзе, купіць пляцку.
Дык і ня дзіва, што любілі,
Што на руках яго насілі;
А жывучы каля зямлянкі
Паміж лясоў сярод палянкі,
Яшчэ крапчэй яны здружыліся,
Адзін к другім цясьней хіліліся.
—А ну, давай, брат, закаштуем,
Хоць на цікавасьць запрабуем,
Які тут сок на новым месьце,
Мо' з хлебам можна яго есьці!
— А дзядзячка мой залаценькі!
Пастаў, голубчык, дарагенькі!
Вазьмі, вазьмі мяне з сабою!—
Тут каля дзядзькі чарадою,
Як чэрві, дзеці мятушацца.
А дзядзька моўчкі стаў зьбірацца:
Дастаў сякерку і сьвярдзёлак,
Пад паху сунуў ён аполак
На латакі і на падстаўкі;
Ды вынуў два гаршкі з падлаўкі.
— Ну, хто ідзе са мною?—пытае.
— Я!
— Я!
— І я—крычыць малая
Уканцы дзяўчынка-Міхаліна.
— Куды табе! ото скачыха!
На печ залезь і сядзі ціха!—
Напалі хлопцы на дзяўчыну;
Яна у сьлёзы, ў плач, як бачыш.
Ну, сьціхні, ша! Чаго ты плачаш?—
Антось малую упяшае
І нос крысом ёй абцірае.
— Няхай ідзе... А хлопцам брыдка
Так нападаць на дзеўку шпарка,—
Гаворыць дзядзька, бровы хмурыць
І бальшупоў ён зьлёгка журыць;
Тагды і хлопцы тон мяняюць.
Ідуць у лес, крычаць, гукаюць,
Як вучні, вырваўшысь са школы,
І ўсе davольны, ўсе вясёлы;
А дзядзька ўперадзе тралюе
І галаву ўгару ўскідае,
Бярозу добрую шукае
З салодкім сокам, бараўую,
Дзе-б бобам капелькі сачыліся.
Знайшлі бярэзіну, спыніліся.
Звлысіў дзядзька дрэва зьлёгка
(Сякерка востра, кара крохка),
Зраб'ў заруб, латак прыправіў,
А пад латак гаршчок паставіў,
І соку кропелькі, як сьлёзы,
Як град пасыпаліся з бярозы,
Аж шкода нейк было дзярвякі:
Здаваліся ранай тыя знакі,
Адкуль паліўся сок халодны
І пакідаў свой комель родны.

Я помню дзень той. Вечарэла,
Зайшло ўжо сонейка, цямнела,
Агоньчык дзеці раскладалі,
Палечны, трэсачкі зьбіралі,
І дзядзька тут-жа, расправуўшысь,
Сядзеў, на кукішках сагнуўшысь.
Прад ім стаяў гаршчок і міска
І конык з бульбай: тут-жа блізка
Відзен і збан быў налівааны
Так да паловы ўдоў укапаны,
Кружочкам пчыльненька пакрыты.
—Алеська, скокні, брат, вазьмі ты
У хатцы тарачку на печы!
Ну, варушыся-ж ты, старэчы!—
Наўкол пляменьнікі сядзелі,
На дзядзьку пільна ўсе глядзелі,
Як ён, рукавы закасаўшы,
Па тарцы шоргаў, шапку зьняўшы,
І кожын лёгка-б дагадаўся,
Што тут сакрэт якісь хаваўся,
Памяркаваўшы, як цікава

Была для хлопцаў гэта справа,
І як іх дзядзька завіхаўся.
А хто-б яшчэ мог болей цяміць,
Таму-б адразу прышло ў памяць,
Што дзядзька бульбу драў на
клёцкі,
Каб згатаваць не па жаноцку.
Бо што жанкі? раз што пачнуть
Поль—слова нашага ім брата:
Як іх на розум тут ні ставяць,
Яны-ж сваё ўсё праві правяць
І робяць так, як і рабілі,
Калі бяз портак мы хадзілі.
Але вось ён пакажа носа,
Стварэньне вы доўтавалося,
Калі ён тут пагаспадарыць
І сам ды з сокам клёцкі зварыць!
Вось будзе штука, брат, дык
штука!
Патое спроба і навука!
А сок быў сьвежы, такі хвацкі,
Такі салодкі, забіяцкі!
Ён быў голоўнаю вінаю
Таго, што познаю парою
Сядзелі дзеці чарадою
І з дзядзькі вочак ня спушчалі
І стравы важнае чакалі.
— Эх!—цмокнуў дзядзька,—наямося!
Зірнулі хлопцы на Антося
І сьлінку ўсе яны глынулі.
— Ну, што-ж вы рукі паскладалі?
Ў агонь-бы трэсак падкідалі,
А то патухне зараз. Жыва!—
Глядзелі хлопцы, як на дзіва,
Як дзядзька, цеста замяшаўшы,
Качаў галушкі, міску ўзяўшы.
Ў агні стаяў чугун, паліты
Па венцы сокам. І чуць толькі
Ўзьнялося булбатачак колькі
І стаў ўздымацца пар сярдзіты,
Дык дзядзька зараз стаў накры-
шку
Ў чугунчык клёцкі кідаць з лыжкі:
Укіне лыжку, памяшае
Ды зноў другую набірае.
А хлопцы нават паўставалі,
Ў чугунчык вочы паўставілі,
Глядзяць, ня моргнуць яны во-
кам,—
Эх, мусіць смачны клёцкі з сокам!
—Ну, дзядзька: можа і гатовы?—
Ня сьцерпеў Костусь, мовіў слова.
—Які ты, хлопча, нецярплячка,
Няхай цябе затопча качка!—
Гаворыць дзядзька на хлапчынку:
—Няхай паварацца часінку,
Каб сокам добра праняліся;
Тагды, брат,--эх! адно дзяржыся!—
І дзядзька цмокнуў выразьліва,
І хлопцы зноў ждуць цярпліва;
А дзядзька, стоячы, паволі
Памешваў клёцкі.—Ну, даволі!—
Сказаў ён ўрэшце. Усе ўздыхнулі,
Як-бы гару з плячэй сапхнулі,
І бліжай к дзядзьку падступіліся.
—Глядзі, мо' ўжо пераварыліся,—
Алесь зазначыў палахліва.
— Ну,—Костусь кажа:—ото дзіва!
Ня бойся—дзядзька лепей знае...
Глядзі, брат, клёцка унь якая!
А брат ты мой! як булавешка,
Як скула тая, што у Дзямешкі!—
І—ха-ха! зарагаталі.
—А каб вы, падлы, не дождалі!—
Гаворыць дзядзька й сам сьмяецца,
Аж лыжка з клёцкамі трасецца:
—Ну, языкі параспускалі!
Ня дам вам клёцак і панюхаць!—
І стаў на клёцку дзядзька дзьму-
хаць,
Каб ўзяць у зубы было можна,
І ў рот падносіць асьцярожна.
Замерлі хлопцы, ані зыку:
Мінута важна і вялікая:
Глядзяць на дзядзьку і чакаюць
І дзядзьку поглядам пытаюць:
—Ну, як? ці смачны? ці салодкі?

У зубы клёцку, як ў ляпчоткі,
Заціснуў дзядзька і губамі
Варушыць борзда, як часамі
Трусок ці зайчык над капустай,
Каб лепш дазнацца смаку-густу.
Пацмакаў дзядзька, усьмяхнуўся,
Зірнуў на хлопцаў, адвярнуўся
І тут, нічого не сказаўшы,
Як плюне дзядзька, пажаваўшы!
Ды—трох ў чугунчык ён нагою,
І так абцёрся ён рукою,
Што губы й нос чырвоны сталі
І нават вусы затрашчалі.
А хлопцы проста зьбілісь з тропу
І ў нейкім страсе і ў захопу
На дзядзьку-кухара глядзелі,
Як-бы яны аслупянелі.
Быў сьмешны дзядзька тэй часінай
З пустою лыжкай і з тычынай,
Якою трэскі ён варочаў.
А тут Алесь як зарагоча!
За ім адзін, другі паехаў.
Такіх было тут жарт і сьмехаў,
Што ўсіх трасло і каладзіла
І дзядзьку сьмехам заразіла.
—Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся?
—Паскудства, брат, і ня пытайся!

26/VIII 1911 г.
Менскі астрог.

## НОВЫ ЛЯСЬНІЧЫ.

Якраз на самым расьсвітаньні
Міхась вярнуўся з пэхаваньня;
Вайшоў ў зямлянку, распрануўся,
Зяхнуў і смачна пацягнуўся,
Бо цэлы дзень прагалачыўся
І, ноч ня спаўшы, утаміўся.
І цела соладка нейк ныла.—
Усё адначыць яго кляніла.
І жонка тут не прыставала,
Пра сёе-тое распытала,
Уздыхнула раз, другі на пару.
— Ну, сьпі, а я хіба ўжо ўстану.
І мапі стала адзявацца,
Каб за работу тую брацца;
Пашла, каровак падаіла,
Картофлі сьвіньням перамыла.
Тымчасам сонейка з-за лесу
Зьняло цямраную завесу;
Праменьні, стрэлы залатыя,
Макушы лесу прабіваюць
І блескам-зьяньнем высьцілаюць
Нябёсаў багны патайныя.
У чародах сьветаў нязьлічоных,
Нерасчытаных, неадмкнёных,
Людзкі наш лёс—былінка поля,
Пылок нязначны—наша доля,
А нашы радасьці і сьлёзы,
Надзеі сьветлыя, пагрозы
І ўсё, чым жыцьце нас вітае,
Яно адзначнасьці ня мае
У зьвязку гэтых сьветаў Божых,
Таемных, страшных і прыгожых.
І жыцьце пэўнаю ступою
Ідзе, ня ведае спакою,
Людзкіх пакутаў не адзначыць
І страты іх яно ня бачыць...
— Эй, хлопцы! хлопчыкі! ўставайце!
Кароў на пашу выганяйце!
Даўно пара ўжо пасьвіць стадка!—
Алеся, Уладзю будзіць матка,
А хлопцы толькі ўзварухнуліся
І на другі бок павярнуліся.
Тут мапі трошкі пастаяла
І галавою паківала—
Шкада будзіць—ох, сон салодкі!
Няхай пасьпяць яшчэ блазноткі.
Пагукваў дзядзька ўжо на полі
І ткаў сахою кросны-ролі,
Ды пырнік так укараніўся,
Што дзядзька з конікам таміўся
І сошку часта ён спыняе
І пырнік дзікі вытрасае.
— Ну, і балота! Вось атрута!
То не работа мне—пакута!

Ступіў два крокі і спыняйся
Ды з гэтай пырніцай змагайся.
І як яны тут, ліха долі,
З сахой хадзілі ў гэтым полі?
Як тут расло, па міласьць Бога,
Калі ў зямлю ня ўб'еш нарога?
Прайшоў дзьве баразны—конь
змогся...
— Ну, і народ, каб ён апрогся!
Так запусьціць зямлю нядбала!
Не гаспадар быў, а—завала!—
Антось стаіць, штось разважае
І хмурна поле аглядае.
А потым раптам схамянуўся,
Зірнуў на сонца, у двор рвануўся.
— Хіба каровы яшчэ дома?!
Спаткаўшы Ганну, ён пытае,
Ідзе ў гумно і хлопцаў лае:
— Вы што зашыліся ў салому?
Уставайце зараз, гультаіны!
Прайшло, лічы, ўжо дзьве гадзіны,
Як сонца ў небе засьвяціла,
Яны-ж... хоць ты ўсадзі ім шыла!..
Уставайце жыва! бо як ўскочу,
Як бачыш ўстаць вас заахвочу!—
Ўсхапіліcь хлопцы і прыселі,
Ўстаюць з пэгрэтае пасьцелі
І лапці зараз абуваюць.
За браму хлопцаў выпраўляюць.
Вось маці з хаткі выбягае,
Алесю торбу даручае,
А ў торбе хлеб і поўна сала,
І весялей шмат хлопцам стала.
Калі ўжо сонейка прыгрэла,
Антось на полі кончыў дзела
І выпраг коніка сівога,
Свайго памочніка старога.
Сівак з вялікім здаваленьнем
Прайшоўся вольна загуменьнем
І, баючыся зацукацца,
Ральлю пачюхаў, стаў качацца
З такім засосам і ахвотай,
Бакі намуляўшы работай!
Антось глядзеў і пацяшаўся
І ціха сам сабе сьмяяўся.
Ў двары, дзе калісь была хата,
Работа йшла цяпер заўзята;
Майстры-жыды ўжо зруб канчалі,
Ірш з Моўшам дошкі пілавалі.
Ніяк ня знайдуць яны скутку
І ўвесь дзень сварацца за дудку,
Пілою водзячы па брусу.
А гэту дудку на пакусу
Празантаваў ім наш Антоні,
Дык Моўша з Іршам і сягоньня
За тую дудку ўсё грызуцца
І чуць за пэйсы не бяруцца.
А Евель-Пеўнік з сваім сынам
Ужо пасьпедаў такім чынам,
Што й па нагах ён ня трымаўся:
Стагнаў у стружках і качаўся.
—Ой, гвулт, прапаў! ой, дух займае!
Але ўсё-ж Айзіка пытае,
Які так сама зьеў ня ў меру:
—А што варыць нам на вячэру?
—Ты-б гэта выдыхаў, пражора!
Набраўся так, што й не ссапецца,
А за вячэру ўжо бярэцца—
І так сяньчік твой лопне скора!—
Антось да Евеля зьвярнуўся,
А Евель толькі усьміхнуўся
І зараз ў пеўня абярнуўся:
Лоп-лоп! рукамі. Какарэку!—
Бо даў Бог талент чалавеку,
Якім ён часта выслаўляўся,
За што і Пеўнікам празваўся.
—Бадай ты спрогся! Вось заводзіць!—
Антось са сьмехам адыходзіць,
Пад вусам сьмех яшчэ хавае,
Ідзе, Міхася сустрачае.
Міхась ужо крыху прэспаўся,
Ў абход сягоньня ня зьбіраўся.
Другія думкі і настроі
Ўсё не даюць яму спакою:
За кім лясьніцтва застанецца?
Адкуль і хто сюды прыпрэцца,
Пасаду вольную заступіць?
Карціць пытаньне гэта, рупіць.

Антось з Міхасем на сьнядані
Даюць адказы на пытаньні
І кандыдатаў разьбіраюць,
Адных пахваляць, тых палаюць.
—От, каб Галонскі тут застаўся!
За ім бы, брат, памацкаваўся!
Такі прасьцяк, не падзіманы—
Лясьнічы вельмі-б пажаданы!—
--Што так,то так,--Міхась уздыхае:—
Але заручкі ён ня мае:
Яго паны не падтрымаюць,
Бо на прымеце іншых маюць;
Такога вышукаюць струпа
Ці адшчапенца-курашчупа.
Што й службе тэй ня будзеш рады
І адцураешся пасады.
—Вядома так,—і Ганна кажа:—
Жыцьцё і сьвет табе завяжа.
Як гад які сюды прышрэцца,
І няма ведама дзе дзецца,
Як дапячэ табе часамі,
Хоць нанімайся батракамі.
—Эх, брат!—махнуў Міхась рукою:—
Мы чулі ўладу над сабою.
А пажывём—яшчэ пачуем.
А тут, хоць як мы ні мяркуем,
Але нічога не даб'ёмся,
Куды ня пойдзем, ні таўкнёмся,
Дабра ніколі ня прыдбаем,
Пакуль свайго кутка ня маем.
—Свайго кутка! сказаць то лёгка,
Ды гэта справа вельмі крохка:
Тут грошай трэба поўна жменя,
Ня наша голая кішэня:
Купі зямлю ды замацуйся,
Купі ты лесу, пабудуйся...
А ў Мікалаўшчыну вярнуцца,—
Ужо лепей тут як-небудзь гнуцца,
Бо там—галда, там шум, цяснота,
І не бярэ ніяк ахвота
Туды зноў ехаць будавацца,
Дык трэба службы ўжо трымацца,
Пакуль яшчэ трымацца можна,—
Зазначыў дзядзька асьцярожна.
Да дзядзькі маці далучылась,
У другі бок мова пахілілась;
І будзе новая тут хата,
Пасада нашаю багата,
Ніхто цябе тут ня сьціскае
І ў твой гаршчок не зазглядае,—
Сядзець ня будзеш тут бяз хлеба,
А пацярпець, вядома, трэба.
— Так, пацярпець! адно цярпеньне
І можа даць табе збавеньне!—
Міхась тут скрыва усьміхнуўся:—
І гніся век, раз ты сагнуўся,
Ды кідай ўсякую надзею
Хамут з сябе зьняць, дабрадзею!
А пад уласнай гаспадаркай
Варонай чорнаю закаркай
І цяжкі крыж пастаў над ёю,
Як мусім ставіць над сабою.
Цярпеньне ўсё: яно—бязьмежнасьць!
Навошта-ж тая незалежнасьць?
Навошта гэтае імкненьне
У свой грунт пусьціць свае карэньні?
Але-б вы самі спрабавалі,
Калі-б у вочы вам плявалі
І за няма-што зьняважалі!—
У Міхася губы задрыжэлі,
І вочы іскры сыпанулі:
—Ці мала ўжо цябе тут гнулі?
Цярпі, маўчы, знасі пакорна,
А кожная сьвіньня надворна,
Сьвістун ці вырадак паганы,
Нягчасны лёкай падзіманы,
Ці так нікчэмная басота—
Яна твайго ня варт і бота—
Цябе скубе, цябе ўсчувае,—
Маўчы: няхаў-жа бэсьціць, лае,
За нос як хоча, няхай водзіць!—
Антось і Ганна не знаходзяць,
Што адказаць і што парадзіць
І як пытаньне гэта ўладзіць...
Прайшла нядзеля і другая—
Час не стаіць і не чакае.
Ужо хата новая гатова,
Прыбраны трэскі ўсе і дровы;

Над белым дахам, як карона,
Красуе коміна чырвона;
Прыветна вокны пазіраюць,
Як-бы у госьці запрашаюць,—
Ну, добры выгляд хата мае:
І цешыць усіх і здавальняе.
Сюды сямейка перабралась,
І гэта хата паказалась
Пасьля зямлянкі проста раем.
—Хоць хату добрую, а маем,
Ня тое цеснае скляпеньне.—
Казала маці ў здаваленьні;
—Чысьцютка, сьветла, як ў пакою!
Прыемна пахла тут смалою
І сьвежым дрэвам—хваінаю.
І усё здавалась, было-б гладка,
Каб так ня скончылась загадка
Аб тым падлоўчым на кватэры.
Аб'ешчык самы той Ксавэры,
Прынёс навіну ў гэту хату.
—Не падвязло нашаму брату:
Някельны пан!—Ксавэры кажа—
Як ноч, на нас ён усіх тут ляжа.—
—А хто такі?—Міхась пытае.
—Бадай яго, Міхал, ці знае:
То—пан Ракоўскі з-пад Татаркі;
Як кажуць пан занадта шпаркі...
—Пастой, пан! прозьвішча знаёма!
Так, так: я чуў аб ім, вядома...
Дык пан Ракоўскі! Ну, віншую!
Пакажа нам, дзе рак зімуе!—
І—ха-ха-ха! Міхась рагоча:
Ён паказаць тым сьмехам хоча,
Што ашукаліся нечакана,
Прыдбаўшы гэтакага пана.
—А як-жа! чуў я, што за пташка.
Лядачы пораў, дае цяжка;
Яшчэ і звычай такі мае,
Што з кулакамі налятае.—
Лясьнічы новы не зьявіўся,
А ўжо, як трэба, уявіўся;
Тут усё падробна расьпісалі,
Як бы яго даўно ўжо зналі:
І як ён выглядзіць сабою,
І што ён мае за душою,
І чым выдатны, і багаты,
Ці кавалер ён, ці жанаты,
Калі, дзе, чым ён вызначаўся;
Як да людзей сьвятой чапляўся,—
Ну, адным словам адчыталі,
Усе косьці пану перабралі.
І праўда, пан быў злы, паганы
І зьвераваты, палзіманы
І мух нямала меў у носе,
І шмат цяжэй тут павялося.
І вось, вярнуўшысь раз з абходу,
Як бы апушчаны у воду,
Міхась павёў апавяданьне.
Як вышла першае спатканьне.
—Іду, а ён дарогай валіць,
За ім вярхом Абрыцкі смаліць.
Пад'ехаў гэта і спыніўся.
—Дзень добры пану!—пакланіўся,
А ён, як слуп, і не ўважае,
Глядзіць, бы воўк той, і пытае:
—А ты дзе служыш, чалавеча?
—Служу, паночку, я ў Парэччы.
—Ага! Чаму гэта, ягомасьць,
Вядзеш вялікую знаёмасьць,—
Чужых цялят бярэш на пашу?
Наскрозь я бачу службу вашу!
Чаму аб'ездак ў лесе многа?
Пільнуйся ты свайго парога,
Бо мне такіх служак ня трэба:
Для гультаёў ня маю хлеба.
Дык памятай, чаго наймаўся!—
Сказаў і далей памчаўся.
—Ужо цялят ўвялі у вушы!
Ох, да й людзі-ж! што за душы!—
Гаворыць маці абурліва.
—Чаму ня скажуць? ото дзіва!
Той самы «Тэж», каб падлізацца,
Гатоў хоць чорту запісацца,
Яшчэ прыбавіць і размажа!—
У гневе дзядзька Антось кажа.
Апавяданае здарэньне
Зрабіла цяжкае ўражэньне.
—Ну, што-ж? цярпі, калі наняўся!
Міхась злосьмешна здаваўся.

## ПАДГЛЯД ПЧОЛ.

Вось ўжо і Спас сьвяты мінуўся.
І лес у чырвань апрануўся:
Дрыжаць у золаце асіны,
І гнуцца кісьці верабіны.
І пчолкам спожыць ўжо ня тая.
Пчала об мёду меней дбае:
Так сама-ж вульлі ня пустыя,
Раі ўздужалі маладыя
І мёду трохі нанасілі.
Дык ўсіх кумоў і запрасілі
На гэты дзень падгледжваць пчолы.

Дзянёк быў ціхі і вясёлы.
Мужчыны зранку падгаліліс,
Зусім такі вадмаладзіліс.
У ночвах голавы намылі
І вусы спрытна падкруцілі
Ды мылам іх пашаравалі,
Каб выдатней яны стаялі.
А для гасьцей, сьвятой нядзелькі
Надзелі новыя камзэлькі,
А боты так нашмаравалі,
Што проста шляхту касавалі.

— Зірніся, дзядзячка, ў люстэрку:
Хоць завярці вазьмі ў паперку!
Хоць у сваты едзь, хоць жаніся!—
Да дзядзькі жарты панясьліся.

— А ты, Ламук, не выскаляйся.
Лепш нос обцерці пастарайся—
Сапляк, унь, губу ўжо мінае!—
Алеся дзядзька падцінае.
«Ламук»-Алесь спускае вочы:
Сягоньня дзядзька не ахвочы
Прыймаць яго такія жарты.

Алесь-жа—хлопец ня ўпарты,
Ён моўчкі Костусюківае,
Пайсьці на двор з ім заклікае.
Разблутаць трэба ім пытаньне.
Якое ўжо карціць ад раньня—
Каму, калі, дзе пасьвіць стадка.
— Скажу я вось як табе, братка:
Мы ў двох з двара пагонім разам
І папасём над Тоўстым Вязам.
Калі кароўкі папаўнеюць,
Бакі іх трохі пакруглеюць,
Тагды запусьцім на Балота.
І... закіпіць у нас работа:
То ты, то я—на перамену!..
І дзе я толькі мёд той дзену!
Хіба зрабіць жывот ў дзьве столкі,
Як мех Баландзішын на зёлкі?—
І хлопцы ў згодзе жартавалі
Ды ў лес за рэчку паглядалі.
Пазбыўшы важнае пытаньне,
Чакалі першага спатканьня
З гасьцьмі, якіх сюды наедзе,
Мо' ўжо хтось клыгае з іх недзе.
Малыя дзеці і дзяўчаткі
Вярцеліс болей каля маткі,—
То часам ёй чым памагалі,
А часам проста заміналі.
У ўсіх была тут думка тая,
Што дзень сягоньня ня звычайны,
А дзень асобны, рознастайны,
Які ў год толькі раз бывае.

Пры печы маці увіхалась,—
Ужо верашчака згатавалась,
Стаяла збоку і пыхцела,
Як-бы на стол яна хацела.
Сьвіней так сама накармілі
І ў пастаўнік іх зачынілі.
Ідуць ўжо з раніцы каровы,
Спусьціўшы цяжкія галовы.
Ідуць павашна, як шляхцянкі,
Надзеўшы лепшыя катанкі.
Каровак маці падаіла
І сьнедаць зараз запрасіла.

На гэты дзень і сама хата
Была прыбрана зухавата:
Памыты лавы, стол, падлога,
А каля покуця сьвятога
Дзьве сьцены клёнамі убраны;
Абрусам белым стол васланы,
Сьвятых паперам агарнулі,—
Яны лагодней нейк зірнулі,
Як-бы ім вельмі падабалась.

Што ім увага дадавалась.
Мужчыны зараз па сьняданьні
Пашлі ў гумно на спачываньне—
Аддаць мінуту для драмоты.
Прыветна скрыпнулі вароты,
З вясёлым шумам расчыніліся,—
У гумне мужчыны прыпыніліся:
Усяго паўнютка, Хвала Богу—
Збажынкі новай і мурогу.

Здавалась, стрэхі і цярылы
Трымаць усяго ня мелі сілы,
Бо з двух бакоў пад самым токам,
Калі на іх ты кінеш вокам,
Сянцо, збажынка навісала.
Тут лугам, полем патыхала,
А на гвазьдзе у тоўстым шуле
Цапы віселі, бы заснулі.
А вілы, граблі і мяцёлкі,
Малацьбітовы прыяцёлкі,
Каля варот ў кутку стаялі,
Так сама працы ўжо чакалі.
— У нас сяголета —сьвяціся!
— Так, дзякуй Богу, паджыліся.
— Эх, брат Міхась! была-б то
ўласнасьць.—

Зямля ўся гэта, сенажаці!
Чаго-б жадаць тут болей, браце?
І лес, і паша, неба яснасьць,
І чысты дух, і рэчка, Нёман...
Куток навабны тут захован!—
— Э, каб гэта свая ўлада!
На што-б ўжо лепшая пасада?—
Міхась выразна замаўкае
І торпы вокам акідае:
— Так, брат: падумаць моцна
трэба—

Само ня зваліцца нам з неба—
Каб мець больш пэўны свой пры-
тынак
І мець у ўласнасьці будынак...
І так яны разгаманіліся,
Што й на салому не лажыліся.
І ўсё-ж ня бацькаўшчына гэта!
Жывеш да часу з лета ў лета,

А ліха выпікне якое—
Падумаць жудасна пра тое...
Чаго-ж у жыцьці не хапае?
Дзе гэта сіла, дзе моц тая,
Што перашкод сабе ня мае
І ставіць зразу ўсіх на ногі,
Вядзе на вольныя дарогі
І сьвет прасторны адчыняе?
—Дзьве рэчы трэба мець, каханы:
Адна рэч—розум выхаваны:
Умець прадгледзіць, прылаўчыц-
ца.

На цьвёрдым грунце закрапіцца.
Другая рэч, Антось харошы:
Так сама трэба мець і грошы—
Міхась прамовіў ціхім басам.
Алесь і Костусь гэтым часам
Гасьцей пад дубам вартавалі
І між сабою жартавалі.
— Згадай, Кастусь,—Алесь пы-
тае:

Хто першы ў госьці завітае?
— Ну, што-ж? вядома, Юрка,
дружа.

—Чаму?—Бо мёд ён любіць дужа;
А там, глядзі, Язэп прыпрэцца
І Фабін з ім з Караліны...
Падвып'юць, ведаеш, мужчыны,
Ото гаворка распачнецца!
А там Кандрат, узяўшысь ў бокі,
Напэўна рынецца у скокі:
Яго Ялоўка падтрымае,
А Вухін песьню засьпявае:
«Пі гарэлку, суседзе!..»
—Глядзі, глядзі—хто гэта едзе?
Алесь ўсхапіўся, пазірае
І пальцам Костуся таўхае.
— Ды гэта-ж Вухін, брат! ён
самы!—

І хлопцы кінуліся да брамы,
Бягуць навыперадкі ў хату.
—Ўжо Вухін едзе! Вухін, тата!—
— Цыц! ня сьмець казаць мя-
нушку,
А то зьніму на вас папрушку!—

І бацька бровы насувае.
Пільчак чысьцейшы адзявае;
Ідзе на двор для прывітаньня
І для пачэснага спатканьня.
Андрошкі-Вухін ў двор ўяжджае
І так свайго каня спыняе,
Як-бы супынку конь ня мае,
Хоць конь, як вол, непаваротны
І бегчы ўжо ня так ахвотны.
Кадушка-Зося сонцам зьяе,
Міхась ёй злазіць памагае;
Яна-ж, як гліна, надта цяжка,
Пад ёю крэхча каламашка.
—Ну, проша-ж ў хату, проша, кумка!
Глядзіць бутэлька з яе клумка;
Уперавалку, як-бы качка,
У хату йдзе кума-сваячка.
Тут гаспадыня выбягае,
Ёй дзьверы ў сені адчыняе.
Кабеты тварамі сашкнуліся
І так прыемна усьміхнуліся,
Як-бы дзьве рэчкі тут злучыліся;
Гарохам словы пакаціліся.
— А дзе-ж мая дачка хрышчона?
Спытала Зося:—дзе Алёна?—
Ваўчком Алёнка пазірае,
Яе тут Зося абнімае,
Гасьцінцам дзеўчынку трактуе,
Яе і песьціць і цалуе,
У вочкі ёй глядзіць прыветна—
Сама Яфіміха бязьдзетна.
Алесь над гэты глум вітаньня
Разглядзіў клумак ўвесь дазваньня
І шэпча Костусю на вуха:
—Там, брат, гарэлка-весялуха,
І каравай, і сыр, як плаха.
Эх, каб ня было, брат, таго страху,
Ось, бы дзе можна пажывіцца!
Але чакайце: даляжыцца,
І караваю закаштую,
Цябе так сама пачастую!—
І хлопцы толькі засьмяяліся
Ды вон за дзьверы паімчаліся.
Яхімаў воз ужо прыбралі,
Каня на лейцы навязалі,
Ў кустох альховых каля дуба,
Дзе пагуляць было так люба.
Яшчэ шчакаўшы з паўгадзіны,
Язэп прыехаў з Караліны,
Жыхар заможны і выдатны,
Ва ўсім прыкладны, акуратны—
І ў гаспадарцы і ў банкеце,
Ў паноў быў нават на прымеце—
Такі уважны і шляхэтны,
Далёка ў воласьці прыметны;
Хоць не шляхэцкага ён роду,
Але падтрымліваў іх моду,
А гаспадыняй меў дваранку,
Вельмі паважную шляхцянку
З прыгожым тварам, з тонкім
станам,
І жыў Язэп ў хвальварку панам
І гаспадарку вёў умела.
Само сабою зразумела,
Чаму спаткалі тут пачэсна
Гаспадары з гасьцьмі сумесна.
А там Кандрат каня сьцябае.
—Гэ! сьмерць турэцкая!—гукае.
Як толькі згледзелі Кандрата,
Загаманіла зараз хата:
—Ну, вось і бортнік наш імчыц-
ца!
Насьмешыць усіх, як раскрычыц-
ца:
—Поль! сьмерць турэцкая! мякі-
на!—
Кандрат жартлівы быў мужчына
І каля пчолак хадзіў сьмела,
Бо надта добра ведаў дзела.
(Прыпамсі гэтак тут казалі,
Калі Кандрата разьбіралі).
Прыехаў з маткай ён старою,
Якую зваў часьцей савою.
Худы, высокі, сухарлявы,
Для ўсіх жаданы і цікавы,
Вайшоў Кандрат і павітаўся
І пра здароўе распытаўся.
Дарота, Пальчыха старая,
Так сама хлебам дом вітае—

Такі ўжо звычай беларускі:
У клумку выпіўка, закускі.
Калі ўсе госьці пазьбіраліcь,
Антось з Кандратам пажагналісь,
Ўзялі і ночвы і куродым.
--Ну, памажы, сьвяты Мікодым!
Куды ты лезеш? Ось дурная!—
Кандрат з пчалою размаўляе;
А пчолка, быццам ў павуціне;
У яго заблуталась шчаціне,
Злавіў пчалу і адкідае,
Даўжнік павольненька вымае.
--Ах вы, гультайкі! Плястры голы,
Хоць вы даўно старыя пчолы...
Дай дыму ім! дай, дай ім дыму!
Га, трохі ёсьць! давайце, выму!—
Кандрат дзялянкі падразае
І крэхча, бедны, і пацее;
Пчала ад дыму, бы п'янее,
Ў галовы далей запаўзае.
—Насілі, бедныя, зьбіралі,
А мы ў мінуту ўсё забралі!—
Тут пчолкам шчыра спагадаюць,
Ды новы вулей падглядаюць,
Пакуль іх ўсіх не перабралі
І ночвы мёду не надралі.
Гудуць пакрыўджаныя пчолкі,
Бы плачуць, бедныя саколкі,
Што праца іх неспадзявана
Людзкою хцівасьцю забрана.
Прынесьлі ночвы мёду ў хату.
На долю выпала Кандрату
Дзяліць мёд гэты між кумамі.
Жанкі ідуць сюды з збанамі;
Тут сьмех і жарты, таўканіна—
Найцікавейшая часіна!..
І стол тымчасам накрываюць,
Гасьцей шумлівых запрашаюць.
Садзяцца госьці, ды ня зразу,
За стол ня лезуць для паказу,
Бо так шляхэтнасьць вымагае;
Ідзе тут спрэчка не малая,
Калі пачнуць тут таргавацца:
—Сядай, Язэп!—Няхай садзяцца,
А я прыткнуся потым з краю.
—Ах, вось дзіўны!...—Ну, ну,
сядаю!
—Пан Фабіян! і ты, Кандраце!
Яхім і Ян і Юрка—браце!
Ну, проша-ж! проша!—пасадзілі.
Жанок так сама упрасілі
Прысесьці тут-жа на услоне.
Антось у ход пусьціў далоні
І коркі спрытна выбівае
Ды так, што ўсіх тут пацяшае.
Крыніцы бурнага натхненьня,
Мінут вясёлых, ажыўленьня,
Стаяць, як біскупы, бутэлі.
Любоўна ўсе на іх глядзелі.
Ляжыць гарамі ў іх падножжы
Закуска, гэта міласьць Божа:
Тут сыр, як першы сьнег, бялюткі,
Каўбас прыемнейшыя скруткі,
Што толькі знайдзеш ў Беларусі;
А масла!.. Не! маўчу: баюся
У час пайковай суяты
Дражніць пустыя жываты!
Мой мілы Янка, мой Купала!
Ў агульны вір нас доля ўгнала.
Чаму-ж, чаму часінай тою
Мы не спаткаліся з табою,
Каб стол сялянскага банкету
Разьвесяліў душу паэту?
Міхась тут чарку налівае.
—Ну, да каго-ж мне піць?—
пытае,
Гасьцей абводзячы вачыма.
—Пускай з канца, пачні з Яхіма.
—Ну, кум Яхім, стары дружака!
Няхай міне нас гора ўсяка,
Дай Божа добрую прыгоду,
Каб больш на лета было мёду,
Каб мы пілі, яшчэ прасілі,
Каб на галовах захадзілі!
Дык будзь здароў!—Ну, дай-жа,
Божа!
—За ваша, госьцяйкі, здароўе!
І посьле гэтага прыслоўя

Міхась куляе чарку гожа;
Глынуў і губы абціраe,
Яхіму чарку налівае.
З рук ў рукі чарка захадзіла
І ў галавох зашаламіла.
Што раз—ўсё госьці весялеюць,
Ўсё больш іх твары чырванеюць,
А голас крэпне і дужае,
І сьмех гаворку убірае.
Для ўсіх ласкава і пачціва,
Як-бы пад ветрам тая ніва,
Гасьцей частуе гаспадыня,
І на ўсіх чыста вокам кіне,
То сыр, то масла ім падносіць
І закусіць іх шчыра просіць.
—Ну, закусеце-ж, калі ласка!
Вось проша сыру, проша мяска
Ці кумпячка, або кіўбаскі.
Ну, пірага хоць закаштуйце,
Бярэце масла, не шкадуйце.—
Бутэлька выпіта—другая
Яе тут месца заступае,
А госьці вокрыкам зьдзіўленьня
Яе вітаюць тут зьяўленьне.
Жанкі так сама балявалі
І ад мужчын не адставалі,
Але ад іх адмежавалісь—
Сваёй гарэлкай частавалісь.
Гарэлка-ж іх тым адражнялась,
Што слодыч ў бутлі дадавалась.
І вось, зірнуць было цікава,
Як у жанок вялася бава,
І колькі мілых было сварак,
Як адмаўляліся ад чарак!
—Ну, проша-ж, пані Юзафова!
—Ой, не! не, кумка! даю слова!
Зусім я п'яна, бойся Бога!
—Ну, выпі-ж, кумачка! нічога!
Кума на просьбы паддаецца,
За чарку ўтройчы ўжо бярэцца
І толькі, толькі прыгубляе
І чаркі зноў не дапівае
І руку цягне да бутэлькі;
—Ня дам, кума, ня дам, Анэлька!
(Бо ўжо так звычай вымагае:
Хто п'е, той чарку налівае).
—Ну,выпі-ж чысьценька-чысьцют-
ка!
—Ой, я-ж п'янею вельмі хутка!
Язэп мой лысы унь сярдуе!—
Куму Анэлька тут цалуе
І сварку тым яна канчае,
Што гэту чарку асушае.
І вось жанчыны ня стрывалі
І песьню-кпіну засьпявалі,
Каб насьмяяцца з нежанатых,—
З Антося, Яські і Кандрата.

«Сядзіць дома, як пужала,
Не з кім слова мовіць,
Ой, жаніся-ж: часу мала,
Старасьць цябе зловіць!
Пастарэеш, небарака,
Дзеўкі ўсе зракуцца,
І ты будзеш, як сабака,
Тулядца і гнуцца.
І падлізваць будзеш місы—
Не свае—чужыя.
Дык жаніся, Кандрат лысы,
Жанецесь, дурныя!»

—Ну, зацягнулі ужо! Завылі!
Адно-б вы толькі і жанілі!
У! турэцкія вы сваці!
Як вас няма—то й ціха ў хаце!
Кандрат вачыма тут бліскае,
А Яська, брат яго, сьпявае:

«Я адзін, сьцежкі мне
Адчынены усюды;
Ажаніся—тагды
Не хадзі нікуды.
Я адзін, я казак—
І на ліха жонка?
Яна зьвяжа цябе
Чортава галёнка.
Бог мужчыну стварыў,
Потым памыліўся,
Драў чупрыну Адам,
Што зЕвай жаніўся.»

—Вось так вы іх! вось малайчыны!

І аж ня ўрымстуюць мужчыны.
Ну, выпіць, выпіць, хлопцы, трэба!
Яхім! пускай, брат, да Язэба!
— Не, брат Міхась: дальбог ня буду!
— Пі!.. ня люблю цябе, маруду!
Яхім дайшоў да пункту тога,
Дзе ён у сьведкі клікаў Бога,
Што больш ня вып'е ўжо нічога;
Але Яхімаў звычай зналі:
Дружней мужчыны насядалі,
І наш Яхім, хоць і бажыўся,
Але й з бажбою піць злажыўся.
А далей ён такім жа чынам
Рабіў замінкі тут мужчынам,
Але піў чарку ў чарку з імі.
І вось ён лыпае вачымі
І рукі зараз разьнімае,
Старую песьню зачынае:
Ой, ляцеў авадзень,
А насустрэч мушка.
Прыхіліся, кума:
Пашапчу на вушка!
На хату Ганна выступае
І ў ладкі плешча, падпявае:
Заіграйце, музыкі,
Каб я паскакала!
Купіў бацька чаравікі,
Каб я патаптала!
Мужчыны выклік той прыймаюць
І Фабіяна выпіхаюць.
У скокі зараз-жа пусьціўся
Наш Фабіян і закруціўся.
Падзівіся, Ганка,
Як трасецца шапка!
А замест шапкі валасамі
Трасе, як вецер каласамі,
І разьмінае свае косьці.
І разышліся нашы госьці!
Тут грэбень Пальчык Ян хапае
Сюды паперку далучае
І так-жа здольна выцінае,
Што ўсіх на скокі падбівае.
Бяз музыкі, бяз дуды
Ходзяць ногі ня туды,
Грай-жа, дудка мая!
Куды дудка, туды я!
Сам гаспадар з кумой Анэлькай,
Руку прыгнуўшы пад камзэлькай,
На панскі лад мяце-вальцуе,
Усіх далікатнасьцю касуе.
Так сама Юзаф з Каралiны
Ня траціць добрае часіны—
І з гаспадыняй так кружыўся,
Аж покі потам лоб ня змыўся.
Андроцкі кінуў ўжо бажыцца,
Сядзіць, ня можа варушыцца;
Адзін з ім Юрка яшчэ бае,
Яхім-жа тоненька сьпявае:
Пі гарэлку, мой суседзе,
Покі п'ецца!
Конь да дому сам заедзе,
Не саб'ецца.
— Скакаць хачу! Хто мне паграе?
Музыку!—Пальчык Ян гукае
І, не дачакаўшыся адказу,
У скокі рынуўся адразу.
Прысеў наш Яська, закруціўся—
Ды як пашоў, ды як пусьціўся!
Адкуль і дзе і што бярэцца—
З дарогі ўсё зьмяце, здаецца.
Там-там! тара-рам!
Там-та-ціта, ціта-там!
Хадзі хата, хадзі печ!
Не шкадуй-жа сваіх плеч!
Я найму дудара,
Дударыка-камара.
Грай, дударыку, грай,
А ты, муха, выцінай!
Грай на скрыпцы, сьляпень,
На басэтлі, авадзень,
Чмель у бубен бубні,
Шоршань польку утні!
Я хачу паскакаць,
Усіх на баль паскiкаць.
Разгарніся, душа!
Сьцеражысь Тамаша!
Бо тагды толькі пан,

Калі добра я п'ян,
Тагды весел і рад,
І сам чорт мне ня брат!
Там, там, тара-рам!
Там-та-ціта, ціта-там!
Лысы чорт бег з балота.
Надаела адзінота
І хіцёр, о, змыліўся—
Ажаніўся і—ўтапіўся.
Так і трэба яму,
Чорту лысаму таму!
Тут з месц ўсе госьці паўставалі,
У ладкі білі, падпявалі.
— Бадай ён скіс! ото прыўдаўся!
А Пальчык пыху набіраўся
І ўсё нагамі вырабляе,
Як-бы сам чорт яго шугае.
І плечы скачуць, рукі ходзяць
І ў абурэньне ўсіх прыводзяць.
Тымчасам стала і зьмяркацца.
— Панове! час! ой, час зьбірацца.
— Ды пасядзеце, пагуляйце,
Павесялецесь, пасьпявайце!
— Ну, песьню, песьню! пачынайце!
«Ой, пара вячэраць, няма-ж бацькі дома,
Ці яму дарожка гэта незнаёма?
Ці ён памыліўся, ці конічак зьбіўся?
Ці сярод дарогі ён адзін спыніўся?
Блудная дарога, ды конь яе знае,
Толькі конік волі сам прыйсьці ня мае.
Ой, хто-ж па дарозе каня паганяе?
Каня паганяе, сам песьню сьпявае?
А то сусед едзе з гасьцінцам вялікім:
Вязе сыну боты, дочцы—чаравікі.
А нашага бацькі ўсё няма, гуляе
І пра сваю хату, пра дзяцей ня дбае.
Пара спаць лажыцца, няма бацькі дома
І дарога біта і добра знаёма.
Вось і поўнач скора, а ўсё няма таты.
Ой, пара нам, госьці! Ой, пара да хаты!»

І нейкі жаль няяснай страты
Ад песьні гэтай патыхае.—
На сьвеце ўсё канец свой мае.
І ты, мінуціна зьмярканьня,
Сьпяеш нам песьню расставаньня.
І госьці свой банкет канчаюць
Адны другім дабра жадаюць.
А ў час апошні разьвітаньня
Стаялі чмокі цалаваньня:
— Ну, выбачайце-ж, ня крыўдуйце,
Калі што кепска, то даруйце!

# У ПАЛЕСКАЙ ГЛУШЫ.

## I.

— А, гэта ты, бабка! Ну, прысядзь, пагаворым трохі!—

— Я пастаю, панічок... У вас так ціха, я думала, што вы ўжо сьпіцё, а вы ўсё з гэтаю кніжкаю,—сказала, прысаджваючыся, бабка.

— Прабачайце, панічок: я прышла запытаць у вас,—ці баліць яшчэ ў вас галава ці перастала?

— Перастала, бабка, перастала!—сказаў малады настаўнік, зьвярнуўшы ўвагу на сваю галаву і як-бы прыслухаўшыся да яе.

— Забыўся нават, што яна й балела!

— Ну, панічок мой родны, як сабе хочаце: хочаце верце, хочаце ня верце, а я вам, яй-Богу, шаптала!

— Ты й мне шаптала?!—зьдзівіўся настаўнік;—калі-ж гэта ты ўмудрылася пашаптаць? Я нават і ня прымеціў!

— Вот вы тут сядзелі, чыталі, а я з кухні праз дзьверы шаптала... Ня гневайцеся, панічок: яй-Богу, шаптала!—

Высокая, сухарлявая кабеціна чарнявага воласу—яна была тут старожкаю—прышла ў нязвычайны рух, вочы яе ажывіліся, а на твары адзначылася нутраное пракананьне ў сіле сваёй здольнасьці.

— Напэўна гэта ты мне памагла, бабка,—сказаў настаўнік усьміхнуўшыся.

— Ой, панічыку, вы ўсё сьмяіцёся, не даіцё веры. Ня верыце ніяк мне старой!

— О, не, бабка: веру, веру! Аб тваім знахарстве ўсюды кажуць: у Хатынічах, у Малкавічах, Ганцавічах,—усюды!

— Гэ-э-э, панічок: з-пад самага Піньску прыходзяць і прыяжджаюць да старое Мар'і,—з гордасьцю прамовіла бабка.

— І як гэта ты, бабка, шаптаць навучылася?

— Навучылася, панічыку, навучылася!

— А хто цябе навучыў?

— Ой, панічок: вы ўсё хочаце ведаць!

— А што-ж, бабка: навучыўся-б, і да мяне хадзілі-бы людзі, і я памагаў-бы ім.

— Ня можна гэта, панічыку!—

— Чаму ня можна? Хіба грэх?

— Ня можна!

— Мусіць, бабка, ты з нячыстаю сілаю знаешся?

— Бог з вамі, панічок! Што вы сказалі проціў ночы?! Няхай Бог крые! I не ўспамінайце вы яе!.. Ва імя Айца й Сына й Сьвятога Духа!

Старая паляшучка, знахарка Мар'я, набожна перахрысьцілася, падняўшы вочы на абраз.

— А што-ж яна мне зробіць, гэта нячыстая сіла? Я не баюся яе, б яе, бабка, наогул няма.

— Гэ, панічыку, вы яшчэ маладзенькі, мала на сьвеце жылі.—

— Ну, а вось ты, бабка, дзякаваць Богу, трошкі пажыла такі, а скажы-ж ты мне, ці бачыла ты хоць раз нячыстую сілу?—

— Ня кожнага, панічок, яна напучае,—ухілілася старая ад простага адказу.

— А я табе, бабка, скажу, каго яна напучае. На колькі я ведаю, яна найбольш прывязваецца да п'яных цёмных людзей і то ўночы.

Старожка з гэтым не згадзілася й паківала галавою. А настаўнік, яшчэ зусім малады хлопец, нядаўна прыехаўшы ў першую сваю школку ў глухой палескай вёсцы, чуць-чуць усьміхнуўся сам сабе, пэўны ў тым, што старая няіменна раскажа пра здарэньне з нячыстаю сілаю. Яму вельмі падабалася такая гутарка з гэтымі простымі людзьмі, якія яшчэ так мала адышліся ад часаў першапачатковай людзкой культуры.

— Я вам, панічок, ня буду многа казаць, бо вы ўсё роўна ня верыце, хоць можа й верыце часам, але кажаце, што ня верыце. Але калі ня верыце мне, то паслухайце, няхай вам раскажа мой Міхалка. Вы-ж ведаеце майго Міхалку? А калі яму не паверыце, то спытайце людзей. Міхалка тагды дзяцюком яшчэ быў і шоў ён з Сяльца. I ноч была ня цёмная. Ведаеце, можа Сяльцо, недалёка ад нашае вёскі, вярста—ня болей? Гэта—выселкі з нашае-ж вёскі, двароў дзесяць. Ён і жонку ўзяў адтуль. Дык вось, панічыку, быў ён там—на вячоркі туды хадзіў, покі не жаніўся. На паўдарозе між Сяльцом і вёскаю старая карчма стаіць, якраз напроціў могілак. Там невялічкае балотца ёсьць, і рэчачка адтуль зачынаецца, малюсенечкая, і злучаецца з другою рэчкаю, што ў нас Целяшовым Дубам завецца. I вось, як толькі мінуў ён карчму, дык на яго штось і накінулася—і ня зьвер і не чалавек. Так проста й налятае на яго. Хоча злавіць яго—ня зловіць: нешта голае й сьлізкае, ні шэрсьці ні адзежы. Адкіне яго рукою, а яно зноў, а яно зноў. I вось, не паверыце, панічыку, парваў на ім новую сьвітку да самага каўняра. Змогся бедны хлопец і ў няпрытомнасьці ў хату вайшоў. Скажаце, п'яны быў, дык зроду-ж ня п'е Міхалка, у рот гарэлкі не бярэ. I праляжаў ён посьле гэтага ў гарачцы тры месяцы, насілу на ногі падняўся.—

Лабановіч—так называўся малады настаўнік—слухаў гэта апавяданьне з вялікаю цікавасьцю. Сьпярша яму было крыху сьмешна, але па меры таго, як сама сказаньніца ўсё больш і больш захапілівалася таемнасьцю гэтага здарэньня, другая думка зацікавіла маладога хлопца, іменна—непасрэдная й

цьвёрдая вера людзей у праўду ўсяго гэтага цёмнага спляценьня, у аснове якога ляжыць нядобрая сіла. «Мільёны й болей гадоў жыва гэта вера, пачаткі якой загублены ў цёмным выру прошласьці, і да гэтага часу людзкі розум не патрапіў вызваліцца з аблады гэтага чмучэньня... Цікава!.. Трэба будзе калі падумаць над гэтым», зазначыў сам сабе настаўнік. Але, як бачна, была ў яго яшчэ й другая думка, і ён, нечакана для сябе самога, спытаўся:

— Бабка! а твой Міхалка мог-бы й памерці з гэтага?—

— Гэ, панічыку мілы! чуць-чуць не памёр! Насілу, насілу адхаялі!—

— І падумаць толькі: з якога глупства можа памерці чалавек!—прамовіў малады настаўнік, скарэй да сябе самога, і задумаўся. Галава яго крыху схілілася наўскось, цёмныя вочы, у якіх часта адбівалася нейкая затоеная думка, пазіралі, не маргаючы, у кут пакоіку, але нічога ня бачалі: яны, як-бы пазіралі на тую думку, якая цяпер заварушылася ў яго розуме. Старая бабка зьвярнула на гэта ўвагу і з нейкім страхам і цікавасьцю пазірала на свайго «паніча».

— А што вы, панічыку, так «задумаліся»?—

Лабановіч ускінуў на яе вочы й засьмяяўся.

— А ведаеш, бабка: хочаш, я скажу табе, што ты цяпер думаеш?

Бабка задзівілася яшчэ болей, а настаўнік, не чакаючы яе адказу, прамовіў:

— Ты, бабка, пазірала на мяне й думала: «Калі гэты паніч яшчэ ня зьехаў з глузду, то зьедзе.»

Старожка пазірала яму ў вочы, моцна задзіўленая, а Лабановіч, прыдаўшы важны выраз твару сказаў:

— Ты, бабка, ня думай таго: не адна ты знахарка. Я можа яшчэ выдатнейшы знахар за цябе.

— А што-ж, панічыку, усё можа быць,—як-бы з нейкаю пакрыўджанасьцю адказала бабка.

— Ты плюнь, бабка, на гэта, бо ўсё гэта—глупства, а лепш вось што: скажы ты мне, бабка, чаго мы на сьвеце жывём?—

Бабка ня ведала, які тон ёй узяць, каб патрапіць у тахту, і сказала:

— Го, панічок: што вы ўсё так пытаецеся?.. Гляджу я на вас і дзіўлюся: сядзіць сабе, як той манашак, і ўсё ў гэтыя кніжкі пазірае. Пагулялі-б трохі й годзі. А то калі ня прыдзеш, вы ўсё ў кнігі глядзіцё. Хіба можна так пільна й доўга пазіраць у іх?—

І, памаўчаўшы, дадала: «Сушаць яны й болей нічога».

— Дык ты, бабка, ня ведаеш, чаго мы на сьвеце жывём?—

— Не, панічок: ня ведаю! Каб вы запыталіся ў дрэва, чаму яно расьце, дык хіба-ж-бы яно вам адказала? Так і я не магу адказаць вам. Жывём, покі жывецца, бо жывым у зямлю не палезеш, а прыдзе сьмерць, тагды пахаваюць.

— Так, бабка: ты кажаш праўду. Ня ведаем мы, чаго на сьвеце жывём.

— А на вошта, панічыку й ведаць? Жыве чалавек і жыве, пакуль Бог яму прызначае.

А прыдзе час яму памерці—памрэ.—

— А дрэнна, бабка, што трэба ўміраць!—

— Што вы, панічыку, усё пра сьмерць гаворыце. Дзіўны вы, панічок, яй-Богу! Вось той паніч, што быў перад вамі, бывала пойдзе куды: ці да пана падлоўчага або да Курыльчука на будку. Там паненка была, ой, прыгожая паненка! Яе цяпер дома няма, а вось прыедзе, дык пабачыце самі.—

— А хіба-ж тут паненкі ёсьць?—

Зацікавіўся Лабановіч.

— О, панічыку, чаму-ж няма!—

Бабка пачала пералічаць і расхвалiваць паненак. Перш-на-перш, у валаснога пісара іх цэлых чатыры. Праўда, воласьць адгэтуль за пятнаццаць вёрст. Але ёсьць паненкі й бліжэй: за сем вёрст дачка каморніка. Усе панічы ў гэтай акрузе закаханы ў яе. Ёсьць яшчэ паненка на хутары за тры вярсты.

— На што вам ляпей, панічок: у пана падлоўчага дочкі ёсьць. Адна яшчэ зусім маладзенькая, а другая старшая. Яна ўжо пыталася: «Ну, як твой, бабка, паніч?»

— А ты што ёй сказала?

— Ой, кажу, паніч! харошы паніч!

— А хіба-ж я харошы?

— Чаму-ж не харошы!

— Ну, а хто з паненак самая лепшая?—

— Усе харошыя. Як для мяне, дык усе харошыя.

— Ці ня думаеш, бабка, ты жаніць мяне?

— Самі, панічок, жэніцеся... А да пана падлоўчага вам трэба зайці. Бывала, той паніч як вечар—дык там. А вы ўсё сядзіцё нэд гэтымі кнігамі. А яны сушаць чалавека.

— А ты, бабка, пашапчы мне, каб я ад іх адвярнуўся.—

— Старая колькі хвілін пазірала на настаўніка, а потым засьмяялася доўгім-доўгім сьмехам.

— От, паніч: вы ўсё штукуеце!

Бабка ўстала, пазяхнула й зірнула ў вакно. А там ляжала цёмная-цёмная лістападзкая ноч.

— Толькі ў пана падлоўчага яшчэ вокны сьвецяцца,—зазначыла бабка.

— Пасядзі яшчэ трохі.

— Не, панічок: позна.

І бабка паволі павярнулася ў сваю кухню на печ.

II.

Старожка ўжо зьлёгка пахрапвала ў кухне на печы, а Лабановіч усё яшчэ не лажыўся. На стале гарэла лямпа пад сьветлым абажурам і ляжала разгорнутая кніга, якую чытаў Лабановіч. На гэты раз чытаньне штось ня

ладзілася, і Лабановіч часта здрываўся ад кнігі, пахаджаў па пакоіку й думаў. Новае месца, новыя людзі й тая работа ў школе, якую трэба было распачынаць на гэтых днёх і да якое ён так доўга падгатаўляўся,—усё гэта займала яго думкі, і яму было лёгка й добра, бо так многа новага й цікавага спадзяваўся ён спаткаць на першай сваёй дарозе незалежнай грамадзянскай працы.

Яму па душы быў і гэты глухі куток Палесься, аб якім яшчэ дома так многа цікавага наслухаўся ад аднаго старога аб'ешчыка, і гэты народ з яго асобнаю моваю й звычаямі, так непадобнымі да мовы й звычаяў тых беларусаў, з гушчы якіх вышаў Лабановіч; гэты непачаты край старажытнасьці, якая на кожным кроку кідалася яму ў вочы й затрымлівала на сабе яго ўвагу, і гэты выгляд самае мясцовасьці, агульнага тону якой ня мог яшчэ ўлавіць Лабановіч, але ў якой так сама было многа цікавага й на яго погляд павабнага.

Што ні кажы, а жыцьцё, ужо само па сабе, ёсьць радасьць, вялікае шчасьце, бязцэнны дар. Ёсьць дзьве важныя часьціны, з якіх складаецца жыцьцё й яго глыбокі сэнс і хараство—чалавек і прырода. Бо ніколі ня страціць для нас цікавасьці чалавек, бо праяўленьне яго розуму бязьмежна, бо дарогі яго ня вызначаны, бо формы яго жыцьця і яго ўзаемнаадносін да другіх людзей бясконца размаіты, аканчальна ня выяўлены й ніколі ня могуць стаць аканчальнымі. А прырода! Колькі вялікага здаваленьня дае нам яна! Бо прырода—найцікавейшая кніга, якая разгорнута прад вачыма кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе многалучныя напісы—хіба-ж гэта ня ёсьць шчасьце?

Адно толькі шкода, што наша жыцьцё ня сузьмерна малое для таго, каб начытацца гэтаю кнігаю. З такімі думкамі Лабановіч прыпыніўся каля вакна. З двара пазірала цёмная, чорная ноч. Неба абложанае нізкімі хмарамі, здавалася, цяжэй навісала над аголенаю зямлёю. Непраглядны мрок і сыры туман спляліся густа-густа і як-бы глынулі гэту закінутую між балот і лесу невялічкую вёску.

—Якая цемень!—жыхнуўся малады настаўнік. Яму было прыемна пачуваць, што ён цяпер у гэтым цёплым і прытульным пакоіку, дзе прыветна і так многазначна гарыць лямпа пад белым абажурам, дзе ўсё так ціха й спакойна й нішто не перабівае яго думак. І тут-жа паспагадаў ён і тым падарожным, якім так ці йначай прыходзіцца ехаць або йці ў гэты глухі час ночы па цёмных і гразкіх дарогах, праз брады й грэблі сярод лясоў і балот. Лабановіч зноў падышоў да стала і ўзяўся за кнігу. Але думкі яго так разышліся, што ён мусіў закрыць кнігу ды зноў стаў хадзіць па пакоіку й думаць.

Заўтра трэба будзе заказаць старасьце хурманку й паехаць да воласьці забраць школьныя прыналежнасьці; трэба пазнаёміцца там з настаўнікам і параіцца з ім наконта розных пытаньняў, зьвязаных са школаю; трэба так сама зайці й да бацюшкі й запрасіць яго прыехаць сюды адслужыць малебен перад адчыненьнем заняткаў у школцы. Так, гэта трэба зрабіць, бо

ўжо даўно час брацца за навучэньне дзяцей. Праўда, яго назначылі сюды позна. Але адкладаць работу няма сэнсу, бо ня здолее выпаўніць праграму.

Часы на сьцяне рабілі сваю работу. Аднатонна й разьмерана гойдаўся маятнік у сваёй шкляной каморцы, як-бы вельмі здаволены сваею працаю, што й пацьвярджаў кароткім «так-так!» «так-так!». Перад тым, як адбіць гадзіны, часы колькі хвілін трашчалі, скрыпелі, як калодзежны журавель на марозе, і ўжо посьле такой прадмовы званілі прыемным мэталічным звонам.

—А ўжо й позна, — зазначыў сабе Лабановіч. Часы прабілі поўнач. Настаўнік перанёс лямпу ў другі, яшчэ меншы, пакоік, дзе стаяў яго прасьценькі дзеравяны ложак, палажыўся ў пасьцель і лежачы чытаў: «Зорныя сьветы і іх насельнікі». Шырокі малюнак недасяжных сьвятоў раскрываўся перад вачыма маладога настаўніка ўва ўсёй сваёй таемнасьці й безгранічнасьці. І подлуг таго, як мысль усё больш захоплівалася гэтым чароўным малюнкам і гэтымі нязьлічонымі сьветамі, раскіданымі сярод бяздонных багнаў, такіх страшных, такіх павабных,—зямля й чалавек, пагардлівы гаспадар яе, рабіліся ўсё меней і меней значнымі, нікчэмнымі. Гэта безгранічнасьць зацірала зямлю, і яна гублялася ў ёй, як малюсенечкая пылінка. А якім малазначным, незаметным зьяўляўся чалавек, яго клопат, яго штодзенныя драбніцы жыцьця! Новыя думкі й настроі ахінулі маладога настаўніка. Але гэтыя думкі ў момант разьляцеліся, як вераб'і, калі ў іх вясёлы гурток паляціць каменчык, кінуты рукою якого-небудзь падшывальца-жэўжыка: страшны й няпрыемны вобраз сьмерці бліснуў сярод гэтых думак маладога настаўніка й разагнаў іх. На адзін момант жыцьцё ў ім як-бы спынілася. Па яго целу прабегла дрыготка, бо гэты вобраз сьмерці вынік зусім неспадзявана.

—Я памру!—падумаў малады настаўнік:—будзе такі час, калі я стану няжывым трупам!—

На кароткі міг ён як-бы адлучыўся ад сябе самога й зірнуў на сябе збоку, як пастароньні, другі чалавек, і жыва ўявіў сабе той момант, калі ён будзе нярухомым трупам.

—Фу! як гэта прыкра й няпрыемна!—падумаў Лабановіч. А горай за ўсяго гэта тое, што перад сьмерцю мы бяспомачны й слабы й ня маем спосабаў адхіліць яе ад сябе або хоць аддаліць час яе прыходу. Ад яе не адмолішся, ад яе не адкупішся нічым.

—Я памру. Маладым, пажылым ці старым, але факт той, што я памру, бо я, як і ўсё, што мае ў сабе пачаткі жыцьця, падлягаю сьмерці, бо ўсё на сьвеце, толькі што зарадзіўшыся для жыцьця, ужо мае ў сабе адзнакі й пячаць сьмерці. І людзі звykліся з гэтым, і нікому нават і ў галаву ня прыходзіць выказаць свой пратэст процiў сьмерці й вясьці з ёю змаганьне, як-бы ўжо даўно - даўно ўмовіліся прызнаць над сабою яе ўладу, лічыць гэту ўладу справядліваю й законнаю. А яна гэта сьмерць кожны дзень ходзіць вакол, кожны час, кожную хвіліну нішчыць і маладзенькія й старыя формы жыцьця. І мы не зварачваем на гэта ўвагі, і толькі тагды яна робіць моцнае ўражаньне, калі ўмірае хто блізкі, або калі наваліцца мор, і людзі

пачынаюць уміраць агулам. Тагды чалавека ахоплівае жах, і ён губляе галаву. I вось што цікава. Калі нарушаюцца драбязговыя правы, то чалавек гатоў грызьціся за гэта й кусацца зубамі; там-жа, дзе разьбіваецца сама аснова, прынцып, ён пакорна згінае сваю галаву й моўчкі падстаўляе яе пад абух.

—Тфу! якая гэта агідласьць!—думаў далей малады настаўнік: жывеш, строіш пляны, чагось шукаеш, чагось дабіваешся, спадзяешся, а прыдзе час і ты будзеш труп, гніль, спажытак чарвей.

Гэтыя думкі парушылі спакой Лабановіча і аставілі пачуваньне нейкага нездаваленьня й няпрыемнасьці.

Ён зьвярцеў папяросу, стараючыся ня думаць зусім аб сьмерці, закурыў, каб перабіць прыкрыя думкі. Гэта яму крыху і ўдалося, бо Лабановіч быў хлопец крэпкі, моцна зросшыся з зямлёю й жыцьцём, любіў гэта жыцьцё, на парозе якога ён стаяў і росквіт якога для яго толькі-што зачынаўся.

— Чаму я стаў думаць пра сьмерць? Скуль узялася гэта думка?—запытаў сябе Лабановіч і пачаў дашуківацца тэй сувязі, якая павінна быць паміж думкаю аб сьмерці й тымі думкамі, якія так ці йначай былі прычынаю пазьнейшай думкі. Прыпомніўшы ўвесь ход сваіх мысьляў, настаўнік ніяк ня мог знайці гэтай сувязі, і гэта акалічнасьць яго крыху зьдзівіла й зацікавіла.

— Я чагось ня ўзяў пад увагу, нейкі вобраз ці думка проста зьнікла з памяці, і ад таго факт гэты мне здаецца крыху незразумелым і дзіўным, хоць наогул сказаўшы, на сьвеце нічога дзіўнага няма.—

А часы на сьцяне нясупынна вялі сваю справу: разьмерана ківаўся хадун-маятнік і кожны свой крок зазначаў кароткім «так-так!», усё такжа скрыпелі перад тым, як прабіць, і ў свой час званілі мэлёдычным звонам.

Лабановіч патушыў лямпу.

Цемень і ціш напоўнілі маленькі пакойчык. З двара ў вакно пазірала чорная ноч і завешанае густымі хмарамі-валокнамі цёмнае неба. Было ціха й глуха. Праз некалькі хвілін каля дзьвярэй у кухню скробнула мышка. Як відаць, яна знашла дзесь скарыначку хлеба й барабаніла ёю аб падлогу.

Лабановіч стараўся заснуць, але яму штось ня спалася. Як толькі заплюшчыў ён вочы, перад ім, як жывы, усплыў малюнак дарогі, якою ён ехаў ад станцыі, нескончоныя балоты й цэлыя стады стажкоў на іх, грэблі, брады, старыя хвоі, што горда падвышалі свае макушы над лесам і, наогул, увесь гэты краявід, поўны свайго асобнага хараства й нявыразнай цікавасьці... «Калі хворы чалавек пачынае думаць аб вялікай дарозе, то гэта ёсьць адзначэньне, прымета таго, што гэты чалавек не ачуняе»,—прыпомнілася невядома калі і дзе і кім выказаная думка.

— Усё гэта—глупства,—падумаў настаўнік і павярнуўся на другі бок.

## III.

У нядзельку раненька, чуць толькі заграла чырвань на ўсходзе, Лабановіч сядзеў ужо на сене ў драбінах і выяжджаў з вёскі. Невялічкая вёска ў адну вуліцу выглядала няпрыветна й няпрытульна. На ўсім ляжала пячаць

нядбаласьці й нейкай недаробленасьці, як-бы тутэйшыя гаспадары будавалі яе на скорую руку і ўсё рабілі да часу і яшчэ ня ўправіліся даць ёй той лад і парадак, якімі наогул адзначаецца беларуская вёска. Вуліца была роўная й шырокая. Амаль што не каля кожнай хаты ляжалі кучы бярвеньняў і гнілі, але нікому не прыхадзіла ў галаву палажыць кладачку хоць проціў свае хаты, каб льга было прайці праз балота, у якім тапілася гэта вуліца. А гразь была густая, чорная, як дзёгаць, разьмешаная паляшуцкімі лапцямі, быдлячымі й конскімі нагамі. Але паляшукі звыкліся й зжыліся з гэтаю гразьзю й не зварачалі на яе ўвагі. Хаты былі больш новыя, пабудованыя з тоўстага й гладкага лесу. У раскладзе гаспадарскіх будынін на двары так сама ня было пэўнага парадку й сыстэмы, а ўсё было навалена, як папала.

Адным словам жыхарства гэтай вёскі выяўляла сабою праўдзівых дзяцей лесу, якія як-бы зусім яшчэ нядаўна асталяваліся тут і толькі-што пераходзілі ад аднае формы жыцьця да другое. Усе яны былі заўзятыя паляўнічыя, захопліваліся адным толькі відам стрэльбы й былі адлічнымі стральцамі. Сялян другіх вёсак, якія жылі больш пры палёх, яны называлі палянямі й гэтым самым як-бы адрожнівалі іх ад сябе, жыхароў лесу. А лесу й балот тут быў непачаты край. Сама вёска стаяла на невялічкай палянцы сярод лесу й хмызьнякоў, і Лабановіч усе гэтыя дні чуў сябе як-бы чымся зьвязаным, як-бы на ім была надзета цесная адзежына, бо густыя сьцены лесу адусюль націскаліся на гэту вёску, насядалі з пагрозаю, як-бы яна намервалася на нарушэньне яго законных правоў. Край гэтай палянкі прарэзваўся зялезнаю дарогаю. Дарога йшла каля самай вёскі, захватваючы нават адзін канец вуліцы. Зараз-жа за пераездам пачынаўся лес.

Нізкае сонца пачынала праразацца скрозь макушы лесу. Неба праясьнялася, падыхаў усходні вецер; лёгкі марозік чуць-чуць зацягаў лужынкі тонкаю плёнкаю лёду. Вісеўшы ўсе гэтыя дні туман разьвеяўся, усюды пасьвятлела й павесялела. Нават гэты пануры лес крыху праясьніўся й меў больш прыветны выгляд.

— Го, падмарожваць пачало!—весела прамовіў паляшук, Сьцяпан Рылка, і саскочыў з драбінак, выламаў лазіну й хвасянуў ёю свайго худога, але даволі шпаркага коніка.

— Эх, і лесу-ж у вас многа!—сказаў настаўнік, каб разгаварыцца з паляшуком і пазнаёміцца з ім бліжай.

— О, лесу ў нас многа!—пацьвярдзіў паляшук і павярнуў твар да настаўніка.

— Гэта вось цяпер, як правялі тут чугунку, яго пачалі звадзіць, а даўней лес зусім не такі быў. І зьвяр'я было многа. Каля нашае вёскі мядзьведзі вадзіліся. Яшчэ бацька нашага старасты, ведаеш можа?—стары Грыгор, даўнейшага закалу чалавек!—жывога медзьвядзёнка з лесу прынёс, ад мядзьведзіцы адабраў!

— Як-жа гэта ён?

— А Бог яго ведае. Сьмелы. Ды й здаровы, як дуб. Дарма, што яму цяпер семдзесят гадоў, а як забушуе часам у хаце Раман, яго сын, староста

наш, то стары, бывае, ня вытрывае, возьме яго на рукі, як хлапчанё, і зараз-жа ўціхамірыць, хоць Раман і ня ўломак. Вось як!

І адвезьлі таго медзьвядзёнка графу Патоцкаму. Пазваленьне далі Грыгору паляваць у графскіх лясох, яшчэ й пораху й шроту выдалі.

— А цяпер мядзьведзяў тут няма?

— Не, няма: перавяліся. Туды далей, пад Татарку, сышлі, дзе месца глушэй і лесу болей і дзе меней заглядае вока людзкое... Забараняць пачалі па лесе з стрэльбаю хадзіць, лясьнікоў паставілі, законы строгія пашлі. Але й лес нішчыцца й зьвер зводзіцца.—

— А я чуў, што тут яшчэ многа зьвярыны?

— Ёсьць, праўда, але хіба стольki, як даўней? Бабры тут калісь вадзіліся.

Яшчэ й цяпер дзе-ня-дзе можна бачыць сьляды іх будынін... На ўсё пашоў звод,—з нейкаю маркотаю заключыў паляшчук і змоўк, абчымся задумаўшыся.

— Так, дзядзька Сьцяпан: жыцьцё не стаіць на месцы, і ўсё на сьвеце мяняецца. Вось у вас зялезную дарогу правялі, заработкаў прыбавілася, гандаль шпарчэй пашоў, новыя людзі зьявіліся. Яшчэ тры гады таму назад у вас і школкі ня было, цяпер пабудавалі школу, вашы дзеці вучыцца будуць, граматнымі стануць, будуць кнігі, журналы чытаць, навучацца, як лепей каля зямлі хадзіць, каб карысьці з яе болей было, бо ўсё-ж палепшаньне ў жыцьці ад навукі йдзе. Нябось і вы, дзядзька Сьцяпан, маеце дзетак, якіх трэба ў школцы вучыць?

— Ёсьць Іван і Пятрук, самыя шкаляры,—уздыхнуў паляшук. У яго адказе настаўнік пачуў нотку нездаваленьня, што яго хлопцам прыходзіцца ў школу йсьці.

Настаўнік з цікавасьцю назіраў за паляшуком. Яму падабалася яго паляшуцкая вопратка: чорная выцьвеўшая суконная сьвітка, пашытая да стану, шырокі ў чырвоныя палоскі даматканы пояс і шапка-кучомка свайго вырабу. Доўгія, як у папа, цёмна-русыя валасы, сьветла-шэрыя вочы, сярэдні рост, шырокія плечы, павольнасьць руху й нейкая сур'ёзнасьць выразу твару як ня трэба лепей стасаваліся з агульным выглядам малюнкаў палескай прыроды.

Дарога ўвесь час ішла лесам. Лес зрэдка разрываўся невялічкімі палянкамі, на каторых часамі рунела жыта, а на краёх там-сям пападаліся старадрэвіны-хвоі, пышна разросшыся на прасторы, або разьвіслыя таўшчэрэзныя дубы, як заможныя старасьвецкія гаспадары; на гэтых дубох паляшукі-бортнікі ўстрайвалі цэлыя пчольнікі, зацягнуўшы туды каля дзесятка вульлёў. Палянкі зноў зьмяняліся лесам, то стройным баравым, то нізкім балотным. Высокія тонкія бярозы мяшаліся з шэрымі стваламі хвой і прыдавалі характар маркоты й засмучэньня ўсяму малюнку. Лес зноў расступаўся, даючы месца бясканца валікім балотам. Балоты цягнуліся далёка-далёка між лесу й затыкаліся лесам, чуць-чуць чарнеючым роўнаю палоскаю на далёкім небасхіле. Цэлая мора высокай парыжэлай травы засталося зімаваць тут, бо сюды ня зойдзе ні гавяда, ні чалавек з касою. Няզьлічоныя купіны, нізкарос-

лыя хвойкі на іх, пачарнелыя карчагі даўно адмершых дзеравяк расьлі й гнілі тут спрадвеку. Сярод гэтых купін бліскучымі стужкамі павіваліся часамі палоскі вады, чыстыя, гладкія, як шліфованае шкло. Невядома, з якіх часоў стаялі над імі засохшыя адломкі старых спарахнелых алешын, як сьвечкі, і маркотна глядзелі ў неба. Ад гэтых балот патыхала нейкім нявыразным смуткам; ціхім жалем веяла ад гэтых аднатонных малюнкаў палескіх куткоў, дзе ўсё-ж такі жыцьцё стварала свае асобыя формы і, ня гледзячы на ўсё ўбожаства, мела сваю павабнасьць і харство, свой твар, поўны пужлівага задуменьня. Але гэтыя малюнкі тамілі вочы й засмучалі сэрца й мімаволі стараешся знайсьці нешта такое, на чым можна было-б адпачыць і заспакоіцца.

Пазіраючы на гэтыя балоты-пустэлі, Лабановіч часамі пачуваў у сэрцы нейкую адарванасьць ад жыцьця й сьвету, як-бы гэты сьвет сышоўся тут клінам, і нейкая туга па тым, з чым ён разлучыўся, пачынала забіраць яго душу.

«Што пачувае, аб чым думае гэты дзядзька Сьцяпан? Як адбіваюцца на ім вобразы глухога Палесься і які сьлед пакідаюць яны ў ім?»—думаў настаўнік, і яму хацелася хоць на момант стацца тым самым паляшуком, што сядзеў радам з ім, каб зірнуць яго вачыма й зразумець увесь нутраны сьвет яго істоты, яго падзеі, яго жаданьні.

Балоты кончыліся; дарога пашыбавалася на горку, калёсы мякка пакаціліся па жоўценькаму пясочку, і лес прыняў звычайны свой від. Вярсты праз дзьве лес з аднаго боку дарогі зноў разарваўся вясёлаю палянкаю, агібаючы яе прыгожымі завароткамі. На гэтай палянцы на паўвярсьце ад дарогі раскінулася чыясь пасада, як сярэдняй рукі фальварак, са ўсімі пристройкамі, садам і просторным дваром.

— Чыя гэта пасада?—Хто жыве тут? запытаў настаўнік.

— Гэта? а тут пан каморнік жыве.

Завітанкамі пасада называецца. Адгэтуль як-раз палавіна да воласьці,—адказаў Рылка.

«А, гэта і ёсць той каморнік, у чыю дачку ўсе тутэйшыя кавалеры закахаліся. Так вось дзе жыве яна, гэта красуня!»

Лабановіч прыпомніў размову са сваёю старожкаю і, зацікаўлены, глянуў яшчэ раз на гэту пасаду. Паслушнае і ўслужлівае ўяўленьне ўжо рысавала яму вобраз дзяўчыны, гэту чыстую й прыгожую краску, узгадованую ў глухіх палескіх барох. Лабановіч ніколі, нават у думках, не пазваляў сабе зьневажыць дзяўчыну. Адно слова «дзяўчына» выклікала ў душы яго чысты й прыгожы вобраз, на які можна пазіраць і любавацца толькі здалёк. І цяпер ён прыпомніў два ці тры здарэньні ў сваім жыцьці, калі гэтыя вобразы глыбока западалі ў яго сэрца, але ён і намёкамі не сказаў ім пра гэта. А раз у дачку пана каморніка ўсе закаханы, то яна, бяз спрэчкі, ёсьць верх харства. Яшчэ ня бачучы яе, настаўнік пачуваў, што яна ўжо мае над ім нейкую ўладу. Яму хацелася хоць паглядзець на яе, і праве ўсю астатнюю дарогу ён думаў аб дачцы каморніка, ён ужо сустракаўся з ёю, зацікавіў яе і бадай-што ня ўсіх кавалераў яе засланіў сабою.

IV.

Апошні раз расступіўся лес, і перад вачыма настаўніка раскрылася шырокая, круглая палянка, вясёлая й прыветная. Лабановіч уздыхнуў лягчэй, як-бы з яго плеч зваліўся нейкі цяжар, бо дарога, траская й караністая, і лес усё-ж такі дакучылі яму. Тым прыемней вірнулі стрэхі людзкіх будынін і коміны хат, з якіх яшчэ дзе-ня-дзе курыўся сінюваты дымок.

Вёска была досыць вялікая, цягнулася ў адну лінію й толькі каля царкаўкі на ўзгорку яна скупавалася гушчэй і шырэй. Зьлева, пры канцы вёскі стаяў дом валаснога праўленьня з двама высокімі чырвонымі комінамі над пачарнелым дахам. Напроціў, на другі бок вуліцы, выглядала школа з белымі ваконьніцамі і з двамя ці трыма разьвіслымі вязамі каля яе. Пры дарозе ў вёску, крыху на отшыбі, маркотна тулілася старэнькая драўляная царкаўка. Цяпер яна стаяла адзінокая, закінутая, забытая, і толькі богабаязны падарожны, праходзячы каля яе, прыпыняўся й хрысьціўся, набожна схіліўшы галаву. На адзін і па другі бок вёскі стаялі ветракі, як страшыдлы, шырока раскінуўшы свае крыльлі. Адны з іх былі ў жывым руху, весела падымалі і апускалі свае крыльлі, а другія стаялі моўчкі, нярухліва й мелі такі выгляд, як бы яны крэпка чымся зьдзіўлены й пыталіся: «А чамуж мы стаім без работы?»

Праехаўшы невялічкую грэбельку, калёсы пакаціліся па шырокай вуліцы. Народ расходзіўся з царквы. Сталыя паляшукі, сустракаючыся, пачціва кланяліся, а чародкі маладых дзяўчат—паляшучак і праворных маладзіц, убраных, як макавыя кветкі ў агародзе, падштурхвалі адна другую, пераміргваліся й кідалі сьмяшлівыя погляды ў бок першы раз зьяўленага тут маладога настаўніка.

Пад'ехаўшы да школы, Лабановіч выскачыў з драбінак і ўзышоў на ганак. Дзьверы былі замкнуты. Лабановіч пастукаў. У глыбі кватэры заразжа грукнула крэсла й пачуліся крокі. Дзьверы адчыніліся.

— Выбачайце. Дома настаўнік?—

— Вот я. Заходзьце, калі ласка.

Лабановіч пашоў за гаспадаром, нязграбна ступаючы занямеўшымі нагамі.

— Пазвольце пазнаёміцца: ваш калега й сусед—Лабановіч,—назваў сябе госьць.

— Саханюк, тутэйшы пэдагог. Будзьце ласкавы, зьнімайце паліто, сядайце.

Госьць і гаспадар селі каля стала.

— Вы—новы і ў нашых краёх першы раз?

— Нова сьпечаны і ў вашых трушчобах маю гонар быць першы раз,—сказаў з усьмехам Лабановіч.

— Ну, як падабаецца вам ваша месца?

— Лепшага месца я й не чакаў: ціхае, глухое. Нішто не пашкодзіць вясьці працу,—прамовіў Лабановіч.

Саханюк звонка засьмяяўся.

— Ах, вы, ідэалісты, ідэалісты! Ці на доўга хваціць вам гэтага ідэалізму?.. І тым ня меней першы раз бачу чалавека, што так высока ставіць глуш ды яшчэ такую, як ваша.

— У вас тут, выбачайце, большая глуш.—

— Як так?—зьдзівіўся Саханюк. У нас—воласьць, грамадзянства: бацюшка, пісар, фэльчар, урадпік, псаломшчык, і так збоку людзі часьцей даведваюцца...

— І пэўне з Завітанак сюды хтось завітае,—жартліва ў тон гаспадару прамовіў Лабановіч і кінуў на яго бачлівы погляд.

Гаспадар крыху зьмяшаўся, бо і ён так сама меў ласае вока на дачку пана каморніка, адразу сьцяміўшы, куды цаляе яго сусед.

— А вы хіба былі ў Завітанках?—спытаў Саханюк.

— О, не!—прамовіў Лабановіч—я лічу, што ў завітанскай чараўніцы і так вялікі штат кавалераў, і мая там прысутнасьць ні колечкі не павялічыць яе вагі.

— Калі ў вас, калега, такі погляд на рэчы,—сказаў павесялеўшы Саханюк,—то скажу вам: ня будзеце й вы мець вагі ў тутэйшых паненак.

— А мне ўсё роўна... Урэсьце-ж, ці не памыляецеся вы тут, калега? Але гэта—між іншым. Я хацеў-бы прасіць вас, калега, пазнаёміць мяне з вашым грамадзянствам, бо трэба-ж, як кажуць, аддаць кесарава кесараві, і калі-б вы былі ласкавы пайці са мною да пісара, так сама і да бацюшкі, а можа і яшчэ да каго, калі ўжо гэтага вымагае падатак вашага грамадзянства, то я быў-бы вам вельмі падзячан. Гэта было-б і скарэй і прасьцей, бо мне яшчэ ніколі не даводзілася выступаць у ролі візытанта.

— А вы чаго-ж так сьпяшаецеся? Разумеецца, я з вамі пайду, тым болей, што й мне трэба зайці да таго, другога, але адаслалі-б вы сваю падводу дамоў, а самі тут паначавалі-б.

— Не, калега. Я яшчэ да работы не прыступаў у школе. Вы, нябось, многа ўжо пасьпелі, і я не даганю вас за ўсю зіму. Мне хацелася-б і павучыцца ў вас сяму-таму, бо вы ўжо набілі, як кажуць, руку й маеце практыку.—

Дзьверы з другога пакоіку адчыніліся, і на парозе паказалася ўжо немаладая кабеціна. Гэта была старожка. Яна перш уважліва паглядзела на незнаёмага настаўніка, а потым сказала свайму настаўніку паляшуцкаю гаворкаю.

— Да вас, панычу, там маладыцы прышлы—лыст напысаць хочуць.—

— А сала прынясьлі?

— Ны відаю, панычыку.—

— Выбачайце,—сказаў Саханюк да госьця:—я пайду адпраўлю гэтых маладзіц.—

І Саханюк пакіраваўся ў кухню, а старожка Матрона, яшчэ раз аглядзеўшы госьця, так сама пашла да кухні. Ясна, хтось даў ёй наказ, як можна лепей разглядзець Лабановіча, каб навясьці аб ім сталыя спраўкі. І як

відаць, какая гэты быў дан ня так здалёку, бо, счакаўшы мінуты дзьве, Матрона матнулася праз вуліцу, маючы кірунак да кватэры пісара.

Астаўшыся адзін, Лабановіч акінуў вокам пакоік свайго калегі. Кватэра гэта была многа лепшая ад яго кватэры. Было відаць, што Саханюк жыў ня кепска, прасядзеўшы ў гэтай школе гадоў пяць. І наогул, Саханюк быў больш практык, чалавек матэрыялістычнага складу. Нейкім чынам умудрыўся ён за гэтыя пяць гадоў, атрымліваючы дваццаць рублёў пэнсіі на месяц, сабраць капітал у пяць-шэсьць соцен і меў сваю гаспадарку. «Жылаваты чалавек ты, браце!»—падумаў Лабановіч: «навет за напісаньне лісту не саромеешся браць сала». На століку ляжалі школьныя журналы. Разглядзіўшы іх, Лабановіч прышоў да заключэньня, што яго калега ня так далёка адышоўся з вучнямі й праканаўся, што ў асобе Саханюка ён ня будзе мець для сябе настаўніка й тут-жа зазначыў, што супольнага між імі вельмі мала і што блізкімі сябрамі яны ніколі ня будуць.

— Ну, цяпер я вольны, можам ісьці, сказаў вашоўшы Саханюк і падышоў да люстэрка, паглядзеўся, падправіў рыжаватыя вусы, правёў рукою па шчоках, ці добра пабрыты, і прычапіў больш франтаваты гальштук. Саханюк быў хлопец сухарлявы, досыць высокага росту, меў даволі прыгожы твар, але мала выразныя, жаўтавата-карыя вочы яго крыху псавалі. Так сама была ў яго яшчэ адна загана, загана вымаўляньня: ён ня мог сказаць чыста «р», а нейк скрадаваў яго й казаў «й».

— Ты, Мат'ёна, калі я ня п'іду, то астаў абед на вячэю.—

Настаўнікі вышлі.

— Куды-ж наўперад пойдзем?—

— А давайце пачнём па парадку, каб нікому ня было крыўдна,—адказаў Лабановіч.

Зрабіўшы колькі крокаў, Лабановіч і Саханюк узашлі на ганак валаснога праўленьня.

— Зойдзем да канцыляріі,—сказаў Лабановіч:—за адно трэба ўзяць паперы і ўсе вучэбныя прылады.—

Настаўнікі пераступілі парог і апынуліся на зборнай. Зборная была прасторна, як абора. На працілежным яе канцы, на узвышшы, адгароджаным балясамі, стаяў вялізны стол, абіты зялёным сукном, а за сталом на шырокім крэсьле засядаў сам пісар. Гэта быў ужо стары чалавек, з шырокаю барадою, напалавіну сівою. Міна яго была нязвычайна важная. Пазіраў ён крыху прыжмурыўшыся, як-бы ён толькі што занюхаў табакі й зьбіраўся чхнуць. Ня глядзячы на тое, што ў канцыляріі было цёпла, пісар сядзеў у валёнках, бо меў у нагах раматус, і на твары яго адбіваліся знакі хваравітасьці й сьляды калісь вясёлага жыцьця й п'янства, у якім пісар ня меў сабе роўных у воласьці. З гарэлкаю ён ніколі не разлучаўся. Сядзіць у канцыляріі, а ў шафе сярод «гражданских и уголовных дел» стаяла бутэлька з «царскімі сьлязьмі», як называлі тагды гарэлку, да каторай часта прыкладаўся Пятро Восіпавіч і у часы сваіх заняткаў у воласьці. Праўда, такіх часаў у яго было ня так-та многа, і ён прыходзіў сюды ў выпадках

рэдкіх і важных; усю-ж работу на воласьці вёў яго памоднік Дубейка, які ўжо лічыўся кандыдатам на пісарскую пасаду. З гэтай прычыны Дубейка нёс сябе высока, насіў манішку й манкеты і лічыў сябе найпершым кавалерам; старанна прычэсаныя валасы й частае заціраньне ў люстэрку сьведчылі аб тым, што і ў яго сэрцы засела завітанская паненка.

V.

— Дазвольце пазнаёміць,—сказаў Саханюк, падводзячы калегу да пісара:—цельшынскі настаўнік.

— А!—прамовіў пісар, акінуўшы Лабановіча прыжмураным поглядам, і падаў яму руку.

— Прасьвяшчаць, значыць, прыехалі?—спытаў пісар, каб хоць штонебудзь сказаць і яшчэ раз азірнуў Лабановіча.

— Ну, ну, справа патрэбная,—важна прамовіў пісар, посьле чаго перастаў цікавіцца Лабановічам, як чалавек практычны, які з першага погляду адгадаў, што для яго, пісарскага дому карысьць ад новага настаўніка не вяліка.

Затое-ж Дубейка выказаў многа ўвагі і адзнакаў шляхэтнага тону, знаёмячыся з Лабановічам.

— О!—казаў ён:—нашага палку прыбывае. Вельмі прыемна, калі інтэлігэнцыі павялічваецца.—Але разам з гэтым Дубейка запытаўся:

— А гэта ўжываеце?—

Адначасна з запытаньнем ён ускінуў галаву й пстрыкнуў пальцам пад сківіцу.

Лабановіч зьдзіўлёна глянуў на Дубейку. Гэта запытаньне для яго было зусім нечакана, і ён ня ведаў, што адказаць на яго.

— Ну, разумеецца, ня так, што-б з ног скідацца,—папраўіўся памоднік:—а ў кампаніі, пасьля таго, як пулячку зыграеш, або стукалку, прапусьціць чарачку, другую. Іграеце ў карцішкі?

— Не, ня йграю.—Дубейка ў сваю чаргу зьдзівіўся, і ўся выраза яго твары як-бы казала:

— Які-ж ты пасьля гэтага інтэлігэнт?

— Ну, нічога,—заспакоіў Дубейка: — пажывіцё, навучыцеся. Толькі часьцей да нас даведвайцеся, бо ў вас там — глуш, чалавека ня ўбачыш і апрача падлоўчага й зайсьці там не да кага.—

— Э, гэта не бяда,—адказаў Лабановіч—людзі ўсёды ёсьць. Чым ня людзі тыя-ж самыя паляшукі? Хіба да іх ня можна зайсьці? Я лічу, што сярод іх можна вельмі прыемна прабавіць вольную часіну, і там можна напаткаць ня толькі цікавае, але й разумнае, чаго ніколі ня знойдзеш ні за чаркаю, ні за пулькаю.

— Не разумею вас,—адказаў Дубейка. Што цікавае можна знайсьці сярод паляшукоў? Калі й можна там напаткаць што - нібудзь цікавае, дык хіба толькі маладзіцу-салдатку.—Пры гэтым Дубейка выразна зірнуў на Саханюка й засьмяяўся.

— Калега—манах. Ён любіць глуш і адзіноцтва й хоча жыць пустэльнікам.—

— Ведаем мы гэтых пустэльнікаў,—зноў падмігнуў Дубейка:—у ціхай вадзе чэрці водзяцца.—

Першыя ўражаньні знаёмства не спадабаліся маладому настаўніку, і ён, папрасіўшы выдаць пасылкі для яго школы, разьвітаўся з новымі знаёмымі.

Вышаўшы са зборнай, Лабановіч накіраваўся да дзьвярэй, каб выйсьці на вуліцу, але Саханюк затрымаў яго.

— Не, калега: трэба пазнаёміцца з пісаранкамі, бо калі ня зойдзеце да іх, то гэта будзе такая крыўда, якая вам ніколі не даруецца ні ў гэтым жыцьці, ні на тым сьвеце.—

Сказаўшы гэта, Саханюк узяў пад руку Лабановіча й павёў яго ў кватэру пісара.

Прасторная й сьветлая саля была ўбрана чысьценька й акуратна, хоць і на мяшчанскі лад. Сталы й столікі былі засланы чыстымі настольнікамі й настольнічкамі. Крэслы стаялі ў парадку. На сьценах віселі розныя малюнкі ў прыгожых асадках. Па кутох салі стаялі круглыя столікі пад белым кручкавам; на століках ляжалі альбомы для фатаграфій. На вокнах і пад ваконьнем стаялі вазоны розных гатункаў. Адным словам, на ўсім быў відзён адбітак дзявочага прызору й акуратнасьці.

Маня, старшая дачка пісара, ужо не маладая дзяўчына, гадоў за дваццаць пяць, па ўсяму відаць было, падгатавалася спаткаць настаўнікаў. Яна дадала свайму твару тую міну, той выраз, які люстэрка падказала ёй, як на самыя лепшыя й найбольш ідучыя да яе, нявінна сядзела за сталом, якбы нічога ня ведаючы, і разглядала «Ніву». Яна была чорная, як цыганка, даволі прыгожая з твару; але разам з гэтым было на ім і нешта такое, што рабіла яго сярдзітым і злым. Напэўна доўгае чаканьне свайго суджанага, якога дзесь затрымалі чэрці, мела на гэта свой уплыў. Саханюк галантна падвёў свайго калегу да пісаранкі.

— Лабановіч, цельшынскі пэдагог.

— Вельмі прыемна,—сказала Марыя Пятроўна:—сядайце, калі ласка! Лабановічу паказалася, што яна чымся ўгневана. «Ці не Саханюком, які шукае свайго шчасьця ня тут, блізка, а дзесь за сем вёрст, што яна з ім скрыху неласкава?»—падумаў сам сабе Лабановіч.

— Ну, як вам падабаецца наша месца?—спытала пісаранка.

— А нічога. Месца вельмі добрае, і мне наогул падабаецца Палесьсе.

— А вось, Андрэю Мікалаевічу яно падабаецца мала.

— Не скажэце гэтага,—адказаў Саханюк:—каб гэта была праўда, то пяць гадоў я ня высядзеў-бы тут.

— Калісь падабалася,—сказала Маня й чуць-чуць уздыхнула.

Увашла сярэдняя дачка Саша, зусім непадобная да сястры. Яна была шчасьлівейша ад яе, бо мела жаніха ў асобе тутэйшага ураднікa. Зараз-жа

за ёю вышла й трэця сястра Ніна. Самая малодшая. Вольга. вучылася ў го радзе, і яе цяпер ня было дома.

Лабановіч чуўся не па сабе ў кампаніі дзяўчат і не трапляў падтры маць з імі гутаркі. Ён толькі адказваў на іх пытаньні, адказваў сур'ёзна што не падабаецца панечкам такога стану, якія звыклі, каб іх забаўлялі жартавалі з імі й малолі гарох і кашу, абы было сьмешна.

— А вы сьпяваеце?—спытала яго Саша.

— Не. Сьпяваю ня важна,—адказаў Лабановіч, і ў вачох яго бліснуў чуць заметны сьмех—за практычную лекцыю па сьпевах у сэмінарыі нам Костка ледзьве тры з мінусам паставіў.—

— Якая костка?—зьдзівілася старшая пісаранка.

— Выбачайце, не якая костка, а які Костка,—паправіў яе Лабановіч.—Гэта ў нас быў такі настаўнік у сэмінарыі, які выкладаў сьпевы і меў прозьвішча Костка.

— Не,—сказала Саша:—я не пра такія сьпевы пытаюся. Вы маглі даць няўдалую лекцыю, але гэта ня можа пашкодзіць вам самым сьпяваць ну, напрыклад рамакс.

— Крый мяне Божа!—засьмяяўся Лабановіч:—каб я яшчэ раманс сьпяваў. І сам не сьпяваю й ня люблю, калі хто іх сьпявае. Другое дзела паслухаць добры хор.—

Такім адказам Лабановіч прыпыніў усякія запытаньні ў гэтым кірунку.

Змоўклі паненкі, маўчаў і ён.

Размова павялася між паненкамі й Саханюком аб справах другога зьместу, аб іх знаёмых, адным словам пачалося пераліваньне з пустога ў парожнае.

Некаторы час Лабановіч слухаў, а потым падняўся, папрасіў прабачэньня й стаў прашчапца.

Яго не затрымлівалі, хоць з далікатнасьці папрасілі захадзіць да іх.

«Дудкі»,—казаў сам сабе Лабановіч, выходзячы ад паненак: «ня скора тут буду».

Разам з ім вышаў і Саханюк.

— Ну, як вам, калега, спадабаліся паненкі?

— Ну, што-ж? дзяўчаты, як дзяўчаты. А вось, што я не спадабаўся ім, дык гэта ясна.

— Чаму вы так думаеце?

— Тут і думаць няма чаго. Перш-на-перш, не сказаў камплімэнту, ня ўмею казаць іх. Можа-б і прыдумаў, але не асьмельваюся вымавіць далей, не пахваліў нічога з іх работы, не засьпяваў рамансу й, наогул нічога не патрапіў сказаць ім у тон.—

І ён не памыляўся.

Як толькі настаўнікі зышлі з ганку, першая Саша сказала:

— Ну, і мяшок! як для Цельшына, дык лепшага й не падбярэш.

— Зусім не ачэсаны: так і відаць сэмінарыст, гатовы каплянуць вацягнуць.

— «Благаславі, душэ мая, Госпада»—эклікнулася й Маня.

Настаунікі тымчасам шлі да бацюшкі. Дарогаю Саханюк пахазвау, дзе хто жыве й чым хто выдацен. Вось, у гэтым дворыку жыве хвэльчар Гарошка, удавец, сышоўся з адною паляшучкаю й сам апаляшчыўся. Сын яго Максім вучыўся ўва ўсіх школах Пінска, але не аднае ня скончыў, а з апошняе, з духоўнага вучылішча, проста ўцёк. Цяпер ён сядзіць на бацькавай шыі. Уцёк-жа ён з тае прычыны, што ў гэтых школах ня вучаць нічога такому, што адпавядала-б яго шырокай натуры, якая нашла здаваленьне ў гарэлцы, картах і іншых забаўках вясковага лабатраса. Цяпер ён накіроўваецца на дзяка або на памоцніка валаснога пісара. Але покі што гэта толькі добрыя намеры.

Бацюшка яшчэ малады, крыху хваравіты, нікуды ня ходзіць, але любіць, калі да яго заходзяць. Матушка была раней настаўніцаю, кабета вясёлая й добрая, вельмі любіць пагуляць у стукалку.

Вось гэты дом з садам, першы ад царквы, і ёсьць пасада бацюшкі.

Так незаметна настаунікі дайшлі да весьнічак бацюшкава двара.

## VI.

— Міласьці просім! міласьці просім!—

Прамовіў айцец Кірыл і борздымі крокамі патрусіў да дзьвярэй на спатканьне госьцям і стаў памагаць ім разьдзявацца: сам першы паздароўкаўся з Лабановічам, папрасіў настаўнікаў садзіцца, сам падстаўляў ім крэслы й наогул—выказаў вельмі многа прыветнасьці і ўвагі, нават радасьці і дабраты.

А. Кірыл быў чалавек яшчэ малады, нізенькі, шчупленькі, худзенькі, з радзенькаю цёмнаю бародкаю й жывымі, крыху неспакойнымі цёмна-шэрымі, вачамі. Адбітак нейкай мукі адзначаўся на яго худым твары. Гаварыў а. Кірыл громка й борзда, часта сьмяяўся ад душы громкім сьмехам, але радасьці, гэтай галоўнай уласьціваасьці здаровага сьмеху, у ім ня чулася. I варта было хоць на мінуту яму сьціхнуць, каб зараз-жа цень смутку лёг на яго твары.

— Даўно-ж вы прыехалі ў Цельшына?—запытаў Лабановіча а. Кірыл.

— А ўжо скора тыдзень будзе, а. Кірыл.

— Што, ня думалі, мабось, папасьці ў такую глуш?—зноў запытаў а. Кірыл і громка засьмяяўся.

— А вы ведаеце, а. Кірыл,—сказаў Саханюк:—калега знаходзіць, што ў нас тут большая глуш, чым Цельшына.

— I праўду кажа, чыстую праўду,—праканана прамовіў а. Кірыл:—тут у нас такая яма, такая, выбачайце, памыйніца, што другой такой і на сьвеце няма.

— Калі я казаў, што ў вас, калега, большая глуш, то я меў на ўвазе, што вы жывіцё далей ад жалезнай дорогі. Якая-б ні была сама па сабе глуш, але калі ты чуеш гудок паравоза, шум вагонных калёс і бачыш гэтыя роўныя, або прыгожа закругленыя палоскі жалеза на шпалах, то ня

так тужліва адчуваеш адарваласьць ад людзей і культуры, бо чугунка зьяўляецца як-бы жывым вобразам непарванай сувязі з людзьмі.

— Калі-ж вы думаеце пачынаць работу ў школе?

— А вось я й хачу прасіць вас, а. Кірыл, прыехаць на гэтых днёх у маю школу на малебен. Так-бы з аўторка й пачаў.

— Не сьпяшайцеся,—махнуў рукою а. Кірыл.—Вы думаеце яны, гэта быдлё, зразумеюць, што вы для іх будзеце старацца, вучыць іх? Вы ня ве-даеце мужыка: зрабі яму добро—ён адплаціць табе самаю чорнаю непадзя-чнасьцю. Мужык—гультай, злодзей, п'яніца. Толькі й глядзіць, каб як абадраць цябе, абмануць, ашукаць. Ніякай веры няма яму. Ён гатоў цябе ўтапіць, прадаць за чарку гарэлкі. Іх трэба ўзяць—во!—

А. Кірыл згарнуў кулакі й патрос імі, паказваючы гэтым, як трэба трымаць мужыка.

Лабановіч ніяк не спадзяваўся, каб а. Кірыл мог да такой меры ня-любіць мужыка й наогул каб у такім маленькім папку магло зьмяшчацца столькі ненавісьці.

— Вы папрабуйце купіць у мужыка кусок хлеба ці шклянку малака. Што, ён прадасьць вам? ніколі. Жыду прадасьць, вам—ні-за якія грошы!—

Лабановіч нецярпліва чакаў, калі скончыць выліваць сваю злосьць а. Кірыл, каб заступіцца за мужыка, бо Лабановіч быў пакрыўджан, як мужыцкі сын. Ці даўно яму самому, калі вучыўся ён у сэмінарыі, крычалі мешчанчукі:

— Лямец! лямец! на якой бярозе ты лапці павесіў?

— Розгамі яго трэба сеч!—скончыў а. Кірыл і гнеўна бліснуў вачыма.

— Я не магу згадзіцца з тым, што сказалі вы а. Кірыл. Нават і тагды, калі гэта ўсё была-б праўда,—пачаў Лабановіч,—то й тагды-б ня можна судзіць так мужыка. Вы кажаце—мужык скарэй прадасьць жыду, чым пану, бо пад назваю «пан» у мужыка часта падыходзіць кожын, хто носіць цэшку або чорнае паліто. Зразумела. Жыда ён ведае, з жыдам ён жыве; часам і лае яго і ў морду яму плюне, бо яны—роўныя між сабой. На мужыка прывыклі пазіраць, як на пчалу або на якую машыну, катора павінна ўсё выраблядь, усім даваць і яшчэ пры гэтым казаць і кланяцца: «Дзякую, што берацё.» І ўсе так ці йначай бяруць ад мужыка: бяруць сілай, бяруць хітрыкамі, бяруць ашуканствам. А мужыку многа далі? Паважаюць мужыка? Хто вінават што мужык неачэсан, што мужык цёмен і жыве па сьвінску? У сьвятым пісаньні напісана: «Якою мераю мерыце вы, такою адмерыцца й вам.»

А. Кірыл слухаў, апусьціўшы вочы й стукаў пальцамі па стале.

Вы яшчэ мала ведаеце мужыка, спакойна адказаў а. Кірыл:—і што вы мне ні казалі, я буду цьвярдзіць свае: мала білі мужыка!

— Вы зусім ня тое гаворыце, што думаеце. Проста вы за нешта ўгневаліся на мужыка,—сказаў Лабановіч, сьмяючыся.

Сахвнюк маўчаў.

— А вы ведаеце,—прамовіў урэшце ён:—нашых тутэйшых селян нідзе нічога ня пускае.

— Хто ня пускае?

— Другія мужыкі.

— Ды што-ж? Не спрачаюся, вашы мужыкі могуць быць і дрэннымі, але з гэтага ня сьледуе, што і ўсе мужыкі нікуды нягодныя. Тая-ж самая паншчына, аб якой шкадуе а. Кірыл, псавала іх, бо як пацьвярджаюць факты, былі такія паны, што гналі сваіх мужыкоў і падбівалі іх на кражу ў сваіх суседзяў-паноў.

На гэтым месьце гутаркі вашла матушка.

На яе твары была прыветная ўсьмешка.

Паздароўкалася, села й, зьвярнуўшыся да Лабановіча, запытала:

— Былі ў пісара?.. Ну, як вы знаходзіце пісаранак?

— Прызнацца, я й не разглядзеў іх, бо мы вельмі мала былі там.

— А праўда, Саша—харошанькая?

А. Кірыл паморшчыўся й махнуў рукою.

А Лабановіч адказаў:

— Нічога сабе дзяўчына.

— Вось бачыце, шкада толькі, што вы ад нас далёка, а то-б зачасьцілі за Сашачкаю.

— А хіба тут няма каму гэтаю справаю заняцца? Вось мой калега, напрыклад?

Сэханюк і бацюшка засьмяяліся.

— Не, я ўжо зусім страціў там ласку, дзякаваць Богу.

А. Кірыл засьмяяўся яшчэ грамчэй.

— Нам настаўнік кажа: «Не на такога прасьцяка напалі!»—сказаў ён.

— Апрача таго, я чуў, што ў яе жанінх ёсьць ужо.

— Ці мала на сьвеце дурняў?—зноў дадаў а. Кірыл.

А матушка вяла сваё.

— Ну, то што? хіба жаніхам сьвіней не падкладаюць?

— Гэта было-б не па хрысьціянску.

— За тое-ж бы па-кавалерску.

— З паліцыяй мець дзела небясьпечна, зазначыў а. Кірыл.

— Глуш там у вас, вучыцелька!

— Усе вы, панове, у глушы жывіцё, а глушы баіцёся. І ў глушы людзі жывуць. Мне, матушка, нават падабаецца такая глуш.

— Праўда, у пана падлоўчага дачкі падрастаюць,— гнула матушка сваю лінію,—і кажуць, старшая вельмі прыгожа, зусім ужо паненкаю выглядзіць.

— Ня ведаю: ня быў у іх.

— Што гэта вы так мала паненкамі цікавіцеся?.. Ой хітруеце вы, вучыцелька!

— Ёсьць тут цікавіцца чым,—зноў буркнуў а. Кірыл.

Матушка ўстала, узяла папяросы, сама закурыла й гасьцей патрактавала. А Кірыл ня курыў, але набіваць папяросы любіў і цяпер ён узяўся за гэту работу.

У пакой вашла служанка—палянучка, крэпкая чырвонашчокая дзяўчына.

— Да вас, балюшка, Апанас Кавэль прышоў; просіць хворую прычасьціць.

— Хто ў яго хворы?

— Жонка.

— Скажы, зараз іду,—сказаў а. Кірыл.

Я скора вярнуся—тут блізка, а вы, калі ласка, пачакайце мяне,—зьвярнуўся ён да гасьцей.

А. Кірыл надзеў цёплую расу, узяў крыж і ўсе патрэбныя рэчы й вышаў.

— Эх, папоўская служба!—уздыхнула матушка:—нават і адпачыць няма калі.

А ён слабы, хворы, ногі чуць цягае.

Народ у нас, вучыцелька, грубы, дзікі. Вось вашы, вучыцелька, (слова «вучыцелька» матушка выводзіла ласкальна ад «вучыцель»), цельшынцы зусім другія людзі. А нашых вам ніхто не пахваліць. Вы ведаеце, такое здарэньне? А. Кірыл—гэта ўжо будзе два гады таму—быў на сенакосе. Раструсіў сена, сушыць. А едзе адзін наш—ёсьць тут такі грубіян—проста па бацюшкаву сену! А. Кірыл і кажа, падышоўшы: «Ці табе, кажа, дарогі няма, ці ня можаш аб'ехаць, што ты па сене з канём топчашся?» А той, нічога ня кажучы, схапіў бацьку за валасы й давай церабіць! Прыходзіць мой бацюшка: як глянула-ж на яго—аж у яго каўтунікі павырваны! Так і лезуць, так і лезуць!—

Матушка апавядала гэта проста, нават з нейкім гумарам.

— Народ наш, трэба сказаць праўду, грубы, дзікі. Аднаго толькі ўрадніка й баяцца, аднаго яго й паважаюць.

— А хто ўжо лепш можа дагадзіць ім, як не а. Кірыл?—зноў кажа матушка:—і зямлю ім аддаў, і сенакос, і лякарствы ім дае і добрым словам памагае. Ніколі ні у чым ім не адказвае.—

Праз паўгадзіны вярнуўся а. Кірыл, утомлены й хмурны.

— Ну, як-жа іх, гадаў, ня лаяць?—у гневе прамовіў а. Кірыл:—чорт ведае, чым кормяць хворую! І гаворыш ім і прыказваеш, не—сваё робяць!.. А гразь!.. Сьвіньні, сьвіньні!—

Крыху супакоіўшыся, а. Кірыл сказаў да матушкі ціха:

— Зашлі ты ёй праз Параску чаго.

— А ўсё-такі, а. Кірыл, вы многа лепшы за тых, хто пра народ гаворыць высокія словы.—

А. Кірыл махнуў рукою.

— Вось што, другі: будзем абедаць.—

## VII.

Дзеравяная сьцяна аддзяляла кватэру Лабановіча ад школьнае залі, і каб папасьці туды, то трэба было толькі адчыніць відзаватыя дзьверы.

Як толькі раздняла й чуць узышло сонца, пачалі зьбірацца вучні.

Кожны іх крок, кожны рух і вымаўленае слова чуліся ў кватэры настаўніка.

Яшчэ учора прайшоўся стараста Раман Круглы па вёсцы, заказваючы сялянам пасылаць у школу дзяцей. То таму, то другому, спаткаўшыся на вуліцы, гаварыў ён:

— Пасылайце заўтра дзяцей у школу!—Пры гэтым стараста рабіў сур'ёзную міну й наогул меў начальніцкі выгляд. Яго чырвоны кажух з шырокім, як засланка, каўняром паказваўся ў розных мясцох вуліцы. Калі патрэбныя старасьце асобы тут не сустракаліся, то ён падыходзіў да вакна, стукаў пальцамі у шыбы:

— Гэй, Кандрат! падыдзі-тка сюды!—Калі Кандрата ня было ў хаце, то стараста падзываў Алену або Параску й так сама строга казаў:

— Пасылайце заўтра дзяцей у школу!—Выпаўніўшы свой абавязак Раман зайшоў да школы.

— Дома паныч?— ціха запытаў Раман старожку.

— Дома, стараста, дома!—крыху нараспеў прамовіла бабка.

Лабановіч чуў гэту размову.

— Заходзьце, стараста, заходзьце!—

Стараста разоў два затрубіў носам. Дзьверы ад кухні скрыпнулі. Адна палавіна іх адчынілася, а другая затраслася ад націску шырокага плячэ старасты.

Ступіўшы крокі два, Раман пэрайшоў увесь пакоік-спальню й паказаўся на парозе другога. Кожны яго крок адбіваўся на падлозе мокраю плямаю, а на вялізарных лапцішчах ён нёс столькі гразі, што добраму гаспадару й на сахор не вабраць.

— Ну, як маецеся, стараста?

— Хвала Богу, паніч як здароў?

— Вось што, стараста: не называйце вы мяне панічом, бо я не паніч, і бацька мой такі-ж самы мужык, як і вы.—

Лабановіч папрасіў старасту прысесьці на канапу, бо кволае крэсла, якіх тут было усяго толькі два, наўрад вытрымала-б зьвязістую й дзябёлую фігуру старасты.

Стараста, па звычаю ўсіх палешукоў, меў доўгія сьветлыя валасы. Рыжая барока, вузкая й выгінастая, і крыху пахмурны погляд спадлоб'я рабілі старасту падобным да званковага караля. Зьвярнуўшы ўвагу на яго здаравецкі склад, на шырокую расхлістаную грудзіну, на якой яшчэ значыліся сьляды летняга загару і адбіткі вятроў, Лабановіч мімаволі успомніў яго бацьку Рыгора, які, як зазначыў Сьцяпан Рылка, браў старасту на рукі, як хлапчанё. «Крэпкі народ, хоць і жыве ў балотах», падумаў Лабановіч.

— Дык ужо, панічок, вучыці меце?

— Так, стараста, трэба пачынаць.

— Ну, я ўжо заказаў, каб пасылалі хлопцаў у школу.

— Чаму-ж тольki хлопцаў? трэба, каб і дзяўчаткі хадзілі.

— Дзе яны пойдуць?—махнуў рукою стараста:—скажы ім пра школу, дык будуць сьмяяцца: вельмі дзіўным ім гэта пакажацца. Хоць-бы хлапчукі ўсе пашлі.—

Лабановіч, на колькі мог, тлумачыў старасьце, што й дзяўчаткам так сама вучыцца трэба, і даводзіў, скуль гэта патрэба вынікае.

Стараста слухаў, прыплюшчыўшы вочы, і толькa згаджаўся.

— Гэта так, панічок...

— Гэта вы справядліва кажаце.

— А вядома так.

— Што праўда, то праўда.

Але настаўнік бачыў па твары старасты, што ўсе аргументы зусім не пераконвалі яго ў тым, што дзяўчатам трэба навука.

Што навука трэба мужчынам (а навуку стараста разумеў як уменьне чытаць, пісаньне-ж—ліха яго бяры: без яго можна абысьціся лягчэй), стараста не спрачаўся.

Справа службы вымагала таго, каб быць у воласьці. А з воласьці надаюць яму цэлую кучу розных папер і загадаў. То трэба было павесткі на суд даставіць па прыналежнасьці, то нядоімку сыскаць з каго, то лісты перадаць.

У гэтых выпадках у старасты быў асобны парадак. Ён клаў павесткі з павесткамі, лісты з лістамі, нядоімкі з нядоімкамі. І тут галаве яго прыходзілася папрацаваць нямала. Ён распытваў у воласьці, каму павесткі, і тут-жа складаў іх у такім парадку, у якім іх трэба перадаваць, бяручы пад увагу адлегласьць. Скажам, павестка для Мікіты Цялушкі, які жыў з гэтага боку вуліцы. Яго павестка клалася першаю, за ёю шла другая, трэцяя і так далей. Пасьля гэтага стараста запамінаў тых асоб, дзеля якіх павесткі прызначаліся. Так сама й нядоімкі. На лісты быў другі парадак. Перш усяго іх было няшмат, і канвэрты былі розныя па колеру й па вялічыні. Вось гэта ў сінім канвэрце трэба аддаць Гаўрыле Жалезнаму, у белым—Язэпу Нырку, а гэта памятае й зялёнае—ўдаве Тэклі... Ну, калі й пераблутаеш іх, то не такая ўжо бяда: самі разьбяруць, калі будуць чытаць паклоны. Гэта ўжо скарэй бабы патрапяць. Забраўшы ўсе паперы, стараста колькі мінут стаяў і разважаў, як-бы сам сабе здаваў экзамен. Пры гэтым можна было сорак разоў аклікаць яго ці страляць у колькі кроках ад яго—ўсё роўна нічога ня чуў тагды стараста. Здаўшы экзамен, Раман весялеў, з твару сходзіла тая напружанасьць, у якой часта адзначалася пакута, і ўжо звычайным чалавекам ішоў, куды яму было трэба. А калі ў яго памяці гублялася якаянебудзь шрубка, стараста раптоўна спыняўся сярод вуліцы, пазіраў на паперы, пазіраў доўга й напружна, пры гэтым ён пакручваў галавою й часта страчваў надзею адшукаць гэту згубленую шрубку. Тагды ён зноў накіраваў у воласьць і нёс на сваім твары выяўны смутак.

Дзіцячыя галасы гушчэлі й мацнелі й дужэй данасіліся да кватэры настаўніка. Лабановіч пачуваў нейкае лёгкае хваляваньне: у гэты дзень твар у

твар спаткаецца ён з тымі дзецьмі, якія даручаюцца яму й моральны адказ за якіх ён павінен узяць на сябе. Розныя мысьлі аб школе займалі Лабановіча й раней. Цяпер яны захапілі яго яшчэ з большаю сілай. Выпаўненьне аднае школьнае праграмы яго не здавальняла, і сваё галоўнае назначэньне, як настаўніка, Лабановіч вызначаў так: абудзіць у вучнях і выклікаць да дзеяньня крытычны розум, каб да кожнае зьявы й факту яны падыходзілі з пытаньнямі—як вынiклі? у чым іх прычыны? і наогул, каб да ўсяго падыходзілі сьвядома. У гэтым абуджэньні крытычнае думкі Лабановіч бачыў пачаткі таго вялікага сацыяльнага руху, які павінен пралажыць прасторную дарогу да новых формаў жыцьця. Бо калі чалавек пачне разважаць, дашуквацца прычын таго стану, у якім ён знаходзіцца, то ён напэўна не пагодзіцца з сваёю доляю й будзе старацца, каб адваяваць сабе лепшае месца на сьвеце. І калі ў чалавека раскрыюцца вочы, то ён сам сабе выбярэ дарогу і сам за сябе будзе нясьці адказ. Навязваць-жа людзям сваю волю, вымагаць ад іх, каб яны рабілі іменна так, а няйначай, мы ня маем права, бо хто можа паручыцца за тое, што мы не памыляемся? Гэтым і тлумачыцца той факт, што павадыры, якія захоплівалі жарам свайго праканаўньня людзкі натоўп і вялі яго за сабою,—вялі толькі да тае граніцы, ад якіх пачыналіся розныя перашкоды. Натоўп не разумеў гэтых перашкод, здалець іх у яго ня было ахвоты. На гэтым пункце выніналі непаразуменьні. Павадыр з гарчэчаю ў сэрцы казаў: «О, сьляпы, нікчэмны натоўп, стада жывёлін!» А натоўп крычаў: «Ты—ашуканец! Набіць цябе каменьнямі!»

Ужо колькі разоў пагляцаў настаўнік на гадзіньнік, думаючы, ці не пара яму ў школку.

Праўда, сёньня толькі пачатак, толькі збор дзятвы, і ён покі-што азнаёміцца з імі і зробіць запіс у журнал. Усё-ж такі на сэрцы будзе спакайней: будуць зроблены хоць сталыя крокі да работы.

А дзеці, крыху асвойтаўшыся, пачыналі гусьці сьмялей і сьмялей. Часамі чулася іх беганка па скамейках, сьмех і крыкі. Некаторыя ціхенечка падыходзілі да дзьвярэй кватэры настаўніка й з найвялікшаю цікавасьцю заглядалі ў іх шчылінкі. Так сама забягалі яны і ў кухню пад патрэбаю напіцца вады. Яны баязьліва тапталіся, азіраліся, а некаторыя паціху пыталі ў бабкі:

— А што, бабка: ён сярдзіты?—

І калі Лабановіч паказаўся ў кухні, то яны, як мышы, згледзіўшы ката, кінуліся наўцекі.

Старожка залілася вясёлым доўгім сьмехам: яе вельмі насьмяшылі дзеці і іх страх прад настаўнікам. Яна пераказала, як распытваліся пра яго вучні, шчыраючы свае вушы, як-бы раней пагадзіўшыся з тым, што іх будуць круціць.

У школьнай сале вучняў было дзесяткі два. Як толькі паказаўся там Лабановіч, яны завілі з усіх канцоў школы й цясьней зьбіліся ў гурт, як спалоханыя авечкі, і ўжо адтуль пазіралі на свайго настаўніка, як на якое дзіва. Значна большая частка іх былі новыя. Усе яны былі абуты ў лапці,

васілі, як і старыя паляшукі, суконныя сьвіткі-катанкі, чорныя або сьветлыя. Грудзіны іх, як і ў іх бацькоў, былі расхлістаны.

Настаўнік павітаўся з імі, прычым адказ на прывітаньне далі больш хлопчыкаў, якія ўжо вучыліся ў школцы.

— Што-ж вас так мала?—спытаў іх Лабановіч.

— Яшчэ прыдуць,—адказаў адзін з старшых.

— Заўтра будзе болей,—дадаў другі.

— А вы, дзеткі, яшчэ першы раз прышлі да школкі?—мякка прамовіў настаўнік да малышоў.

Тыя спусьцілі вочы, і толькі адзін, самы храбры, прамовіў коротка:

— Але.

VIII.

Пагаварыўшы з вучнямі й крыху разагнаўшы іх страх, Лабановіч прынёс журнал і стаў запісваць дзяцей. Дзеці сьмялей падыходзілі да свайго настаўніка й давалі адказы на яго пытаньні. Пры гэтым часта выяўлялася прастэча й непасрэднасьць дзіцячай істоты, якая вельмі разьвясельвала настаўніка і ўсю школу, выклікаючы цэлыя выбухі сьмеху.

— Скажы-ж ты, галубок,—зьвярнуўся Лабановіч да аднаго хлопчыка, які падышоў запісвацца:—як ты завешся?—

Хлопчык маўчаў і пазіраў на настаўніка сваймі яснымі вочкамі. Відочна ў гэтым запытаньні яму пачулася штось падазрэннае: ці няма тут якое хітрасьці, каб не падашукацца часамі?

Гэта запытаньне, з яго пагляду, было зусім няцікавае й непатрэбнае: хто-ж ня ведае, як ён завецца?

Але настаўнік не адступаўся й зноў запытаў, як яго зваць.

— Або ты ня ведаеш?—у сваю чаргу спытаў і хлопчык.

— Не, ня ведаю, бо каб ведаў, то ня пытаўся-б.

— Ну, як-жа? Іван, ды і ўсё!—прамовіў громка хлопчык з адцяненьнем лёгкай усерджанасьці.

— А цябе як зваць?—спытаў настаўнік другога хлопчыка.

— Ляр'ён,—весела адказаў той.

— А як завецца твой айцец?

— Кандрат.

— А як тваё прозьвішча?—

Хлопчык закрыў рукамі твар і пачаў сьмяяцца.

— Чаго-ж ты, Ляр'ён, сьмяешся?

— Ня знаю, што казаты.—

А адзін паляшучок, увесь час сядзючы моўчкі, запытаў настаўніка:

— Чаму ты ўсё пытаеш, як мы завемося?

Малады настаўнік стараўся, на колькі мог, бліжай падыйсьці да дзіцячай душы, заслужыць іх веру, і іх, часта грубаватыя выхадкі ці звароты непасрэдна да яго, ён прапускаў між вушай, ведаючы той грубы асяродак, з якога яны вышлі, і маючы на ўвазе, што з часам усё гэта згладзіцца не-

заметка, само сабою пад уплывам школьнага парадку і ўраду, які будзе залежаць галоўным чынам ад яго самаго. Усе іх памылкі ў гэтым сэнсе ён стараўся справіць і азначаць так, каб не пакрыўдзіць і ня зраніць чутнае дзіцячае сэрца.

Першые крокі былі зроблены. Дзеці разварушыліся, павесялелі й вышлі з таго стану замкненьня, у якім яны яшчэ так нядаўна заставаліся. Лабановіч, крыху пагутарыўшы з імі, пусьціў іх на пераменку. А гэтым часам пад'ехаў і айцец Кірыл. Зайшлі ў пакоік настаўніка, пагутарылі пра сёе-тое, покі пазьбіраліся дзеці А. Кірыл зараз-жа сабраўся й разам з настаўнікам пашоў у школу. Там ён, не затрымліваючы дзяцей, адправіў кароткі малебен, сказаў невялічкае казаньне дзецям, у якім ён клікаў іх да навукі, да паслушанства й, пажадаўшы ім здароўя й разуменьня, даў папалаваць крыж і акрапіў іх сьвятою вадою.

Пасьля малебену настаўнік сказаў вучням перадаць сваім таварышом, каб заўтра яны усе прыхадзілі ў школу, і пусьціў іх да дому.

З вясёлым шумам і крыкам выбеглі дзеці на вуліцу, напаўняючы ее звонкімі галасамі, і рассыпаліся па хатах. На сваім уласным вопыту пачулі яны, што школа й настаўнік далёка ня так страшны як гэта складалася ў іх галаве.

А. Кірыл адмовіўся астацца выпіць чаю на дарогу, бо дзень кароткі, а дарога паганая. На разьвітаньні папрасіў ён Лабановіча выкладаць Закон Божы замест яго, бо яму далёка езьдзіць сюды, і дзеці ня будуць ведаць Закону Божага.

— А наконта—плаціі, мы пагодзімся, надзелім не бяз крыўды.—

Настаўнік згадзіўся.

— Прыяжджайце да нас, будзем вельмі рады,—сказаў а. Кірыл, ужо седзячы на каламажцы, і пакінуў школу.

Лабановіч астаўся адзін. У яго пакоіку стала так ціха, што ён міма-волі зьвярнуў на гэта ўвагу. І была нейкая маркота ў гэтай цішы, якую пачуў ён тут першы раз. Яго пацягнула на сьвежае паветра, на волю. Тут ён прыпомніў, што сын самага блізшага суседа яго, пана падлоўчага, які мае хадзіць вучыцца, ня прышоў. І ня прышоў ён напэўна з тае прычыны, што пан падлоўчы ня лічыў шляхэтным пасылаць сына, не пабачыўшыся й не перагаварыўшы аб гэтым з настаўнікам, бо ён тут чалавек новы, незнаёмы; сам-жа пан падлоўчы не належаў да тутэйшага грамадзянства, патрэбы якога абслугоўвала гэта школа.

Пасьле абеду Лабановіч сабраўся прайсьціся. Ён вышаў на двор. На вуліцы было столькі гразі, што перайці ее ў настаўніка не хапіла адвагі, і ён павярнуў на поле, дзе стаялі два ветракі, і зараз жа вышаў на вузкую сьцежку й пашоў ёю. Сьцежачка вяла на чыгунку. Гэта было адзінае месца, дзе можна было хадзіць, не баючыся гразі. Узышоўшы на чыгунку, настаўнік прыпыніўся, як-бы разважаючы, у які канец накіравацца. Вакол было ціха. Далёка беглі ўдоўж дарогі высокія тэлеграфныя слупы з белымі гузічкамі і роўна нацягнутым дротам. Ветру ня было, а дрот беспрастанку гуў пры-

емным звонам, ціхім, аднатонным і жалобным, як казка гэтых панурых ласоў і балот Палесься. У бок разьезду чугунка, працёгшы пачатку раўнюсенечкаю сьценкаю, краз вярсту рабіла зелом і гублялася дзесь у лесе. У прапілежным баку характар гэтай раўнядзі захоўваўся на далёкай адлегласьці, й чуць-чуць чырванеўся збоку каля же дамок трэцяй будкі. З таго боку чуць значна пасоўвалася чалавечая постаць. І трудна было прымеціць, куды яна йдзе: сюды ці ў другі бок. Гэта малюсенькая фігурка адна, здавалася, ажыўляла гэты панурый й ціхі краявід, дзе ўсё як-бы зьнікла або прытаілася.

— Пайду на спатканьне гэтай фігурцы,—рашыў Лабановіч і пашоў.

Фігурка была так далёка, што мела выгляд тоненькага маленькага калочка. Яна шла сюды, але трудна было адгадаць, хто гэта быў: мужчына ці кабета. Адлегласьць між Лабановічам і фігуркаю зьмяншалася.

Мінуўшы яшчэ колькі слупоў, Лабановіч мог пазнаць, што гэта была кабета. Зазначыўшы гэта сабе, Лабановіч перастаў ёю цікавіцца й стаў цяпер разглядаць лес і балоты побач дарогі, масьціці, рачулкі і ўсё, што больш-менш кідалася ў вочы. Лабановіч зусім забыўся аб тым, што яго перш так зацікавіла, зьвярнуў на гэта ўвагу толькі тагды, калі між ім і тым, хто шоў яму на спатканьне, была адлегласьць толькі ў два слупы. Цяпер ён заўважыў, што гэта была якая-сь асоба, неналежаўшая да сялянкіх кабет. Гэта была высокая, стройная дзяўчына, вельмі добра, нават з густам адзетая.

Дзяўчына здалёк колькі разоў бачліва акідвала поглядам незнаёмага маладога хлапца, а падышоўшы бліжай, яна апусьціла вочы. Лабановіч так сама ня лічыў далікатным разглядаць яе. Але як толькі яны параўняліся, то зірнулі друг на дружку, і погляды іх спаткаліся; незнаёмая дзяўчына, як-бы спалохаўшыся і ўсаромяўшыся, борзьдзенька апусьціла свае чорныя, як смоль, вочы, а Лабановіч, зблізку ўбачыўшы яе твар і гэтыя бліскучыя прадаўгаватыя вочы, зьлёгка здрыгануўся: дзяўчына гэта была нязвычайна прыгожа. Прайшоўшы крокі тры-чатыры, Лабановіч азірнуўся, каб яшчэ раз глянуць на яе. Тое самае зрабіла й зацікавіўшая яго дзяўчына. Яна, мусіць, не спадзявалася выдаць сябе такім чынам, і з губ яе сама сабою зьбегла прыемная й павабная ўсьмешка, пасьля чаго дзяўчына пашла шпарчэй і ўжо не аглядалася. А Лабановіч, як прычараваны, стаяў колькі хвілін і ўсё пазіраў на яе. Яму было прыемна, і нейкая радасьць разьлівалася ў крыві. Ён пашоў далей, думаючы аб гэтай незнаёмай дзяўчыне. Яе чорныя вочы, белы твар і гэта чароўная ўсьмешка так і стаялі перад ім, як намалёваныя. «Хто-ж бы гэта была такая?» пытаў ён сябе. «Гэта, напэўна, з будкі тая дзяўчына, аб якой казала яму бабка. Відаць, яна шла ў вёску да крамніка, каб купіць чаго. Яму трэба было, думаў ён, пазнаёміцца з ёю й праявсьці яе да вёскі, і ён пачынаў нараканьць на сябе за сваю нясьмеласьць. Другі на яго месьце знайшоў-бы дваццаць зачэпак, каб зьвярнуцца да яе далікатна й проста й такім чынам пазнаёміцца, прэцій таго яна напэўна нічога ня мела-б.

Узьвесіўшы ўсё за й працiў, Лабановіч прышоў да пракананьня, што ён зрабіў добра, не зачапіўшы дзяўчыны. А вось, калі зноў ён спаткае яе калі-небудзь, як сёньня, адзін на адзін, то тагды няйменна павітаецца з ёю, бо яны ўжо як-бы крыху знаёмыя. Дайшоўшы да трэцяе будкі, Лабановіч вярнуўся назад у надзеі, што ён зноў спаткаецца з ёю дзе-небудзь на дарозе. Ён прайшоў адну будку й другую, мінуў ужо й пераезд сваіго сяла, але дзяўчыны нідзе не спаткаў. Ці не пашла яна на разьезд, сабраўшыся куды-небудзь паехаць? А можа яна зусім нятутэйшая й больш ніколі ня зьявіцца тут? Але ў яго душы надоўга застанецца гэты прыгожы вобраз дзявочае красы. Лабановічу стала чагось шкода, як-бы ад яго нешта адарвалася й зьнікла.

Ў лесе і ў палёх пачыналі цямнець, і шэры асеньні вечар борзда апускаўся на зямлю; разам з ім і нейкі смутак лажыўся на гэтыя пацямнелыя далі. Уся мясцовасьць зьмяніла свой выгляд, як-бы замкнулася ў сябе самой, аддаўшыся выключна сваім думкам і свайму настрою, а ўсё другое для яе стала чужым і няцікавым.

Лабановіч дайшоў да сьцежачкі каля ветракоў і пашоў у сваю школу.

IX.

Пан падлоўчы быў родам дзесь з Гродзеншчыны й паходзіў, як ён казаў сам, з старога дваранскага роду. Тутэйшае жыхарства лічыла яго паляком, сам-жа пан подлоўчы з гэтым не згаджаўся.

«Я—ліцьвін»,—з нейкаю горадасьцю зазначаў пан падлоўчы й сваю належнасьць да ліцьвіноў ён даводзіў, паміж іншым, і тым фактам, што яго фамілія мела канчатак на «іч», тагды як чыста польскія прозьвішчы канчаюцца на «скі»: Жулаўскі, Дамброўскі, Галанскі. Даведаўшыся, што новы настаўнік мае прозьвішча «Лабановіч», пан падлоўчы пры спатканьні з ім заметна выказаў адзнакі здаваленьня, як гэта бывае тагды, калі нам на чужыне прыходзіцца спаткацца з сваім земляком.

— То й пан—ліцьвін!—весела сказаў ён маладому настаўніку й пастукаў яго па плячу. Сваё ліцьвінства ён падкрэсьліваў і падчырківаў пры кожным зручным выпадку.

— Мы, ліцьвіны, любім піць гладка!—

Лабановічу ў гэтых выпадках ён так сама казаў, калі ў яго чаркы заставалася недапітая гарэлка.

— А яшчэ ліцьвін!.. Ну, які-ж ты пасьля гэтага ліцьвін?—казаў пан падлоўчы й з дакорам пазіраў у вочы Лабановічу:—ня псуй ты мне, братка, кампаніі!—Калі-ж гэты аргумэнт не памагаў, то пан падлоўчы прыводзіў другі.

— Ты лепш, браток, падашукай маю жонку, але не ашуквай мяне за чаркаю гарэлкі.

І трэці аргумэнт, самы моцны і ўжо самы апошні, быў такі:

— Пі! пі, кажу, бо дальбог вылью за каўнер.—

Гаварыў пан падлоўчы найбольш добраю беларускаю моваю. І трэба адзначыць, што пан падлоўчы ні ў якім разе ня быў п'яніца, ён проста

любіў выпіць «з добрымі людзьмі», а сам адзін і чаркі не выпіваў. Але і ў кампаніі «добрых людзей» ніколі не перабіраў меры. У яго была тут пэўная граніца, якое ён ніколі не пераступаў і за межы якое яго ня можна было вывесьці ніякімі сіламі. Што-ж тычыцца яго ліцьвінalюбства, то яно яшчэ выяўлялася і ў тым, што ён вельмі любіў літоўскія калдуны. І гэтых калдуноў, як запэўняў пан падлоўчы, ён зьеў раз—сто сорак штук.

— Разумеецца, пры гарэлцы,—дадаваў пры гэтым пан падлоўчы.

Першы раз Лабановіч зайшоў да пана падлоўчага вечарам таго-ж самага дня, калі хадзіў ён гуляць на чугунку.

Пан падлоўчы спаткаў суседа-настаўніка прывегна й павёў яго ў чыстую палавіну свайго дому, дзе ён звычайна прыймаў сваіх гасьцей. Пакой быў прасторны, чысты, акуратна выбелены. Каля аднае сьцяны стаяла канапа й вялікі просты стол каля яе, засланы белым настольнікам. На невялічкім століку недалёка ад канапы стаяла скрыначка, музычны струмант, якую пан падлоўчы й пускаў у работу, каб забавіць гасьцей. Апроч яшчэ адняе канапкі каля другой сьцяны й колькі простых крысел, у пакою гэтым больш ня было нічога, і ён рабіў уражаньне досыць пустога пакою.

— Сядайце, паночку,—папрасіў пан падлоўчы госьця й патрактаваў яго моцнаю папяросаю.

Гаспадар і госьць разгаварыліся, прычым, пан падлоўчы быў першы чалавек тут, ад якога Лабановіч пачуў добрае слова наконта гэтага месца, якое мела той вялікі козыр, што ляжала каля чугункі. Прайшоўшыся колькі разоў па пакою, пан падлоўчы гукнуў, зьвярнуўшыся да другое палавіны дому:

— Габрынька!

— Зараз, татка!— адгукнулася ў глыбі дому звонкі дзявочы галасок. Сьледам за гэтым пачуліся лёгкія й частыя крокі, і ў пакой вайшла малодшая дачка пана падлоўчага. Такімі-ж борздымі крокамі падышла яна й да госьця, праціягнула яму сваю яшчэ дзіцячую руку, зрабіўшы прысяданьне, якое Лабановіч бачыў першы раз. Ён нават спалохаўся: яму здалося, што гэта маленькая паненачка прысела ад таго, што ён нраўмысьля наступіў ёй на нагу.

— Чэсю!—зноў гукнуў пан падлоўчы.

Крыху счакаўшы, скробаючы ботамі, у пакой вайшоў меншы сын пана падлоўчага, хлопчык гадоў дзевяці, даволі пахмурнага выгляду й з вялікаю кучараваю галавою й прыгожым тварам. Паздароўкаўшыся з настаўнікам, Чэсь моўчкі сеў каля кахлянае печы й адтуль, як ваўчок, прыглядаўся да настаўніка.

Папрасіўшы прабачэньня, пан падлоўчы адлучыўся, аставіўшы Лабановіча з дачкою й сынам.

Панна Габрыня, смуглая, строгая й сур'ёзная дзяўчынка-падростак, зьвярнулася да Лабановіча з прыветнаю ўсьмешкаю:

— Пан любіць музыку?

— Вельмі любдю,—прамовіў Лабановіч.

Габрыня падышла да музычнай скрыначкі, выбрала мэталічны кружок з нотамі, прыладзіла яго да скрыначкі, завяла яе й пусьціла.

Мяккія ляскальныя зыкі стройным сугалосьсем паліліся па пакою, напаўняючы яго прыемным звонам, і павявалі якія-сь добрыя, ціхія чары. Нейкія няясныя вобразы ўсплывалі самі сабою, аб чымся казалі й клікалі невядома куды, а на сэрцы аставалася пачуваньне ўтраты чагось далёкага, чаго ўжо ня вернеш ніколі і аб чым можна толькі ўспамінаць. Усе-ж драбязгі жыцьця, увесь будзённы клопат, гэты мут душы, усё гэта зьнікала, адступала перад чарамі хараства. Скуль-жа гэты смутак? Аб чым ён? Ці ня ёсьць гэта тое няяснае адчуваньне хараства жыцьця, якое так базжаласна, так груба папіхаецца нагамі, таго хараства, што палымае чалавека над гэтым балотом людзкое суяты?

Мінут праз колькі вярнуўся пан падлоўчы, а потом прышла й яго жонка, з якою пан падлоўчы пажаніўся другі раз. Пані падлоўчая была кабета ціхая, забітая, бо пан падлоўчы, як даведаўся Лабановіч потым, у сям'і быў чалавек жорсткі.

Габрыня зараз-жа выйшла й праз колькі хвілін вярнулася з сястрою, стройнаю чарнявею дзяўчынаю, гадоў шаснаццаці, з тонкімі прыгожа абрысованымі бровамі. Выраза яе цёмных круглых вачэй часта мянялася: то ў іх іскрыўся вясёлы сьмех і нахіл да жартлівасьці, то адбівалася нейкае засмучэньне й тая сталасьць, што рабіла ўражаньне дзяўчыны, якая многа перадумала й перажыла.

Размову вялі галоўным чынам пан падлоўчы з настаўнікам, а ўсе іншыя слухалі й толькі зрэдка ўстаўлялі свае слова. Было заметна, што прысутнасьць пана падлоўчага стрымоўвала іх, прымушала трымацца нейкіх граніц, якія зьяўляліся вынікам практыкі сумеснага жыцьця.

Пан падлоўчы вельмі ўспагадна ўспамінаў настаўніка, якога зьмяніў Лабановіч.

—Што мне падабаецца ў пана Турсэвіча, дык гэта тое, што ён умеў паставіць сябе ў кожным коле грамадзянства й меў свой асабісты гонар, — сказаў пан падлоўчы.

— Турсэвіч гэта—мой настаўнік і мой зямляк, прыпамся адное воласьці. Я лічу яго адным з выдатнейшых настаўнікаў й працавікоў. Ён ня толькі вядзе добра справу ў школе, але й многа працуе над самым сабою: чалавек многа чытаў і многа думаў. Гэта адзін з тых маіх сяброў, якіх я вельмі шаную й паважаю.

— Як-жа, паночку, ён быў панскім настаўнікам? Здаецца, розьніца ў вашых гадох ня так вяліка?—запытаўся пан падлоўчы.

— Ён старэйшы ад мяне гадоў на чатыры, і калі ён скончыў першую школку, то я яшчэ пачынаў толькі вучыцца. Ён цэлую зіму быў маім дарэктарам, маім і маіх братоў.

— А, хіба што так.

— Дык пан добра знае пана Турсэвіча?—спытала пані падлоўчая:—ах які гэта быў рэдкі чалавек!—дадала пані падлоўчая й зірнула на мужа, як бы хочучы прачытаць на яго твары, ці добра яна сказала.

— Пан Турсэвіч у школе быў строгі,—адгукнуўся малы Чэсь з-пад кахлянае печы.—

Пан падлоўчы павярнуў галаву ўбок сына й, сьмяючыся, прамовіў:

— А што-ж з вамі йначай зробіш? Дай вам волю, дык вы й школу павернеце й толку з вас ніякога ня будзе.—

Паненкі засьмяяліся.

— Я, вось, буду прасіць пана настаўніка, каб цябе часьцей на калені ставіць ды яшчэ грэчкі падсыпаць.

— У пана настаўніка й грэчкі няма,—сказала Ядвіся і ўскінула на настаўніка свае вясёлыя сьмяшлівыя вочы. Лабановіч зірнуў на яе. «Слаўная дзяўчынка», падумаў ён.

— Ну, то я прышлю, цэлую асьміну прышлю,—сказаў пан падлоўчы.

— Чэсь будзе такі добры ў мяне вучань, што да грэчкі ў нас ня дойдзе. Праўда, Чэсю?—

Сёстры зноў засьмяяліся.

Чэся яны зналі лепей і, як відаць, схіляліся да погляду таткі накönта грэчкі для Чэся.

Чэсь-жа ўгнуў галаву, ня зусім пэўны у тым, што справа бяз грэчкі можа для яго абыйсьціся.

— Ну, як там гарбата?—спытаў пан падлоўчы жонку.

Пані падлоўчая зараз-жа ўстала, кіўнула Габрыні й вышла разам з ёю.

Стол заслалі, прынясьлі талеркі з вяндлінаю, якую так добра ўмеюць прыгатаўляць і падаваць у панскіх дамох на Беларусі, і селі піць чай. Лабановіч пачуваўся тут добра й вольна і ўвесь час вёў размову то з гаспадарамі то з паненкамі. Пан падлоўчы выпіўшы шклянку, устаў, папрасіў прабачэньня, што ня можа больш заставацца, што ён мусіць ехаць па службе, і вышаў.

Пасьля гэтага паненкі пачулі сябе вальней. Яны сьмяяліся, жартавалі, распытвалі настаўніка аба усім: ці быў ён у воласьці, з кім там пазнаёміўся і як яго знаходзіць.

— А вы ня знаеце панны Марыны?—запытала настаўніка Ядвіся.

— А хто яна такая?—спытаў Лабановіч.

— А тут на будцы ёсьць адна панна.

— Я сёньня спаткаў адну вельмі прыгожую дзяўчынку як-раз на чугунцы. Можа гэта і ёсьць панна Марына?

— Так, гэта яна,—прамовіла Ядвіся, распытаўшыся, як яна выглядзіць.

Паненкі на разьвітаньні колькі разоў напаміналі Лабановічу, каб ён часьцей захадзіў да іх.

X.

Як-раз за дзень да Уводзін Прасьвятое Багародзіцы, якое прыпадае 21-га лістапада, у вёсцы Цельшына паўстала вельмі важнае пытаньне, пытаньне аб тым, калі сьвяткаваць гэта сьвята: сёньня ці заўтра? І паўстала гэта пытаньне, як зазвычай і ўсе важныя пытаньні, выпадкова.

Старая Лукашыха Аўгеня прышла да сваё суседкі Югасі пазычыць падсітак прасеяць мукі. Прышла яна як-раз у той час, калі трэба ўжо тушыць у хаце агонь. Аўгеня зразу-ж зьвярнула ўвагу, што ў хаце яе суседкі былі ўсе адзнакі сьвята: прасьніцы вынесены вон, мужчыны ня ўсе яшчэ былі абуты, а сама Югася падбівала цеста на аладкі й печы не падпальвала.

— Што-ж гэта ў вас, дзеўка, як-бы сьвята?—

У Цельшыне быў такі звычай, што адна старая жаночына, зварачаючыся да другае, казала ёй «дзеўка».

— А хіба-ж ня сьвята?—прамовіла Югася й зірнула на суседку.

— Як сьвята? Што ты, дзеўка, гаворыш?!

— А так—што сьвята!—цьвёрда й пэўна адказала Югася.

— Ах, Божачка мілы! а я-ж думала, што заўтра!—ускінула рукамі Аўгеня:—Лукаш мой даўно пашоў у клуню малаціць грэчку!.. І сама я ўсю раніцу прала!.. А-а! як-жа гэта я думала, што сьвята заўтра? Ах, матачкі мае родныя!—

Аўгеня бардзенька павярнулася й вышла з хаты, нават і падсітка забылася пазычыць. Вышаўшы на вуліцу, яна на мінутку прыпынілася, а потым раптоўна кінулася да Нупрэя Бабка.

— Што я прышла ў вас спытаць: сёньня сьвята ці заўтра?—запытала Аўгеня й кінула вачыма па хаце.

Нупрэй зусім яшчэ не падымаўся, ляжаў сьпіною на печы й грэўся, як кот, падкурчыўшы ногі, бо яны былі доўгія й, ня гледзячы на прасторную печ, не маглі на ёй, як мае быць, зьмясьціцца.

— А пэўне сёньня,—адказаў ён з печы.—Праўда, яго голас вялікага аўтарытэту нідзе наогул ня меў, а ў пытаньнях сьвята тым болей, бо Нупрэй Бабок нічога ня меў проціў таго, каб сьвяткаваць і будныя дні. Але й Маланьня, жонка яго, так сама пасьведчыла, што сьвята сёньня.

— Ах, матухны!—зноў пляснула рукамі Аўгеня:—усе людзі сьвяткуюць, адна я, як тая дурная калатоўка, соваюся: ні сьвята ні спакою ня бачу.—І Аўгеня чуць не бягом вымелася з хаты й пабегла дамоў, але надта знаёмае ёй тухканьне ў Міколкі Стукача адразу затрымала яе на месьце: калі сёньня сьвята, дык чаму-ж у Стукача таўкуць ячмень?—Ня думаючы доўга Аўгеня кінулася да Стукачовых.

Першае, што ўбачыла яна там, была ступа й дзьве маладзіцы, нявесткі дзеда Стукача; маладзіцы стаялі адна напроціў другой з таўкачамі й заложна таўклі куцьцю. Міколка Стукач, лысы дзед з сівою бародкаю, падплятаў лапаць. Бабка Таўкачыха прала кудзелю. Грук таўкачоў глуха аддаваўся па хаце, і пасьле кожнага стуку штось бразгацела на паліцы, дзе стаялі міскі з лыжкамі.

Зьдзіўлёная Аўгеня спынілася на парозе.

— А хіба-ж сёньня ня сьвята?—спытала яна.

— Якое сьвята?—сярдзіта зірнуў на яе дзед Міколка.

— Вось, скажэце, мае мілыя: як-бы хто туману напусьціў,—прамовіла Аўгеня, зьбітая з тропу:—адны сьвяткуюць, другія кажуць, што сьвята няма.

— Хто сьвяткуе?—запытала бабка Тацяна.

— Я й сама думала, што сьвята павінна быць заўтра, аж прыхаджу да Рамковых—сьвяткуюць, Югася аладкі падбівае; зашла да Бабковых—і там сьвяткуюць. Прыхаджу да вас,—у вас тут будны дзень. Каму-ж верыць?

— А можа й сёньня сьвята,—ужо другім тонам разважае дзед Стукач. Маладзіцы прыпынілі сваю работу. Адна абаперлася на таўкач, ня вымаючы яго з ступы, а другая трымала таўкач у руцэ. Яны так сама задумаліся над пытаньнем аб сьвяце.

— Уводзіны сьвяткуюць на восьмай нядзелі ад Пакроў,—вылічала бабка Тацяна:—колькі-ж гэта нядзель ад Пакроў?

— Ну, як-раз восьмая нядзеля й пашла,—сказала Аўгеня.

— Мабыць сьвята такі сёньня,—посьле развагі прамовіў дзед Стукач, кінуўшы на зямлю лапаць, і пачухаў галаву ніжэй лысіны.

— Матка! а калі гэта да нас Шпак з будкі прыхадзіў?—спытала адна маладзіца сваю сьвякроў, бабку Тацяну:—тагды казалі, што да гэтага сьвята засталося адзінаццаць дзён.—

Дзед Стукач, бабка Тацяна, нявесткі й старшы сын Стукача Апанас пачалі вылічаць, калі ў іх быў Шпак з будкі. Выходзіла, што адзінаццаць дзён як-раз і прашло. Бабка Тацяна вынесла сваю прасьніцу, маладзіца Мар'яна сказала, што куцьця ўжо стаўклася; стоўчаны ячмень выбралі, а ступу выкацілі вон у сені: раз сьвята, дык сьвята.

Аўгеня пашла да дому, пэўная ў тым, што сёньня сьвята. Не заходзячы ў хату, яна пашла да Лукаша ў клуню й накрычала на яго, што ён не сьвяткуе і ле вьбіў і ўвёў у грэх.

— Ты-ж паслухай, стары пень: ці малоціць хто?—

Югасю, у сваю чаргу, занепакоіла старая Лукашыха: а можа й праўда, што заўтра сьвята?

Накінуўшы кажух, яна пашла да свае кумы Насты. Наста цьвёрда вяла падлік сьвятам і строга сьлядзіла за квадрамі месяцу.

— Я ўжо чула, што некаторыя зьбіраюцца сьвяткаваць сёньня, але сьвята, я напэўна ведаю, заўтра. Пілінавы хлопцы ўжо даўно паехалі ў лес з сякерамі.—

Не прашло й чвэрці гадзіны, як па ўсёй вёсцы й было толькі гутаркі, што пра сьвята, пры гэтым ясна адзначыліся два станы: сьвяточны й будны. Кожны стан меў вельмі паважаных прадстаўнікоў свайго кірунку, якія ніякім чынам не маглі дайсьці да згоды, бо кожная рука мела вельмі моцныя аргуманты, на якіх засноўваліся іх пазыцыі наконта сьвята.

Самы рух пачаўся тагды, як ужо пачынала ўсходзіць сонца. На працягу ўсяе вуліцы то там, то сям стаялі кучкі паляшукоў і паляшучак, дзе меншыя, дзе большыя, і ў кожнай кучцы шла спрэчка аб сьвяце. Усе пельшынскія законьнікі й законьніцы сышліся тут і горача судзілі погляды супраціўнага стану. Мікіта Тарпак, выклаўшы ўсе свае аргуманты за заўтрашні дзень і ніколечкі ня зрушыўшы станоўкасьць поглядаў сваіх супрацінікаў, плюнуў, сярдзіта павярнуўся й пашоў да свайго двара. Яго рашучая хада

й выраза твару ясна казалі за тое, што ён надумаўся зрабіць нешта такое, што павінна даць моцнае ўражаньне й прынізіць тых, хто быў нязгодзен з ім у пытаньнях аб сьвяце. Ён выцягнуў нарады, палажыў на іх дошкі й стаў навальваць гной, хоць вывазіць яго цяпер ён ніколі ня меў на ўвазе. Наклаўшы воз гною, ён запрог каня, выехаў на вуліцу й важна паехаў удоўж усяе вуліцы, высока паставіўшы сахор. Пад'ехаўшы да тае кучкі народу, дзе ён нядаўна вёў дарэмную спрэчку, Мікіта прыпыніўся й стаў папраўляць хамут, не зварачаючы ні на каго ўвагі, усё роўна як-бы гэта была яго звычайная работа. Як толькі Мікіта павярнуў з вуліцы ў поле, то зараз-жа з таго боку, адкуль ён выехаў, каля студні, пачуліся два жаночых крыклівых галасы. Галасы ўсё мацнелі й набіралі болей злосьці. Гэта лаялiся Аўдоля Латачыха з жонкаю Мікіты Акуляю. Яны даўно ўжо былі не ў ладох, цяпер-жа гэта сьвята было толькі зачэпкаю для таго, каб даць волю языком. Латачыха сыпала словы, як гарох. Мусіць, ня раз практыкавалася яна ў сваіх мысьлях у гэтай лаянцы. Здавалася, яна толькі адчыніла рот, а словы самі, як гарох з мяшка, сыпаліся й сыпаліся. Акуля не паддавалася. Жанкі крычалі то па чарзе, то адначасна. Палаяўшыся з паўгадзіны каля студні, яны разышліся: адна пашла ў адзін канец вуліцы, другая—ў другі, бо ім збрыдла лаянца й гэта не давала жаданых вынікаў і, каб дапячы адна другой, яны пашлі па вёсцы выстаўляць адна другую перад людзьмі. Тут мелася на ўвазе галоўным чынам вастрэй падцяць свайго ворага.

— Ах, ты, чортава шлюндра! Пашла па вуліцы зубамі званіць, языком мяньціць, каб ён табе высах ды выпятраў,—крычала Акуля.— Ідзі, ідзі, так вось і паверачь табе, брахусе. Думаеш, ня ведаюць людзі, як ты да Міхалкі ў клуню бегала, га? Ведаюць людзі, за што цябе Крупеніч з разьезду гарэлкаю частуе, каб цябе лейцамі частавалі... Ведаюць, ня думай таго!.. Ты думаеш, ня ведаюць, як ты з дарожным майстрам ночы гуляеш, як ты ў яго дзесяць рублёў падчапіла!.. Капач ты з-пад цёмнае хмары, хлеба замясіць ня ўмееш, хаты ніколі, як людзі, не падмяцеш, каб табе вочы замяло!—

Аўдоля, у сваю чаргу, ідучы ў другі канец вуліцы, вяла сваё казаньне, й тая й другая зрэдка прыслухіваліся адна да другое й такім чынам адна другую скарыстоўвалі ў сваіх казаньнях.

— На мяне людзі глядзяць, бо я хараша, а на цябе й сабакі пазіраць ня хочуць. Зайздросна табе?.. А ты забылася, як цябе бабка Цацяна на сваім двары злавіла! Чаго-ж ты хадзіла туды? Чужых курэй сачыць? А гарбузы з гарода ў Рамковых хто цягаў, каб з цябе кішкі павыцягалі? А хто, калі ня твой Мікіта, у дзеда Андрэя баранінку краў? Гэтага можа ня ведаюць людзі, дык няхай-жа ведаюць...

Паляшукі сталі, як строгія й справядлівыя судзьдзі, але сур'ёзныя твары іх часта разьліваліся ў вясёлыя, і дружныя покаты сьмеху напаўнялі вуліцу, пры гэтым паляшукі, як па камандзе, адкідвалі назад галавы й выпучвалі жываты. Але гэта было толькі ў тых выпадках, калі хто-небудзь з

кабет, пераступіўшы ўсякія граніцы жаночага ўшанаваньня, адпускалі штонебудзь вельмі жыцьцёвае й сакавітае.

І ўсё-ж такі вёска ня прышла да згоды. Адны сьвяткавалі сёньня, другія—заўтра. А некаторыя, каб не ашукацца, сьвяткавалі два дні.

Гэта няяснае пытаньне аб сьвяце адбілася й на школе. Лабановіч, прышоўшы ў школу, заўважыў, што палова вучняў ня прышла.

— Чаму-ж вас так мала прышло?

Дзеці перадалі гісторыю спрэчкі аб сьвяце, а разам з тым і прычыну адсутнасьці вучняў.

XI.

Работа ў школе наладзілася.

Малады настаўнік укладаў у яе сваю душу й сэрца. Кароткія зімнія дні прахадзілі незаметна, іх не хапала на тое, каб як сьледуе правясьці работу. Як толькі добра разьвідняласся й была магчымасьць вясьці лекцыі, Лабановіч шоў у школу, разьмяркаваўшы сваю работу між чатырох куп школы.

Многа патрабавалася ўменьня на тое, каб кожная купа была занята й не сядзела без работы. Многа трэба было энэргіі й стараньня, каб кожная купа была зацікаўлена ў сваёй рабоце, і ўвесь час трымаць школу на вышыне таго ці іншага настрою. У дзень школа распушчалася на паўтары гадзіны для абеду. Посьле абеду лекцыі зноў шлі да самага вечару, покі не цямнела. Часта са старэйшымі вучнямі лекцыі вяліся й вечарамі пры лямпе. Скончыўшы дзень, настаўнік яшчэ доўга сядзеў над сшыткамі сваіх вучняў і папраўляў іх. Маладых сіл было многа: здавалася, ніколі й ня вычарпаеш іх, і расходаваліся яны так, як расходуе з восені заможны, але мала мяркоўны й непрактычны, гаспадар багаты збор ад свае нівы.

Але ў сваёй рабоце чэрпаў малады настаўнік і поўную чару высокага здаваленьня, пазіраючы, як дзеці набіраліся знаньня, лёгка асільвалі тое, што яшчэ ўчора здавалася ім незразумелым і трудным. Больш разьбітных і спасобных сваіх вучняў любіў ён тою любасьцю, якая можа быць толькі ў настаўніка да сваіх выхаванцаў. І нейкая ўцеха брала маладога настаўніка, глядзя на гэтых маленькіх змыслых палашучкоў. Ім і пазвалялася шмат болей таго, чаго не павінны былі рабіць звычайныя вучні, бо ў Лабановіча ў школе быў строгі парадак. Хоць гэта патураньне было й шкодна з пэдагогічнага боку, і Лабановіч гэта ведаў, але падоляць гэту сваю слабасьць ён ня мог ніякім чынам. З другога боку, трэба сказаць, што ад гэтых лепшых вучняў і вымагалася болей. Скончыўшы дзень у школе й пераглядзіўшы работы вучняў, Лабановіч часта падводзіў падрахункі дню: пры гэтым разважаў ён і аб тым, як трэба абысьці тыя пахібы й памылкі, без якіх так трудна бывае ўхінуцца ў школе маладому, мала вопытнаму настаўніку. Усе тыя спосабы, якія так гладка й проста напісаны ў мэтодыках, часта зусім не падыходзілі й не адпавядалі ўмовам школы, трэба было тут-жа выдумляць іх самому. А колькі часу прыходзілася траціць на тое, каб дастасаваць мову дзяцей да кніжнае мовы! І колькі сьмешных

непажаданых выпадкаў вынікае на грунце гэтага непаразуменьня ў школе, дзе мова мацеры зьневажаецца й забіваецца!

Часамі настаўніку здавалася, што яго школа адстае, што дасягнутыя вынікі нязначны й што, наогул, ён няважны настаўнік. Трэба ўжыць тут штось новае, трэба аджывіць школу, бо спосабы яго заняткаў у школе так замацованы, што яны напэўна перасталі быць цікавымі для дзяцей. У такія мінуты настрой яго спадаў, яму рабілася не па сабе.

«Трэба будзе даведацца да Турсэвіча й набачыць, як ён вядзе сваю справу», падумаў Лабановіч і цьвёрда рашыў у першае-ж сьвята паехаць да свайго старога настаўніка. Ён абдумаў маршрут. Праўда, маршрут гэты просты: пайсьці на разьезд, як-небудзь сесьці на таварны цягнік і паехаць. Ад станцыі яго сябар жыў за вярсты дзьве, а язды паўстанцыі. Калі-ж ня ўдасца паехаць машынаю, то ў яго—маладыя ногі, да хады прывычныя. Разьвязаўшы пытаньне такім чынам, Лабановіч заспакоіўся й хацеў засесьці за кнігу.

Як-раз вашла бабка.

— А што, панічыку: чай піць будзеце?

— Чай?—спытаў настаўнік і засьпяваў:

«Чай, чай,
Прымячай,
Куды чайкі ляцяць!»

Бабка падперла рукамі шчокі й пачала сьмяяцца.

— Сьмешны вы, панічок, яй-Богу!.. Ах, няхай вы здаровенькі былі!

— А ведаеш, бабка, што я надумаўся?

— Бог вас ведае, панічок.

— У гэту нядзельку, бабка... ці там нікога няма?—ціха й таемна кіўнуў настаўнік у бок кухні.

— Няма, панічыку!—ціха адказала й бабка, нарыхтаваўшыся пачуць нешта вельмі цікавае.

— Дык нават, бабка, не ў нядзельку, а ў суботу нанач надумаўся я паехаць у госьці да таго паніча!

— А я-ж, панічок, думала, што вы скажаце пра другое,—сказала сьмяючыся бабка:—чаму-ж, панічок, не паехаць? Вядома, зьбярэцеся...

Дзьверы ў кухню стукнулі, і туды хтось вайшоў.

— Гэта мусіць, бабка, да цябе хтось лячыцца прышоў.—

Бабка борзьдзенька павярнулася і ў дзьверах спаткалася з Чэсем.

— Татка прасіў, каб вы зайшлі да нас,—прамовіў Чэсь Лабановічу.

— Добра, Чэсь: я зараз прыду. У вас там, можа хто ёсьць?

— Пан Сухавараў з разьезду.

— Ах, Чэсь! як-жа гэта ты такую штуку мне ў школе ўдраў?—прыпомніў Лабановіч адну дур свайго вучня, якая выявілася ў тым, што Чэсь, седзячы на лекцыі славянскае мовы, скруціў паперку ў трубачку й засунуў яе ў вуха Кандрату Кругламу.

Чэсь апусьціў галаву ў знак свае віны й стаяў панурыўшыся.

— Не рабі ты, брат, так ніколі.—

Чэсь вышаў. Крыху счакаўшы, вышаў і Лабановіч.

За сталом на крэсьле ў пакою пана падлоўчага сядзеў памочнік начальніка разьезду пан Сухавараў, нежанаты, яшчэ малады хлопец, адзеты ў парадны мундзір і падкруціўшы свае чорныя вусікі. На канапе проціў яго сядзела панна Ядвіся. Яна была ў прыгожай чырвонай кофтачцы, якая вельмі шла да яе твару, а чорныя й пышныя валасы яе былі перахвачаны чырвонаю стужкаю. Панна Ядвіга выглядала вельмі цікаваю й прыгожаю дзяўчынаю. Цёмныя вочы яе з доўгімі мігаўкамі як-бы рассыпалі праменьні. Яна была вясёлая і ў добрым настрою.

Лабановіч падышоў да яе й паздароўкаўся. Панна Ядвіся пазнаёміла яго з памочнікам і запыталася:

— Што гэта вас ня відаць?

— А я, бачыце, крыху закапаўся ў школе...

— Выяўляю сабе, якая гэта няпрыемнасьць сядзець увесь дзень з гэтаю вясковаю дзятвою. Нанясуць лапцямі гразі, дух цяжкі,—прамовіў Сухавараў.

— Пан Лабановіч закахаўся ў сваю школу,—сказала Ядвіся.

— А можа ў вас, панна Ядвіга?—запытаў памочнік і ўскінуў на яе свае алавяныя вочы.

Відаць было, што памочнік хацеў завалядаць адзін увагаю панны Ядвісі, а настаўніка адцерці. Ён лічыў сябе вельмі цікавым кавалерам, з якім такому настаўніку змагацца ніякім чынам немагчыма.

— О, не! у пана Лабановіча ёсьць больш счасьлівейшая ад мяне!—

Адзін момант яна памаўчала, як-бы вельмі засмучоная, але з яе вачэй так і сыпалі іскры сьмеху.

— Пан Лабановіч аддаў сэрца сваёй бабцы!—

Сказала й залілася самым вясёлым сардэчным сьмехам. Так сама сьмялася й малая Габрынька й Сухавараў. Сьмяяўся й пан падлоўчы, у гэны момант прышоўшы да гасьцей.

А Ядвіся яшчэ дадала.

— Сядуць з бабкаю каля стала й варкуюць да самае поўначы.

«Аднак-жа ты ахвотніца сьмяяцца», падумаў сам сабе настаўнік і так сама адказаў жартліва.

— Ну, што-ж? палюбіць маладую й прыгожую кожны патрапіць, а вось закахацца ў старую, гэта ўжо рэч іншая.

— Так, так,—сказаў Сухавараў:—на гэта трэба мець асобны талент.

— У пана Лабановіча і ёсьць гэты асобны талент,—прамовіла Ядвіся.

— Што гэта, паночку, яна да вас прычапілася?—спытаў пан падлоўчы.

— Ня ведаю,—адказаў Лабановіч.—На сьвеце, пане суседзе, бывае так, што хто каго любіць, той таго й чубіць.

— Ха-ха-ха!—засьмяяўся пан падлоўчы:—Што, Ядвіська, дастала?—

А Ядвіся як і ня-была таго, спакойна, нават сур'ёзна запыталася:

— А хіба-ж ужо бабка чубіла вас, пане настаўніку?

— Брава! брава!—запляскаў у ладкі памочнік, а пан падлоўчы громка засьмяяўся.

— Дык вас, пане настаўніку, бабка чубіць?—спытаў ён, не пераставючы сьмяяцца.—

За гэтым агульным сьмехам Лабановічу не ўдалося нічога адказаць і верх заставаўся за паннаю Ядвісяю.

Размова пашла па другому кірунку, і гаварыў болей памочнік. Гаварыў ён гладка й востра й часта выклікаў вясёлы сьмех сярод сваіх слухачоў і слухачак. Панна Ядвіся часта кідала на яго свае цёмныя выразныя вочы з-пад тонкіх дужак броваў. Лабановіч маўчаў. У яго было такое пачуцьцё, як-бы ён быў тут зьняважан і пакрыўджан. А пан Сухавараў вельмі зацікавіў Ядвісю Вільняю й тэатрам, сам ён крыху сьпяваў, але толькі пад гітару. Другі раз абяцаўся ён прыйсьці з гітараю, бо панна Ядвіся яго вельмі прасіла. За ўвесь гэты час яна ні разу не глянула па свайго суседа—Лабановіча.

— А ты, Ядвіська, калі ласка, засьпявай,—зьвярнуўся пан падлоўчы да дачкі.

— Пан Сухавараў сьмяяцца будзе,—прамовіла Ядвіся, апусьціўшы вочы, а потым ускінуўшы іх на памочніка.

— Што вы? што вы?—усхапіўся Сухавараў, просячы яе засьпяваць.

Ядвіся адышлася далей у куток каля кахлянае печы й засьпявала:

«Чы я ў полі не калінаю была?»

Голас у яе быў малады, сьвежы, сакавіты. Сьпявала яна з такім праўдзівым пачуцьцём, што рабіла вельмі добрае й прыемнае ўражаньне.

Лабановіч слухаў гэтыя сьпевы, і нейкая жаласьць ахоплівала яго. Яму хацелася падыйсьці да гэтай дзяўчынкі й запытаць яе:

— Скажэце, якое гора ў вас на сэрцы?—

Сухавараў многа й доўга хваліў панну Ядвісю, а яна стаяла, апусьціўшы вочы, і здаецца чакала пачуць слова ад Лабановіча. Настаўнік зумыслу не сказаў нічога.

Прашчаючыся пасьле вячэры, панна Ядвіся была сур'ёзна й не папрасіла суседа захадзіць да іх вечарамі.

## XII.

Лабановіч пачуў, што на душы ў яго штосьць неспакойна. У чым выяўляўся гэты неспакой, ён і сам ня мог яго вызначыць. Ня было цяпер і тэй цэласьці й яснасьці, з якою жыў ён тут у першыя дні свайго прыезду. То тое, то другое пачынала забіваць душу, адцягаць і раскідаць яго ўвагу, і ён як-бы падзяляўся на асобныя часткі, якія ня мелі цеснае сувязі адна з другою. Нейкае нездаваленьне псавала яго добры настрой.

Лабановіч доўга хадзіў па пакоіку, намячаючы больш-менш сталы й пэўны лад свайго жыцьця. Трэба глыбей вайсьці ў сябе самога й заняцца чым небудзь болей важным і сур'ёным, ня траціць час на такое глупства, як сядзець на вечарох у кампаніі такіх асоб, як Сухавараў, які нават нічога добрага ня бачыць у яго школьнай рабоце. Сухавараў яму не спадабаўся. «Хлюст», назваў яго ў думках настаўнік, уявіўшы сабе яго вобраз, яго ла—

сыя вочы, якімі ён аглядаў панну Ядвісю, яго крыху зьвіслую губу. «Грошa няма за душою». Настаўнік доўга хадзіў па пакоіку, і цень яго, подлуг таго, як зьбліжаўся ён з лямпаю або адыходзіўся ад яе, то падаўжалася, то карачала, а ў стыках сьцяны й столі барзьдзенька пераломлівалася й забягала на столь. Колькі разоў мімаволі вочы яго ўзьнімаліся на вокны пана падлоўчага. Яшчэ думаў настаўнік і аб паньне Ядвісі.

Можа й Сухаварава не ўспадабаў ён за тое, што яна аддавала відочную перавагу яму... Э, глупства! перапыніў настаўнік свае думкі. Трэба абавязкова паехаць да сябра й крыху праветрыцца й скінуць той фуз, які ўжо патрошку пачынаў набірацца ў ім.

Але задуманы плян паездкі яму прышлося адлажыць. На другі-ж дзень да яго зайшоў артэльны стараста Бабініч, пазнаёміўся з ім і вельмі прасіў да сябе ў госьці на чацьвёртую будку. Стараста Бабініч меўся пасылаць у школу да Лабановіча сваіх дзяцей—сына й дачку. А вучні з залезнае дарогі былі платныя, складалі такім чынам, даход настаўніку. Пэнсія настаўнікам была надта малая, і кожны вучань збоку быў значнаю дапамогаю ў іх скарбных справах. Ніякія довады Лабановіча за тое, што ён мусіць паехаць да сябра, Бабініч ня браў пад увагу.

— Пасьпееце пабыць і ў сябра. Пабудзеце ў мяне, а вечарам і да сябра паедзеце, тым болей, што сьвятаў назьбіралася многа.—

Бабініч належыў да тых людзей, якія ня так-то лёгка адступаюцца ад сваіх плянаў, і ён да таго часу не пакінуў Лабановіча, пакуль ня ўзяў з яго слова быць у госьцях.

Як толькі Бабініч вышаў, у пакоік вашла старожка.

— Напэўна, панічыку, артэльны ў госьці запрашаў?—спытала яна.

— А скуль ты, бабка, гэта ведаеш?

— А як-жа, панічок: ён будзе сваіх дзяцей да вас аддаваць. Мне жонка яго ўжо казала аб гэтым. А стараста такі чалавек, што любіць аддзякаваць. І пачастуе й заплаціць.—

Бабка ведала ўсіх будачнікаў па адзін і па другі бок разьезду й вельмі раіла пагасьцяваць у Бабініча.

— Вельмі добрыя людзі,—казала яна.

— Што-ж? нічога ня зробіш, бабка: трэба папакутаваць—пайду.

— Якая-ж гэта пакута? От, паніч! І вып'еце й закусіце.

— А ты, бабка, любіш выпіць?

— А хто-ж яго ня любіць, панічыку?

Калі трапляецца, то чаму-ж ня выпіць?—

У першы сьвяты дзянёк вышаў настаўнік на знаёмую яму сьцежку каля двух ветракоў і пашоў на чугунку. Гэта сьцежачка й гэта месца вельмі падабаліся Лабановічу, і хоць ён даваў кругу, ідучы па сьцежцы каля ветракоў, але часу ў яго было многа, а сьпяшацца яму некуды было. На чугунцы ён затрымаўся. Яму хацелася пайсьці ў бок разьезду, ісьці доўга-доўга па гэтых шпалах між разьвіслых шырокіх лазовых кустоў, хмызьняку й лесу. Было зусім ціха. Распагодзілася. Нізка стаяла асеньняе сонца, і

нейкаю маркотаю патыхала ад усяго гэтага цеснага краявіду і ад гэтае вёсачкі, закінутай між балот і лясоў. Каротка і адрывіста раўнуў паравоз на разьезьдзе, і ціхінька здрыгануліся рэйкі, і нейкі лёгкі, ледзьве чутны шолах прабег па іх, як бы яны аб чымся перамаўляліся між сабою.

І зараз-жа на заломе выбухнуў вялізарны клуб белаватага дыму; за ім выкідаліся другія клубкі, і сьледам за гэтым паказаўся паравоз кур'ерскага цягніка. Клубчасты, кучаравы хвост дыму ўсё падаўжаўся, шырыўся й, здавалася, нярухома застыў у марозным паветры, тагды як галава яго ўсё выцягалася як-бы з свайго ўласнага цела. Было штось вялізарнае, магутнае й захопліваючае ў гэтым імкненьні цягніка, і мімаволі хацелася схіліць галаву прад гэніем чалавечага розуму, атрымаўшага верх над бясконцым аддегласьцямі. Цягнік прамчаўся, як зьмей, абдаўшы віхарам пылу й дыму настаўніка, адсякаючы кожную мінуту цэлую вярсту. Лабановіч зрушыў з месца й пашоў у той бок, куды паляцеў і зараз-жа зьнік магутны цягнік. Ён ішоў на чацьвёртую будку да Бабініча. За другою будкаю пачынаўся высокі бор, і месца было больш высокае й вясёлае. Настаўнік падышоў да таго месца, дзе ён спаткаўся з незнаёмаю дзяўчынаю. Ён часта думаў аб ёй, але ні ў каго ня пытаўся пра яе, бо людзі ў такіх выпадках заўсёды схільны ахаяць і кінуць хоць маленькі камячок гразі на тое, што для яго было сьвятым і недатыкальным. Толькі з паннаю Ядвісяю й то толькі між іншым была аб ёй гутарка. Сёньня ён напэўна як-небудзь даведаецца аб ёй. А можа яна будзе так сама ў госьцях? А можа гэта зусім ня тая дзяўчына? Ідучы каля трэцяе будкі, дзе жыў Курульчук, Лабановіч зірнуў на яе бачлівым поглядам, але там было ціха й нікога ня відаць. Другая будка, чацьвёртая ад сяла, была ня больш, як за паўвярсты ад трэцяе.

— Калі ласка! калі ласка!—спаткаў стараста настаўніка на ганачку свае будкі й павёў яго да пакоіку.

У пакоіку яго спаткала гаспадыня, нізкая жанчына. Па яе фігуры адразу трудна было вызначыць, што перамагае ў ёй: таўшчыня ці вышыня. Маленькая знадворку, будка ў сярэдзіне была досыць памясцоўная. У ёй была кухня, праходны пакойчык і яшчэ два пакойчыкі, шмат прастарнейшыя, сьветлыя й чыстыя. Гасьцей тут было чалавек з восем: тры мужчыны й кабеты. З боку камоды каля ваконца сядзела тая самая дзяўчына, з якою спаткаўся Лабановіч, гуляючы на чугунцы. Вітаючыся з гасьцьмі, настаўнік, убачыўшы панну Марыну,—бо гэта была яна—мімаволі спыніўся на адзін момант перад ёю: гэты нязвычайна прыгожы твар як-бы прычараваў яго. Разглядзіўшы панну Марыну зблізка, Лабановіч знайшоў, што такое слаўнае дзяўчыны ён яшчэ ні разу ня бачыў. Цёмныя чыстыя вочы, крыху як-бы чымся засмучоныя, пазіралі так панадна й з такою дабратою, што ад іх погляду рабілася лёгка на сэрцы. На высокі белы лоб навісалі чорныя-чорныя валасы й дадавалі яе твару яшчэ больш хараства. Тонкія замкнёныя вусны рабілі яе твар разам з тым і крыху строгім і сур'ёзным.

— Здаецца, гэта з вамі спаткаўся я тагды?—спытаў Лабановіч, павітаўшыся з дзяўчынаю.

Панна Марына ўсьміхнулася.

— Так, гэта я йшла тагды ў вашу вёску.

— Ну, і моладзь!—сказаў Бабініч:—як скора патрапляюць яны сустракапца!—Бабініч, відаць, усьпеў ужо хваціць колькі чарак, бо язык яго, наогул распушчаны, ня ведаў стрыманьня й пачынаў плявузгаць такія рэчы, ад якіх было сорамна ня толькі паненкам і кабетам, але часта й мужчыны апускалі вочы, або хадзілі ад сьмеху. Бабініч у гэтым сэнсе быў вядомы дзівак і ніякім чынам ня мог абыйсьціся без таго, каб ня ляпнуць чаго пры кабетах. І гэты талент Бабініча асабліва вызначаўся тагды, калі ён добра выпіваў.

Праз колькі мінут Бабініч і яго жонка-кадушка прасілі гасьцей за стол. На стале было многа закускі, а яшчэ больш гарэлкі. Гаспадыня прасіла гасьцей вельмі далікатна, а гаспадар проста пхаў іх з пагрозамі даць каленам, калі хто ня надта шпарка займаў за сталом месца.

— А ты чаго стаіш і топчашся, як таўкач той у ступе?—накінуўся ён на будачніка Лобука.

— Садзіся, Лобук, садзіся!—сьмяяўся высокі, відны сабою, шыракаплечы Курульчук, шваґра панны Марыны.

Госьці жыва паселі за стол.

Акінуўшы вокам кампанію й тую гарэлку, якая стаяла на стале, Лабановіч цьвёрда пастанавіў гарэлкі ня піць, бо нейкае прачуваньне засьцярогі падказвала яму ад гарэлкі ўстрымацца. І вось калі першая чарка дашла да яго, то ён падзякаваў гаспадару й перадаў яе сваёй суседцы, жонцы вакзальнага жандара. На твары Бабініча намалявалася нязвычайнае зьдзіўленьне.

— Хіба-ж вы ня п'еце?—панізіўшы чуць не да шэпату голас, прамовіў старэста.

— Ня п'ю,—салгаў настаўнік.

— Ні аднюсенькае чарачкі?

— Ніяк ня п'ю.

— Госпадзі Божа, твая воля! Як-жа гэта можа быць, каб чалавек гарэлкі ня піў? Ну, што-ж мне з вамі рабіць?

— Ой, пане настаўніку, у нас ня можна, каб гарэлкі ня піць,—засмуцілася й гаспадыня. Вы хоць трошачкі, а выпійце.

— Не, не!—загулі й кабеты:—як-та ня выпіць?—Настаўнік стаяў на сваім і не паддаваўся ні на якія довады.

— Панна Марына! папрасеце вы: можа на вашу просьбу госьць зьверне ўвагу,— зьвярнулася да дзяўчыны жандарыха, чырвонашчокая дабрадушная жанчына.

Панна Марына ўсьміхнулася й паказала свае белыя, як калядны сьнег, зубы.

— А нашто-ж прыняволіваць чалавека?—сказала яна й зірнула на настаўніка.

— Вялікае вам дзякуй!—пакланіўся ёй Лабановіч.

— Эх, панна Марына, панна Марына!—з дакорам паківала галавою жандарыха й выпіла чарку гарэлкі. Пасьля гэтае замешкі чарка ўжо ня ведала спакою. Курульчук праз паўгадзіны зачаў сваю песьню, адзіную з тых, якую ён ведаў і якую сьпяваў, дайшоўшы да пэўнага стопня:

«Быў сабе з тапорыкам пан Ян.»

Кабеты так сама разрумяніліся, як тыя пірагі пад Вялікдзень у добрае гаспадыні. Бабініч зусім асалавеў, вочы яго пажаўцелі й варочаліся, як тачыла ў руках пяздольнага каваля. Яго плявузгота ўжо не рабіла вялікага ўражаньня: да яе ўжо прыслухаліся й прыцярпеліся, і яна як-бы атрымала тут правы грамадзянскія. На гэта, відаць, зьвярнуў увагу й сам Бабініч, бо ў яго плявузгоце пачаўся выяўны пералом: з кожным разам забіраўся ён усё далей і далей. Ужо колькі разоў закрывала яму рот жонка й сама рагатала. Падгуляўшыя кабеты засьпявалі якуюсь песьню, а Бабініч закрычаў на ўвесь пакоік, вымагаючы ўвагі. Кабеты змоўклі, слухаючы, што скажа ён.

Бабініч адпусьціў такія словы аб іх сьпяваньні, што й прывычныя жанкі паўскакалі з месца. Панна Марына даўно кудысь схавалася, а сястра яе, жонка Курульчука, угневалася й сказала:

— Не, кумок: не пайду я больш да вас.

— Ну, ня буду, ня буду,—давячыся дымам махоркі, сьмехам і кашлем, прамовіў Бабініч:—ня буду, няхай вас халера падушыць!—

Лабановічу ўрэсьці абрыдла гэта п'яная гульня й гэта гразь разьвязанага языка. Яго толькі вельмі зьдзівіла, як магла быць у такой кампаніі панна Марына. Яму было стыдна й за сябе й за яе. Устаць і пайсьці, што ён ужо колькі разоў намыкаўся зрабіць, ён не рашыўся, ня хочучы пакрыўдзіць гаспадара й гасьцей. Ён мусіў дасядзець да вечара, покі Бабініч ня ўстаў хістаючыся й ня зьнік за дзьвярамі надоўга. Разам з Курульчукамі й паннай Марынай вышаў ён ад Бабініча.

Курульчукі й панна Марына прасілі яго быць з імі знаёмымі й заходзіць да іх.

## XIII.

— А вас, панічыку, пыталася паненка,—далажыла бабка настаўніку, як толькі ён вярнуўся з гасьцей.

— Дзе-ж,—кажа,—бабка, твой паніч?

— Пашоў,—кажу,—паненачка, кудысь на чугунку.

— А я,—кажа,—хацела папрасіць кніг у паніча.

— Добра, бабка, кніг я выберу.

Лабановіч пакапаўся ў сваіх кнігах і адабраў дзьве: томік дробных апавяданьняў Караленкі й невялічкае апавяданьне Сельмы Лагерлёф «Легэнда аднаго дому».

Лабановічу хацелася перадаць іх самому, і панна Ядвіся, як дагадваўся настаўнік, напэўна хацела, каб ён сам прынёс іх. Кнігі тут былі толькі, як зачэпка. Лабановіч крыху зафанабэрыўся.

«Не, не пайду!» зазначыў ён сам сабе.

— Вось, бабка, кнігі, занясі іх, калі ласка, паненцы.

— Добра, панічок.—

Бабка крыху пастаяла, як-бы штось разважаючы, але нічога не сказала й выйшла.

Лабановіч, сказаць праўду, гневаўся на панну Ядвісю посьле таго вечару, калі быў у пана падлоўчага Сухавараў, і ён рашыў не паказвацца там. Апрача таго, вобраз другое дзяўчыны яго моцна зацікавіў і так сама крыху засланяў сабою панну Ядвісю.

І само сабою напрашалася параўнаньне гэтых дзьвюх дзяўчын. Панна Марына. без спрэчкі, мела перавагу над Ядвісяю ў харастве, але разам з гэтым Марына ўступала Ядвісе ў разнастайнасьці праяўленьня жыцьця. Марына была ціхая, сталая дзяўчына й напэўна вельмі добрая душа, але гэта была простая дзяўчына й, адлучыўшы ад яе хараство, гэту дзявочую вывеску, ад яе засталося-б мала, тагды як Ядвіся была натура больш многагалучная, больш жывая, якая яшчэ ня выявілася й не сфармавалася ў пэўны характар.

Лабановіч усьміхнуўся сам сабе: яму прыпомнілася казка пра асла. Галодны асёл папаў між двух стагоў. Ён спыніўся й пачаў разважаць, да якога стага яму накіравацца. Разважаў да таго часу, покі ня выпрастаў ногі.

А ўканцы Лабановіч вывеў такое заключэньне, што гэтыя дзьве дзяўчыны захаваюць яго ад таго, каб закахацца ў каго з іх, і яму стала весела.

— Занесла, панічыку, вашы кнігі. Паненка дзякавала вам. А чаму, кажа, паніч ня прышоў?—сказала вярнуўшыся бабка.

Папраўдзе сказаць, настаўніку хацелася пабачыць панну Ядвісю, тым болей, што пасьля таго, як быў там Сухавараў, ён з ёю не сустрачаўся. І як ні хітрыў ён сам з сабою, як ні тлумачыў гэты факт, але аднаго ня мог ён пабараць у сабе—ня думаць аб паньне Ядвісі. І што-б ён ні рабіў аб чым-бы ён ні думаў, не-не, дый устане перад ім панна Ядвіся. І чым бліжэй быў ён ад яе, тым большая ўлада гэтай дзяўчыны адчувалася над ім. Калі ён быў у госьцях і бачыў перад сабою другую дзяўчыну, ён ні разу ня ўспомніў аб свэй суседцы. А цяпер, як-бы ў помсту за гэта, вобраз панны Ядвісі стаяў неадступна ў яго вачох, дражніў яго, кудысь зваў і сьмяяўся. А вокны ў такою пана падлоўчага сьвятлелі прынадным блескам. Цяпер там напэўна была панна Ядвіся з сястрою, бо пан падлоўчы цэлымі днямі ня быў дома, а езьдзіў прымаць сена ад паляшукоў для графа Патоцкага; паненкі напэўна разглядалі, а може чыталі яго кнігі. Увесь абрыс хаты пана падлоўчага выглядаў так, як-бы хацеў сказаць настаўніку:

— «Хлусіш! ты ўсё-ж такі да мяне прыдзеш».

«Што за насланое!» прамовіў сам сабе Лабановіч: «або ў мяне няма сілы ўзяць сябе ва павадок?.. Яловыя шышкі! Сказаў сёньня гарэлкі піць ня буду, і ня піў. А сказаў не пайду да Ядвісі, значыцца й быць так!»

Настаўнік зьняў са сьцяны скрыпку, настроіў струны й пачаў вадзіць па іх смыком. Граў ён зусім слаба, але ўзяўся за скрыпку, каб разагнаць думкі. Ён нават імкнуўся выявіць у скрыпцы свой настрой, але з гэтага

нічога яя вышла, і скрыпка, як зазначыў сабе сам музыка, раўла, як галодная жывёліна, заглeдзіўшы свайго гаспадара. Ён кінуў скрыпку на стол, зьвярцеў папяросу і, момант падумаўшы, адзеўся, узяў палку й пашоў.

У кухні каля грубкі стаяла бабка, а на зэдліку пры стале сядзела яе прыяцёлка Наста.

— А куды-ж гэта вы, панічок?—запыталася бабка.

— Пайду, бабка, лавіць таго чорта, што твайго Міхалку напалохаў,—сур'ёзна адказаў Лабановіч і вышаў на двор.

Ужо даўно зьвечарэла, але ў хатах усёды сьвяціліся агні. Настаўнік вышаў на вуліцу.

У вадным канцы сяла, у бок пераезду, сьпявалі вясковыя дзяўчаты, і водгульле іх аднатоннае песьні, адбіваючыся дзесь каля чыгункі, данасілася сюды цэлымі хвалямі мяккіх жалобных зыкаў. Простыя, няштучныя матывы, крыху зьмякчаныя адлегласьцю, хвалявалі маладога настаўніка, як нейкі няясны прываб, і разам з гэтым паглыблялі яго смутны настрой. Цёмны абрыс лесу, што стаяў недалёка за вёскай, глядзеў пахмурна й як-бы казаў: «Ня слухай ты гэтых песень: у іх твая атрута. Уцякай ты адгэтуль—тут усё пранята атрутаю сэрца». Але настаўнік стаяў і слухаў дзявочыя сьпевы.

«Чаму яны такія жалобныя? Чаму ў іх мала матываў, так мала, што трудна сказаць, аб чым сьпяваюць дзяўчаты: аб смутку ці радасьці, бо калі толькі ні пачуеш іх сьпевы, яны заўсёды невясёлыя? Ці ня гэта аднатоннасьць тутэйшага краявіду, гэтыя доўгія, бясконцыя дарогі між лясоў і балот адбілі на іх свае пячаткі?»

У колькі кроках ад Лабановіча, вынырнуўшы з цемнаты, бяз шуму, як цень, выступіла жаночая постаць. Параўняўшыся з агарожаю школы, яна прытрымала свой крок, пашла павальней, прыглядаючыся на вокны кватэры настаўніка. Вокны сьвяціліся: выходзячы з кватэры, настаўнік забыўся патушыць лямпу. Угледзіўшы настаўніка, ці толькі дагадваючыся аб тым, што гэта ён, жанчына прыбавіла крок, чуць падаючыся ў бок настаўніка. Цёмная, незнаёмая постаць яе, крыху адышоўшыся, павярнула назад і накіравалася да настаўніка.

— Вам, мусіць, нявесела аднаму?—спытала яна ціха глыбокім маладым голасам, у якім чуўся нейкі прывабны сьмех. Лабановіч пачуў, што галава яго закружылася, як-бы ад хмелю, а ў крыві й па ўсяму целу як-бы прабеглі іскры. Ён крыху быў ужо папярэджан і ведаў, што па глухіх вёсках Палесься, у зьвязку з так званаю «культураю», сустракаліся такія маладзіцы, якія набіваліся самі на сваю кампанію. Цэлы віхор розных пачуваньняў пранёсься ў маладым хлопцу. Але ён перамог сябе й груба адказаў:

— Ці ня думаеш ты, што мне было-б весела з табою?—

Маладзіца, відаць, не чакала такога адказу. Яе жаночае самалюбства было моцна абражана гэтым грубым адказам і балюча ўшчымлена. Але яна не паказала гэтага.

— Ха-ха-ха!—засьмяялася яна спакусным сьмехам:—хіба-ж вы сьвяты або калека?—

І ўжо другім тонам, з відочнаю зьнявагаю, дадала:

— Вы можа думаеце, што я йшла дзеля таго, каб вас разьвясельваць?—

Лабановіч, раз стаўшы на пэўны грунт і пачуўшы сябет ак сама ўколатым, ужо ня мог зьмяніць тон і лінію кіраваньня і ў нейкай злосьці трасучыся, сказаў:

— Няма чаго табе тут паказваць зубы, бо я іх усё роўна ня бачуў бачыць не хачу.—

Лабановіч чуў, што ён гатоў цадскочыць да гэтай спакусьніцы, каб пагнаць яе ў шыю. Так сама ня ручаўся ён і за іншы вынік і, каб быць далей ад спакусы й захаваць чыстым сваё імя, як настаўніка, ён борздымі крокамі пашоў праз вуліцу, пакіроўваючыся ў той бок, дзе была старая карчма, як-раз па дарозе ў сяльцо. Маладзіца хіхікнула яму ўсьлед, і да яго вуха даляцелі словы:

— Гэта мужчына: ад бабы ўцёк... Неданосак! Стоптаны лапаць!—

Настаўнік ішоў і тросься, як у хвэбры, бо ўся гэта праява яго дужа усхвалявала. Чуць толькі ўлеглося ў ім гэта абурэньне, ён пачынаў ганьпа ў сваёй грубасьці з гэтаю незнаёмаю жанчынаю. Хіба яна вінавата, што яе зрабілі такою розныя прахвосты, пацяробкі культуры? Хіба ня можна было-б ухінуцца ад яе больш далікатным спосабам, растлумачыўшы ёй усю гразь і ўвесь бруд гэтага лёгкага заработку? Цяпер яна сьмяецца з яго й ня сьціскаецца ў розных мянушках па яго адрасу. І мае права, бо гэта права дала ёй яго грубасьць. Ну, што-ж? На другі раз трэба быць больш уважлівым да чалавека, хто-б ён ня быў.

Так разважаючы, дайшоў ён да карчмы. Карчма была пабудавана яшчэ ў даўнейшыя часы, тагды, калі аб манапольках нікому ня сьнілася. Цяпер гэта карчма дажывала разам са сваім гаспадаром, старым Абрамам, апошнія дні, бо ня было патрэбы адбудаваць карчму, і некаму было заступіць месца старога шынкара: сыноў Абрам ня меў, а дочкі павыходзілі замуж.

Лабановіч кожны раз, праходзячы тут, мімаволі зварачаў увагу на гэта месца й на гэту занялалую карчму з пакрыўленымі сьценамі й пагнутым дахам. І тое й другое, як ня можна лепей, стасавалася адно з другім. Месца было глухое й пустое, і кожны раз яно выклікала ў настаўніка адно й тое пачуваньне і астаўляла ў ім адно й тое ўражаньне. З чаго яно складалася і якая была яго істота, выявіць і вызначыць было вельмі трудна, але ў яго залажэньні было штось варожае, няпрыветнае й смутнае па свайму характару. Цікава й тое, што ніхто з сялян не будаваўся тут, ня гледзячы на ўсе выгады гэтае мясьціны. Старая карчма, заснаваўшыся тут, і яе гаспадар як-бы адною нагою ступалі ўжо на край магілы, бо род старога шынкара відочна шоў на выміраньне. А гэта разам усё ўзятае хіліла думку настаўніка да заключэньня, што на сьвеце ёсьць нейкія розныя пачаткі жыцьця. Адны з гэтых пачаткаў вызначаюцца ў бясконцых формах жывых арганізмаў, а другія выяўляюцца ў так званай няжывой прыродзе. Але покі яны не зсочаны й не даведзены, як мае быць, яны й не зьмяшчаюцца ў

нашым розуму, яны жывуць у нашых пачуваньнях. Пачуваньне-ж ёсьць папярэднік розуму ў досьледах і вызначэньнях істоты рэчаў.

Мінуўшы старую карчму, Лабановіч прыпомніў сваю выразу, якая зьляцела з яго языка, калі ён выходзіў з кухні: «Іду, бабка, лавіць таго чорта, што твайго Міхалку напалохаў». Як-раз гэта й было тое месца, дзе, па словах бабкі, Міхалку палучыла тое здарэньне, посьле якога Міхалка чуць не памёр. Паставіўшы ўсё гэта ў зьвязак з тым фактам, што ён прышоў імення сюды, ня маючы гэтага ў мысьлях, Лабановіч зьдзівіўся й зацікавіўся.

«Куды-ж я йду й чаго йду?» спытаў ён сябе й спыніўся, азірнуўшыся вакол. Было ціха, глуха й пуста; і толькі ў аднэй карчме быў відзен агонь. Лабановіч мімаволі пачуў нейкае страхацьцё. Яму прыпомнілася апавяданьне бабкі пра здарэньне з яе Міхалкам. Разумеецца, гэта ўсё глупства. Міхалку мог напалохаць які-небудзь дзяцюк, помсьцячыся за дзяўчыну, да якое хадзіў Міхалка. Але цікава наогул, скуль бяруцца гэтыя страхі? Вось ён, настаўнік, ня мае веры, што ёсьць нейкая таемная варожая сіла, існуючая незалежна ад чалавека, але ён чуе ўплыў на сабе нейкага страху. Калі ён прыйдзе сюды ў дзень, то гэтага ўплыву ня будзе. Уся справа ў тым, што й другая ноч закрывае сваім змрокам яшчэ многа пытаньняў, якія стаяць у зьвязку з псыхічнымі праяўленьнямі чалавечага жыцьця, і ў гэтым сэнсе навука зрабіла яшчэ мала. Ня гледзячы на ўсе гэтыя разважаньні, Лабановіч чуў, што яму страшна, што яму бракуе сілы павясьці змаганьне з гэтым страхам. «Пакліч да сябе нячыстую сілу», казала яму нейкая думка, але настаўнік прыкінуўся, што ня чуе голасу гэтае думкі й разам з гэтым пачуваў яшчэ больш жуд. «Калі ў цябе не хапае на гэта сьмеласьці, то прыслухайся: ты штось пачуеш», прывязалася да яго гэта думка. «Ну, што-ж?»— прамовіў сабе Лабановіч: «і буду слухаць!» І ён уніклва стаў прыслухоўвацца. Тая-ж самая ціш, тая-ж глушыня. «Чэрці! чэрці! пакажэцеся!»—ціхінька паклікаў ён чартоў і зноў стаў прыслухвацца. Усё было ціха, ніхто не адклікаўся, ніхто не паказваўся. Нэрвы настаўніка былі моцна напружаны, і ён чуў, што калі саступіць з нейкага пункту, на якім ён чуць-чуць трымаўся, то ён пападзе ў поўную абладу страхаў і пусьціцца ўцякаць з гэтага месца. Ён павярнуў назад да карчмы й пашоў, прыбаўляючы кроку. Каля карчмы ён затрымаўся, падумаў і завярнуў да старога Абрама. Там ён прысеў і папрасіў сабе бутэльку піва й, крыху супакоіўшыся, пашоў у сваю школу.

## XIV.

На перададзеньні Міколы сабраўся Лабановіч да свайго сябра Турэвіча й пашоў на разьезд. Дзяжурыў як-раз Сухаварaў. Ён запэўніў настаўніка, што праз паўгадзіны будзе таварны цягнік, з якім і можна будзе паехаць. Сухавараў распытаўся, як здароўе панны Ядвісі, як жыве сам настаўнік, як часта бачыцца ён з паненкамі. І тут-жа пахваліўся, як гэтымі днямі залучыў ён да сябе адну маладзіцу. Лабановіч прыпомніў сваё ня

вельмі даўнае спатканьне на вуліцы з незнаёмаю жанчынаю, і яму стала няпрыемна слухаць усю гэту брудную споведзь.

— Выбачайце,—спыніў яго Лабановіч:—нашто вы ўсё гэта выкладаеце?

— А хіба-ж вы ня любіце слухаць такія рэчы?

— А што-ж тут можа быць цікавага?

— Чаму?—спытаў Сухавараў і зірнуў на настаўніка сваімі шэрымі блудлівымі вачыма з выяўным насьмяханьнем. Настаўнік у сваю чаргу паглядзеў яму ў вочы. Не падабаўся яму гэты твар самаздаволенага самца й гэтыя адвіслыя мокрыя губы з паднятымі ўгару чорнымі вусікамі.

— Як вам сказаць?... Гадасьць усё гэта, і пахваляцца гэтым чалавеку інтэлігэнтнаму ніяк ня прыстала.

— Эх, вы: сарамяжлівая дзяўчына!—прамовіў Сухавараў крыху зьняважліва.

Тымчасам падыходзіў таварны цягнік. Сухавараў і настаўнік вышлі на пляцформу. Прыпыніўшы цягнік, Сухавараў пасадзіў настаўніка ў цяплушку й разьвітаўся з ім. Лабановіч пачуў сябе лёгка, сядзеў і разважаў аб тым, як спаткае ён свайго сябра. Як толькі цягнік прышоў на станцыю, Лабановіч борзьдзенька выскачыў з цяплушкі, на ўсякі выпадак забег на станцыю, бо магло стацца так, што яго сябра мог быць на станцыі. Але там яго ня было, і Лабановіч пашоў да вёскі па чугунцы. Вечар быў цёмны й ціхі. Побач чугункі стаяў высокі стары лес, таемны, пануры й важны. На станцыі шумеў паравоз таварнага цягніка, шумеў ціха й роўна, як-бы баючыся нарушыць спакой гэтага лесу. Абложанае бялявымі хмарамі неба, здавалася, ніжэй навісла над зямлёю, і пышныя сьняжынкі спакойна падалі на гэты высокі лес і дарогу. І было штосьць нязвычайна прыемнае ў гэтым руху белых і чысьцюткіх пушынак, і так далікатна лажыліся яны на зямлю, на шапку настаўніка. Чулае вуха, здавалася, само прыслухоўвалася да іх ціхусенечкага шолаху, як-бы хацела ўпяміць мілую гутарку. Лабановіч шоў борзда. Яму было лёгка, проста хацелася бегчы, ганяцца за гэтымі белымі пушынкамі, як-бы яны былі жывымі, або ён сам быў яшчэ дзіця.

З правага боку дарогі лес кончыўся. Лабановіч ішоў і ўзіраўся ў гэту цьму, каб не прамінуць гасьцінца, бо дзесь тут ён павінен перасеч чугунку. А во, гэты шлях, вось гэтыя старыя бярозы—прысады! На гэтым гасьцінцы, у вярсьце ад чугункі, стаяла хата казённага лясьнічка Лукаша. У гэтай хаце памяшчалася школа, дзе жыў і вучыў дзяцей Турсэвіч.

Лабановіч борзда прайшоў гэту вярсту, здалёк убачыўшы сінявы блеск у вакне свайго сябра. Каля самае кватэры ён прыпыніўся. Акно з боку вуліцы было завешана просьценькаю занавескаю. Турсэвіч хадзіў па пакоіку й меў такі выгляд, як-бы ён сам сабе пераказваў лекцыю. Лабановіч ціханька падышоў да вакенца й пастукаў пальцам па шыбе й схаваўся.

Турсэвіч адхіліў занавесачку й, засланіўшы рукамі блеск лямпы, стаў узірацца. Нікога няма.

Як толькі ён адышоўся, Лабановіч зноў таемна пастукаў у шкло й борзьдзенька адскочыў.

Турсэвіч рашуча падышоў да акна й громка запытаў:

— Хто там?—

Лабановіч не аклікаўся.

— Што за чорт?—пачуў Лабановіч нібы сярдзіты голас сябра.

Счакаўшы яшчэ з мінуту, Лабановіч зноў пастукаў.

Турсэвіч сярдзіта сарваўся з месца й пакіраваўся да дзьвярэй. Лабановіч схаваўся за тоўстую бярозу.

Турсэвіч прыадчыніў дзьверы, чуць прасунуў галаву й стаў пазіраць. Нідзе нікога няма.

Як толькі ён зачыніў дзьверы й запёр іх на засоў, Лабановіч—скок на ганак!

— Хто?—запытаў Турсэвіч, не адчыняючы дзьвярэй.

— Не скажу!—адказаў Лабановіч.

— Ах ты, мядзьведзь цельшынскі!—крыкнуў радасна Турсэвіч і з шумам адчыніў дзьверы.

— Ну, ідзі, ідзі, брат... Ах, ты фрукт гэтакі!—весела прамовіў ён і расчыніў насьцеж дзьверы ў сваю кватэру, каб было відна госьцю.

Турсэвіч крыху адышоўся ад дзьвярэй і нарыхтаваўся спаткаць сябра, якому ён быў вельмі рад. Бойкія шэрыя вочы яго так і ўпіліся ў сябра; з іх так і сыпаліся іскры сьмеху й разам з тым у іх адбівалася жывая мысьль і нейкая станоўкасьць і ўпарства.

Лабановіч прыпыніўся каля дзьвярэй.

Момант сябры азіралі адзін аднаго, а твары іх сьвяціліся вясёлым сьмёхам.

— Няхай не падзе на цябе цень бярозы, пад якою сядзеў грэк!— важна і ўзвышальна прамовіў Лабановіч.

— Да не апынішся ты ў палажэньні сабакі, сядзячай на плоце!—адказаў гаспадар.

Перакінуўшыся жартлівымі прывітаньнямі, сябры абняліся й сардэчна пацалаваліся.

Турсэвіч прышоў у нейкі рух і ўзбуджэньне, трос сябра за плечы, громка сьмяяўся.

— Ну, і малайчына! Яй-Богу, маладзец...

Я, па праўдзе сказаць, і думаў, што ты павінен праведаць мяне... Ну, сядай!—

Турсэвіч сабраў са стала кнігі, акуратна злажыў іх і палажыў на палічку. У яго кватэры быў самы строгі парадак і чыстата. Уся кватэра яго складалася з аднае клятушкі сялянскае хаты, але ён умеў дадаць ёй нейкую прытульнасьць і прыветнасьць. Прыводзячы ўсё ў парадак, Турсэвіч увесь час вёў размову, закідаў сябра пытаньнямі, хапаўся, гаварыў і за сябе й за сябра.

— Ну, вось што, Лабуня: зараз закамандую гаспадыні самавар: будзем

сядзець, будзем піць чай і гаварыць. Люблю я, ведаеш, гэтак з прыяцелем за чаем пасядзець!.. Эх, што-ж я? Стой, брат!—спыніў Турсэвіч самога сябе: —мы наўперад закусім. У мяне, брат, вельмі слаўнае сала ёсьць... Ну, ведаеш, чула душа, што ты прыедзеш: быў на станцыі й сала купіў. Чакайжа, брат. У нас будзе зусім другая музыка!

— Такія разумныя рэчы ня кожнае вуха пачуе,—адказаў Лабановіч: —адным словам, галава твая міністэрская!.. І дазволь мне, вялікі пустэльніча й мой настаўніча, сказаць мне колькі слоў на гэты выпадак?

— Валяй!—

Лабановіч падняўся, састроіў важную міну й пачаў:

«Люблю я слухаць шум ад таркі—
Дзяруць картофлю на бліны;
У печы піск люблю ад скваркі—
Прынадна пахнуць мне яны.
Няхай злуе айцец духоўны,
Няхай суліць мне пекла ён,—
Люблю я больш, як звон царкоўны,
Скавароды аб прыпек звон».

— Ха-ха-ха!—зарагатаў Турсэвіч:—эх, ты богахульнік! Гэта толькі ў пельшыне й можна дадумацца да гэтага:

Люблю я больш, як звон царкоўны,
Скавароды аб прыпек звон!

Лоўка, яй-Богу лоўка!.. Ну, я зараз!—

Турсэвіч выбег у сенцы, адтуль да гаспадыні з загадам прыгатаваць вячэру.

Ён зараз-жа вярнуўся.

— А ведаеш, Лабанок,—таемна прамовіў Турсэвіч, панізіўшы голас:— можа-б ты выпіў чарку?

— Мілы ты мой друг! Мала таго, што галава твая міністэрская, дык ты яшчэ й чараўнік, адным словам—кудэсьнік!—натхненна прамовіў Лабановіч:—чаму-ж ня выпіў-бы, як кажа мая бабка?

— Дык, кажаш, добра было-б выпіць?—спытаў з нейкаю сур'ёзнасьцю Турсэвіч.

— А які-ж дурань асьмеліцца сказаць, што ня добра?

— Дык няма-ж братка!—

Твар Лабановіча крыху выцягнуўся.

— Ха-ха-ха-ха!—аж прысеў Турсэвіч ад сьмеху, потым усхапіўся, не перастаючы сьмяяцца й паказваючы на сябра пальцам.

— Абязьвечыў ты мяне гэтым,—прамовіў Лабановіч, спаўшы з настрою.

— На тое-ж я кудэсьнік,—не пераставаў сьмяяцца Турсэвіч.

Ён падышоў да шафіка, пакапаўся ў ім і важна выцягнуў адтуль паўбутэльку.

— Ня журыся, брат!—сказаў ён і патрос паўбутэлькаю.

Покі смажыліся скваркі, Турсэвіч падгатаваў стол да вячэры.

Што, можа твая бабка патраціць так грабіць?—спытаў Турсэвіч сябра, як толькі Лукашыха прынясла вячэру.

— Затое-ж мая бабка шаптаць умее.

— Шаптаць-то яна ўмее, але капусты зварыць не патраціць. Ведаю тваю бабку.—

Сябры селі за стол.

Выпілі па чарцы.

— Ну, закусвай, брат!—

Увесь час ішла самая вясёлая, самая жывая бяседа. Гаварыў галоўным чынам Турсэвіч. У яго была тонкая назіральнасьць, і піводная рыска, тыповая драбніца не хавалася ад яго вока. Апрача гэтага, у яго была здольнасьць намалявац і жыва прадставіць таго ці іншага пэрсанажа.

Яго вельмі насьмяшыла адно здарэньне на зялезнай дарозе, і аб гэтым здарэньні апавядаў ён цяпер Лабановічу.

Справа дотыкалася аднаго кантроля. Кантроль быў вельмі прадажны служака. Захацелася яму злавіць аднаго старасту на зялезнай дарозе. А староста, трэба сказаць, быў парадашны жулік: прыпісваў лішніх рабочых, каб іх плату палажыць сабе ў кішэню. Налятае гэты кантроль. Старасты пры рабочых не было—дзесь у будцы сядзеў. Пералічыў рабочых і хацеў зьпячаўку на старасту налячець, каб паверыць яго кніжку. Але выпадкова была тут дачка старасты. Дзяўчынка пусьцілася ў будку бацьку папярэдзіць, а каб кантроль не дагадаўся, яна бокам дарогі пабегла. Кантролю тут і цюкнула. Ён за дзяўчынаю! Бяжыць уперадзі дзяўчына, узьняўшы падол, а за ёю, як ганчак за зайцам, кантроль чэша. І дабеглі яны да будкі праве адначасьне.

— Паказвай запісную кніжку!—загрымеў кантроль да старасты й ніяк духу перавясьці ня можа.

— Я аддам цябе пад суд!—насеўся кантроль.

— А я на вас падам у суд,—спакойна адказаў староста:—бо вы ганяліся за маёю дачкою, хацелі яе згвалціць!—

Кантроль вырачыў вочы, як-бы яго даўбешкаю агрэлі.

— І пабачым, каму ад гэтага будзе болей нясмачна,—казаў усё такжа спакойна староста:—я дзесяць сьведак пастаўлю, і кожны пацьвярдзіць, чаго вы за дзяўчынаю ганяліся.—

## XV.

Сябры скарысталі вясёлы свой настрой для розных сьмешных успамінкаў і далі волю нястрыманаму сьмеху.

— У нас сёньня дзень не прапаў дарма, бо ў гэты дзень мы многа сьмяяліся,— зазначыў Лабановіч:—Нічша вуснамі свайго Заратустры казаў: «Той дзень, калі вы не сьмяліцёся, прападае для вас.»

— У такім разе ў нас, брат, многа прападае дзён,—ужо сур'ёзна адказаў Турсэвіч.—Бывала, ўвосень сядзіш адзін гэты доўгі вечар. За акно зірнеш—цемень. Дождж. А кроплі ўсё плюскацяць і плюскацяць пад капя-

жом, як-бы там плача хто. І нейкія асобныя думкі пачынаюць валадаць табою. Замець, дружа: іменна асобныя думкі. Яны выходзяць як-бы не з твайго мозгу, а табе іх насылае нехта, каго няма, але прысутнасьць яго як-бы адчуваецца. І вось, ваб'юцца ў галаву такія думкі, і Бог ведае, аб чым яны ні гамоняць табе! А вось, як гэтыя бярозы каля хаты пачнуць шумець!.. Ведаеш, брат: чалавек, скажам прывыкае да жывёлы. Гаспадару часта шкада разлучыцца з канём, ці кароўкаю, або з сабакам не за тым, што яны для яго карысны, а проста па прывычцы. Але можна прывыкнуць ня толькі да жывёлы, з й да дрэва. як я, напрыклад, прывык да гэтых двух старых бяроз, што стаяць на шляху каля хаты. І вось, кажу, калі зашумяць яны сваімі голымі вецьцямі, то я чую да іх нейкую жаласьць. Мне здаецца, што яны чагось смуткуюць і аб чымся скардзяцца й што яны так сама нешта пачуваюць, іменна пачуваюць. І ў такія вечары ўжо не засьмяешся... І многа ў нас такіх вечароў! —

Апошнія словы Турсэвіч прамовіў у нейкім засмучэньні.

Лабановіч уважліва слухаў сябра й зацікавіўся ім: з гэтага боку, з боку такой тонкай чуласьці й лё.кага містыцызму, ён бачыў яго першы раз, лічучы яго чалавекам пераважна рэалістычнага складу.

— Тваю думку аб бярозах я хацеў-бы пашырыць і паглыбіць. Я хачу запытаць цябе: ці думаў ты калі-небудзь над тым, або проста—ці кідаўся табе ў вочы той факт, што прырода вакол нас... я ня ведаю, як выказаць маю думку, ну, што ў яе ёсьць нейкае сваё сьвядомае жыцьцё? Якое яно, я ня ведаю. Можа гэта, як у мяне напрыклад, ёсьць перажытак дзяцінства. Але й цяпер я ніяк не магу вызваліцца ад гэтага пачуцьця, што прырода мае нейкае сваё сьвядомае жыцьцё.. Ёсьць такія мясьціны, і іх я знаходжу ўсюды, дзе я ні бываю, да якіх мяне ня горне, я не магу з імі зжыцца, прывыкнуць да іх. Я зварачаў увагу на тое, што ёсьць такія мясьціны, дзе пташкі ня хочуць гнязьдзіцца й сьпяваць і стараюцца абмінаць яго.

— Ёсьць, брат, штось такое,—сказаў Турсэвіч.

— І вось, брат, як пачнеш на адзіноце думаць, то чорт ведае, да чаго дадумаешся. Накруціш свае нэрвы так, што пачынае цябе жуд пашыбаць. І ўсе гэтыя таямніцы можа гэта ня больш і ня менш, як вынікі гэтых туга накручаных струн—нэрваў?

— Мы прывыклі, дружа,—мякка сказаў Турсэвіч—адбаярвацца агульнымі выразамі там, дзе наш розум ня можа здалець пераступіць нейкія парожкі, якія адгараджваюць ад яго тое, чаго мы ня ведаем. І ў адных выпадках мы кажам: «Гэта—нэрвы». У другіх: «Аб гэтым ужо й закон так кажа, значыцца, тут трэба спыніць свой розум»; або—«гэта злучэньне акалічнасьцяў», «пад такою планэтаю радзіўся» і многа другой чапухі. І часта які-небудзь незразумелы факт мы тлумачым яшчэ больш незразумелымі злучэньнямі слоў і думаем, што сказалі нешта надта разумнае, а другія згаджаюцца з гэтым і здавальняюцца.—А між тым усе гэтыя сьляпыя агульныя выразы вельмі шкадлівы, бо яны зьвязваюць уніклівую думку чалавека, заспакойваюць і закалыхваюць яе, як закалыхваюць крыклівае дзіця, і не даюць

ёй ходу там, дзе трэба разгарнуць сваю дзейнасьць, каб дашукацца прычыны. І такім чынам, праз сям'ю, а потым і праз школу наш розум прывучаецца пасыўна ўспрыймаць такія зьявы, якія далёка недасьледжаны й нерастлумачаны. Дзяцей часта асякаюць старэйшыя ў сям'і, калі яны прыстаюць з запытаньнямі, то вельмі наіўнымі, то часамі занадта замысловатымі. А несьвядомыя настаўнікі ў школах так сама забіваюць у вучнях усё тое, што не ўкладаецца ў асадках падручнікаў або выходзіць за межы знаўства самых пэдагогаў. А гэта ўсё разам узятае вядзе да таго, што мы падпадаем пад абладу слоў і ня маем волі для пратэсту процiў гвалтоўнасьці над нашым розумам.—

Лабановіч слухаў сябра, згаджаўся з ім, як-бы Турсэвіч выказваў яго ўласныя думкі. Разам з гэтым і нейкае засмучэньне закрадалася яму ў душу.

— Ведаеш, брат, сказаў ён:—вельмі добра хоць зрэдка сустракацца з жывым чалавекам, пагаманіць, адвясьці душу. А то жывеш у гэтакай глушы, дзе жывога слова не пачуеш, жывеш адзін. І думкі розныя бываюць; мігатнуцца ў тваёй галаве, як цень па зямлі ад лёгкай хмаркі, і забудуцца, як-бы асуджаныя на зьніштажэньне. А гэты дробны клопат штодзеннага жыцьця, няцікавага, часта пустога й нікчэмнага, прыніжае цябе, выціскае з цябе ўсё больш вартоўнае. І вось цяпер, як я крыху адышоўся ад свайго Цельшына й зірнуў на яго збоку, то гэта глуш, што цікавіла мяне сьпярша, пачынае здавацца мне варожаю й наводзіць на мяне нейкае засмучэньне, як-бы я ў ёй або яна ў мне чуем няпрыяцеля. Чым болей жыву я там, тым больш пачуваю, што затрымацца там на доўгі час у мяне ня хопіць сілы.—

Лабановіч змоўк і задумаўся. Вочы яго сталі нярухлівы й пазіралі ў нейкі адзін пункт. Перад ім устаў вобраз панны Ядвісі.

«Не, брат: ня ведаеш ты, чым мне міла гэта глуш, ды я табе пра гэта не скажу», сам сабе думаў Лабановіч. Турсэвіч, залажыўшы за сьпіну рукі, хадзіў ад сьцяны да сьцяны й так сама аб чымся думаў.

— Так, брат, там цяжка. Па сабе ведаю, якая там глуш,—прамовіў Турсэвіч.—Вось ты вазьмі: якія-небудзь дваццаць вёрст разьдзяляе нашы месцы, а якая розьніца! Тут зусім другое: ня той народ, ня той выгляд прыроды. Мы заўтра пройдземся, паглядзім.. Ніяк, брат, ня можна раўняць Случчыны з Піншчынаю. І дзеці ў школе ня тыя. У іх больш сардэчнасьці, больш, ведаеш, гэтай чалавечнасьці, а твае палюшукі—проста зьвяркі.—

Далёка за поўнач сядзелі сябры. Многа ўсякіх пытаньняў было паднята і абгаворана імі. Усё, што думалася на адзіноце, што так ці йначай займала й цікавіла іх, усё гэта выявілася цяпер і давала многа матар'ялу для іх гаворкі. Але не хапала й гэтай доўгай ночы, каб абгаварыць усё.

— Скажы ты мне, братка Алесь,—пытаў сябра Лабановіч, ужо лежачы з ім у пасьцелі:—для чаго чалавек на сьвеце жыве? З некаторага часу мяне цікавіць гэта пытаньне. Аб гэтым пытаў я нават і сваю бабку.

— Ну, для чаго-ж жыве?.. А чорт яго ведае, для чаго ён жыве,—прамовіў Турсэвіч.

Сябры громка засьмяяліся.

— Тут ужо, брат, нейкая філёзофія. І я думаю, што для немца, напрыклад, такое запытаньне і ў галаву ня прыдзе.

— Чаму?

— А таму, што немец—чалавек практычны. Разрашэньне-ж гэтага пытаньня не дае ніякага практычнага рэзультату.

— Значыцца, немец ня ведае, чаго ён на сьвеце жыве?—запытаў Лабановіч.

— Ну, каб такі кілбасьнік ды ня ведаў, чаго ён жыве!—

Сябры зноў засьмяяліся.

— Чалавек жыве дзеля дабра, для служэньня праўдзе, каб ствараць нейкія вартасьці жыцьця й каб быць карысным для другіх,—сказаў Турсэвіч.

— Гэта, брат, ён так п а в і н е н жыць. Але мы бачым, што жывуць людзі зусім не па гэтаму правілу, і пляваць яны хочуць на дабро або на нейкую там карыснасьць. А справа тут стаіць зусім проста, і ў гэтым сэнсе ёсьць толькі адна мерка, якая падыдзе да кожнага: жыве чалавек для таго, каб у гэтым жыцьці як можна болей вывудзіць карыснага й прыемнага для сябе.

— Пастой, брат: ты, здаецца, нясеш нейкую гразь. Што-ж па тваему вывуджвае які-небудзь праўдзівы хрысьціянін, адрокшыся ад зямлі з усімі яе дарамі й дабротамі й ідзе ад людзей, каб заставацца на адзіноце з Богам? Як прыложыш ты да яго сваю мерку?

— О, гэтыя хрысьціяне народ вельмі зmыслы, і да іх яшчэ дакладней прыстае гэта мерка. Яны, бачыш, маюць вельмі шпаркі разгон і шырока расчыненую губу. Іх не здавальняе зямля й наогул гэты сьвет (хоць і зямлёю яны так сама ня грэбаюць). Ім давай рай, вечнае збавеньне й бясконцнае ўжываньне радасьці й дабрабыту. А на сваё жыцьцё на зямлі яны пазіраюць, як на спосаб лацвей дастасавацца да гэтага банкету на тым сьвеце.

— Ты занадта агаліў гэты сэнс жыцьця,—сказаў Турсэвіч:—і тым самым зьняважаш і чалавека. Ёсьць людзі, што жывуць ідэямі агульнага дабра. За свае ідэі яны йдуць у вастрогі, на высылкі; за гэтыя ідэі іх крыжавалі, давалі ім атруту, палілі на кастрох. Тут ёсьць нешта большае, чым асабістая выгада й вывуджваньне карысьці для сябе. І ня можна выводзіць з аднаго прынцыпу дзейнасьць якога небудзь жуліка й дзейнасьць чалавека, працуючага ўсё жыцьцё для другіх.

— Гэта толькі здаецца так на першы погляд,—стаў на сваім Лабановіч:—а гэты прынцып адзін для ўсіх. Справа толькі ў тым, якія ўжываць спосабы, якімі дарогамі йсьці й як разумець гэты прынцып. Але каго ты ня возьмеш: ці то будзе вучоны, вышукваючы новыя законы жыцьця й пракладаючы да яго новыя дарогі, ці то будзе які-небудзь выдумшчык—Эдысон, ці паэта, ці мастак-маляр, ці прапаведнік новага вучэньня, ці самазрокшыся дзеяч, вечны служка выключна для другіх,—усе яны выходзяць з таго-ж самага прынцыпу. Ня трэба толькі зьмешваць мэту з тымі дарогамі, якімі гэтыя мэты дасягаюцца.

— А ўсё-ж такі я з табою не згаджаюся,—адказаў Турсэвіч.

— А калі-ж у спрэчках згаджаюцца? Згодзішся, калі аб гэтым добра падумаеш. А цяпер давай хіба спаць, бо, здаецца, ужо пачало разьвідняцца.—

XVI.

Шырокі гасьцінец з двама радамі старых бяроз зьбягаў з горкі раўнюсенечкаю сьценкаю кудысь на захад, і чым далей, тым гусьцей здаваліся гэтыя разьвіслыя тоўстыя бярозы, усё болей і болей зьніжаліся яны, а потым зьліваліся ў адзін шнур і замыкаліся сабою самымі, як-бы яны ўпіраліся ў лес і хаваліся за лінію небасхілу.

Ёсьць штось нязвычайна прыгожае ў гэтых прывольных старасьвецкіх шляхох Беларусі. Шырока й размашыста пралягаюць яны ад вёскі да вёскі, ад мястэчак да гарадоў, злучаючы паветы, губэрні й цэлыя краіны. Колькі хараства й чароўнага прывабу ў сініх іх далях! Колькі новых малюнкаў, сьвежых матываў і таемных здарэньняў абяцаюць яны вачом і сэрцу падарожнага! З якою нязвычайнаю сілаю парываюць яны да сябе й як моцна дакранаюцца да струн тваё душы! Якая-ж сіла заложана ў гэтых прасторах неабнімных родных шляхаў і якую ўладу маюць яны над табою, неспакойны, вечна заклапочаны падарожны? Ці ня гэта, нікім неказаная казка іх, якая складалася доўгімі вякамі й запісвалася агнявымі літарамі людзкое крыўды ў сэрцах мільёнаў падарожных, што йшлі й ехалі па гэтых шляхох і думалі свае думкі? Ці ня яна, гэта летапіс часаў, так глыбока западае ў тваю душу, каб адбіцца ў ёй, знайсьці свой пэўны вобраз і форму й грознаю маланкаю жахнуць гэту цёмную ноч няволі, што зьвісла над краем? А можа гэта таемная й страшная бясконцнасьць блуканьня па сьвеце, дзе трудна вызначыць пачатак і канец, сымбалямі якіх зьяўляюцца гэтыя шляхі, авявае душу тваю няўразным хваляваньнем і кліча яе зьліцца з бяскрайнасьцю зямлі? Ці то—няясны адбітак вечнага нездаваленьня людзкога, таемны пакліч да шуканьня другіх формаў жыцьця, несьвядомае імкненьне да лепшае долі? Ці то—парываньне душы разьбіць нейкія граніцы й вырвацца на бязьмежныя прасторы яшчэ нідзе няістнуючай волі?

Эх, шляхі, родныя шляхі! Хто перакажа нам твае казкі, разгадае думкі, назьбіраныя й напісаныя часамі на гэтых камлёх тваіх прысадаў?

— Зірні, ты зірні: якое гэта прыгожства!—казаў Турсэвіч сябру, паказваючы з ганку свае кватэры на роўны шлях і на ўвесь малюнак, што раскрываўся перад імі:—які разгон, які простор! Які вясёлы тон малюнку й колькі ў ім рознастайнасьці! А вось гэтыя бярозы каля мае хаты: паглядзі, якія яны слаўныя!

— Я аднаго не разумею,—сказаў Лабановіч, любоўна агледзіўшы увесь краявід:— у нас столькі прыгожства, столькі багацьця формаў і фарбаў, і край наш вялікі й рознастайны, а мы ня бачым, ня хочам гэтага бачыць. Аб нашым краю зложыўся погляд, як аб краю бедным, заняпалым. І нідзе ты ў падручніках па географіі ня знайдзеш больш-менш сталага апісаньня Беларусі. Што такое наша Беларусь? А гэта, бачыш, заходняя акраіна Ра-

сві. Чым яна слаўна? Нічым. Што ў ёй ёсьць? Нічога. Чым яна багата? Нічым. Вось балоты там ёсьць ды яшчэ на ўвесь сьвет вядомая хвароба—каўтун. І мы з гэтым лёгкадумна згаджаемся, мы ўсё гэта прыймаем на веру, бо, як ты сказаў праўду, над намі пануе шаблён, шаблён пустых слоў, пустыя выразы, чужыя формы думак і чужы зьмест іх. Выходзячы з гэтага, мы адварочваемся ад свайго роднага, не шануем яго, мы стыдаемся яго!—Слова «стыдаемся» Лабановіч прамовіў з націскам, пры гэтым выраза яго твару зьмянілася, а ў вачох загарэўся агеньчык нейкай злосьці. У ім збудзіўся цяпер, скарэй інстынктыўна, чым сьвядома, пратэст проціў зьнявыжаньня й прыгнячэньня нацыянальных правоў народу, і ён, як сын гэтага народу, з якім ён чуў цесную сувязь, стаў на абарону гэтых правоў.

— Кожны народ мае свой гонар. Англелец перад усім сьветам горда зазначае: я—ангелец!—Тое самае скажа француз, немец, аўстрыяк, расеец і іншы прадстаўнік другое нацыі. А мы, беларусы, не адважваемся прызнацца ў тым, што мы—беларусы. Бо на галаву беларускага народу, як нацыі, многа выліта памыяў, уся істота яго прыніжана, і мова яго асьмеяна, у яго няма імя, няма твару. А з гэтага вынікае тое, што беларус-інтэлігэнт адмяжоўваецца ня толькі ад свайго народу, але й ад бацькоў сваіх. Мы ведаем такое здарэньне з адным нашым знаёмым настаўнікам, да якога прыехала з дому матка. У яго былі госьці. Ён пры госьцях не пасьмеў прызнаць свае мацеры.

— Ідзі ты, кажа, кабетка, на кухню: там цябе накормяць.

— Гэта—сьвінства!—адклікнуўся Турсэвіч і плюнуў з нейкаю агідаю. —Баяўся мужыком паказацца й выявіў сваё поўнае хамства.—

Сябры некаторы час ішлі між прысадаў, а потым зьвярнулі на дарожку, гладка ўеджаную сялянскімі санямі, і пашлі ў бок чугункі.

— Я хачу паказаць табе даўнейшыя могілкі.—сказаў Турсэвіч і павёў сябра ў невялічкі лясок на ўзгорку недалёка ад дарогі.

Дзе-ні-дзе на гэтых могілках тарчэлі астаткі крыжоў, панура зьвіслых над зямлёю, і невялічкія гарбкі, закрытыя сьнегам. Між высокіх дрэваў стаяла дзеравянная каплічка з пабітымі вокнамі. Каплічка, здавалася, чуць-чуць ліпела й гатова была кожную мінуту разваліцца. Дзервяны дашок яе прагніў і зіяў чорнымі дзіркамі. Ухапіўшыся за выступ падаконьніка, Лабановіч зазірнуў у сярэдзіну каплічкі. З палотнішч старых абразоў на яго глянулі строгія хоць і выцьвеўшыя твары сьвятых. У сярэдзіне каплічка мела яшчэ досыць сьвежы выгляд, але ўсё ў ёй было пахмурым і страшным, і самі сьцены, здавалася, сурова пыталі:

— Чаго табе трэба тут, пустацікавец? Якое ты маеш права нарушаць спакой гэтае сьвятыні?—

Каплічка была пабудована ў асобным стылю й мела арыгінальны выгляд. Яшчэ й цяпер па глухіх кутках Случчыны, напэўна, захаваліся такія каплічкі.

— Каб я умеў маляваць,—сказаў Лабановіч—я перанёс-бы яе на паперу.

— Цікавая капічка,—згадзіўся й Турсэвіч.—Вось я й прывёў цябе сюды, каб паказаць яе табе. І ведаеш, якое было тут нядаўна здарэньне? Адзін тутэйшы абыватаць з шляхты быў на паляваньні. Сабака выгнаў ліса. Ліс схаваўся пад аўтар гэтае капічкі. Паляўнічы пачаў тут капацца й забіў гэтага ліска. Аб гэтым даведаўся бацюшка, падаў на суд за абразу сьвятыні. Адным словам завязалася цэлая громкая справа.

— А ведаеш, мне й ня шкода, што гэтага паляўнічага на суд падалі, —адказаў Лабановіч:—разумеецца, справа тут ня ходзіць аб абразе, але сам па сабе гэты выпадак моцна крабае сэрца: бедны зьвярок думаў знайсьці сабе тут ратунак. І гэта напамінае мне адну выразу з псальму, дзе гаворыцца: «У аўтарох тваіх, Госпадзі, знаходзіць прыпынак ластавачка».

Сябры моўчкі йшлі з магілак. Відаць было, што кожнага паасобку займалі свае думкі. Лабановіч чуў нейкае замучэньне й неспакой. Яго штось не здавальняла й кудысь цягнула. Можа часткаю магла быць тут прычынаю й тая вакалічнасьць, што, як яму здавалася, Турсэвіч лепей вёў сваю школьную працу й наогул яго школа рабіла ўражаньне больш прадуктыўнай школы. А можа тут так сама мела значэньне іх скорая разлука, бо цяпер яны йшлі на станцыю, адкуль ён мусіць паехаць у сваю глуш.

—Што, брат, прыціх?—запытаў яго Турсэвіч:—чаго зажурыўся?

— Незаўсёды-ж і вясёлым быць,—адказаў Лабановіч:—ведаеш, брат, як пабачыў я тваю школу, твае заняткі, то мая школа ў параўнаньні з тваёю нікуды не гадзіцца.

— Ха-ха-ха!—засьмяяўся Турсэвіч:—ніколі твая школа ня будзе адставаць, раз ты ёю так моцна цікавішся й прыймаеш блізка да сэрца. Гэта ў цябе яшчэ з няпрывычкі, з першага году. А я праконан, што твая школа шмат лепш стаіць за многія тут школы.

— Што я табе хацеў сказаць, — прамовіў Лабановіч:—давай вясною, як скончацца нашы заняткі ў школах, пойдзем паходзім па Беларусі, азнаёмімся з ёю бліжай. А свае назіраньні запішам, зьбяром багаты матар'ял. Прыцягнем яшчэ ў сваю кампанію якога-небудзь фатографа, зьнімкаў цікавых наробім... Апрача сьмеху... Гэты плян, разумеецца, распрацаваць трэба. Я толькі думку падаю.

— А што ты думаеш? Гэта было-б цікава. Аб гэтым, брат, трэба падумаць сур'ёзна, ей-права!

— Ты ведаеш,—з жарам падхапіў Лабановіч, пачуўшы падтрыманьне сябра,—гэта была-б цікавейшая рэч! Мы-б абышлі шмат школ, бліжай пазнаёміліся-б з настаўніцтвам, абудзілі-б цікавасьць да свайго краю. А самае важнае—мы раскатурхалі-б соннае балота нашага настаўніцтва, бо жыць так, як жывём мы, адарваныя адзін ад аднаго, жыць бяз жывой ідэі, ведаць адну толькі цесную школу й траціць час на карты й папойкі, што звычайна робіць наш брат, так жыць ня можна, бо для гэтага трэба наўперад задушыць у сябе голас сумленьня, голас доўгу перад народам.

— Вучыцца нам, брат, яшчэ трэба многа,—зазначыў Турсэвіч:—я, напрыклад, думаю ў інстытут падавацца.

— І я чую, што трэба вучыцца, але сэрца маё ніяк не ляжыць да інстытуту. Бо што такое інстытут? Гэта тая-ж самая казарма—сэмінарыя, розьніца толькі ў тым, што інстытут канчаткова заб'е ўсё яшчэ больш-менш жывое ў нашай душы, чаго не забіла сэмінарыя, і з настаўніка зробіць сухога кашчэя-чыноўніка.—

Лабановіч у глыбі душы пачуў нейкую няпрыязьнь да сябра, бо, як яму паказалася, Турсэвіч штосьць задумаў, і яго погляды нязгодны з тымі поглядамі, у якіх, як увесь час лічыў Лабановіч, яны згаджаюцца.

І ўжо да самае станцыі сябры йшлі моўчкі, замкнёныя ў сабе самых.

Разьвіталіся яны сардэчна.

— Не забывай-жа мяне,—сказаў на разьвітаньне Турсэвіч.

— Цяпер, брат, твая чарга даведацца свайго старога месца й старога прыяцеля,—адказаў Лабановіч.

XVII.

Ну, як-жа вам, панічок, гасьцілася?—пытала бабка Лабановіча.

— Ой, бабка, добра гасьцілася! «Было шчо піты й есты, але прынукі ны было,»—адказаў настаўнік на паляшуцкі лад.

— У мяне, панічок, капуста ад абеду засталася, можа вы «хлясанулі-б» крыху?

— Не, бабка: есьці я не хачу.

— То, мусіць, вас той паніч добра частаваў?

— А як-жа, бабка! Дзякаваць Богу, пачаставаў на славу.

— Ну, то й добра, панічок!—

Да бабкі хтосьць прыйшоў. Яна зараз-жа вышла ў кухню, а Лабановіч сеў пераглядаць вучнёўскія цятрадзі. Перагледзіўшы, палажыў іх на месца й колькі разоў прайшоўся па пакоіку. Усе гэтыя часы ён чуў, што яму якбы чагосьць не стае. Чаго? рэч вядомая: яму трэба пабачыць панну Ядвісю. Не: гэта ня так. Яму проста хочацца пабачыць яе. Якая-ж тут патрэба? Хіба ён мае сказаць ёй што?.. А чаму-ж і ня мае? Ці-ж гэта ня была-б праўда, каб ён прыйшоў і сказаў да яе: «Я прышоў да цябе, бо хачу бачыць цябе, хачу чуць твой голас: ён гучыць для мяне, як вясна; хачу пачуць твой сьмех, бо ён, як промень сонца, асьвятляе мне душу. Я прышоў да цябе, бо к табе прыцягнула мяне сэрца».

«Не, дудкі, брат: ты гэтага не пасьмееш сказаць ёй. Так можа сказаць Сухавараў, бо ў яго словы не ад сэрца, і ні да чаго яны не абавязваюць яго», думаў Лабановіч.

Чым меней думаць, тым лепей. Проста захацеў пайсьці й пайду.

Мінуту ці дзьве счакаўшы, Лабановіч хутка перакінуўся на двор пана падлоўчага цераз нявысокі плот, які адгараджаў двор школы ад двара падлоўчага, і пастукаў у дзьверы. Ніхто ня йшоў адчыняць. Або не пачулі стуку, або ня было дома.

Ён пастукаў мацней.

Зараз-жа пачуліся чыесь крокі.

Дзьверы бразнулі й адчыніліся.

— Ёсьць хто дома?—спытаў настаўнік служанку пана падлоўчага.

— Пан з паняю паехалі ў Х., дома паненкі й Чэсь.

— Проша, проша! —падбегла Габрынька й папрасіла Лабановіча заходзіць далей.

Маленькая, жвавая смуглянка, здавалася, была вельмі рада госьцю. Жывыя й бойкія вочкі яе так і сьвяціліся радасьцю.

— Калі ласка, проша да пакою!—

Габрынька ўзяла лямпу й павяла госьця ў прасторны пакой.

— Сядайце, калі ласка.

— Я можа ня ў час зайшоў да вас і пашкодзіў вам у рабоце?—запытаўся Лабановіч.

— Барані Божа! Якая-ж у нас работа?.. Вы так рэдка да нас заходзіце...

— Што маю права часамі й спыніць вашу работу, асабліва, калі яна няпрыемна?

— Работы, пане настаўніку, ніколі не пераробіш.

— Гэта праўда.

— Ці ня можна ведаць, якая праўда?—вясёлым маладым голасам прамовіла панна Ядвіся, падыходзячы да настаўніка.

— Добры вечар, пане Лабановіч!—

Ядвіся падала руку і ўскінула на настаўніка свае чыстыя цёмныя вочы й затрымала па ім свой погляд, як-бы штось чытаючы на яго твары.

— Што-ж гэта вас ня відаць нідзе?—прамовіла яна:—і да нас не заходзіце.

— Каб я да вас часта заходзіў, то я напэўна не замеціў-бы, як вы пахарашэлі,—сьмяючыся адказаў Лабановіч.

Панна Ядвіся на міг апусьціла вочы.

— Цяпер я вас разумею,—сказала яна:—вы чакалі, покі я не пахарашэю, бо такою, якою вы бачылі мяне першыя разы, вам няпрыемна было бачыць? Праўда?

— А панна Габрыня за гэты час пастарэла,—не адказваючы на пытаньне панны Ядвісі,—сказаў Лабановіч.

— Ну, што гэта вы! як-бы раней памовіліся,—запратэставала маленькая Габрынька:—і татка называе мяне старэнькаю й вы тое самае кажаце.

— А вы мне не адказалі,—стаяла на сваім Ядвіся:—я ад вас не адступлюся, покі вы не адкажаце мне.

— Ну, то ў такім разе я ніколі не адкажу вам, бо мне будзе вельмі цяжка, калі вы адступіцеся ад мяне.—

Панна Ядвіся прыкінулася ўсерджанай і нецярпліва тупнула.

— З вамі ніяк ня можна да праўды дайсьці. А вось-жа я адступлюся: хачу паглядзець, як вам будзе цяжка.—

Панна Ядвіся адышлася й села на канапу.

Лабановіч адышоўся ў цёмны куток пакою.

— Куды-ж вы схаваліся?—спыталася Габрынька.

— Я не хачу, каб ваша сястра бачыла, як мне цяжка.—

Паненкі заліліся вясёлым сьмехам.

Панна Ядвіся зьняла з лямпы абажур і падышла да Лабановіча.

— Пакажэце, як вам цяжка?

— А цяпер мне зусім лёгка!—сьмяяўся Лабановіч.

— У вас сем пятніц на тыдні!—сказала Ядвіся й папрасіла яго бліжай да лямпы.

Настаўнік і паненкі селі каля стала.

— Дзе-ж вы былі й каго вы бачылі за гэты час, покі мы тут старэлі й харашэлі?—ня вытрывала панна Ядвіся, каб не засьмяяцца.

Лабановіч пазіраў на яе вясёлы й дапраўды пахарашэўшы твар, на гэтыя тонкія, прыгожа скругленыя бровы, і яму было прыемна ў кампаніі гэтых двух мілых дзяўчатак.

— Перш-на-перш прашу прабачэньня, што не перадаў вам паклонаў ад Сухаварава й ад Турсэвіча.

— Ну, як жыве пан Турсэвіч?

— А чаму вы наўперад не запыталіся, як жыве Сухавараў?—запытаў Лабановіч і бачліва паглядзеў на Ядвісю.

Ядвіся й Габрыня пераглянуліся, усьміхнуўшыся. Як відаць, у іх была гутарка аб Сухавараву, і яны знайшлі ў ім нешта такое, з чаго яны сьмяяліся.

— Вы ня чулі, як пан Сухавараў грае на гітары?—спытала Габрыня, ня вытрывала й залілася сьмехам. Ядвіся стрымлівалася, колькі разоў паглядаючы на настаўніка. А потым і яна засьмяялася ды такім заразьлівым сьмехам, што й Лабановіч сьмяяўся, глядзя на іх; нават і малы Чэсь, увесь час моўчкі седзячы каля печы, мусіў сьмяяцца.

— Калі дазволіце, я скажу прычыну вашага сьмеху.—

Сёстры адразу перасталі сьмяяцца.

— Ну, скажэце!—разам прамовілі яны.

— У вас была гутарка аб Сухавараве. Вы зацікавіліся—які выгляд мелі-б губы пана Сухаварава ў той час, калі-б ён граў на гітары й сам ёй падпяваў-бы.—

Ядвіся апусьціла галаву. Зірнуўшы на Габрыньку, яна не магла стрымацца ад сьмеху й дала яму поўную волю.

Лабановіч дагадаўся, што правільна зразумеў прычыну іх сьмеху.

— Што, праўда?

— Вы не аматар адгадваць,—адказала Ядвіся:—усё гэта вы самі выдумалі.

— Панна Габрыня напэўна скажа праўду.—

Габрыня зірнула на Лабановіча, потым на Ядвісю. Дзяўчаты зноў засьмяяліся.

— Вы праўдзівы ці не?—нежадана запытала настаўніка Ядвіся.

— Чаму вы так пытаецеся?—зьдзівіўся крыху Лабановіч, пазіраючы ёй у вочы.

— Проста, мне цікава ведаць.

— Як-бы я вам ні адказаў, то ўсё роўна вы мне не паверыце.

— А чаму вы думаеце, што я вам не паверу?

— Каб вы мне паверылі, то я думаю, вы не пыталіся-б у мяне аб праўдзівасьці.

— Але вы ня ведаеце, ці веру я вам, ці не; ня ведаеце, ці лічу вас праўдзівым. Мне проста хочацца ад вас самых пачуць, як вы думаеце пра сябе.

— Значыць, вы самі аба мне ўжо думалі?—усьміхнуўшысь, запытаў настаўнік.

Ядвіся крыху замяшалася, і чуць заметны румянец выступіў на яе шчочках.

— Калі вы спатыкаеце чалавека, то вы ня можаце аб ім не падумаць,—сур'ёзна прамовіла панна Ядвіся.

Лабановіч на хвілінку задумаўся.

— Прызнацца, я ніколі ня цікавіўся гэтым пытаньнем. Тут, на Палесьсі, дзе людзей сустракаеш мала, можа й задумаешся над кожным чалавекам, які ні пяройдзе перад тваімі вачыма. Але ў горадзе, дзе ня ўсьпеваеш больш-менш стала заменціць твар кожнага ўстрэчнага, я думаю, што гэта проста немагчыма. Можа дзе ў мазгох гэты процэс і выяўляецца, але ў нашым сузнаваньні ён праве й не адбіваецца.

— Я ў гарадох ня была,—адказала панна Ядвіся, крыху нахмурыўшыся.

— Ах, Ядвіська! што-ж гэта мы: і не падзякавалі пану настаўніку за кнігі.

— Выбачайце, я й забылася. Вельмі дзякую вам,—прамовіла Ядвіся.

— А вы ўжо прачыталі іх?

— Даўно ўжо прачыталі,—адказалі дзяўчаты.

— Я вам яшчэ прынясу, калі яны вам спадабаліся.—

Служанка прынесла самавар. Селі піць чай.

— Ну, а як-жа спадабаліся вам кнігі?—пытаў Лабановіч паненак за чаем.

— Вельмі цікавыя кнігі!—сказала Габрынька:—мы іх чыталі цэлымі вечарамі.

— Ці гэта ўсё была праўда, што там напісана?—спытала Ядвіся.

— Кожнае, самае праўдзівае апавяданьне, разумеецца, ня ёсьць фатаграфія, але ў яго аснове ляжыць праўда. І кожная звычайная зьява жыцьця, калі ахінуць яе ў прыгожую форму і асьвятліць яе больш-менш яскрава тым ці іншым сьветаглядам і пры гэтым умець яшчэ вызначыць тыя часта незаметныя пружыны выяўленьня нашае душы, што звычайна няўлоўліваюцца нашым вокам, можа быць тэмаю для вельмі цікавага апавяданьня. Хоць-бы ўзяць для прыкладу вас. Можна-б было—каб знайшоўся такі, разумеецца,

мастак—цікава напісаць, як у глухім Палесьсі гадаваліся й расьлі дзьве красуні-сястры. Гэтыя дзяўчаткі хочуць вырвацца на шырокі прастор жыцьця, бо іх забівае й губіць гнілое паветра палескіх балот і гразь розных падонкаў культуры. Вось вам аснова апавяданьня, драмы й чаго хочаце. А ўжо справа самога пісьменьніка дадаць тыя ці іншыя завязкі, узяць той ці другі тон, гледзячы на яго здольнасьці... Для яго тут расчыняюцца шырокія магчымасьці.

— Хоць-бы ўжо вы не сьмяяліся з нас, пане Лабановіч,—засмучона адказала панна Ядвіся.—

Лабановіч зьвярнуў увагу, што ён закрануў нейкія балючыя струны панны Ядвісі.

— А вы ўзялі-б дый напісалі-б аповесьць, а двух сёстрах,—сказала хітра Габрыня:—напісалі-б, што ў іх быў стары сабака Нэгрусь, у якога заўсёды цяклі з рота сьліны...

Габрыня не магла гаварыць далей з-за сьмеху. Гэты сьмех перайшоў і на Ядвісю й Лабановіча, бо гэты Нэгрусь лічыў сваёю патрэбаю заўсёды набрахаць на яго й наогул быў сьмешнаю псінаю.

— А я вам чагось не сказала,—гаварыла Ядвіся наразьвітаньні настаўніку.

— Ну, скажэце!

— Не: скажу другім разам.

**Тарас Гушча.**

(*Канец будзе*).

---

*Ян Баршчэўскі.*

# ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ.

або

# БЕЛАРУСЬ У ФАНТАСТЫЧНЫХ АПАВЯДАНЬНЯХ

## ВАУКАЛАК.

Ня ўсё нам у жыцьці здараецца бачыць, але раскажу пра тое, што чуў ад свайго суседа з няшчасным чалавеку, каторага вядзьмар перакінуў у воўка, і ён многа год пакутаваў, бадзяючыся па лясох.

У паўных ваколіцах, недалёка ад гораду Неўлю, жыў селянін. Знаці яго суседзі і іншыя памятуюць,—зваўся ён Маркам. Дзіўнае яго было жыцьцё! Ніколі ня бачылі, каб ён быў вясёлы, пастаянна ён смуткаваў, быў неспакойны, як нешта страціўшы; усякае таварыства было яму прыкра. Калі людзі йшлі на кірмаш пагуляць, патанцаваць або зьбіраліся ў вольныя ад працы дні ў карчму на йгрышча, ён заўсёды быў самотны дома ці дзе-небудзь блукаўся па полі, нудны і задуманы.

Часам пыталіся ў яго, што за прычына яго смутку, а ён пастаянна адказваў, што шмат цярпеў і ўжо нічога на сьвеце яму ня міла: памёр для сьвету.

Сусед мой быў з ім у блізкай прыязьні, і ён яму аднойчы гэтак апавядаў пра сваё жыцьцё.

— Былі часы, калі і я быў вясёлы; ніводная гульня, ніводзін кірмаш не абыходзіўся без мяне. Сьмехі і скокі былі і мне ў галаве, але нядоўга

---

*) „Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданьнях“ (Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach)—зборнік народных беларускіх апавяданьняў і легэнд, каторыя зьбіраў Баршчэўскі праз усё сваё жыцьцё. Нашісаны яны папольску і былі надрукованы ў Петарбурзе ў 1844—1846 г. Усе яны жыўцом узяты з беларускага жыцьця і ў польскай літаратуры ня маюць і ня будуць мець вялікага значэньня. Можна з пэўнасьцю сказаць, што пісаліся яны папольску толькі дзеля таго, што беларушчына ў часы Баршчэўскага была ў поўным заняпадзе і іх нідзе ня можна было-б надрукаваць.

Дзьве легэнды з „Шляхціца Завальні“—1) „Нячэпнасьць“ і 2) „Чорнакніжнік і зьмея, што выйшла з пятушынага яйца“—перакладзены і выданы дзьвюма асобнымі кніжачкамі Я. Станкевічам у Вільні ў 1917 г.

гэта трывала. Пазнаёміўся з Аленай. Прыгожая была дзяўчына і дачка багатых бацькоў. Яна падабалася мне больш за ўсіх дзяўчат, якіх я знаў. Стараўся я часьцей яе бачыць, бываць у доме яе бацькоў, выказуючы ёй пры кожным здарэньні сваё прывязаньне. Сустрэў узаемнасьць, і гэта было прычынаю майго няшчасьця.

У Алены было шмат, хто дабіваўся яе рукі, паміж каторымі Гальляш меў перавагу над усімі. Ён віжаваў і даносіў аб усім пану, за што меў у пана ласку: яму пан ва ўсім пазваляў больш, як другім. Ва ўсякую пору меў права Гальляш лавіць рыбу ў панскіх вазёрах; танна купляў быдла і з карысьцю для сябе перапрадаваў другім; часта пасылаўся ў горад за рознымі справункамі для двара і кожны раз адкладаў што-небудзь у сваю кішэнь. I гэтак ашукваючы ў гандлі і абкрадаючы пана зрабіўся багаты. Меў многа прыяцеляў і ласку ў двара, бо пан лічыў яго за найвярнейшага слугу, любіў і верыў яму больш, як другім.

Пэўны ў сабе, пасылае ён сватоў да Алены, але сваты вярнуліся ні з чым, бо Алена сказала бацьком, што ня хоча ісьці замуж за яго.

Гальляш, пачуўшы такую одпаведзь, сказаў: «воля не Алены, а воля паноў: не паслухала просьбы, то паслухае грозьбы». Пайшоў у двор, і жаданьне яго споўнілі: загадалі Алене ісьці за яго замуж.

Суседзі, што ведалі а маім прывязаньні да Алены, сустракалі мяне зьневажаючай усьмешкай, кпілі з мяне, з непамыснага майго прывязаньня і з адвагі, з якою я хацеў пераважыць усіх, нават багацейшых, што дабіваліся яе рукі. I ня раз, выведзены з цярпеньня тымі абразьлівымі кпінамі, адгукаўся я, што Гальляш нядоўга нацешыцца панскаю ўвагаю: грошы, нажытыя з ашуканства й крадзежы, ня пойдуць на карысьць, і што Алена была-б шчасьлівейшаю, калі-б выйшла замуж хоць за беднага, але за пачцівага чалавека.

Калі дачуўся Гальляш, што аб ім гаварылася, абяцаўся мсьціцца пры кожным здарэньні.

Надышоў дзень вясельля. Бацькі Алены, ведаючы а маім прывязаньні да іх дачкі, казалі мне, што панскай волі зьмяніць нельга, хоць яна несправядліва і бяз літасьці, але трэба мне памірыцца з сваёю доляй, застацца іх прыяцелем і прыйсьці на вясельле. Хоць не ахвоча, але згадзіўся я на гэта.

Вясельле было гучнае, гасьцей больш, як на кірмашы: маладыя абое багатыя; вышліся людзі з цэлай ваколіцы; у некалькіх мясцох пад адкрытым небам былі сьпевы, танцы, музыкі. Алена была багата ўбрана, яе ўсе віншавалі і зычылі шчасьця і пастаянных уцех. Сам пан прыехаў на вясельле. Гальляш яго частаваў; пан гутарыў з ім, пахаджаючы паміж вяселячымся людам. Малады ўгледзіў мяне паміж гасьцей. Я быў смутны, бо мяне ня толькі нічога не весяліла, а ўсе вясёласьці яшчэ горш наводзілі на нуду. Ён азірнуў мяне з зьневажаючым усьмехам ды пайшоў з панам далей.

Па некаторым часе падышоў да мяне дудар Арцём, чалавек ужо пажылы, ды кажа: «Чаго нудзішся? Выпі са мною гарэлкі і будзеш вясёлы, як і ін-

шыя». Узяў мяне за руку і павёў да столу, дзе было поўна бутэлек і закусак. Згадзіўся на яго ласкавасьць і выпілі з ім па два кілішкі гарэлкі, а ў той мамэнт хтось незнаёмы, пазіраючы на мяне збоку, сказаў з усьмешкаю: «Ну, цяпер ён патанцуе!» Арцём зараз-жа мяне пакінуў, узяў сваю дудку ды пачаў граць, а на мяне яшчэ большая напала нуда.

Крыху счакаўшы, падыходзіць да мяне мой сусед і, пазіраючы мне ў вочы, кажа: «Што гэта значыць, што твой погляд такі страшны, як у зьвера якога?» А другі дадаў: «Але, дапраўды яго вочы сьвецяцца, як воўчыя!» І іншыя, блізка стаяўшыя, тое самае сказалі, пазіраючы на мяне як-бы з перапалахам. Ня ведаю, што са мною рабілася тады, задрыжаў я ўвесь. Мне здавалася, што тыя людзі жадалі мне чагось найгоршага.

Алена з маткаю, стоячы паблізку, гаварыла; яна зірнула на мяне ды перапалоханая закрычала: «Ах, што з ім робіцца? Глянь, мама: якія страшныя яго вочы! Няхай-бы ён ішоў адгэтуль дадому!»

Пачуўшы гэтыя словы Алены, як-бы пярун мяне ўдарыў: пацямнела мне ў ваччу, і страціў я прытомнасьць. Кідаю гасьцей, ня ведаю, куды йсьці, бягу дарогаю і спатыкаю жанчыну. Тая вяла маленькае дзіця за руку й закрычала на мяне: «Ой, не глядзі на дзіця маё! Заб'еш яго сваімі страшнымі вачыма!» Уцякаю ад перапалоханае жанчыны і бягу дадому. Ледзьве падбег да свае хаты. Сабака мой не пазнаў мяне; дарэмна хачу яго супакоіць, сілкуючыся падаць голас, бо ўжо слова вымавіць ня мог: толькі ёнк, як выцьцё, выходзіў з грудзей маіх. Апанавала мяне страшная трывога. Парабак майго суседа, пазіраючы на мяне з задзіўленьнем, сказаў: «Што гэта значыць? Твой твар і рукі абрасьлі шэрсьцю?» Глянуўшы на сябе, я няпрытомны пакінуў дом свой і пабег у поле. Быдла на пашы ўцякала ад мяне, сабакі кідаліся на мяне. Я чым хутчэй схаваўся ў лес.

Перабег боры й дзікія пустыні ды ўпаў пад ценьню густых ялін. Глянуўшы там на сябе, я ўгледзіў, што мае рукі й ногі перамяніліся ужо ў воўчыя лапы. Хацеў заплакаць ад свайго няшчасьця і—страшнае выцьцё вырвалася з грудзей маіх.

І стаў блукаць я па горах і лясох у постаці страшнага зьвера. Мысьлі й пачуцьці засталіся ва мне людзкія; памятаў прошлае і, падумаўшы аб сваім стане, страшна мучыўся, ня ведаючы, ці будзе калі канец гэтаму няшчасьцю. Шукаў у кустох птушыных гнёзд, нападаў на зайцаў і на іншыя слабыя стварэньні. Гэта было маім спажываньнем. Не падыходзіў да людзкіх сяліб і хоць ведаў, што ўсе людзі мае ворагі, рады пры кожным здарэньні адабраць у мяне жыцьцё, аднак не хацеў ім шкодзіць.

Ня раз у сьвяточныя дні, пачуўшы касьцельны звон з поблізкіх лясоў, выцьцём прасіў Бога, каб зьмілаваўся нада мною; сярод цёмнай ночы ня раз хацеў падысьці да касьцёла, але сабакі праганялі мяне, а часам чуліся крыкі й выстралы. Тагды чым хутчэй уцякаў я ў лес, каб схавацца ад небясьпекі. Кожную раніцу выючы вітаў усход сонца, просячы ў неба штодзеннага для сябе пасілку.

У засеньнюю пору, у зімовыя ночы, ад дажджу хаваўся дрыжачы дзе-небудзь пад густою ялінаю; шум вятроў ахінаў мяне ў смутныя ўспамінкі прошласьці; узіму па некалькі дзён быў без яды: змучаны голадам, церпячы лютыя марозы, валачыўся па полі, каб знайсьці які-небудзь покарм. Супачынак мой настаянна быў кароткі і ва сьне заўсёды марылася мне прамінулае: бацькаўскі дом, сябры моладасьці і суседзі, з каторымі жыў у прыязьні: тыя прошлыя часы, калі палюбіў Алену, забавы, размовы нашы, яе вясёлыя погляды, яе высокая постаць у харошых уборах з кветкамі на галаве—усё гэта зьяўлялася ва сьне, як на яве. Часам бачыў яе неспакойнай: яна ўцякала ад мяне або з страшнай трывогай праганяла мяне ад сябе проч, як некалі ў часе вясельля, калі мяне па намове напаіў Арцём зачараванаю гарэлкай. Ад гэтых балючых мар усхватваўся я ўвесь праняты дрыжыкамі, і ўжо некалькі год пражыў у такім смутным стане.

Ненавісьць мая да людзей пачала расьці, калі стаў я разважаць пра іх абман, несправядлівасьць і няпрыязьнь для роўных сабе. І пастанавіў сабе шкодзіць ім ва ўсім, як яны шкодзяць адзін аднаму пры кожным здарэньні, абы толькі для сябе карысьць мець. І нападаў на іх быдла і дамовае птаства, калі толькі можна было, і нішчыў дазваньня.

Аднаго разу—памятаю, як і цяпер: было то ўвесну, зазеляneўся лес, дні былі ясныя і цёплыя. Я краем лесу падкрадаўся да вёскі, дзе жыў Арцём; угледзіў на ўзгорку пастушкоў, што пасьвілі быдла; Арцём араў поле; недалёка ад кустоў маладая дзяўчына стаяла пры гусях; Арцём клікнуў яе да сябе, называючы Ганькай; ён паслаў яе да хаты; дзяўчына скора вярнулася ды зноў стала пры гусях.

Я адразу пазнаў, што гэта яго дачка. Калі я пазіраў з гушчарні на яе і на яе бацьку, загарэўся ва мне гнеў помсты. Арцём—нягодны чалавек: гэта ён давёў мяне да такога стану, што ў постаці страшнага воўка цяжкае праводжу жыцьцё. Няхай-жа ён енчыць над стратай свайго дзіцяці! Выскачыўшы з лесу, хватаю дзяўчыну; на крык дачкі бяжыць у роспачы бацька, гукаючы на помач. Чую голас пастухоў, сабакі напалі на мяне і паранілі да крыві, але нішто не магло мяне ўстрымаць; хутка схаваўся я ў бары і нёс сваю здабычу што раз далей і далей у пушчу лясоў і там, адкуль яна не магла ўжо вярнуцца дадому, кінуў яе. Яна доўга ляжала бяз памяці, а калі прыйшла да прытомнасьці, гукала ў роспачы, ходзячы па лесе. Голас яе і плач гінулі дарма сярод густых сосен і ялін, а я цешыўся з сваёе помсты ды пакінуў яе у глухой пушчы.

Адышоўся ад таго месца, дзе блудзіла няшчасная ахвяра мае злосьці. Але нядоўга цешыла мяне гэтая помста. Як прамінуў запал гневу, прышло мне на думку, што Ганька—бедная дзіця, бяз віны церпіць. Хацеў вярнуцца да яе, але нідзе знайсьці ня мог. Глуха было ў лесе, і голас яе нідзе не адклікаўся.

Тады напаў на мяне страшны смутак. Зразумеў я, што помста ня можа заспакоіць маіх мук. Куды не пайду, усюды гоніцца за мною роспач айца, лямант блудзячай дачкі, і сабакі, што гналіся за мною і паранілі да крыві

зубамі, здавалася ўсюды на мяне нападаюць. Перабягаў з аднаго лесу да другога, але супакою знайсьці ня мог нідзе. Сон уцёк ад мяне, дый у часе супачынку пастаянна адгукаўся ў маёй мысьлі распачлівы голас айца. ля, мэвт дачкі, і сабакі рвалі маё цела.

У адзін дзень угледзіў я некалькі сялян, некалі мне знаёмых. Схаваныя ад паўднёвай гарачыні, сядзелі яны ў цяньку дрэў, а недалёка да іх хадзілі коні, выпражаныя з вазоў. Падышоў я да іх, хаваючыся ў кустох; слухаў, што яны гаварылі паміж сабою, і пачуў, як адзін з іх так казаў аба мне: «Дзе цяпер Марка бадзяецца па лясох у постаці воўка? Шкада гэтага чалавека. Ужо колькі год мінула ад яго няшчасьця. О, калі-б ён трапіў да чараўніцы Аксіньні! Кажуць, яна лёгка перамяняе людзей у зьвяроў ды зноў абарачае іх у першы стан. Ня ведаю, дзе яна жыве, чуў толькі, што недалёка ад гэтых гор і лясоў».

Абрадавала мяне гэтая ведамасьць. Пастанавіў абайсьці ўсе лясы, горы гэтых старон, каб знайсьці, дзе жыве Аксіньня. Праз некалькі начэй і некалькі дзён без адпачынку абягаў дзікія боры і зьверху высокіх гор азіраў адзінокія месцы, думаючы, ці ня там хаваецца самотная хатка чараўніцы.

Выбег з лесу на даліну. Раніца была ясная і ціхая. Бачу кошку на траве; шыя і лапкі белыя; сьпінка ў палоскі сьветлыя і цёмна-шэрыя, вочкі быстрыя; спрытна падскакваючы, яна лавіла лапкамі матылькоў на кветках. Доўга глядзеў я з-за куста на яе вясёлыя падскокі і забаўкі; урэшце прыйшла мне ахвота схваціць яе, кідаюся... але, як вецер, лёгка адскочыла яна ад кустоў і бяжыць на ўзгорак; дагнаў яе і вот, вот хацеў схваціць, аж яна абярнулася ў сароку ды паляцела над зямлёю. Гонячыся далей, угледзіў адзінокую хатку. Сарока села на стрэху ды зноў абярнулася ў кошку. І бачу—ўсюды поўна кошак рознай масьці: кошкі на страсе, кошкі на вокнах, кошкі па панадворку—усюды кошкі.

І дагадаўся я, што гэта хатка чараўніцы Аксіньні. Доўга думаў стоячы, ці йсьці да яе ці не. Яна мяне ня прыме ў постаці воўка; трэба спаткацца з ёю дзе-нібудзь на дарозе, з пакорным уніжэньнем укленчыць перад ёю ды прасіць, каб зьмілавалася над маёю доляй. Схаваўся ў густым лам'і ды стаў чакаць тае шчасьлівае пары.

Сонца схавалася за лясы і горы; ужо вяршыны густых бароў пакрыў вячэрні змрок, недалёка на возеры сьвяціліся яшчэ воды, акружаныя густою лазою. Бачу: усе кошкі—з хаты, з страхі, з панадворку гуртам бягуць на луг, зрываючы зубамі некую траву і ў момант перамяняюцца ў дзяўчат, разьбягаюцца па кустох, сьпяваюць песьні, скачуць, іншыя рвуць кветкі ды плятуць вянкі. Пабег і я за імі. Пазнаў траву—дробненькую сіненькую мела кветачку. Як толькі я сарваў яе ды праглынуў, зараз-жа ўгледзіў сябе ў постаці чалавека. У нявымоўнай радасьці, мяшаюся ў гурце ветраных русалак, бегаю з імі, танцую, весялюся і саўсім забыў а сваім няшчасьці.

Гэтае гуляньне і радасьць трывала да поўначы. Уціхлі ўсе птушкі у лесе, толькі адгукаўся крык лясуноў; праляцела сава, села на страху хаты чараўніцы, засьвяціла вачыма, зарагатала і залемантавала дзіцячым голасам.

Тады раптам зашумеў лес і вада ў возеры выцялася аб берагі.*). Русалкі закрычалі: «поўнач! поўнач!» і ў мамэнт перамяніліся ў кошак, пабеглі на панадворак Аксіньні, адны палезьлі на дах, другія праз вакно паўлазілі ў хату, а я зноў у постаці воўка пабег у лес, лёг пад густою ялінай, размышляючы аб гэтым здарэньні і шкадуючы, што перамена ў чалавечую постаць трывала нядоўга; пастанавіў застацца тут і хоць на кароткі час забыць а сваім няшчасьці.

На другі дзень чакаў вечару, і такім-жа самым спосабам кошкі перамяніліся ў дзяўчат, а я ў чалавека. Гуляў з імі, весела праходзіў час, і вот адна з чарады зачарованых дзяўчат наглядзела на мяне з пагардай ды сказала: «Я яго ня люблю!»

— Чаму ня любіш?—пытаюся я, надыходзячы да яе.

— Я бачыла, што ты перамяняешся ў воўка, а я ваўкоў ненавіджу, бо воўк—прычына майго цяперашняга няшчасьця.

— Якім спосабам?—пытаюся ў яе.

— Калі я была яшчэ пры бацькох сваіх, то пасьвіла гусі ў полі, а воўк мяне схапіў ды завёс у пушчу далёкіх лясоў, кінуў мяне там, а сам схаваўся. Плачучы і гукаючы блудзіла я па бары, ня ведаючы, у каторы бок ісьці. Тагды на мой распачлівы голас прыляцела Аксіньня ў постаці чорнай птушкі, перамянілася ў жанчыну і, узяўшы мяне за руку, сказала: «Ты ня выйдзеш з гэтай пустыні: нападуць на цябе дзікія зьвяры і разарвуць. Ідзі лепей да мяне, у мяне жыць весела: што вечару танцы і песьні. Ты-ж маладая дзяўчына і, мусіць, любіш танцаваць?»

Не хацела я спачатку йсьці, але надумала, што ў тых пустых лясох ніхто мне не дапаможа, ды згадзілася нарэшце на яе прыставаньні. Ня ведаю, якім чарадзейскім спосабам у момант была перанесена да хаты гэтае чараўніцы. О, пракляты ваўкалак! Чаму ты лепей не разарваў мяне ў лесе!? Я хацела-б лепш памерці, як быць цэлы дзень зьверам і толькі на хвілю забываць пра сваю пакуту».

Слухаючы нараканьне Ганькі, я задрыжаў увесь. У момант перамяніўся ў воўка, і адгукнулася ў памяці роспач айца, лямэнт няшчаснай дзяўчыны, і сабакі пачалі рваць цела маё. Кідаюся ў лес, бягу цэлую ноч без адпачынку і нідзе схавацца не магу ад страшнага ўспамінку і прасьледаваньня тых страшных сабак!

Цяжкае праводжу жыцьцё, нідзе не знаходжу супакою, бегаю у роспачы па горах і лясох; страціў ужо і надзею, што калі небудзь уцішыцца хоць на хвілю мая пакута.

Блукаючы гэтак без адпачынку, падышоў я да поля, дзе рольнікі пры дарозе абедалі пад ценьню бярэзіны. Па дарозе едзе ксёндз. Пад'ехаў ён да людзей, і пачалася ў іх доўгая размова а розных рэлігійных рэчах. Ксёндз навучаў іх, каб жылі паміж сабою ў згодзе і прыязьні, каб даравалі адзін другому ўразы і ніколі ня думалі а помсьце, бо помста найболей праціўна

*) Агульная зданьне беларускага народу, асабліва ў паўночных паветах, што з поўначы заўсёды шумяць лясы і вада хвалюецца ў вазёрах тады, як засьпяваюць пеўні.

рэлігіі і няміла Богу; яна паніжае чалавека да стану зьвера, а дабрадзейства і лагоднасьць выклікае міласэрдзьдзе ў Бога.

Схованы ў густых кустох, чуў я ўсе словы ксяндза і адразу пастанавіў ня толькі ня шкодзіць людзям, але, наадварот, старацца ім служыць і памагаць, чым толькі буду магчы,—можа і нада мною зьмілуецца Бог, бо і я-ж маю несьмярценную душу. У гэтых думках пакінуў я ксяндза і ратаяў.

Прайшло некалькі дзён. Блукаючы думаў сабе, што я магу зрабіць добрага, будучы ў так зьненавіджанай воўчай постаці? Ледзьве падыдзеш да людзкай сялібы, як усе пачынаюць крычаць і цкаваць сабакамі, і трэба чым хутчэй уцякаць у лес.

Аднак-жа не закінуў я таго, што пастанавіў. Колькі разоў адганяў лісоў, што падкрадаліся пад гусі або індыкі, каторыя самі адны хадзілі ў полі; калі бачыў блізка каля быдла мядзьведзя, то выбягаў з лесу адагнаць стада ад небясьпечнага месца і перасьцерагчы пастухоў; ня раз адбіраў ад воўка авечку, каторую ён выхватваў з чародкі якой-небудзь беднай удавы. Праводзячы такое жыцьцё, надаваў пакою думкам сваім і мог ужо заснуць, хоць нямнога. Ува сьне мілыя лятуценьні прыпаміналі мне прамінулае, калі я быў чалавекам.

Было гэта ў жніўні, у часе яснай пагоды. Блукаў я ў ваколіцах свае радзімы, калі ўжо збожжа на полі было сьпелае. На блізкай прасецы бачу Алену: яна жала на сваёй ніве, а каля мяжы спаў на снапе маленькі хлопчык. Глядзеў я з прыемнасьцю на тую сцэну, цешыўся, што Алена шчасьліва, жыве спакойна ў сваёй сям'і. Бог блаславіў іх гаспадарку, багаты ўраджай жыта пакрываў іх поле. Калі я цешыўся на гэта гледзячы, выскачыў з другога боку лесу воўк, ды ўхапіў хлопчыка. На крык дзіцяці кідаецца маці. «Ратуйце дзіця маё!—закрычала яна і раптам самлела. Я дагнаў воўка, адабраў дзіця непараненае ды прынёс матцы. На ратунак прыбеглі суседзі і глядзелі на гэта з задзіўленьнем, а я ўцёк у лес.

Якога-ж прыемнага пачуцьця і надзвычайнай спакойнасьці дазнаў я пасьля гэтага здарэньня! Лёг пад дзеравам і ў салодкіх марах заснуў. Сьніў тады, што быў чалавекам у веку самай цьвітучай маладасьці і так мне было лёгка, што як птушка лятаючы пераносіўся з аднаго месца на другое. Бачу перад сабою сад, такі прыгожы, што падобнага ў жыцьці ніколі ня бачыў. Гаі былі поўны сьпяваючых птушак, на каторых пер'е было прыгажэйшае й жывейшыя мелі колеры, як нашыя вясеньнія кветкі. Ясныя воды бруіліся то там то сям; некаторыя дрэвы былі пакрыты пахучымі кветкамі, а на іншых дасьпявалі плады; на ўзгорку відненіся вялізарныя келіхі лілій надзвычайнай велічыні, выпускаўшыя салодкі запах. Толькі што хацеў я сарваць некалькі кветак, як зьявілась прада мной Ганька; на ёй сукенка белая, як лілія, і кажа мне: «Ня рві маіх кветак! Я садзіла гэтыя ліліі на сваёй магіле й палівала іх сваімі сьлязьмі». Сказаўшы гэта, яна зьнікла. З саду перанёсься я зноў да некай дзікай пушчы; блудзіў там сярод сталетніх сосен, ледзьве знайшоў сьцежку, каторая вывела мяне да некай вялізарнай гары; хацеў

узайсьці на верх, аглядзець ваколіцы; адтуль хацеў угледзіць вёску, у каторай была хатка, некалі сяліба маіх бацькоў, але кругом гары былі пропасьці і ня можна было да яе падысьці. Тут спаткаў некага вялікана. Ён узяў мяне за руку, сказаў ісьці за ім, вывеў з лесу на некае вялікае поле, дзе крыжаваліся розныя дарогі і многа падарожных ехаўшых і йшоўшых пеша; узышлі на грудок, дзе была магіла; на ёй быў драўляны крыж і блізка стырчэла ўбітая ў землю рыдлёўка. Вялікан сказаў мне адкапаць магілу і дастаць адтуль труп! Апанованы страхам, зрабіў я ўсё, што казаў мне незнаёмы таварыш: выкапаў з пяску агромны касьцяк. «Гэта будзе тваім целам, —сказаў мне вялікан: —будзеш плакаць у ім, покі не паклічашся да новага жыцьця». Я ўвесь дрыжаў ад перапляку; прасіўся, каб мяне звольніў, але вялікан пхнуў мяне з вялікаю сілай, і я ўпаў у агромныя грудзі касьцяка, а з ім разам—у яму. У борцы са сьмерцю я пабудзіўся.

Бачу, што я ўжо ў чалавечай постаці; адзежа тая самая, каторую ўзлажыў некалі на сябе, ідучы на вясельле Алены; ня верылася, што гэта было на яве; баяўся павярушыцца на месцы, каб ня зьнікла гэтая салодкая мара. Застаючыся доўга ў задуме, падняў вочы да неба ды стаў дзякаваць Бога за цуда збаўленьня з страшнага стану.

Устаў з месца свайго адпачынку з нявымоўнай радасьцю; здавалася мне, што ўсе дрэвы і птушкі віншавалі мяне з новым жыцьцём. О, як салодка дазнавацьміласэрдзьдзя Боскага! Страшны лёс чалавека, параўнанага з зьверамі!

*Перакл.* **Язэп Лёсік.**

---

*Міхайла Грамыка.*

# КРЫЛАН

*ПОЭМА.*

## НАД ХМАРАМІ.

1.

Панад стужкай рачок,
Дзе рунее лажок,
Панад вёскай, над цэглай гудоў-гарадоў—
Так падобны зусім
Да баечных багоў
Хтось ляціць ў паднябесьсі ў няведамы бок...

2.

Ён стралою ляціць,
Нейк дзіўна гудзіць,
Ён пануе над логам, над морам—ўладар
Ў вышыні, як арол,
Як мітычны Ікар,—
Яго шлях—бездарожжа, бязьмежжа блакіць.

3.

А пад ім Бабілоны ляжаць—гарады,
Як стажары гараць
Ліхтарнямі ўначы;
Там ніколі ня скажуць людзём: адпачынь,
Там зьяўляюцца ўсіх
Ашуканстваў сьляды.

4.

Праз дымарні плыве, азіраючысь, дым,
Засьціць сонца гмырак,
Засьціць неба імглой;
Ён ахвяраў зямных бяз крыві аналой,
А той смутак, той дым—
Як чарнец-пілігрым...

5.

А пад ім распрануліся ніўкі, лясы,
Ды паўзуць цягнікі,
Як вужакі паўзуць;
Ў ральлі і пакосаў ляжаць паясы,
Людцы справы свае
Павучынай снуюць.

6.

Хто ён там? і куды? і адкуль? і зачым?
Дзе разьбег лятуна
Ён свайго супыніць?
Ці захоча сябе ён сьнізіць, прытуліць
Гэны новы чарнец,
Воблак, хмар пілігрым?

7.

Усё пад ім. А над ім толькі дзеці нябёс,
Толькі сонцы між зор,
Толькі месяца твар,
Толькі волатаў гэных нязьменчывы лёс
Прызнае над сабой
Той лятун-уладар.

8.

І дрыжаць і гудуць скрыдлы птаха-арла.
Той арол няжывы,
Але быццам жыве;
Хвалі ветра сячэ, то па хвалях плыве,
Яго думка ўгару
Ад зямлі узьняла...

9.

Парадзіла яго думка вольных людзей,
Каму поўзаць даўно
Паабрыдла ў пылу;
Яго скрыдлы ствараў не адзін чарадзей,
Дамагаўся, каб даць
Сэрца, жыцьце арлу.

10.

І арлы узьняліся над грудзямі ральлі,
І арлы на арлах
Угару узьвіліся;
Перад рыцарствам хмар—што нізін каралі?
Узьдымі галаву,
Каралёк, ды дзівісь!

11.

Так той рыцар лунаў, песьні песьняў пяяў.
Песьні тыя, што чуў
На зямлі ён калісь;
Сьпевы жальбы палёў, сьпевы ўсіх кавалёў
Ў песьню зорных абшар
Там цудоўна ўпляліся.

12.

Хто там слухаў яго ў адзіноце сьвятой?—
Толькі вецер-падвей,
Толькі хмарка шпарчэй
Пранасілась прад ім са сваёю слатой,
Ды паліў сонца твар,
Слаў праменьні з вачэй...

13.

І сьпяваў Ізяслаў
І арлом кіраваў,
Углядаючысь пільна у стэпы, лясы,
Ён ня голасам пеў,
Ён душою хмялеў
І ня раз яго вочы дазналісь расы...

## ГОРНІЯ СЬПЕВЫ.

14.

Ясна ў небе. Вольна ў небе!
Там душы ня трэба слоў;
Там па хмарах, як па глебе,
Піша нехта псальм вякоў.

* * *

Зоркі плачуць, ці сьмяюцца,
Не адкажа сын зямлі,
Як адвечныя нясуцца
Па бязьбярэжнай ральлі.

* * *

Там пануе дух адзіны,
Дух надземнага жыцьця;
Ён ня ведае спачыну,
Ён ня знае нябыцьця!..

* * *

Хто туды падняцца зможа?
Думкай сьмелы і глыбок...
Зорка сыну дапаможа
Заплясьці сабе вянок...

* * *

Зорка сыну дапаможа
Ахапіць усё жыцьцё;
Толькі там спазнаць ён зможа
Пекнату і нябыцьцё.

* * *

Ўспомне сьпевы роднай маці,
Як люляла ля грудзёў,
Як навучала пазнаваці
Гоман лесу і палёў

* * *

Ўспомне першага каханьня
Веснавы зялёны сьпеў,
Жаль халодны разьвітаньня,
Сьнегавых віхроў паве́ў...

УСПОМІН.

15.

Як вярбіны сырой адарваны лісток
Вецер гоне з галін
Ад радзімых гнязьдзін,—
Так стыхія вайны ад лясістых заток
Аж пагнала у сьвет
Паладзіна вяршын.

16.

Яшчэ вус не прашыб каляровы пакроў,
Яшчэ твар чырванеў,
Калі дзеўчыну стрэў,
Як прышлося пакінуць заховы бароў,
Вулкі родных сяліб.
Пах зварочаных скіб...

17.

Бацька дужы яго дзесь ў акопах, як крот,
Пільнаваў, бараніў
Межы царстваў чужых,
Сьцюжу, слоту знасіў; слухаў выбух грымот;
Ды ад бойкі аднэй
Век-а-век супачыў...

18.

— Дзе-ж ты косткі зложыў? Мо' на глебе Прусоў?
Можа Нёман, як дзед,
Да сябе прыгарнуў?
Можа Прут, ці Дунай Беларусі сыноў,
Як і родных румын,
Ў сваё ўлоньчэ глынуў?»—

19.

Вобраз родны, стары прад вачыма стаяў,
Вобраз бацькі, што век
Жыў для сына ды з ім,
Што ў апошнюю хвілю яго ўспамінаў,
Бо бяз ласкі грудзей
Жыць прыйшлось абаім.

20.

Бацька рана матулю яго пахаваў
Каля вёскі глухой
Над Дняпром, над ракой,
Ядзе сон і спакой белы крыж вартаваў...
Ці струхлеў, ці падгніў—
Сын яго не пазбыў...

21.

Ці-ж вартуюць крыжы сон ваякаў-бядот?
Тут касьцяк галавы,
Там рукі, там нагі.
Колькі сьнегу, дажджу, сухавеяў, сьпякот
Знаюць косткі палёў,
Знаюць лёс свой благі!

22.

Так пра бацькавы скон разважаў Ізяслаў—
І хлапчук-сірата,
Як малітву тварыў,
Бо малітвай яшчэ стогны сэрца сьцішаў,
Бо ён верыў тагды
І малітву любіў.

23.

У чужой старане адзінота-хлапчук
Сам сябе выхаваў,
Над сабой працаваў;
Ён ня ведаў радні настаўленьняў прынук
З рук гатовых чужых
Ён навукі ня браў.

24.

Нагляданьне жыцьця школай стала яму,
Сябрам кніга была,
Думцы сілу дала;
Ўдзячным толькі і быў духу волі свайму,
Што бурліў у крыві,
Прызываў: ты жыві!

25.

I ён жыў, працаваў. дзе і як давялось:
То звыкаў кіраваць
Гаспадарчым канём,
То любіў з кавалём правіць кола і вось,
Разьмягчаў, гартаваў
На кавадле вагнём.

26.

Неяк выпала раз, Ізяславу лятаць:
Яго ўзяў за сябра
Сталы лётчык з сабой.
З тых часоў палюбілась абшары хапаць,
Хоць у думках ужо
Ён лунаў над зямлёй.

27.

З тых часоў палюбіў адзінокую высь;
Здоляў петлі рабіць,
То матор затрымаць,
То кружыць каршуном, ля зямлі берагчысь
Ды сяброў-лятуноў
То дзівіць, то пужаць.

28.

Шмат пабачыў з гары кругавідаў зямных,
Рэчак моцны разьбег,
Вілавацін-вужак.
Гарбавін лалдугі, плямы гушчаў лясных,
Плямы жоўтых стапоў,
Дзе палюе кайсак...

29.

З высі карты пісаў, за навукай сачыў
Ды памылкі яе
Выпраўляць давялось,
Але бомбы кідаць, хоць вайсковым і быў—
Хвала зоркам сьвятым!—
Ня прыдарылась штось!

30.

І брыдота зямлі, ашуканства, спадман
Неяк вонках прайшлі
Загартнелай душы,
Хоць часамі сустрэчныя вочы і стан
Так прынадны былі
Так шапталі: грашы!

31.

Тым хўтчэй падымаўся ўгару Ізяслаў.
Стуль прынады зямлі
Няпрыметны былі.
Вецер, братка яго, кроў студзіць памагаў,
Чыстасьць сэрца мацніць,
Чыстасьць думкі крыліць.

32.

Шлі за годам гады, Ізяслаў перарос
Хваляваньня пару,
Захапленьня той чад;
Як над морам Паўночы ляціць альбатрос,
Над жыцьцём-нябыцьцём
Ён лунаў наўдагад.

33.

Пасьля ночы аднэй баляваньня сяброў,
Дзе свой келіх віна
І Крылан асушыў,—
Разам з сонцам узьняўся над смуткам палёў.
Там сын скутай зямлі
Сонцу модлы тварыў...

34.

Замест псальмаў старых, ён узяў пасьпяваць
Песьні песьняў жывых,
Кніжку новых часоў.
Мовай роднай яму хтось хацеў перадаць
Долю ціхіх людзей,
Долю шумных лясоў...

35.

То ня словы былі, а праменьне ад зор;
То ня вершы былі:
А гудзелі званы
І гукалі кудысь, і нясьлі прыгавор,
То, як хвалі крыніц,
Выбіваліся яны!

36.

І на скрыдлах арла ён пяяў і чытаў,
Псальмы пеў Ізяслаў
Іх скрозь сьлёзы пяяў,
Ці лады ён складаў, ці то сьлёзы глытаў...
Так высока дасюль
Над зямлёй ня лунаў!

37.

Мова-маці яго загучэла ўгары,
Калыханка ле
Залюляла яго.
Паваскросьлі ў душы дні дзяціннай пары,
Усё жыцьцё праняслось
Ад маленства свайго.

38.

І да роднай зямлі прыцягнуўся Крылан,
Каб убачыць хутчэй
Яе ніўкі, бары.
Ледзьве-ледзь аб чужы няпрыветны дзірван
Не разьбіў ён арла
І сябе без пары...

ЗВАРОЧАНЬНЕ.

39.

Усё бліжэй і бліжэй яго родны загон,
Во, ўжо Окаўскі бор,
Во, ўжо стужка Дзясны!
Напружыся, арол, на адзін перагон,
Каб ля дзеда—Дняпра
Слухаць гомап лясны!

40.

Во, пад ім на крутых гарбавінах Мсьціслаў
І царква і касьцёл,
Іх счарнеўшы купол.
— Добры дзень, старына!—прывітаў Ізяслаў,
Ў захапленьні душы
Кінуў вокам вакол.

41.

Як зірнуць, зелянелі узвышша, лясы,
Пляма хатак малых,
Стужка рэчкі, масток...
Столькі тут захавалась нязбытай красы,
Сам ня ведаў аб ёй
Гэны дзед-гарадок!

42.

Павучыну сталецьцяў Крылан разгарнуў
І убачыў ўнізе
Барацьбу за мяжы,
У крывавыя плямы згары ён зірнуў,
Што лілі з двух бакоў,
Як садзілі крыжы.

43.

Стольві гэных крыжоў насаджалі цары
Разам з сілай сваёй
Павалжскіх татар—
Крычаў, Быхаў, Мсьціслаў, ды навакал бары—
Усё палала цяплом,
Каб угрэўся тут цар.

44.

Мала вёскам пажог і Сангушка Раман,
Што пад Оршу ішоў
Ад Масквы бараніць:
Для гістор'і герой, быў для вёсак усёж пан.
Бо гэроям яго
Мусіў сейбіт карміць!

45.

Беларусін хаваўся ад вояў ў лясы,
Адпакутаваў там,
Як і продкі даўней.
Уначы выхадзіў пільнаваць паласы,
Каб сьлязіны сваёй
Смак зрабіць саланей.

46.

І праправўнук тых сьлёз угары развяжаў:
Павучына вякоў—
Ураджайнасьць былльля!
«Каб іначай» гісторык пра вас напісаў,
Можа менеі было-б
І сягоньня гнільля?

47.

Каб мя тым на галовы вянкі заплятаць,
Хто складаў па сабе
Аж гару чарапоў,
Але тым, хто з паходняй ды з кнігай шукаць
Людству-сьвету ішоў
Ад стыхіі ахоў.

48.

Ці-ж Сувораў тагды, Ганібал, Банапарт,
Ці вялкаў палкі,
Ці цары-каралі,—
Ці-ж хто з іх тэй падзякі вялікай быў варт
Ад спалёных сяліб,
Ад стаптанай ральлі?—

49.

Не, ня ім, але тым, што научылі вучыць,
Як прыроду кахаць,
Як братоў шанаваць.
Не, ня ім, але тым, што научылі лячыць
Ды мікробаў крыві
Барацьбу назіраць.

50.

А падзяка таму, хто скруціў Пяруна
Ды хто пару, агонь,
Як у колы, запрог,
Каб хадзіла шпарчэй па палёх барана,
Каб глыбей у зямлю
Зарываўся нарог!

51.

А падзяка таму, хто на горы зыйшоў,
Пад уладу машын
Хто паветра аддаў;
Канцавосьсе зямлі хто адважна знайшоў,
Хто на выдмах пустынь
Для на вукі блукаў!

## НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ.

52.

І спыніўся блакітных пустынь бядуін
За старым за Дняпром
Над адхоным пяском,—
Там, дзе хвоя вартуе падмуркі руін,
Дзе капліца, як сьпіць,
Побач з ліпай радком.

53.

Ён угледзіў з высі і прызнаў гэны кут,
Дзе у жыцьце прыйшоў,
Дзе дзяцінства правёў.
Тут і маці яго ўжо пазбылась пакут...
Ці стаіць яе крыж
Сярод простых крыжоў?

54.

Дык хутчэй-жа, хутчэй прыгарні да грудзей,
Бераг роднай ракі,
Лятуна-Крылана!
Каб на гоні дзядоў стаў на ногі мацней,
Дзе за дзедам яго
Шла усьлед барана!

55.

О, пяскі, залатыя худыя пяскі!—
Хай ліюцца дажджы,
Хай сачацца сьнягі,—
Усё праходзіць скрозь вас да падземнай ракі.
Ці даведаўся хто
Пра яе берагі?

56.

У нетрах вашых пяшчын б'е жывіца вады;
Яна выйдзе калісь
І крыніцай заб'е.
Хтось прагоне смагу, хтось нап'ецца тагды
І паставіць там крыж,
І сьвятой назаве!

57.

О, пяскі, залатыя Дняпроўя пяскі!
Колькі поту ужо
Пралілося скрозь вас,
А ці выйдзе калі плынь магутнай ракі,
Каб жывіцай жыцьця
Адрадзіцца ураз?

58.

Ужо арол на пяску. На зямлі і Крылан
Сярод родных сялян,
Што ад вёскі бягуць.
Ізяслаў на зямлі.—«Паздароў, акеан!—
«Небасхіл-акеан!
«Добры дзень, цьвярдынь-пуць!»

59.

Пэдбягаюць хлапцы і дзядзькоў чарада,
Сыплюць словы яму:
«Хто такі, ды аткуль?»
— Ці спыніўся саусім, ці сьпяшае куды?—
Тых цікавіць матор,
Тыя шчупаюць руль.

60.

І адказы дае хмараў госьць Ізяслаў:
Імя бацькі назваў,
Імя маці свае.
Сівы дзеда тагды, свайго ўнука прызнаў
І вітае яго
Ён старэчай сьлязой:

61.

—Дачакаўся стары свайго ўнука такі!
Ты-ж—сыночак яе,
Мае роднай дачкі!
Вунь, на могілкі глянь, ў гэты бок ад рукі:
На падгорку ракі
Ўсё крыжы, усё мае!

62.

—І дзядзькі там твае: і Кастусь і Антось,
Там бабуня твая,
Там і маці ляжыць.
Каб-жа ёй на цябе хоць зірнуць давялось!
Але не, аніяк—
Дваццаць год ужо сьпіць!—

63.

Дзеда простага слоў ня ўтрымаў Ізяслаў:
Крыга сэрца яго,
Як паводкай, пайшла.
На старых на плячох, як малы ён рыдаў,
А наўкол ад яго
Вёска гоман вяла...

64.

Маладзіцы сьляву выціралі хутчэй;
Ад табакі дзядзькоў,
Як з асеці, дало.
Агонёк прабягаў ад дзявочых вачэй,
Але разам усё
Падалось на сяло...

65.

Дзень мінуў, першы дзень сярод гоману слоў,
У паветры тых слоў,
Што хаваліся вякі,
Сярод мовы тае, што усіх, як братоў,
Абзывае яна,
Што куюць весьнякі.

66.

—«Дык ты, братка, ўвесь час аж пад хмары сігаў!
«А ці-ж лёгка там плысьць?
«Ці ня млее душа?»
Амаль кожны пытаў і адказу чакаў.
«Там, брат, шляхаў няма,
«Альбо ўсюдых шаша».

67.

Хутка з гутаркай тэй звыкся братка Крылан,
Ён машыну злажыў
У кагось пад павець,—
Дапары, пакуль зноў дух блуканьня—Шатан
Ад цьвярдыні зямлі
Зноў да хмар ня гукнець...

68.

А пакуль, ён любіў гэту маці цьвярдынь,
Гэту вулку сяліб,
Гэту хатку, што грыб;
Але болей любіў рэчкі роднае плынь,
Плюскат срэбны яе,
Вольнаселішча рыб.

69.

На прасторы лугоў ён любіў паглядзець,
Што за рэчкай ляглі,
За сялібай крыжоў.
Тут на насыпах старых ён любіў пасядзець,
Дзе матулі сваёй,
Крыж пахілы знайшоў.

70.

Зьелі хварбу дажджы, зьелі насыпу яны,
Толькі вобраз жывы,
Як сьвяты тут стаяў.
Успомніў вочкі яе, валасок альняны...
І рабіўся дзіцём,
Яе ласкі чакаў...

71.

Усё бяжыць ды бяжыць сівавусы Дняпро,
Праз вякі ён бяжыць,
Праз лясы і лагі,
А бяжыць аж туды, за казацкі парог,
Аж пакуль ня міне
Ён свае берагі.

72.

Там дзядуню-Дняпро ўлоньне мора глыне,
Там дзядуня-Крывіч
Распране свой пояс,
Горкіх хваляў глыне, ды на іх і засьне
Пад Палуднем сьпякот
На нязьлічаны час.

73.

Ўжо дажджом на мяжы беларускай зямлі
Не пральецца дзядок
Каля Клёпаўскіх хат;
Адрадзіцца ізноў ад бальтыцкай ральлі,
Дзе сястрыцу Дзьвіну
З Рыгай сватае брат.

74.

Наравіста сястра у затоку плыве
Праз Рубу, Капачы
Перакорыш—парог...
Ці здарыцца калі Рагвалода ўдаве
Зноў заставы трымаць
Чужаземных дарог?

75.

І прад вокам таго, хто над рэчкай сядзеў,
Усёй мінуўшчыны твар,
Як у люстры, паўстаў.
Як-бы з люстра-Дняпра шлях варагаў глядзеў,
Нечы голас глухі
Ізяслава гукаў.

76.

Ён гукаў заглянуць пад прысады вякоў,
Дзе зацішша, ды цень,
Дзе спачыла жыцьцё.
Скамянела даўно там змаганьне князёў:
Там і бойкі, і сойм—
Успамін, забыцьцё!

77.

І цякуць у гысторыю год і вякі...
Нібы сетка рачок
У затоку глыбін;
Нібы жылы нутра, цеплаты касьнякі,
Што у сэрца нясуць
Хваляваньня крывін.

78.

Так раўняў Ізяслаў формы зьяваў зямных,
Плыні думак сваіх
Ён з прыродай раўняў.
Плыні думак цяклі, як з крыніцаў жывых
У затоку душы,
Дзе нябыт іх чакаў...

МІЖ ВАСІЛЬКОЎ.

79.

Ці-ж у смутку сядзець прызяміўся Крылан?
Ён ідзе працаваць:
Ён наўчыўся араць
Ды з касой абхадзіць зеляніну-дыван,
Каб за ёю усьлед
Не забыцца сьпяваць.

80.

Ён ідзе працаваць на гарод і на млін
І дае там прыклад
Згартаванай рукі;
Крылана не спазнае у ім селянін:
Сярод іх ён увесь,
Як усе весьнякі.

81.

Толькі вочы яго крыху болей гарадь
І нясуць аганькі
Зоразнаўчых глыбін.
Прыглядзецца—дык сына блуканьня спазнаць
Па задумы сьлядох
Ценяватых маршчын...

82.

Апранущца любіў ён у колер сьнягоў,
Ды каб вузкі пояс
Чырванеў пасярод;
А свой твар аддаваў пацалункам вятроў,
Калі ставіў снапы
На сухі азярод.

83.

І тагды ад яго васільковы шоў пах,
Бо ён хрэсьнікам быў
Аржаных каласкоў;
І такую ён моц спачуваў у нагах,
Нібы ўрос у зямлю
Каранямі вякоў!

84.

А навокал яго плюскаў водгульлем сьмех,
Шчокат тых галасоў,
Што як птушкі пяюць...
Ці-ж усход прывітаць шчакатухам тым грэх?
Ці-ж, ад кветак ліпца
Вонках пчолкі лятуць?

85.

Б'е жыцьцё у вачох, б'е жыцьцё у грудзёх,
У вачох—заraніц,
У грудзёх, як з крыніц.
Ці то копны складаць, ці раскідываць стог—
Сьмеху хопіць на ўсіх—
На дзяўчат, маладзіц.

86.

А на іх прыгажство Ізяслаў пазіраў,
Як на хвалю ракі,
На галінкі бяроз;
Не драпежную страву у іх смакаваў,
Ня пужаў ён ваўком
Статак сарначак-кōз.

87.

Як мастак, ён глядзеў на дзявочу касу,
Ці як братка глядзіць
На сястрычак сваіх.
Калі з песьняй канчалі сваю паласу,
Тыя-ж сьпевы жальбы
Як маліліся за іх.

88.

Ізяслаў падыйшоў як раўня, да дзяўчат;
Яго жарты ніяк
Ня будзілі самца;
Жартаваў, працаваў паміж хустачак—брат,
Прызвычаіў самых
Так глядзець на хлапца.

89.

— «А паглянь-ка сюды, вунь ідзе наш Крылан!
Нешта цягне ў руцэ...
— «Ці-ж ня бачыш: то сьцяг!
«А за ім-жа, сястрычкі, Грыгорка ды Ян!
— «Кіньма, дзеўкі, сярпы,
Бо дажынкаў працяг!»

90.

Гуртаваўся тагды моцны моладзі хор,
Вёсак некалькі тут
Пасхадзілась ня раз;
Ладзіў іх галасы доўгім водгульлем бор,
Ды жніўё навакол
Ім давала адказ.

91.

І нясуцца, гучаць сьпевы новых сярпоў, —
На нядолю-бяду
Сумаваньня няма!
Ўжо даволі сярпы пазразалі снапоў,
Ўжо ідзе, ўжо гудзе
Сіла—Моладзь Сама!

92.

Хто-ж ім словы даваў, хто-ж ім словы складаў?
І бяда, і прыгон,
І жаданьне жыцьця.
Песьняроў-дудароў голас моцы наддаў;
А спрадвечнага сну
Даў жывога піцьця!

93.

Песьняроў расьпяваць сам вучыўся Крылан,
Часам песьні і сам
Ён для вёскі тварыў.
Моладзь хутка за ім прызвычаіла стан
Песьняра-вадыра
Гэтых вулак і ніў.

94.

Вольны сьцяг у руцэ, а за сьцягам снапы,
Між снапоў, як квятнік,
Шэраг жвавых дзяўчат.
То-ж дажынкі ідуць ад капы да капы,
Не спазнаць у вачох
Дзедаў-хлопаў ўнучат!

95.

Вочкі большасьці з іх—колер іхніх нябёс,
Хоць ня мала такіх,
Нібы поўдзень іх кьціў;
Шмат каторы з хлапцоў тут знаходзіў свой лёс—
То чакаў—пагражаў,
То цярпеў, то прасіў.

96.

Вось запаліцца твар, як маланкі стажар,
Але ў вочках лядок,
Як над вірам масток.
Колькі-ж гэты лядок патрабуе ахвяр,
Калі гляне дзяцюк
Праз лядок у стажар!

97.

—Крывічанка, дачка гэных хвойных бароў!
У цябе і Літва
Захавалась ў вачох;
Праз пражылкі твае часам ляшская кроў
Загуьліць, дадушы,
Як на тых берагох!—

98.

— У каханьні тваім украінку спазнаць,
Як маскоўкі дагляд
Ты частуеш гасьця;
А як здольна пляць, а як здольна скакаць,
Не пазбыцца цябе
Аж да скону жыцьця!—

99.

Так казаў той Крылан і падтрымліваў сьцяг.
Ён уперад глядзеў,
Але бачыў наўкол.
Калі песьня ня йшла, ён даваў ёй працяг,
І дажынкі нясьлісь,
Ім адказываў дол.

## ДАЖЫНКАВЫЯ СЬПЕВЫ:

*(З народных.)*

100.

«Ой мы жалі, жалі!
Бабу павязалі
Хусткаю чырвонай,
З васількоў каронай!
Ой мы жалі, жалі!
Снопік прыкрашалі
Ў белую кашулю,
Нашую бабулю...

*
* *

Пойдзем, дзеўкі, ў вёску
Даплятаці коскі!
Кіньма нашу ніўку,
А на ніўцы грыўку...

*
* *

Гэта-ж козьзя барада,
А ўся мёдам уліта,
А ўся шоўкам увіта!

А ты-ж, дзяўчынка, не ляжы.
Ты барадачку вяжы!..
Ты-ж, казьлішча, уцякай!
Рожкі ў грыўку захавай!

* * *

Жытца, жытца, йдзі дадому!
Вечар добры, палявому!
Жнейкі літасьці ня маюць
Мяне, жытца, падсякаюць...
Я-ж у полі настаялась
Долі жніва дачакалась.
Жыта жалі незьмярона,
Капы клалі нязьлічона.
Часты-густы зоркі ў небе,
Часьцей-гусьцей колас ў глебе;
Выйдзі, вёска, дружынаю,
Прыймі вянкі з калінаю!
Засьцілайце сталы-лавы,
А для нашай працы—славы
Ды выходзьце на ганочак
Залаты спаткаць вяночак!
Хадзі, раю, раю ў хатку!
Ў нашай хатцы ўсё ўпарадку.
Ты-ж пан нівак, жоўты раю,
Дык адведай караваю!..»

101.

Сьпевы жніўных пяшчот, што ідуць з глыбіні
Працавітых грудзей
Ад арыйскіх часоў
Праз народы, вякі,—ня спынуцца ані:
Беларуса душа
Ім зрабіла пакроў!

102.

Перамёрлі багі—нарадзіліс багі,
Але воблік старых
Аж дагэтуль жыве.
Хай блясьсільны яны, хай ня маюць вагі,
Але слава аб іх
Сярод песьні плыве.

103.

Праз дажынкавы лад гэтых белых русін
Трагэдыйны казёл,
Нібы фаўн, прабяжыць.

Адысэя уся як паўстане з руін:
Тым вясёлым багом
Мусіць хочацца жыць!

104.

І вядзе тэты сьпеў у паганства вякі,
Калі воды, лясы
Мелі душы свае;
Карані тых часоў і дасюль глыбакі,
Бо й навука аб тым
Свой пагляд дадае...

105.

Сьвечак новых агні запалілі людзём,
Катахізісы слоў
Выпасілі да іх.
Але вечны Пярун біў па догмах у гром,
Мусіць радасьць сьпяваць
Пераможней за кніг!

106.

Вось дажынкі прайшлі, як усё на зямлі.
За сьпякотай—дажджы,
За дажджамі—сьнягі;
Зноў дзяўчынкі--вясны сьвежы сьлед па ральлі,
Зноў са сьмехам яна
Расквячае лагі...

107.

Сонцабога дзіцё, кругам скончыўся год,
І Крылан-Ізяслаў
Шмат прадумаў, пражыў.
І душа, перайшла, як і сонца, зварот,
А пад вокам цянёк
Той зварот палажыў.

## КАЛЯ ДЗЕТАК.

108.

Усё па вёсках ён жыў. Увосень дзеткам чытаў,
З імі ўзімку гуляў
Па лясох, па сьнягох.
Гэты жвавы народ Ізяслава ўжо знаў,
Як і ён пазнаваў
Тых сяброў па вачох...

109.

—«Дзядзька Слава, чаму ўвосень жоўкне лісток?
— А чаму дзень-у дзень
Неба плача дажджыць?

—«А ці ёсьць паміж зор, каб для Бога куток?
— А ці трэба яму,
Як і нам, адпачыць?»

110.

Запытаньні ішлі, нібы сквіл птушанят,
Нібы дзюбкі—раты
Ўжо чакалі яды.
І давай ім адказ, ці ты рад, ці ня рад,
Але страву у дзюб
Ім давай заўсягды!

111.

Пэдагогам ня быў, але дзетак любіў,
Як вясёлку-зару,
Як маёвую рунь.
Ці-ж ня зерня яны пераворaных ніў?
Ці-ж ня б'ецца жыцьцё
Ў гэтых вочках угрунь?

112.

І адказы даваў Ізяслаў, як умеў;
Ў чым праконаны быў.
Ад малых не хаваў;
Што у кнігах знайшоў, ці што вецер напеў,
Калі там, угары,
Сам пытаньні даваў.

СПАТКАНЬНЕ.

113.

Каля вёскі аднэй быў маёнтак стары.
З каралеўскіх часоў
Там сядзелі паны.
Дачакалісь яны бураломнай пары,—
А цяпер там сядзяць
Пераменаў сыны.

114.

Дзе-ж паны? Той забіт, як звычайны жаўнер,
Той на Віслу уцёк,
Той на поўдзень пайшоў.
Хто застаўся,—гарцуе на новы манер,
Захаваўшы папер
І гэрбы каралёў.

115.

Падыйшла ўжо саха аж пад сад, пад гару;
Ўсе капцы, ўсе мяжы
Перарэзаў нарог.

Без паноў хтось пануе на панскім двары
І гануча, як бот,
Перайшла праз парог.

116.

Ваяводам старым прытуліўся той дом;
Сумна дзюры глядзяць
Абмярцьвелых вакон.
Мусіць, суджан стары гістарычным судом
Адзінотна спаткаць
Сваю сьмерць праз балькон.

117.

Чу, здаецца на стайні капыты стучаць,
І засовы гручаць
І стаеньнікі ржуць...
То памылка! Прысады маўчаць, ды маўчаць—
То бяз'зну на рэчцы
У пранікі б'юць.

118.

Хто стаіць пад вакном? Гэта ты, аканом?
Ну, як справы твае?
Малатаркі гудуць?
Што маўчыш? Хто-ж цяпер там кіруе гумном?
Ён маўчыць. Гэта куст.
То-ж вятры гэтак дзьмуць!

119.

Часам, кінуўшы ўсіх, бо самоту любіў,
Забіраўся сюды
Пачытаць Ізяслаў;
Што ні кут,—задумленьня хтось нітку тут віў,
Нейкі дух-дамавік
Чалавека чакаў.

120.

Сумна ліпы шумяць. Нешта балькі трашчаць.
Недзе скрыпнуў паркет.
Б'ецца ў шыбіну птах.
Азірнуўся—зноў ціха. Паркеты маўчаць...
Між калонаў сачыць
Поўднем бэзавы пах...

121.

Зноў ён кніжку бярэ, вершы поўныя п'е
І за імі ляціць
Зноў на скрыдлах арла.
Але зноў хтось гукнуў. Ці то пчолка гула?
Раптам вочы падняў
І убачыў... Яе!

122.

Між калёнаў, як здань, але ў хварбах быцьця,
Нібы Ляля-вясна,
Незнаёмка стаіць.
Як дзяўчынка, хавае жаданьне жыцьця,
Але ў вочы яму
Счырванеўшы глядзіць.

123.

—«Прабачайце... я тут... я заўсёды сама...
«Гэты сумны куток...
«Тут успомін жыве...
«Прабачайце, залішнія словы—дарма!»
І чароўная здань
Ад бальхона плыве...

124.

Ізяслаў ачуняў, калі хруснуў пясок
Пад прысадамі ліп
За пахучым кустом.
Усьмяхнуўся яму галубы паясок.
Але раптам ажыў
Гэты сад, гэты дом.

125.

Ён угрунь за Вясной аж да люстра вады,
А насустрач кусты
Пахам бэзавым кпяць.
Ня шукай,—гэта здань! Ты вярніся сюды!
Навучыся ізноў
Адзіноту вітаць!

126.

Але не, не згарнуцца пялёстачкам зноў,
Калі глянуць на іх
У свой час касьнякі!
Але не, не згасіць запалёную кроў,
Калі зельля дала
Чараўніца з рукі!

ШУКАНЬНЕ

127.

І пачаў ён шукаць, і пачаў ён пытаць.
Зноў рыхтуе Крылан
Ён свайго Крылана,
Каб шырэй, каб вышэй кругавіды заняць.
Мо' убачыць яго
Калі-небудзь Яна!

128.

І даведаўся ён, што дзяўчына адна
Прыхадзіла калісь
Панскі дом маляваць.
І празваў пра сябе ён маляршу—Вясна.
Зноў пачаў ён гарэць,
Зноў пачаў ён лятаць.

129.

Як праз студню вада сьвідраваньнем заб'е
Так спатканьне Вясны
Моцы творчай дала.
І запеў Ізяслаў першы раз пра Яе
І ад воблак, ад хмар
Тая песьня гула.

130.

А яму ў вышыні неяк стала цяплей;
Ён знаходзіў агонь,
Бо Вясьнянку шукаў.
І пайшлі гаманіць пра яго між людзей.
А ён верыў у свой лёс
І спатканьня чакаў.

131.

Адгукнулась яна на прызыўны той сьпеў:
Закаханай душой
Адгукнулась яму.
Багацьцём, пышнацьветам усіх каралёў
Крылану, Крылану
Адказала свайму!

132.

Ня прызналась яму. Але хварбам жывым
На малюнках аб ім
Загадала сьпяваць.
Між чарніц не схавацца сунічкам лясным;
Між бялюткіх гусынь—
А лябёдку спазнаць!

133.

Заспыніўся Крылан на адной між карцін,
Калі шэрагі іх
Ён па мурах глядзеў.
Ён па залях праходзіў ўжо колькі гадзін,
Бо да места затым
Ізяслаў прыляцеў.

134.

Вось карціна яе: паміж ліпамі дом,
У вакне, у цяню
Хто-сь задумны стаіць.
Як у казцы, ўсё сьпіць счараваным тым сном-
Толькі воблік жывы
Між калёнаў ня сьпіць.

135.

Адбудзіць гэны сад падышоў паясок,
Галубы паясок,
Што як ветрык іграў.
І ажыў гэны дом, і на сьцежцы пясок;
І той рыцар ў вакне
Ада сну ажываў.

136.

А ўгары заспыніўся арол ў небясох;
На той сад пазіраў
З вышыні галубой,
Як чакаў ён туды счараваных тых дзьвёх
І гукаў іх туды
Паляцець за сабой...

137.

Хто-ж вясьнянка-маляр? Знаў ў пытаньнях блукаў-
Нехта кажа: спаткаў
Ён яе над Дзьвіной,
А другі, што над Нёмнам яе сустракаў.
Але зноў тая здань
За прасторам-сьцяной.

138.

І умовы пайшлі між Вясьнянкай ды ім:
Яна творыць з душы
Шэраг новых карцін.
Новы сьпеў ён дае. І цяпло абаім.
Так князеўны шукаў
Аблакоў паладзін.

139.

Ад каханьня таго цэлы край, як ажыў.
Песьні новыя йшлі—
Мовы роднай сыны;
А ў малюнках жывых кожны кут варажыў,
Кожны крыжык стары
Бачыў новыя сны.

140.
Усю краіну сваю наглядаў Ізяслаў:
Па Наддзьвіньню гудзеў,
Над Бярозай блукаў,
Гэрадоту з Зарэчча в'таньня ён слаў;
Ён па хвалях лящеў,
І ён хваляў шукаў.

141.
Колькі часу прайшло? Хай падлічуць калі.
Хто натхненьнем жыве,
Таму дзень, як і год.
Не чакаюць нядзелі зярняты ральлі...
Як сталецьце жыве
Матылькоў карагод!

СЯБРА.

142.
Каля дому таго раз заснуў Ізяслаў,
Калі раптам яго
Моцны гук прабудзіў.
Чалавек незнаёмы за ліпай рыдаў,
А пад ліпай чарнеў
Рэвальвэр і курэў.

143.
— «Хто ты, братка, скажы? І хто я для цябе?
«Мусіць скрыўдзіў душу,
«Калі з помстай прыйшоў?
— «Я знаёмства з табой захацеў у злабе.
«Але цяжкі сьвінец
«Міма сябра прайшоў!»

144.
— «Прызвычаіўся я, што я быў каралём,
«Над кралеўствам—душой
«Валадарыў адзін.
— «А цяпер занясло каралеўства пяском.
«Як пустыня яно,
«А я сам—бядуін!»

145.
— «О, браток, навучысь бядуінам блукаць!
«Можа выдмы пустынь
«І дадуць супакой.
— «І пачнём мы з табой пальмы разам шукаць,
«Бо атручаны мы
«Мусіць тэй-жа рукой!

146.

— «Паглядзі,—зараз сонца ласкае язьмен,
«Праз гадзіну на бэз
«Упадуць касьнякі.
А ці-ж выпадзе ім заздавацъ з перамен,
«Калі заўтра з цяпла
«Ажывуць васількі?»

147.

І той госьць зразумеў, што дарэмна страляў,
Што убачыў яе
Ізяслаў толькі раз;
Што як думку сваю, так Крылан той кахаў,
І ненавісьці дух
У смутным сэрцы загас.

148.

І руку Ізяславу Антоні падаў,
Яны выйшлі удвох
З-пад цяністых прысад.
Голас скаргі яшчэ ціха ў сэрцы рыдаў,
Але ў вочы глядзеў
Ізяславу, як брат...

149.

Сьсябравал'сь яны з тых часоў па-жывот,
Хоць і кожны сваім
Уласным шляхам ішоў...
І Антоні глядзеў на сяброўскі палёт,
Сам-жа справы зямлі
Развважаючы вёў.

150.

Калі-ж быў на зямлі Ізяслаў, то з сябром
Ён дзяліўся усім,
Што у думках гуло.
Ці часамі з душы грухацела, як гром
Або сьлізка, як твань,
Ціхай рэчкай плыло.

151.

Будаваўся тагды ў гэтых гутарках плян,
Як навукаю жыць,
Як дабро засяваць,
Як падняць, пад'араць гэты родны дзірван,
Прызвычаіць людзей
Сабе долю каваць.

152.

Бо навокал было яшчэ шмат цемнаты:
Або зьвер пазіраў,
Або сон агартаў.
Сам сляпы, яшчэ кпіў хтось з чужой сьлепаты,
А другі з сьлепаты
Для сябе карыстаў...

ПАЦАЛУНАК.

153.

Чаго доўга чакаў, то стыхійна прыйшло,
Ўжо бліжэй сваю здань
Распазнаць давялось.
Як паводка крыві, тое шчасьце прайшло,
Нібы сонца само
З жарам сэрца сплялось.

154.

Ён сьпізіўся тагды ля палянкі лясной
Тэм, дзе Слуцкі бугор
У Палесьсе глядзэў.
А яна йшла каня напаіць нізіной,
Бо насіў конь яе
Па дарогах, як леў.

155.

І сустрэліс яны. І спазналісь яны,
Пабялелі, як сьнег,
І стаялі бяз слоў.
Піў са Случы ваду яе конь вараны,
А машыны матор
Як прынік да лугоў.

156.

І спазналісь яны, бо ўжо ліпень стаяў,
Бо вясьнянкі даўно
Адгучэлі кругом,
Бо над рэчкаю бор сьпевы поўдня пяяў,
Бо ў палёх каласы
Наліліся зярном...

157.

І пабралісь яны і пайшлі пад вянец,—
Пад смалісты вянец,
На імшарны дыван.
Ім прызначыў пасаг бор—сівы іх айцец.
Запякаў каравай
Грэцкі радасны Пан...

158.

Сам Ярыла прыйшоў частаваць іх віном,
Ды Купала сама
Віншавала дзяток.
Ад вачэй да вачэй бег агонь Пяруґом;
Спазнаваліся тут
З васільком матылёк.

159.

А над імі вісеў хвойным пахам палог;
Над палогам гарэў
Склеп празрыстых нябёс;
Па мурожнай траве бег шчасьлівы спалох;
Па травінках цяклі
Хвалі шоўкавых кос.

160.

У злучэньню вачэй пацалунак замёр,
У злучэньню вачэй
Адгукнуліс вякі.
І вульканаў агонь, і правальля між гор,
І задумнасьць вазёр,
І рашучасьць ракі!

161.

Ад пачатку жыцьця пацалунак драмаў,
Каб у лесе тагды
Прабудзіцца зусім.
Ён аб гэтым у вочках яе прачытаў.
Так адвечны закон
Прысудзіў абаім...

162.

—«Дзе я, дзе я?»—
Запыталась.
—«Фея, Фея
Тут была!»
Усьміхалась, адбівалась,
Зноў у мора паплыла...

* * *

Зноў глядзеў Крылап у вочкі,
Зноў, як мора, бор шумеў.
«Васілёчкі, вугалёчкі!»—
Распазнаць ён ня умеў!

* * *

Ды навошта знаць сягоньня
Колер хваляў у ваччу?
Чырвень—колер Вялікодня,
Іншы колер—уначчу...

* * *

Углядзісь у колер мора,
Як па хвалях ён плыве,
Колер ветру, ці прастору,
Ён жыве, і ня жыве!

* * *

Колер вочак не спазнаеш,—
Ён мяняецца ўвесь час,
Калі вочкі ты кахаеш,
Вугалёк пакуль ня згас!

* * *

Дрэмле саколік у сьне,
Досыць, саколка, каханьня!
Сьпі, ненаглядка, мяне,
Сьпі пацалунак спатканьня!
Сядзеш ты зноў на каня,
Пусьціш угрунь варанога,
Зноў да Вялікага дня,
Зноў да спатканьня сьвятога!

## ХВОЙНЫЯ НАПЕВЫ.

Хвоі магутныя
Вабяць удзень,
Сіні смутныя
Цягнуць у цень...
Сьцежкі наўкольныя,
Папарацьмох;
Сховы ігольныя
Схованы бог!
Царства чароўнае,
Думак чарод.
Мова бязмоўная
З году-у-год;
Збожжа нясейнае,
Волатаў шэпт;
Ласка надзейная
Дзедавы лепт!

* * *

Хадзі сюды, хадзі
У гэны кут хваёвы!
Паслухай, прабудзі
Той сьпеў адвечна новы!
Той сьпеў з глухіх вякоў,
Нячуўшых чалавека,

Жыцьця сьвяты намоў
Падслухай, няумека!
Той голас зразумей,
Што кожная галінка
Ад шчырасьці грудзей
Дае у пушчу—скрынку!
Зьдзяцінься, пагадай
Па водгульлю зязюлі,
Няўхільна наглядай
За ўзьлётам птаха-кулі!
Паглянь, як дзятлаў дзюб
За смоўжам смачна смычна;
Пугач засеў на дуб,
І дню сканаці зыча...
Па каранёх глушы,
Як гандляры, салдаты—
Вандруюпь мурашы,
Што дзённасьцю заняты,
Багата тут жыцьця
І працы і каханьня,
І крыкаў забіцьця,
І сьмертнага спатканьня!

* * *

— Уду-ду! Уду-ду!
Я тут пан, я тут пан!
— Счараваў на бяду
Мяне мшарны дзірван...
Закахаў, закахаў
Гэты шэрах іглін!
Я блукаў, я блукаў
Сярод зельля хваін...
Я знайшоў, я знайшоў
Гэты дведавы кут!
Ля смалістых грудзёў
Я пазбыўся ўсіх пут!
— Гамані, гамані
Нада мной, для мяне!
Смутак дум разгані,
Не клянуць хай мяне!
— Калышы, калышы,
Палядзі, я дзіцё!
Сярод пушчы-глушы
Мне ня здрадзіць жыцьцё!
— Хто я быў? Хто я тут?

— Уду-ду—уду-ду!
Гэты бор, гэты кут
Счараваў на бяду!—

163.

І прачнулісь яны, разьвіталісь яны,
Каб на век захаваць
Пацалунак душы...
Бо абое былі над сабою паны.
Ці пабачыць іх зноў
Той куточак глушы?

164.

Разьляцелісь яны, захаваўшы ўспамін,
І свабоду сваю
І душы чыстату.
Той успомін стаў жыць паміж імі, як сын.
Так мінулі яны
Злабадню-суяту!

## ДАРУЙ!

165.

У надвор'і стаяў, як чарнец, лістапад,
Але зранку пайшоў
Першавесьнікам сьнег.
Пасьвятлелі і змоўклі прасекі прысад,
Прыпыніла рака
Свой халодны разьбег.

166.

Сёньня зранку было неяк сумна ўвесь дзень;
Як на вырай, нясьлісь
Успаміны яе.
Хтось за ёю хадзіў, даражэнькі, як цень,
І гукаў уляцець,
Браў на скрыдлы свае.

167.

Склаўшы хварбы, альбом, яна выйшла зірнуць
На сузор'я агнёў,
На малочны той шлях.
Ёй прыйшлося знаёмы харом абагнуць,—
І на сэрца упаў
Прадчуваньня зноў жах.

168.

І пачулася ёй, што машына гудзіць:
Так з палудня ішоў
Той знаёмы ёй гук.

Так, то рыцар-Крылан да Саколкі ляціць.
Ці пропэлер так б'е,
Ці ад сэрца той стук?

169.

Толькі што-ж гэта, што? мэтэор ці болід?
Ці то ў небе стажар?
Ці то ў небе пажар?
Мо' камэта хвастом так сьвятліць кругавід?—
Не... Ляцеў да яе
І згарэў Уладар!

170.

І бягуць на пажар, дзе Ікар той упаў;
Усе сяляны бягуць
З роднай вёскі яго.
Але дзе-ж той Крылан? Дзе іх брат Ізяслаў?
Вецер вольны разьдзьмуў
Попе.. брата свайго!

171.

Ён з чаго запаліўсь? Хто дазнаецца тут?!
Там два сэрцы было:
У яго ды арла.
Дык якое наперш свой апошні салют
Адаслала зямлі?..
Тайна ночы была...

172.

Птах той хутка згарэў. Пасхадзіўся народ.
Тут Антоні стаяў,
І Прадслава, як здань,
Як падмесячны цень, углядалась у свод,
У шматзорны той свод,
Што быў цёмен, як твань...

173.

І Антоні сабраў попел скрыдлаў арла,
І заместа труны
Ён насыпаў урну,
І паставіў яе там, дзе рэчка гула,
На магільны курган
Паміж крыжаў—адну!..

174.

Прыхадзіла Прадслава сюды сумаваць.
Тут шукаў і Крылан
Над Дняпром забыцьця...

Што рабіць--ці гукаць? ці яго ўспамінаць?
Ці пад сэрцам пачуць
Дамаганьні жыцьця?..

## СЬПЕВЫ МОГІЛАК.

175.

Шэпча з лістам вецярочак...
Сьпі, саколік, сьпі, сыночак!
Я з табою, маці я—
Глеба родная зямля!

* * *

Над табою сьпяць бярозкі,
Сыплюць ліосьцем. Гэта-ж сьлёзкі!
Чуеш: ціхі, сумны звон?—
Сьпі, саколік, новы сон!

* * *

Нехта ціхі, сумна плача,
Бо жыве яшчэ, бядача!
Ты-ж, шчасьлівы, адпачынь—
Чуеш бомы: дзілінь-дзінь!
Гэта енча там капліца—
Ці сястрыца, ці ўдавіца...
Але сьпяць наўкол крыжы.
Сьні, сыночак, варажы!
Сьні ўсё тое, чым жылося,
Што зрабіць не давялося!
Сьні пяруны, сьні агві,
Кветкі маю вечна сьні!
Над табою коўдрай глеба,
А над ёй куполы неба.
Ў глебе збожжа карані,
Ў небе зорныя агні.

* * *

За крыжамі шнур з пад грэчкі,
Пад крыжамі плюскат рэчкі,
Плюскат роднае вады,
Што забылась пра гады.

* * *

Зьлійся з ёю, зьлійся з ветрам!
Перадайся грунтам-нетрам!
Сокам выйдзі у сьцябло,
Каб ня сохла, а цьвіло!

* * *

Часам неба засьпяць хмары,

Людцаў мучаць думкі-мары,
Ноччу носіцца кажан,
Ў неба просіцца Крылан.
Час мінае, слабнуць крылы.
Сеў саколік ля магілы,
Сеў на крыжык адпачыць,
Вёска могілак маўчыць...
Байкі бае вецярочак,
Сыпле жоўкленькі лісточак.
Сьпі, саколік! Гэта я—
Глеба, родная зямля!

**Міх. Грамыка.**

---

# Няскончаныя творы К. Каганца.

## 1. Бутрымава прыгода.

У Засульлі ў сяле, што абапал рэчкі дзьвюма вёскамі раскінулась, быў гаспадар, Бутрымам празываўся. Тады ён быў яшчэ малады, гадоў колькі як жанаты, ды любіў часам загуляці.

Што буду гаварыць, то ня выдумка якая, на то сама жонка яго, Марцэля, будучы ўжо ўдавою, клялася ды бажылася.

Зышоўся гэта той Бутрым са сваім кумам у Мэндалевай карчме, павялі гутарку пра сёе-тое і згадалі про грошы.

— Ведаеш,—кажа Бутрымаў кум,—дзе нам грошай узяці?

— А дзе?—пытае Бутрым.

— А ў панскім лесе... Я ўчора нагледзіў на Папоўшчыне, каля балота, брускі ляжаць. Дык ты пайдзі, запражы валэ ды едзь пад Туры, а я там накаціму цябе. А там узложым адзін і ў Стоўпцы... Вот і будзе які рубель...

Як параіў, так і зрабілі. Бутрым запрог валэ. Прыехалі пад брусьсе, ўалажылі адзін на воз і паехалі. Не праехалі яны і дзьвюх вёрст, як валэ чагось утарапіліся. Калі глядзяць—ажно на дарогу чалавек выходзіць. Яны дужа спалохаліся, бо думалі, што хтось са двара. Адно прыглeдзіўшыся, пазналі, што гэта хтось чужы: у кароткім сурдуціку, у вузенькіх штоніках, у капялюшы і залажыўшы рукі назад, як-бы кійком памахівае. Сказаць-пан—ня пан, бо на пана за тонкі; жыд—дык у жыда полы доўгі, і не кацап—хоць з барадою, бо ў капялюшы і дужа падхірысты... Адным словам, хтось такі незнаёмы. А каб яны лепей прыгледзіліся, то-б убачылі, што гэта ззаду ў яго ня кіёк, а хвост касматы, а ён адно для віду рукі залажыўшы яго прыдзержывае, і што з-пад капялюша рожкі невялічкія тырчаць. Ды ім гэта няўцямкі было.

— Куды гэта, людцэ, едзеце?—пытае той ягомасьць.

— У Стоўпцы, паночку,—кажуць мужчыны.

— Гэ, гэ! Да вы, кажа, заблудзілі.

— Ня можа быць, паночку! Мы-ж ня толькі дарогу, а кожную хвою, так сказаць, тутака знаем.

— Аднак-жа вы заблудзілі: вот прыглядзьцеся добра.—

Калі яны сталі прыглядацца, дык і ім здалося, што заехалі ў незнаёмае месца, і, скрабучы за вушамі, кажуць:

— А-а, дык ваша праўда! І што мы цяпер рабіці мем?... Хіба, панок—будзь так ласкаў—і пакажы нам дарогу!

— Дык добра, я вас аж у Стоўпцы завяду, бо й сам туды-ж іду. Вярнеце налева і едзьце за мною!—

Тыя, яму падзякаваўшы, паехалі за ім. То як стаў ён іх вадзіць па некіх невядомых дарожках, па карэньні да па балоце, а яны скрозь за ім.

І няма-б ведама, як доўга-б езьдзілі, але адзін вол паў. Тады яны, даладаўшыся, давай хрысьціцца ды Богу маліцца, дык той хрант перш усё корчыўся, пляваў, а далей—як зарагоча ды ў балота як скоча—адно пырскі выш лесу паляцелі.

А нашыя мужчыны назаўтрае на адным вале дамоў прыбіліся.

(піс. 1902 г.)

## 2. Страшнае заклінаньне.

Васіліха ўстала заранье, досьвіту, бо ў яе сёньня работы гібель,—ведама, як перад першаю Куцьцёю: трэба і хату прыбраць, і верацёны пахаваць, каб ніхто ніводнага ня ўбачыў,—а то бяда, бо верацяно нясхаванае на Коляды перакінецца гадзюкаю і будзе ўсё лета лякаці. Трэба кудзелю схаваці, каб Каляда ліха не натварыла. Да ці мала ў гэты дзень работы ўсялякай?...

Падаткнуўшы спадніцу, Васіліха спраўна чысьціла, скрэбла, мыла, кідалася з кута у кот і ўсю работу перасыпала лаянкай, як то: «а каб цябе! а бадай цябе!» або: «каб цябе чэрві стачылі! Бадай цябе халера задушыла! А каб цябе качар таптаў!» Дый яно-то й было за што лаяцца: маўляў-бы ўся жывёла хатняя заўзялася рабіці ва ўсім наперакор. Тутака куры ўзьляцелі на чыста выматы стол, там трацячок Янка перавярнуў дзежку з мукою і ўсеўшыся ўваднэй кашульцы доле, стаў мукою выводзіць па зямлі хітрыя ўзоры. Да й сам Васіль сёнечы няйнача падвараны снуе і работы сабе ня знойдзе. І цікавасьць, з ім зрабілася гэта са ўчарашняга дню, як да споведзі схадзіў і прычасьць прыняў.

Васіліха ня вытрывала: дала пляскача Янку і напусьцілася ў злосьці на Васіля:

— Што ты снуеш, як мара якая? Ці табе работы нямашака?!—

Васіль, узняўшы галаву, вачыма ўставіўся на жонку, як-бы штось згадаці хацеў, а далей прамармытаў: «Чаму-ж!?» Ды зноў даўся ў думу.

Са ўсяго відаць, што Васіль вялікую думу на ўме мае, катора яго саўсім апанавала і не дае яму дзелам заняцца. Ня дарма ён апошнім часам усё са Сьцяпанам сябруе, з самым страшным чалавекам на сяле.

Сьцяпан—вядзьмак: ён можа з чалавекам усё зрабіці, а датаго-ж ён служыць у дварэ лясьнікам і мае загаворану стрэльбу, на каторую сама бяжыць зьвярына і з каторай ніколі ня спудлуеш. Яго-то Васіль і частуе заўсёды гарэлкаю ў карчме і вядзе з ім сакрытныя размовы.

Што-ж гэта за дума Васіля мучыць і навошта ён з Сьцяпанам гэтак сябруе? А гэта дзеля таго, што Васіль заўзяты стралец і яму хочацца вельмі такой загаворанай стрэльбы, як у Сьцяпана. Вось ён і давай таго прасіць, каб яму стрэльбу загаварыў. . . . . . . . . . . . . . . . . .

## 3. З нашага жыцьця.

На краі лесу ліставога, падшытага і падтыканага дзе-ня-дзе старымі разьвецістымі хвоямі, на мяккай зіхацячай усялякімі кветамі траве ляжаў дзяцюк. Гадоў восемнаццаць яму было. А недалёчка ад яго пасьвіўся конь буланы.

Ляжаў той хлапчына чарнявы, залажыўшы рукі пад галаву, і відаць, добра яму так было, бо вочы яго карыя неяк весела глядзелі то на белыя воблачкі, каторых лёгкі цёплы ветрык гнаў кудысь па чыстым сінім небе, то на роскі, вісячыя на лістох і мігаўшыя ўсялякімі аганькамі, каторых соўнечка, нядаўна выглянуўшае з-за лесу, шчэ ня ўсьпела абсушыці. Часам наслухваў, як-бы стараючыся распазнаці птушачыя галасы, але гэта яму пэўне не ўдавалася, бо ў такіх лясох усякая твор божая любіць прабываці, а нясчысьлёныя птушачыя галасы з зыкам усялякіх мошак да казявак зьліваюцца ў адну музыку, катора чаруе, так сказаць, людзей, а катору так мала знаюць гарадзкія.

Але відаць, незаўсёды яму так добра бывае, бо на худых яго руках жылы, знаць, ад працы былі пабрыняўшы і босыя ногі яго былі патрэскаўшыся і, як кара, выглядалі; валасы, знаць, даўно нячэсаны, былі зблутаны; сьвітынка, знаць каліс белая, цяпер шэра і абтрэпана; кашуля зграбная, хоць, знаць, дзеля сьвята далі яму чыстую; парціны—тож сама.

Але вось яго чорнае ліцо чагось засупілася,—знаць, згадаў пра сваю цяжкую долю.

Да яно такі падумаць: як яму будзе, як лета прыдзе? Ён, знаць, сірата, служыць парабкам за быля што ў мала што багатшага і, знаць, не саўсім здаровага гаспадара. Гэта відаць па кані і па тым, што парабка трымае.

Лета то яшчэ сяк-так, хоць і працую можа і цяжэй, як другою парою, але затое на сьвеце цёпла, весела і хоць у нядзелю да ў сьвята мае аддышку каня пасучы. А прыйдзе—холад, зола, мяцеліца?.. Тады што яму дадуць апрануць? Прыбавяць да цяперашняй вопраткі дзіраву кажушыну вынашану і лапці падплятаныя.

А і ён мог-бы меці свой кавалак зямлі, хоць невялікі, з паўчвэрці, а ўсё-ж свая... Да ўсё суды нашы валасныя... Было двох братоў на чвэртцы зямлі. Меншага здалі ў салдаты, а старшы застаўся на гаспадарцы. Вярнуўся меншы з маскалёў, застаўся ў двор за хурмана. Там ажаніўся з панкаёўкаю і, прыдбаўшы двое дзетак, сам Богу душу аддаў. Тады жонцы дзе дзецца? Стала даходзіць дзевера зямлі. Дзевер не дае. Пайшлі ў суд. Дзевер судзьдзяў загадзіў, бо меў чым, а яна не здагадалася навет паноў папрасіці, каб з членам перагаварылі. Пайшла да члена,—дзевер першы дапаў: завёз

гладышык масла, кадоўбчык мёду, з паўкапы яец і парасят са трое. Член ёй нагаварыў такога, што і сам, пэўне не разабраў. А ў канец канцоў прыйшло з прысуцтва ў воласьць, каб перасудзіць панава. Перасудзілі, далі ёй месца на хату, кавалак, як старой бабе сесьці, агароду—і ўсё па ўсім. Яна ў дварэ выпрасіла за мужавы заслугі верхаўя на хату; людзі добрыя за пачастунак і за добрыя словы хату зрубілі. Сяк так пазычыла ў суседа на абработак грошай рублёў з дзесяць, і за гэтыя грошы накрыла, а заміж сянец, прыставіла будку з лапак... І стала там жыць з малою дачушкаю і на хлеб зарабляць: улетку—полівам, грэбівам, жнівом, а зімою—прадзівам. А старшага сына аддала ў людзі.

І вот гэты хлопец ужо і лет дарос, а ўсё служыць у таго-ж гаспадара, і ляжыць цяпер на краі лесу, каня пасе, і думае да гадае. А і ён думаць умее.

(1902 лета ў ліпні. Янка Дурны).

## 4 На сплаў.

Ня тое ўжо стала наша Палесьсе, як колісь было! Няма ўжо тае свабоды! Няма ўжо ні тых лясоў нашых слаўных, адвечных, поўных усялякага зьвяр'я; ні тых балот бесканечных, паросшых камышом, плешчаём, сітнягам, маўляў-бы лесам якім, у каторым кішмя кішыць усякае птуцтва вадзяное. Цяпер усюды знаць «працавітая рука расейскага правіцельства»: усё Палесье парэзана выведзенымі пад ліньню канавамі, па каторых сплаўляюць астаткі нашых лясоў у рэкі, а рэкамі—у мора. Дзе былі адвечныя лясы, там цягнуцца парэзаныя ў клеткі полі. Адно чорныя пні, каторых рука чалавечая не паўздужала так скора павідзіраць, тое месца значаць. Дзе былі непраходныя балоты, дзе толькі дзікі зьвер да наш паляшук—да і то ня ўсюды —мог прабрацца, цяпер сьцелюцца паросшыя буйнаю травою і так-жа парэзаныя клеткамі, лугі. Толькі тыя лясы, каторыя казна сабе надзяліла, яшчэ красуюцца, сказаць, у пэласьці...

О, бедныя лясы нашы, краса і багацтва наша! Таеце вы, як сьнег пад гарачым соўнейкам, і ўсякі вас стараецца чым скарэй вынішчыць!

Як толькі казна асушыла нашы балоты, парэзаўшы скрозь канавы, паны з купцамі ўзяліся чым дужы за лясы. Пан рад, што можа лес свой куды нібудзь дзець,—прадае купцу за быля што, а той ставіць сярод лесу шахварню і, пасяліўшыся там, жыве і сьпяшаецца датуль, пакуль можа, які грош выціснуць.

У сяле Савічах была кантора аднаго багатага таргоўца лесам. Было гэта раньняю вясною, калі сьнег пагнала адусюль, і рэкі да канавы шырока мелі разьліванца. Трэба было сьпяшацца сплаўляць дрэва.

Вота-ж у Савіцкай канторы, у вялікай і вельмі нячыстай, як заўсёды ў жыдоў бывае, ізьбе сабралося чалавек больш сарачні нашых мужыкоў, каб наняцца прагнаці прыгатаванае за зіму дрэва да Птыча ракі. У ізьбе стаяў туман, пахла махоркаю і мокрымі анучамі і кажухамі. Усі нараз гаварылі

так, што за гоманам нельга было разабраці нічога. Пад сьцяною, за сталом, сядзеў брухаты і. . . . . сам тарговец са сваім шапарам і запісываў прозьвішчы нанімаўшыхся на сплаў мужыкоў. Ён сядзеў важна, спакойна і не сьпяшаючыся ставіў у кнігу свае выкрутасы і раз ад разу падымаў сваё веснаватае ліцо з рудою барадою і хітрымі вочкамі і скоса пазіраў на людцоў. Шапар яго—жыд чарнявы, юркі—усё бегаў, махаў рукамі і запляваўшыся крычаў на мужыкоў.

— Гвалт! Ня крычэце, ня крычэце! Няхай адзін за ўсіх гаворыць! Чуеце? ша!—крычаў шапар, махаючы рукамі і плёваючы на бораду.

— Што-ж, можна, няхай будзе і так... няхай адзін гаворыць,—загаварыў мужык.—Усё роўна. Гавары ты, Яўхім!—

З грамады вышаў Яўхім у белай сьвіце, ня вельмі высок, але ў плечах дужа шырок. Лет яму пад пяцьдзесят было. І ён прыйшоў наймацца з сваім сынам Астапам. Ён выступіў на шаг з грамады і адкашляўся.

— Чакайце, сьціхніце!—загаманілі ў грамадзе.—Яўхім гаварыці будзе!—

Купец адвярнуўся ад кнігі і з насьмешкаю, важна ўставіў свае хітрыя вочы на Яўхіма. Ён ведаў, чаму людзі так усхадзіліся: ім не спадабалася пасуленая цана, але ён такжа ведаў, што ўсё такі канец канцом перамножа і заплаціць такую цану, якую сам захоча. Прыказчыкі яго загадзя бочку гарэлкі прыдбалі, катора там-жа стаяла і на каторай сядзеў сторaж пажылых лет, худы і нішчэмны, і трымаў у руцэ бляшаную кварту напагатове. Людзі памалу сьціхлі, а Яўхім зачаў.

— Вось што, пане купец: цану малую даеце. Па гэтую цану нельга прыступіці. Па чатыры злоты за лаўку... гэта нідзе ня відана! Гэта-ж—падумайце самі!—гэта-ж марац на дварэ, а вада вялівная будзе... гэтак сьнег пагнала. Нельга з плытамі ўправіцца будзе. Другое-ж, і лодак мала... Па рублю дасьце, дык пагонім...

— Але, лодак летась саўсім мала было, саўсім мала,—загаварылі людзі.— А паспытай цяпер у воду па шыю лезьці...

— Ша, ша!—зашыкаў шапар, махаючы рукамі.

— Лодкі будуць,—важна адазваўся сам купец.—Я купіл. На этай нядзеле прывязут. Старых яшчо пяць штук есьць.

— Куды пяць!—зноў зашумелі.—Адна-ж саўсім гнільё.

— Гаварат вам, будуць лодкі!—крыкнуў сам купец.

— Чуеце? Купец кажа, будуць лодкі!—кажа Яўхім.

Людзі заварушыліся. Некаторыя падыходзілі к Яўхіму, штурхалі яго ззаду і шапталі яму на вуха.

— Ну, што ясцо?—спытаў купец.—Цана малая? Такая вязьдзе, вязьдзе такая цана. Какая цана есьць, такую і даю.—

— Крыўдуюць,—кажа Яўхім.—Кажуць, што вельмі пакрыўдзілі тых, што дрэва тралявалі ўзімку. Штрапаў шмат пазапісвалі. І цана ад лаўкі.. заўсюды рубель плацілі.

— Ге! штрафаў шмат запісалі! Ге, чэрці!—закрычаў шапар.—А колькі дзён не адрабілі? Ге?!—А потым, нахінуўшыся к купцу, штось пашаптаў

— Вот сто, брацпы,—сказаў купец, выслухаўшы шапара.—Есьлі вы харашо да Пціц дагоніце—прасцу, усе страф прасцу, усё заплачу, што задзярзал. Па рублю ня дам: нідзе цяпер па руб ня плацяць. Спрасіце, гдзе хаціце. Дам па семдзесят капеек і па кварта водка. Водка—фаін, харошая, крэпкая! Водка цяпэр дім, на задатак.

— Ув рот гарэць будзет!—зажартаваў шапар.

— Яно то так, гэта добра,—загаварылі мужыкі.—Адно на Востраве па рублю ад лаўкі плацяць.

— Ну, ступайце на Остраў!—як-бы яму ня рупіла, кажа купец.—Пускай там і па дзесяць плотят. Сказана, па 70 капеек цана, а там—как знаеце. Больс ня прыбаўлю.—

Як-бы яны там доўга таргаваліся, няма ведама,—адно купец дагадаўся крыкнуць:

— Хто за семдзесят капеек ня хоцат—ухадзі! Эй, запры кран і спрац кварта! Ня нада водка!..—

Як загаманіў купец так, нашы мужычкі як-бы чагось зьлякаліся. Ня то што-б заработкаў ня ўтраціць, ня то што-б гарэлка не ўцякла, а так, проста паверылі жыду, што ён большай цаны дацъ ня можа. Бо, апрача ўсяго, наш народ яшчэ ня так сапсован, як другія, і ён як сам праўдзівы і чысты, так і ў другіх справядлівасьць верыць.

— Да ўжэ няхай і так будзе! Мо'а Бог паможа,—адазвалася колькі чалавек. За імі і другія сталі прыставаць на гэту цану, а некаторыя і не хацелі-б прыстаці, да грамада—не адзін чалавек. Дык мусілі і тыя вярнуцца і прыстаць на тое, на што грамада прыстала. Толькі адзін Пахом не паддаўся і хацеў быў іці. Пахом быў высокі і відны мужчына, хоць лицо яго было бледна.

— Гэй, гэй, Пахом! Куды пайшоў?—крычаў нішчэмненькі, у стоптаных лапцях чалавечак, ня пушчаючы Пахома ў дзьвярах.—Усе згадзіліся, чаго-ж ты працівішся? Хадзем гарэлку піць! Вось зараз давацімуць.—

— Не,—кажа Пахом, вагаючыся.—У Востраве рубель даюць, дык я туды...

— Але-ж да Гострава міль з чатыры, болей!—крычаў нішчэмненькі.—Ідзем, брат, ідзем!... Мужчынкі, цягнеце яго, а то ўпіраецца.—

Пахом пастаяў, пагадаў, патом страпянуў чупрынаю, махнуў рукою і вярнуўся да грамады, катора стала націскацца і крычаць, каб скарэй запісвалі і гарэлку давалі.

— Ша, паціса, ня ўсе разам!—супакоіваў купец.—Гэй, хто там наперад стаіць? Заві староста!... Ты няграматны? На, цібе квітанцыю!... Староста, стаў пячаць!...

Сталі мужычкі падходзіць чарадом. Іх запісвалі, выдавалі квіткі, а з квіткамі падыходзілі к старасту па гарэлку, з той наліваў ім у што хто падставіць—чы ў гляк, чы ў бутэлькі, чы ў баклажкі, чы ў берасьцені...

І пайшло таго-ж вечару гуляньне, як-бы радаваліся, што зрабілі ўмову на працу, катора і на катарэе ў дзесяць столак лягчэйша...

## 5. На сплаве.

Быў хмурны марцовы дзень. Сярдзіты сівер то прыціхне крыху, як-бы для таго, каб адпачыўшы з новаю сілай закруціць мяцеліцаю, або запыліць дробным дажджом, каторы прамачаў адзежу і праймаў да касьцей холадам. Вада сама што разьлілася і з шумам неслася канаваю, а дзе берагі былі нізшыя, там шырока разьлілася па луках, адно матляліся макаўкі лазьняку і кіты леташняга чароту. Сьнегу па лясох і па ярох было многа, а пры берагох з шэлестам зьбіваліся дробныя крыгі лёду. Дзе-ня-дзе плылі па канавах бярвеньні (гэта астаткі прагнаных сюдою плытоў, каторыя падбіраюць па дарозе пагубленыя пярэднімі плытамі бярвеньні),—знак, што сюдою ўжо йшлі плыты, бо хоць плытнікі і ловяць пагубленыя пярэднімі плытамі бярвеньні, але не ўсьцерагуцца, каб самым нічога ня згубіць.

Вось у тумане на кругазоры паказаліся дзьве чалавечыя постаці, каторыя з даўжэжнымі каламі (прысамі. *Я. Л.*) бегаюць то ўлева то ўправа, то адпіхаюцца, то плыт падлегчаць. Гэта йшоў вялізны плыт, лавак з дванцаць, а два плытнікі—ужо нам знаёмыя савіцкія мужычкі, Яўхім з сынам Астапам. Трудна ім было ўпраўляцца, бо вецер шыбаў плытам і трэба было ім вельмі пільнавацца, каб ня выкінула на бераг. Да яны ўжо з гэтым дзелам зналіся і, хоць прамокшы да ніткі, занятыя труднаю работаю ня чулі холаду і спраўна бегалі па аблітых лёдам круглякох, дзе няпрывычны чалавек і разу ня ступіў-бы.

Але вось яны мінулі лукі, і плыт схаваўся ў лес. У лесе было зацішней; абапал канавы цягнуўся стары лес. Зьнізу дрэвы былі заняты вадою, а голае гальлё падымалася к небу, як-бы рукі, просячы ў Бога сонца і цяпла. У лесе ня трэба было кіраваць плыта, каторы проста нёсься па гудучай канаве. Астап першы кінуў свой кол (прыс. *Я. Л.*) на плыт і пайшоў у зробленую пасярод плыта саламяную будку.

— Але холадна,—прамовіў Астап, лезучы ў будку.—Можа папалуднуем, тата? Эх, каб цяпер ганучы перамяніць!

— Вось чаго захацеў!—маркотна сказаў Яўхім.—Як дабярэмась да начлегу, дык абсушымся. На, вот бравэрку, накрыемся да хлеба ўкусім, а вады маем паддастаткам.—

Кажучы гэта, бацька падаў сыну запасную бравэрку, дастаў з пад саломы бохан чорствага хлеба і, вынуўшы з-за поясу ножык, каторы як ведама, вісеў пры поясе на доўгім раменчыку, і стаў ім рэзаць хлеб, і моўчкі сталі яго спажываці.

— А жыд, каб яго трасца, такі з лодкамі ашукаў!—першы загаварыў Яўхім.

— Усіх, тата ён, ашукаў.

— А ўжо-ж усіх! Што-ж яму нас адных ашуківаць?! Тут-то яшчэ пустое, але вось як у Дзікае балота выберамся, вось дзе паскачам! Бог ведае, як мы бяз лодкі ўправімся...

— Можа яшчэ не разьлілося?—нясьмела заўважыў сын.

— Не разьлілося! Ого!.. Кажухінскія казалі, што і берагоў ня відаць. Там вецер, як дасьць, дык бяз лодкі ані рады! Загоніць цябе ў камышы і кукуй, покуль людзі добрыя ня выцягнуць. Хоць і ня многа—тры вярсты гэтым балотам іці, а пайдзі паспатай! Вельмі паганае месца...

— А можа не саб'ёмся з канавы?

— Можа й не. Бог ведае, як уласца. Трэба будзе добра калам папарабляці.

— А каб нам, тата, у лесе прыпынуцца і пачакаць другіх плытоў?

— Не, сынку! Нельга канавы загароджваць. Да чым-жа бо нам і затрымаць плыт? Чы ў нас гакі ё, або што? Да і пакалеем чакаючы. Лепей рушайма, абмінём Дзікае балота, а там і да Дзікавіч на нач. А добра цяпер пры агні!..

— А ўжо-ж, чаму не!.. Дома цяпер, нябось, такжа палуднуюць...

— У Дзікавіч пераначуем,—кажа бацька,—а там да Птыча ўсяго 20 вёрст застанецца. На заўтрае і ў Птычы будзем, да й дамоў... Плыты здадом дубавіком, сядзем на чугунку і да хаты. Добра чугункаю ехаць: і цёпла і швыдка.

— Вёрст 10 у гадзіну пройдзе?—пытае сын.

— Да ўсе трыццаць!..

— Вось яе!—Астап навет прышчурыўся—а па Птычы, тата, хто плыты пагоніць?

— Там ужо другія, грамадамі з атаманамі да дубавікамі. Там гэтыя плыты павяжуць у вадзін вялізны—ня так, а добра—і паплывуць уніз да Прыпяці, а Прыпяць—у Днепр да Кіева. Там астаноўка будзе. Назьяжджаецца купцоў дрэва перакупляць. Быў я раз у Кіеве, на места хадзіў...

. . . . . . . . . . . . .

## 6. Тры алешыны.

На краю лесу, недалёчка дзюрчачай па каменьнях рэчкі, расьлі з аднаго карэньня тры алешыны. Расьлі яны слабодна і бучна (?). І вот настала восень 1893 лета; і нашы вольхі скінулі на зіму свой ліст, як заўсюды; адно, як прыйшла вясна, то ўжэ болей сваіх веснавых шат не апратывалі, а сталі голыя і чорныя як улетку, так і зімою. І дзе хто (некаторыя. *Я. Л.*) дзівіліся і стараліся разгадаці прычыну наглай сьмерці трох сёстраў. Да нельга ня ведаючы разгадаці таго, што толькі Бог і адзін чалавек ведаюць. Да і трудна паверыць, каб ад такой прычыны разам ссохлі такія бучныя, гладкія, здаровыя і жывучыя, як усякая вольха, тры дзярэўцы. Вота-ж, хто хоча, няхай паслухае, што павядала сваім таварышкам сава, на той час тамака лятаўшая.

Знаеце, сястрыцы, тую дарогу, што ярам да рэчкі спускаецца, і дзе пры выхадзе з яру да рэчкі з аднаго боку на грудку, між зарасьніку, відаць белы крыж, а з другога боку, на супраціў таго крыжа, высока над самым абрывам, стаяў стары выпалены ў сярэдзіне дуб? Павінны вы добра

тыя месцы знаць, бо там дужа красныя горы, зарасьнікі, старыя дупляна-стыя дубы, вербы, бярэзіны і ільмы; многа там гарэшніку, а ў нізе—рэчкі працякаюць і багата там для нашае сястры жыру: вавэрак, мышэй і пту-шак усялякіх. Я, знаючы гэта, часьценька тудэма пралятала і часта дзіві-лася на дзяўчыну, што кожнага вечару хадзіла пад той крыж белы, і на дзяцюка, каторы хадзіў часта пад той дуб стары. Часам яны спатыкаліся—прывітаюцца, бывала, як мае быць, скажуць да сябе слоў пару і разыдуцца. Але часьцей усяго мне прыводзілася бачыць, як дзяўчына пад крыжам Бо-гу малілася, а дзяцюк стаіць, бывала, панурыўшыся, к дубу прысланіўшы-ся, або сядзіць пад абрывам ногі зьвесіўшы, а бывала, што і да раніцы праляжыць там пад кустамі ліповымі. Абое яны былі каравокія і чарнабры-выя, ростам ня высокія, і ён сабою неказісты быў, адно вочы неяк хараша глядзелі, і яна была ня так красна, як гарна.

Так, папраўдзе сказаўшы, я да іх прывыкла і іх палюбіла і часта, сеўшы на дубе, на іх пазірала. Раз бачыла, як яна малілася, а ён, зьняў-шы шапку, стаяў у кустох у яе за плячыма і, як яна, пачуўшы, мае быць яго ўздох, азірнулася,—ён без ніякага пэлесту нырнуў уніз у гушчар, і потым яго ўбачыла на другі бок яру на абраве ту-ж, пад дубам. А раз ба-чу—сядзіць яна пад крыжам, а перад ёю той дзяцюк стаіць, к крыжу пля-чом прысланіўшыся і аб чымсь гаварылі, адно я не разабрала, аб чым, бо штось ня вельмі я гэту чалавечу гутарку цямлю. І як яны адтуль уходзілі, то яна ішла ў той двор, што там за рэчкаю, а ён ішоў на гору, а там—або ўлева гарою, праз хвайнячок, дзе шляхта дрова рубае і дзе коні пасе, у той хутарок, што за рэчкаю над жывою крыніцаю; або ўправа з гары, каля саду апусьцелага, абсаджанага ельнікам і гарэшнікам, дзе жыве тая імасьць тоўстая, з сівымі валасамі, што многа катоў і сабак гадуе, у тую сядзібу, дзе з трох бакоў лес, а з аднаго—поле, дзе між лесу логам працякае рэчка і дзе недалёчка хаты, у лесе, стаяць адвечныя тры хваіны і дзе расьлі тры вольхі, што пасьля адной зімы не распусьціліся і так стаялі, аж пакуль не спарахнелі. Калі раней вяртаўся ён да дому, то садзіўся штось пісаці. А раз бачыла, як ён, седзячы на перад клеці з двома мужыкамі—адзін, што тут за лесам жыў і хадзіў дошкі пілаваці, а другі з жоўтымі вя-лікімі вусамі, што ходзіць ківаючыся і жыве штэ далей, за лес, у вёсцы,—аб чымсь гутарку вялі, і так мне здаецца, што аб зямлю гаварылі, бо часта паказвалі на поле і на лес.

Раз лятала я над тым дваром, дзе тая дзяўчына жыла, аж бачу—ста-іць сівая акульбачана каняжына, повадам за штахэты (?) пры хаце тае дзяўчыны закінута, а на перамеці (?) тае хаты, на лавачцы, сядзелі яны абое і перакідаліся ціха словамі, а потым яна ўскінула галаву і страсянуў-шы ёю штось сказала. Тады ён пабялеў неяк, зацяў зубы, скочыў на каня-жыну і панёсься, як утрапёны, праз масток і ярам угору. Я гэта паціка-вілася і палящела за ім назіркам. Бачу—прыляцеў на двор к сабе, садраў з каняжыны кульбаку і уздэчку, кінуў іх наземь, каняжыну ў хлеў пусьціў, а сам пайшоў к лесу да як паў пад тыя тры вольхі, так там і праляжаў

да раніцы, як няжывы, адно час ад часу ўздыхаў цяжка, а як стала днець, то залез у прыстрэшак на сена, і што ён рабіў далей—ня ведаю, бо настаў дзень, і я мусіла куды-нібудзь прыпынуціся ў зацішак. Гэта было ў жытняе жніво. Тады гэтыя вольхі былі ўкрыты бучным зялёны лісьцем. Прыйшла восень, ліст асыпаўся і, як настала зноў вясна, то ўсякае дрэва аджыло і заселянела, а тыя вольхі балей не распусьціліся і сталі так доўга мёртвыя і голыя.

Прайшло зім дзесяць чы болей, і прывялося мне, лятаючы каля блізкага мястэчка, убачыць яшчэ таго дзяцюка, ужо пастарэлага, як ехаў адной марознай ночы па завеянай дарозе, між двох жандараў, з мястэчка на паўстанак. А што яе, то і цяпер спатыкаю часам, як палячу Вусаю далёка уніз,—так там е млін. Мае яна сабе мужа мельніка з вачыма сьветлымі, на выкаце, а сам такі гладкі, мяккі. Маюць яны ўжо і дзетак з пару.

## 7. Забойства ў пушчы.

Па пушчы Дулебскай, у ясны дзень, калі мнявае лісьце на лесе пыша сьвежасьцю і пахам, паводзячы чалавеку столькі гадак усялякіх, і цёплы веснавы воздух размарае яго шлункі прыятнаю млявасьцю, і хочацца расьцягнуцца дзе на галу на зялёнай мураўцы,—прабіраецца вядомымі яму сьцежкамі дулеб, высокага росту, стройны, каравокі, з невялікаю чарнявою барадою, у белым летнім дулебскім пасоўчыку, у сіняй з зялёным кантам шапцы, з гербам і бляхаю на рэмені торбы з ласовых лапак, катора вісіць у яго з левага боку, з калітою і нажом пры поясе і са стрэльбаю за плячыма. То йдзе стралец Жыцінскага абходу Дулебскага аб'езду, лясоў грапа Патоцкага—Даніла Пэдрык. Ён верна спаўняе сваю службу, да і па злосьці нікога не падасьць, як то часта ў другіх стральцоў вядзецца, да й перад лясьнічым падлізьнікам ня будзе.

Вот ён прабраўся праз балота па кладках, па каторых умеюць хадзіць адно паляшукі, і вышаў на голы бор, за каторым зачыналася цёмная старына, як бездна яка. Выбраў ён сабе месца на галу пад векавым сталам (?), падзівіўся на муху божую, катора дужа іскавала дя дубовае сіці, што зьлева ўверсе, выняў з торбы хлеб і сала і расьцягнуўся ў верасе, палажыўшы поплеч сябе стрэльбу, стаў рэзаць і спажываці. Перакусіўшы крыху, рэшту хлеба схаваў у торбу і, падпёршы ліцо рукамі, задзівіўся на пушчу. А ў пушчы ціха-ціха ў палудзенну пору, спакойна так і вялічава, і чуеш сябе панам ў гэтае пушчы, дзе няма табе прызначанае дарогі, ні платоў ні абмежкаў. Чуеш поўну слабоду і здаецца-б так і ня выходзіў з пушчы. Хіба згадаеш пра сям'ю, катора дома есьці захоча, а як прыйдзе зіма, то й самога з пушчы холадам да голадам выжане. Так і Данілу думаецца аб дзецях, каторых ён так любіць. Мае ён сына Міхалку, падростка, і двух дачок яшчэ малых. Хацелася-б яму падвучыць сына граматы, да нельга: раз—што ў Дулебах, у глухім сяле сярод пушчы, школы няма; другое—работу дома некаму рабіць, а тут і годы трудныя насталі...

I думкі яго панясьліся ад будучага назад у прошлае. Прадсталі перад ім усе радасьці і гора яго, і моладасьць і дзіцячыя годы яго. I мысьлі яго так шыбалі і шыбалі што далей і далей, аж у той сьвет паляцелі, і вочы яго заплюшчыліся і галава апусьцілася да зямлі. I сьнядца яму дзівы дзіўныя: як-бы то ён перад сваім грапам пакойнікам стаіць, да і грап той якбы ня грап, а якісь пан. I зіяе той пан якімсь сьветам дзіўным і ўвесь як-бы праврысты, так што праз яго ён сваё сэрца бачыць са ўсімі праграшэньнямі, каторыя, пахадзя на тоненькія гадзючкі, і стараюцца джалам тое сэрца ўкалоць. I ня можа ніяк згадаць, дзе ён пана таго бачыў, хоць, здаецца, знаёмы. Ды й то здаецца, ня толькі вачыма яго бачыць, а чуе яго ўсімі шлункамі, і перапаўняецца яго душа невядомым дагэтуль чуствам—ня то страх які, ня то радасьць,—і ад гэтага сільнага чуства прахапіўся ён, а сэрца яго, як ня выскачыць, так калоціцца.

Бачыць, і сонца ўжо дужа к заходу схілілася. I хацеў іці ён да хаты, да штось яго ў пушчу цягне, у ту старану, што за галам ляжыць і здаецца, уніз дзесь зыходзіць. I хоць ня хочацца яму туды іці, а йдзе.

Ідзе ён у падар, дзе ліпнёг слаўны падняўся, і любуецца ён, расхінаючы высокія гладкія ліпкі, каторыя мягкім сваім лістом ласкочуць яго па ліцы. I такі душа яго дулебская ня вытрывала, і супыніўся перад самым гладкім, папаўшымся яму ў вочы, лутком і ўжо ўзяўся за нож, штобы яго зрэзаць, як чуе з глыбі падару ціхі мяккі, знаёмы усім паляшуком трэск, як-бы хто лісьце абшморгіваў. Забыў ён свайго лутка і, замкнуўшы нож, нячутнаю, спорнаю ступою пакраўся ў падар, бо пазнаў, што хтось лыкі дзярэ.

Прабраўся ён па гнілому калодзьдзі, па крапівах да папаратніках, у каторых мясцамі ён утапаў з галавою, і дайшоўшы старога дуба, з пакрыўленым падкуром, стаў і настаражыў вушы. Чуе—вот, вот за балоцінаю, парошчаю плюшчаем, касачамі і мячэўнікам, лыкі дзяруць. Ён акружыў балоціну і кінуўся ў гушчар, адкуль чуваць быў трэск.

Зараз падняўся гоман, затым хтось дзікім голасам крыкнуў, потым пачуўся стогнат, а далей усё сьціхло, толькі чутно было шарах і трэск, як-бы ўцякала двох або трох чалавек, да й то скора заціхла. I пушча зноў стаіць панява і маўчыць, як-бы нічога ня сталася там.

А сонца што раз ніжэй і ніжэй клоніцца—ухадзілася, бач, беднае за ўвесь веснавы доўгі дзень і яму пара сапачыць. Вот прыляцеў глушэц на агромністу асіну і стаў набіваць сабе гарляк сочным асовым лісьцем. Вот запішчала рабка, склікаючы сваіх куранятак, я вот ад рэчкі Жыцянкі пайшоў посьвіст салаўя. А вот і соўнейка, укутаўшыся (агарнуўшыся. *Я. Л.*) чырвоным пакрывалам, зайшло на сапачынак у сваю сапачывальню. А дома Даніліха жджэ з вячэраю мужа. Жджэ і не дажджэцца, і думкі благія яе душу штось трывожаць. Забег позна вечарам да Даніліхі другі стралец дулебскага абходу, Сьцяпан Слабко, і, пачуўшы ад яе, што Даніла яшчэ з лесу ня прыходзіў, папытаўся яе супакоіць словамі: «Вот наўда! Знаць, засеў на каго... чы то пяршына стральцу ў лесе начаваць?» I пабег дадому.

Прайшла для Даніліхі трывожная ноч, а Данілы няма. Пайшла трывога к аб'ездчыку, к лясьнічаму, к прыставу. Сабралі стральцоў, паліцыю, нагналі народу, пайшлі розыскі, а Данілы як няма, так няма. І не знайшлі яго тады, а толькі, як разьехалася паліцыя, арыштаваўшы калькіх дулебцаў пастух дулебскі зьнячэўку набрыў на безгаловага мярца, падбітага пад глыную (гнілую) калоду, у каторым прызналі Данілу.

Прыехаў сьледавацель, доктар, паліцыя: саставілі пратакол і паехалі. Данілу пахавалі, арыштованых павыпушчалі. Адміністрацыя тае месвасьці назначыла дажывотную запамогу Данілісе па 3 рублі ў месяц, а вінаватага такі не знайшлі.

Потым праз гадоў два на трэці як-бы аказаўся вінаваты. За Мацеевічамі жывуць шляхты Цьвіркі, і раз, як падраліся, то адна Цьвірчыха, выскачыўшы з хаты, уцякаючы ад мужняга брата, закрычала: «Што? Ты й мяне хочаш забіць, як Данілу?!» Суседзі пачулі, падказалі; тых Цьвірка̇ забралі да нічога не дайшоўшы, бо тая Цьвірчыха стаілася, адпусьцілі іх. Так яно і засталося.

*Да друку падаў* **Я. Лёсік.**

# ЖАНКІ ПАМАГЛІ.

У вёсцы Прутох большасьць людзей жыве згодна паміж сабою. Бываюць, праўда, спрэчкі дробнага характару, але яны псуюць адносіны паміж людзьмі ня больш, як на два-тры дні. Нават жанкі там сварацца даволі рэдка, бо мала вельмі й прычын, якія-б давалі ім выпадак заводзіць іх. У Прутох калодзежы ёсьць бадай-што ў кожным двары і, дзякуючы гэтаму, сяло ня бачыць жаночых зборышч каля іх, як гэта бывае па іншых вёсках. Палотны на выгане сьцелюць ня ўсе, бо большасьць мае для гэтага месца у ўласных сядзібах. Толькі зайшоўшы з бялізнай на рэчку, бывае, што і ўздымуць там сварку. Праўду кажучы, і прырода надзяліла прутоўцаў вельмі шчодра: поле ў іх добрае, вялізны выган цягнецца ад самых задворкаў аж да скарбовага лесу, а травы на ім даволі было нават у сухія годы.

Было ў гэтай вёсцы шмат такіх гаспадароў, якія падтрымлівалі згоду паміж сабою, ці як добрыя суседы, ці па іншым якім прычынам: але нікога ня мучыла так сяброўства, як двух суседаў—Кузьмоў: сяброўства даўняе, моцнае старымі ўспамінамі. Гэтаму сяброўству здавалася канца ня будзе, пакуль будуць жыць самые сябры. Толькі жанкі гэтых добрых людзей ня мелі прыхільнасьці адна да другой і хоць трымалі добрыя адносіны суседак для людзкага вока, аднак былі паміж сабой патайныя ворагі. Здаецца, што ня было нават для гэтай няпрыязьні ніводнай значнай прычыны, але—што-ж ты зробіш, мабыць ужо такая прырода жанок, што дазваляе ім мець няпрыемнасьць да іншых нават дзякуючы іх надворнаму выгляду. Трэба сказаць, што нравы ў гэтых людзей былі не аднакія. Гэта можна было сказаць, паглядзеўшы толькі на іх. Кузьма «чорны» быў высокага ўзросту, з чорнымі валасамі, накрываўшымі сабою, быццам шапкаю, яго вушы. Твар яго быў убраны вялізным носам і вачыма малымі, чорнымі, глыбака сядзеўшымі над чорнымі бровамі. Гаварыў ён басам і, пры гэтым, шчокі яго раздуваліся, як кавальскі мех. Кузьма «бялявы» усёю сваёй асобай выяўляў поўную адваротнасьць Кузьме «чорнаму». Быў ён маленькага ўзросту, з крываватай трохі правай нагой, на якую ён пры хадзе, як сам казаў, «трошкі пацiскаў», але гэта ня шкодзіла яму хадзіць так сама праворна, як і яго дружака. Быў ён валасу сьветлага, з маленькім, выглядаўшым на канцы, як спарышы з арэхаў, носам і рэдзенькаю ў некалькі валасоў бародкаю. Любячы страшэнна разумныя рэчы, Кузьма «бялявы» часта заходзіў да валаснога пісара.

а іншы раз і да сядзельца. Дзяка ён не далюбліва; затое, што той кожын раз, сустрэўшы яго на вуліцы, абзываў «лупатым» за акуляры, якія Кузьма насіў. Трэба зазначыць, што прутоўскі дзяк даволі рэдка бываў цьвярозым, а для п'янага нічога ня вызначае абразіць нават і такога чалавека, як «бялявы» Кузьма. Цэлая скрынка кніжак стаяла ў Кузьмовай хаце і ў іх «аб усім пісала», як казаў сам Кузьма. Усе давалі веру гэтаму, а валасны старшына празваў яго хату «паварсітэтам». Толькі раз вялікая вера сялян у веду Кузьмовых кніжак крыху пахіснулася і, праўду кажучы, дзякуючы надта малому выпадку. У Арынінае дачкі,—тае Арыны, што жыве ўпоравень з Міронам,—захварэла дзяўчынка. Ну, жанчына і надумалася: давай пайду да «бялаватага» Кузьмы; ён, маючы гэтакія кніжкі, можа што й дапаможа. Пайшла, застала дома й яго ды стала прасіць, каб даў раду дзіцяці, а ён і кажа: «ну, гэтага ў маіх кніжках няма. Калі-б ты папытала што небудзь у мяне пра кітайцаў, дык я-б табе сказаў, што ў іх ёсьць свой багдыхан. У мяне гэта ў адной кніжцы пішэ. Альбо пра тое, як па аракуле гадаць... А на гэта—хвэршал ёсьць». Ну, жанчына, вядома, адвіталася дый пайшла дадому, страціўшы ўсякую павагу да кузьмовых кніжак. Можа гэта так і забылося б, але на дарозе яна сустрэла Аўдоцьцю, Пятра гарбатага жонку. Сустрэліся, то й пагаварыць трэба,—асабліва ў такім выпадку, можа й параіць што-небудзь. А назаўтра ўжо ўся вёска сьмяялася з Кузьмовых кніжак. Нядарма-ж гэтую Аўдоцьцю почтай празвалі; калі яшчэ дзеўчынай была, а з замужжам здольнасьць гэтая ў ёй яшчэ больш разгарнулася.

Кузьма «чорны» страшэнна ня любіў бачыць свайго сябра ў акулярах і, бывала, калі яны, стоячы на вуліцы, разглядалі ключы жураўлёў, адлятаўшых у вырай, Кузьма «бялявы» ня мог адразу ўбачыць іх нават праз свае акуляры. Тагды Кузьма «чорны» ад душы раіў яму зьняць з носа гэтую дрэнь, што толькі цемніць, а не дапамагае бачыць. Кузьма «чорны» курыў люльку, якая ўжо была, мабыць, надта старою, бо ў той час, калі гаспадар цягнуў з яе дым, пачынала храпці і сіпець так, што страшна станавілася за яе ўласьніка, бо заўсёды можна было ждаць з яе боку якое небудзь пакасьці, яна магла нават зьнячэўку разваліцца й гэтым увясьці ў неспадзяванные выдаткі свайго ўласьніка на купоўлю новае люлькі. Кузьма «бялявы» курыў крупёлкі і заўсёды сьмяяўся з свайго сябра затое, што той носіць качаргу гэту ў запазусе. Адно найболей за ўсё злучала іх—гэта пчолы. Тут яны дапаўнялі адзін другога. Кузьма «чорны» быў вялікі знавец і умека па вырабу вульлёў, але мала знаўся ў тым, як у іх трэба садзіць пчолы, а гэта надта добра ведаў Кузьма «бялявы». Кузьма «чорны» меў шырокі загон на сялянскіх палетках, «бялявы» ж Кузьма, мала маючы свае зямлі, трымаў у арэндзе царкоўную і адзначваўся падзвычайнай працавітасьцю нават сярод прутоўцаў. Наагул, абудва яны былі заможнымі гаспадарамі і у абудвых было шмат пчол, дзякуючы чаму ў сяле было нямала людзей, якія зайздросьцілі ім у гэтай справе, але, ня гледзячы на гэта, у пчолах ім шанцавала. Кажуць жа людзі, што калі хто пазайздросьціць на твае пчолы, то яны ўжо напэўне вымруць, але у Кузьмоў яны вялісь. Кузьма «чорны» прызначаў гэ-

та таму, што яны рабілі ўсё з Богам, іначай, кажучы, у восень, на Пакровы заўсёды хадзілі абадва ў цэркаў з тоўстымі сьвечкамі новага воску. Кузьма «бялявы» выводзіў гэта з добрага догляду за імі. Кузьма «чорны» не далюбліваў гэтых праяў бязбожжа ў сваім сябры і дадаваў вялікую вагу ў гэтым акулярам, бо каб не яны, то сябар-бы болей да Бога быў аддаты, а то начытаецца гэтых кніжак, што ў іх усякую дрэнь пішуць, ды пасьля і сам пачынае ўсякае дурства разводзіць. У прошлую восень купіў нейкую кніжку тут у аднаго цыгана, што за мостам на шляху сядзіць у хатцы, і няма ведама што робіць. У гэтакага валацугі ды яшчэ ў цыгана хіба можна што путнае купіць? Ён тагды яму гэта казаў, але Кузьма ўсё выхваляў гэтую кніжку, кажучы, што дзякуючы ёй, усё можна ведаць. Напаў!.. А ўсё акуляры. Раз прайходзячы каля хаты свайго сябра, ён убачыў, што малы яго сынок начапіў на нос акуляры і моўчкі стаіць ля варот. Дзеці, якіх сабралася тут шмат, каб паглядзець на яго, усё просяць: «Хвядос, скажы што небудзь»! але ён маўчаў. Убачыўшы Кузьму, усе яны ў адзін момант рассыпаліся па дварох, а сам вінавайца гэтага зборышча, растраціўшыся саўсім, толькі і змог сказаць:

— «Дзядзька, а я ў гэтых акулярах нічагусенька ня бачу; нават і з двара ня выйшаў бы».

— «От бач, ты і маладымі вачыма ды нічого ня бачыш праз іх, а твой бацька стары валочыць гэтую дрэнь на носе».

«А чаму пісар носіць іх і бацюшка так сама»—спытаўся хлопчык.

— «Для павагі, каб санавіцей выглядаць».

«Дык гэта й мама ніколі ня крычыць на тату, як ён, седзячы ў акулярах, чытае кніжку, а толькі нешта сама сабе ўсё гаворыць, бо ён тагды мабыць надта паважны?»

«Дурны ты! Скінь лепш акуляры, бо вочы на лоб павылазяць».—адказаў Кузьма і пайшоў дадому.

Кузьма «бялявы» ня раз даводзіў свайму ўпартаму сябру, што гэтыя шклы дазваляюць ляпей бачыць, але той ня зьменьваў свайго погляду на іх. Калі, бывала, яны, разьмясьціўшыся пад ліпаю ў Кузьмы «чорнага», пачыналі перапушчаць рой з аднэй каробкі ў другую, каб злавіць матку, то «чорны» Кузьма заўсёды бурчэў:

— «Кімка, глядзі, бо йшчэ матку ўпусьціш, то тагды я патаўку табе ўжо гэтыя шклы!»

Але заўсёгды абходзілася добра, і акуляры заставаліся цэлымі. Ня ведаю, як-бы доўга гэта цягнулася, ці згадзіўся-б «чорны» Кузьма з гэтай слабасьцьню свайго прыяцеля, ці мажа-б такі вжыў ён гэтую непатрэбную для яго, па разуменьню Кузьмы, рэч. Далейшыя зьявы, віною якім былі ўсё тыя-ж акуляры, саўсім узлавалі «чорнага» Кузьму, давёўшы яго да таго, што ён страціў усякую павагу да свайго сябра. Рэч у тым, што раз гэты самы «акулярнік», як зваў яго пад злосную руку Кузьма «чорны», зьявіўся да яго з нейкімі паперамі й пачаў вычытваць, што ў Сыбіру зямлю даюць таму, хто захоча там жыць і яе абрабляць. Пачытаў ён гэтую самую аб-

веску з такім натхненьнем, што аж Кузьму «чорнага» нават забрала, але праз якую гадзіну ён абзываў гэта дурасьцю і не захацеў больш гаварыць аб гэтай справе. Ад гэтага прайшло тыдняў тры, а можа й больш, калі ў сяле сталі гаварыць, што некалькі людзей зьбіраюцца на Сыбір, а ў тым ліку і «бялявы» Кузьма; а праз тры дні яны, направіўшы на плечы торбы, ішлі ўжо на машыну.

Застаўшыся дома адзін, Кузьма «чорны» ніяк ня мог звыкнуцца з тым, што ён ужо каторы дзень ня бачыць свайго дружакі. Нават нудна было яму праходзіць каля яго хаты, але што-ж ты зробіш? Пры аднэй толькі думцы ўхмыляўся ад здаваленьня «чорны» Кузьма: ён усё спадзяваўся,—што за гэтую дарогу яго сябр эдвыкне ад акуляраў. Там, напэўне, ўжо ня пойдзе па ўсякаму начальству ў іх, бо там сядзяць не такія, як прутоўскі валасны пісар, а трохі большыя санагогі і не дазволяць, каб перад імі стаяў нейкі Кузьма «бялявы» з Прутоў у акулярах. І ён, зрабіўшы гэткія вывады, голасна працягваў:

— «Здымуць скора... той, брат, нораву твайго трохі ўбавіць».

Раз, ідучы вуліцай, ён убачыў, што Кузьмоў хлопчык бяжыць па вуліцы яму насустрач і нешта гамоніць, але трудна было здалёку разабраць яго словы. Падыйшоўшы бліжэй, Кузьма дазнаўся ад яго, што бацька прыслаў ліст дадому і што ў воласьці ёсьць так-сама й для яго. Гэтыя словы малога хлапца ўсё адно як падмылі Кузьму, і ён скора пакіраваўся ў бок воласьці і праз гадзіну ўжо сядзеў у сядзельца, які чытаў яму гэны ліст.

«Даражэнькі сябр Кузьма!

Я дагэтуль, дзякаваць Богу, жывы і здаровы, чаго й табе жадаю: а за гэтым павінен я табе сказаць, што ехалі мы машынаю доўга праз усякія месцы і цяпер знаходзімся ў Ахімську (Уфе). Усе мы тут ходзім па розным прысутствам і ніякага толку дабіцца ня можам. А яшчэ павінен я табе сказаць, даражэнькі Кузьма, што мне тут надта не падабаецца, і я не магу дачакацца таго часу, калі вярнуся дадому. Тут усё іначай, як у нас: народу нейкага брыдкага многа, і холадна вельмі. У машыне Апанас забыў сваю торбу, як перасаджваліся на другую. Мы бачылі людзей, што ехалі адтуль, дык і яны вельмі ня хваляць тае старany. А затым, бывай здароў. Кланяйся ад мяне пісару й сядзельцу».

Тут сьледаваў поўны яго подпіс. Аб гэных лістох стала ведама па ўсёй вёсцы. Сядзелец растлумачваў, што Ахімск—гэта яшчэ ня Сыбір, але ўжо блізка ад яе; а другі чалавек, што на Дальнім Востоку эдбываў ваеншчыну, дык казаў, што праз гэтае места ён ехаў. Для прутоўцаў даволі было нават і гэтага тлумачэньня пра Ахімск і Сыбір, нават сялавая почта Аўдоцьця, тая што пусьціла дрэнную погаласку пра Кузьмовы кніжкі, і тая ня магла нічога дадаць, а толькі прабавала зьбіраць зьвесткі аб тым, што гавораць на вуліцы. Назаўтра ўжо ніхто й ня думаў аб гэтым, бо ўсе был зацікаўлены тым, што абакралі купцавога Дзямяна.

Мокрая восень ужо мінула, і лістапад месяц прынёс з сабою ясныя, трыху маразьлівыя дні. Сяло Прутьі жыло сваім ціхім будзённым жыцьцём.

нават не зрабілася нічога такога, што-б хоць на дзён тры выбіла яго жыхароў з спакою. Так дажаліся і Ўвядзеньня. Ведама, сьвята вялікае, і шмат людзей сабралася да цэркві. Пайшоў туды й Кузьма. Выстаяўшы абедню, ён ішоў ужо дадому, але на дарозе сустрэў гэту самую Аўдоцьцю «пошту», якая з клапатлівым выглядам некуды бегла. Параўняўшыся з Кузьмою яна толькі й пасьпела кінуць: «Кузьма «бялявы» прыехаў»—дый далей пайшла, не сказаўшы нават «дзень добры». Прайшоўшы далей, ён сустрэў дзяцей, якія ва ўсе ногі. бягучы па вуліцы крычалі ўсё: «самавар, самавар!»

«Што гэта яны дзяукаюць?»,—разважаў Кузьма, кіруючыся да хаты свайго сябра. Яшчэ здалёк ён убачыў, што перад хатай «бялявага» Кузьмы сабралася кучка людзей і з вялікай зацікаўленасьцю пазірала ў вакно. Параўнаваўшыся з хатай, ён і ўпраўду ўбачыў на стале перад вакном вялізны блішчасты самавар. «Ашалеў саўсім акулярнік»—голасна сказаў ён ды вайшоў у хату і, павітаўшыся як сьлед, пачаў разглядаць яе. На стале стаяў самавар, які відзен быў і з вуліцы, а кругом яго сядзелі дзеці й высалапіўшы языкі глядзеліся ў блішчастай медзі. Сам Кузьма «бялявы» разьбіраў нейкія кніжкі.

«Ну, як табе падабаецца тэтая рэч?»—спытаўся ён у госьця, спыніўшы сваё занятьце і паказваючы пальцам на самавар.

У адказ на гэта Кузьма «чорны» толькі плюнуў. Можа-б гэта так і абышлося, калі-б яго сябр не пачаў сьмяяцца ва ўсё горла. Гэта прарвала Кузьму, і ён пачаў, як мог прабіраць «бялявага». «Ужо табе гляка стала мала, дык ты гэтую дрэнь сабе справіў. Зганець ужо хочаш ці што? Бач, у пісара можа калі чай з самавару піў, дык у сябе гэта меш хочаш. Галяком зробішся скора, як гэтак пойдзеш выпісваць. Унь і імбрычак яшчэ... Надумаў».

«Тата акуляры купіў новыя», ні з тога ні з сёга дадаў яго хлопчык.

«Геаграфія Баранава»—голасна чытаў Кузьма, выняўшы з пака кніжку. «Па ёй будуць хлопцы вучыцца».

«Навучацца на няя брахаць. пабачыш тагды»—заўважыў Кузьма «чорны».

«А цябе, паўне, зайздрасьць бярэ, гледзячы на гэтыя рэчы»—жартліва пачаў гаварыць «бялявы» Кузьма.

«На работу дурнога я ніколі не зайдросьціў і зайдросьціць ня буду». —адказаў Козьма «чорны»; ён хацеў гаварыць яшчэ й далей, але яго неразьбіла жонка Кузьмы «бялявага».

«Каго гэта ты дурнем робіш? Гэта Кузьму? Майго чалавека яшчэніхто ні дурнем ні халяваю ня зваў, а цябе дык завуць і бацьку твайго гэтак звалі».

Трэба прызнацца, што Кузьму «чорнага» за вочы такі й звалі «халявай». Гэтае прозьвішча было прышчэплена да іх роду ўжо даўно і няведама на якім прынцыпам. Даволі толькі таго, што «чорны» Кузьма лічыў гэтую назву для сябе вельмі абразьлівай. А Кузьміха ня спынялася: яна перабіра-

ла ўжо ўсю радню «халяваў», ў сваёй лаянцы закранула і дзядзьку Кузьмовага, таго, што п'яным за вуліцаю памёр, прыпамянула і тое, як тагага дзядзьку злавілі ў агародах уночы з снапамі. І Божа!—чаго толькі яна не нагаварыла. Трэба было толькі дзівіцца яе галаве, якая змагла ўтрымаць у сабе гэткую лічбу падзеяў Кузьмовай радні. Кузьма «бялявы» адарваўшы ад сваіх кніжак гэтай сваркай, толькі й змог, што пераводзіць свой погляд з аднаго сваршчыка на другога. Змоўклі і дзеці, пакінуўшы глядзецца ў самавары. Цяпер чарга ўжо дайходзіла да жанчыны «чорнага» Кузьмы, за якую «бялявіха» ўзялася шчыра. Колькі раз Кузьма, чырвоны ад злосьці, хацеў даць ёй адказ, але ня мог гэтага зрабіць, бо яна забівала яго сваім празрыстым жаночым голасам. Кузьма нават растраціўся, перад гэткім багацьцем бруднага матар'ялу аб сваёй радні і жонцы, якім падмацоўвала сваю лаянку «бялявіха».

«Сказаў-бы я табе, дрэнь, як сьлед, ды толькі сьвята шаную»—толькі і змог сказаць Кузьма, насоўваючы на голаў шапку, дый выйшаў з хаты.

Прайшло два тыдні ад прыезду Кузьмы «бялявага» і гэтае сваркі; сябры не хацелі сустрачацца, бо кожны з іх пачуваў, што нейкая перашкода як-бы стала паміж імі, раскідаючы саўсім сяброўства. Перашкодай гэтай была ня сварка, але нешта іншае, чаго ніяк ня мог віводзін з іх вытлумачыць сабе, як сьледна. Кузьма «чорны» ўбачыў у сваім сябры нешта новае, што рабіла яго натуру саўсім неспадобнай яму. Кузьма «бялявы» так сама бачыў, што яго дружака нейкі саўсім інакшы за тых людзей, якіх ён шмат бачыў, езьдзячы ў Ахімск. З тымі людзьмі ён, здаецца, многа гаварыў бы, каб разьведаць ад іх усё, пазнаць увесь сьвет. Гэты-ж за самавар нават лаецца, біцца кніжак.

Яго жонцы даўно ўжо не падабаўся гэты хаўрус яе чалавека з Кузьмою «чорным». Яна ніяк не магла забыць, як Кузьмова жанчына аблаяла яе пазалетась пры людзе каля рэчкі затое толькі, што яна без папытаньня ўзяла яе пранік. Мала таго, яна пусьціла яшчэ па сяле пра яе дрэнную поголаску, кажучы, што гэта яна зьмяніла Нікіпарысе палатно вясною, як іх высьцягвалі бяліць на выгане. І ня дзіва, што як толькі Кузьма «чорны» выйшаў з іх хаты, яна пачала даводзіць перад сваім чалавекам, што з ім сяброўства ніякага вадзіць ня трэба, бо ён добры зайздросьнік, а пра яе дык ужо і гаварыць няма чаго, бо якая яна, то гэта добра ведае нават ўсё сяло. Летась, як у Цімаховых, ня пры нас будзь казана, загарэлася ў сенцах ды сталі выносіць дабро, хто першы пусьціў поголаску, што ў іх усяго многа, а палатна, дык і няма, хоць і княгіня ў хаце. Колькі наплакала гэта Цімашыга, дзякуючы гэткай зьнявазе. Добрая, няма чаго й гаварыць!

«Ты, Кузёмка, да яго не хадзі і вульлёў не заві строіць, а калі трэба будзе, то лепей другога каго запросіш».

А Кузьма слухаў. Ён цяпер нават ручніком акуляры, мабыць, каб лепей бачыць выразнасьць твару свае жанчыны. А тая ўсё ўгаварвала яго мяккім лагодным голасам. Як ціхі равок паміж кустоў журчыць і, заглушаючы іншыя згукі прыроды, наводзіць прыемнае зацішша, гэтак і словы жан-

чыны Кузьмы «бялявага» паступова адрывалі яго ад іншых думак і ўсё балей і балей упэўнівалі Кузьму ў нядобрасьці яго нядаўняга сябра.

У хаце Кузьмы «чорнага» было тое самае. І там жанчына, дазнаўшыся аб сягодняшняй праяве, поўным жалю голасам тлумачыла свайму чалавеку, што з гэткай брыдой, як «бялявіха» нават знацца ня варта. А ён, дык які? Ні дарэмна-ж кульгавы!

«Ты, Куземка, да іх саўсім не хадзі і вульдёў яму на строй,—няхай пазнае!»

Кузьма сумна глядзеў у вакно, і насупленыя бровы саўсім закрывалі сабою глыбака сядзеўшыя вочы. А назаўтра ўжо ён забіваў варотцы ў частаколе на мяжы іхніх сядзіб. Гэтак гатова было перарвацца неўспадзеўкі, нават без належных прычын, гэткае моцнае сяброўства, але ня было яшчэ поўнай прычыны, каб зазначыць гэты разрыў і для людзкага вока.

Быў гарачы летні дзень. Ціш панавала ў паветры і гарачыя косы сонца аблівалі сваім цяплом палеткі, укрытыя рознаю збажынаю. Вуліца ў Прутох была бязьлюдна, дзякуючы сьвяту, нават няўпынныя дзеці, і тыя зьніклі некуды, каб схавацца ад гэтае сьпекі. Паветра было напоўнена нясканчоным гукам пчаліных галасоў, якія ляцелі на зацьвіўшую грэчку, а яна ўжо некалькі дзён была белай, бытцым разьлітае малако па сялянскіх загонах, і распаўсюджвала мядовы пах па ўсім палетку. Тысячы пчолак гулі па ёй, зьбіраючы мёд, і тысячы іх уздымаліся ўгару, нясучы гэты дар грэчкі ў вульлі. А ў садках за хатамі шмат іх стаяла, і пчаліныя сем'і вялі там сваю ўпартую працу.

Кузьма «бялявы» ляжаў у сваім садку пад тоўстай пахілай ігрушай. Ён чакаў рою і востра пазглядаў на вочка ў вульлі, якое ўкрыта было пчоламі. У цяньку было надта добра. Кузьма лёг на сьпіну і пачаў глядзець угару на чыстае блакітнае неба. Ў памяці яго паўсталі дарога ў Ахімск і яе ўсе няўзгоды. Радасьць напоўніла душу Кузьмы пры думцы аб тым, што ён дома, а нідзе небудзь на чужыне. А пчолы гулі... І скора лёгкі сон, нічутна падкраўшыся, пачаў марыць Кузьму, а храпеньне дало знаць, што ён ужо сьпіць.

Лік вылятаўшых з вочка пчол пачаў большаць, і скора ўвесь малады рой высыпаў з вульля. Пчолы пацягглі к частаколу на мяжы Кузьмовых сядзіб і праз некалькі часу рой зьвіўся на плоце. Кузьма «чорны», выйшаўшы з хаты, наважыў прайсьці каля сваіх пчол; прагнаўшы ад грады курыцу з чарадой куранят, ён выйшаў у садок, і адразу твар яго прыняў клапатлівы выгляд. Ён убачыў рой на плоце і, ня трацячы часу, пабег у клець па каробку, каб яго абабраць. Хлопчык Кузьмы «бялявага» так сам звзорыў гэты рой і пачаў будзіць свайго бацьку. Той прачнуўся адразу, і душа ў ім замерла, калі ён убачыў, што рой ужо зьвіўся.

«Бяжы па райніцу»,—сказаў ён маломy, а сам барджэй пайшоў па сітка й курач.

Між тым, пакуль ён зьбіраўся, Кузьма «чорны» прыстроіўся ўжо якураг абіраць гэты рой: навязаная белым палатном райніца ўжо ляжала каля

частаколу і ён папраўляў сітпа на сваёй галаве. Рой зьвіўся саўсім нізка ад зямлі на калох, і быпцам чорнаю шапкаю ўкрыў іх.

— І адкуль гэты рой прыляцеў?—пытаўся ён у падыходзіўшага «бялявага» Кузьму.

— Адкуль? З майго вульля—

— З якога?—не даючы веры, папытаўся Кузьма «чорны» голасам, у якім выяўлялася мала веры да слоў Кузьмы «бялявага».

— З такога!, трохі з запалам ужо адказаў апошні.

Але яго сусед толькі ўхмыліўшыся прыстройваў райніцу, каб пачаць зьбіраць рой.

— Ці ты здурэў—адазваўся, гледзячы на яго, «бялявы» Кузьма,—чый плот—таго й рой. Я табе казаў тады, як плот стары абваліўся, станавем, Кузьма, новы ў хаўрус, ты не хацеў, а цяпер на ім раі ўюцца.—

Сказаўшы гэта, ён узяў апалонік і хацеў ужо зграбаць у каробку пчол. Тут «бялявы» Кузьма, у сваёй злосьці дайшоўшы апошняе меры, ухапіўся рукамі за калы і пачаў іх трасьці. Плот быў даволі стары і пачаў хістацца ў руках зазлаваўшага чалавека. Ня ведама, ці з гэтае прычыны, ці мо і сам па сабе, рой пачаў уздымацца. Пчолы ізноў замятусіліся ўгару і значна падаліся ўбок саду Кузьмы «чорнага». Сэрца радасна забілася ў Кузьмы, калі ён убачыў, што рой пацяг проста на яго вуляй, які стаяў парожнім.

— А я ўсё думаў, адкуль гэта скаль прылятае? Ажно аднекуль патым і ўзялася.—

Гэтак радасна разважаў Кузьма «чорны», аж пакуль злосьць ня зьмяніла радасьці дзякуючы таму, што «бялявы» Кузьма, пералезшы частакол, барджэй бег да яго вульля, каб заткнуць вочка. Пры гэтым, ён узьняў вялізны лямант, а да гэтага Кузьмы вялі сварку надта стрыманымі галасамі, каб ня спудзіць рою. Ён абпас кіпуўся да вульля, на які ўжо зьбіраўся садзіцца рой. Ён хацеў забунтаваць яго і заставіць, альбо ўзьвіцца ізноў, альбо йсьці на старыя пчолы.

Пачатку іхняй сваркі ня чулі жанкі. Можа-б яны і не дагледзелі не саўсім, але дзеці апавясьцілі. Кузьмы «чорнага» хлопчык бачыў, як рой сядзеў на частаколе і як бацька зьбіраўся іці яго абіраць. Прытуліўшыся між парожніх вульляў, што сталі пад капяжом павеці, ён з вялікаю зацікаўленасьцю прыслухоўваўся да гэтае сваркі, а потым пайшоў у хату, каб расказаць гэта й матцы. Кузьміха драмала, лежачы на палку, калі ён увайшоў у хату.

— Мамка! а да нас рой прыляцеў, а дядзька Кузьма сварыцца з татам, і рой хоча спудзіць.—

Кузьміха, учуўшы гэта, як падпечаная агнём, саскочыла з палка: яна была—ўся злосьць.

Між тым, у садзе была цікавая зьява. Кузьма «чорны» моцна трымаў перад сабою «бялявага» Кузьму, абхапіўшы яго рукамі. Той тужыўся вырвацца і страшэнным ад злосьці голасам крычаў—«Пусьці, бо»...) Ён ня мог нават дабраць належнае патровы. Злосьць у ім кіпела, як у катле вада. Рой ва-

ходзіў ужо ў вулей, і ён бачыў, шт о усё прапала. а тут яшчэ ў дадатак выскачыла жонка «чорнага» Кузьмы.

—Выпхай заразу за плот—адразу параіла яна свайму чалавеку, а потым пачала частаваць «бялявага» з усёю яго раднёю такімі славамі, якія могуць вылятаць толькі з вуснаў раззлаваўшай вясковай жанчыны. Нават кура, якая была ўжо йзноў на градзе і сáма нарыхтавалася выдзерці з зямлі бурачнае каліва, для чаго ўзьняла ўжо й лапу, засталася ў гэтай постаці і стала слухаць. Куранята-ж, зьбіўшыся ў кучу, выяўлялі сабою вялікаю перапужанасьці.

— Каму гэта ты так спагадаеш—спытала Кузьміху жонка «бялявага».

— А каб цябе чэрці гэтак на тым сьвеце насілі, як цябе сюды прынесла!.—

Такімі пажаданьнямі сустрэла «бялявіху» жонка «чорнага» Кузьмы.

— А цябе калі-б і хацелі панясьці, то ня ўздужаюць—адбілася тая...

І спляліся лаянца, як сьлед, па ўсім правілам. Кура на градзе моцна закудахтала і, залопаўшы крыльлямі кінулася ў крапіву, а за ёю і куранять.

— Кузьма ідзі дадому—кінула «бялявамү» жонка.—

— Ото, я правяду, сказаў Кузьма «чорны» і, не выпускаючы з сваіх моцных рук Кузьму «бялявага». ён выпхаў яго на вуліцу, а за ім усьлед выкінуў і сітца.

Ня ўсьпеў ён аглянуцца, як той адвярнуўшыся плюнуў яму ў самы твар. Кузьма зьбялеў ад злосьці. Ен гатоў быў прыбіць да паўмору гэтага ненавіснага «акулярніка».

— Утрыся, Кузьма,—сказала яму Аўдоцьця-почта, здымаючы з сябе хвартух. Яна даўно ўжо стаяла тут і, як да музыкі, прыслухоўвалася да гэтай сваркі. Пагдядзеўшы на яе, здавалася, што яна ледзьве, зьдзержвае сябе на месцы, гэтак вялікае было ў яе жаданьне разьнясьці гэтую навіну па сяле. Але другое жаданьне выслухаць да канца ўсю сварку брала верх, і яна трымалася.

— Га, пляга ліхая—гаманіў «чорны Кузьма. выпхаўшы на вуліцу і жонку свайго быўшага сябра.

— Дай-жа Божа, каб яны табе воску панасілі на сьмяротную сьвечку і мёду на памінкі!—кінула яна Кузьме, выходзячы ўжо ў свой двор.

А ён, не зважаючы на гэта, стаяў у сваіх варотах з поглядам чалавека абстаяўшага права.

Пчолы радасна кружыліся каля свайго, новага вульля.

Т. З.

---

# Разьвітаньне.

Пры дарове, у зьнямозе
    Дзеўчына стаяла,
Твар зьбялелы хусткай белай
    Ціха абцірала.
Сьлёзы ліла, ня лічыла.
    Сасьляпіла вочы
Шла па полі, мімаволі,
    Як у цёмнай ночы.
Ў даль нясьмела ўсё глядзела,
    Цяжка уздыхала,
Ў полі мглістым, неквяцістым
    Штосьці ўсё шукала.
Цалавала, мілавала
    Паясок забыты,
А у далі ўжо сьціхалі
    Гучныя капыты.
Эх, дзяўчына, бяз прычыны
    Шчасьце ты зламала:
Ў пуць далёкі, адзінокі
    Любага паслала.
Зьвялі краскі дзіўнай казкі,
    Зьніклі шчасьця мары,
Сэрцу цёмна, няпрытомна,
    Крыюць неба хмары;
Ноч сыходзіць, сум наводзіць,
    З жалю сэрца млее,—
Плачуць вочы, твар дзявочы
    Ў змроку ледзь бялее.

19 25/XII 21 г. **Хмарка.**



# Бітва пад Грунвальдам

## уапісаньні кронікі Быхаўца, Длугоша, Бельскага і інш.

Бітва пад Грунвальдам, разьбіўшая крыжацкія сілы, прыпыніла націск немцаў на славянскія землі ад усходу і тым зьмяніла гістарычную долю ўсяе Эўропы. Гэтая вайна з немцамі вялася злучанымі беларуска-польскімі сіламі з беларусінамі-правадырамі на чале—каралём польскім Уладыславам-Ягайлам і вялікім князем беларускім Вітаўтам. Дзеля гэтай прычыны Грунвальдзкая бітва становіць для беларусінаў іх нацыянальна-гістарычную цікавасьць.

Нашая кроніка па сьпіску Быхаўца, час напісаньня каторай адносяць да другое палавіны XVI-га ці к пачатку XVII-га веку, апісуе бітву пад Грунвальдам даволі дакладна і параўнальна з польскімі апісаньнямі найбольш бесстаронна. Тут няма драбніц, няма тэй асабістасьці ў апісаньні, якой праняты польскія кронікі, але асноўныя, важнейшыя мамэнты гэтага вялізарнага, як на той час, бою, зазначаны добра. Вось гэтае апісаньне:

«У лета ад пачатку сьвету шэсьць тысячнае дзевяцьсотнае дваццаць першае, а ад Божага нараджэньня тысяч чатырыста дванаццатае[1]) пачалася вальва каралю польскаму Уладыславу Ягойлу, а брату яго вялікаму князю Літоўскаму Вітальту з немцы прускімі. І сабралі межы сабою войскі вялікія з обу старон: кароль Ягойла са ўсімі моцамі каруны Польскае, а князь вялікі Вітальт са ўсімі сіламі літоўскімі, рускімі і з многімі татары ардынскімі. А містр прускі так-жа з моцамі сваімі і са ўсею Рэчаю Нямецкаю. І калі ўжо ўсе войскі з обу старон былі нагатове, тагды кароль Ягойла і князь вялікі Вітальт цягнулі ку бітве ўсё лясными а злымі дарогамі, а поля роў-

[1]) Тут польскі гісторык Нарбут робіць такую ўвагу: „Павінна быць 1413, але ёй лічыць па старому календару, калі год на Русі пачынаўся з верасьня". Тымчасам, бітва была ў 1410 г.

нага а шырокага не маглі мецi, гдзе-бы ся мелі ку бітве застанавіці, ніжлі тольке былі полі роўныя, а вялікія пад местам нямецкім пад Дуброўным. І бачылі то немцы, іж Ляхове і Літва з так вялікімі войскі не маглі нігдзе індзе выцягнуці, тольке пад тыя полі, і для таго капалі ямы і прыкрывалі зямлёю, іж-бы ў ніх коні і людзі падалі,—і калі ўжо кароль Ягойла і вялікі князь Вітальт з войскі перацягнулі оныя лясы і прышлі ўжо на тыя Дуброўскія полі. Тагды гэтман быў найвысшы ва войску Ягойлавым пан Сокал Чэх, а дворчы гэтман быў пан Спытак Спытковіч; а ў Вітальтаве войску старшы гэтман быў князь Іван Жадавід, брат Ягайлаў і Вітальтаў, а дворны гэтман пан Ян Гаштольт. І как пачалі оныя вышэй пісаныя гэтмановае людзі шыкаваці, а а(б) тых ямах нічога ня ведалі, што па ніх немцы накапалі, а так шыкуючы войска найвысшыя гэтманове—князь Іван Жэдывід[1]) а пан Сокал—у ямы паўпадалі іногі сабе паламалі і вельмі абразіліся, з чаго-ж і памерлі. І ня тольке адны гэтманове, але і многім людзям ад тых ям шкода вялікая ся стала. І відзячы то кароль Ягойла і князь вялікі Вітальт, іж гэтманове іх найвысшыя ў прыгоду папалі, і на тых месцах зася двох гэтманаў кароль абраў і паручыў пана Спытка, а пана Яна Гаштольта на Сокалава месца, а Вітальт устанавіў Яна Гаштольта,—абралі і казалі войска шыкаваці і гуфы[2]) ку бітве станавіці, а оных ям здрадлівых вараваці[3]). А затым тыя гэтманове, войска сшыхаваўшы, пацягнулі ку бітве, а немцы также відзячы то, пачаліся з німі патыкаці. І пачалася бітва з параньня межы немцы і войскі літоўскімі, і многае множаства з обу старон войска літоўскага і нямецкага пала. Патом відзячы князь вялікі Вітальт, што войска яго сільна многу пабіта, а ляхове ім жаднае помачы учыніць не хацяць, і князь вялікі Вітальт прыбег да брата сваяго караля Ягойла, а он мшы слухаець. А он рэк так: «Ты мшы слухаеш, а князь і панове брацьця мае мала ня ўсе пабіты ляжаць, а твае людзі жаднае помачы ім учыніці не хацяць». А он яму паведзіў: «Мілы браце! жадным абычаем іначай учыніці не магу, тольке мушу даслухаці мшы». І казаў гуфу сваяму каморнаму па ратунак пацягнуці, каторы-жа гуф войску літоўскаму помач пацягнуўшы і пашоў з войскі літоўскімі і немец на галаву паразіў, і самога містра і ўсіх кунтараў яго да сьмерці пабілі і бясчысьленае множаства немцаў паймалі і пабілі. А іныя войскі ляцкія нічога ім не памагалі, тольке ва то сматрэлі. А затым усіх іх паразіўшы і многія гарады і землі іх пабраўшы, а астатак на канец выпленіўшы і выпаліўшы і пусту землю учыніўшы і з вялікаю чэсьцю і з нявымоўным звыцяжствам і на ўвесь сьвет знамянітую славу асягнуўшы зася да сваіх земль даехалі. І палавіцу харугвей нямецкіх і барады—містраву і ўсіх кунтараў яго з мертвых адабраўшы—і палавіцу ўзялі да Польскі, а палавіцу да Літвы, гдзе-ж тыя барады і харугві іх у замку кракаўскім у царкві сьвятога Станіслава, а ў Вільні также ў сьвятога Станіслава завешаны суць[4]).»

---

[1]) Так у кроніцы; [2]) гуфы—палкі; [3]) вараваці—пільнаваць, вартаваць.
[4]) Полное собраніе Русскихъ лѣтописей т. XVII. Западнорусскія лѣтописи. С.-П. 1907 г. Правапіс-цяперашні.

У польскага гісторыка Длугоша (1415—1480) бітва пад Грунвальдам апісана больш шырока й дакладна. Длугош шмат чаго мог чуць сам ад навочных сьведак гэтага пабоішча, бо жыў ён яшчэ ў тыя часы, калі памяць аб гэтай вайне была жывым апавяданьнем у вуснах яго сучасьнікаў. Апрача таго, Длугош меў магчымасьць карыстаць з усіх тагочасных пісаных крыніц. Ён меў пад рукою ня толькі даўнейшыя рочнікі (запісы па гадох, летапісі) і кронікі польскія, беларускія, нямецкія, але, як сам кажа,—«вышукаў і выведаў усё, што па касьцёлах, па складах літаратуры ў розных мясцох было параскідана». Кажуць, што ніхто ва ўсёй сярэднявечнай Эўропе ня мог параўнацца з ім у справе дакладнейшага зьбіраньня гістарычных крыніц. Адгэтуль відаць, што гістарычныя ведамасьці Длугоша павінны мець вялікую вартасьць. На жаль, чалавек ён быў старонны (тэндэнцыйны). Ён часам *наўмысьля* не казаў праўды і сьвядома абмінаў здарэньні, няспрыяючыя яго польскаму патрыятызму, і нават пазваляў сабе перайначваць ды перакручваць некаторыя гістарычныя выпадкі. Прыкладам кажучы, Длугош добра ведаў, што на Літве ў Жмудзі яшчэ задоўга да 1386 году (год шлюбу Ягайлы з Ядвігай і першай асабовай вуніі Літвы-Беларусі з Польшчай) было пашырана хрысьціянства ўсходня-грэцкага вызнаньня. Таксама ён добра ведаў, што Альгерд (Александар) і другія літоўскія (беларускія) князі былі хрысьціяне, але грэцкага вызнаньня, што не падабалася яму, як гарачаму каталіку. З гэтай прычыны ён маўчыць і нічога ня піша аб гэтым у сваёй гісторыі-кроніцы, дзеля таго, каб уся заслуга насаджэньня веры хрысьціянскай на Жмудзі пайшла на карысьць польскага р.-каталіцкага касьцёлу і Польшчы. Будучы вялікім патрыётам, Длугош літаратурна змагаўся з немцамі-крыжакамі за права Польшчы лічыцца першым апосталам схізматычнай, а значыць *паганскай*, Літвы. Дзеля гэтага ён удаваў Ягайлу за чалавека дзікага, выгадаванага ў *схізматычным* паганстве, хоць ведаў, што гэта няпраўда. Пераход Ягайлы з грэцкага вызнаньня ў рымскае—з праваслаўя ў каталіцтва—Длугош перадае ў такіх хітрых словах: «Быў ён сын Альгерда, князя літоўскага, а прозьвішча Ягела, ад маткі Марыі, дачкі князя цьверскага, каторы быў вызнаўцам грэцкага касьцёлу... З ласкі і міласэрдзя Бога, каторы яго ў лік прававерных хрысьціян дапусьціць спадобіў, пралатамі і панамі польскімі з цемнаты паганскай да сьвету веры навернуты, прыняў хрэст і адтрымаў імя Уладыслаў»... Мы бачым, што хрысьціянства Ягайлы адсунута аж да цьверскага князя-схізматыка, а далей сьмела гаворыцца, што «Ягайла з цемнаты паганскай да сьвету веры навернуты», бо жыў ён на Літве і быў князем Літоўскім, а Літва ў прадстаўленьні эўрапэйцаў была паганская,—у гэтым запэўнілі Эўропу немцы-крыжакі, каб апраўдаць свой «націск на ўсход». Длугош толькі карыстае з гэтага гістарычнага падашуканства.

Так асьвятляць справу дзеля сваіх патрыятычна-польскіх мэт Длугош навучыўся ад крыжацкіх кронікараў. Крыжакі сьвядома ўдавалі перад Эўропай усю гістарычную Літву за паганскую дзеля таго, каб свае захватніцкія імкненьні на ўсход апраўдаць пашырэньнем хрысьціянства сярод «па-

ганых літвінаў». Гэтым тлумачыцца й ведомая камэдыя з князем Гедамінам учыненая крыжакамі. Гедамін з айца-маткі быў хрысьціянін грэцкага вызнаньня, на імя Гегемонік, і яму сапраўды ня трэ' было хрысьціцца. Гутарка магла быць хіба аб пераходзе з праваслаўя ў каталіцтва па цяперашняй тэрміналёгіі, але крыжакі перасалілі, выставіўшы яго перад папам паганінам. Зразумела, што гэта крэпка абурыла Гедаміна, але крыжакі і яго поўны ўласнай павагі адказ папе пастараліся апаганіць, дадаўшы туды чорта, каб паказаць, што раз чалавек клянецца чортам, то ў Бога ня верыць. Пішуць, нібы-та Гедамін адказаў папскім паслом гэткімі грубымі словамі: «Калі я казаў, што хачу хрысьціцца, то няхай мяне сам чорт хіба хрысьціць». Такі адказ патрэбен быў не Гедаміну, а крыжаком, каб апраўдацца ў сваім падашуканстве.

Ня гледзячы на зазначаныя хібы ў Длугоша, як староннага кронікара, яго гістарычныя ведамасьці маюць вялікую вартасьць. Яны заслугуюць увагі, як збоку свае надворнай дакладнасьці, так і жывасьцю ў апісаньні. З кронікі Быхаўца відаць, што патрэбнай на вайне згоды ў злучаным беларуска-польскім войску ня было, і хоць у Длугоша нельга шукаць справядлівага асьвятленьня справы, але надворны бок бітвы пад Грунвальдам апісаны ў яго жыва, вобразна й цікава.

Сам Длугош пісаў палатыні. Яго апісаньне Грунвальдзкай бітвы падаецца тут у перакладзе з польскай мовы. Пераклад зроблен па скарочанаму тэксту з «Гісторыі Польскае Літаратуры» Я. Хжаноўскага.

«**Бітва пад Грунвальдам**. У аўторак, у дзень Разасланьня апосталаў, 15-га ліпня, кароль Уладыслаў пастанавіў выслухаць перад сьветам сьвятую імшу, але з прычыны вялікага й гвалтоўнага ветру нельга было так скора, як паказана было, паставіць і разгарнуць намёт (шацёр), у каторым звычайна адбывалася набажэнства, бо як толькі прабавалі паставіць намёт, то вецер зараз-жа зрываў разгорнутыя палотны. Скора й дзень настаў, а вецер пачаў падымацца яшчэ больш. І калі ўжо нельга было, з прычыны бязупыннай завеі, устанавіць каралеўскай капліцы, то кароль, паслухаўшы рады вялікага князя Александра (Вітаўта) рушыў абозам і, прайшоўшы двухмілёвую адлегласьць, адкуль ужо відаць былі палаючыя навокала сялібы ворага, стаў на палёх вёскі Руды й Грунвальда, што мелі ўславіцца наступнай у той дзень бітвай, ды паміж гаямі і зарасьнікамі, каторыя з усіх бакоў тое месца закрывалі, сказаў разгарнуць намёты, а каралеўскую капліцу паставіць на высокім узгорку, над возерам Любнам, каб тымчасам, покі войска разьмяшчацца будзе па сваіх мясцох, мог выслухаць набажэнства. Ужо прускі містр Ульрык Юнгіґен падышоў да вёскі Грунвальду, каторую меў упамятніць сваім паражэньнем, і стаў паблізку з сваім войскам, але перадавая каралеўская старожа яшчэ не заўважыла яго. Толькі ўстанавілі абозную капліцу, калі кароль ішоў па набажэнства, прыбег Ганак, шляхціц холмскай зямлі, гэрбу Астоя, з паведамленьнем, што бачыў ворага ўжо за некалькі крокаў ад абозу. Калі кароль запытаў, як вялікае яго войска, то Ганак адказаў, што ён бачыў адну толькі харугву і зараз-жа пасьпяшыў

данесьці аб гэтым. Ледзьве скончыў ён гаварыць, як прыбег Дэрслаў Уластоўскі, шляхціц гэрбу Окша, і сказаў, што бачыў падыходзячыя харугві непрыяцеля. Яшчэ й той ня скончыў гаварыць, як прыбег трэці, а за ім чацьвёрты, пяты, шосты, і ўсе згодна паўтаралі, што непрыяцель стаіць ужо пад абозам у гатоўнасьці да бою. Але кароль Уладыслаў ня смуціўся ад гэтага раптоўнага і неспадзяванага надыходу ворага і за найважнейшую справу палічыў тое, каб спачатку аддаць павіннасьць Богу, перад тым, як прыступіць да вайны. І зараз-жа, прыйшоўшы да абознай капліцы, выслухаў з вялікаю набожнасьцю дзьве імшы, просячы ў Бога помачы; з большаю, як звычайна, гарачнасьцю духа маліўся, і ніякія просьбы і закляцьці немаглі адарваць караля ад набажэнства, покі не даслухаў яго да канца...

Нарэсьце, кароль скончыў маліцца і, прыадзеўшы зброю, багатай з галавы да ног акрыў сябе броняй. І хоць рыцарства, ушыкованае ў стройныя гуфы, выступіла ўжо да бою, а вораг з другога боку стаяў у гатоўнасьці і з аружжам у руках, так што абодва войска ледзьве на палёт стралы аддалены былі ад сябе і навет адбываліся ўжо паасобныя стычкі, але ўсё чакалі, покі сам кароль падасьць знак да бою. Потым кароль Уладыслаў, сеўшы ў поўнай зброі на каня, а каралеўскія азнакі адлажыўшы ў бок, выехаў, каб азірнуць ворага, на адкрытае ўзгор'е ды стаў на горцы паміж двома шырока раскінутымі гаямі, адкуль добра відаць было варожае войска. Наглядзеўшыся на варожыя вайсковыя сілы, кароль зьехаў на раўніну і шмат каго з таварышоў сваіх прыбраў рыцарскімі паясамі. Каб надаць людзям сваім сэрца мяккага, але стойкага, заахвочываў усіх прамовамі, а сам, седзячы ў поўным, як быў, убраньні на кані, яшчэ раз паспавядаўся. Калі пратрубілі баявы покліч, то ўсё каралеўскае войска засьпявала родную песьню. *Бога-рэдзіцу*,[1]) а потым з паднятымі пікамі пабегла да бітвы. У тую мінуту абодва войскі з моцным, як звычайна перад боем, крыкам зышліся ў лагчыне, каторая іх разьдзяляла. Крыжакі, двойчы ўдарыўшы з гармат, дарэмна памагаліся моцным націскам зламаць і зьмяшаць рады сваіх супраціўнікаў, хоць войска іх з мацнейшым крыкам і з вышэйшага ўзгорку рынулася да бою. Было ў месцы сустрэчы шэсьць высокіх дубоў, на каторыя паўлазіла шмат людзей і каралеўскіх і крыжацкіх, каб азіраць зьверху першую стычку і ўпраўнасьць войска. Пры стыканьні войска ўзьняўся такі страшны крык і грукат ад udaраў пік, ад хрусьценьня броні і лязгу мячоў, што чуваць было за некалькі міль. Муж напіраў на мужа, крышылася з трэскам аружжа, пападалі у твар узаемна пушчаныя стрэлы. У гэтай сумятніцы й грукаце трудна было адрозьніць храбрэйшых ад труслівых, бо ўсе былі зьмешаны ў адзін вір натоўпу. І ўсе стаялі цьвёрда, ніхто не саступаў з месца, покі звалены з каня або забіты не аслабаняў свайго поля перамоўцу. А калі паламаліся пікі, то рады войска і аружжа пераблуталіся, і толькі тапары і нажы, насаджаныя на дрэўкі, стукаючыся рабілі праразьлівы лоскат, як молаты у кузьнях. Коньнікі, сьціснутыя ў натоўпе, сякліся

[1]) Бога-радзіца—старасьвецкая польская рэлігійна-вайцкая песьня.

толькі шаблямі, і тады ўжо адна толькі сіла, адна асабістая здольнасьць брала перавагу...

У той час, калі адбывалася з заўзятасьцю з абодвух бакоў бітва, Уладыслаў кароль польскі стаяў поблізку, назіраючы за слаўным дзелам сваіх рыцараў, і, узлажыўшы ўсю надзею на Бога, спакойна чакаў разгрому ворага, каторага бачыў ужо ў шмат мясцох зломанага і ўцякаючага. Тымчасам, выступіла да бою шаснаццаць варожых палкоў (гуфцаў) пад столькімі-ж харугвамі— сьвежых, нечапаных, которыя ня былі яшчэ ў бітве; і часьць іх, павярнуўшыся ў той бок, дзе стаяў кароль польскі з прыбочнай (каралеўскай) вартаю, панеслася з настаўленымі рагацінамі, як-бы проста на караля. Загарэўся кароль Уладыслаў гарачым жаданьнем бою, і сьціскаючы каня шпорамі, хацеў кінуцца ў найгусьцейшыя рады ворага, так што прыбочная дружына ледзьве ўстрымала яго ад гэтага парыву. Калі адзін з дружыны, Чэх Залава, ухваціў каралеўскага каня за вобруць, каб спыніць яго, то кароль з нецярплівасьці лёгка выцяў яго канцом свае рагаціны (пікі) крыкнуўшы, каб пусьціў і не замінаў яму рушыць да бою. І толькі тагды, як усе рыцары прыбочнай варты сказалі, што яны пойдуць на ўсё, а гэтага не дапусьцяць, то кароль згадзіўся на іх упрашаньне і пазволіў устрымаць сябе. У гэтую часіну падбег рыцар з прускага боку—немец, на прозьвішча Дыпольд Кіберыц, залатым поясам падпіразаны, у белай падбітай кеццы нямецкага крою, якая ў нас завецца юпкаю, або копткай, увесь укрыты зброяй. Па знаку відаць было, што гэта быў таварыш большай прускай харугвы, прыналежнай да тых шаснаццаці, што вышэй упаміналіся. Разагнаўшыся на буланым кані, ён дабег аж да таго месца, дзе стаяў кароль, і выхваціўшы рагаціну,[1]) стаў мецішча проста ў караля на ваччу ўсяго ворожага войска. Калі-ж кароль Уладыслаў, падняўшы так сама рагаціну, чакаў сустрэчы з ім, то каралеўскі пісар Зьбігнеў з Алесьніц бадай што бязбронны, бо ў руцэ меў адну толькі напаў-зломаную піку, папярэдзіў удар караля і пацэліўшы ў бок таму немцу, зваліў яго з каня. Немец упаў перапалоханы на зямлю, а кароль выцяў яго дрыжачага ад страху рагацінай у лоб, каторы раскрыўся, як апаў шлем, ды пакінуў жывога, але рыцары, што стаялі на варце пры каралі, забілі яго на месцы, а пешыя салдаты садралі з яго адзежу і зброю.

Крыжацкае войска, што складалася з шаснаццаці вышэй памянёных харугвей, спасьцярогшы, што той рыцар лёг трупам, зараз-жа пачало адыходзіцца на покліч аднаго крыжака, праваднра харугвы, каторы, седзячы на белым кані, пікаю падаваў знак да адступленьня ды гукаў панямецку: *«гэрум, гэрум»*. Потым, зьвярнуўшыся, рушыў направа, дзе стаяла вялікая каралеўская харугва разам з другімі польскімі харугвамі, ўжо пасьля паражэня непрыяцеля. Адны з каралеўскіх рыцараў, угледзіўшы тыя шаснаццаць харугв, пазналі ў іх непрыяцеля, як і сапраўды было а другія прынялі іх за літоўскае войска з тае прычыны, што ў яго былі лёгкія кідальныя

1) Рагаціна—настарабеларуску: *суліца*.

рагаціны, так званыя *суліцы*, каторых і ў крыжацкім войску было вельмі многа. Дзеля гэтага, яны не адразу кінуліся на крыжакаў, бо спрачаліся паміж сабою і доўга былі ў няпэўнасьці. Уканцы, зразумеўшы абмылку і ўжо не сумняваючыся, што гэта быў непрыяцель, сілаю ў некалькі харугваў кінуліся на крыжакоў тых шаснаццаці харугваў, да якіх тымчасам прылучалася яшчэ некалькі, і ўчынілі з імі крывавую бітву. І хоць крыжакі праз нейкі час выдзержалі націск, але ўканцы аднак, акружаныя з усіх бакоў пераважным лікам каралеўскага войска, былі разьбіты на галаву. Бадай што ўсё рыцарства, што было пад тымі шаснаццацьма харугвамі, палегла на полі трупамі або папалася ў палон. Пасьля гэтага зьнішчэньня й разьбіцьця ўсяе непрыяцельскай сілы, калі вялікі містр прускі Ульрык, камтурове, усе рыцары й выдатнейшыя ў прускім войску панове пагінулі, рэшта непрыяцеля стала разьбягацца, а раз паказаўшы тыл, не перастала ўцякаць у непарадку.

Уладыслаў, кароль польскі, няскора, праўда, але адзяржаў аднак поўную пабеду над містрам і крыжакамі, хоць перамога гэта аплачана была цяжкім трудом і турботамі. Непрыяцельскія абозы, поўныя ўсялякага дабра і запасаў, вазы і ўвесь вайсковы панарад містра і прускага рыцарства папалі ў рукі польскага салдата і былі паразьбіраны. У крыжацкім абозе знайдзена было некалькі вазоў, напіцованых аднымі толькі дыбамі і кайданамі. Гэта крыжакі, упэўненыя ў сваей пабедзе і занятыя больш будучым трыумфам, як бітвай, прыгатавалі іх на тое, каб закаваць потым палонных палякаў. Былі яшчэ вазы з смольнай лучынай, аблітай лоем і смалою, з кісьценямі, вышмараванымі таксама смалою і тлустасьцю, якімі рыхтаваліся крыжакі гнаць перад сабою разьбітых і уцякаючых палякоў. Заранье цешыліся яны пабедай, горда ўпэўненыя ў сабе і забыўшы, што пабеда—у руцэ самога Бога!

У гэтай бітве лягло 50.000 непрыяцеля, а 40.000 было ўзята ў палон.

Так апісуе Длугош Грунвальдзкую бітву, асьвятляючы падзеі толькі з польскага боку. З кронікі Быхаўца відаць, што ўвесь цяжар першай стычкі з крыжакамі лёг на плечы беларускага войска, тымчасам Длугош аб гэтым не гаворыць нічога і, каб ня тое непаразуменьне ў польскім войску, калі беларусінскія (літоўскія) палкі былі прыняты за нямецкія, то можна падумаць, што беларускага войска на вайне зусім ня было, і што вайна вялася аднымі польскімі сіламі. А беларусінах, аб іх вярхоўным правадыру і вялікім князі Вітаўце, кіраваўшым бітвай, не ўпамінаецца саўсім. Толькі адно здарэньне, калі Вітаўт параіў Ягайле перанясьці імшу ў другое месца, прымусіла Длугоша прызнацца, што на вайне быў і Вітаўт, вялікі князь, гаспадар беларусінскі... Длугошу вельмі хацелася, каб уся слава пабеды над крыжакамі, што зьмяніла далейшы гістарычны лёс усяе Заходняй Эўропы, прышлася на долю адняе толькі Польшчы. Гэтак заўсёды пішацца гісторыя аб тых, хто ня ўмее шанавацца і бараніць свайго дастаяньня...

У Длугоша, паміж іншым, знаходзім мы цікавае апісаньне жыцьця, звычаяў і забабонаў караля Уладыслава-Ягайлы. Калі прыняць пад увагу, што Ягайла (Якуб) быў князь беларусінскі, і яго жыцьцё, звычаі і забабоны маг-

лі зляжыцца толькі ў абставінах беларускага жыцьця, то гэтае апісаньне становіць для нас прадмет надзвычайнай цікавасьці, як характарысьціка беларусіна з вышэйшага стану канца XIV-га і пачатку XV-га сталецьця. Паміж іншым, з гістарычных падань ведама, што Ягайла і стаўшы польскім каралём гаварыў толькі пабеларуску, жонкі свае Ядвігі ня любіў, як полькі, і, будучы ў Польшчы на пасадзе караля, пастаянна нудзіўся па роднай старонцы. Гэтая асаблівасьць надае яшчэ большай цікавасьці да яго біаграфіі, хоць-бы і ў тым асьвятленьні, якое дае ёй Длугош. Жыцьцяпіс Ягайлы па Длугошу мы прыводзім тут у скарачэньні, як падаецца ён у вышэйпамененай «Гісторыі польскай літаратуры» Хжаноўскага.

«**Жыцьце, звычаі і забабоны Уладыслава-Ягайлы.** Быў ён сын Альгерда, князя Літоўскага, ад маткі Марыі (?) [1]) дачкі князя цьверскага, каторы быў вызнаўцам грэцкага касьцёлу... З ласкі й міласэрдьдзя Бога, каторы яго ў лік прававерных хрысьціян дапусьціць спадобіў, пралатамі й панамі польскімі з цемнаты паганскай да сьвету веры навернуты, прыняў хрэст і адтрымаў імя Уладыслаў. Па сьвятым хросьце злучыўся шлюбам малажонскім з Ядвігаю, каралеваю вугорскую й польскаю, дачкою Людвіка, караля вугорскага, а па яе сьмерці меў яшчэ тры жонкі—Ганну, Альзьбету й Зофію, але з ніводнаю ня жыў у шчырай і праўдзівай малажонскай міласьці. Росту ён быў мернага, твар меў сьцягнуты, худы, к барадзе крыху звужаны. Галава была малая, падаўгаватая, бадай што ўся лысая...; вочы чорныя і малыя, неспакойнага пагляду, заўсёды бегаючыя; вушы завялікія, голас грубы, мова борздая, стан зграбны, але шчуплы, шыя доўгая. На турботы, холад, буры й мяцеліцы вельмі быў цярплівы. Спаць і пасьцілца ў пасьцелі любіў аж да поўдню, дзеля чаго рэдка калі ў звычайны час слухаў сьвятую імшу. У вайсковых справах быў нядбалы і цяжкі, і ўсе вайсковыя клопаты ўскладаў на правадыроў і заступнікаў. У лазьню звычайна хадзіў кожныя што тры дні, а часам і часьцей. Да разьліваньня чалавечай крыві адносіўся з такою неахвотай, што часта, найбольшым нават злачынцам, адпускаў кару. Для падданых і пабеджаных быў вельмі ласкавы й шчодры толькі тым, хто правініўся перад ім на паляваньні ці іншых гулянках, ня мог ніколі дараваць. У людзях умеў спасьцерагаць (бачыць і цаніць) цноты і нѣ зайздрасьцю, а прыхільнасьцю мерыў учынкі людзей, а заслугі свайго рыцарства, кожную пахвальную справу—ці то на вайне ці то ў спакойны час зробленую—багата і шчодра нагаражаў. За невялікія ўчынкі рабіў людзей храбрымі, храбрых—багатырамі, гатовымі да найбольшага чыну і самаахвярнасьці. Неразважнаю шчодрасьцю й неашчаднасьцю прыносіў больш ушчэрбку краю, як іншыя хціўасьцю і збыткамі. Паляваньне так моцна любіў, што пакідаў у занядбаньні дзяржаўныя справы, чым выклікаў на сябе справядлівыя нараканьні. Любіў пазіраць, як гуталіся на гойданцы. Што тыдня, у пятніцу, з вялікай вытрымаласьцю пасьціў, астаючыся на адным хлебе і вадзе. Заўсёды цьвяровы, ні віна, ні піва ня піў. Яблык і іх запа-

[1]) Ульяны?

ху не цярпеў, затое украдкам еў смачныя й салодкія грушкі. Да спаўненьня хрысьціянскіх абрадаў і абавязкаў пабуджаўся частымі перасьцярогамі каралевы Ядвігі, а на Вялікдзень, Сёмуху, на Ўнебаўзяцьце Божае маткі і на Коляды прычашчаўся (прыступаў да сакрамэнтаў пакуты і аўтару), але па сьмерці каралевы, агранічыў гэты звычай адныімі Колядамі і Вялікаднем. Кожны год, у вялікую пятніцу, абмываў ногі дванаццацём убогім у сваім пакоі ў бытнасьці некалькіх толькі сакратароў, а потым кожнаму ўбогаму даваў па 12 грошай, а гэтак сама сукно й палатно на прыадзевак... Пасты, вігільлі і іншыя набажэнствы з такою пільнасьцю выпаўняў, што больш пабед малітвамі сваімі ў Бога выпрасіў, як здабыў іх збройнай сілай... Шчыры і прастадушны, ён ня меў у сабе ніякага абману... Надворных азнак і дарагіх шат ня любіў; звычайна хадзіў у бараньнім кажусе, пакрытым сукном; рэдка прыбіраўся ў лепшую вопратку,—напрыклад, у плашч з чорнага аксаміту без аздоб і парчы, і то толькі на большыя ўрачыстасьці. У іншыя дні насіў адзежу простую, жаўтаватага колеру; саболі, куп і лісаў ці іншых мяккіх і дарагіх хутраў ня любіў, усё жыцьцё ўжываў толькі звычайных баранкаў, навет у найхаладнейшую зімовую пару...

Меў некаторыя забэбонныя звычаі: вырываў з барады валасы і, паўплятаўшы іх паміж пальцаў, мыў вадою рукі; заўсёды, перад тым як выйсьці з дому, тройчы круціўся навокала, ламаў на тры часткі саломку ды кідаў на зямлю. Рабіць гэта навучыла яго маці, грэцкага вызнаньня, але нашто і дзеля чаго, то ён нікому ў жыцьці ніколі не казаў, і нялёгка гэта здагадаць. Кажуць, што часта паўтараў, як прыказку, такі сказ: «Слоўка вылятае з вуснаў птушкаю, але калі скажаш яго не да рэчы ды захочаш забраць назад, то вернецца яно валом». Так сама меў яшчэ звычай напамінаць жартам рыцарам, каб на вайне ніколі не станавіліся на перадзе ці ў апошнім радзе, але каб і не хаваліся ў сярэдзіну...»

Апісаньне бітвы пад Грунвальдам знаходзім яшчэ ў другога старасьвецкага польскага гісторыка Марціна Бельскага (1495—1575) у яго працы «Кроніка сьвету». Прыводзім тут гэтае апісаньне з «Гісторыі Польскай Літаратуры» К. Вайніцкага ў перакладзе з польскай мовы.

«**Бітва пад Грунвальдам 1410 г.** На радзе кунтараў з містрам усе заклікалі на вайну, апрача вэнданскага кунтара, каторы раіў пайсьці на згоду, кажучы, што вайна—справа няпэўная, супакой—заўсёды лепей. Супраць яго выступіў Вэрнэрус Тэтынгер, кунтар эльбескі, каторы сказаў: «Мог-бы ты застацца дома і хворую брацьцю ў шпіталі даглядаць». А яму вэндэнскі адказаў: «Калі я гэта кажу, то пабожаму кажу. Бог не патрабуе людзкой крыві. А ты глядзі, каб ня быў сьмялейшы губою, як рукою!» У гэтай сварцы стараўся іх пагадзіць вугорскі пасол, радзячы так сама пайсьці на згоду, але яму з дакорам адказаў прускі містр Ульрык, мовячы: «Ты гаворыш, як зацікаўлены: усё роўна, як паляк».

А тым часам кароль з войскам перайшоў на другое мейсца. Каб дасьведчыцца, што рыцарства гатова ўжо да бою, ён загадаў паведаміць яго, што вораг блізка. Так сама разлажыўся кароль і над рэчкаю Вэкраю. А там

Літва і Русь з татарамі гвалтавалі паганскім звычаем убогі народ. З гэтай прычыны польскае рыцарства, прыехаўшы да караля ў намёт, стала дакараць яго, што дапушчае Літве з татарамі чыніць зьдзекі над хрысьціянскім людам і грабіць касьцёлы, пагражаючы разьехацца проч, калі гэта рабіцца будзе болей. Кароль зараз-жа загадаў вызваліць тых людзей, што пазабіраны былі татарамі, а Літве і Русі, што грабілі касьцёлы, Вітаўт загадаў вярнуць награбленае, і ўсе прымушаны былі зрабіць гэта.

Адтуль пайшоў кароль далей, а ўвайшоўшы ў зямлю ворага, расставіў войска сваё на полі, дзе потым была бітва. А там, узяўшы ў руку каралеўскую харугву, на каторай быў белы арол у кароне з распасьцёртымі крыльлямі, набожна, з плачам і ўздыханьнем, пачаў гаварыць так: «О, усемагучы Божа! Перад табою нічога няма таемнага, ты ведаеш ня толькі ўчынкі, але й думкі людзей. Цябе сёньня клічу я ў сьведкі на тое, што да гэтай вайны не падаў я ніякай прычыны і не хацеў яе, а калі цяпер раблю гэта, то з прымусу раблю, бо непрыяцель мой гвалтам мяне да гэтага вядзе, пабіўшы і паграбіўшы так многа нявінных, даяэспа падданых мне Табою людзей і сталачыўшы мячом і агнём мае воласьці. Спадобі ныке рассудзіць і паказаць, хто з нас мае большую справядлівасьць, калі не магло стацца іначай! А што я чыню справядліва, то ў знак гэтага паднімаю ва імя Тваё вось гэтую харугву проці свайго непрыяцеля. Няхай паможа мне Бог і ўсе сьвятыя! Амінь».

Заплакалі ўсе з каралём—і Вітальт і князі мазавецкія—ды, абцёршы сьлёзы, пачалі сьпяваць *Бога-радзіцу* і сьпявалі аж да Лютабургу, дзе паміж двума вазёрамі супыніліся на першы начлег у зямлі непрыяцеля. Там-жа справа ўсяго войска даручана была Жындраву Маскоўскаму, кракаўскаму мечніку, гэрбу Сонца. Хоць быў ён невялікага росту, але ў вайсковых справах чалавек дасьціпны і практычны. Да яго былі прыстаўлены ваяводамі: Вітульт (Вітаўт), Крыстын Астроўскі, кашталян Кракоўскі Ян з Тарнова Кракаўскі, Судзівой Астрагор Пазнанскі, Мікалай Міхалоўскі з Сандаміру, Мікалай Труба, пробашч сьв. Флёрыяна з Клепара, падканцлер; Зьбігнеў з Брэзьзя маршалак і Петра Шафранец, кракаўскі падкаморы. Былі также два правадніччыя, каторыя вялі войска, як добра ведаўшыя дарогу, бо родам былі з Прусаў. І разьмяркаваўшы так справу згодна з патрэбай, прыйшлі да варожага мястэчка Лютабургу, каторае было ўжо спалена нашымі, і падышлі да Курэцніка, каторае стаяла над возерам Рубікавым, непадалёку ад рэчкі Шумы. У тым месцы, дзе нашы захапілі пяцьдзесят канёў, як іх паілі ў рэчцы, разьбілі свае намёты (шатры) і зараз-жа ўгледзілі поблізку непрыяцельскіх людзей (бо містр прускі стаяў тут-жа за рэчкай). Дзеля гэтага кароль загадаў, каб ніхто з войска не выяжджаў на фуражаваньне і каб ніхто ня трубіў, а каб чакалі, покі ня дасьць загаду трубіць. Гэтак сама абвешчана было, каб на першы гук трубы каралеўскага трубача прыбіраліся ўсе ў зброю, каб на другі сыгнал—сядлалі коні, на трэці—каб выступалі за маршалкам, каторы йшоў пад меншай, або каралеўскай, харугвай; каб не гамянілі і каб чуткімі і асьцярожнымі былі.

Хоць крыжакі захапілі былі другі бераг рэчкі, дзе панатыкалі ражноў і панабівалі паль у рэчцы, каб перагарадзіць нашым пераправу, але кароль рушыў з таго месца і пайшоў да Дзялдова, куды прыехаў да яго пасол цэсара Зыгмунта, Фрыч з Рэпліна Сьлежак, з паведамленьнем, што Зыгмунт абвяшчае польскаму каралю вайну дзеля прусакоў, але асабіста пашапта каралю на вуха, што гэта гаворань у ім сорак тысяч чырвонцоў, якія яму паслалі. Пасол той так сама казаў, каб палякі былі пэўны ў сабе, бо войска іх шмат большае за прускае. Пасла адправілі з такімі словамі ад караля: каб яму дапамагаў Бог так, як ён цяпер плаціць мне за маё дабрадзейства. Той-жа Фрыч, вярнуўшыся. казаў крыжаком, што палякі гатовы ўжо сустрэцца з імі, бо крыжакі думалі, што палякі адступаюць, калі тыя адышліся назад, каб перайсьці рэчку гдзе небудзь у іншым месцы. А калі даведаўся аб гэтым прускі містр, то, каб не дапусьціць больш нішчыць свае землі, рушыў на Браціяны, дзе загадаў як найхутчэй пабудаваць церав рэчку дванаццаць мастоў, па каторых пераправіў сваё войска на каралеўскі бок. Тады кароль пайшоў з Дзялдова к Дуброўне, дзе й залёг перад вечарам. Калі некаторыя з нашых пад'ехалі да гораду (места было даволі моцнае, бо і муры былі крэпкія і возера акаляла яго так, што толькі з аднаго боку быў да яго прыступ), то крыжакі вылезьлі на іх з гораду і біліся з нашымі доўга. Там іх многа палегла, а рэшта ўцякла. Увязаўшыся за імі, нашы гналі іх аж да гораду, а тыя, папрыстаўляўшы борзьдзенька драбінкі да мураў, дзьвярэй не адчынялі, покі з вялікім трудом не ўзялі нашы гораду, хоць шмат нашых перабіта было стральбою і каменьнем. Забраўшы і спаліўшы Дуброўну, дзе вялікі здабытак знайшлі і шмат палонных узялі, каторых папушчалі, апрача крыжакоў, каторых на замену пакінулі,—на трэці дзень, 15 ліпня, нашы рушылі адтуль і, прайшоўшы дзьве мілі, застанавіліся каля Грунвальду ў зарасьніку з прычыны вялікага ветру. Уночы вецер быў такі вялікі, што ў прускім войску параскідала намёты, а назаўтра вецер стаў яшчэ большы. Там-жа, пад Грунвальдам, загадаў кароль паставіць сабе намёт і слухаў імшу, а тымчасам пасланцы ўсё йшлі ды йшлі адзін за другім з паведамленьнем, што вораг блізка. Кароль не зважаў на гэта і не лякаўся; ён чакаў, покі скончыцца імша. Тымчасам крыжакі баяліся засады з зарасьніку і не адважваліся блізка падступаць. І было гэта з боскае волі, бо нашы ня былі яшчэ добра падгатаваны. Вітульт шыкаваў тады сваіх людзей—Літву, татар і рысакоў, а Жындрам Маскоўскі, мечнік кракоўскі—войска польскае. У польскім войску была 51 харугва, а ў літоўскім—40. Першаю харугваю ў польскім войску была харугва кракаўскай зямлі, каторую нёс Марцін Врацімскі, гэрбу Паўкозьдзя, а на чале стаялі такія слаўныя мужы: Завіша Чорны Салімчук, Дамарат з Кабылян Грымальчук, Скарбак з Гары Габданк, Павал з Біскупіц Несёбя, Ян Варшаўскі Налыч, Станіслаў з Харбіновіц Сулімчук, Якса з Тарговска Ліс. Другая харугва была каралеўская, так званая *Гончая*, на каторай былі два залатыя крыжы ў сінім полі: спраўляваў ёю Андрэй Брахоцкі Асарыйчук, а на чале стаялі: Ян Сумік з Наброзу, каторы служыў у турэцкага цэсара

пры двары цэлых шаснаццаць год і спаўняў важныя абавязкі; Барташ і Ярaслаў з Пломікава, гэрбу Помян; Дабеслаў Веняўчык і Зыгмунт Чэх. Трэцяя харугва была так сама каралеўская; на ёй была Літоўская Пагоня—белы конь у чырвоным полі; пад ёю стаяў каралеўскі двор. Спраўцам гэтай харугвы быў Андрэй Цёлак з Жэлехава і Ян з Спрова Адровуж, а на першым месьце стаялі такія рыцары: Мшчуй з Скрынка, гэрбу Лебедзь, Александр Гарайскі, гэрбу Корчак, Мікалай Павала з Тачоры і Сосін з Вільмча, таксама гэрбу Павала. (Далей пералічаюцца ў парадку ўсе польскія харугвы аж да 51-ай з найменьнем таго, які гэрб мела кожная харугва, хто ёю справаваў і хто стаяў на чале). А ў літоўскім войску харугвы стаялі так (іх было 40 з Пагонямі і Слупамі, усе рознага колеру): першаю была віленская, потым троцкая, горадзенская, ковенская, лідзкая, медніцкая, полацкая, віцебская, кіеўская, пінская, наваградзкая, тры харугвы смаленскія, берасьцейская, ваўкавыская, драгіцкая, мельніцкая, прамянецкая, стадубская і некаторых князёў рускіх. Заволскага цара таксама было некалькі штук.

На правым боку стаяў Вітульт з Літвою, Русьсю і татарамі, на левым—Жындран з палякамі, а наперад выстаўлены былі старыя дасьведчаныя ў бітвах рыцары. Скора стала прыбліжацца прускае войска, аб чым даў знаць Ганак з Холму, Астойчык, каторы бачыў ужо іх навочна, а такжа Дэрслаў Ўластоўскі з Окшыц і другія. Аднак кароль не хацеў выступаць, ня выслухаўшы імшы. З гэтай прычыны Вітульт, прыбегшы да яго, стаў прасіць, каб ён перастаў маліцца. І толькі скончылася імша, як кароль зараз-жа сеў на варанога каня, а капланам і няздольным да бою сказаў адайціі да абозу. Потым стаў аб'язджаць навокала войска і заклікаў яго быць сьмелым, напамінаючы, што пабеда пакрые іх несьмярценнаю славай, захавае цэласьць айчыны і прынясе вялікую карысьць з непрыяцеля; пры гэтым, вылічаў усе крыўды і шкоды, якія маюць людзі ад бязбожных крыжакоў, і намаўляў памсьціцца над ворагам сваім, ведаючы, што вайна началася не па нашай, а па іх віне. А ў той час прыехалі да караля паслы ад прускага містра з тарчамі (шчытамі). На адным шчыце быў чорны двухгаловы арол, а на другім—грыф. Прыведзеныя да караля, паслы зьвярнуліся да яго з такімі словамі: «Слаўны кароль! Містр Пруські Ульрык паслаў табе вось гэтыя два мячы—адзін табе, а другі брату твайму Вітульту—на падмогу, каб вы ня трывожыліся, сьмела йшлі з ім у бой. А калі маеш цеснае поле, то аддай сваё месца яму». Кароль прыняў пасольства з пакорнасьцю (як і цяпер яшчэ сьпяваецца ў песьнях) і, уздыхнуўшы да Бога, сказаў: «Хоць мы маем мячоў даволі, але й гэтыя возьмем: яны прыдадуцца нам на вашага містра. Бог гэта лепей бачыць, што мы заўсёды хацелі міру, а не вайны з ім, а калі ён так прагне крыві нашай, то што-ж рабіць? Ані на момант не сумняваюся, што Бог стане пры справядлівасьці нашай, а містра пакарае за гордасьць яго». Сказаўшы гэта, кароль загадаў узяць у іх тыя мячы, каторыя і цяпер яшчэ ляжаць на схове ў скарбе. Потым усе згадзіліся на тым, што кароль павінен быць далей ад бітвы і

стаць з боку на бясьпечным месцы, маючы пры сабе варту з гэтакіх асоб: Земавіта, маладога Мазавецкага князя, Зыгмунта Карыбута і некага Федзюшкі, так сама з літоўскіх князёў, падканцлера Трубы, Яна Мэнжыка Вадвіца, каторы быў тлумачом пры размове караля з пасламі ад містра, Зьбігнева Алясьніцкага, Яна Салявы (а далей пералічаюцца яшчэ некалькі асоб з польскіх фамілій). Пасьля гэтага нашы пачалі сьпяваць старую песьню *Бога-радзіцу* ды зараз-жа затрубілі ў трубы і прабілі ў бубны да бою. Хоць прусы стаялі на вышэйшым месьце, а нашы ніжэй, але калі пачалі яны страляць у нашых з дзьвюх гармат, то ніякай шкоды не зрабілі, бо кулі пераносіліся цераз нашае войска. Аднак ім зручней было нападаць з гары, як нашым з долу. Ня гледзячы на гэта, нашы, спаткнуўшыся з імі пад гарою, адбівалі іх упраўна. Затым, паўстаў вялікі грукат з абодвых бакоў, трэск зброі і ламаньне пік, што трывала блізка гадзіну. А як угледзілі крыжакі, што правы бок нашага войска, дзе стаялі Літва, русакі і татары, быў слабейшы, то кінулі туды ўсе свае сілы, у той надзеі, што калі тыя пачнуць уцякаць, то й палякі пабягуць за імі. Ня вытрымаўшы націску людзей больш узброеных, Русь, Літва і татары кінуліся ўцякаць, так што Вітульт ніякім спосабам ня мог іх зьдзержыць, і так ганебна ўцякалі, што другі азірнуўся толькі ў Літве, дзе расказваў, што нашых разьбілі. Толькі смаленцы, каторых было тры харугвы, засталіся на месцы і даволі храбра бараніліся. Першая іх харугва была разьбіта дазваньня, а дзьве другія храбрых адбіваліся, асабліва, калі прылучыліся да нашых, бо ўцякаць яны лічылі ганебным для сябе. Тагды-ж і ў нашым польскім войску вораг зьбіў каралеўскую харугву, каторая камандаваў Марцін Врацімоўскі, гэрбу Паўкозьзе, кракоўскі харунжы, а потым з вялікім трудом яе вярнулі назад. А тут ужо сталі слабець і адступаць перад нашымі крыжакі. Тады нашы пачалі мацней націскаць на іх, асабліва, як пайшоў дробны дожджык. Хоць вялікай імглы ня было, як перад тым, але нашым шкодзіла, бо вецер дзьмуў ад крыжакаў. Тымчасам польскае войска мела тую перавагу, што крыжакі пагнаўшыся за Літвою, параскідаліся і тым зблуталі свой баявы парадак, што дапамагло нашым лягчэй перамагчы іх і паразіць. У крыжакоў засталося толькі шаснаццаць харугваў самога містра са сьвежымі людзьмі, яшчэ нябыўшымі ў бітве. Там стаяў сам містр з выдатнейшымі сваімі кунтарамі. Угледзіўшы, што тыя адступаюць, яны сталі заязджаць нашым у бок, каб такім спосабам лягчэй зьбіць іх. Кароль-жа, стаяўшы поблізку з сваёю меншаю харугваю, каторую нёс Мікалай Маравец з Канушовіц, гэрбу Павала —асьцерагаючыся, каб ня ўдарылі на яго, паслаў Зьбігнева Алясьніцкага, канцлярскага пісара ў войска ўзяць дапамогу, хочучы сам пайсьці з імі ў бой, але супроць гэтага стаў Мікалай Келбаса Налыч, каб свае не падумалі, што яны ўцякаюць з войска. Гэта магло-б патрывожыць войска, а непрыяцелю надаць яшчэ большай сьмеласьці. І кароль прымушан быў згадзіцца з гэтым і слухаць тых, каму даручана справа. Каралеўскую харугву апусьцілі каб не пазналі караля. Аднак адзін рыцар, Дыпольд Кікерыц з Люсапыі, пазнаўжы караля, наўскапыта пусьціўся на яго з пікаю, а кароль

гэтак сама, жадаючы зразіцца з ім, кінуўся на яго але пісар Алясьніцкі з надломанаю ўжо пікаю заскочыў каралю наперад і зьбіў таго немца з каня. Тагды кароль замахнуўся, пацэліў немцу ў лоб і зьбіў у яго шлем з галавы—у іншае месца і цэліць было дарэмна, бо немец увесь закован быў у броню. Другія падскочыўшы забілі немца. Потым кароль даў за тое Алясьніцкаму кракаўскае біскупства. Адбіўшы першых, нашы павярнулі свае сілы і на тых, каторых доўга прымалі за Літву, думаючы, што гэта яна варочаецца назад, бо аб ворагу ўжо ня думалі. А калі крыжакі паказаліся за адступаючым Дабяславам Алясьніцкім, то ўсе ўгледзілі, што гэта ня жарт, і пайшлі з імі ў бой, як у пачатку. Крыжакамі каманда ваў сам містр Ульрык і камандор Эльбенскі, езьдзячы на белым кані ўсюды па войску ды гукаючы на сваіх. Скора нашы разьбілі і гэтых. Абступіўшы іх навокала, пабілі іх так, што мала хто ўцёк. У гэтай бітве забіты быў містр Ульрык і шмат камандораў; так сама забіты быў і той Вэнданскі кунтар, што раіў не ваяваць, а пайсьці на згоду (далей пералічаецца некалькі асоб, забраных у палон).

Тагды нашы забралі крыжацкі абоз, дзе знайшлі ўсялякія прылады для вязаньня палонных. Шмат было там і віна, але кароль загадаў пасеч бочкі, каб не панапіваліся салдаты. Разьлітае віно зьмяшалася з крывёю і пацякло ўсюды ручаямі. Забітых, як піша Длугош, было 50 тысяч, а палонных 40. І гэта магло быць, бо кажуць, што ўсяго нямецкага войска было 100 тысяч. Былі тут прусы, інфлянцы, шатланцы, данцы, швабы, фрызы, турунгі, люсацы, памаране, сасы, кашубы і бадай што ўсе немцы. З нашых згінула толькі дванаццаць шляхціцаў, паміж каторымі выдатнейшымі былі: Якубоўскі, Ружыц і Чуліцкі Імбрам, гэрбу Чэрвіна.

Усё поле укрыта было трупамі, а кароль у той-жа дзень падвечар рушыў адтуль і, прайшоўшы мілю да Марынбургу, стаў абозам над возерам. Толькі там сталі ўсе есьці, а таксама і кароль, катораму зрабілі толькі шалаш з хворасту, бо намёты яшчэ не пасьпелі прыйсьці. У тым шалашу кароль і спаў, бо ўночы пайшоў вялікі дождж, стала холадна, і шмат раненых людзей паўмірала на поле бітвы ад холаду. Перад сьветам загадаў кароль вознаму,называнаму Багуцем, паведаміць, каб ранкам усе прыйшлі да яго, і, выслухаўшы імшу, прадставілі яму ўсіх палонных і харугвы, а далей загадаў хаваць забітых. Містра з маршалкам і выдатнейшымі кунтарамі сказаў палажыць на воз, накрыць чорным аксамітам ды адаслаць у Марынбург.

Усіх харугаў было ўзята 51 (тут пералічаюцца па парадку вялічыні і значэньня ўсе харугвы з апісаньнем таго, якія мелі яны гэрбы, якое стаяла войска пад кожнай харугвай, хто імі справаваў, каго забілі, а каго забралі ў палон, а таксама падаецца кароткая характарыстыка некаторых камандзіраў. Пятнаццатай харугвай, напрыклад, камандаваў некі Гэнрык з гораду і камандорства Тухольскага. Гэты быў вельмі надзьмуты немец, некі нямецкі Фальстар. Ён загадаў насіць перад сабою два голыя мячы, як некі пабеднік, што ня люба навет было містру і іншым камандорам. Потым пахваляваўся, што не схавае гэтых мячоў, покі не абмочыць абодвух у крыві ворага. Але

калі бітва была прайграна, то ён так ганебна ўцякаў, як ніхто іншы, а як злавілі яго, то аслупеў са страху, як пень.

Усіх палонных кароль выпусьціў, узяўшы прысягу, што ўсе яны стануць перад ім у Кракаве на сьв. Марціна. За іх паручыўся маршалак Зьбігнеў і кракаўскі падкаморы Пётр Шафранец. Адпушчаным выдалі на яду. Але князёў і выдатнейшых рыцараў затрымалі і парассылалі па польскіх замках, і толькі двух кунтараў—Маркварда і Сумбэрга—Вітульт загадаў сьцяць за тое, што яны аблаялі яго пад Коўнам.

Пішуць, што тады зьявіўся нашым сьв. Станіслаў, падаючы ім добры знак. А кароль гэтак сама сьніў, што бароўся з манахам і перамог яго. Гэта было ў ноч перад бітваю. Пішуць яшчэ, што нашым шмат памаглі чэхі ў тым, што бітва была выйграна. Было гэта так: калі Жарноўскі з сваёю харугвай, на якой быў сьв. Юрай, уцёк яшчэ перад бітвай, то грап Мікалай, падканцлер, едучы з іншымі князямі з войска у абоз, знайшоў яго ў лесе і стаў сароміць яго, каб ён не рабіў гэтага, а вярнуўся назад. Брыдка стала другім чэхам, што былі з Жарноўскім, і яны ўгаварылі яго вярнуцца назад. Потым Жарноўскі вельмі сароміўся свайго ўчынку, бо пачуваў сябе, як пазбаўлены чэсьці. Але калі чэхі варочаліся з сваёю харугвай,[1]) то крыжакі падумалі, што гэта Літва йдзе на помач палякам. Гэта перапалохала крыжакоў, і яны сталі уцякаць.

Гэтая бітва была ў аўторак, у дзень сьв. апосталаў, што называецца *Разасланьнем*, у лета 1410».

На гэтым канчаецца апісаньне Бельскага. І тут відаць старонасьць аўтара, і тут справа асьвятляецца так, што бітву рашыла польскае войска. Але, калі адкінуць патрыятычнае жаданьне Бельскага, то праўду вылушчыць можна. А праўда тут тая, што ўвесь цяжар вайны пад Грунвальдам вытрымала Літва-Беларусь. Гэтага ня мог затаіць і Бельскі, адзначаючы стойкасьць смаленскіх войск. Тое, што часьць беларускага войска нібы пакінула поле бітвы, ня было ўцяканьнем маладушных, як асьвятляе Бельскі. Яму хочацца ўсю славу пабеды над крыжакамі перадаць польскаму войску, а дзеля гэтага дызэртырства з разьбітай часьці ён удае за ўцяканьне войска. Тымчасам, нашая кроніка ў сьпіску Быхаўца сьведчыць пра нешта іншае. Яна кажа, што Вітаўт ня раз скардзіўся Ягайлу, што палякі стаяць бязьдзейна і ня хочуць памагчы яму ў той час, як яго войска напалавіну перабіта. Адгэтуль відаць, што палякі ўступілі ў бой толькі тады, як ім самым прышлось бараніцца.

З нашых кронік яшчэ адна коратка ўспамінае пра Грунвальдзкую бітву. Гэта—«Летапісец Русі», выдрукаваны ў «Віленскім Дзеньніку» за 1824 г. (Dziennik Wileński, 1824, т. II). Там мы чытаем:

«На ту восень (6918—1410) бысьць пабоішча каралю Ягайлу, іменем Владзіславу, і князю вялікаму Вітаўту Кестуцевіч з немцы і з прусы ва пруской зямлі, межы горады Дуброўны і Острэда. І убіша містра і маршалка

[1]) Сьв. Юрай—як Пагоня.

і кундуры пабіша, і ўсю сілу іх нямецкую пабіша, і гарады нямецкія паграбіша, но толька тры грады не даша каралю, Вітаўту. І бысць тоі осені хадзіша на тры пабоішча з немцы ляхам і літве, но немец ізьбіша, а ва ўсіх пабоішчах многа кресьцян падоша, і Літвы і ляхаў. А стаяша пад Марыным горадам 8 нядзель і ўзяша Марына горада два аходня, а вышняга ня ўзяша. І хадзіша па нямецкай зямлі па другой надзесяць нядзелі».[1])

**Язэп Лёсік.**

---

[1]) Празапіс цяперашні.

# Беларуская народная вусная творчасьць.

## ПРАДМОВА.

Ніжэй выдрукаваныя беглыя ўвагі аб беларускай народнай славеснай творчасьці зьяўляюцца конспэктам лекцый, чытаных мною гэтым летам на дадатковых настаўніцкіх курсах у Бабруйску. (Фактычна дзеля розных прычын я мог мець на гэта толькі некалькі гадзін і зрабіць уступ і агляд этнографічных зборнікаў). Дзеля таго, што патрэбных мне матар'ялаў, апрача Карскага, я ў Бабруйску дастаць ня мог, то гэта мела свой значны уплыў як на мае лекцыі, так і на гэты конспэкт.

Ня маючы пакуль-што можнасьці апрацаваць яго так, як мне хацелася-б, выпускаю яго без пераапрацоўкі, спадзяючыся, што й так, як ён ёсьць, ён зможа прынясьці пэўную долю карысьці дзеля першапачатковага азнаямленьня з народнай творчасьцю ў сярэдняй школе, пэдагогічных тэхнікумах і інш.

Пры гэтым мною кіруе яшчэ вось якая думка. Мне вельмі хацелася-б, каб ва ўсіх школах на тэрыторыі Беларусі навучаньне чужой народнай славеснасьці было як найхутчэй заменена пазнаньнем славеснай творчасьці нашага роднага народу. Пры такім ламаньні праграмы і ўводзе новай дысцыпліны, пэўна-ж лягчэй будзе ўвесьці яе, як нешта зусім элемэнтарнае. А як людзі трошкі папрывыкнуць да гэтай зьмены, тагды можна будзе значна павялічыць аб'ём навучаньня.

Я асабіста спадзяюся, што буду яшчэ мець можнасьць парадаваць вучняў хрэстаматыяй беларускіх народных славесных твораў, якая дасьць ім шмат матар'ялу да зацікавыристых «клясных», а так сама й другім выданьнем падручніка ў больш салідным аб'ёме й тоне. А пакуль што трэба абыходзіцца тым, што ёсьць.

**Павал Каравай.**

Бабруйск,
15-га верасьня 1921 г.

## Папярэднія ўвагі.

*Ці трэба знаёміцца з беларускай народнай славеснасьцяй?* На ўсім сьвеце лічыцца аксыомаю прынцып, што нельга працаваць сярод якога-бы то ня было народу, ня ведаючы ні яго мовы, ні літаратуры, ні гісторыі, ня маючы разуменьня аб душы народу. Душа народу найясьней выяўляецца ў творах народнай славеснасьці: у тых казках, песьнях і прыказках, якія створаны народам і дагэтуль жывуць сярод яго. Дзякуючы культурнаму заняпаду нашага краю і тым спэцыфічна-нездаровым палітычным варункам, у якіх ён заўсёды знаходзіўся, у нас і дагэтуль можна спаткаць людзей, якія скажуць, што ні з беларускай мовай, ні з беларускай народнай славеснасьцяй знаёміцца не патрэбна, а нават як бы й шкодна.

*Утварэньне народнае славеснасьці.* З незапомных часоў, як людзі, толькі-што вышаўшыя з зьвярынага быту, навучыліся думаць і выяўляць сваю думку ў словах (што йшло адно побач з другім) і пачалі адрозьніваць сябе ад акалічнай прыроды, яны пробавалі перадаваць сваім найблізшым патомкам (бацькі—дзецям) свае погляды, свае знацьцё, суму свае жыцьцёвае практыкі. Пакуль ня было яшчэ пісьменства, усе гэтыя настаўленьні й погляды перадаваліся толькі на словах. Потым, пасьля зьяўленьня пісьменства, становішча зьмянілася. З аднаго боку тыя, што ўмелі пісаць, умелі занатаваць свае думкі якімі-колечы значкамі, карысталіся імі: натавалі свае думкі й перадавалі іх іншым праз пісьмо й пазнавалі чужыя думкі, як сваіх адначасьнікаў, так і папярэднікаў так сама праз значкі-напісы. Але карыстацца падобнымі значкамі магла толькі надта невялічкая частка людзкой грамады. Яшчэ й цяпер, пасьля нязьлічоных палепшаньняў сыстэмы пісаньня, натаваньня чалавечых слоў і думак, усё-ж такі ня ўсе людзі ўмеюць пісаць і чытаць напісанае, а ў старыя часы гэтых знаўцаў, гэтых вучоных было яшчэ менш. Галоўная маса людзкой грамады пастарому карысталася тэй мудрасьцю, што йшла ад іх продкаў і перадавалася словамі ад аднаго чалавека да другога.

*Аўтары народнае славеснасьці.* Звычайна можна чуць, што творы

народнае славеснасьці—рэзультат калектыўнай працы. Гэта справядліва толькі напалову. Больш правільным можна лічыць такі погляд, што аддзельныя, больш талентныя асобы, тварылі тую ці іншую песьню, прыказку, байку й пускалі іх у ход. Напр., князь атрымлівае пабеду над ворагам. Пясьняр апявае гэтую пабеду, складае аб ёй песьні й пяе на гулянцы. Ад яго навучваюцца іншыя,—і песьня пашла ў ход. Гэткія песьняры ў старой Грэцыі называліся рапсодамі. Былі падобныя песьняры і на даўнейшай Русі. Што гэта так, можна праканацца. заглянуўшы, напрыклад, у «Слова аб палку Ігаравым». Гэта твор кніжны, літаратурны, часоў канца 12 сталецьця. У ім успамінаецца адзін з гэткіх талентных песьняроў—Баян, імя якога ў той час павінна было быць вядома кожнаму асьвечанаму грамадзяніну, бо пясьняр «Слова» ня тлумачыць, хто такі Баян, а проста прыводзіць прыклады яго запеваў і прыпевак: Баян сказаў-бы гэтак, Баян сказаў-бы так. Для песьняў з іншым зьместам магчымы іншы спосаб яе першага зьяўленьня на сьвет. Талентны пясьняр, каб дабіцца ўзаемнасьці ад каханай асобы, складае песьню ў пахвалу ёй. З часам, калі трафная песьня яго зробіцца вядомай шырокаму грамадзянству, здараецца, што пераходзячы ад аднаго чалавека да другога, ад аднаго песьняра да другога, яна губляе імя таго, хто яе злажыў, і робіцца тым, што мы называем «творам народнай славеснасьці». Нешта падобнае да гэтага мы можам бачыць і ў навейшыя часы. Напр., песьня Яна Баршчэўскага «Ды й чымжа твая, дзеванька, галоўка занята»? папала ў народ і зрабілася беларускай народнай песьняй. Пазьнейшыя зьбіральнікі песьняў лічылі яе чыста народнай, пакуль людзі больш компэтэнтныя не растлумачылі, у чым тут справа. Падобных прыкладаў пераходу ў народ твораў маскоўскіх *) паэтаў можна налічыць дзесяткамі. Узяць хоць бы «Каробачку». Далёка ня кожны, хто пяе гэтую песьню, ведае, чыя яна. А ўзяўшы песьні менш вядомых паэтаў, нават, добра начытанаму чалавеку лёгка памыліцца. Ці шмат хто ведае, напрыклад, хто ўлажыў песьню: «Что затуманилась зоренька ясная?» альбо «Утес Стеньки Разина?». Або ў навейшыя часы колькі ходзіць частушак па Беларусі й Маскоўшчыне на самыя сучасьнейшыя тэмы! А хто іх улажыў, хто першы пусьціў у абарот,—невядома: яны цяпер — агульна народная ўласнасьць.

*Зьяўленьне варыянтаў.* Калі два чалавекі пачнуць апавядаць аб якім-колечы здарэньні, дык адзін перадасьць яго ў адных словах, а другі ў другіх. Чалавек, перадаючы тое, што ён чуў, заўсёды нешта дабавіць, нешта абміне, нешта растлумачыць пасвойму й г. д. Такім парадкам, апавяданьне аб якім-небудзь значным выпадку, пераходзячы ад пакаленьня да пакаленьня, зьмяняецца, да яго дадаюцца усё новыя й новыя элемэнты, і часта ў пазь-

*) Тэрмін „маскоўскі" ўжываецца мною ўсюды замест слова „рускі" ў яго цяперашнім неправільным сэнсе. Назва народу імем яго галоўнага места — справа ня новая. Рымляне называліся ад імя места Рыму, які меў вялізарнае значэньне ў іх гісторыі. Блізка тое самое можна сказаць аб маскоўцах; не дарма-ж бо пісьменьнікі дапятроўскіх часоў называлі Маскву „трэцім Рымам".

нейшай форме цяжка пазнаць тую простую аснову, з якой яна вырасла. Тая сама казка ў аднэй мясцовасьці апавядаецца так, а у другой іначай, адна й тая самая песьня ў аднэй мясцовасьці пяецца так, ў другой—іначай.

*Старадаўнасьць народнае славеснасьці* можна ўбачыць, прыгледзеўшыся да іх і параўнаўшы іх да твораў народнае славеснасьці іншых народаў. Напр., у чэхаў і беларусаў ёсьць казкі, песьні, прыказкі, загаворы надта падобныя, да й зусім аднолькавыя. Цяпер мы да чэхаў жаднага дачыненьня ня маем. Адкуль-жа гэтая блізкасьць твораў народнае славеснасьці. Лягчэй усяго гэта можна растлумачыць тым, што аднолькавыя творы стварыліся ў тую эпоху, калі чэхі й беларусы жылі разам, або справядлівей кажучы, у тую эпоху, калі ня было ні чэхаў ні беларусаў, калі ўсё славянскае племя жыло разам, яшчэ не разышлося ў розныя бакі і не пашчапалася на асобныя народы. А гэтае расьсяленьне славян было вельмі даўно; гістарычная навука ня мае аб ім жадных пэўных вестак; значыцца, пара супольнага славянскага жыцьця адносіцца да часоў дагістарычных.

Старадаўнасьць твораў народнае славеснасьці можна вывесьці й другім парадкам: прыраўноўваючы іх да найстарэйшых з вядомых нам літаратурных твораў, напр., да «Слова аб палку Ігаравым». Як у «Слове», так і ў народных творах ёсьць некаторыя агульныя асобнасьці ў формах і выразах:

1) Адразу прыкмячаецца ўжываньне пастаянных эпітэтаў (слоў, што паказваюць якую-колечы асобнасьць рэчы й заўсёды ставяцца пры слове, абазначаючым гэтую рэч), напр.: «ночка» заўсёды «цёмная», конь—«вараны» мора—«сіняе» й г. д. У «Слове:» «чръный вранъ», «серын влъцы».

2) Частасьць таўталёгічных выразаў (некалькі слоў побач ад аднаго кораню: «думаць думу цяжкую», «гора гаравацъ», «гаць гаціць». У «Слове»—«трубы трубяць», «свѣтъ свѣтлый».

3) П а р а ў н а н ь н і пацьвярджаючыя і адмоўныя:

«Чые-ж гэта жаночкі,
Як чорныя вараночкі?»
— «Игорь князь поскочи горностаемъ».
«То ні сон маю галованьку клоніць»
То брацец сястру здвара далоў гоніць.
— «Не буря соколы занесе на поля широкая, галицы стады бежать к Дону великому.»

4) П а р а л е л і з м ы—цэльны пэрыад у мове дзеліцца на дзьве сымэтрычныя часткі, падобныя па форме й зьместу:

«Ў садзе бяроза каранiстая,
Ў мяне сьвякроўка наравістая.»
—«Солнце свѣтится на небесѣ, Игорь князь въ русской землѣ».

5) Сымбалічнасьць вобразаў, прычым дзеля адзначэньня аднолькавых акалічнасьцяў ужываюцца аднолькавыя сымбалы, напр., зязюля служыць сымбалам гаруючае кабеты:

«Кукавала зязюлька ў садочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку.
Плакала Ганулька»... і г. д.

— «Ярославнинъ гласъ слышеть, зегзицею незнаемь рано кычеть. Полечю, рече, зегзицею по Дунаеви»...

*Месца пасяленьня непадзельнага славянскага племя. Старадаўнасьць беларускай народнай славеснасьці. Цікавасьць да яе вучоных* Згодна з дасьледзінамі вучоных, беларусы й цяпер жывуць на тых самых мясцох, як і дагістарычнае непадзельнае славянскае племя, або ў працэсе свайго расьсяленьня хоць і адсунуліся ад гэтай тэрыторыі, але ня надта далёка. Дасьледзіны над пытаньнем аб месцы пасяленьня непадзельных славян можна весьці двума галоўнымі спосабамі, двума дарогамі: або праз архэолёгію, або праз параўнаўчае мовазнаўства. Вучоныя—архэолёгі, раскопваючы курганы, старыя замчышчы, знаходзяць розныя рэчы даўнейшых людзей, якія, напрыклад, закопваліся з нябошчыкамі. Па таму, як гэтыя рэчы зроблены (срэбныя або залатыя пярсьцёнкі, гліняныя міскі, стрэлы і інш.), якія малюнкі і арнаманты (прыкрасы) яны маюць на сабе, вучоныя судзяць, якая народнасьць аставіла гэтыя памяткі. Пры гэтым бярупца пад увагу падобныя знаходкі ў іншых мясцох, апавяданьні, якія захаваліся ў старасьвецкіх кнігах і інш. акалічнасьці.

Другая дарога—параўнаўча-лінгвістычная—вядзе нас праз прыраўнаньне цяперашніх жывых народных моваў суседніх народаў да пазнаньня мовы іх продкаў, калі тыя складалі сабою адзін народ. Пазнаючы-ж мову народу, мы пазнаём і абставіны, у якіх ён жыў. Прыраўноўваючы славянскія мовы адна да другой, мы бачым, што шмат назваў дрэў (дуб, граб, вярба, бярэзіна, ліпа, асіна, чаромха, яблыня і інш.), зьвяроў (зубр, лось, воўк, лісіца, вожык, віёрка, бабёр і інш.), птушак (дзяцел, голуб, ластаўка, жуpавель, верабей і інш.), рыбаў (сом, шчупак, лін і інш.)—паходзяць з аднаго кораню так сама, як і назвы пчалы, жабы і інш. Паўстае малюнак якраз беларускай прыроды. Кіруючыся гэтым, а так сама і інш. прычынамі, адна частка вучоных думае, што даўнейшыя непадзельныя славяне жылі ў басэйнах рэк: Прыпяці, верхняга Нёмну і ніжняй Бярэзіны,—якраз на поўдні й захадзе б. Менскай губ. і па поўдні і ўсходзе б. Горадзенскай губ. Гэтай думкі прытрымліваецца й праф. Карскі.

Другая частка вучоных, да якіх належыць і найвялікшы знаўца старaславянскага жыцьця, чэскі вучоны Нідерле, адсоўвае бацькаўшчыну непадзельных славян больш на паўднёвы захад у кірунку на Карпаты.

Трэцяя частка вучоных, з акадэмікам Шахматавым на чале, шукае бацькаўшчыну славян у басэйне Заходняе Дзьвіны і ў Падзьвісьлянскай краіне.

Але як-бы там ня было, беларусы жывуць бліжэй да бацькаўшчыны непадзельных славян, чымся які іншы з цяперашніх славянскіх народаў найменш адчувалі неславянскіх уплываў. Дзеля ўсяго гэтага беларуская мова, народная вусная творчасьць і справа беларускае архэолёгі

прыцягваюць да сябе ўвагу вучоных. Ёсьць паважныя навуковыя працы аб гэтых пытаньнях у мове нямецкай, чэскай, маскоўскай, польскай, украінскай

І толькі беларусы, дзякуючы нешчасьліва складзеным гістарычным умовам, цікавячыся прошласьцю іншых народаў, ня цікавіліся сваёю ўласнаю. Бо на Беларусі вышэйшых навуковых і асьветных установаў ня было, а тыя польскія, што меліся ў часе забраньня Беларусі маскоўцамі, маскоўскі ўрад зачыніў. Беларускіх вучоных ня было, а вучоныя суседніх нам народаў, займаючыся пытаньнямі аб беларускай прошласьці, дзеля палітычных прычын стараліся давесьці, што беларусаў, як асобнага народу, няма, і беларускае мовы няма, а ёсьць толькі гутарка маскоўскае мовы, калі гэта казаў масковец, або польскай, калі гэта паляк.[1]) Староньнія,—калі можна так сказаць—людзі, як чэскія й нямецкія вучоныя не мэглі прытрымлівацца падобных паглядаў, бо яны ані крыхі ня былі зацікаўлены ў тым, каб беларусы лічыліся галінаю польскага ці маскоўскага народу. І дзякуючы ім, а так сама таму, што два праціўныя погляды на адну рэч прымушаюць шукаць праўду пасярэдзіне, і ўважаючы на тое, што ўрэшце з беларусаў вышлі такія вучоныя, як праф. Карскі, погляд на беларусаў значна зьмяніўся.

*Важнейшыя зборнікі твораў беларускае народнае славеснасьці.* Ёсьць даволі шмат вялікіх і малых зборнікаў твораў беларускае народнае славеснасьці. Падробнае іх пералічэньне й крытыка зроблены ў праф. Карскага: «Бѣлоруссы» т. І, гл. VII. Большая частка гэтых твораў становіць цяпер вялікую бібліографічную рэдкасьць.

Першымі зборнікамі, даволі старанна апрацаванымі й выдадзенымі, становяць дзьве кніжкі Яна Чачота,[2]) дзе, побач з чыста-народнымі песьнямі зьмешчаны і песьні самога Чачота. Пазьнейшыя этнографы часта рабілі перадрукі з яго зборнікаў і побач з народнымі перадрукоўвалі яго ўласныя песьні. Другою важнаю працаю таго самага часу была кніжка гр. Эўстахія Тышкевіча («Opisanie powiatu Borysowskiego[3]) .Гэтая кніжка так сама дала шмат матар'ялу да перадруку пазьнейшым этнографам і мае навуковую вартасьць нават і цяпер.

У пяцёхдзесятых гадох мінулага сталецьця даволі шмат матар'ялаў аб беларускай народнай славеснасьці сабраў П. Шпілеўскі.

У 1853 годзе вышла кніга «Этнографическій сборникъ, издаваемый, Императорскимъ Русскимъ Географическимъ Обществомъ»; у 3-м томе гэтага зборніку зьмешчаны артыкул А. Кіркора, дзе даволі добра апісаны звычаі беларусаў Віленшчыны, але песьні, у большай частцы—пера друк з Чачота зроблены на скорую руку, дзякуючы чаму ў лік народных песьняў папала і

---

[1]) Напр., вядомы польскі вучоны Ліндэ.

[2]) а) Piosnki wieśniacze z-nad Niemna i Dźwiny, Wilno 1844.

б) Piosnki wieśniacze z-nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy w mowie sławiano-krewickiej, z postrzeżeniami, nad nią uczynionemi. Wilno 1846.

[3]) Поўны загаловак: Opisanie powiatu Borysowskiego pod względem, statystycznym geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim. Z dodaniem wiadomości: o obyczajach, śpiewach, przysłowiach i zbiorach ludu guslach, zabobonach i t. d. Wilno 1847 r.

песьня самога Чачота У 1882 г. вышла кніжка пад рэд. П. Сямёнава «Живописная Россія». У 3-м томе бяз малага ўсе артыкулы пісаны таксама Кіркорам, але адносіны да матар'ялаў засталіся тыя самыя.

Пасьля польскага паўстаньня ў 1863 годзе пачалося больш стараннае пазнаньне Беларусі маскоўскімі вучонымі. Польскія вучоныя раней даводзілі, што Беларусь—гэта край польскі і па гістарычнай прошласьці і па свайму насельніцтву. Пасля паўстаньняў маскоўскі ўрад зьвярнуў асаблівую ўвагу на Беларусь і, з аднаго боку падтрымліваючы вучоных, даводзіўшых, што Беларусь—«Искони русскій край», з другога боку дакладаў усіх стараньняў, каб зрусыфікаваць, абмаскаліць гэты «Искони русскій край».

Першым вялікшым зборам беларускіх народных твораў, вышаўшым з друку пасьля 63 году, ёсьць кніжка П. Гільдэбрандта: «Сборникъ памятниковъ народного творчества русского населенія в Сѣверо-западном краѣ. Вильно 1866 г.» Гісторык Кастамараў так адазваўся аб гэтым зборніку: «Хотя большая часть песен и действительно записаны от народа, но многие из них переправлены, подправлены, приправлены и поэтому остается только желать, чтобы народные произведения Западного края впредь являлись в таких сборниках, которые могли бы служить материалом и для науки». Блізка так сама ацэньвае гэты зборнік і Бязсонаў, сам зьбіраўшы беларускія народныя песьні.

У гэтыя-ж часы зьявіліся й зборнікі Н. Рубороўскагоі М. Дзьмітрыева. Карыстацца імі трэба дужа асьцярожна, бо напісаньне ў іх ня зусім добрае.

У 70-х гадох зьявіўся зборнік беларускіх песьняў П. Бязсонава. Бязсонаў быў масковец, папаўшы на службу ў Вільню, дзякуючы агульнаму кірунку палітыкі ўраду, які стараўся напоўніць край чыноўнікамі з Маскоўшчыны. Жывучы ў Вільні, Бязсонаў заняўся зьбіраньнем беларускіх народных твораў як сам, так і праз сваіх супрацоўнікаў. Частку песьняў ён атрымаў запісанымі лацінкаю і, як яму здавалася, маючымі шмат полёнізмаў. Узяўшыся выганяць полёнізмы, ён насадзіў шмат маскалізмаў, дзякуючы чаму не-беларусу, карыстаючыся яго зборнікам, можна набрацца зусім няправільных поглядаў на беларускую мову.

У 1872 г. вышлі «Труды этнографическо-статистической экспедиціи въ Западно-русскій край снаряженной Императорскимъ Русскимъ Географическимъ Обществомъ. Юго-Западный Отдѣлъ. Матеріалы и изслѣдованія собранные П. Чубинскимъ». У гэтай працы гаворыцца аб украінцах, але ёсьць багата матар'ялу да разьвязаньня пытаньня аб мяжы паміж беларусаў і ўкраінцаў.

У 60-х і 70-х гадох шмат папрацаваў над беларускай этнаграфіяй Н. Насовіч вядомы аўтар «Словаря бѣлорусскаго Нарѣчія». Матар'ялы да свайго слоўніка ён стаў зьбіраць яшчэ ў 1848 годзе й дзеля гэтага запісваў беларускія прыказкі, песьні і інш, і ўжо ў 1861 годзе яго слоўнік быў гатаў да друку, але фактычна быў надрукаваны коштам Навуковай Акадэміі толькі ў 1870 г. Гэта вялікая і важная кніга, у якую ўвашло больш, як 30,000 слоў. Укладаючы свой слоўнік, Насовіч хацеў даць толькі такія словы, якія ў беларускай мове розьняцца ад слоў, азначаючых тую-ж рэч у маскоўскай

мове. Няма ў ім і такіх простых слоў, як «маці», «дзіця». Затое ў слоўніку ёсьць шмат слоў рэдкіх, мала ўжываных або й зусім ня ўжываных простым народам. Напісаньне ў ім нейкае сярэдняе: з аднаго боку ў ім ёсьць «дз» і «ц» мяккае, з другога—усюды «в» замест «ў», а пасьля «р» ставяцца й простыя галосныя і ётаваныя, так сама як у маскоўскай мове, значкі над галоснымі ўжываюцца без асаблівага ладу. Дзеля ўсяго гэтага не беларусу карыстацца ім цяжка. Насовічам выдадзены так сама даволі вялікі зборнік беларускіх прыказкаў ды зборнік народных беларускіх песьняў.

У 1882 г. у Магілёве вышла трохтомавая праца пад рэд. А. Дэмбавецкага: «Опытъ описанія Могилевской губ...», у якой этнаграфічная частка апрацавана ўмела і старанна, у кожным разе лепш, чым шмат у якіх папярэдніх зборніках.

У 1888 г. вышаў даволі вялікі зборнік беларускіх песьняў Гомельскага павету, сабраных Зінаідай Радчэнка. Транскрыпцыя ў іх ня зусім добрая, і можа даць зусім няправільнае разуменьне аб гомельскай гаворцы. Напр., вядомы этнограф Раманаў кажа, што ў гомельскай гаворцы «р» заўжды цьвёрдае, а ў зборніку Радчонка мяккасьць або цьвёрдасьць «р» адзначана з аглядкаю на маскоўскую літаратурную мову, і розьніца з ёю выходзіць толькі там, дзе аўтарка не даглядзела й забылася паправіць.

Ад канца 80-х гадоў аж да нашага часу нямала папрацаваў дзеля беларускай этнаграфіі, побач з распрацаваньнем беларускай гісторыі, эканомікі і абычайнага права, праф. Даўнар-Запольскі.

Багата матар'ялу да пазнаньня беларускіх гаворак сумежных з маскоўскімі можна знайсьці ў кнізе «Смоленскій этнографическій сборникъ», уложаны В. Дабравольскім, які, апрача таго, уλажыў «Областной словарь Смоленскаго нарѣчія». Пры карыстаньні зборнікам трэба мець на ўвазе, што аўтар зьмяшчаў у ім матэр'ялы з усяе губэрні, як з месц з беларускім насельніцтвам, так і з маскоўскіх вёсак. Раней, чым казаць, напр., аб песьнях, зьмешчаных у зборніку, заўжды трэба рабіць спраўку, дзе яны запісаны. Добра яшчэ, што гэта паказана, а йначай вартасьць зборніка значна-бы панізілася. Дабравольскі не праводзіць розьніцы паміж беларускай і маскоўскай мовай, і ў песьнях з беларускае часткі губ. няма ні «дз», ні «ц» (замест мяккага «т»).

Найбольш матар'ялу аб беларускай народнай літаратуры сабралі Шэйн і Раманаў. Іх зборнікі часьцей пападаюцца ў бібліятэках, і з імі прыходзіцца перш-на-перш спатыкацца кожнаму, хто хоча больш дэтальна азнаёміцца з народнай творчасьцю беларусаў. Дзеля гэтага трэба прыглядзецца да іх больш уважна.

Зьбіраць беларускія народныя творы П. Шэйн пачаў яшчэ ў 1867 годзе. У 1865 годзе ён быў назначаны настаўнікам нямецкай мовы ў Вітабскай гімназіі і атрымаў магчымасьць азнаёміцца з беларускай мовай, якой раней ня ведаў, а так сама і з вышаўшымі тагды зборнікамі па беларускай літаратуры. Трохі ад вітабскіх служабнічак-беларусак, трохі праз знаёмых, ён ужо ў 1869 годзе сабраў багата беларускіх песень, трохі яшчэ перапісаў з ра-

нейшых зборнікаў і паслаў у «Императорское Россійское Географическое Общество», якое ў 1873 годзе надрукавала іх у сваім зборніку («Записки Имп. Р. Г. О-ва по отдѣлу этнографіи» т. V) пад загалоўкам: «Бѣлорусскія пѣсни, собранныя П. В. Шейномъ». У гэтым зборніку было надрукавана больш як 800 песень.

Ужо пад канец друкаваньня зборніка ў Шэйна набралася матар'ялу на другі том, але ён на гэтым ня спыніўся. У 1877 годзе ён зьвярнуўся да Навуковай Акадэміі з просьбай аб дапамозе на паездку па Беларусі дзеля далейшага збору матар'ялу. Акадэмія ахвотна дапамагала яму, і Шэйн аб'езьдзіў усю Беларусь удоўж і ўпоперак, завёў усюды шмат знаёмых і як сам, так і праз іх, сабраў вельмі багата матар'ялаў. Частку іх пры дапамозе ўраду ён, нават, выпатрабаваў афіцыяльна ад валасных пісароў. Хаця тут-жа трэба дадаць, што вялікай вартасьці матар'ял, здабыты праз канцалярскія адпіскі, ня мае. Як бы там ня было, з 1887 г. па 1902 г. вышлі тры томы (4 кніжкі), агулам больш за 2500 стр. пад назваю: «Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-западнаго края, собранные и приведенные въ порядокъ П. В. Шейномъ». У гэтых чатырох кніжках зьмешчаны матар'ялы з усёй Беларусі, нават з такіх далёкіх і датуль нязнаных куткоў, як Ржэўскі павет, Цьвярской губ. У кнігах Шэйна ёсьць шмат перадрукаў з ранейшых зборнікаў і яшчэ больш матар'ялу, устаўленага аўтару яго супрацоўнікамі, так што сам Шэйн запісаў ня больш, як 4% усяго таго, што надрукована ў «Матар'ялах». Супрацоўнікі Шэйна па сваёй падгатаванасьці да этнаграфічна-лінгвістычнае працы былі вельмі рознымі людзьмі, дзеля чаго іх запісы маюць розную вартасьць, і каб з гэтае рознакалёрнае масы зрабіць што-небудзь суцэльнае, трэба было шмат папрацаваць. Каб гэта рабіў беларус, які-б больш клапаціўся аб найправільнейшай перадачы асобнасьцяў беларускае мовы й зусім-бы не палохаўся, што беларуская мова пры падобнай сыстэме запісаў будзе значна розьніцца ад маскоўскае,— тады-бы зборнікі Шэйна мелі-бы шмат большую вартасьць, чым яны маюць цяпер. У зборніках заўжды паказана, дзе той ці іншы твор запісаны; самыя запісы пабіты на аддзелы і на губэрні, з якіх яны дастаўлены, так што ёсьць магчымасьць параўнаваць звычаі аднэй часьціны Беларусі да другой, а вялікі лік запісаў дае магчымасьць усебакова азнаёміцца з народнай псыхікай, жыцьцём і творчасьцю. Што-ж датыча асобнасьцяў жывой народнай мовы, дык пры карыстаньні зборнікамі Шэйна трэба быць надзвычайна асьцярожнымі.

«О» не пад націскам у народнай беларускай мове ніколі не вымаўляецца, як «о», але пераходзіць у «а», «ы», «у», або ў нявыразныя гукі, сярэднія паміж імі. Шэйн стараецца «о» ставіць усюды, дзе яно мусіць стаяць паводлуг маскоўскай граматыкі, але гэта правіла ў яго нявытрымана, так што можна сустрэць такія напісаньні, як «радысть, годувать, дзячиванько, сабе, выскочила маленькая маленя...»

«Е» не пад націскам вымаўляецца, як «е», «я», «і», або сярэдне, паміж імі, а пасьля «р» у большай частцы Беларусі і пасьля шыпячых яно

пераходзіць у «э» і падлягае гэткім самым правілам, як і «о». Тымчасам у прадмове да зборніка Шэйн піша: «е» без точек над ним без исключения везде произносится, как латинское «е»—і ў сваёй працы ён стараецца ставіць «е» усюды, дзе гэтага вымагае маскоўская граматыка. Тут, напершае, трэба заўважыць, што «е», як «э» (лацинскае «е»), вымаўляецца толькі ў гаворках паляшукоў і можа разглядацца, як украінізм, а ва ўсёй Беларусі такія словы, як «пойдземъ, сокочице, ле, міне, паненка...»*) кажуцца в «е» мяккім. Калі-б хто-небудзь, не-беларус, захацеў азнаёміцца з беларускаю моваю па Шэйнаўскаму зборніку і паверыў-бы яго заяве аб цьвёрдасьці «е», дык той чалавек быў-бы дужа далёкі ад пазнаньня жывой беларускай мовы. Прынцып ставіць «е» усюды, дзе таго вымагае маскоўская граматыка, Шэйнам так сама ня вытрыманы, як і падобны прынцып наконта «о». Даволі параўнаць гэткія напісаньні, як «телятокъ, терять, цябе, лянивый, два человѣка, два чаловѣка, чилавѣкъ справядливый». Часта путаюцца «е», «э» і «ѣ»: «рѣцѣ, рацэ, цѣсця, идзѣ, нѣ щэбѣтала».

Шэйн заяўляе, што «ц» и «з» перад «е»—произносятся почти всегда мягко, как-бы перед «ѣ». Дзеля чаго ў яго сустракаюцца напісаньні «церемъ, цекла, церкви, сонце». Тымчасам, у першых двух словах «ц» мяккае (маск. «т» мяккае), а ў апошніх яно цьвёрдае (маск. «ц»).

У Шэйна-ж прыкмячаецца поўная путаніна цьвёрдага й мяккага «р». У большасьці Беларусі «р» заўсёды цьвёрдае, і толькі на крайнім усходзе сустракаецца і мяккае.

Гэта ў Шэйна не агаворана, а ў тэксьце сустракаюцца напісаньні: «Григорывичъ, грючиць, пасварылася». Так сама з шыпячымі: «хочыць, шыці, шіюць, смяшиць.»

Найвялікшая адзнака беларускай вымовы «дз» і мяккае «ц» замест мяккага «т». У Шэйна-ж сустракаюцца часта ў суседніх радкох: «идетъ дзѣточки, тябе, цябе».

Так сама ў Шэйна ў запісах з Случчыны сустракаецца дыфтонг «о͡ў» замест «у͡о», які адзначаюць там іншыя этнографы.

Маскоўскія этнографы і наогул людзі з маскоўскай адукацыяй, запісваючы беларускія песьні, перакручвалі беларускія словы на маскоўскі лад, а польскія этнографы—на польскі лад. Так, канчатак «ачка» ў польскіх запісах пераробланы у «eczka». Шэйн, перадрукоўваючы сёе-тое з зборнікаў польскіх этнографаў, згодна са сваёй тэорыяй цьвёрдасьці «е», часта перадае канчатак—«eczka» праз—«ечка», і выходзіць нешта не-беларускае, ня-польскае і не-маскоўскае: «подаречкі», «Янечку», (пабеларуску—«падарачкі», «Яначку», або па Шэйнаўскаму прынцыпу не адзначаць аканьня: «падарочки», «Яночку»). Пры перадруках у яго ёсьць і шмат памылак праз недагляд, пасьпех: «яго яблоками кормили» (jahodkami), «на полу» замест «на поле», а ў іншых разох прапушчаны словы і цэлыя радкі.

Адразу пасьля Шэйна трэба ўспамянуць аб Н. К. Нікіфароўскім, які

---

*) Узята з „ват.“ Шэйна.

праз пэўны час быў яго супрацоўнікам і даставіў яму шмат песьняў і інш матар'ялаў. Нікіфароўскі вядомы з зробленага ім падрабязнага апісаньня жыцьця беларусаў Вітабшчыны. Нам важна ўспамянуць аб яго зборніку прыметаў і забабонаў, у якім іх зьмешчана 2307, і аб яго зборніку частушак у 2356 штук.

Вельмі плодным беларускім этнографам зьяўляецца Е. Раманаў. Яшчэ ў 1876 годзе ім быў уложаны «Опытъ словаря бѣлорусскаго нарѣчія», але яшчэ й дагэтуль ня выдадзены.

Найгалоўнейшая праца Раманава,—гэта «Бѣлорусскій Сборникъ», якога дагэтуль вышла дзевяць кніжак. Раманаў закрануў усе бакі народнае творчасьці: ён цікавіўся і дзіцячымі гульнямі, і народным тлумачэньнем сноў і слоўнікам тайнай жабрацкай і зладзейскай мовы,—усім тым, на што не зьвярталі ўвагі папярэднія этнографы. Прыгэтым, ён даў шмат звычайнага этнаграфічнага матар'ялу: казак, песень, прыказак, загавораў, загадак. Апрача таго, ён займаўся сыстэматызаваньнем народных гаворак Магілёўшчыны, напісаў дзьве добрыя апавяданьні (памаскоўску) паводлуг народных легэнд. Адно з іх—«Кара ў сто год»—надрукована ў беларускім перакладзе ў газ. «Беларусь» за 1920 г. Раманаў сабраў такую масу матар'ялаў, якой ня было ў ніводнага з папярэдніх этнографаў. Даволі сказаць, што толькі ў 1-м і 2-м сшытках «Бел. Сб.» было надрукавана 1210 песень, 757 прыказак і 451 загадка, а ў 5-м сшытку зьмешчана 824 загаворы. Першая кніжка зборніка вышла ў 1886 г., а 9-я—у 1912 г. Шмат матар'ялаў не надрукована й дагэтуль.

Дзеля таго, што «Зборнік» выходзіў на працягу цэлых 25 год, ён не становіць чаго-небудзь цэльнага і ў розных кніжках мае розны характар, прычым па стараннасьці й сыстэматычнасьці кожная новая кніжка стаіць вышэй папярэдняй.

У 1-ай і 2-ой кніжках транскрыпцыя (напісаньне) Раманава стаіць блізка да Шэйнаўскай: пасьля шыпячых і губных часта стаіць «ь» (дочь, любовь). Дзеле адзначаньня беларускага кароткага «у» ўведзена два напісаньні ў сярэдзіне і ў пачатку «ў», а на канцы «в». Калі-б хто небудзь, грунтуючыся на гэтым Раманаўскім напісаньні, падумаў, што гэтае «в» тое самае, што маскоўскае «в» (=ф),—дык моцна-б памыліўся.

«Дз» і «ц» мяккае нідзе ня ставяцца, так што такія напісаньні як «гулять», «молодец» у зборніку зусім звычайнае зьявішча. Пасьля «р» ставяцца мяккія знакі і ётаваныя галосныя; у напісаньні галосных не пад націскам прыкметна путаніна (жана почала стогнати). У далейшых кніжках (пачынаючы з 6-ай) уведзены знакі «д» і «т» дзеля азначэньня гукаў «дз» і «ц» (на мейсцы «т»). Наогул, што належыць да напісаньня зычных, дык аўтар блізка падышоў да фонэтычнага напісаньня (як чуваць), а галосныя ўсё яшчэ пішуцца з аглядкаю на маскоўскую граматыку. Значна павялічвае вартасьць зборніка тое, што ўсе матар'ялы запісаны самым Раманавым.

З 1897 году ў Кракаве коштам Кракаўскай Навуковай Акадэміі пачала друкавацца праца польскага вучонага М. Фэдэроўскага пад назваю:

«Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Materyały do etnografii słowiańskiej, zgromadzone w latah 1877—1891 przez Michała Federowskiego». Вышлі в друку да гэтага часу толькі тры кніжкі.

Матар'ялы, надрукаваныя ў Фэдэроўскага, сабраны ім у Заходняй Беларусі (Горадзеншчына, Лідзкі павет Віленшчыны і акрайчык Навагрудзкага павету Меншчыны), галоўным парадкам, сярод беларусаў каталікоў. Гэта тым болей важна, што маскоўскія вучоныя або змаскаленыя беларусы там былі-б ня вельмі жаданымі госьцямі й столькі сабраць-бы не маглі.

Праца Фэдэроўскага дае шмат матар'ялаў аб мове й народнай творчасьці Заходняе Беларусі. Што належыць да мовы, дык аўтар сам заяўляе, што хоць напісаньне ня можа замяніць фонографа, але ён стараўся па магчымасьці запісваць так, як ён чуў. Пакідаючы без разгляду некаторыя нязначныя абмылкі, трэба сказаць, што народная беларуская мова перададзена ў Фэдэроўскага больш правільна, чым ва ўсіх яго папярэднікаў.

У 1911 годзе ў Пецярбурзе коштам Навуковай Акадэміі вышла кніжка *А. Сержпутоўскага*: «Сказки и разсказы бѣлоруссов-полѣшуковъ.» Кніжка гэтая можа лічыцца ідэалам этнаграфічнага зборніку. Пры кожнай казцы азначана, ад каго і дзе яна запісана, а ў прадмове зроблены нават, кароценькія характарыстыкі казальнікаў. Гэта вельмі важна, бо кожны, чалавек, перадаючы тую ці іншую казку, заўсёды адно прыбавіць, другое выкіне, у казцы адаб'юцца ня толькі традыцыйныя выразы й погляды, але так сама і індывідуальнасьць казальніка.

У зборніках папярэдніх этнографаў прыметна гэткая асаблівасьць: мова казак перасыпана маскалізмамі, а самае апавяданьне даволі бледнае, схэматычнае. На гэта зьвярнуў увагу яшчэ Раманаў і ў прадмове да аднэй з кніжак свайго зборніка гаварыў, што баечнік, бачучы перад сабою незнаёмага чалавека ў «панскай» вопратцы, стараецца й сам гаварыць «папанску» ня гледзячы па тое, што гэты «пан» зьвяртаецца да яго «папросту». У мову казкі казальнік устаўляе як найбольш знаёмых яму маскоўскіх слоў, каб зрабіць яе больш прыемнай і блізкай панскаму вуху. А трохі-што перакручвалася й самымі зьбіральнікамі; запіс часта вёўся схэматычна, перадаючы толькі сэнс. Зусім ня тое з зборнікам Сэржпутоўскага. Мова чыстая, бойкая і сакавітая; зьмест дужа цікавы, і ўвесь зборнік чытаецца з захапленьнем, так што параўнаваньне яго да «Дэкамэрона» Боккачіо мае пад сабою грунт.

Што належыць да перадачы асобнасьцяў мовы, дык аўтар зборніка меў перад сабою труднае заданьне: казкі запісаны ў тых мясцох, дзе ў мове часта пападаюцца дыфтонгі. Але, наогул кажучы, аўтар вельмі ўдачна справіўся з труднасьцямі: транскрыпцыя даволі лёгкая да чытаньня, нават, чалавеку з малою лінгвістычнаю падгатоўкаю, і разам з тым добра перадае асобнасьці мовы.

Напасьледак трэба зачапіць пытаньне аб працах *праф. акад. Е. Карскага*. Калі яго папярэднікі адзін за адным клалі цэгліны і ўзводзілі сьцены будынку, дык праца Карскага зьяўляюцца вежаю, завяршаючай буды-

нак навуковага пазнаньня беларускай мовы. Ён падрахаваў, зьвёў у адно ўсё тое. што было зроблена яго папярэднікамі, і дадаў шмат свайго.

Найвялікшы твор яго,—гэта выйшаўшыя ўжо з друку шэсьць кніжак пад агульнаю назваю «Бѣлоруссы». Першы том пад загалоўкам «Введенее в изученее языка и народной словесности бѣлоруссовъ» выйшаў у Варшаве ў 1903 годзе і ў Вільні ў 1904 годзе. Кніжка гэтая дае агульны агляд асаблівасьцяў беларускае мовы, сыстэматыку беларускіх гаворак і іх разьмяшчэньне па беларускай тэрыторыі. гістарычны агляд, як злажылася беларуская мова, якія словы папалі ў яе з чужых моваў і агляд твораў усіх тых, хто пісаў аб беларускай мове або зьбіраў да гэтага матар'ялы. Пры кніжцы прыложана дзьве карты: этнаграфічных межаў беларускага народу і карта беларускіх гаворак. Грунтуючыся на этнаграфічных зборніках і на працах розных вучоных, а так сама на выніках сваіх досьледзінаў, праф. Карскі першы папрабаваў конкрэтна разьвязаць пытаньне ва ўсім яго аб'ёме: якая тэрыторыя можа лічыцца беларускаю? Дзе жывуць беларусы? Карта гэтая ў 1917 годзе была выдана асобна ў Пецярбурзе, а ў 1918 годзе пера. выдана ў Маскве й разышлася ў ліку 20.000 экз. дужа хутка. Першы том «Беларусаў» Карскага дужа багаты зьместам і надпісаны даволі папулярна, так што яе могуць чытаць і людзі без спэцыяльнае лінгвістычнае падгатоўкі.

Другі том «Беларусаў» выйшаў трыма асобнымі кніжкамі. Першая зьмяшчае ў сабе гістарычны нарыс гукаў беларускае мовы, другая—гістарычны агляд зьмен у складаньні і адмене слоў і трэцяя—сынтаксіс беларускае мовы. Такім парадкам аўтар даў салідны навуковы фундамант да апрацаваньня школьнае граматыкі беларускае мовы.

Першы сшытак трэцяга тому надрукованы ў Маскве ў 1916 годзе й зьмяшчае падробны разгляд твораў народнае славеснасьці беларусаў. Другі сшытак надрукованы ў гэтым годзе ў Пецярбурзе й зьмяшчае разгляд старога беларускага пісьменства. Трэці сшытак, у якім разглядаецца навейшая кніжная беларуская літаратура, ужо напісаны й друкуецца. Каб даць хоць трошкі зразумець, колькі працы палажана аўтарам на гэты твор, даволі сказаць, што ў пяці першых кніжках «Беларусаў» маецца больш як 2300 стр.

Па сваёй спэцыяльнасьці Карскі—лінгвіст (мовавед) і ў гэтым кірунку ён найбольш самастойны й найбольш даў новага. Дзеля навуковага пазнаньня беларускае мовы Карскі зрабіў больш, чым хто-б то ня быў з іншых вучоных. У іншых кірунках Карскі хоць і ня даў новага, але затое старанна сабраў і сыстэматызаваў усё тое, што зроблена, так што агульна кажучы яго «Беларусы» маюць значэньне вялікай энцыклёпэдыі, вялікага справачніка а беларускай мове, славеснасьці й пісьменству. Кожная самая маленькая драбяза ўзята ім пад увагу і пастаўлена на сваё месца. «Беларусы» Карскага могуць служыць адыходным пунктам кожнаму, хто хоча навукова азнаёміцца з вышэй паказанымі пытаньнямі. Гэта значэньне твораў Карскага будзе расьці побач з узростам беларускага адраджэнчаскага руху й навуковага пазнаньня нашае мовы больш шырокімі коламі нашай інтэлігэнцыі. Сонца славы Карскага яшчэ толькі пачынае ўсходзіць.

Але й на сонцы ёсьць плямы. Гэткай плямаю на творах Карскага зьяўляецца яго залішне прыметны маскоўскі патрыятызм. У пачатку свае навуковае кар'еры, у сваёй дысэртацыі на магістра філёлёгіі (1893 г.) ён разглядаў беларускую мову не як мову і. навет, не як падмову (наречие), а як гаворку (поднаречие) маскоўскай мовы (великорусского наречия), ставячы яе нараўне з паўночна-маскоўскаю і паўднёва-маскоўскаю падмовамі (северно-великорусское и южно-великорусское поднаречия). Гэты погляд мо' тлумачыцца ўплывамі тых маскоўскіх прафэсараў, вучнем якіх ён быў. Здараецца-ж часта, што вучань бывае больш радыкальных поглядаў, чым сам вучыцель (як француская прыказка кажа: plus royaliste que roi). Потым, як Карскі стаў сам добрым знаўцаю беларускае мовы, ён стаў патроху «беларусіцца», калі можна так сказаць. Зусім «абеларусіцца» перашкаджала яго пасада рэктара Варшаўскага унівэрсытэту, якую ён займаў, здаецца, аж да самай эвакуацыі Варшавы. Пасада рэктара ўнівэрсытэту была адным з слупоў, на якіх апіралася насаджэньне маскоўскага духу ў Польшчы.

У творах Карскага апрача, так сказаць, «навукова-маскоўскага патрыятызму» прымецен яшчэ і палітычна-маскоўскі патрыятызм у стылю Пушкінскае Оды «Клеветникам России» (гл. I том «Беларусаў», стр. 235), што ў навуковым творы ўжо зусім не пасуе й непатрэбна. Быць можа, што гэта і іншыя падобнага духу месцы ўстаўляліся сумысьля з аглядкаю на тое, на якія кошты друкаваліся «Беларусы», а быць можа, гэта й шчырая «адсябяціна».

Але, як-бы то ні было, усё гэта ня болей, як плямы на сонцы і ў аддаленьні гістарычнае пэрспэктывы, калі спрэчкі аб беларускім адраджэньні страцяць сваю гострасьць, плямы гэтыя будуць зусім няпрыметны.

*Падзел і парадак разгляданьня твораў народнае славеснасьці* Творы народнае славеснасьці звычайна дзеляць на загаворы, песьні абрадныя бытавыя, прыказкі, загадкі, казкі, набожныя песьні.

Што належыцца да іх старшынства й залежна ад гэтага, парадку іх разгляданьня, дык звычайна ставяць на першае месца абрадавыя песьні, бо яны разьвіліся з маліцьвенных зваротак да багоў,—але Карскі думае, што перад тым, як чалавек дайшоў да служэньня багом і да паняцьця аб іх, як аб нейкіх асобах, ён ужо спатыкаўся з сіламі прыроды і стараўся так ці йначай кіраваць іх на сваю карысьць. Падобны сьветапагляд якраз і выўляецца ў загаворах.

## Загаворы

*Пагляды старадаўных людзей на прыроду.* Загаворы паўсталі ў вельмі глыбокай старадаўнасьці, калі чалавек глядзеў на ўсю прыроду і яе зьявішчы, як на нешта жывое, што можа *сьвядома* рабіць яму дабро ці зло, прымаць удзел у розных падзеях яго жыцьця. Чалавек яшчэ не навучыўся адрозьніваць сябе ад акалічнае прыроды: ён быў яшчэ далёка ад пазьнейшага гордага абвяшчэньня сябе царом або вянком прыроды,—наадварот:

старадаўны чалавек пры тагочасным слабым разьвіцьці навукі (і больш вузка—тэхнікі ў яе розных) галінах на кожным кроку пачуваў сваю залежнасьць ад прыроды, сваю слабасьць у параўнаваньні з магутнымі сіламі яе, якія маглі шкодзіць яму, яго прыяцелям і ворагам, або заступацца за іх. І чалавек ужо пробуе хітрыць, пробуе абараніцца ад нападу злых, варожых яму сіл прыроды пры дапамозе добрых, але іншы раз, калі яму гэта здавалася карысьней, ён зьвяртаўся й да цёмных. Моральнага элемэнту ў загаворах няпрыметна; яшчэ няма адрожніваньня, што можна рабіць і чаго ня можна. Усё можна, калі яно йдзе на карысьць.

Сьляды думак старадаўных людзей аб прыродзе і ўяе падзеях, як аб нечым жывым, захаваліся ва ўсіх цяперашніх народаў у форме мэтафорычных выразаў. На кожным кроку мы ўжываем такія выразы, што застанавіўшыся і трохі падумаўшы над імі, мы прызнаемся, што фактычна мы выяўляем праз іх погляды старадаўнага дзікуна, напр.: «дождж ідзе», «вецер вые», «пярун стрэліў у дрэва» і інш. Хоць кажучы «вецер вые», мы цяпер ужо ня думаем аб ветры, як аб нечым жывым, але спосаб выражэньня думкі застаўся той самы.

*Вера ў моц слова.* У загаворах мы перш-на-перш спатыкаемся з верай у цудоўную моц слова. Гэта зусім звычайнае зьявішча ў гісторыі ўсіх народаў. У нас сярод простага народу яно яшчэ й цяпер вельмі прыметна. Калі беларусу, альбо старой кабеце-беларусцы здарыцца гаварыць аб чымнебудзь кепскім, дык яны перш за ўсё скажуць: «А ня пры нас тут кажучы, ня тут успамінаючы, з хаты дымам, з двара ветрам». Тут выяўляецца пагляд на слова, праве, як на нешта матар'яльнае, што можа быць вынесена з дымам з хаты і з ветрам са двара, а застаўшыся ў хаце, магло-бы пашкодзіць тым, хто ў ёй знайходзіцца, як-бы атруціць іх. Або калі беларус кляне каго, і яму скажуць тыя, што самі мала ў што вераць: «На што дзядзька, язык мазоліш?»—дык ён з цьвёрдым переконаньнем, адкажа: «Э, братка, кляцьба—ня пацеры!» Праўду кажучы, нават нашы пажаданьні здароўя і шчасьця грунтуюцца на веры ў моц слова.

*Імя* Бога й чалавека мае ў загаворах вялікае значэньне. Гэткае значэньне яно мела і ў даўнейшых народаў. Прыпамятаем сабе хоць-бы тое што ў даўнейшых жыдоў імя Бога трымалася ў тайне: яго ведаў толькі першадухоўнік, а другія, успамінаючы аб Богу, часта выражаліся так: «О, Ты, вялікі, неназываны!», бо калі-б сказаць гэта магічнае слова, дык вышлі-бы вялікія неспадзеўкі.

*Вобраз* чалавека, або фігурка, падобная да яго, так сама маюць у загаворах вялікае значэньне. Заўладаць вобразам, зрабіць з ім што-колечы—тое самае, што зрабіць гэта з самым чалавекам. Яшчэ й цяпер дзікары часта не даюць сфатаграфаваць сябе, каб ня даць другому чалавеку ўлады над сабою. У сярэдніх вякох, калі не знаходзілі якога злачынца, дык катпаліў або рэзаў яго патрэт. Ведзьмы ў некаторых даўнейшых народаў насылалі няшчасьце на людзей тым, што ламалі іх фігуркі, вылепленыя з воску або гліны. У сярэдніх вякох у Эўропе быў пашыраны гэткі звычай: хворы

ляпіў з воску фігурку хворай часьціны цела, прыносіў яе ў цэркаў і ахвяроўваў яе, напр., Матцы Боскай, веручы, што ад гэтага хворасьць пяройдзе з яго цела ў фігурку. Гэты звычай зьяўляецца прыкладам старапаганскіх вераньняў, зьмененых і прыстасованых да хрысьціянства.[1]) Праколываньне вачэй на фатаграфічных картках нялюбых нам людзей так сама грунтуецца на гэтым старадаўным, дзікарскім поглядзе.

*Выманьне сьлядоў* мае блізка тое самае значэньне, што й маніпуляцыі над партрэтам. Калі выляпіць па сьледу, астаўленым нагою чалавека, фігурку з воску й потым чараваць над ім, дык з чалавекам зробіцца кепска. Знак гэтага вераваньня аб значэньні сьлядоў можна бачыць у беларусаў на гэткім прыкладзе: калі хто-небудзь будзе казаць раззлаванаму беларусу—«а пляваць мне на гэта»,—дык ён, папэўна, адкажа—«плюй на свой сьлед, недавяр(к ты гэткі!»

*Дзеі*, учынкі—маюць у загаворах так сама вялікае значэньне. Пры загаворы, робячы якое-небудзь дзеяньне, чалавек разглядае яго, як сымбаль таго дзеяньня, спаўненьня якога ён хоча. Напр., пры сёлетнім сухмені на ўсходзе Маскоўшчыны шмат дзе ца вёсках «адмыкалі ваду»—з наговорамі капалі ў зямлі студні, веручы, што ад гэтага адчыненьня вады на зямлі адчыніцца вада й на небе—пойдзе дождж. І гэта рабілася побач з малебнамі да Бога й да сьвятых яго.

Сярод дзеяньняў у загаворах найбольш частымі й важнымі зьяўляюцца: завязваньне й развязваньне вузлоў, замыканьне і адмыканьне замкоў, абводжваньне рысай. Часта ўспамінаецца ў загаворах абгароджваньне тынам. Тутжа трэба ўспомніць аб заломах у жыце, што адносіцца так-сама да завязваньня вузлоў [2]).

*Найлепшым часам да загавораў* лічыцца вечар, ноч, або зара перад усходам сонца, прычым загаворы не гаворацца, а шэпчуцца. Гэта йдзе ад незапомных часаў і грунтуецца на веры ў вялікую моц слова.

*Хрысьціянства й загаворы.* У дахрысьціянскія часы загаворы ўжываліся ўсімі пры ўсякай патрэбе. Кожны чалавек ведаў шмат загавораў і карыстаўся імі. Потым, калі зьявілася хрысьціянства, яно пачало змагацца з загаворамі, старалася іх выгнаць; духоўнікі гаварылі проці іх, казаньні, забаранялі іх,—а самае галоўнае: цэркаў старалася зрабіць конкурэнцыю загаворам і пусьціла ў ход малітвы, якія павінны былі замяніць загаворы. Але поўнасьцю выцясьніць загаворы хрысьціянства не змагло; толькі зрабіла тое, што раней загаворы на розныя выпадкі ведаў кожны чалавек, а цяпер гэта зрабілася ўласнасьцю меншага ліку людзей, стала як-бы прафэсыяй некаторых людзей і звычайнаму чалавеку, замест таго, каб самому сказаць

---

[1]) Трымаецца ён, нават, і дагэтуль. Даволі прачытаць раман француekага пісьменьніка Золя „Лурд“ (Lourdes). Верш Гэйне „die Wallfahrt nach Kevlaar“ кажа аб сцэне з сярэдніх вякоў. У нас на Беларусі, пабываўшы ў мясцох, дзе ёсьць цудоўныя абразы, можна так сама бачыць перад імі малюнкі і фігуркі з дрэва вачэй, рук, ног, якія афяроўваны людзьмі Матцы Боскай.

[2]) Гл. паміж іншым верш Лявона Лобіка „Залом у жыце.“ („Наша Крыніца“ ч. III і IV, стр. 92).

загавор, прышлося зьвяртацца да спэцыялістаў і плаціць за гэта грашыма або натураю.

*Зьмест загавораў.* Ужо з вышэйпаданага ясна, што ў зьмесьце загавораў можна распазнаць некалькі наслаеньняў. У іх ёсьць і міфолёгічна-паганскі элемэнт, які выяўляе нам погляды на прыроду старадаўных людзей; ёсьць і значная дамешка хрысьціянскіх апокрыфічных сказаньняў; ёсьць і элемэнты, папапаўшыя з кніжак. У загаворах побач з адухатварэньнем прыроды зьяўляюцца Бог, Хрыстос, Маці Божая, сьвятыя. Усё гэта робіць навуковую працу над загаворамі надта цяжкою й патрабуе вялікай эрудыцыі (вучонасьці, начытанасьці).

Загаворы ахапляюць сабою ўсе здарэньні жыцьця. Ёсьць загаворы аб каханьні (прываротныя і адваротныя), аб здароўі, каб скаціна вялася, каб была ўдача ў справах (напр., на судзе) і інш. Сярод загавораў аб здароўі ёсьць загаворы дзеля палягчэньня мукаў радзільніцы, ад дзіцячых крыкаў, ад зубоў, ад благіх вачэй, ад трасцы, ад рожы, ад крыві, ад шалёнай сабакі, ад гадзіны, ад урокаў і інш.

*Форма загавораў.* Загаворы бываюць у форме загаду з пагрозамі, просьбы, або малітвы. Загаворы зьяўляюцца высока-паэтычнымі творамі народнае славеснасьці. Яны часта маюць пэўны рытм і рыфму і заўсёды бываюць перасыпаны параўнаньнямі, эпітэтамі, мэтафарамі і іншымі тропамі й фігурамі. Дзеля гэтага зразумела, чаму паэты часта зьвяртаюцца да загавораў *).

*Дэградацыя загавораў.* Некаторыя загаворы страцілі сваё значэньне й папалі ў жартаблівыя дзіцячыя песьні. Прыкладамі могуць служыць такія дзіцячыя песьні, якія вырадзіліся з заклікаўньня дажджу, або жаданьня яго ўняць:

а) «Дожджык, дожджык, секані,  
Бабы з поля прагані!»  
б) «Дожджык, дожджык, перастань,  
Мы паедзем на Ердань,  
Богу намолімся, Хрысту паклонімся,  
Сядзем пад елкаю, накрыемся талеркаю;  
Сядзем пад хатаю, накрыемся лапатаю;  
Сядзем пад грушкаю, накрыемся падушкаю»..

*Прыклады загавораў:*

1) Ад зубоў:

«Маладзік малады, твой рог залаты, на моры купаўся, нам паказаўся, табе на цёмныя ночы, а нам на сьветлыя вочы, вам на стаяньне, а нам на здароўе; вам на высату, а нам на красату. Першы цар—ясен месяц на не-

*) У навейшай маскоўскай паэзіі загаворамі шмат карыстаўся Бальмонт, і калі прыхільнікі яго таленту ня надта гэтым здаволены, дык не дзеля таго, што ён *карыстаўся* загаворамі, а дзеля таго, *як* карыстаўся. У бел. паэзіі можна зьвярнуць увагу на верш Багдановіча у „Вянку“.

бе: другі цар—зелен дуб у полі; трэці цар—белы камень у моры. Як тым тром царом у купу не схадзіцца, так раба Божага (—) зубом не балець і касьці ня пічымець і крыві не псавацьˮ.

2) Ад рожы:

«Рожа, рожа, раба твая Божа (—), каб гэтай рожы ў раба Божа (—) ня быць. Амін».

3) Ад трасцы:

«Першая вясьнянка, другая лядзянка, трэцяя лістападніца, чацьвёртая касьцяніца, пятая квактуха, шостая начніца, сёмая смутніца! Адкапісь, адвалісь ад грудзёў і ад бела цела, ад буйнай галавы! Ты дзеўкай ня шляйся, на мяне ня ўзірайся: я ў хаце ляжу, на вугаль гляджу. Як вуглю згарэць, так табе ў катле кіпець. Бяжы, не азірайся, назад не вяртайся, ідзі ты на мхі, на балоты, на гнілыя калоды: там табе жыць, са мхоў ваду піць. Амін».

4) Ад шалёнага сабакі:

«Устану я рана-раненька, умыюся бела-бяленька, узыйду на крутую гару, зірну на ясную зару: там стаіць дзедзька-лябедзька, стары, барадаты. Дзедзька-лябедзька, унімай ты свайго сабаку, кусаку, круцяку й вярцяку, —укусіў ён раба Божага (—.)—вынімай шал із касьцей, із машчэй, із чорных печаней, і з сініх жыл, з гаручае крыві, і з буйнае галавы, каб у раба Божага (—) косьці не ламала, гаручае крыві не марыла ясных вачэй ня круціла.»

5) Ад гадзюкі:

«На моры, на лукаморы стаіць куст ракітавы, у тым кусьце бараньняя руня, у той руні ляжыць зьмяя Шкурапея. Ты зьмяя лютая, лятучая; зьбірай сваіх зьмей лятучых, бягучых, сірановых, маховых, калодных, крапіўных, падтынных, падмежных,—вынімай сваё жала й зубы з раба Божага (—); а то не я цябе паб'ю: паб'е цябе сам Ісус Хрыстос, выйдзе ў чыстае поле, налажа калявую стралу, праб'е цябе, лютую зьмяю».

6) Ад урокаў:

«Загаварываю я ўроцы й прароцы, стрэшны й папярэчныя, завісныя й радосныя, жаноцкія, й дзявоцкія, й дзяцюцкія, шэрае вока, чырвонае вока, чорнае вока, белазорае вока і ўсякае вока, і ўсякага часу і ўсякай гадзіны. Ідзеце вы, ўроцы, на мхі, на балоты, на гнілыя калоды: там вам гуляньне, красаваньне, цясовыя вароты, пуховыя пярыны,—а рабу (—) на добрае здароўе. Ты, вадзіца-царыца, абмывала крутыя беражкі й жоўтыя пяскі, шэрае каменьне й белае карэньне,—абмый раба(—). Табе на сінім моры слава. У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амін».

7) Прываротны загавор:

«Пайду я (—) пад акіян-мора, стану ў край мора, віджу я—стаіць дуб, ад веку пасаджоны, ад веку параджоны. Абгараджу яго залезным тынам, залезным варатам. Пад тым тынам залезным варатам ляжыць злая самаверніца, рассылае красных дзявок на шаўковыя лугі, каб ныні аба мне іх жылкі-паджылкі, гарачае сэрца. Амін.»

*Пракленствы.* Тут-жа пры загаварох трэба ўспамянуць і аб праклёнствах. Ёсьць народы, якія ўмеюць мацней і ядраней лаяцца, чым беларусы,—але, як мне здаецца, няма пароду, які ўмеў-бы так праклінаць, як беларусы. Беларускія праклёнствы, калі чалавек бывае чым-небудзь вельмі збураны—або вельмі ўзрушаны, зьяўляюцца праўдзе інымі паэтычнымі імпровізацыямі. Сярод старых беларусаў ёсьць такія мастакі, што будучы пад настроем—могуць прычапіцца да якога-колечы глупства й праклінаць праз якую паўгадзіну, праве, бяз устанку. Праклёнствы маюць усе прыметы і ўсе асобнасьці паэтычных твораў: сакавітыя абразы, эпітэты, параўнаваньні мэтафары, рыфму, а часта й рытм, і робяць моцнае ўражаньне нават на чалавека, які ня верыць у іх. Няма што й казаць пра простага чалавека, які жыве ў 20-м сталецьці толькі целам, а душою—ў далёкай мінуўшчыне.

## Абрадавыя песьні.

Жыцьцё простага чалавека перапоўнена рознымі абраднасьцямі—сымбалічнымі дзеяньнямі, падобнымі да зьявішч прыроды, якія сьледуюць за ўсімі найважнейшымі здарэньнямі яго жыцьця. Радзіўся чалавек—робяцца абрады, жэніцца, паміране—так сама, сонца заварачвае на лета—абрад, зажынаецца або дажынаецца жыта—абрад і г. д.

*Даўнасьць абрадаў.* Так-сама, як і загаворы, абрады й абрадавыя песьні ідуць да нас ад глыбокай старадаўнасьці. Яны паўсталі яшчэ ў той час, калі чалавек уважаў сілы прыроды за нешта жывое і думаў, што можа ўходзіць у беспасрэдныя стасункі з імі. Робячы той ці іншы абрад, чалавек капіраваў зьявішча прыроды, быць можа, дзеля таго, каб вызваць або затрымаць іх. Песьні, якія пяяліся падчас абхаджэньня абрадаў, дзякуючы ім, пережылі доўгі род вякоў, вытрымалі націск хрысьціянскай царкоўчасьці й дажылі аж да нашых дзён. Абрадавыя песьні тлумачаць сэнс і парадак эбрадавых дзеяньняў, або зьяўляюцца, быць можа, лірычнымі звароткамі да божаства, дзеля ўшанаваньня якога абходзіўся абрад. У абрадных песьнях можна распазнаць сьляды даўнейшай натуралістычнай рэлігіі славян (погляд на сілы прыроды, як на жывыя асобы) з пазьнейшым дабаўленьнем новых багоў. Калі славяне сталі жыць аседла,—зьявіліся багі, апякуны хаты, а як стала пашырацца земляробства,—прыбавіліся палявыя богі, абрады й песьні. Тое самае датычыцца да гадоўлі скаціны. да разьвіцьця грамадзянскага жыцьця і г. д.

*Абрады каляндарныя.* Найвялікшым старадаўная славянская рэлігія, —як і іншыя рэлігіі старадаўнасьці,—лічыла сонца, ад якога залежыць разьвіцьцё і кірунак усяго жыцьця на зямлі. Дзеля гэтага, найбольшая частка абрадаў і абрадавых песень прыстасована да сонца, да яго ўміраньня і ажываньня, і гуртуюцца каля зімовага і летняга сонцапаваротаў, —гэта значыць, каля 9 сьнежня і каля палавіны чэрвеня (ст. ст.). Зімовае сьвята—Каляда, летняе—Купала. Другараднымі пунктамі ў годзе зьяўляюцца маманты веснавога і асеньняга сонцастаяньняў, калі дзень ровен ночы.

Узяўшы пад увагу, што ў да-хрысьціянскія часы год начынаўся з вясны, так-сама быў зьвязаны з песьнямі і абрадамі,—мы й будзем мець 4 тэрміны, каля каторых грунтуецца найвялікшая частка абрадаў і абрадавых песень.

*Абрады і хрысьціянства.* Хрысьціянства значна зьмявіла становішча абрадаў. Разам з выцясьненьнем і забываньнем старых багоў, абрадныя песьні рабіліся малазразумелымі і пачалі асьвятляцца новымі паглядамі й верай; паганскі элемэнт у абрадных песьнях пераблутваецца з хрысьціянскім, у песьнях зьяўляюцца імёньні Хрыста, Багародзіцы, сьвятых. А звычаі паганскія зьменьваюцца падобнымі да іх хрысьціянскімі: напр., замест паганскага калядаваньня зьяўляецца звычай хадзіць са зьвяздою, на ўспамін Батляемскай зьвязды. Перамешываньню хрысьціянскіх і паганскіх элемэнтаў найбольш спрыяла тое, што важнейшыя хрысьціянскія сьвяты прыпадалі на той самы час, што й паганскія. Хрысьціянскія сьвятыя атрымалі тое самае значэньне, якое мелі паганскія богі, і нават імёньні апошніх зьнікаюць з абрадных песень; захаваліся толькі эпітэты іх, як «Купала», або самая назва сьвята «Каляда».

Пасты, устаноўленыя хрысьціянствам, мелі тое значэньне, што некаторыя абрады й песьні мусілі «вымятацца» з таго часу, што адводзіўся на пасты, бо пяяць іх лічылася вялікім грэхам. У нас, на Беларусі, духоўнікі абяцалі за гэта сваім парафіянам мукі пякельныя, а ў Маскоўшчыне справа часта даходзіла да адміністратыўных і дужа срогіх караў. Такім парадкам, некаторыя абрады й песьні былі перанесены на іншыя мамэнты ў годзе.

*Зьмена сьвяткаваньня Новага году* так-сама адыграла значную ролю ў перамешываньні абрадаў і абрадных песьняў. Спачатку, у стара-славянскія часы новы рок сьвяткаваўся вясною, і тагды-ж абходзіліся зьвязаныя з гэтым абраднасьці й пяяліся адпаведныя песьні з пажаданьнямі шчасьця і ўдачы ў наступаючым годзе. Потым хрысьціянства перанесла сьвяткаваньне Новага року на восень; на восень-жа мусілі перанесьціся й новарочныя абрады з песьнямі. Яшчэ пазьней улада перанесла сьвяткаваньне новага року на зіму, і ўсе новарочныя абрады перасунуліся так-сама на зіму.

*Абрады і гісторыя народаў.* У стара-славянскія часы, калі славяне яшчэ не падзяліся на асобныя народы, у іх была адна вера й адны абрады,—але потым, калі розныя часьці славянскага племеньня расьселіся па розных краёх, і жыцьцё кожнай галіны славянства пайшло сваею асобнаю дарогаю, дык і далейшая доля абрадаў і абрадных песень была неаднакаваю ў розных славянскіх народаў. Калі мы паглядзім на гісторыю беларусаў і найбольш блізкага нам суседняга народу—маскоўцаў, дык мы убачым, што ў той час, як Маскоўшчына знаходзілася пад татарамі, беларусы жылі супольным дзяржаўным жыцьцём з літоўцамі, а потым з палякамі, і маючы зносіны з Заходняй Эўропай, адчувалі зусім іншыя ўплывы на

сваім жыцьці, чым маскоўцы. Дзеля гэтага, ў цяперашнім часе між абрадавымі песьнямі нашымі й маскоўскімі маецца значная розьніца.

*Цяперашні стан абрадаў.* Разабрацца ў абрадных песьнях пры іх цяперашнім стане, справа надта цяжкая, бо ў іх шмат што пераблутана. Некаторыя песьні зьмянілі час, калі яны мусілі-б пяяцца: у песьнях, якія пяюцца зімою, іншы раз успамінаюцца акалічнасьці вясновыя, або летнія. Хрысьціянскія сьвятыя набралі значэньня паганскіх багоў і выпаўняюць іх дзеі. Некаторыя песьні, страціўшыя свой сэнс і стаўшыя малазразумелымі, перайшлі ў склад, напр., дзіцячых песень. Некаторыя песьні маглі зусім забывацца, напр.: маскоўцы маюць зусім мала калядак, у той час, як беларусы і ўкраінцы вельмі багаты імі; у маскоўцаў блізка што няма й купальскіх песень, іхнія вясьнянкі менш паэтычны, чымся беларускія і украінскія, але за тое ў іх ёсьць быліны (багатырскі эпос, песеньныя апавяданьні аб жыцьці і ўчынках асілкаў, дужых людзей), чаго няма ў беларускай вуснай творчасьці.

*Падзел абрадных песень.* Абрадныя песьні лёгка дзеляцца на дзьве часткі: адна з іх стасуецца да зьмен у жыцьці прыроды, а другая—да падзей чалавечага жыцьця, пачынаючы ад калыскі й да магілы. Сярод апошніх выдзяляюцца тры найвялікшыя купы песьняў згодна з трыма найважнейшымі мамэнтамі ў жыцьці чалавека: 1) песьні радзінныя й хрысьцінныя, калыханкі й дзіцячыя песьні, 2) вясельныя песьні й 3) хаўтурныя прычыты.

## Абрадавыя песьні, прыстасованыя да даўнейшых паганскіх сьвятаў.

*Калядныя звычаі й песьні.* Сьвяткаваньне Каляды пачынаецца вечарам перад Параджэньнем Хрыста й цягнецца да Трох Каралёў (Вадохрышча). Увесь гэты час называецца Ко́лядамі (Каляда́мі), Калядою.

*Старадаўнасьць сьвяткаваньня Каляды.* Звычай сьвяткаваньня Каляды й нават самы парадак яго абхаджэньня йдзе ад далёкай мінуўшчыны. Ужо ў казаньнях і творах першых царкоўнікаў на Беларусі й Маскоўшчыне ёсьць успаміны аб гэтым звычаі й скіраваныя проціў яго навучаньні. У Маскоўшчыне ўва ўсе часы яе істнаваньня ўлада прыймала значны ўдзел у жыцьці асобнага грамадзяніна, кіравала яго ў той бок, у які гэта знаходзіла карысным, і строга карала за непаслушэнства. Там проціў сьвяткаваньня Каляды і іншых сьвятаў, перайшоўшых у спадчыну ад паганскіх часаў, прымаліся надта сярдзітыя меры, як гэта можна праканацца, заглянуўшы ў зборнікі іхніх даўнейшых законаў (Стоглав, Уложение царя Алексея Михайловича). Дзеля гэтага, сьвяткаваньне Каляды ў Маскоўшчыне блізка-што зусім вывялася.

У нас так-сама шмат чаго вывялася, але дзеля больш спакойных прычын. Адно забылася, а другое набрала хрысьціянскага характару, і самыя «калядкі» сталі набліжацца да пабожных хрысьціянскіх песень.

*Калядная абраднасьць.* Вечарам 24 сьнежня ў Беларусі адбываецца «куцьця». Куцьця патрабуе, каб было шмат страваў, у некаторых мясцох ня меньш, як 12. Самае важнае месца сярод іх займае сама «куцьця»— пансаковая (пэрловая) каша з мёдам, а ў бедных сем'ях і без яго. У некаторых мясцох на кут ставяць снапок жыта, які хавaецца ад дажынкаў, і па усёй Беларусі кладзецца сена пад абрус (настольнік). Сена гэта хаваецца асобна і з некаторaю штогодняю дабаўкаю служыць кожны год. Узяўшы першую лыжку куцьці, гаспадар запрашае мароз на вячэру, каб ён потым не марозіў ячменю, пшаніцы і інш. гаспадарскіх расьлін. Посьле вячары варожаць аб тым, які будзе лён, выцягваючы сянінку з-пад настольніка.

Вечарам на Каляды ходзяць са зьвяздою, пяюць песьні і выпрашываюць пачастунак, так-сама ходзяць і на новы рок, толькі без зьвязды.

Вечарам перад Новым Годам (ст. ст.) бывае багатая куцьця, або шчодрая куцьця (скаромная, а 1-я, 24 сьнежня, і 3-я, 5 студня ст. ст. посныя). Багатая куцьця папраўдзе можа лічыцца багатай, бо мае шмат страваў розных і сытных. Першая куцьця не дае прастору беднаму чалавеку. Каб што-небудзь уладзіць, дык трэба шмат чаго мець: і мёд, і крупы і шмат чаго інш. А бедныя сем'і, ня маючы гэтага, купяць трохі таранеў, селядцоў, звараць куцьці, напякуць аладак з алеем і ўсё, бо на большае няма ні грошы, ні сваіх запасаў. На багатую куцьцю заўсёды знойдзецца і якая скабка, і сьвіныя «санкі» (ніжн. пашчэнка) і інш.

*Прыметы.* Да каляднага часу належыць шмат прыметаў. Гаспадары стараюцца адгадаць, якая пагода будзе ў наступаючым годзе. Так напр.,— калі на першую куцьцю неба зорнае, дык скаціна будзе добра пладзіцца й будзе ладны ўраджай на ягады і грыбы; калі на Божае Нараджэньне завіруха,—будуць добра раіцца пчолы. У некаторых мясцох пачынаюць жаць у той дзень, на які прыходзілася Божа Нараджэньне, і інш.

*Калядныя песьні.* У песьнях, з якімі ходзяць калядуючыя, звычайна праслаўляецца багацьце гаспадара, да якога яны прышлі, і асаблівая ласка Божая над яго дваром; побач з гэтым алегорычна славяцца і яго дзеці. Пра двор гаспадара часта гаворыцца, што наўкол яго «залезны тын, мядзяны вароткі, зашчэпка точаная, пазалочаная». Далей калядоўшчыкі як-бы будзяць гаспадара й кажуць яму пацікавіцца, што за шчасьце яму Бог даў: у яго на двары стаяць 3, (4, 5) церамы, у першым—месяц, у другім—сонца, ў трэцім—зоркі: месяц—гэта гаспадар, сонца—гаспадыня, а зоркі—дзеткі. Або песьня праслаўляе гаспадара менш алегорычна і проста прапануе яму паглядзець, што за радасьці яму Бог паслаў:

«Першая радасьць—у тваім доме,
Другая радасьць—у тваёй аборы,
Трэцяя радасьць—у чыстым полі.
У тваім доме—дробны дзеткі,
У тваёй аборы—валы, каровы,
У чыстым полі—буйна жыта...»

Праслаўлянаму гаспадару усё шэнціць, у яго нават сьв. Ільля клапоцінца аб ураджаі. Дзеля гэтага ён

«...сее жыта, Бога просіць,
Каб з каласочка ды й жыта бочка,
А з другога ды й яшчэ многа...»

Калядуючыя праслаўляюць гаспадара і выстаўляюць яго багатым і заможным, каб ён больш ім даў: яны просяць у яго:

«Бочку пшаніцы, наверх ярыцы», або адзін з калядуючых зьвяртаецца так:

«Шчодрык-бодрык, дай варэнік, лыжачку кашкі, на верх каўбаскі! Гэй -жа дарэце, нас не марэце: кароткі сьвіткі, памерзлі лыткі; бацькі казалі каб мы сьпявалі... Маці казала, каб кусок сала!»

Каб гаспадар хутчэй браўся за пачастунак калядуючых, яны пяюць што да яго йдзе ў госьці сам Бог са сьвятымі, або ў іншых калядках—сонца, месяц і дожджык.

Жонка гаспадара вялічаецца за яе хараство, дабрату, руплівасьць да працы.

Сын гаспадара выстаўляецца ў калядках як сталы, разумны, адукаваны, адважны дзяцюк, які возьме за сябе царэўну.

Вясельныя матывы запаўняюць сабою й калядкі да дачкі гаспадара.

У некаторых калядках ёсьць адгалоскі ваенных песень, напр.:

«З поля старожа ды й прыбегла...
Твою паненку ў палон забралі!
Ў палон забралі туркі з татарамі...
— А я тых турак капём патапчу...
— А я сваю паненку за сябе вазьму...»

Калядуючымі так-сама пяюцца песьні і на рэлігійныя тэмы, толькі эвангелійныя падзеі там часта бываюць вельмі пераблутаны. Тое, што было аддзелена гадамі часу, у песьнях апісуецца, як наступаючае адно за адным, адразу, прычым, замест біблійных акалічнасьцяў зьяўляюцца чыста-беларускія, напр: Хрыста хрысьцяць зараз-жа посьле таго, як ён радзіўся, Дзева Марыя нясе Яго ў царкаў, папы пытаюцца, якое імя даць хлопчыку....

або напр: «...У тэй рэчачцы сам Бог купаўся,
Сам Бог купаўся з Ісусам Хрыстом,
З Ісусам Хрыстом, сьвятым Ражаством».

Раней разьлічаліся «калядкі» й «шчадроўкі», цяпер між імі розьніцы няма.

*Калядныя гульні.* Вольны час калядных сьвятаў праводзіць моладзь на супольных гульнях і вечарынках. У Беларусі ўжо даўно этнографамі запісана шмат сьвяточных гульняў: жаніцьба Цярэшкі, Яшчур і інш. Пяюць прыпеўкі на манер такіх:

«Цярэшка валочыцца,
Яму жаніцца хочацца;

Валочыцца, выглядае,
Каго-то ён спаймае?..»

або:

«Сядзіць, сядзіць Яшчур
У арэхавым кусьце,
Гарэшыкі лушчыць,
Вочкамі плюшчыць,
Парошы точыць,
Жаніцца хочыць...»

Абраднасьць пры гэтым вельмі прыемная для тых, хто гуляе, шмат сьмеху й васёласьці: Яшчур (Цярэшка) з завязанымі вачыма выбірае й шукае тую дзяўчыну, якая яму падабаецца, або ловіць яе сярод клуму гуляючых.

*Калядныя забавы.* Падчас калядных сьвят часта ходзяць «з казою». Якога-небудзь хлопца адзяюць у кажух, воўнай наверх, на ногі другі кажух так-сама воўнай наверх і зьвязваюць абодва кажухі. Твар «казе» вымазваюць сажай, або накладаюць маску, а на галаву накладаюць шапку з рагамі. З «казою» ходзяць яшчэ «дзед», «важачы», «цыганкі» й «музыкі» з «вясельнікамі». Уся кампанія йдзе па хатах і, калі гаспадары згодны, пачынаецца забава. Каза танцуе, а яе правадыры пяюць аб ёй розныя прыпеўкі. Каза гэта не простая, бо:

«Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць;
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе каза нагою,
Там жыта капою,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам».

У другіх мясцох Беларусі тое самае пяецца пра казла. Далей песьня малюе прыгоды казы (казла), як за ёю гналіся ваўкі або стральцы. Уцякаючы ад іх:

«...Тая каза забаялася,
За ніцыя лозы захавалася.
Ой прыбег воўк ды за козаньку,
А ваўчаняты за казяняты...»

Каза падае й памірае; тым гульня й канчаецца.

Падобная сцэна з казою ёсьць так сама і ў «батлейцы», прычым, хор пяе:

«Антон казу вядзець,
Антонова каза ня йдзець:
А ён яе падганяець,

Яна хвосьцік падпімаець.
А ён яе рожкамі,
Яна яго рожкамі...»

Батлейка (лялькавы тэатр)—гэта скрынка наманер сцэны, у якой скачуць і рухаюцца фігуркі. «Батлеечнік, стоючы ззаду, прыводзіць іх у рух і прыдае выгляд жыцьцёвасьці праз папягіваньне за нявідныя нітачкі. Найчасьцей у «Батлейках» прадстаўляюцца сцэны з часаў Нараджэньня Хрыста, фігуры жыд, сьмерць і інш. Цяпер гэты звычай ужо вывеўся.

У сярэдніх вякох падобны звычай быў пашыран па ўсёй Эўропе. Даволі сказаць, што зьмест Гётаўскага «Фаўста» ўзяты з «батлейкі».*)

*Пагляды і тэорыі вучоных.* Прыглядаючыся да калядных звычаяў песень і гульнях у розных народаў, можна заўважыць шмат аднаковага. Так напр., маскоўскі вучоны А. Весялоўскі, разглядаючы румынскія, славянскія і грэцкія Коляды, знайшоў паміж імі шмат падабенства ня толькі ў часе сьвяткаваньня і ў абразах, але ў зьмесьце песьняў, і на пытаньне, адкуль бярэцца гэтае падабенства, адказвае: «Многое можно об'яснить единством натуралистических представлений, лёгших в их основу; вместе с тем в этом общем есть частности и совпадения, невольно вызывающие вопрос о возможности одного древнего культурного влияния, распространившегося одновременно и оставившего следы в очертаниях нового обряда».

Слова «Каляда» выводзілася ад розных каранёў: ад «кола» (Костомаров), ад «кола Лада» (Соловьев) і ад «калода» (Безсонов). У цяперашнім часе вучоныя выводзяць яго ад лацінскага слова «calendae» (грэц. kalandai) Слова гэтае разам з самым сьвятам у розныя часы перайшло ад рымлян да іх суседзяў і цяпер вядома баўгарам (колада), сэрбам (коледа), славінцам (coleda), так сама славакам і інш. славянам; з неславянскіх народаў вядома румынам (colinda), альбанцам (kolêndre) і інш.

Календамі ў рымлян называўся першы дзень кожнага месяца; а з іх найбольш паважаўся і сьвяткаваўся першы дзень студня, Новы рок. Студнёвыя календы сьвяткаваліся з 1-га па 5-е студня ўва ўсіх краёх падуладных Рыму. Людзі думалі, што калі яны весела адсьвяткуюць пачатак новага року, дык, і ўвесь рок ім будзе шчасьціць. Потым, з пашырэньнем хрысьціянства, яно зьмяніла паганскія сьвяты сваімі, але назва і шмат звычаяў засталіся тыя самыя.

Дзеля гэтага, на тое, што ходзяць з казою можна глядзець, як на спадчыну з рымскіх часаў, бо ў рымлян быў падобны звычай. Што-ж датычыцца значэньня казы ў справе ўраджайнасьці поля, дык тут выяўляецца старадаўны міт аб тым, што душа нівы—казлавідная істота, якая ўцякае ад жнеек і хаваецца ў апошнюю, нязжатую жменьку жыта. Гэтая жменька жыта й называецца «казою» або «казловаю барадою».

---

*) Беларускую батлейку жыхары Менску маглі бачыць зімою 1915—1916 году, калі яна была ўладжана дзеля папаўненьня касы „Беларускага таварыства помачы папярпеўшым ад вайны“.

*Масьленіца.* Сьвяткаваньне масьленіцы ў беларусаў праходзіць не так гучна, як у заходня-эўрапэйскіх народаў, або ў маскоўцаў. Нялічныя песьні або малююць масьленічныя акалічнасьці, або разьвіваюць звычайныя матывы жаданьня гульні, шчасьця, каханьня.

*Веснавыя звычаі і песьні.* Абуджэньне прыроды ад зімовага сну, пара, калі ўсё цьвіце й зелянее, заўсёды рабіла моцнае ўражаньне на чалавека.

*Вясьнянкі.* Беларускі народ мае шмат прыгожых і поэтычных веснавых песень «вясьнянак». Пачынаючы *ад Зьвяставаньня (Благавешчаньня)* дзяўчаты гурбою зьбіраюцца дзе-колечы на высокім месцы, або навет на страсе гумна і «гукаюць вясну» аж да пачатку палявой работы. Зьмест вясьнянак—замыканьне зімы, закліканьне вясны і пажаданьні добрага лета, напр.:

«Благавешчаньнійка сьвятое,
Пашлі сонейка залатое!
Каб зямелька адышла
Ды вясна красна прышла,
Каб распусьціліся ветачкі,
Каб закрасавалі кветачкі,
Каб лугі зазеляняліся,
Сенажаткі каб адзеліся,
А мы пойдзем у лес па мятачку,
Ці па шчавель у сваю нівачку».

Або: «Благаславі Божа,
Вясну клікаць,
Зіму праваджаць,
Лецечка чакаць!
Вылаці, шарая галачка,
Вынясі залатыя ключы,
Замкні халодную зіманьку,
Адамкні цёплае лецечка».

У некаторых вясьнянках, апрача матываў земляробскіх, сустракаюцца й спэцыяльна дзявоцкія пажаданьні, напр., каб вясна прынясла «красным дзеўкам па вяночку».

У некаторых мясцох Беларусі вечарамі паляць агні, і вясьнянкі пяюцца каля іх. У іншых мясцох у Чысты Чацьвер стараюцца да ўсходу сонца памыцца ў лазьні.

Закліканьне вясны з высокіх месц звычайна тлумачаць тым, што ў старадаўніх славян горы былі месцам служэньня багом, але гэта паддаецца й больш простаму тлумачэньню: вясну клічуць са стрэх і наогул з высокіх месц дзеля таго, што з іх голас разьлягаецца далей, і значыць, вясна барджэй пачуе закліканьне ды хутчэй прыйдзе. Гэта тым больш падобна да праўды, што служэньня багом на стрэхах ніколі быць не магло. «Вясьнянкі» адыгрываюць ролю загавораў, а запаліваньне агнёў, як і купаньне ў вадзе, мае ачышчальнае значэньне.

Цікава, што ў некаторых вясьнянках успамінаецця дачка вясны, напр.:

«Вясна, вясна, вясьняначка,
Дзе твая дачка Мар'яначка?
Сядзіць у садочку, шые сарочку,
Свайму сыну Васілёчку». *)

*Вербніца.* Апошні нядзельны дзень перад Вялікаднем называецца Вербніцай. У гэты дзень у царкві сьвеньцяць вербы, на ўспамін увойсьця Хрыста ў Ерузалім. Сьвянцоная вярба мае вялікую моц: яна можа адганяць шкодных духаў і розныя хваробы. Прыйшоўшы з царквi, ёю зьлёгінька сьпёбаюць астаўшыхся ў дому, прыгаворваючы розныя пажаданьні шчасьця і здароўя, напр.:

«Ня я б'ю, вярба б'е,
За тыдзень Вялікдзень!
Хіра ў лес на вярэс,
А здароўе ў косьці!
Будзь здароў, як вада,
А расьці, як вярба,
Будзь багат, як зямля,
А вясёл, як пчала»!

Або:

«Ня я б'ю, вярба б'е,
За тыдзень Вялікдзень!
Будзь здароў, як зямля,
А дуж, як вада!
Ад року да року
Вярбою па боку!»

*Вялікдзень.* З наступленьнем Вялікоднага тыдню пяюць вялікодныя або валачобныя песьні. Чаму сьвята называецца «Вялікаднем», зразумець лёгка, недарма-ж бо ў царкві пяюць: «Празднікоў празднік, торжество есть торжеств». Апрача таго, пры тлумачэньні назвы «Вялікдзень», трэба мець на ўвазе старынны апокрыф аб тым, што ўвесь тыдзень, ад Васкрасеньня Хрыста, сонца не заходзячы стаяла на небе. Апокрыф гэты раней быў пашыраны па ўсёй Русі, бо напр. у XVI сталецьці ў Маскве проціў яго выступаў Максім Грэк.

Вялікодныя песьні з усіх славянскіх народаў маюцца толькі ў беларусаў і сэрбаў. У нас яны называюцца інача «валачобнымі», бо тыя, што пяюць іх «валочацца»,—іншы раз нават даволі далёка.

«Ішлі, брылі валачобнікі,
Валачыліся, намачыліся».

Па свайму зьместу валачобныя песьні падобны да калядак. Пачынаюцца яны звычайна тым, як валачобнікі зьбіраюцца, рахуюцца, як яны прыходзяць да гаспадара; далей, як і ў калядках, выслаўляецца заможнасьць

*) Матывы закліканьня вясны скарыстаны ў адным з вершаў К. Буйла.

эспадара і асабтівая ласка Божая над яго дваром, як сьвятыя клапоцяцца аб яго гаспадарцы. Песьня канчаецца просьбай аб надарэньні, напр.:

«За гэтым слаўны муж, пане Петрычку,
Любіш гасьцей, дык прасі ў хату,
А ня любіш,—адпраўляй барждзэй,
Адпраўляй барждзэй і дары скарэй...
Пачынальнічку—па дзесятнічку.
Кожнаму пяўцу па аднаму яйцу.
А кашаланосу—пірог к носу».

Сярод валачобных песень, так-сама як і сярод калядак, ёсьць песьні, выслаўляючыя гаспадарскага сына або дачку.

Цікава адзначыць, што шмат у якіх валачобных песьнях нічым не ўспамінаецца аб самым сьвяце, а прыпевам служыць «Вясна красна на дварэ» альбо «Віно, віно зеляно!» Падобныя песьні аказываюцца самымі звычайнымі вясьнянкамі.

Пяюцца песьні й на рэлігійныя тэмы, напр.:

«Вялік сьвяты нам дзень настаў,
Хрыстос Гасподзь із мертвых ўстаў»*).

Серада вялікоднае нядзелі называецца *«градавою»* і сьвяткуецца дзеля таго, каб град ня выбіў поля; у чацьвер сьвяткуецца «Вялікдзень умершых». У другіх мясцох чацьвер вялікоднага тыдню называецца «Старым Вялікаднем».

***Карагоды.*** З Вялікоднага тыдню пачынаюць «вадзіць карагоды». Што значыць гэтае слова, вучоныя дагэтуль ня высьнілі. Праўда, у цяперашнім часе у маскоўцаў карагод называецца «хороводом», але-ж гэта новае названьне і тлумачыцца жаданьнем прыдаць сэнс слову, стаўшаму незразумелым, бо даўней у іх так сама слова «хоровод» ня было, а было слова «корогод». Сярод масы карагодных песень выдзяляецца песьня аб сяяньні проса, вядомая таксама маскоўцам і ўкраінцам. Пры пяяньні яе ўся кампанія разьдзяляецца на дзьве часьці, на два хоры. У варыантах гэтай песьні, запісаных сярод беларусаў, няма прыпеўкі «Ой Дзід Ладо». Песьня, запісаная ў Гомельшчыне Радчэнкай, мае гэткія словы:

«А мы ляда капалі, капалі.
Зялёна наша дуброва, дуброва!
— А мы проса сеялі, сеялі.
Зялёна наша рутачка, жоўты цьвет!
«А мы коні выпусьцім, выпусьцім.
Зялёна наша дуб, дуб!
— А мы коні пабяром, пабяром.
Зял. наша рута жоўты цьв.!
«А за коні сто рублёў, сто рублёў,
З. н. д., д.!

*) Паміж іншым гл. апавяданьне „Па валачобнаму“ у „Нашай Крынiцы“ ч. III i IV, стр. 31.

— Мы ня хочам сто рублёў, сто рублёў.
З. н. р., ж. ц.!
«Ой дайце нам дзяўчыну-паненку.
З. ц. д., д.!
— За паненку слова нет, слова нет.
З. н. р., ж. ц.!

У гэтай песьні гаворыцца аб сяяньні проса, якое вядома славянам з далёкай старадаўнасьці і разам з ячменем быць можа доўга было ядынаю хлебнаю расьлінаю.

Другія карагодныя беларускія песьні маюць бытавы характар і малююць то долю дзяўчыны, то маладой замужкі, то хлопца.

*Радаўніца.* Панядзелак першага тыдню на Вялікадня называецца Радаўніцай. У гэты дзень (у іншых мясцох у аўторак) на магілках адбываецца памінаньне ўмершых. Посьле паніхіды над магіламі плачуць, потым п'юць, ядуць і, трошкі падвесяліўшыся, пушчаюцца ў скокі і пяюць песьні нават з жартаўлівым зьместам. Не здарма-ж бо й дзень называецца Радаўніцай ад слова «радавацца».

*Юр'яў дзень.* 23-га красавіка (апр.) ст. ст. праваслаўная царкаў сьвяткуе памяць сьв. Юр'я (Ягора). У гэты дзень усюды выганяюць скаціну на пашу з выкананьнем пры гэтым некаторых абрадаў. Бывае й так, што скот выганяецца на пашу й раней, але гэта так сказаць, неафіцыяльна, а на Юр'я адбываецца ўжо самая ўрачыстасьць. Адбываецца малебен (або абходзяцца й без яго); скаціну акурваюць ладанам, сьвянцонаю травою, або кропяць сьвянцонаю вадою. У некаторых мясцох кладуць пад парог яйца, каб скаціна, выходзячы з хлява, пераступіла цераз іх. Усё гэта робіцца дзеля таго, каб усьцерагчы скаціну ад зьвяроў і пошасьцяў. У народным разуменьні сьв. Юрый спаўняе роль апякуна над скацінаю, яму павінуюцца таксама й ваўкі, і без яго дазволу ня маюць права зарэзаць ніводнага ягняці. Да яго моляцца, калі скаціна заблудзіць, каб ён прывёў яе да дому. У гэтым сэнсе сьв. Юрый замяніў сабою нейкага паганскага бога, быць можа «скотскага бога» Велеса (Волоса) даўнейшых славян.

Сьв. Юрый мае дачыненьне ня толькі да гадоўлі скаціны, але й да земляробства. Вялікодная песьня пяе аб ім:

«Сьвяты Юрый, Божы пасол,
Да Бога пайшоў,
А ўзяў ключы залатыя,
Адамкнуўшы зямлю сырусенькую,
Пусьціў расу цяплюсенькую,
На белы сьвет, на ўвесь сьвет».

Блізка тое самае пяецца ў аднэй песьні на Юр'я:

«Юрый, уставай рана,
Адмыкай зямлю,
Выпушчай расу,
На цёплае лета,

На буйнае жыта,
На ядранiстае,
На каласiстае,
Людзям на здароўе».

Юрый адмыкае землю й выпушчае расу, надта патрэбную дзеля ўраджаю i дзеля здароўя. I вось у некаторых мясцох хлопцы й дзяўчаты стараюцца так, каб нiхто ня бачыў, выкачацца ў Юр'яўскай расе. Цяпер гэта, быць можа, ужо ня робiцца.

На Юр'я, на зары, часта робяць абход поля з хлебам, з сольлю, яйцамi й касьцямi вялiкоднага сьвянцонага, так сама са сьвянцонаю вярбою. Косьцi закопваюць на межы, а вярбу ўтыкаюць у зямлю. Усё гэта робiцца дзеля таго, каб сьв. Юрый сьцярог поле ад граду. Другiя тлумачаць гэты звычай iначай: людзi абходзяць поле, каб пачуць, што гаворыць рунь, якi будзе ўраджай.

Некаторыя песьнi, якiя пяюцца на Юр'я, спэцыяльна з iм нiчым ня зьвязаны i маюць характар звычайных вясьнянак. Дзень сьвяточны, пагодны; сходзяцца хлопцы й дзяўчаты, жартуюць, пяюць. Пры гэтым часта хлопцы ў сваiх песьнях пакеплiваюць з дзяўчат, а дзяўчаты з хлопцаў:

«На гары новы двор,
Разыграўся Юр'яў конь,
Разьбiў камень капытом,
Як у каменi ядра нет,
Так у дзяўчат праўды нет.
На гары новы двор,
Разыграўся Юр'яў конь,
Разьбiў гарэх капытом,
Як у гарэсе ядро ёсьць,
Так i ў хлопцаў праўда ёсьць».

Дзяўчаты пяюць:

«На гары сьвятлела,
Казлова барада гарэла.
— Iдзеце, хлопцы, гасеце,
Рэшатам ваду насеце!—
Як у рэшаце вада ёсьць,
Так i ў хлопцаў праўда ёсьць.
. . . . . . . . . . . .
— Iдзеце, дзевачкi, гасеце,
Кубачкамi ваду насеце!—
Як у кубачку вада ёсьць,
Так i ў дзевачак праўда ёсьць».

Карагоды канчаюцца ў Мiколiн дзень, 9 мая, ст. ст.

*Мiколiн дзень.* На Мiколiн дзень пачынаюць вадзiць конi на начлег. Iх абкурваюць купальскаю травою i абходзяць з яйцом. Гэта робiцца дзеля захаваньня iх ад пошасьцi i ад зладзеяў. Значыць, сьв. Мiкола так сама,

як і сьв. Юрый, мае дачыненьне да гадоўлі скаціны. Але ён так сама клапоціцца і аб ніве і мае нейкія правы над ёю; нават, як гэта можна судзіць па беларускай прыказцы, уступае ў спрэчку са сьв. Юр'ем: «Юрый сказаў—жыта ўраджу, а Мікалай—пажджы, пагляджу». Звычайна думаюць, што сьвяткаваньне ў чэсьць Міколы памагае ад граду. Значыць, Мікола, так сама выпаўняе функцыі нейкага даўнейшага паганскага бога, або асобнага ад таго, якога замяшчае Юрый, або ўдваіх з ім спаўняе абавязкі аднаго даўнейшага бога.

*Апошняя вясьнянка* пяецца перад самай Сёмухай. Зьмест яе характарызуе роль песьні ў жыцьці народа, асабліва пры палявых работах:

«Песенька мая харошая,
Схаваю цябе на лецейка,
Паеду ў поле з сахою,
Вазьму песеньку з сабою,
Ой, сахою гараць буду
І цябе, песенька, сьпяваць буду». [1]).

## „Зяленыя сьвяткі"—Семуха.

З Сёмухаю (тыдзень сьв. Тройцы) так сама зьвязана шмат абрадаў і песень. Па свайму характару яны блізкі да вясковых і галоўнейшыя тэмы іх—каханьне й замужаства. Асаблівасьцю іх зьяўляюцца ўспаміны аб русалках і абрады з дрэвамі. На Сёмуху ўсе хаты ўбіраюцца зялёнымі бярозкамі, а двары й вуліцы падмятаюцца чыста і пасыпаюцца аерам. Дзеля гэтага Сёмуха часта называюцца «Зялёнымі сьвяткамі» (папольску так сама «Zielone świątki»).

*Русалкі.* У песьнях, якія пяюцца падчас Сёмухі, звычайна ўспамінаюцца русалкі. Русалкі—гэта душы маленькіх дзяўчынак, памёршых няхрышчонымі, а так сама вісельніц і ўтопленьніц. Хоць русалкамі робяцца пераважна душы маленькіх дзяўчатак, аднак у народнай фантазіі русалкі зьяўляюцца сталымі дзяўчатамі з доўгімі распушчанымі валасамі. Жывуць яны на дне рэчак і вазёр, а па начох выходзяць адтуль, забаўляюцца пры сьвеце месяца, гойдаюцца на ветках дрэў, ходзяць па жытах, па могілках, казычуць праходзячых міма[2]).

Субота перад Сёмухай і самая Сёмуха аж да праводзін іх у панядзелак Пятровага посту зьяўляюцца русалчынымі сьвятамі. Дзяўчаты водзяць карагоды, пяюць песьні, ўюць вянкі. У некаторых мясцох Беларусі на першы дзень Пятровак дзяўчаты выбіраюць з-пасярод сябе найбольшую прыгажуньню і ўбіраюць яе краскамі і ўстужкамі. Вечарам, пабраўшыся за рукі, папарна йдуць на поле. Першая пара падыймае рукі, а рэшта праходзяць пад імі. Пад'яжджаюць хлопцы, што выбраліся «на начлег», раскладаюць агонь і скачуць цераз яго. Дзяўчаты кідаюць у вагонь вянкі і ўцякаюць.

[1]) Паміж інш., гл. „Апокрыф" Багдановіча.
[2]) Гл. верш „Русалкі" К. Буйла і І акт „Сон на кургане".

Русалкі ловіць іх і, каго зловіць, казыча. На вянкох так сама гадаюць: кідаюць іх у воду, і чый вянок паплыве далёка, тая дзяўчына хутка выйдзе замуж, а чый вянок патоне, тая або хутка памрэ, або застанецца ў дзеўках.

*Погляды вучоных.* Скуль паўстала назва «русалкі» й «русальны тыдзень»? Раней вучоныя выводзілі гэта ад санскрытскага слова «rasa», што значыць вільгаць. Пры гэткім тлумачэньні русалкі былі-б раўназначны грэцкім марскім дзевам—«нэрэідам». Але-ж русалкі жывуць ня толькі ў вадзе, яны ходзяць і па жыце й па могілках, і нават адна песьня называе іх «зямляначкамі», гэта значыць, жывучымі ў зямлі. Дзеля гэтага, вучоныя ўсьлед за А. Весялоўскім тлумачаць русальны тыдзень, як перапрацоўку старалацінскіх сьвятаў, розаліяў (dies rosae, rosalia)—веснавых памінак па ўмёршых.

Чаму памінаюць умёршых адзін раз на Радаўніцу, а другі раз на Сёмуху? Праф. Карскі тлумачыць гэта тым, што першыя памінкі перад пачаткам палявой работы мелі сваёю мэтаю вызваць дапамогу продкаў, а памінкі на Сёмуху мелі сваёю мэтаю вызваць падмогу продкаў у важны час цьвіценьня хлебных расьлін.

Звычай прыаздобліваць хаты зялёнымі бярозкамі і аерам, згодна з досьледамі Анічкава, разглядаўшага ў параўнаваньні з абрадамі заходніх народаў,—зьяўляюцца адбіткам даўнейшага пачытаньня зялёных дрэў.

Вянкі, з аднаго боку можна разглядаць як дэкаратыўны сродак, а з другога боку—як сымвал дзявоцтва й замужаства, тым болей, што падобнае значэньне яны мелі і ў летніх гульнях старадаўніх усходніх народаў—асьсірыйцаў і інш.

*Песьні.* У некаторых з русальскіх песень гаворыцца аб самых русалках, напр.:

«На Granaй нядзелі русалкі сядзелі,
Ой рана, рана, русалкі сядзелі!
Прасілі русалкі ў дзевак сарочак,
У дзевак сарочак, у маладзіц намётак:
— Дзевачкі, сястрычкі, дайце нам сарочкі!
Хоць яны пласконны, каб былі дадонны,
Хоць яны таўсьценькі, каб былі бяленькі...»

Гэта дзеля таго, што згодна з народным вераваньнем, русалкі ходзяць голымі, і пры спатканьні з імі кожны мусіць кінуць хоць маленькую лапінку.

У другіх песьнях праслаўляюцца дрэвы, асабліва бяроза.

У многіх песьнях гаворыцца аб завіваньні й разьвіваньні вянкоў, напр.:

«Пойдзем, дзявочкі,
Ў лугі, лужочкі
Завіваць вяночкі.
Мы заўём вяночкі
На жыта густое,

На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грэчку чорную,
На капусту белую.
Разьвілі вяночкі,
Разьвілі зялёныя,
На годы добрыя...»

Завіваньне й разьвіваньне вянкоў з пяяньнем песень аналёгічна заломам у жыце, толькі ў даным выпадку ўсё робіцца з добрым намераньнем.

Нейкі стасунак да абраднасьці русальнага тыдню маюць загадкі, бо ў аднэй песьні гаворыцца:

«Мы заўём вяночкі,
Заўём зялёныя,
Завіўшы вяночкі,
Загадаем загадкі».

Ёсьць песьні, у самым тэксьце якіх зьмешчаны загадкі.

## Купальле. Пятроукі.

*Даўнасьць і агульнасьць купальскага сьвята.* Звычай запаліваньня агнёў у купальскую ноч маецца ня толькі ў беларусаў, але блізка што ва ўсіх інда-эўрапэйскіх народаў, не гаворачы ўжо аб славянах (нямецк. Johannisfeuer[1]), франц. le feu de St. Jean), але ў беларусаў яно захавалася ў найбольш старой і колёрытнай форме. Па свайму значэньню Купальле стаіць нараўне з колядамі (коляды—найвышшы пункт зімы, купальле—лета) і так сама йдзе эд глыбокай старадаўнасьці, як аб гэтым сьведчаць старынныя летапісы й акты: момэнт якой-небудзь падзеі ў іх азначаецца проста за столькі-то часу да Купальля або посьле яго; аб Купальлі гаворыцца, як аб чымсь добра вядомым кожнаму. З усходніх славян купальскі звычай найлепш захаваўся ў беларусаў і ўкраінцаў, а ў маскоўцаў можна заўважыць толькі яго абломкі.

## Купальская абраднасьць.

Купальле адбываецца ў ноч з 23 на 24 чэрвеня (іюня) ст. ст. Увесь дзень зьбіраюць матар'ял да Купальскіх агнёў і рвуць зёлкі. Калі ўсё будзе гатова, моладзь вечарам з песьнямі і рознай зеленьню йдзе куды-небудзь пад рэчку. Тут утыкаюць у зямлю бярозкі й запаліваюць агонь і ўсе зьбіраюцца каля яго. Моладзь паадзіночцы або парамі скача цераз яго, потым тут-жа каля агню ладзяць скокі й розныя гульні. Так праходзіць уся ноч, а пад раніцу разьбягаюцца па кустох, або ў жыта. Звычай гэты йдзе эд глыбокай старадаўнасьці, бо ўжо ў так званым Нестараўкім летапісе, летапісец

[1]) Паміж інш, гл. драму Sudermann'а з гэткаго назваю, хоць у ёй дзея адбываецца ў Пруская Ліцьве.

гаворыць аб радзімічах, вяцічах і северанах, што ў іх «Браци не бываху, но игрища межю селы, схожахуся на игрища, на плясания і на вся бесовьская игрища и ту умыкаху жены собе, с нею же кто съвещашеся». Можна было-б прывесьці цікавыя паральлелі з жыцьця старадаўных фінікіян (Цір і Сідон), асьсірыйцаў і др., але гэта завяло-б нас надта далёка[1]).

*Погляды вучоных.* Што азначае слова «Купала», «Купальле?» Адны вучоныя кажуць, што пад словам «Купала» разумееца нейкае бажаство, дзеля ўшанаваньня якога абходзіцца самы абрад Купальля. Яшчэ й цяпер у некаторых мясцох дзяўчаты выбіраюць з паміж сябе самую прыгожую дзяўчыну —«Купалку», якая й раздае сваім таварышкам вянкі. У другіх мясцох робяць ляльку Купалы. Аб «Купалцы» ўспамінаецца ў некаторых песьнях, напр.:

«Ходзіць Купалка па вуліцы,
Просіць Ільлішча к сабе на ігрышча...»

Вучоныя, якія глядзяць на слова «Купала,» як на назву нейкага даўнейшага славянскага бога, выводзяць яго ад санскрытскага кораня «кир» (лац. «сир—іо), што азначае «яр—ыцца» ў сэнсе палавом, і адзін з іх (Афанасьев) гаворыць: «Допустив эти лингвистические соображения, надо будет признать, что именно Куп—ало и Яр--ило обозначали адно и то же плодотворящее божество лета». Другі вучоны (Фаминицын) ставіць Купалу, Ярылу й Ладу ў адзін рад са стара-італійскімі багамі Picus, Faunus, Liber.

Але беручы пад увагу, што слова «Купала», як назва якога-небудзь божаства не сустракаецца ў старых актах і што з цяперашніх славянскіх народаў яго ужываюць толькі беларусы ды ўкраінцы і часткаю маскоўцы, стане больш падобным да праўды пагляд Кастамарава, які выводзіў яго ад слова «купаць» і гаварыў, што «Купало» замяняе слова «хрысьціцель» і павінна стасавацца да Івана Хрысьціцеля, так што камплекс «Іван Купала» нічога паганскага ня мае.

Назва сьвята гэта адно, а самае сьвята—гэта другое і аб ім можна з пэўнасьцю сказаць, што яно йдзе ад паганскіх часаў.

*Купальле ў жыцьці прыроды.* Купальле абходзіцца ў той мамэнт, калі творчаская энэргія сонца (якую яно пасылае на зямлю) дасягае найвыжшага пункту свайго разьвіцьця й пачынае ўпадаць. Запас творчых сіл у прыродзе меншыцца, і людзі ў даўнейшыя часы думалі падтрымаць іх па свайй волі праз жаніцьбу, каханьне, або ўступленьне ў фіктыўнае радство—кумаўство.

У некаторых мясцовасьцях Баўгарскай Мацэдоніі яшчэ й дагэтуль захаваўся звычай сватацца й жаніцца толькі ў часе ад 15 ліпня да 20 жніўня.

---

[1]) Спраўкі аб усім гэтым можна зрабіць у кнізе д-ра Блоха „Історія проституціи" Пгр. 1913. Ёсьць больш папулярная кніжка аднаго францускага вучонага аб рэлігійнай прасьцітуцыі у старых народаў. Што датычыцца спэцыяльна купальскіх звычаяў, карысна прачытаць артыкул Весялоўскага „Гетеризмъ, побратимство и кумовство въ купальской обрядности" (Ж. М. Н. П.) за февраль 1896 г.

У некаторых мясцох Магілеўшчыны (Гомельшчыны) дзяўчаты кумяцца. Кумяцца й раней, падчас Сёмухі, але звычай гэты найчасьцей адбываецца каля Пятра, або й на самы дзень Пятра й Паўла. Дзьве дзяўчыны мяняюцца пярсьцёнкамі, хустачкамі або чым іншым і цэльны год называюцца кумамі. Пры гэтым п'юць гарэлку, ядуць ягады, пяюць песні:

«Ты кума мая, ты душа мая!
Мы з табой, кума, цераз тын жывём,
Цераз тын жывём, ды ня знаемся,
А цяпер, кума, распазнаемся,
Пакумаемся, памяняемся
То на хустачкі, на пярсьцёначкі»...

*Купальскія агні* служаць сымбалам летняга гарачага сонца й маюць ачышчальнае значэньне. На агні паляць усякае стар'ё, каб разам з ім згарэла й старое, нягоднае жыцьцё. У некаторых мясцох мацеры паляць на купальскім агні сарочкі з хворых дзяцей, каб разам з імі згарэла й хвароба.

У некаторых мясцох робяць з саломы й ануч вялікую ляльку, якая сымбалізуе Купалу, або ў дадатак да яе робяць яшчэ й другую, так сказаць, жонкі яго, Мары. Лялька Купалы прыаздобліваецца краскамі, зеленьню. Каля яе скачуць, пяюць, а потым як-бы спраўляюць па ёй хаўтуры: паляць яе на агні, кідаюць у воду, або закопваюць. Прыгэтым трэба, аднак, дадаць, што звычай гэты,—сымбал паміраньня сонца,—у беларусаў ня так пашыраны, як у маскоўцаў і ўкраінцаў.

*Купальскае зельле* мае вялікую моц: яно памагае і ад ведзьмаў, і ад урокаў, і ад хваробаў, ім абкурваюць скаціну, затыкаюць за стрэхі; дзяўчаты ўтыкаюць у свае косы, каб іх хлопцы кахалі[1]). Вера ў цудоўную моц купальскіх траў палягае на тым, што сонца падчас Купальля даходзіць да найвялікшае свае моцы, а раз так,—значыць, і моц кветак даходзіць да найвышэйшае ступені (думаньне па аналёгіі).

*Купальскія песьні.* У купальскіх песьнях гаворыцца, як усе заклікаюцца на сьвята:

«Каго няма на вуліцы?
Купала на Йвана!
А Лукіркі няма на вуліцы,
Бадай легла калодай дубовою!»

Аб капаньні зельля і яго прываротнай моцы гаворыць гэткая песьня:

«На Купальлё, дзевачкі, на Купальлё,
Ды дзевачкі зельлё капалі,
Ды й капалі, ня знալі...
Крулёва зельлё пазнала,
Ды яго купальлём назвала.
—Ды гэта-ж, дзевачкі, купальлё,

---

[1]) Паміж інш., гл. верш Я. Купалы „На Купальле, на сьвятое рві, матуля, зельлетое" і др.

Ды гэта-ж ваша гуляньнё,
Ды дзевачкі гуляюць, скачучы,
А малойцы цяжка ўздыхаюць, плачучы».

У некаторых купальскіх песьнях успамінаюцца ведзьмы, іх учынкі і кара за адыманьне ў кароў малака, за зьбіраньне расы. Купальская раса мае важнае значэньне, нават травы купальскія маюць моц настольку, наскольку яны сарваны, калі раса яшчэ ня зыйшла.

Дужа пашырана песьня аб тым, як брат і сястра сталі кветкамі за тое, што пакахаліся, ня ведаючы, у якім блізкім сваясьцьве яны стаяць адзін да другога[1]). Гэты сюжэт вядомы й другім народам. А. Весялоўскі выводзіць яго ад стара-грэцкай лягэнды аб каханьні Адоніса й Афродыты.

Цікава, што ў некаторых песьнях успамінаецца дачка Купалы, а ў другіх дык іх фігуруе адразу аж тры.

Шмат песень, што зусім натуральна, гаворыць аб каханьні і аб замужасьцьве.

Дужа цікавы песьні з пакепліваньнем хлопцаў над дзяўчатамі й наадварот, напр.:

«Сягодня Купала, а заўтра Йван,
Будзець, хлопцы, ліханька вам.
Шла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол,
Стала сукенка шумеці,
Зялёна дуброва гарэці.
Пайшлі хлопцы гасіці,
Рашатамі ваду насіці.
Колькі ў рэшаце вады ёсьць,
Столькі ў хлопцаў праўды ёсьць».

Песьня гэтая падобна да адной, якую мы адзначылі, гаворачы аб сьвяткаваньні Юр'евага дня. Таксама, як там, гаворачы аб сабе, дзяўчаты пяюць, што яны кубачкамі ваду носяць.

Другія прыклады падобных песьняў:

1) «Ішлі дзяўчаткі мяжою,
Ды й пілі смалу дзяжою;
Ішлі хлопчыкі граніцаю
Ды й пілі мёд шкляніцаю.
Ішлі хлопчыкі борам
Ды й гаварылі з Богам,
Ішлі дзяўчаткі лесам
Ды й гаварылі з бесам.»

2) «Сягодня Купала, а заўтра Ясь,
Пагоняць хлопцы кошак пасьць.
Кошкі на елкі скакалі,

[1]) Песьня гэтая перароблена Я. Купалою. Гл. № 9—10 „Руні".

Хлопцы на кошак брахалі:
—Лезьце, кошкі, далоўкі,
Нам трэба ісьці дамоўкі,
Будзем вас, кошкі, даіць,
Будзем дзевак карміць». [1]).

## Жніуныя песьні.

*Зажынкі.* Пры пачатку жніва, на зажынках, прыходзяць на поле з хлебам, з сольлю, або і з сырам, а то нават і з грамнічнымі сьвечкамі. Прыйшоўшы на поле, часта пяюць:

«Дабрыдзень Госпаду Богу,
Жыту ядранаму, гаспадару палявому!
—Здароў, здароў, жнеі маладыя,
Сярпы залатыя!»

Цікава адзначыць тут аднача́сны ўспамін і Госпада Бога і палявога гаспадара.

Першая жменя зжатага жыта зьвязваецца ўстужкай, прыносіцца да хаты й ставіцца пад абразамі.

Зжаўшы адну постаць, перайходзяць на другую, прычым, пяюць:

«Ніўка, ніўка,
Аддай маю сілку
На другую ніўку.
А я-ж цябе жала
І сілу пацярала»...

*Дажынкі.* Але асабліва радуюцца жнейкі канцу жніва, бо праца жняі вельмі цяжкая: сонца пячэ несьцярпіма, рот гарыць ад смагі, рукі баляць ад сярпа, а грудзі й крыж ад цэладзеннай сагнутай паставы цела. І гэтак дзень у дзень. Дзеля гэтага зразумела, што канец жніва абходзіцца вельмі ўрачыста. Шмат у якіх мясцох Беларусі пры дажынках зьвязваюць вялікі сноп—«бабу». Іншы раз на гэты сноп яшчэ адзяюць хустку й кашулю. Поле не дажынаецца да канца, а на ім пакідаецца невялічкі кавалачак, які называецца «казловаю барадою», альбо барадою таго гаспадара, у якога працавалі. «Бабу» з песьнямі адносяць да гаспадара. Часьцей аднак бывае, што да яго прыходзяць з вянкамі з жыта. Але перад гэтым «рвуць» або «завіваюць» бараду з астаўшайся няжатай жменькі жыта. У некаторых мясцох недажатая жменька жыта пакідаецца ў полі «на зьвярыную долю». Гэты звычай мае зьвязак з казкаю аб тым, як даўней каласы былі надта доўгія і мелі па шмат зярнят, але Бог, раззлаваўшыся на людзей, хацеў ашмаргнуць увесь колас, каб у людзей зусім ня было збожжа, але сабакі й другія зьвяры пачалі прасіць у Бога, каб ён пакінуў хоць трохі на іх долю. Бог і

[1]) Аб купальлі гл., паміж інш, паэмку Марцінкевіча „Купала“.

пакінуў самую вяршынку, і з тае пары жыта родзіцца з малымі каласамі. Потым людзі захапілі зьвярыную долю, і з гэтае долі зноў разьвялі хлеб.

Вянкі, зробленыя з дажыначнага жыта, адносяць да гаспадара і зараней выбраная найпрыгажэйшая дзяўчына ўскладае іх на галаву гаспадара. Той кланяецца й дорыць на пачастунак.

*Песьні*, якія пяюцца падчас жніва, бываюць дваякія: адны з іх маюць спэцыяльнае дачыненьне да жніўнае работы, а другія ня маюць, і ў іх разьвіваюцца матывы каханьня й інш.

У жніўных песьнях даволі часта сустракаюцца ўспаміны аб паншчыне, якая пакінула значны сьлед у народнай творчасьці наогул. Праца грамадою й гэткае-ж вяртаньне з поля давалі частую можнасьць пяяньня й нават укладаньня новых песень. У песьнях адзначаецца, як пан наглядае за работаю, трымае жнеяк да позната і яшчэ падганяе іх:

«Да ўжо вечар вечарэе,
Пан наш млоды весялее,
Па постаці паяжджае,
Свае жнейкі прыганяе,
—Жнеце, жнейкі, жнеце,
Самы сябе не пазьнеце,
Майго каня варанога,
Мяне,. пана маладога.»

У другіх песьнях сустракаюцца ўспаміны аб «прыганятых», з якімі жнейкі часта мелі няпрыемныя перагаворы і пры дажынках яны карыстаюцца выпадкам навымысьляць і насьмяяцца з яго, бо на радасьці пан не зважае на скаргу прыганятага, нават каб той і пажаліўся. Адна дажыначная песьня пачынаецца так:

«Ах ў нас сёньня дажон, дажон,
Прыганятаму ражон, ражон.»

У некаторых песьнях жніво параўноўваецца з вайною:

«А ў нас сёньня вайна была,
Усё поле зваевалі,
Зьмялі поле мяцёлкамі,
Ідзём дамоў вясёлкамі.»

У жніўных песьнях, як і ў купальскіх, даволі часта сустракаецца пакепліваньне, гіронія, напр.:

«Тапкоўскія жнеі,
Як чорныя зьмеі,
Жнеі ўсё худыя,
Сярпы лубяныя.
Яны ўсё ня жалі,
Пад мяжой ляжалі,
Тапкоўскае поле
Задрамала, стоя».

У некаторых жніўных песьнях выслаўляецца гаспадар, яго багацьце і інш., напр.:

«Павейце, ветры,
Рана, рана!
Па частым полі,
Нясеце весьці
Нашаму пану,
Што яго жнеі
Жыта пажалі,
Ў копы паклалі.
Ой, часты, густы
На небе зьвёзды,
Ой, часьцей, гусьцей
На полі ў копах.
Ой, шырок, высок
На небе месяц,
Ой, шырай, вышай
У гумнах скірты.»

У другіх песьнях, выслаўляючых гаспадара, гаворыцца, што да яго заходзіць сам Бог, Спарыш, Рай. Аб тым, што Бог заходзіць да добрага гаспадара, пяецца ў кал.дках і ў валачобных песьнях. Што-ж належыцца да ўспамінаў аб «Спарышу», дык Шэйн думаў, што дажыначныя песьні ў некаторых мясцох называюцца «спарышовымі»,—«вероятно оттого, что значительная часть венка состоит из спорышей, т. е. стеблей с колосом двойчаткой». Аднака, як на тое адказвае праф. Потэбня, спарышы сустракаюцца дужа рэдка, і рабіць з іх вянок немагчыма, а слова «Спарыш» паходзіць ад слова «спорыць»—рабіць так, каб што-небудзь спорылась, прыбывала і што «спарыш» зьяўляецца ўвасабленьнем багацьця і ўраджаю. Праўдзівасьць апошняга тлумачэньня відаць яшчэ з таго, што ў ніжэй зьмешчанай песьні сам народ зьвязвае слова «спарыш» са словам «спорыць»:

«Хадзіў Спарыш па вуліцы...
А ніхто Спарыша ў двор не завець.
Выйшла, выехала Хвядорыха:
Хадзі, Спарыш, ка мне на двор...
Сядзь, Спарыш, на покуце...
Пі, Спарыш, зеляно віно.
Спары, Божа, ў маім гумне,
Ў маім гумне, ў маім двары:
На таку ўмалот, а ў дзяжы падход,
А ў печы рост, а на стале сыцьцё».

Што належыцца да ўспамінаў у зажыначных песьнях аб «раі», дык адны бачаць у іх увасабленьне бога жніва, другія—пераробку імены Юрыя (Урая), а трэцьція лічаць, што ў дажыначныя песьні слова «рай» папала

# Якуб Колас як нацыянальны беларускі поэта.*)

Гісторыя кожнага народу ёсьць выяўленьне нацыянальнага характару з боку валявога; літаратура ёсьць выяўленьне гэтага характару з боку інтэлектуальнага і галоўным чынам эмоцыяльнага: у літаратуры адбіваецца складаны комплекс думак і пачуцьцяў народу, гэта люстра яго ўнутранага жыцьця, яго псыхікі.

Старая ісьціна, што псыхіка кожнага народу мае свае спэцыфічныя адзнакі, свае асаблівасьці. Паколькі ў літаратуры адбіваюцца гэтыя асаблівасьці, пастолькі літаратура набывае нацыянальны характар. Часта бывае, што краснае пісьменства доўгі час дае толькі перапевы чужога, так сказаць, коўзаецца толькі на паверхні жыцьця, перш чым закрануць яго глыбіню, ускрыць багацьце душы народу. Расейская літаратура павінна была перажыць доўгі пэрыад нэоклясыцызму, сантымэнталізму і романтызму—напрамкаў выключна навеяных заходня-эўрапэйскімі ўзорамі—перш чым яна здужала ўзайсьці на самастойны шлях і ў асобах Пушкіна і Гоголя выявіла свой нацыянальны гэні.

Інакш стаіць справа ў беларускай літаратуры. Маладое беларускае пісьменства ня ведала кабалы чужога. Былі, праўда, надворныя ўплывы, але ня поўная залежнасьць, ня страта самастойнасьці. Ня гледзячы на параўнальна кароткі час свайго існаваньня, новая беларуская літаратура здужала ўжо стаць на пэўны нацыянальны шлях, выявіць жыцьцё і душу беларуса.

Чым растлумачыць гэтае выключэньне, мала знаходзячае сабе прыкладаў у гісторыі іншых літаратур? Змусга пайсьці па шляху чужога была вялікая і для песьняроў Беларусі. Самыя буйныя нашы таленты выступалі на літаратурную ніву тады, калі літаратуры суседніх народаў затаплялі хвалі дэкадэнства, але беларускае пісьменства—ведаем мы—і ў той час супакойна йшло па свайму шляху здаровага рэалізму; яно ня ведала порнаграфіі, ня ведала палавой праблемы ў стылю Арцыбашава і А. Каменскага.

Што-ж ратавала беларускую музу, што-ж дапамагала ёй да канца пранесьці свае сьветлыя шаты чыстымі і не заплямленымі? Нам думаецца, ратавала яе блізкасьць да народнае глебы, кроўнае радство з гэтай глебай-

* Даклад, чытаны 30 красавіка г. г. на ўрачыстым пасяджэньні Фонэ Б. Д. У. пасьвячоным Я. Коласу.

Гістарычны лёс беларускага пляменьня склаўся так, што гэтае племя ня ведае моцнай дыфэрэнцыяцыі. Вышэйшыя клясы даўно зрадзілі яму і пашлі па іншых шляхох чужой культуры. Доўгі час беларускі народ зусім ня меў сваёй інтэлігэнцыі. Паняцьце «нацыя» тут зусім саўпала з паняцьцем «просты люд». Толькі ўжо ў апошнія дзесяцілецьці, амаль што на нашых вачох, пад сьветлым сьцягам адраджэньня многапакутнае бацькаўшчыны пачала пакрыху нараджацца і маладая беларуская інтэлігэнцыя: плоць ад плоці народу і кроў ад крыві яго.

Праваdары гэтае інтэлігэнцыі—песьняры Беларусі—гэтак сама ў большай частцы сваёй зьяўляюцца сынамі простага народу. Будучы цесна зьвязаны з роднай глебай, яны не маглі ўпасьці ў поўную залежнасьць ад чужого: ў іх былі свае тэмы і свае настроі, якія давалі ім шчырае поэтычнае натхненьне, зьяўляліся глыбокаю і чыстаю крыніцаю творчасьці. Адбуджэньне роднага краю ад вякавога сну, родная прырода, жыцьцё беларуса і яго псыхіка—вось гэтыя тэмы і настроі, якія чырвонаю ніткаю праходзяць праз усё беларускае пісьменства, гэтыя матывы вы знойдзеце ў творчасьці амаль што кожнага беларускага мастака.

Але з гэтых матываў ня кожны аднача сна становіць сабою пераважны элемэнт у творчасьці беларускага поэты: звычайна адзін з іх уяўляе сабой галоўны матыў творчасьці, дае ёй, так сказаць, аснаўны тон, а іншыя зьяўляюцца матывамі другараднымі, так сказаць, обэртонамі. Матыў адбуджэньня беларускага народу найбольш поўна ёсьць выяўлены ў творчасьці Я. Купалы: ён прарок беларускага адраджэньня, ён яго ідэёвы праваdыр. Жыцьцё беларускай вёскі з яе матэрыяльнай нуждой, малазямельлем і духоўнай цемрай найбольш поўна і красачна, здаецца нам, адбіта ў творчасьці Зьмітрака Бядулі. Нарэшце ў Я. Коласа мы знаходзім найбольш поўнае мастацкае выяўленьне псыхікі беларуса, складу яго вума і сэрца.

Усім вядомы кароткія агульныя азначэньні псыхікі некаторых Эўрапэйскіх народаў. Досыць замацавалася думка, што глыбіня і цяжкаватасьць мысьлі—гэта істотныя рысы немцаў, вастрата вума і экспансыўнасьць—тыповыя рысы французаў, містыцызм і месыянізм—характэрныя адзнакі славянскай псыхікі наогул. Калі супраўды ў такіх ляпідарных выразах магчыма азначыць сутнасьць псыхікі таго ці іншага народу, дык, па нашай думцы, дзьве адзнакі зьяўляюцца характэрнымі і тыповымі рысамі псыхікі беларускай: гэта лірызм і філёзофская рэфлексыя, задумленасьць.

Не выпадковае зьявішча прадстаўляе сабой той факт, што беларускі народ стварыў вусную поэзію, якая сваім багацьцем і харастве м зьдзіўляе самых бесстаронных крытыкаў і бадачоў. Вось што, напрыклад, гаворыць малады кіеўскі вучоны Саўчанка: перечитав все русские сказки, мы можем смело утверждать, что по живописи и красоте разсказа белорусские сказки не имеют себе равных. [1]) Акад. Карскі сьведчыць, што хоць казкі займаюць адно з віднейшых мейсц сярод твораў усіх галін рускага народу, але асаб-

[1]) Русская народная сказка. Кіев, 1914, стр. 245—246.

ліва багаты імі беларусы [1]). Гэтак сама сваёй пекнасьцю і багацьцем вызначаюцца і беларускія песьні. Гэты факт істнаваньня ў беларусоў багатай вуснай поэзіі сьведчыць аб тым, што беларускі народ мае ўнутраную патрэбу ў гуках выяўляць сваю душу: глыбока лірычны па сутнасьці сваей псыхікі беларускі народ у сваіх песьнях вылівае свае настроі і пачуцьці, у казках і легэндах ён выказывае свае думы аб жыцьці.

Гэтую ўласьціваcьць мае і творчасьць Я. Коласа: ён пераважна поэта-лірык. Глыбокім захапляючым лірызмам агорнуты ня толькі яго «Песьні жальбы», а нават і эпічныя творы. Яго поэма «Сымон Музыка» уся саткана з нітак найтанчэйшага лірызму, лірычныя адступленьні трапляюцца на кожным кроку і ў «Родных зьявах» Тараса Гушчы (другі псэўдонім Канстантына Міцкевіча).

Падабенства паміж народнай творчасьцю і творчасьцю Я. Коласа заўважываецца ня толькі ў гэтай агульнай ласьціваcьці лірызму, але і ў прыватнасьцях: у самых крыніцах лірызму.

Першай гэткай крыніцай для беларускага народу зьяўляецца прырода. Беларус пры ўсёй сваёй цемры і духоўнай неразьвітасьці ёсьць даступны эстэтычным эмоцыям; ён ёсьць здольны адчуваць хараство і пекнасьць Божага сьвету. Уся сымболіка народнай поэзіі пабудована з вобразаў, узятых з сьвета прыроды. Явар і бяроза, або каліна, голуб і галубка, салавей і зязюля—гэткія і ім падобныя сымбалі рысуюць у вясельных песьнях адносіны паміж маладым і маладой. Народ падслухаў, як у саду шуміць усю ночку ліпушка, зялёная, як жаласна кукуе ў гаю шэрая зязюля, і гэтыя малюнкі ён бярэ, як сымбалі цяжкога задумленьня і гора. Перадаючы ў форме фантастычнай казкі свае ўражаньні ад зацьменьня сонца, народ з захапленьнем апісвае момант, калі спынілася гэта зьявішча прыроды: «и давъ Богъ на дворѣ вясёлосць, видносць на свѣци и цёплосць: што мѣсичакъ у начьчу свѣциць, у дзень совнушко грѣець» [2]).

Апроч прыроды, вялікі ўплыў на народную душу робіць мастацтва. У канцы «Музыка і чэрці» ў высока таленавітай форме перададзена ўся складаная гама пачуцьцяў і настрояў, вынікаючых пад уражаньнем музыкі: «От им здаецца, што якаясь слодыч улилася им у сэрцэ, а якаясь сила ухвацила на плечы й несе ўсе угору, и угору, к ясным зоркам, ў чыстае небо, ў чыстае сіняе шырокае небо» [3]).

Так тонка беларускі народ рысуе сваё эстэтычнае пачуцьцё.

Гэта пачуцьцё становіць адзін з галоўных элемэнтаў і творчасьці Я. Коласа. Ён любіць прывольле —

Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Ржаных каласоў. [4])

[1]) Карскій. Бѣлоруссы. Т. III. выпуск I. Москва 1916 г. стр. 418.
[2]) Романов. Белорусскій сборник т. III. стр. 127.
[3]) Сержпутовскій. Сказки и разсказы белоруссов—полешуков СПБ. 1911 г.
[4]) Песьні жальбы. Вільня, 1910 г. стр. 14.

Любіць ён падслуховываць як:

Калышыцца жыта,
Радамі бяжыць,
Плыве без прастанку
І ціха шуміць. [1])

У асобе Коласа природа Беларусі знайшла свайго тонкага і бесстароннага мастака: поэта рысуець ня толькі пекныя, вабячыя вока пэйзажы— ў яго знаходзім мы і іншыя малюнкі, ад якіх сэрца сьціскаецца ад болю жалю.

Гразь, балота ды пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок...
Крыж хваёвы пры дарозе,
Кучка топаляў сухіх...
Сьцішна, нудна, як ў вастрозе,
Як на могілках якіх. [2])

Сам маючы тонкае пачуцьцё прыроды, Я. Колас і сваіх гэрояў надзяляе гэтым пачуцьцём. Яго Сымон Музыка ў гэтых адносінах тыповы беларус: ён мае душу надта чулую да харaства наогул і асабліва да харaства прыроды; на ўлоньні прыроды ён шукае сабе супакою, адпачынку:

Пойдзе з хаты ў поле, у луг,—
Цёпла ўсюды і прывольна,—
Грае сэрца, грае дух.
Сядзе ён на камень ў збожжы,
Ні схісьнецца і маўчыць,
Ловіць сэрцам сьпеў прыгожы,
Як жытцо загамаціць,
Як зазвонюць і заграюць
Мушкі, конікі, жучкі,
І галоўкай заківаюць,
Засьмяюцца васількі. [3])

Кастусь з поэмы «Новая зямля» гэтак сама зьяўляецца другам прыроды: ён любіць рэчку ўзімку; там:

Расьце, гарыць душа дзяціна
І ўсе на сьвеце забывае,
І шчасьце, радасьць спажывае. [4])

Юрка з апавяданьня «Злучыліся» адзінокай хвойцы павярае свае думкі і гора сіраты. [5])

У псыхічным складзе беларуса рэзка вызначаецца адна рыса: надзвычайная пяшчотнасьць душы. Каб праканацца ў гэтым, досыць зьвярнуць увагу

---

[1]) Песьні жальбы. Вільня, 1910 г. стр. 15.
[2]) Я. Колас. Песьні жалобы, Вільня 1910 г. стр. 34.
[3]) „Сымон музыка“ Менск, 1918 г. стр. 6.
[4]) „Вольны сьцяг“ 1921 г. № 2 (4), стр. 5.
[5]) Тарас Гушча, Родныя зьявы. Вільня 1914 г. стр. 213—216.

на тыя эпітэты, якія народ ужывае ў сваіх прычытаньнях: галубчык сізенькі, саколік ясьненькі, лябедачка беленькая, галубчык пралесачка, птушачка няпрыютная і гэтак далей [1], усё ў гэтым родзе, народ выяўляе сваё пяшчотнае, тонкае сэрца.

Гэтак сама ў пяшчотных вобразах народ рысуе каханьне, яго радасьці і мукі.

Травушка-муравушка, трава зелена.
Я по табе травушка не нахажуся,
Каго верна люблю, не нагляжуся. [2])

Умее народ тонка апісаць і ўсю трагэдыю разлукі:

По садочку похажала
По зялёнумъ дзервиночку.
Ой, ходзила; похожала,
Нима того, кого кохала...
Ой, ты вóрле сизо-крылы!
Скажы ты правду, гдѣ мой милы?
Дала-б таби серца ѝваго,
Каб ты занес до милого...
Повѣнь вѣтру зъ того краю,
Дзе мой милы, што кохаю:
Нихай-жа я буду знаци,
Зкуль яго приждаци. [3])

З асаблівай пяшчотнасьцю, з глыбокім спагаданьнем чужому гору рысуе народ долю сіраты:

Ой, ходзила малая сиротка
По широкому полю,
Ой шукала малая сиротка
Своиго родного татку.
Ни нашла ни своиго родного татки,
Ни своей родной мамки,
Только нашла ключевую водзицу
Ў глыбоким колодзисѣ.
Одгукнися, моя родная мамка,
На чужой сторонцѣ.
Ни сплеснулася криница водзица
Ў глыбокомъ колодзисе,
Ни одгукнулась моя родная мамка
На чужой сторонцѣ. [4])

Пяшчотныя, мяккія тоны пераважаюць і ў поэзіі Я. Коласа. Сэрца поэты як-бы вабрала, ўпітала ў сябе ўсю тую пяшчотнасьць і мяккасьць,

[1]) Карский. Белоруссы: т. III, вып. I. Масква 1916 г. стр. 311 і 312.
[2]) Шэйн, т. I стр. 291.
[3]) ifidem стр. 297 і 298.
[4]) ibidem стр. 424.

якая захована ў душы беларуса, якая разьліта ў вабячых вока хварбах і тонах беларускай прыроды. Поэта, напр., рысуе вясну, і ў яго:

Глядзіць прыветна з неба сонца,
Як-бы матулька на дзяцей. [1])

Кожны самы дробны прадмет прыроды ўзварушывае ў сэрцы поэты настроі, поўныя ласкі і пяшчотнасьці. Для краскі, адзінока растучай у глушы, усімі забытай, у поэта находзіцца ласкавае, шчырае слова прывітаньня:

Краска мілая мая,
Госьця веснавая!
Як ты хараша цьвіцеш
Тут, ў глушы, любая...
Краска, красачка мая,
Мілае стварэньне!
Што-ж на тварыку тваім
Легла задумленьне?... [2])

Адзінока растучы на ніве жытні колас ускалыхівае ў душы поэты цэлы рой думак і пачуцьцяў: гэты колас для яго сымболь сіроцтва, трагэдыі пяшчотнага сэрца, якое мае патрэбу ў супольнасьці і не сустракае гэтай супольнасьці:

Ные сіроцінка,
Плача каласок,
Плача, што няма з кім
Думку разьдзяліць,
Нудную галоўку
Ціха прыхіліць
Да другой галоўкі,
Да другіх грудзей,
Без канца шаптацца
Ў цішыне начэй. [3])

Падобна народнай поэзіі, муза Я. Коласа з асаблівай пяшчотнасьцю і спагаданьнем ня раз у іншых мейсцах вяртаецца да гэтай тэмы: поэта любіць рысаваць сіроцтва душы, не знаходзячай сабе ласкі і прывітаньня сярод людзей. Успомнім Сымона Музыку, Кастуся з «Новай зямлі», Юрку з апавяданьня «Злучыліся». У прыродзе ўвагу поэты гэтак сама асабліва спыняюць на сабе прадметы адзінокія: адзінокая хвоя [4]), закіданае дрэва [5]), адзінока растучая вярба [6]), апошні лісток [7]). Усё гэта для поэты сымбалі духоўнага адзіноцтва, сіроцтва. Але ня толькі мукі закінутасьці і не падзеленых думак і пачуцьцяў рысуе беларускі пясьняр. Яго сэрца шырока раскрываецца і для радасьці супольных шчасьлівых перажываньняў. Але муза Коласа і тут застаецца пэўнай сама сабе: поэта рысуе нам каханьне Сымо-

[1]) Песьні жальбы. Вільня 1910, стр. 13.
[2]) Я. Колас. Водгульле. Менск. 1922, стр. 43 і 44.
[3]) Песьні жальбы. Вільня 1910, стр. 42.
[4]) Родныя зьявы. Вільня 1914, стр. 213 і 214.
[5]) ibidem, стр. 233.
[6]) Водгульле. Менск 1922, стр. 48.
[7]) ibidem, 46.

на і Ганулі, і гэты рысунак яго ўвесь вытрыманы ў пяшчотных, мяккіх танох. Каханьне ў Коласа мае ідэалістычную аснову: Ганулю, дачка багатага гаспадара, пакахала жабрака-музыку, захапіўшыся яго ігрою на скрыпцы, прыняўшы блізка да сэрца яго долю небаракі. Не дарэмна сам аўтар называў свой твор казкай жыцьця. Як у супраўднай казцы, тут усё апавяданьне агорнута пекнай тымкай романтызму, далёка ад супраўднага жыцьця. Як сярэдне-вяковы трубадур, заводзіць Сымон сваю сэрэнаду на скрыпцы, гукі скрыпкі вабяць Ганулю, ўначы адбываецца першае спатканьне. Поэта сароміліва і пяшчотна апісвае гэта спатканьне, гэта першае дрыжаньне маладых сэрцаў, першы пацалунак каханьня:

Скончыў хлопчык казку гора
І галоўку пахінуў...
Зноў Сымонку, як ўчора,
Жаль вялікі агарнуў.
Ганна слоўца ні ўраніла,
Ўся замёрла, як і ён,
Бы жуда іх ахапіла,
Надышла з ўсіх старон.
І зьнячэўку Ганна ўстала,
Ўсім надхнулася нутром,
У твар яго пацалавала
Крэпка-крэпка! І прапала
Дзесь ў саду за вішняком. [1])

Але за гэтым кароткім мігам шчасьця пацягнулася цяжкая штодзеннасьць разлукі, якую гэтак сама поэта ўмее рысаваць у мяккіх акварэльных танох:

З таго часу, як музыка
Тут убогі пабываў,
Зьмена з Ганнаю вяліка:
Бы яе прычараваў.
То разыдзецца, сьмяецца,
Бяспрычынна, весяла,
Песьня так яе і льецца,
І прыветна, і міла.
То маўчыць, людзей дзічыцца
І туляецца адна—
Трудна гутаркі дабіцца,
Маўчаліва і дзіўна...
З дзяцюкамі яна лёд,
І часамі ёй ня люба
Ні гульня, ні карагод.[2])

[1]) Сымон Музыка. Менск 1918, стр. 104 і 105.
[2]) Сымон Музыка „Вольны Сьцяг", 1921 г, № 3 (5), стр. 9.

У складанай гаме настрояў і пачуцьцяў беларускага народу мала мажорных тонаў: пераважаюць мінорныя, сумныя, у якіх чуецца бясконца жаласная журба і смутак, адвечная скарга народу на свой незадачлівы лёс. Досыць прыпомніць нам сумныя беларускія песьні аб долі кабеты: гэта ня песьні, а сплашны плач набалеўшага сэрца.

Муза Я. Коласа гэтак сама большаю часткаю зьяўляецца перад намі ў жалобнай вопратцы смутку і гора. У яго лірыцы мала вясёлых матываў; характар музы сваёй сам поэта добра адзначае у ўступным вершы зборніка «Песьні жальбы».

Ня пытайце, не прасіце
Сьветлых песень у мяне,
Бо як песьню засьпяваю,
Жаль ўсю душу скалыхне.
Нешчасьліва наша доля
Нам нічога не дала.
Ня шукайце кветак ў полі,
Як вясна к нам ня прыйшла.[1])

Смутак і гора беларускага народу ніколі не даходзе да адчаю; ад гэтага адчаю ратуе яго прыродны гумар. Народ часта сваё уласнае горкае жыцьцё і жыцьцё іншых любіць прадстаўляць у гумарыстычным асьвятленьні, і гэты гумар уносіць рознастайнасьць у настрой, скрашывае сумныя тоны. У беларускай вуснай творчасьці ёсць цэлы шэраг гумарыстычных і жартлівых песьняў. Досыць вядомы, напр., песьні «Чаму-ж мне ня пець, чаму ня гудзець»..., «Чачотка», «Было ў бацькі да восем сыночкаў» і інш.

Гэты народны гумар адбіваецца і ў творчасьці Я. Коласа. У яго, як і ў народу, гумар ніколі не пераходзіць у злую сатыру або ў сарказм: гэта дабрадушныя кпіны над тым ці іншым зьявішчам жыцьця. У апавяданьні «Недаступны» ў гумарыстычным асьвятленьні прадстаўлена адвечнае народнае зло—п'янства: тут рысуецца падвіпіўшы селянін, які ў жаркі дзень хаваецца ад сваёй жонкі ў студні; на гэтым грунце тут разыгрываецца цэлы шэраг забаўных сцэн. [2]) У апавяданьні «Стараста» у гумарыстычным асьвятленьні прадстаўлена асоба гэтага вясковага адміністратара, поўнага пыхі і самамненьня.

У творчасьці Я. Коласа знайшла сабе адбітак ня толькі эмацыяльная старына псыхалёгіі беларускага народу, але і старына інтэлектуальная.

Беларускі народ, пры агульным сазярцальным складзе сваёй натуры, вызначаецца, як было ўжо заўважана вышэй, філёзофскай рэфлексыяй, глыбокай пытлівасьцю свайго вума. Вялізную частку беларускіх казак складаюць казкі космогонічныя і біолёгічныя, якія і зьяўляюцца спробай задаволіць гэтую пытлівасьць, даць адказ на пытаньні аб пахаджэньні сьвету і розных жывых істотаў. Апроч таго, больш характэрнымі для акрасьленьня народнага сьветагляду зьяўляюцца легэнды філёзофскага зьместу. Напр., у

[1]) Стр. 3.
[2]) Родныя зьявы. Вільня, 1914 г. стр. 126—136.

легэндзе „Мудры Салямон» закранута філёзофскае пытаньне а дамэтнасьці істнуючага. У сваім цэлым гэта легэнда ўяўляе сабой поэтычную тэодыцэю; тут выказываецца і ілюструецца глыбокая думка аб тым, «што усе на свѣце патрэбно, бо свѣт не можэ стаяць, калі-б не было й таго, што нам здаецца лихим. Праўду кажуць, што без лиха нема и дабра“. [1]) У апавяданьні «Крупи, не крупи, а трэ' ўмерци» народны розум спыняецца на думцы а няўбежнасьці сьмерці, на што ўказывае і самая назва яго. [2]) У легэндзе «З чаго ліхо на сьвеце» робіцца філёзофскі аналіз сацыяльных адносінаў. Сьвет у яго сучасным стане—гэта царства шатана, які выклікаў падзел людзей на рожныя клясы. «Убачыў ён, што Бог атступиуса ат людзей и пакину' землю, давай гэта падбиваць дужэйшых, каб ены брали ўладзу над слабѣйшыми. Давай гэта дужэйшые атбирацъ ат слабейшых, што тые зробляць, давай іх прымушаць рабиць на себе, давай ими ўладаць, бы сваім дабром». [3]) Як вынік гэтага падзелу зьявілася барацьба, на якую ўходзяць усе сілы людзей. «И затрацили людзи ўсе свае силы тольки на тое, каб адалѣць сваих ворагоў—таких самых людзей, як и ены. Так спрадвѣку билиса людзи, нищылі адны другіх. От атчаго лихо на свѣце». [4]) Гэта змаганьне—нармальнае зьявішча. Сіла ў салідарнасьці. «Толькі тагды чалавек моцны, як ён не адзин, а жыве з другими людзьмі ўзгодзе да ў ладу. И чаго тольки не зробляць людзи, кали возьмутца за дзѣло грамадаю, бы адзин чалавек». [5]) І гэта выдатная легэнда, сваімі ідэямі ў некаторых адносінах напамінаючая ідэі Аўгустына, выказаныя ім у творы «De ciwitate Dei.» канчаецца сьветлым аккордам: выразам веры ў тое, што царства шатана, грунтуючаеся на эксплёатацыі адных людзей другімі і на крывавым змаганьні, уступіць свае мейсца царству, где будзе панаваць салідарнасьць. «Жывуць людзи, бы вада цячэ ў рацэ. А розум хоць цихо, памалечку, да ўсе расце, расце й падымаецца на ноги. От як вырасце той, ясны бы сонейко розум да пачне свэціць людзям ў вочы, та тагды ўсе пазнаюць, с чаго лихо на свеце, пазнаюць праўду, паднимуцца ў згодзе, бы адзин чалавек прагоняць паганую нечысьць и зажывуць на земли, бы ў раю». [6])

З асаблівай напружанасьцю народны вум пакірованы на разьвязываньне маральных пытаньняў. Этычны крытэрый народ прыкладывае к разьвязываньню самых хваравітых для яго сацыяльна-эканамічных пытаньняў. Праф. Сумцоў па гэтаму поваду заўважывае: «Белоруссия в нравственном отношении выдвигает не обилие мифических сказок на шаблонные мотивы о борьбе со змеями и т. п., а обилие мягких и гуманных легенд, в которых социально-экономические вопросы р азрешаются в духе христианской любви и кротости». [7])

---

[1]) Сержпутовский. Сказки и разсказы белоруссов полешуков. СПБ. 1911 г. стр. 80.
[2]) ibidem, стр. 34—37.
[3]) ibidem, стр. 124
[4]) ibidem, стр. 126.
[5]) ibidem.
[6]) ibidem.
[7]) Карский. Белоруссы т. I;I вып. I. стр. 175.

Якубу Коласу неўласьціва гэта хрысьцыянская кротасьць пры разьвязаньні сацыяльна-эканамічных пытаньняў: ён сын свайго веку, у яго поэзіі ёсьць заклік да барацьбы, да змаганьня, ёсьць рэвалюцыйны пафос. Але згодна з народнай псыхолёгіей у яго творчасьці мы сустракаем гэрояў, надзеленых глыбокай пытлівасьцю розуму, гэрояў з філёзофскай рэфлексыяй.

Такім гэроем зьяўляецца Сымон Музыка: усё цікавіць гэтага вясковага хлопчыка; дзеда пастуха ён літаральна засыпае рознымі пытаньнямі:

Сядуць, часам, ў дзень пад грушу
І гаворку распачнуць,
Распытаць пра сёе, тое,
Што займала яго вум,—
Бо Сымон ні меў спакою
Ад сваіх трывожных дум.[1])

На грунце сваёй пытлівасьці Сымон ствараe філёзофію панпсыхізму. у яго вусны аўтар укладае пракананьне:

Усё жыве, ўсё душу мае,
Нават камень і пясок
Мае думкі і настрої.[2])

Гэрой аповесьці «У Палескай Глушы» гэтак-сама ахоплены філёзофскім задумленьнем. Яго асабліва мучаць мысьлі аб сьмерці... Я памру. Маладым, пажылым ці старым, але факт той, што я памру, бо я, як і ўсё, што мае ў сабе пачаткі жыцьця, падлягаю сьмерці, бо ўсё на сьвеце, толькі што зарадзіўшыся для жыцьця, ужо мае у сабе адзнакі і пячаць сьмерці».[3]) У творах Я. Коласа часта трапляюцца развагі ад асобы самога аўтара. Напр., у творы «Думкі ў дарозе» ў гэтых развагах зачэпліваюцца розныя філёзофскія і соцыяльныя пытаньні: «Далёкае неба, сіняе неба! Чаму не дасі адказу на нашу пакуту, на нашы надзеі, на нашы блуканьне? Чаму не асушыш нашы горкія сьлёзы? Не супакоіш хворую душу і сэрца? Чаму не папаліш агнём справядлівым таго ліхога зьвера, што сее заразу, топча праўду і носіць няшчасьце на нашай зямлі? О, мой родны край! Поруч з галітвою ходзіць роскаш і багацьце, разам з людзкімі сьлёзамі мяшаюцца панскія вальцы, льюцца вясёлыя галасы песень, грыміць музыка з панскага саду, разам з мужыцкім потам цякуць дарагія віна».[4])

Народны вум, як мы бачылі, з асаблівою напружаннасьцю спыняецца ў легэндах на разьвязаньні маральных пытаньняў. Тым выводзяцца людзі з чулым і чыстым сумленьнем, з воляй, накірованай на дабро. Гэткі ёсьць

[1]) Сымон Музыка. Менск 1918 г. стр. 9.

[2]) Гл. па гэтаму пытаньню наш артыкул „Прырода ў творчасьці Я. Коласа" Вольны Сьцяг. 1921 г. № 6 (8).

[3]) Вольны Сьцяг, 1921 г. № 6 (8).

[4]) Тарас Гушча. Родныя зьявы. Вільня 1914 г. стр. 4 і 6.

бядняк у легэндзе «Жестокі пан»[1]), Хрыстоў брат у легэндзе пад той-жа назвай[2]), Петра Хлебапек[3]) і г. д.

Згодна з народнай псыхалёгіяй, падобныя маральна здаровыя тыпы выводзяцца і ў творчасьці Коласа. Напр., у апавяданьні «Малады дубок» мы бачым селяніна, які ўпаў у змусту: сьсек у чыжым лесе малады дубок, але гэтае злачынства прычыняе яму вялікія мукі сумленьня, урэшце ён ня вытрымлівае гэтых мук і сам дабрахвотна прызнаецца ў сваім злачынстве[4]).

Такім чынам у творчасьці Я. Коласа знайшлі сабе адбітак галоўныя рысы беларускага народу: яго чуласьць да хараства, пяшчотнасьць душы, смутны настрой, які скрашываецца гумарам; і нарэшце філёзофская пытлівасьць вума і здаровае сумленьне. Якуб Колас такім чынам супраўдны нацыянальны беларускі поэта: яго творчасьць—гэта люстра народнай душы, і мы пэўны, што к гэтаму яго нерукатворнаму помніку ніколі не зарасьце народная трапа.

**М. Піотуховіч.**

Менск
19 $\frac{12}{VI}$ 22 г.

---

1) Романов. Белорусский сборник IV, 30.
2) Ibidem IV, 32.
3) Ibidem IV, 40.
4) Родныя зьявы. Вільня 1914 г. стр. 55-90.

С. Некрашэвіч.

# Правапіс спрэчных дзеяслоўных форм.

За апошнія гады беларуская літаратурная мова зрабіла валікі крокі наперад. За гэты час напісаны такія высока-мастацкія творы, якія зьяўляюцца ня толькі каштоўным укладам у скарбніцу беларускай літаратуры, а ўжо могуць прэтэндаваць на сусьветнае значэньне. Усяго праз некалькі дзесяткаў год беларуская літаратурная мова стала фактам, нечымсь суцэльным і канчатковым, што патрабуе для сябе самага ўважлівага дасьледаваньня.

Само сабой разумееца, што беларуская літаратурная мова ў сваім паступовым разьвіцьці падлягае агульным законам, уласьцівым утварэньню літаратурнай мовы кожнага народу. У аснову яе паложаны менска-віленскі дыалекты, і ў далейшым сваім разьвіцьці яна ўбірае ў сябе з другіх беларускіх дыялектаў усе тыя элемэнты, якія характэрны для беларускай мовы. Праз гэта, нівэліруючы, так сказаць, беларускія дыалекты, яна значна ўзбагачвае і пашырае свой лексычны матар'ял і сынтактычныя звароты і робіцца агульна зразумелай мовай для ўсяго беларускага народу. Бо хоць па словам лінгвіста Б. Тарашкевіча на ўсім абшары Беларусі і пануе адна беларуская мова, аднак гэтая мова, як і мова кожнага народу, дзеліцца на асобныя падмовы, гутаркі, дыялекты, якія маюць многа мясцовых асаблівасьцей, часам ня зусім зразумелых для гаворачых на другім дыялекце. І толькі адна літаратурная мова злучае іх у адно цэлае і агульна зразумелае.

З гэтага боку нашым заданьнем павінна зьяўляцца навуковае апрацаваньне і дасьледаваньне законаў літаратурнай мовы: яе гісторыі, граматыкі, правапісу і т. п. Прац у гэтым кірунку мы маем мала. Лепшымі з іх—гэта працы па гісторыі беларускай мовы і яе дыялектолёгіі Е. Карскага і «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча, якая заснавала цэлую эру ў гісторыі нашай граматыкі і правапісу. Аднак і праца Б. Тарашкевіча кладзе яшчэ толькі першую падвaліну да сталага навуковага дасьледаваньня літаратурнай мовы. У працы Тарашкевіча мы бачым толькі схэматычны (праўда, вельмі ўдалы) нарыс асноўных законаў нашай мовы. Але тут яшчэ з навуковага боку шмат чаго не асьветлена, асабліва ў правапісе, што блытае нашых нават выдатнейшых пісьменьнікаў і зьяўляецца вялікай перашкодай пры ўтварэньні адзінага, строга вытрыманага правапісу. Но гэтай

блытаніне ў значнай ступені сказваецца і двох-моўнасьць, пад якой разумеецца ўладаньне асобай дзьвяма ці некалькімі мовамі. Пры двох-моўнасьці індывід мімавольна заносіць у сваю мову словы, формы слоў і звароты з чужой мовы. Калі да гэтага дадаць, што ўсе нашы пісьменьнікі, публіцысты, літаратары прайшлі праз расейскую ці польскую школу і атрымалі, такім чынам, выхаваньне не самабытнае, а ў расейскай ці польскай культуры, то адсюль зусім зразумела, з што такая запазычаннасьць будзе асабліва вялікаю. Задачай нашых мовазнаўцаў павінна быць ачышчэньне мовы ад усяго чужога, ёй не ўласьцівага, як у галіне лексыколёгіі і сынтаксу, так і ў галіне морфолёгіі. У першую чаргу бязумоўна трэба ўстанавіць адзіны, строга вытрыманы правапіс. У гэтым кірунку, апрача «Граматыкі» Б. Тарашкевіча, вельмі каштоўнаю зьяўляецца «Практычная граматыка» Я. Лёсіка. Аднак абодва паважаныя аўтары некаторых спрэчных пытаньняў ці яшчэ зусім не зачапілі, ці асьвятляюць іх так, што з імі згадзіцца нельга.

У сваім кароткім артыкуле мы разгледзім важнейшыя памылкі, якія здараюцца ў правапісе дзеяслоўных форм.

*Канчаткі неазначальнае формы.* Неазначальная форма мае два канчаткі: *ць* і *ці*. Першы канчатак пішацца тады, калі аснова дзеяслова канчаецца на галосны гук: пача-*ць*, цярпе-*ць*, сея-*ць*, касі-*ць*, кало-*ць*, дзьмухну-*ць*, а другі канчатак,—калі аснова канчаецца на сугалосны: нясь-*ці*, вясь-*ці*, плясь-*ці*. У другім выпадку, калі апошні гук асновы гартанны, то канчатак *ці* замяняецца на *чы*: бераг-*чы*, маг-*чы*, пя-*чы*, (зам. пяк-чы), таў-*чы*, (зам. таўк-ці). З гэтае прычыны напісаньні, як хадзі-*ці*, слуха-*ці*, а таксама несь-*ць*, клесь-*ць*, памылковыя. Калі пра першую форму яшчэ можна сказаць, што яна мае некаторую аснову, бо захавалася, як старaславянская форма, у некаторых прыказках і загадках і дзе-якіх дыялектах, то другая форма ня мае ўжо пад сабой ніякае падставы.

*Дзеяслоў* **ити**. Дзеяслоў **ити** (санскр. aiti, літоўск. eiti) у беларускай мове мае дзьве формы—старaславянскую *іці* і новую, уласьцівую беларускай мове, *ісьці*, якая ўтварылася ад асновы цяперашн. часу *ід* праз пераход *д у с*, па аналёгіі з словамі *вясьці*, *плясьці*. Пры ўтварэньні формы *ісьці* бязумоўнае значэньне мела і большая лёгкасьць вымаўленьня гэтага слова, чымся *іці*. Вось чаму форма *ісьці* запанавала ў большасьці нашых дыялектаў і выцясьняе сабой форму *іці*. Такім чынам і ў літаратурнай мове перавагу павінна мець форма *ісьці* (адсюль знайсьці пайсьці, зайсьці, прыйсьці, увайсьці, выйсьці).

*Канчаткі дзеясловаў цяп. часу адз. ліку 3 ас.* Беларускі дзеяслоў у 3 ас. адз. ліку цяперашн. часу з боку гістарычнага разьвіцьця гэтых форм зьяўляецца вельмі цікавым. Ён і ў сучасны момант адбівае на сабе ўсё паступовае разьвіцьцё гэтых форм у нашай мове. Перш за ўсё ў беларускіх дыялектах захаваліся дзеясловы 3 ас. адз. ліку цяп. часу з індаэўропэйскім канчаткам ti, які ў сучасны момант вымаўляецца, як *ці*. Напрыклад, у

Е. Карскага [1]) знаходзім: *«стаіці чалавек, ноччу сьвеціці, а ў дзень не»*. Як далейшую стадыю разьвіцьця гэтай формы, мы бачым скарачэньне (яшчэ ў славянскую эпоху) **ті** ў **ть**, якое на беларускай глебе вымаўлялася і прадаўжае вымаўляцца, як *ць*: «пісар земскі **маеть** (ць) рускімі літэры **пісаті** (ці). [2]) У далейшым мы бачым адкіданьне **ть** (ць) у дзеясловаў I спражэньня па аналёгіі з формамі аорыста,—бярэ, вязе, чытае, б'е—і па далейшай аналёгіі пераход гэтага працэсу адкіданьня на дзеясловы 2 спражэньня: гавора, ліча, косе. Такім чынам, у беларускіх дыялектах мы спатыкаем дзеясловы ў 3 ас. адз. ліку цяп. часу, калі ня лічыць вельмі рэдкага канчатку на *ці*, з 4 канчаткамі: *ець* (*аць*) і *е* (*а*) для 1 спр. і *іць* (*ыць*) і *е* (*а*) для 2 спр. Дзеля таго, каб даць адказ, якія з гэтых канчаткаў належыць увесьці ў літаратурную мову, трэба перш за ўсё рахавацца з тым, якія з гэтых форм больш пашыраны сярод беларускіх дыялектаў, а падругое—якія з гэтых форм больш адпавядаюць духу беларускай мовы, якія для яе зьяўляюцца больш уласьцівымі. Такімі формамі бязумоўна будуць: *е* (*а*) для дзеясловаў 1 спр.: нясе, пляце, чытае, піша, кажа—і *іць* (*ыць*) для дзеясловаў 2 спр.: робіць, галосіць, крычыць, маўчыць. З гэтае прычыны такія напісаньні, як нясець, скубець, б'ець, пяець, у нашай літаратурнай мове павінны быць рашуча адкінуты, бо яны не адпавядаюць духу нашай мовы, якая ў сваім творчым працэсе разьвіцьця пайшла далей і ў падэўляючай большасьці ўжо адкінула канчаткі на *ць*, гэтую спадчыну стараславяншчыны. Разам з гэтым у літаратурнай мове бязумоўна павінны лічыцца памылковымі і канчаткі дзеясловаў 2 спр. на *е* (*а*): прос-е, кос-е, гавор-а, ліч-а, бо такія формы ўтварыліся не самастойна, не па законам фонэтыкі, а толькі па аналёгіі з формамі 1 спр., да і то не для ўсіх дзеясловаў. Напр., ад дзеясловаў крычаць, маўчаць і інш. нельга ўтварыць крыч-а, маўч-а, а толькі крыч-ыць, маўч-ыць. У заключэньне агляду форм 3 ас. адз. л. цяп. ч. мы можам устанавіць, што ў нашай літаратурнай мове рашучую перавагу маюць формы, якія мы вышэй азначылі, як правільныя.

*Канчаткі дзеясловаў цяпер. часу 1ас. мн. ліку.* Дзеясловы 1 ас. мн. ліку цяперашн. часу 1-га спражэньня канчаюцца на *ем*, *ам*, *ом*: чыта-ем, піш-ам, бяр-ом, вяд-ом, жыв-ом, а 2-га спражэньня—на *ім*, *ым*: ходз-ім, ста-ім, крыч-ым. Форма «ста-ём», якую мы спатыкаем у Тарашкевіча[3]), бязумоўна памылковая. З гэтага-ж боку памылковымі зьяўляюцца і формы—сядз-ём, ба-ёмся, крыч-ом[4]) і г. д.

*Дзеясловы цяп. часу 2 ас. мн. ліку.* Дзеясловы 2 ас. мн. ліку цяперашняга часу канчаюцца на *це*: каж-а-це, нес-я-це, бер-а-це, ходз-і-це, гавор-ы-це, прос-і-це і г. д. Тарашкевіч[5]) дапушчае два канчаткі: *це* і *цё*. З гэтае прычыны ён дзеліць дзеясловы кожнага спражэньня на дзьве групы

---

[1]) Е. Карскі. Белоруссы т. II ч. 2.
[2]) Статут Літоўскі.
[3]) Тарашкевіч. Белар. Граматыка. § 71.
[4]) Тарашкевіч. Белар. Грам. § 73.
[5]) Тарашкевіч. Белар. Грам. § 72.

дзеясловы з націскам на асабовых канчатках і бяз націскаў. Не гаворачы ўжо аб тым, што гэткі падзел робіць граматыку больш труднай для навучэньня, ён, нельга сказаць, каб і адпавядаў сучаснай беларускай мове ў яе дыялектах. Дамінуючая форма ял ў дзеясловах 2 ас. мн. ліку цяп. часу на *це*: піш-а-це, вяж-а-це, лов-і-це, нес-я-це, печ-а-це, сядз-і-це, крыч-ы-це. І толькі ў меншасьці беларускіх дыялектаў (ды й то толькі пад націскам) спатыкаем канчатак *цё*: сядз-і-цё, пяч-ы-цё, бяр-ы-цё. Але што дзеясловы з канчаткам на *цё* зьяўляюцца ў беларускай мове чымсь-то няскончаным, гэта мы бачым з таго, што іншыя дзеясловы дапушчаюць пасьля сябе яшчэ *це*: ад ***дасьцёце***[1]). Вось гэтыя довады прымушаюць нас высказацца за адзін канчатак ***це***, чым мы пазбавімся ад лішняга граматычнага правіла і навязваньня дыялектычнай асаблівасьці ўсёй беларускай літаратурнай мове.

*Дзеясловы з канчаткам на зваротнае займеньне* ***ся.*** У кніжнай мове, асабліва ў вершах, у нас здараюцца гэткія формы: ***спалохаліось, сьмяяліось, пакваліліось***, дзе зваротнае займеньне ***ся*** скарачаецца ў ***сь***. Трэба заўважыць, што форма ***сь*** зусім чужая для беларускіх дзеясловаў і бязумоўна запазычана з расейскай мовы. Скарочанае зваротнае займеньне *сь* у беларускай мове ўжываецца толькі пры неазначальных займеньнях: хтось, штось, чымсь і чымся, хтосьці, штосьці, чымсьці. У дзеясловах-жа яно не толькі ўжываецца нескарочаным, а наадварот, у некаторых дыялектах (у сакуноў) пераходзіць у *са*: мыўса, трапіўса. Так што ўжываньне дзеясловаў з скарочаным зваротным займеньнем ***сь*** не адпавядае ні духу беларускай мовы, якая больш любіць поўнагалосныя формы, ні ўжываньню гэтых форм у жывой народнай мове, з прычыны чаго павінна быць рашуча адкінута.

*Формы прошлага часу ад кораня* **шьд** *(ход).* У нашай літаратурнай мове мы знаходзім формы ***пайшоў, знайшоў***, радам з формамі ***пашоў, знашоў***. Якая з гэтых форм павінна мець перавагу? Каб вытлумачыць паходжэньне першых форм, трэба сказаць, што беларускі дзеяслоў ад кораня **шьд** *(ход)* у прошлым часе ўжываецца толькі з папярэдняй прыстаўкай ***і***, якая прыстаўляецца для мілагучнасьці і мягчэйшага вымаўляньня слова. Такім чынам, у беларускай мове істнуюць формы—і-шоў, і-шла, і-шлі (формы шоў, шла, шлі—яўныя русыцызмы). Падобную-ж папярэднюю для мілагучнасьці прыстаўку ***і*** мы асабліва часта знаходзім у іменьнях назоўных: і-ржа, і-стужка, і-груша, і-скрынка, і-льну (лёну) родн. скл. і г. д. У дзеясловах гэта прыстаўчнае ***і*** захоўваецца і тады, калі перад ім ставіцца прыймя. Такім чынам утварыліся формы: ***выйшаў, прыйшоў, знайшоў, пайшоў*** і г. д., а не вышаў, прышоў, знашоў, пашоў. Першыя формы, апрача таго, што яны захоўваюць адну з характэрных асаблівасьцяў беларускай мовы, яшчэ больш мілагучныя і пашыраныя, чымсь другія, і з гэтае прычыны маюць у літаратурнай мове поўную перавагу над другімі формамі.

---

[1]) Е. Карскі. Белоруссы т. II ч. 2.

*Дзеясловы з коранем на шыпячы гук.* Дзеясловы з коранем на шыпячы гук, як дрыж-аць крыч-аць, мауч-аць, садж-аць, маюць злучальны суфікс(прымету) *а*, якую захоўваюць і ў тым выпадку, калі на гэты суфікс падае націск. Гэты суфікс *а* яны ўтрымліваюць і ва ўсіх вытворных формах: дрыж-аў, задрыж-алі, крыч-алі, мауч-алі, садж-алі і г. д. У некаторых дыялектах мы спатыкаем такія формы, як дрыж-эць, трашч-эць—дрыж-эў, трашч-эў, утвораныя, як нам здаецца, па аналёгіі з дзеясловамі, маючымі злучальны суфікс *е*: сядз-ець, глядз-ець, віс-ець. Але гэта аналёгія захапіла толькі некаторыя з дзеясловаў, бо, напр., мауч-эць, ляж-эць—мауч-элі, ляж—элі ня ўжываецца. Як асабліваськ чыста дыялектычныя, яна ў літаратурнай мове не павінна знаходзіць сабе месца.

Як выключэньне з гэтага, зьяўляюцца такія словы, як *лягчэць, крапчэць, дзічэць, шырачэць, даражэць, дужэць*, якія ўжо пашырыліся на ўсе беларускія дыялекты і захоўваюць *э* пад націскам ва ўсіх вытворных формах.

*Дзеясловы загадн. ладу 2 ас. множн. ліку.* Загадны лад беларускіх дзеясловаў 2 ас. мн. ліку ў поўнай меры захаваў старaславянскія формы, чым ён значна розьніцца ад расейскага загаднага ладу (повелительного наклонения), які для свайго утварэньня карыстаецца толькі суфіксам і (ы, *й*); беларускія-ж дзеясловы—толькі ў адпаведным выпадку суфіксам *е* і *э* (славянскае): вазьм-еце, прынясь-еце, скаж-эце, напіш-эце. Суфікс *і* (*й*) ужываецца толькі пасьля галосных; сто-йце, гуляй-це, рату-йце. З гэтае прычыны формы загаднага ладу—напіш-ыце, рв-іце—бязумоўна памылковыя. Здараецца яшчэ суфікс (прымета) ь: кін-ьце, рын-ьце, дзе *ь* утварылася з *і* праз аслабленьне гэтага гуку. У апошнім выпадку, калі папярэдні перад *ь* сугалосны гук цьвёрды, то *ь* зусім эдкідаецца: еж-це, рэж-це, прамоў-це (прамов-ьце—прамов-це—прамоў-це).

*Дзеясловы з асновамі на* **ова-ева і ыва-ива.** Беларускія дзеясловы, утвораныя ад славянскіх дзеясловаў з асновамі на **ова-ева** (белар. *ава-ява*), маюць у цяперашнім часе 1 ас. адз. ліку *ую, юю*: гат-ава-ць (**гот-ова-ти**)—гат-ую, куп-ава-ць (**коуп-ова-ти**)—куп-*ую*, кл-ява-ць (**кл-ьва-ти**)—кл-*юю*. Асновам славянскіх дзеясловаў **ыв-ив** адпавядаюць асновы беларускіх дзеясловаў *ва* (**ъва**) і *йва*: **показ-ыва-ти**—паказ-*ва*-ць—паказ-*ва*-ю, **высмѣ-ива-ти**—высьме-*йва*-ць—высьме-*йва*-ю, **выслоух-ива-ти**—выслых-*ва*-ць—выслых-*ва*-ю, але **выслоух-ов-ыва-ти**—вы-слых-*оў-ва*-ць, выслых-*оў-ва*-ю, разьмярк-*оў-ва*-ць—разьмярк-*оў-ва*-ю. Праўда, у некатарых дзеясловах мы спатыкаем *ів* (ыў, іў): лі-ць—залі-ваць, кры-ць—пакры-ва-ць, але ў гэтых словах, як і ў другіх, ім падобных, *і* належыць да кораня слова, а не да яго асновы. Наогул-жа жывая беларуская мова ня любіць суфіксаў (асноў) на *ыў*—*іў* і зусім іх адкідае. Адсюль **отказ-ыва-ти—отказ-ъва-ти**—адказ-*ва*-ць—адказ-*ва*-ю, а не **отказ-ова-ти**—адказ-*ава*-ць—адказ-*ую*, што будзе зусім памылкова.

*Дзеяслоўная прымета.* Беларуская літаратурная мова знае толькі дзеяслоўную прымету, утвораную ад дзеясловаў залежнага стану прошлага

часу з суфіксамі на *н, т:* зроблены, ая, ае, адукаваны, ая, ае; узяты, *ая, ае*; спавіты, ая, ае.

Ад дзеясловаў-жа залежнага стану цяперашняга часу дзеяслоўная прымета за выключэньнем некаторых слоў, як вядомы, знаёмы, ня ўжываецца. З гэтае прычыны такія звароты, як зьбіраемы, чытаемы, насыпаемы, яўна памылковыя.

Дзеяслоўная прымета ад дзеясловаў дзейнага стану цяперашняга з суфіксам *ч* чытаючы, чая, чае, і прошлага часу з суфіксам *ш*: чытаўшы, шая, шае—ў літаратурнай мове ўжываецца рэдка.

*Дзеяслоўнае прыслоўе.* У літаратурнай мове ўжываецца толькі дзеяслоўнае прыслоўе, утворанае ад дзеясловаў дзейнага стану цяперашняга часу з канчаткам на *чы*: *пішучы, носячы, бяручы* і прошлага часу з канчаткам на *шы: пісаўшы, насіўшы, браўшы*. Ад стараславянскіх форм з канчаткам на *а* захавалася толькі дзеяслоўная прымета ў слове *мага*: (бяжы, як мага, хутчэй).

**С. Некрашэвіч.**

---

# Слоунікавая праца у беларускай мове.

Дасьледаваньне слоўнікавага багацьця тэй ці іншай мовы прадстаўляе вельмі паважнае заданьне мовазнаўства. Ад паўнаты сваіх слоу, ад розьніцы вымаўляньня тых ці іншых слоў, ад іншых лексычных асаблівасьцяў залежыць у большай, ці меньшай меры выразна азначаны облік самой мовы.

Слоўнікавае багацьце беларускай мовы вельмі вялікае. Жывая беларуская мова ўладае ня меньшай лічбай слоў і асаблівых выразаў-ідыатызмаў, надта характэрыстычных, чымся суседнія мовы,—польская, расейская (велікаруская) ці украінская.

Яшчэ за сто год да нашага часу была зьвернута ўвага дасьледцаў на слоўнікавае багацьце беларускае мовы.

Што-колечы ў гэтых адносінах ужо і зроблена. Але галоўнае заданьне застаецца яшчэ выпаўніць.

Што зроблена і ў якім кірунку магчыма працаваць далей,—адказ на гэтае пытаньне і мае сваёю мэтаю гэты нарыс.

Першыя сьляды зацікаўленасьці да беларускай лексыкі адносяцца яшчэ да пачатку XIX сталецьця.

У «Трудах Общества Любителей Российкой словесности», (Масква 1820г., ч. 20, стр. 227-229) прыведзен невялічкі сьпіс слоў, «употребляемых жителями г. Жыздры». Большасьць гэтых слоў—словы беларускія.

Таксама ў артыкуле *К. Калайдовіча* «О Белорусском наречии», надрукованым у «Трудах Общества Любителей Российской Словесности» за 1822г. (ч.1,кн. I, стр. 67—80) знаходзіцца кароткі слоўнічак беларускіх слоў і выразаў побач з характарыстыкай галоўных асаблівасьцяў беларускай мовы.

Невялічкі слоўнічак беларускіх слоў дадзены быў і *Янам Чачотам* у яго творы: «**Piosenki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny, niektóre przysłowia i idyotyzmy w mowie sławiano-krewickiej s postrzeżeniami nad nią uczynionemi**". **Wilno** 1846 (64—68 стр.). Гэты слоўнічак потым быў перадрукаваны А. Кіркарам у яго артыкуле «Этнографический взгляд на Виленскую губернию» у III в. «Этнографического Сборника» Расейскага Географічнага таварыства (стр. 196—200).

У саракавых гадох XIX ст. пачалася і больш грунтоўная праца па зборy беларускіх слоў.

У 1848 г. ў «Отчете II Отд. Российскай Академии Наук» быў надрукованы ў скарочаным відзе плян беларускага слоўніка, апрацаваны прот. Грыгаровічам, [1]) а ў 1851 г. Акадэмія дзеля патрэбы мець пад рукамі слоўнік беларускай мовы, як мовы важных і цікавых гістарычных актаў, якія пачаты былі ў гэты час выдавацца Археографічнай Камісіяй, прапачавала рэдактару гэтых актаў, Грыгаровічу, дапамогу да выданьня беларускага слоўніка. І ўжо Грыгаровічам было апрацавана 10 арк. слоўніка. Сьмерць Грыгаровіча спыніла яго працу.

Другое Аддзяленьне Расейск. Акадэміі Навук, жадаючы працягу працы, зьвярнулася з прапазыцыяй аб дакапчэньні гэтай працы да І. І. Насовіча і С. П. Мікуцкага, як вядомых яму ўраджэнцаў Беларусі.

С. П. Мікуцкі ў адказ на прапазыцыю прадставіў у Акадэмію толькі некаторыя слоўнікавыя матарыялы, а Насовіч падаў у 1863 году поўны слоўнік Беларускай мовы, над ўтвараньнем якога ён працаваў у працягу 16 год.

Слоўнік Насовіча, як «труд», згодна прызнаньню Аддзяленьня, «необыкновенно важный и с несомненными достоинствами», быў абдараваны палавіннай прэміяй. Разам з тым, Аддзяленьне, грунтуючыся на адзыве акад. Срэзьнеўскага аб слоўніку («Разбор словаря Белорусского наречия г. Носовича»,—«Отчет о XXXIV присуждении демидовских наград») [2])—«что при помощи его можно начать подробные расследования о составе Белорусского наречия и между прочим искать оправдательных доказательств, что в этом наречии сохранилось очень много древнего и важного для истории русского языка»,—пастанавіла надрукаваць слоўнік на свой кошт.

У 1870 г. праца Насовіча выйшла з друку ў выданьні Імпэратарскай Акадэміі Навук пад назвай «Словарь Белорусского наречия». (IV+756 стр.).

Матар'яламі Насовічу пры апрацоўцы ім слоўніка былі: а) помнікі вуснай народнай творчасьці: песьні, пагаворкі, казкі і інш.; б) зборнікі слоў, запісаных ім ў Магілёўшчыне, Меншчыне і Горадзеншчыне; в) апрацованы ім алфавітны сьпіс старажытных беларускіх слоў у старажытных беларускіх актах; г) выпыт краёвага слоўніка велікарускай мовы і д) іншыя матар'ялы, вельмі нязначныя надрукованыя ў розных зборніках і часопісях.

Насовіч выканаў вялікую працу, маючую вялікае значэньне для Беларускай культуры,—і ў выпаўненьні гэтай працы ён пайшоў правільным шляхам. Ён палажыў у аснову свае працы беларускую жывую народную мову, як яна дадзена ў народных пагаворках, казках, песьнях і інш. творах народнага духу. Багацьце прыкладаў, узятых з народнай славеснасьці, бяз сумненьня прэдстаўляе галоўную вартасьць слоўніка.

[1]) Поўнасьцю надруковани у час. „Странник", 1861 г., т. II, стр. 303—308.

[2]) Другі одзыў быў зроблены М. Шапіро,—„Словарь Носовича", „Филологические записки" 1873 г. т. I, 1—20.

Але слоўнік Насовіча мае і значныя недахваты, якія ў свой час былі адмечаны крытыкай. Акад. Е. Карскі, разглядаючы гэтыя недахваты ў сваім «Очерке изучения жывого белорусского языка и народной поэзии», [гл. VII, т. 1 «Белоруссы» (Вильна 1904, стр. 251—253)] кажа так: «В состав словаря вошло более 30000 слов. Если рассмотреть их внимательно, то окажется, что среди них не достает очень многих белорусских слов (хотя бы—*маци*, *дзиця*, *хошолка* и т. д.), не говоря уже о том, что не перечислены слова общие белорусскому наречию с великорусским и малорусским; в словаре много лишних слов, совершенно неизвестных белорусскому народу, а явившихся где-либо среди белорусской шляхты, воспитывавшейся в иезуитских училищах и духовных униатских (гавет, пэга, адыстар, вота, каналька и т. д.). Редакция словаря могла бы быть значительно лучше, на что обратил в свое время внимание Бессонов. Для орфографов принято полуэтимологическое письмо, но оно, как полумера, не удовлетворит ни чистых филологов, ни историков литературы. Так, с одной стороны, в словаре везде правильно проведено дзеканье и цеканье, но с другой—вм.-*ў* везде *в*, всюду литературное разграничение твердого и мягкого *р*, гласные безударные сохранены без изменения. Правда в словаре существуют знаки: ˘ для означения понижения гласной или сокращения гласных *и* и *у*, облеченный знак (˜) для выражения под'ема или повышения гласной. Но в действительности над *и* и *у* почти не встречается знака краткости (˘), а видим его над другими гласными, над разными же гласными находим и ˜. Более точное определение, как читать гласные, отмеченные этими знакамі, мы имеем в предисловии к пословицам Носовича, помещенным в Сборнике Отд. р. я. и сл. XII т., стр. V—VI. Там мы читаем, что ˜ над *о* означает переход их в *а*; над *е* и *ѣ* переход в *я*, над *а* и *о* означает переход их в *ы* и *у* (в неявственные—«сквозьзубные»), над *е* и *ѣ* переход их в *и*. Как это было уже отмечено в статье о говорах, в разных местах белорусской речи различно изменяются безударные *о* и *е* в одном и том же слове, так что в словаре все почти слова пришлось бы приводить вдвойне с теми или другими знаками, а иногда и втройне. Этого у Носовича мы, конечно, не находим, не знаем так же имеет-ли слово повсеместное употребление, или только областное, и как оно в данной области произносится»...

Але слоўнік Насовіча і ня мае зусім значэньня агульна-беларускага слоўніка: ён пабудованы на матэрыялах, здабытых галоўным чынам у Магілёўшчыне, і толькі нязначнаю часткаю ў Меншчыне і Горадзеншчыне, за поўным выключэньнем Віленшчыны.

Ня маючы значэньня агульна-беларускага лексыкону, слоўнік Насовіча ня мае і выразнай мясцовай прыметы. Тут зусім, за надта нязначнымі выключэньнямі, не азначаецца, дзе гэта, у якой мясцовасьці Беларусі запісана тое ці іншае слова.

Усё гэта губіць навуковую вартасьць слоўніка, не аднімаючы, аднак, ад яго практычнага значэньня, як першага больш-менш поўнага і сыстэматычнага збору беларускіх слоў і папярэдняй працы ў адносінах да далейшых выпытаў такога-ж роду.

Насовічам былі апрацаваны і выданы і некаторыя іншыя працы па беларускай лексыкаграфіі. Апрача «Дополнения к белорусскому словарю» (Сборник отд. рус. яз. Ак. Н. XVI, № 6 (1881 г.) и «Алфавитного указателя» (гл. вышэй), часткова зьмяшчаюць слоўнікавы матэрыял, а часткова маюць і проста лексыкаграфічны облік «Об'яснения к белорусским пословицам и поговоркам» (Сб. «Матерыалы для сравнительного и об'яснительного словаря и грамматики. Изд. Второго Отд. А. Н. Спб. 1854, т 1, 103—107) і «Лексический указатель к сборнику белорусских пословиц Носовича» (Сборник Отд. р. яз. и слов А. Н. т. XII, стр. 205—232), а таксамэ рукапіс А. Н. «Собрание белорусских слов по алфавиту» (56 арк.).

Яшчэ раней выхаду з друку слоўніка Насовіча ў сярэдзіне мінулага сталецьця былі надрукованы працы некаторых іншых асоб па беларускай лексыкаграфіі.

Кароткі беларускі слоўнічак пад загалоўкам «Собрание белорусских слов» С. Соколова—быў надрукованы ў «Могилевских Губернских ведомостях» за 1854 г. ў №№ 44—50.

У тым годзе надрукованы ў «Материалах для об'яснит. и сравнит. словаря рус. языка и других славянских наречий» т. II, СПБ, 1854 г., стр. 176—182 зборнік С. П. Мікуцкага пад загалоўкам «Белорусские слова. Сборник С. П. Микуцкого».

Апрача надрукованых у бібліотэцы Рас. Ак. Навук маюцца і рукапісныя творы, маючыя значэньне для беларускай лексыкаграфіі.

У рукапісе маецца праца: «Словарь белорусского наречия, составленный П. Шпилевским» (1845 г., F. на 69 арк.) і яго жа «Заметки белоруса о белорусском языке» (СПБ. 1853 г., F. на 22 арк.).

Акад. Е. Карскі называе такія рукопісы ў Бібліатэцы Акадэміі Навук, маючыя адносіны да беларускай лексыкі:

«Белорусския слова, собранные в м. Горках, Могилевской губ., Оршан. уезда», F. на 4 арк.

«Наблюдения над языком простого народа, живущего в Гродненской губ., на восточной стороне от г. Гродно в расстоянии 10 верст». На версе 1 л. надпіс «*Петра Рафаловича*».

«Областные слова, употребляемые в Суражском уезде Черниговской губ., собранные штатным смотрителем Суражского уездного училища» 4° 10 арк. На апошнім арк. надпіс: «*Иван Манжос*». «Все слова», як сьведчыць ак. Карскі—«белорусские».

«Собрание и об'яснение областных слов, употребляемых в Черниговской губ., по Стародубскому уезду». Петра Гармаша. F. на 2 арк. «Все слова белорусские и в транскрипции белорусской» (акад. Карскі).

«Областные слова г. Погара, Черниг. губ.» Д. Ястребова. F. на 1 арк. «Белорусские слова, но записаны не всегда удовлетворительно» (Карский. Белоруссы, т. 1, стр. 245).

«Областные слова Смоленской губ., Красненского уезда». F. на 2 арк.

«Собрание слов, употребляемых в просторечии в г. Рославле, Смолен-

ской губ.» М. Арбузова, 4°. На 8 арк. «В 1-м собрании имеется немало белорусских слов, во 2-м только белорусские слова» (Акад. Е. Карский. «Белоруссы», т. 1, стр. 231).

«Краткий сборник простонародных слов преимущественно Новоржевского, Островского, Порховского и Псковского уездов, Псковской и Осташковского, Тверской г. Собрал окончивший курс Псковской губ. гимназии Ив. Ил. Карпов». (СПБ. 1853 г.). У 3 т.т. на 601 арк. Маюцца ў нязначнай лічбе і беларускія словы. (Белоруссы, т. 1, стр. 223).

У 1876 г. быў апрацованы «Опыт словаря белорусского наречия» *Е. Р. Раманавым*, частка якога была прадстаўлена ў Расійск. Акад. Навук. Згодна одзыву акад. А. Ф. Бычкова акадэмія працанавала аўтару выдаць яго слоўнік, як дапаўненьне да слоўніка Насовіча, аднак, слоўнік быў адосланы да Е. Р. Раманава і застаўся нявыданым. Аддзяленьне рас. мовы і славеснасьці, як сьведчыць сам Е. Р. Раманаў у прадмове к 5 вып. «Белорусского сборніка» (Витебск. 1891), перадаўшы яму рацэнзію А. Ф. Бычкова, запатрабавала ад яго падцьвярджэньня сэнсу слоў прыкладамі, узятымі з твораў народнай славеснасьці. Тагды пачалося набольшанае зьбіраньне гэтых твораў, якія з кожным годам разрасталіся і ў канцы канцоў адлажылі на другі плян апрацоўку слоўніка. З гэтага часу Е. Р. Раманаў і стаў выпускаць свой «Беларускі зборнік*).

З рукапісных твораў найбольшую значнасьць для беларускай лексыкографіі мае:

---

*) У 9 выпуску „Белорусского сборника" (Вильня, 1912) *Е. Р. Раманавым* надрукованы „*Опыт словаря условных знаков Белоруссии*. С параллелями великорусскими, малорусскими и польскими".

Гэты слоўнік—вузка-спэцыяльнага характару.

Умоўныя і таемныя мовы, кажа аўтар у прадмове, як вядома, маюць вялікае пашырэньне і вызвалі цэлую літаратуру на усіх эўрапэйскіх мовах. Ужываліся яны сталі ужо ў глыбокай старажытнасьці і былі вядомы яшчэ Гэрадоту.

Утварэньнем сваім умоўныя мовы абавязаны жаданьню некаторых груп, кастаў, турткоў, цэхаў захаваць ад шырокай публікі сваю прафэсыянальную веду.

Такім парадкам зьявіліся падобныя мовы у дактароў, гандляроў, злодзеяў, жабракоў і інш.

Першы раз зьвярнуў увагу на умоўныя беларускія мовы Андрэй Мэйер, аўтар „Описания Кричевского графства или бывшего староства" 1786 года, якое было надрукована Е. Р. Раманавым у зборніку „Могилевская Старина" (Вып. II, стр. 86—137).

Далей а беларускіх умоўных мовах упамінаюць Мікуцкі ў „Материалах для сравнительного словаря". Максімаў у нарысе „Курбаки" у „Бродячей Руси" і Стаўровіч у „Опыте исторических и этнографических исследований о Северо-Западном крае" (Вільня 1870 стр. 19) Сьвяшчэньнік Слуцкага павету Ф. Сьцяпура апрацаваў ужо цэлы слоўнічак умоўных знакаў у 243 слоў, надрукованы ў „Сборнике Отделения рус. яз. и слов." (Т. XXI, СПБ. 1881). Мае некаторыя адносіны да Беларусі і праца Ціханава, надрукованая ў „Трудах Черниговской архивной комиссии", (вып. II, Чернигов, 1900, стр. 65—168.) Тут аўтар прыводзіць 6 невялікіх слоўнічкаў (846 сл.), паміж імі мовы жабракоў Гомельшчыны і Чарнігаўшчыны.

Сам Е. Р. Раманаў у першы раз апрацаваў слоўнічак умоўнай мовы Дрыбінскіх шапавалаў у 1889 г. і надрукаваў яго у „Живой Старине" пад назвай „Катрушницкий

**Biełaruska-polska-rasijski słounik Яз. Ціхінскага.**

Ціхінскі, б. памешчык Магілеўскай губэрні, стаў апрацоўваць свой слоўнік яшчэ ў мінулым сталецьці. Ён згубіў на гэтай працы свой зрок, зпасьля рэвалюцыі 1917 г. застаўся бяспрытульным і ў дадатак, сьляпым старым чалавекам.

Родны сын Ціхінскага, жывучы ў Маскве, у 1921 г. прапанаваў Народнаму Камісарыяту Асьветы Беларусі купіць рукапіс, апісываючы трагічны стан яго айца, нямаючага ніякай магчымасьці выдаць сваю працу. Навукова-літаратурны аддзел купіў рукапіс за 30.000.000 руб. Ад Навукова--Літаратурнага аддзелу рукапіс перайшоў да Акадэмічнага Цэнтру Нар. Кам. Асьветы, а ўжо адгэтуль пры заснаваньні Інстытуту Беларускай Культуры, быў перадан у бібліатэку Інстытуту.

Рукапіс 4° ў 641 арк.*) прадстаўляе галоўную цэннасьць Інстытуту.

Правапіс, якога трымаецца аўтар, фонэтычны, і ў гэтых адносінах слоўнік мае бясспрэчную перавагу ў параўнаньні са слоўнікам Насовіча. У частковасьці, правапіс адпавядае уласьцівасьцям беларускай мовы, аб чым гаворыцца ў прадмове аўтара:

---

Лемезень» (Т. I, СПБ. 1890, стр. 9—16). У наступным 1890 г. ім былі сабраны матар'ялы для слоўніка жабракоў Магілеўшчыны, якія надрукованы ў часопісе „Этнографическое Обозрение“ пад назвай „Любецкий лемент“ (Кн. II, М. 1891, стр. 118—145). Сюды ўвайшло 1015 слоў. Праз 10 гадоў пры дапамозе інтэлігентнага валаснога пісара Куляшова, Раманаў папоўніў выданыя раней матар'ялы і выдаў іх у „Могилевских Губ. Ведомостях“ і „Могилевской Старине“ (Вып. II. Могилев. 1901, стр. 45—68), адгэтуль яны былі перадрукованы ў „Сборнике Отд. рус. яз. и слов. Ак. Н.“ (Т. LXXI, СПБ. 1901).

У 1904 г. аўтару прадставілася магчымасьць азнаёміцца з штучнай мовай краўцоў і шапавалаў м. Шклова Маг. губ.,—з парушніцкім лемезам, а в 1910 г. з мовай прафэсыянальных зборшчыкаў на пабудову храмаў,—лябарай, м. Іванава, Кобрынскага п. Горадн. губ.,—вытырняцкім гаурыднікам, ён-жа гаурыднік лібэрскі і гаўрыднік афінскі (сапсованае—„афеньскі“). Гэтая акалічнасьць прымусіла Раманава зноў зьвярнуцца да раней выданых матар'ялаў, перапрацаваць іх і выдаць у 9 вып. „Белорусского сборника“ —„Опыт словаря условных языков Белоруссии».

У „Опыте словаря» штучныя мовы падзелены на тры катагорыі.

Да першай аднесены аўтарам штучныя мовы рамесьнікаў. Шклоускіх краўцоў, Крычаускіх рамесьнікаў па Мэйеру, а так сама Новазыбкаускіх шапавалаў Жыздрынскіх краўцоў

Параунальна да першай, у другой катагорыі прыводзяцца мовы жабракоў Магілеўскай губ., сабраныя аутарам у Мсьціслаускім, Клімовічскім, Чэрыкаускім і Чаускім пав., і Ціханавым—у Гомельскім, жабракоў Слуцкага пав. Менскай губ., Чарнігаускага і Мглінскага пав., па зборніку Ціханава і Бранскага пав. паводле таго самага зборніку.

Да трэцяй катагорыі аднесена мова лябарэй м. Іванава, Кобрынскага павету.

Нарэшце, дзеля большай паўнаты, зроблены параўнаньні з слоўніка польскіх арыштантаў Эстрэймера (Szwargot więzienny, Kraków, 1903).

Лексычны матар'ял разьмяркованы па групам: 1) Зьявы і прадметы прыроды, 2) Зьявы духоўныя, 3) Чалавек і г. д.

Е. Р. Раманавым ня мала зроблена для апрацоўкі яго слоўніка, але гэтая праца ня мае амаль што ніякай вартасьці для беларускай лексыкаграфіі ва уласным сэнсе: яе значэньне—агульна-культурнае і, часткова, крыміналістычнае.

*) У 16 тамоў па літарам: A—97 арк, B—27, C—D—48, E—G—6, H—18, I.F—11, KL—54, M—26, NO—52, P—96, R—24, S—53, T—11, U—18, W—39, ZŻ—56.

1) Każde „O“, na które nie pada akcent, zamienia się na „A“.

2) W niektórych odcieniach tej mowy, a mianowicie w ziemiach północno-wschodnich „O“,] na które nie pada akcent przechodzi w tępy odgłos, jak by w „У“ (mylydaja).

3) Każde „E“, na które nie pada akcent, zmienia się w „JA“.

4) W ziemiach połódniowo-zachodnich w wielu wyrazach nieakcentowane „E“ zamienia się na „I“ (Cipier, nima, nijaki).

5) W powiecie Wołkowyskim od Świsłoczy mówią: poúchodzili, poúspadali, poúmierali.

6) Forma CCA używana w częściach ziem północno-wschodnich, wschodnich i środkowych, idąc na zachód zmienia się na CSIA lub na CCIA, a więcej wszystkiego na CSA i ta ostatnia forma wypiera pierwsze z używania».

Апрача гэтых асаблівасьцяў, узята пад увагу дзеканьне, але ня прыняты пад увагу падвойныя зычныя НЬНЬ, СЬСЬ і інш. (у слоўніку—apalania, apalanie, apjanienia і г. п.).

У параўнаньні са слоўнікам Насовіча асаблівасьць працы Ціхінскага —паўната слоўнікавага матар'ялу. Ім зарагістравана слоў у некалькі разоў больш ад Насовіча (каля 150.000 сл.). У частковасьці поўна прадстаўлены дэрываты. У аснаўных словах істотнай розьніцы паміж Насовічам і Ціхінскім у большасьці няпрыкметна, але дэрываты выпісаны вельмі ўдасканала. Апрача спэцыяльна-беларускіх слоў у Ціхінскага прыводзяцца і чужаземныя словы, якія ўжываюцца ў сучаснай мове, напр. «aliharchia, almanach, amór» і інш., нават уласныя іменьні—назвы гістарычных асоб, мясцовасьцей і гарадоў, напр., Allach, Alpy, Ameryka, Akwileja і інш.

Для больш канкрэтнага прадстаўленьня аб мэтадзе працы Ціхінскага ў параўнаньні са слоўнікам Насовіча, прывядзём прыклад—аснаўное слова «алей» і дэрываты.

НАСОВІЧ, (бел. словы ў правопісе аўтэнтыку).

*Олейный*, прич. стр. от глагола «Олеиць» Намасленный постным маслом. Каша неолееная.

*Олеец,—йцу*, с. м. смягч. слова Олей. Каша с смаженым олейцем. Не плач, купіць матка хохлач, олейцом помажець и тебе не покажець.

*Олей, ю*, с. м. Конопляное масло. Олей ёлкий, проелчев.

*Олейник, а*, с. м. Занимающийся выжимкаю конопляного масла. Сходзи к олейнику, нехай даст свежаго олею.

*Олейница, ы*, с. ж. 1) Женщина, занимающаяся продажею конопляного масла. У олейниц не усёгды свежый олей. 2) Глиняный сосуд, в котором обыкновенно содержат конопляное масло. Олейницу трэба выпарыть горячею водою. 3) Простая глиняная лампа, налитая конопляным маслом. Поправь кнот в олейнице.

*Олейный*, прил. Относящийся к олейному маслу. Олейный жбанок. Олейная пляшка.

*Олейня*, и, с. ж. Изба, в которой постоянно выжымают конопляное масло, маслобойня. Неси коноплю в олейню заменить на олей.

*Олеіць*, г. д. Маслить постным маслом. И знаку нема, што ты олеила кашу.

*Олейще*, а, с. ср. унич. слова Олей. Горького олеища налила в кашу.

## ЦІХІНСКІ.

| *Беларускі тэкст.* | *Польскі.* | *Расійскі.* |
|---|---|---|
| Alej (алей) j. m. alejac (алеяц); alejak (алеяк). | Olej. | Олей. |
| Zwyczajnaja nazwania tłustaści, szto z niekotorych roslin, alba z ziemli dabywajucca. | Zwykle nazwa tłustości otrzymanych z nasion niektórych roślin, lub organicznych tłustości. | Обыкновенное название жиров, получаемых из семян некоторых растений, или из органических жиров. |
| Redźka z alejam welmi smaczna. | Rzodkiew z olejem nadzwyczajnie smaczna. | Редька с конопляным маслом, помилуй Бог, как хороша. |
| Alejac (алеяц) j. m. —alej. | | |
| Alejak (алеяк) j. m. | Olejek. | Летучее благовонное масло. |
| Lotny alej, sorta eternaha, zwyczajna mocnaha zapachu, właściwaha swajamu hatunku. Alejki usiahdy lahczejszyja ad wady. | Lotny olej, substancja eteryczna, organiczna, zwykle silnego sapachu właściwego swemu gatunkowi. Olejki lżejsze od wody. | Летучее масло, существо эфирное, органическое, обыкновенно сильного запаха, свойственного своему сорту. Масла эти легче от воды *). |
| Alejak harczyczny wielmi palić. | Olejek gorczyczny bardzo pali. | Горчичное масло очень жжет. |
| Alejak (алеяк) j. m. —alej. | | |
| Alejany (алеяны); naalejany (наалеяны); paalejany (паалеяны). | Olejowany. | Намасленный. |
| Alejam zapraulany, wymazany, naszmarawany. | Olejem zaprawiony, wysmarowany, nasmarowany. | Олеем задобренный, вымазанный, намасленный. |

*) Правапіс аўтэнтыку.

| | | |
|---|---|---|
| Borszcz alejany czarazmieru. | Barszczek olejowany przez miarę. | Щи задобрены олеем черезчур. |
| Alejawy (алеявы); alejkawy(алейкавы); alejny (алейны); | Olejarny. | Олейный. |
| Toj, szto ad aleju pachodzić, da aleju należyć. | Od oleju pachodzący, do oleju należący. | Из олею происходящий, олею принадлежащий. |
| Alejawy zawod. | Olejowy zawod. | Олейный завод. |
| Aleić (алеиць); aleiwać (алеиваць); maslić (масьлиць); paaleić (паалеиць). | Olejować. | Маслить. |
| Alejam napuszczać, szmarawać, nacirac. | Olejem napuszcać, szmarować, nacierać. | Маслом пропитывать, мазать, натирать. |
| Aleić stoł piarad lakirawaniam. | Olejować stoł przed lakirowaniem. | Маслить стол до покрытия лаком. |
| Alejkawy (алейкакавы)—alejawy. | | |
| Alejna (алейна); tłusta (тлуста). | Olejno. | Маслено. |
| Z alejam, z pomaczaju aleju, tłusta. | Z olejem, z zapomogą oleju, tłusto. | С олеем, с помощию олея, жирно. |
| Alejna zroblana. | Olejno zrobjono. | Маслено сделано. |
| Alejnia (алейня) j. ż. | Olejnia. | Маслобойня. |
| Miesta, hdzie wyliwajuć alej, hdzie alej wyhaniajecca. | Mejsce wytłuczania oleju, gdzie się olej wypędza. | Место выгонки олея, где постное масло выбивается. |
| Alejni dobryja w Kryczawie jość. | Olejni są doskonałe w Kryczewie. | Хорошие маслобойни есть в Кричеве. |
| Alejnica (алейница); alejniczka (алейничка). | Olejnica. | Олейница. |
| Żana fabrykanty aleju, taja szto pradajeć jaho. Naczynia ad aleju, alba sudna, u katorym alej chawajuć. | Żona fabrykanta oleju, sprzedająca olej. Naczynie od oleju, lub w którym przechowuje się olej. | Жена фабриканта олею (постного масла) или торговка им. Сосуд с олеем, или судно, где содержится постное масло. |
| Alejnica usiahdy maje adzenia zatłuszczanaje. | Olejnica zawsze ma odzież zatłuszczona. | Олейница всегда имеет засаленную одежду. |
| Alejniczak (алейничак) j. m.—alejnik. | | |

| | | |
|---|---|---|
| Alejniczka (алейнічка) j. ž.—alejnica. | | |
| Alejnik (алейнік): alejniczak (алейнічак); maślar (масляр). | Olejnik. | Олейник. |
| Toj szto wybiwaje alej, szto pradaje jaho. | Wybiwajacz oleju, przekupień oleju. | Маслобой, торговец олеем. |
| Alejnik u Mahilowie zažyù dobryja hroszy. | Olejnik w Mohilewie nažywaje zdrowe pieniądzie. | Олейники в Могилеве зарабатывают большие деньги. |
| Alejny (алейны) pr. —alejany. | | |

Як можна бачыць з прыведзенага прыкладу. слоўнік Ціхінскага мае перавагу перад слоўнікам Насовіча ў поўнасьці запісаных слоў, ня кажучы ўжо аб правапісе. Зразумела так сама, што польскі тэкст дае магчымасьць устанавіць полёнізмы, увайшоўшыя ў склад беларускай мовы.

Але слоўнік Я. Ціхінскага, як і слоўнік Насовіча, апрацованы па наіўнаму, някрытычнаму мэтаду. Навуковай вартасьці ва ўласным сэнсе ён ня мае. Тлумачэньні, якія даюцца да слоў, азначаюць толькі сэнс слова, але зусім не азначаюць яго мясцовага характару. Нельга судзіць і аб тым, наскольні слоўнік мае агульна-беларускі характар.

Аднак нельга адмаўляць таго, што Ціхінскім сабраны багаты лексычны матар'ял, каторы, зьяўляючыся вельмі карысным для беларускіх лексыкаграфаў з практычнага погляду, можа быць у дальнейшых дасьледцаў апрацованым і з тэорытычнага боку, паводле навукова-крытычнага мэтаду.

Праца Ціхінскага, пачатая яшчэ ў 90 гг. XIX ст., сваею часткаю адносіцца ужо да XX ст. (Рукапіс мае такія надпісы: над літарай В (I арк) «26 lipca 1905» і на апошн. аркушы (27) гэтай літары «3 grudnia 1905» над літарай С «14 lipca 1905»; іншых хронолёгічных дат у рукапісе няма але з лістоў розных асоб да Ціхінскага, што прыложаны да слоўніка, магчыма заключаць, што працаваў Ціхінскі яшчэ ў 1890—1900 гадох).

З лексыконаў, надрукованых у XX ст., выйшау з друку яшчэ да рэвалюцыі *«Смоленский Областной словарь» В. Н. Добровольского.* Смоленск 1914, 4°, IV+1022*).

Як можна бачыць з прадмовы аўтара, слоўнік выданы ім на кошт Другога Этнографічнага Аддзяленьня Расійскай Імпэратарскай Акадэміі Навук і пры моральным падтрыманьні з боку акадэміка А. А. Шахматава.

У сваёй прадмове аўтар так азначае крыніцы сваёй працы і разам з тым сучасны характар Смаленскай гаворкі:

«Живя в деревне и стоя близко к народу, я изучал язык крестьян Смо-

*) Яшчэ раней „Материалы для словаря и теории ударения“ былі надрукованы Дабраволъскім у 1 ч. яго „Этнографического сборника“ СПБ 1891, стр. 3—44.

ленского уезда. Многие слова и выражения я поместил в словаре, заимствуя их из своей памяти; многие слова и выражения сообщила мне супруга, Евдокия Тимофеевна, отлично знакомая с Смоленским и Духовщинским говорами; кроме того, я пользовался сочинением А. Н. Энтельгардта «Письма из деревни», трудами Цебриковой, Орловского, заимствуя из них лексический материал, разными рукописными и печатными трудами.

Путешествуя по Смоленской губернии, я побывал во всех уездах и всегда уделял много времени для беседы с крестьянами, записывая данные народного говора: особенно интересовался словами, относящимися к семейному быту, верованиям и психологии. При записи слов я писал слово, как оно произносится в данной местности, с каким-либо примером. В моем словаре примеры передают местное произношение.

Прошло тридцать лет, как я стал заниматься этнографией: с тех пор сильно изменилась деревня.

Взамен старых явились новые слова, новые обычаи. Язык сильно изменился, как со стороны содержания, так и в фонетическом отношении. Крестьяне стали говорить правильнее, приближаясь в говоре к языку литературному. Правильности речи содействовала школа. Многие старики и старухи, говорившие на местном наречии, перемерли, а на произношение оставшихся в живых влияло чтение книг, которое старики слышали от подроставшего поколения, ставшего уже грамотным».

Гэтая эволюцыя Смаленскай гаворкі і атрымала адбітак у слоўніку Дабравольскага.

Каб зразумець сэнс гэтай эволюцыі, каб азначыць асаблівасьці Смаленскай гаворкі і аценіць месца працы Дабравольскага ў беларускай лексыкографіі, трэба мець на ўвазе, што ў Смаленшчыне больш, чымсі ў іншых беларускіх краінах, адбіўся ўплыў Маскоўскай культуры і Маскоўскай мовы. Смаленшчына ў значнай меры абмаскалела*) і ў склад мовы тут увайшло шмат маскалізмаў. Гэтая асаблівасьць Смаленскай гаворкі і адбілася ў Дабравольскага. Яго слоўнік зусім не зьяўляецца чыста беларускім слоўнікам. Тут знаходзіцца значны процант маскоўскіх—вялікарускіх слоў, нават сустракаюцца тыпічныя ідыётызмы велікарускай мовы; напр., «закинуть слово», «зарубить на носу», «схватило в животе» і г. д.

Аднак, сярод велікарускіх выразаў і слоў працы у Дабравольскага прыводзяцца й беларускія словы. У гэтай сваей частцы ён і прадстаўляе цікавасьць для беларускага лексыкографа.

У Дабравольскага словы паясьнены прыкладамі, узятымі з жывой мовы ў мясцовой акцэнтацыі. Іншы раз азначаецца самае месца запісу. Напр., «Сухощепаватый—худой. Росл. у., Алексеевка, Росл. у., с. Прыщи» і г. п. Гэта прыдае слоўніку ў некаторых адносінах навукова-крытычны твор. Аднак, нельга адмаўляць істотнага дэфэкту працы дасьледцы Смаленскай гаворкі—адсутнасьці азначальнага правапісу. У апісаньні слоў, надрукованых

*) Увага рэд.: *Маскаль* — ад *Масква* як *Рымлянін* ад *Рым*.

тлустым шрыфтам, як быццам, прыняты прынцып этымолёгічнага правапісу, характэрны для велікарускай мовы, а ў прыкладах наадварот, запіс, як правіла, вядзецца па прынцыпу фонэтычнага правапісу, але і там і тут ад прынятых прынцыпаў амаль што заўсёды робяцца выключэньні. Напр., на стр. 266: «*Зелье*», *Зельлейка*, на стр. 360: *Кроўцы*—портные. Ишли два кравцы; стр. 699: *Працовати*—работать. Нада працовать: Бох любить працу—Працавать; стр. 119: *Галовье*, «*Галоўя*» і інш. (passim). Магчыма, што шмат якіх непаступовасьцяў у правапісе тлумачыцца друкарскімі памылкамі, аб чым можна заключыць пры параўнаньні прыкладаў да апошніх слоў:

| | |
|---|---|
| *Галовье*—то, что кладется под голову, подушка. На пяринушках галоўя *Крупная* ляжить. | *Галоўя*—то, что кладется под галовы, напр., подушки. На пяринушках галоўя *Крутая* лежить; |

Але з гэтага прыкладу магчыма зрабіць проста заключэньне аб адсутнасьці здавальняючай апрацоўкі слоўніка.

Да рэвалюцыі зусім ня было выпытаў апрацоўкі Расейска-Беларускіх слоўнікаў. Расійская рэвалюцыя, вызваўшая пашырэньне беларускага нацыянальнага руху, вызвала патрэбнасьць у Расійска-Беларускіх слоўніках. Такі слоўнік і быў апрацованы братамі *М.* і *Г. Гарэцкімі* пад назвай «*Каротк*і *Руска-Беларускі слоўнік*». *Смаленск*, 1918, 108 стр.

«Прыражоная пашана і любоў да родныя мовы», пішуць аўтары ў прадмове, *) «з якой, як тых старавечных, а выдатных у славеснасьці кніжнай дзядоў беларускіх, так і нас нівялічкіх «Бог на сьвет пусьціў», вымагала, аж-бы абы-якое нават славечка хатняе ўсмакавалі дый упямілі, як мае быць і выклікалі на паперы дабрачынна.

«Каб ні памёрлі!»—загадаў наш песьняр нябожчык.

«Дзеля таго, як ён тое вытлумачыў, і мы па свайму простаму разуменьню, ні маючы адукацыі філолёгічнай, ля (sic) якой на Беларусі аджа унівэрсытэту няма, адно—слухаючы свайго вуха і ні зважаючы надта на тое, ці хто ўхваліць, а ці пашкеліць і ганіць будзе,—выклэдалі жменю цікавейшых слоў ку патрэбі з па добрае ужываньня маладым адраджоным братом, што па маскоўску чытаць-пісаць умеюць, а па беларуску няцца хочуць».

Такім парадкам, аўтары не дапінаючы ніякіх навуковых мэт, маюць заданьні толькі практычнага характару.

У слоўнічку на 101 стр. (7—108) сабрана каля 3000 слоў.

Братом Гарэцкім прыйшлося першы раз працаваць над расейска-беларускім слоўнікам. Ужо гэтай прычынай, а так сама, магчыма, і пасьпехам у працы, тлумачыцца, што ў слоўнічку шмат недахватаў. Пры адсутнасьці пляну і сыстэматычнасьці працы, словы прыводзяцца зусім выпадкова: прыводзяцца некаторыя словы, ня маючыя нават ужываньня ў жывой мове, напр. бабье—бабства, «масон—фармазон», «тур—бавол» і інш., нават такія спэцыяльныя словы, як «дама (карта)—фаля, вышнік, краля,—а тымчасам німа такіх слоў, як «государство», «общественный», «церковь», ня кажучы ўжо

*) Правапіс аўтэнтыку.

аб адцягненых паняцьцях; некаторыя словы выбраны зусім няўдала (напр., Апрель—Сакавік, Май—красавік, Март—марэц, галиматья—безгранічна, благо, хорошо—балазе, портупея—бандалет і інш.); нарэшце, ёсьць нязгоднасьці ў правапісе слоў: («безумоўна» «нізьлічона», «літэра», «любеньня», „кавенчыньня“ і інш.).

У 1920/1 г. слоўнік Гарэцкіх надрукованы другім выданьнем:—*Браты М. і Г. Гарэцкія. Маскоўска-Беларускі слоўнік.* Выданьне II (з папраўкамі і вялікімі дадаткамі), Вільня 1920 (на вокладцы—Вільня, 1921 г.) Wydawctwo U. Znamierouskaha. 144 стр.

«Гэты невялічкі зборнік слоў», кажуць аўтары ў прадмове, „спадзяваецца на знаёмства чытаньніка з важнейшымі асаблівасьцямі беларускае мовы. Дзеля таго ён не зьмяшчаець слоў, што ў сваіх асновах зусім ці надта падобныя ў абедзьвюх мовах і што маюць розьніцу толькі ў склонах ці ў спражэньнях. Ня зьмешчаны ў ім так сама словы для абстракцыйных разуменьняў, узятыя ў маскоўскую літэратуру з агульна эўропэйскага ўжываньня, бо найчасьцей яны ёсьць і ў беларускай мове, толькі вымаўляюцца на свой лад».

Слоўнічак, як паказана на загалоўнай старонцы, выданы „з вялікімі дадаткамі і папраўкамі“.

Дадаткі зроблены як да расійскай, так і да беларускай часткі слоўнічка. Лічба расійскіх слоў у параўнаньні з першым выданьнем павялічана прыблізна ў $1^1/_2$ разы, доданы і некаторыя беларускія словы да маючыхся ў першым выданьні слоўнічка, як можна бачыць з наступных параўнаньняў:

| | 1 выданьне | 2 выданьне |
|---|---|---|
| Апатия | Апешаласьць | Апатыя, апешаласьць, нячуласьць. |
| Бархат | Аксаміт | Аксаміт, мошаст. |
| Воззвание | Адозва | Ўзваньне, заклік, адозва. |
| Волна | Хваля | Хваля, вал (невялікі, дробны, зыбкі), ваўна. |

Другія параўнаньні могуць сьведчыць, што аўтарамі ў істоце зроблены толькі папраўкі да першага выданьня:

| | 1 выданьне | 2 выданьне |
|---|---|---|
| Апрель | Сакавік | Красавік. |
| Галиматья | Безграніна | Лухта, бязглуздая гаворка. |
| Вознаграждение | Вынаграда | Узнагараджэньне. |
| Май | Красавік | Травень. |
| Порыв | Рапт | Парываньне. |
| Суждение | Баданьне | Суджэньне. |

Для другога выданьня выкінуты некаторыя словы, як, напр., «бабье», «Донжуан», «хват», «хлевок» і інш., скасаваны дэфэкты правапісу.

Але і ў другім выданьні слоўнічка маюцца недахваты. Замест адных малапатрэбных слоў уведзены іншыя, як напр., «агонизировать» (зг. тч. «трудзіцца канаючы, канаць»), «аз» (—я), вестимо (—ведама); з тлумачэньнем некаторых слоў нельга згадзіцца: напр., «безграмотный» перакладаецца, як «малапісьменны» (у Насовіча: цёмны) «воображение»,—як «увабражэньне», «воображать»—«увабражаць» (зусім няправільна, пасколькі паўторнасьць вобразу магчыма азначыць толькі праз прэфікс «*вы*»), государство—гаспадарства (больш ужываецца: «дзяржава», гаспадарства мае сэнс: «хозяйство»), «дефект»—«брак», «загана» (загана па Насовічу азначае: «Охулка»: зусім эквівалентна «дефекту» у белар. мове «недахват»), «опыт»—«вопыт, дасьлед, проба, спрактыкованасьць» (апошняе слова мае сэнс: «опытность», «дасьлед» (дбсьлед) больш ужываецца ў сэнсе «исследование»); у некаторых выпадках І-е выданьне мае нават перавагу перад другім, напр., «воспитание» у першым зусім правільна—«выхаваньне, гадаваньне», а ў другім—узгадаваньне; «воспитанник»—«гадунец», «воспитатель»—«узгадаваньнік», «воспитывать»—«гадаваць» (у сучаснай мове заўсёды ужываюцца: «выхаваньне», «выхаванец», «выхавальнік», «выхоўваць»).

Пляну, сыстэмы і паступовасьці не хапае і другому выданьню (прыклад непаступовасьці, непасьлядоўнасьці: «наблюдатель»—«пaглядальнік, паглядач», «наблюдение»—«нагляд, сочка»), сустракаюцца і памылкі ў друку: «успова», «прыблізна» і інш.

Зразумела, што навуковай вартасьці маскоўска-беларускі слоўнічак бр. Гарэцкіх ня мае ніякай і мае толькі практычнае значэньне.

*Максімам Гарэцкім* апрацованы і «*Невялічкі Беларуска-Маскоўскі слоўнік*» (рэдакцыя Янкі Станкеўчыка), які выйшаў двума выданьнямі, першае—Вільня, 1919 г. і другое—*стэрэотыпнае*—Вільня, 1921 г., 261 стр. У слоўніку собрана каля 6500 слоў. Не прэтэндуючы на навуковасьць, аўтар мае заданьнем чыста практычныя мэты і выпісывае словы па Насовічу, хоць іншы раз і робіць ад яго адступленьні (напр., у Насовіча—«бадзяга», у Гарэцкага «бадзяка»), па Насовічу «багаццё»—мелочь, па Гарэцкаму «багацьце»—богатство). Аўтар апіраецца на беспасрэдняе дасьведчаньне сучаснай беларускай жывой мовы і з гэтага пункту погляду яго невялічкі слоўнік магчыма прызнаць карысным дапаўненьнем да слоўніка Насовіча.

У час вайны і рэвалюцыі беларускі слоўнік зьявіўся прадметам дасьледаваньня немцаў, як слоўнік аднэй з мясцовых моваў тэрыторыі, занятай нямецкай арміяй на Ўсходзе і быў выданы ў кнізе:

Sieben-Sprachen-Wörterbuch. Deutsch, Polnisch, Russisch, Weissruthenisch, Litowisch, Lettisch, Juddisch. Herausgb. im Auftraged. Oberbefehlshabers Ost).

Кніга была выдана пры гэтакіх абставінах:

У галоўнай кватэры нямецкай акупацыйнай арміі было зарганізована бюро, якое, паміж іншымі заданьнямі, павінна было перакладаць загады й

пастановы акупацыйнай улады на мясцовыя мовы. Матар'ялы, сабраныя бюро, хоць спачатку і прызначаліся для карыстаньня самаго бюро, але па свайму зьместу й характару мелі карысьць і для шырокіх кругоў, дзеля чаго яны й былі прыведзены ў сыстэму і выданы асобнай кнігай.

Прад бюро пры выпаўненьні яго заданьняў сталі значныя труднасьці.

Найбольшая труднасць была ў тым, што праца вялася без дапамогі з боку навуковых спэцыялістаў. Яна шла ў час вайны, як пабочная праца бюро пры поўнай немагчымасьці знайсьці спэцыялістаў. Пры такіх умовах аўтары слоўніка маглі апірацца толькі на беспасрэднае дасьведчаньне народу. «Словы» кажуць яны, «былі выслуханы ад народу і назначаюцца для народу. Яны і не маглі быць разгледжанымі пад лупай крытычнага дасьледаваньня».

Няма сумненьня, што атсутнасьць дапамогі спэцыялістаў значна паніжае вартасьць слоўніка.

Пры апрацоўцы беларускага лексыкону аўтары былі пастаўлены ў асабліва цяжкія варункі.

«Беларуская мова», кажуць яны ў прадмове, «прадставіла найбольшыя труднасьці ў параўнаньні з іншымі мовамі. Гэта — зусім старая і, можа, найстарэйшая славянская мова,—мова насяленьня, якое складаецца галоўным чынам з сялян землябаў і толькі ў нязначнай лічбе прыналежыць прамысловасьці. На абшары ўсёй расійскай адміністрацыі яна ў моцнай меры асымілявалася з расійскай мовай. У адносінах да яе мае паважнае значэньне пытаньне, якія тэрміны трэба ўтварыць зноў і якія магчыма без доўгіх развэжаньняў узяць з расійскай або з польскай мовы. Часта вынікае пытаньне: ці магчыма трымацца тэхнічных тэрмінаў, якія хоць і ўжываюцца ў сучасным жыцьці, але зьяўляюцца не беларускімі, а чыста расійскімі тэрмінамі і да гэтага часу адчуваюцца, як чужыя словы. Тут, можа быць, ляжыць найбольшая труднасьць працы. Апрача таго, тут прыходзіцца працаваць у зусім новай галіне мовазнаўства. Навукова яна амаль што зусім не апрацоўвана. Мова мала дасьледавана і пры сваёй падобнасьці да расійскай і польскай моваў з вялікімі труднасьцямі паддаецца досьледу».

Цяжар аўтараў пры апрацоўцы беларускага лексыкону, як здаецца, павялічваўся яшчэ немагчымасьцю карыстацца літаратурай прадмету. Канечна, на апошняй страніцы слоўніка побач з літаратурай іншых моваў мы бачым і літаратуру беларускай мовы, але з памылкамі і без абазначэньня году і месца выданьня, напр.:

I. I. Nossowitsch, Weissruthenisches (russisches Wörterbuch). Horbatschewski, Wörterbuch der alten Aktensprache im nordwestliche Russland.

Памылкі ў фаміліі Насовіча і ў перадачы загалоўку яго слоўніка, а так-сама адсутнасьць паказаньняў на месца і год выданьняў першай і другой кнігі, даюць права думаць, што гэтых кніг ня было пад рукамі немцаў.

Зразумела, што пры паказаных абставінах апрацованы немцамі беларускі лексыкон ня мог быць саўсім вольным ад дэфэктаў.

Перш за ўсё кідаецца ў вочы няўдалы іншы раз выбар слоў. Так напр., слова Abweg (manowiec, bezdroże, боковая дорога) перакладаецца, як «błudnik», alt grisenhaft (sędziwy, старый)—побач з сл. «stary» «stały», Begabung (uzdolnienie, дарованіе)—«talent». Lats (Głoska, голос)—„zyk“. Gesichtsinn (wzrok, зреніе)—pahlad i г. д.

Значны дэфэкт прадстаўляе чыста нямецкі «буквалізм» перакладу. Напр. Nahrungmittelsfrage (kwestya żywnościowa, продовольственный вопрос) перадаецца, як „pytańnie ab sposabach prakarmleńia» (запытаем: чаму ня проста „харчовае пытаньне“?). Nasenausfluss (ciecz z nosa, сопли)—як «Saplaki z nosu» (чаму ня проста „Sopli“?), Gilfsmittel (srodek pomocniczy, вспомогательноее средство),—як «sposab pomaću (чаму не «dapamożny srodak») і гэт. дал.

Трэба думаць, што падобныя буквалізмы нямецкіх аўтараў ніколі не атрымаюць права грамадзянства ў беларускай мове.

Разам з тым, у слоўніку сустракаюцца і „велікарусіцызмы“, як напр. „predlażennie ab pieramieni (Abänderunsantrag), uprawleńnie (Amt), „naćalnik“ і інш. і «паланізмы», як напр., «Spłata» (Abzahlung) і інш.

Урэшце, у слоўніку можна прыкмеціць проста недахват апрацоўкі ў сэнсе наступовасьці і сыстэматычнасьці. Напр., «Nahrungmittelsverfälschung», перадаецца, як «falsawanie jeminnych praduktau», з «Nahrungmittelshaft», як «niestaća jadomych praduktau». Abschnitt—як „addzel“ Adschnittführer, як naćalnik dzieli“ і г. д.

Усяго ў слоўніку сабрана каля 8000 слоў.

Вышэй паказаныя творы Я. Ціхінскага, бр. Гарэцкіх і праца немцаў маюць проста слоўнікавы характар.

Але лексычны матарыял можна знайсьці і ў агульных дасьледаваньнях па беларускай этнографіі, што зьявіліся ў апошняй чвэрці XIX і ў XX ст.

Асабліва трэба ведаць такія кнігі:

«Матеріалы для изученія быта и языка русского населенія Северо-Западного края, собранные и приведенные в порядок *П. В. Шейном»* С.П.Б., т. III, 1902. У частковасьці, у III т. (С.П.Б. 1902) мае важнае значэньне «указатель», апрацованы *Е. Карскім.*

M. Federowski. «Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Materyały do etnografji słowiańskiej, zgromadzone w latach 1877—1891 przez Michała Federowskiego T. I, II i III, część II. Wydawnictwo Komisyi Antropologicznej Akademii Umiejętności w Krakowie 1897—1903». У кожным томе працы M. Federowskiego маецца «wykaz abecadlowy rzeczy, w tomie zawartych». Асабліва цікавы ў лексічных адносінах т. I, дзе сабрана ў сыстэматычным парадку каля 150 літоўска-беларускіх назоваў лячэбных расьлін.

*Проф. Е. Ф. Карскій. „Белоруссы“ т. I.* Вільня 1904. На стр. 144—180 спецыяльна разглядаюцца словы, узятыя ў беларускую мову з іншых моваў,—польскай, літоўскай, нямецкай, лацінскай і інш.

«Опыт описания Могилевской губернии, составленный по программе и под редакцией *А. С. Дембовецкого*». Маг. 1882, асабліва першы том.

*И. А. Сербов*. «Белоруссы-Сакуны». Спб. 1915 (Сборник Отд. рус. яз. и слов. И. А. Н. т. XCIV. № 1). Невялічкі сьпісак беларускіх слоў важны у адносінах да націску [1]).

Некаторыя лексычныя матар'ялы маюцца таксама ў адказах на выданыя Аддзяленьнем расійск. мовы і слав. Імп. Акад. Навук «Программы для собирания особенностей белорусского наречия» акад. Е. Карскага.

Нарэшце, нельга не заўважыць надта карыснай для беларускай лексыкаграфіі працы па ўтварэньню беларускай навуковай тэрміналёгіі. Гэтая праца была пачата яшче ў 1919/20 гг. па ініцыятыве «Беларускай Школьнай Рады». Скліканая Радай камісія менскіх настаўнікаў утварыла некаторыя беларускія тэрміны, патрэбныя пры выкладаньні навук у пачатковай школе, якія былі надрукованы ў выданых Радай «Праграмах беларускай пачатковай школы». Гэтая праца зноў пачалася ў лютым 1921 г. у Навукова-Тэрміналёгічнай камісіі, скліканай з спэцыялістаў, добра ведаючых беларускую мову Навукова-Літаратурным Аддзелам Нар. Кам. Асьветы Беларусі, потым працаваўшай пры Акадэмічным Цэнтры. Камісія утварыла тэрміналёгію па розных галінах навукі-філёлёгічнай, матэматычнай і прыродазнаўчай. Да гэтага часу ўжо надрукованы ў журнале «Весьнік Нар. Кам. Асьвесты С.Р.Р.Б.» тэрміналёгіі: Граматыкі (1921 г. № 2, стр. 13—18, 307 тэрмінаў), Лёгікі (1922 г. № 1 (3), стр. 11—20, 386 тэр.), Арытмэтыкі [2]) (1922 г. № 2 (4), стр. 10—17, 229 тэр.), Альгэбры (1922 г. № 3—4, 140 тэрм.). Апрача таго, камісіяй апрацованы тэрміналёгіі: Ботанікі, Зоолёгіі, Геомэтрыі і інш. навук.

З пачатку 1922 г. праца па ўтварэньню тэрміналёгіі перайшла да Інстытуту Беларускай Культуры.

Зразумела, што да Інстытуту належыць і ўся агульна праца ў галіне беларускай лексыкаграфіі.

У якіх-жа кірунках магчыма працаваць у гэтай галіне?

Можна бачыць, што да гэтага часу яшчэ неапрацована навукова-крытычнага поўнага беларускага слоўніка. Істнуючыя слоўнікі Насовіча, Гарэцкага, Дабравольскага і, нават, Ціхінскага не здавальняюць. Зьвяртаючы ўвагу на гэтую акалічнасьць, акад. Е. Ф. Карскі ў сваім артыкуле, надрукованым у № 1 журналу «Вестнік Нар. Ком. Просвещения», за 1921 г. «Что предстоит сделать по белорусскому языку и литературе» выстаўляе на першы плян апрацоўку поўнага беларускага слоўніка. «Нужно зарегистрировать те богатства, какими обладает белорусский язык. При каждом слове следует отметить, свое ли это слово, или заимствованное откуда-нибудь; есть

---

1) Цікавасьць у гэтых адносінах прадстаўляе і старая праца Еўстафія Тышкевіча „Opisanie powiatu Borysowskiego“ Wilno 1847.

2) Пытаньне аб арытмэтычнай тэрміналёгіі разглядаецца таксама у арт. Л. Більдзюкевіча „Асновы беларускае матэматычнае тэрміналёгіі“, надр. у час. „Школа и Культура Сов. Белоруссии“ 1921 г., № 1—2, стр. 23—27.

ли ему соответствие в других наречиях и говорах русского языка; известно ли оно было древне-русскому языку».

Інакш кажучы, трэба апрацаваць поўны беларускі слоўнік па навукова-крытычнаму мэтаду. Такі слоўнік зусім не павінен быць толькі маскоўска-беларускім слоўнікам. Яз. Ціхінскі правільна побач з расейскім тэкстам дае тэкст польскі. Трэба было-б далучыць і тэкст украінскі.

Такі слоўнік павінен грунтавацца на доўгіх папярэдніх працах па выбарцы слоў на карткі з твораў народнай творчасьці, сабраных рознымі аўтарамі,—Шэйнам, Федароўскім, Раманавым і інш, з твораў беларускіх пісьменьнікаў, з істнуючых слоўнікаў і іншых лексыкаграфічных матар'ялаў.

«Таким образом—на думку акад. Е. Карскага,—мы имели-бы словарь живого белорусского языка».

У дапаўненьне да думкі паважанага вучонага можна дадаць, што працу над поўным беларускім слоўнікам магчыма вясьці ў двох кірунках,—як працу над слоўнікамі: а) жыцьцёвай народнай мовы і б) беларускай літаратурнай мовы. Да апрацоўкі поўнага слоўніка літаратурнай мовы можна вясьці працу над слоўнікамі адзіночных пісьменьнікаў.

На другім месцы паважаны вучоны ставіць апрацоўку, як ён кажа, «словаря старого белорусского языка», ці, трымаючыся больш сьціслай тэрміналёгіі, *гістарычнага* слоўніка беларускай мовы. Але, згодна са славамі акад. Карскага, «здесь дело обстоит значительно хуже». Вытвараньня такога слоўніка, калі ня лічыць твораў прат. Я. Грыгаровіча, выдаўшага яшчэ ў першай пал. мінулага сталецьця 10 арк. слоўніка старой беларускай мовы, а тыя матар'ялы, як напр., старыя словы ў слоўніку Насовіча, у «Материалах» Сразьнеўскага, у слоўніках Памва Берынды і Зізанія—прадстаўляюцца зусім нявыстарчаючымі*). Дзеля ўсяго гэтага, акад. Карскі кажа што «составление такого исторического словаря задача более или менее отдаленного будущего, и выполнить ее удовлетворительно может какое-либо ученое учреждение».

Зразумела, што заданьне апрацоўкі гістарычнага слоўніка не вынікае перад Інстытутам Беларускай Культуры, тым больш што да гэтага часу не зьявілася гістарычнага слоўніка нават маскоўскай мовы, ня гледзячы на двохсотлетняе істнаваньне Расійскай Акадэміі Навук.

Зусім не зьвяртае акад. Е. Ф. Карскі ўвагі па тую акалічнасьць, што пры істнаваньні больш-менш поўных беларуска-расійскага слоўніку Насовіча і беларуска-польска-расійскага слоўніка Ціхінскага да гэтага часу не зьявілася больш-менш поўных ні расійска-беларускага, ні польска-беларускага слоўнікаў; маскоўска-беларускі слоўнічак братоў Гарэцкіх і ў другім сваім папраўленым выданьні дзеля сваей непаўнаты не здавальняе нават прак-

---

*) Выданыя ў 70-х гадох слоўнічкі: *Новицкий* „Справочный словарь юридических терминов актового языка Юго-Западной Руси“ (Киев 1871) и Горбачевский. „Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского“ (Вильна 1874), згодна замячаньню акад. Е. Карскага, „явились для целей юридических и имеют мало значения для филологии.“

тычных мэт. Тымчасам, практычныя запатрабаваньні жыцьця і інтарэсы пашырэньня беларускай культуры ставяць на першы плян апрацоўку якраз такога слоўніка. Як правільна замячаюць браты Гарэцкія ў прадмове да другога выданьня маскоўска-беларускага слоўнічка, «такі слоўнічак спатрэбіцца ня толькі асобам, прызвычаеным да маскоўшчыны, але і такому беларусу, которы чытаець памаскоўску, ды ня кожнае слова так добра разумеець, як пасвойму». Трэба пры гэтым сказаць, што сабранага да гэтага часу лексыкаграфічнага матар'ялу,—матар'ялу ў названых вышэй слоўніках Насовіча, Ціхінскага, Дабравольскага, М. і Г. Гарэцкіх, рукапісах, а так сама ў зборніках Федароўскага, Шэйна і Раманава, у трудох Навукова-Тэрміналёгічнай Камісіі, будзе досыць для апрацоўкі расійска-беларускага слоўніка, каб здаволіць практычныя патрэбы.

Апрацоўка больш-менш поўнага (каля 30.000 слоў) расійска-беларускага слоўніка і пастаўлена, як першая чарговая задача слоўнікавай працы ў беларускай мове, слоўнікавай камісіяй Гуманітарнай секцыі Інстытуту Беларускай Культуры.

**М. Байкоў.**

Менск
1922—VI—5.

---

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТНОГРАФІЯ.

## Вясельныя песьні.

*(С. Мікалаеўшчына, Менскага павету. Песьні запісаны дзяўчынкай 14 год у 1912 г.).*

Сьпяваюць, як вянке ўʻюць увечар перад шлюбам, звычайна ў суботу. Вянкі ўюць дзяучаты, таварышкі маладой.

1.

Памажы, Божа, вянке віць,
Вянке віць!
Дай, Божа, маладым добра жыць,
Добра жыць!
Памажы, Божа, павіваць,
Павіваць!
Дай, Божа, маладым панаваць,
Панаваць!

2.

Размысьляйся, дзеванька,
З чаго будзеш вянке віць!
Ці з руты, ці з мяты,
Ці з чырвонае рожы?
Веце, дзевачке́, з жоўтага кракосу
Да мне маладзенькай на косу!

3.

Сягоньня сыбота--зборны дзянёчак.
Маладая дзеванька ўе з руты вяночак.
Віла, віла, з мамкаю гаварыла:
Ўжо-ж я, мамка, табе ня міла!
Ой, мілей табе, мамачка, горкае піва,
Горкая гарэлка, як я маладзенька!
Горкую гарэлку скора перабудзеш,
Мяне маладзеньку ўспамінаці будзеш!

4.

Пакінь, дзеванька, думаць-гадаці:
Пашлі дзевачак краскі рваці!
Я не пазваляю—сама пазрываю!
Нарвала красак ў абедзьве жмені.
Ой, рвала, рвала ды праклінала:
Да бадай вы, краскі, тут не радзілі,
Каб мае тапарышкі сюды не хадзілі!
Не кляні, дзеванька, не кляні, маладзенька!
Як будуць радзіці, то будзем хадзіці;
Як будуць зацьвітаці, то будзем шчыпаці!
Ня мы цябе аддаём, не твае кветкі,
Аддаюць цябе блізкія суседкі.

5.

Што-ж там за зельле--чорнае насеньне?
Учора зьвячора яна яго садзіла,

А сягоньня рана дзевачак прасіла:
Дзевачкè мае, сястрыцы мае!
Паслужэце мне сей дзень нядзелі!
Ня дзельца рабіці, а вяночкі віці,
Вяночкі віці, а песенькі пеці!

**6.**

Да тоненька сосенка, тоненька!
Затым яна тоненька, што ў бару.
Затым яна тоненька, што ў бару,
Да служыў дзяцінка каралю.
Да служыў ён, служыў, платы ня браў,
А па садзе хадзіў—краскі рваў,
А дарогаю йшоў—вянке віў.
А ў паўдарож Мінскаю палілаю пазлапаў.
Купавалі дзевачке—пе прадаў,
А сваёй дзевачцы дарма даў.
Хоць ня руцьвяны—парловы,
На тваю галоўку гатовы.
Ветрык павее—ня зьвее,
Дождж пакропіць—ня змочыць,
Маладая дзеванька ня зносіць.

**7.**

Маладая дзеванька свайго татачкі просіць:
Татачка мой родненькі, едзь у луг
Да па каліну, да па калінавы цьвяточак
Да мне маладзенькай на вяночак!
Татачка пад'язджае — калінача адцьвітае.
Татачка бліжэй, бліжэй—каліна вышэй, вышэй.
Нешчасьліва гадзіна: адцьвітае каліна!
Маладая дзеванька свае мамачкі просіць:
Мамачка мая родная, едзь у луг
Да па каліну, да па калінавы цьвяточак!
Да мне маладзенькай на вяночак!
Мамачка пад'язджае—калінача адцьвітае.
Мамачка бліжэй, бліжэй—каліна вышэй, вышэй.
Нешчасьліва гадзіна - адцьвітае каліна!
Маладая дзеванька свайго брацейкі просіць:
Брацейка мой родненькі, едзь у луг
Да па каліну, да па калінавы цьвяточак.
Да мне маладзенькай на вяночак!
Брацейка пад'язджае—калінача адцьвітае,
Брацейка бліжэй, бліжэй — калінача вышэй, вышэй.
Нешчасьліва гадзіна — адцьвітае каліна!
Маладая дзеванька свае сястрыцы просіць:
Сястрыца мая родная, едзь у луг
Да па каліну, да па калінавы цьвяточак!
Да мне маладзенькай на вяночак!
Сястрыца пад'язджае—калінача адцьвітае,
Сястрыца бліжэй, бліжэй — калінача вышэй, вышэй.
Нешчасьліва гадзіна—адцьвітае каліна!
Маладая дзеванька свайго дзяцінкі просіць:
Едзь у луг па каліну, да па калінавы цьвяточак
Да мне маладзенькай на вяночак!
Дзяцінка пад'язджае — калінка зацьвітае,
Дзяцінка бліжэй, бліжэй—калінка ніжэй, ніжэй.
Вот шчасьліва гадзіна—расьцьвітае каліна!

8.

Маладая дзеванька па Занямоньнейку ходзіць.
Капала лозу да сеяла рожу.
Тут табе, лазіца, не зімаваці,
А мне ў панойца не зімаваці!
Табе зімаваці ў клеці на паліцы,
А мне векавапі ў чужога чужаніцы!

9.

За сеньмі, сеньмі у зялёнай руце
Плакала дзеванька вяночкі ўючы!
Зачуў дзяцінка па коніка йдучы.
Чаго-ж ты, дзеванька, так сільне плачаш?
Так сільне плачаш, цяжка ўздыхаеш?
Як мне ня плакаць, цяжка ня ўздыхаці,
Калі ў цябе маладога радзімы многа,
А ў мяне маладое падарункаў мала!
Ня плач, дзеванька, ня плач, маладзэнька!
Ты будзеш дарыці, я буду плаціці:
Ты ручнічкамі, а я талярамі!

(*Сьпяваюцца перад шлюбам, як маладога ці маладую на пасад садзяць*).

10.

Благаславі, айцеп-маці,
Благаславі сваё дзіцяце!
Я-ж яго благаславіла,
Як яго парадзіла,
А яшчэ благаслаўлю,
Як на пасад пасаджу!

11.

Да ўжэ часіна, да ўжэ гадзіна,
Чаму таго пасаду няма?
Гэта з панойца, гэта з роднага
Добрага ладу нямa.
Да ўжэ часіна, да ўжэ гадзіна,
Чаму таго пасаду няма?
Гэта з мамкі, гэта з роднае
Добрага ладу няма!
Да ўжэ часіна, да ўжэ гадзіна,
Чаму таго пасаду няма?
Гэта з сястрыцы, гэта з роднае
Добрага ладу няма!

12

Да ляцелі гусачкі цераз сад,
Час табе, дзеванька, на пасад!
Што-ж вам, гусачкі, да таго?
Есьць у мяне панойцец для таго!
Засьцілайце камле, я паду!
Благаславі, панойцец, я сяду!
Да ляцелі гусачкі цераз сад,
Час табе, дзеванька, на пасад!
Што-ж вам, гусачкі, да таго?
Есьць у мяне мамачка для таго!
Засьцілайце камле, я паду!
Благаславі, мамачка, я сяду!
Да ляцелі гусачкі цераз сад,
Час табе, дзеванька, на пасад!
Што-ж вам, гусачкі, да таго?
Есьць у мяне брацейка для таго!
Засьцілайце камле, я паду!
Благаславі, брацейка, я сяду!
Да ляцелі гусачкі цераз сад,
Час табе, дзеванька, на пасад!
Што-ж вам, гусачкі, да таго?
Есьць у мяне сястрыца для таго!
Засьцілайце камле, я паду!
Благаслав. сястрыца, я сяду!

13.

Да брат сястру на пасад вядзе
Да за белую ручку,
Сільне плача, месца прача,—
Тут мая сястра сядзе!
Мой брацейка, мой родненькі,
Ці дадзела-ж я табе?
Мая сястрыца, мая родная,
Ня ты мне дадзела!
Дадзелі твае госьцейкі,
Часта частуючы,

Да што дзень, што дзень—
Усё іншыя,
Што нядзелькі—усё лепшыя.

**14.**

Раскідай, Божа, братняе жыта
Па полі па калосачку,
Як ён раскінуў маю косачку!
Беце, беце біты камень!
Агню даставайце,
Маладую застрыгайце!
Білі, білі біты камень,
Агню даставалі,
Маладую застрыгалі!
Зьбяры, Божа, братняе жыта
Па полі па калосачку,
Як ён сабраў маю косачку
Па плячах па валосачку!

**15.**

На пасад села, як рожа цьвіла;
З пасаду ўстала, як рожа зьвяла.

**16.**

Пакланяйся, дзеванька, старому
й малому!
Сваёй мамцы нізенька ў ножкі,
Абальлюць цябе дробныя сьлёзкі.

**17.**

Дзеванчын папойцец перад Гос-
падам стаіць,
Госпада Бога просіць:
Госпадзі, мой Збавіцелю!
Спусьці Ты мяне з неба,
Як цяпер мне трэба!
Паглядзеці дзіцяці, ці хораша
ўбрана,
На пасадзе ці пасаджана,
Галоўка ці зачасана.
Хвала табе, Божа, што сірочае
дзіця
Пасірочу яно ўбрана,
На пасадзе пасаджана,
Галоўка зачасана!

18.

Куды твая, дзеванька, мамка
пайшла?
Чаму табе прыбору ня прыбірае?
Чаму цябе да шлюбу не выпраў-
ляе?
Пайшла, дзевачке, за тры за-
мочкі,
Пайшла, дзевачке, за чатыры
дзярночкі.
Першы замочак—жоўты пясочак,
Другі замочак—зялёны дзярно-
чак,
Трэці замочак—новы дамочак.
Жоўты пясочак, ты адсыпліся!
Зялёны дзярночак, ты аддзярыся!
Новы замочак, ты адчыніся!
Родная мамачка, ты акажыся!
Дзіця маё мілае! Рада-б я, ня-
бога,
Да ня маю волі ад Пана Бога.

*(№№ 17 і 18 сьпяваюць сіратом пры пасадзе на пасад).*

**19.**

Цупу, конікі, цупу!
Паедзе дзеванька да шлюбу
За тую гораньку крутую,
У тую царкаўку сьвятую!

**20.**

Вымяцен садочак, вымяцен,
Зялёнаю рутай выпляцен!
Ніхто ў тым садочку ня бываў,
Адно дзяцінка з дзеванькай ў ім
гуляў.

*(Песьні, што сьпяваюцца па шлюбе).*

**21.**

Да былі-ж мы у Бога і ў Духа
сьвятога,
Да маліліся Богу і Духу сьвя-
тому.

**22.**

Ці дарага за шлюб далі?
Ці дорага за шлюб далі?
Паўтара залатога і коніка вара-
нога,
І коніка варанога і дзяцінку ма-
ладога.

**23.**

Вярні, маці, шубу,—
Едуць дзеці з шлюбу,
Адно раджонае,
Другое прысуджонае.
Раджонае піром піша,
Прысуджонае ледзьве дыша.

**24.**

Ой, знаці, знаці,
Што чужая маці!
Ня выходзіць доўга
Дзяцей сустрачаці.
Ці яна ня ўмее,
Ці яна ня сьмее?
Ці яна баіцца,
Што будуць сварыцца?

**25.**

Прыляцелі два галубочкі,
Селі, палі за столікам.
Сталі яны брукаваці,
Дзеваньцы весьці казаці.
Мае-ж вы, два галубочкі,
Чаму тагды не казалі,
Як мне рук не вязалі?
А цяпер мне сказалі,
Як мне рукі зьвязалі
Чорнаю чарніцаю,
З чужою чужаніцаю,
З вечнаю п'яніцаю!

**26.**

Маладая дзеванька,
Чаму па лугох не хадзіла,
Плакаці ня вучылася?
На дварака спадзявалася,
Мешчаніну засталася;
Мешчаніну не такому—
Дзяцінку маладому.

**27.**

Не садзіся дзяцінка бокам,
Тут табе не нарокам!
Сядзь сабе блізюсенька,
Каб было мілюсенька!

**28.**

Ўбраўся братка, ўбраўся,
Лычкам падвязаўся!
На ім боты сьвіное работы,—
Ўбраўся братка, ўбраўся!
На ім кажух з рыжых цялух,—
Ўбраўся братка, ўбраўся!
На ім шапка—сабачая лапка,—
Ўбраўся братка, ўбраўся!
Ботам тупне—сьвіньня рухне,—
Ўбраўся братка, ўбраўся!
Кажухом матне—цялуха рыкне,—
Ўбраўся братка, ўбраўся!
Шапкаю махне--сабака брахне,—
Ўбраўся братка, ўбраўся!

**29.**

Ой, зявае братка, зявае,
Велькі кусок хапае!
Яму-б было на трэйчы,
А ён хоча зараз ўперці!

**30.**

Не хадзі, сватка, не хадзі,
Сараковачку палажы!
Сараковачку залатую
Да за дзеваньку маладую.

**31.**

Дзе-ж той сватка дзеўся,
Што гля нас вярцеўся?
Дацi ён сена косіць?
Чаму-ж нас ня просіць?
Каб ён нас папрасіў,
Мы-б яму пакасілі,
Мы-б яму пакасілі
І ў копачкі палажылі.

**32.**

Ехаў сватка каля тыну,
Абарвалі чэрці чупрыну.
Да хто едзе, пытае,
Чыя то чупрына лятае.
Да хто едзе сьмяецца,
Чыя то чупрына трасецца.

33.

Наш сват па вуліцы ходзіць.
Ў застаў кажух носіць.
Па грошу зьбірае,
Маладую выкупляе.

34.

У нашага свата лысая галава,
Добра на ёй боб малаціць:
Нікуды зерне не паляціць,
Альбо ў ток, альбо ў старану.
Паб'ю свату галаву!

35.

Леве сватка, лезе,
Увесь у залезе;
Гонтамі галава зьбіта,
Саломаю барада сшыта.

36.

Да сват сваці паплёў лапці
З тоўстых лык,
Да ходзіць сваця па сенажаці,
Як індык.

37.

*(Перад выпраўкай з прыданкамі).*

Паедзеш, дзеванька, ў чужыя людзі,
Будзь ты, маладая, вумна-разумна,
Каб цябе вятроўкі не ашукалі,
Каб цябе залувіцы не асьмяялі!
Я сваёй вятроўцы—камень на вяроўцы,
Я сваёй залувіцы да чэрап гарчыцы,
Да я свайму дзевяратку адпару лапатку.

38.

Паедзеш, дзеванька, дадому,
Бяры сівую зязюлю з сабою.
Ты прыкуй яе к караваці,
Будзе яна кукаваці,
Цябе маладзеньку пабуджаці,
Бо чужая сьвякроўка ня мамка:
Ня будзе раненька будзіці,
Да выйдзе на вуліцу судзіці:
Добрая мая нявеста, добранька,
Сьпіць да яснага соўнейка!
Да ці ёй-жа дзельца ня рупіць,
Да ці яе дзяцінка ня будзіць!

39.

Да конікі рагочуць,
Да стаяці ня хочуць.
А дзеванька плача,
Да ехаць ня хоча.
А свацечка плешча,—
Пагуляйма ёшча!
А братка ня знае.
Кубкі стаўляе.

40.

Сыпце пшаніцу ў новае карыта,
Кармеце коні у велькую дарогу!
Да ў той дарозе да трое варотаў.
Ў першыя вароты месяц узыдзе,
У другія вароты соўнейка войдзе,
Ў трэці вароты дзяцінка ўедзе.
Месяць ўзыдзе— відненька будзе,
Соўнейка ўзыдзе—цяпленька будзе,
Дзяцінка ўедзе—весяленька будзе.

41.

Маладая дзеванька з двара зьязджае.
У яе мамачка да ключоў пытае:
Дзе-ж ты, дзеванька, ключы падзела?
Дзе-ж ты, маладая, іх палажыла?
У новай каморы там на прабоі,
У новай сьвятліцы там на паліцы.

42.

Прыехала дзеванька ў н ву навіну,
Зірнула маладзенька ў вішнеў сад:
Ці вісяць яблычкі ўгары?
Ці добра будзе ў сьвякрыві?
Угары яблычкаў ня відно.

У сьвякрыві дабра ня чутно.
Чырвоная вішанька пры полі,
Ня вернешся маладзенька ніколі!

43.

Сьвякроў нявехну перапівае,
Перапівае да й навучае:
Будзь ты, нявехна, вумна-разумна,
Распусьці долю па маім полю,
А прыдольлейка па застольлейку!

44.

Да ці чуеш, дзеванька,
Як па табе мамка плача?
Як зязюлька кукуе,
Як салавейка шчабеча!
К століку прылягаючы,
Цябе маладзеньку ўспамінаючы.
Па тваіх сьцежках ходзячы,
Цяжка дзела робячы!

45.

Ой, пазнаеш, мая мамачка, без дачкі!
Пазарастаюць па залавіччу казьлячкі.
Будуць людзі грыбэ з лесу насіці,
А мая мамачка з пазалавіччу лупіці.
Да будзе тое казьлячышча выдзіраць.
Да будзе мяне маладзенькую ўспамінаць.

46.

Ой, чые там прыданачкі блудзілі,
У чыстым полі дарожачку згубілі?
Вышла-выбегла маленькая падалянка:
Сюды, сюды, прыданачкі, да двара,
Тут-жа ваша зямлячачка ўведзена,
Тут-жа ваша малада дзеванька ўвезена!

47.

Шчабячы, салавейка, шчабячы!
Нам дарожачку пакажы!
Ці ў тое сяло крывое,
Ці ў тое мужыч'ё дурное?
Ці да таго двара,
Дзе нас ждуць?
Ці да тае гаспожы,
Дзе мёд п'юць?

48.

Прыехалі на мецены двор.
Вынесьце цісовы стол!
Вынесьце бочку мядочку!
Дайце нам па кубачку
За нашую галубачку!

49.

Пусьці, сватка, ў хатку!
Нашы ножкі пазяблі,
Нашы ручкі, як граблі,
Нашы зубкі лякочуць,
Да гарэлачкі хочуць.

50.

Дайце прыданкам волю,
А на кухар камору!
Для коняў стайніцы,
Для прыданак сьвятліцу!

51.

Здрыгануліся сені,
Як прыданачкі селі.
А яшчэ здрыгануцца,
Як гарэлкі нап'юцца.

52.

Адчыняце сені, хату!
Няхай вецер вее
Пад сталы, пад лаўкі,—
Цьверазенькі прыданкі!

*Падаў* **Яз. Ксяневіч.**

*Е. Ф. Раманаў.*

# Шануйце старасьветчыну.

Усякі раз, як толькі пачынаецца ў вёсцы праца на полі, даводзіцца чуць аб зробленых аратаямі знахадках такіх рэчаў, якія цяпер ня ўжываюцца. Адзін выара клявец, але зроблены не з залёза, а з каменя; другі разгорне сошкай жменю срэбных грошай з надпісамі на незразумелай дзіяцкай мове; у таго саха выцягне з зямлі залезную дзіду, або сякеру, або сьпіжарнае кола, спавітае, як вяроўка, зьзеляне́ўшае ад іржы. Часам вывырываюць гліняное судзьдзё, чалавечыя косьці, асабліва чарапы, і пры іх шкляныя каралі і сьпіжарныя «медалькі».

Больш за усё такія знахадкі сустракаюцца тамака, дзе недалёка ёсьць старыя земляныя крэпасьці—гарадцы і гарадзішчы, або старыя магілы, якія народ заве курганамі. Але сустракаюцца гэткія рэчы і у іншых мясцох—па берагох рэк і вазёр, каля балот і г. д.

За межамі, дзе земляробы больш адукаваны, кожная такая знахадка робіцца зараз-жа вядомай людзям навукі. Яны зараз-жа едуць на месца, робяць далейшыя абгледзіны, апісываюць знойдзеныя рэчы і аддаюць іх на заўсёды схоў у спэцыяльныя ўстановы—музэі, дзе ўсе жадаючыя заўсёды могуць іх бачыць.

Ня гэтак у нас. Нашы сяляне, нажаль, яшчэ ў такіх знахадках нічога не разумеюць, і амаль усе гэткія знахадкі бясьсьледна гінуць, калі не патрапяць выпадкова на вочы чалавеку з патрэбнай ведай. Знайшоўшы каменную рэч—грамада вырашае, што гэта Пярунава страла, і рэч апыняецца ў вясковай варажэі дзеля абакуліваньня цёмных людзей і, нарэшце, гінэ. Знойдзеную рэч селянін сьпяшаецца аднесьці да каваля, каб перарабіць на сашнік, або насталяваць сякеру. У каваля пераіржавеўшая рэч ад агню спаліваецца і ад першага ўдару кавалды раскідаецца на кавалкі. У гліняных судвах селянін перш за ўсё думае адшукаць скарб. Але не знайшоўшы у іх нічога, апрача зямлі або попелу з спаленымі касьцямі, узлаваўшыся бязьлітасна іх зьніштажае. Каралі ён проста давіць пальцамі, а сьпіжарныя рэчы крышыць, хочучы даведацца, з якога матар'ялу яны зроблены. Выараныя чарапы, праляжаўшы некалькі гадзін пад сонечнымі праменьнямі, псуюцца і нават зусім гінуць.

Нажаль, мала распаўсюджаны правідловыя погляды на гэтыя рэчы і ў людзей больш здукаваных. Тысячагадовыя курганы ў нас усё яшчэ лічацца францускімі або, у лепшым выпадку, швэцкімі магіламі; бронзавыя рэчы яны эдносяць да бронзавага веку, г. з. да того вельмі даўняга часу, калі чалавек яшчэ ня ўмеў апрацовываць залеза, але ўжо навучыліся каваць з мяккай сьпіжары нейкія збройныя рэчы—дзіды, сякеры без абухоў і г. д.; арабскія грошы X веку лічацца за жыдоўскія цацкі; звычайныя жаночкія шыйныя ланцужкі лічацца за рэчы княжацкай паважнасьці і г. д. З другога боку, яны дадаюць павялічаную значнасьць ня маючым ніякай вартасьці грошам Аляксея Міхайлавіча, Кацярыны II, Яна Казіміра, Жыгімонта III і г. д.

Ва ўсіх старонках ёсьць такі закон, паводле якога знойдзеныя рэчы старасьветчыны павінны адсылацца на абгляд вучоных людзей. Калі знойдзеная рэч каштоўная дзеля навукі, дык урад купляе яе, і яна робіцца ўласнасьцю дзяржавы. У іншым выпадку яе ў цэласьці вяртаюць знайшоўшаму. Але нашыя вясковыя жыхары гэтага закону ня ведаюць, а пакуль улада даведаецца аб знойдзенай рэчы, яна ўжо бывае папсована або зусім зьніштожана.

Чаму-ж гэтак дарожыць урад і вучоныя гэтымі рэчамі?

Адказ на гэтае пытаньне зробіцца зразумелым, калі мы ўспомнім тое, дзякуючы чаму мы ведаем старавечную гісторыю народаў усходу. Старавечныя эгіпцяне заставілі нам свае гіерогліфы; сірыйцы—клінопіс; народ, што завецца цяпер жыдоўскім, заставіў кнігі, якія лічацца Маісеевымі, старасьвечныя грэкі і рымляне—творы сваіх пісьменьнікаў.

Але што заставіў нам першы насельнік Эўропы, сучасьнік мамантаў, пячорны чалавек? Калі нават мы пяройдзем да эпохі, на некалькі тысячалецьцяў да нас больш блізкай, дык што мы можам сказаць аб скіфах і сарматах, жыўшых на паўдні Расеі, або нарэшце аб саміх славянах? Толькі тое, што напісалі аб іх два-тры грэцкіх пісьменьнікі, некалькі арабскіх ды летапісец Нестар.

Ядынымі дакумантамі ад гэтых народаў, ядынымі іх летапісамі засталіся нам толькі нямногалічбенныя сьляды іхніх вёсак ды іхнія магілы з некалькімі рэчамі.

Зразумела цяпер, што зьніштажаючы тую ці іншую рэч старасьветчыны, мы тым самым зьніштажаем дакумант, застаўлены нам старавечнымі жыхарамі нашай старонкі; зьніштажэньне старавечнага могільніку або гарадзішча роўна зьніштажэньню летапісу аднаго ці нават некалькі, зьмяніўшых адзін аднаго, народаў.

Злачынства проціў навукі і роднай старонкі ў гэтым выпадку ўзмацовываецца яшчэ тым, што дакуманты, і нават летапісы, заховываюцца ў некалькіх сьпісках. З зьніштажэньнем аднаго тэкст яго заховываецца, дзякуючы гэтым сьпіскам. З зьніштажэньнем-жа помнікаў старасьветчыны губляецца ўсякая магчымасьць даведацца аб гісторыі племя, жыўшага ў гэтым краі, як з зьніштажэньнем курганных чэрапаў немагчыма ўстанавіць нацыянальнасьць народу, насыпаўшага курганы.

Вось чаму адукаваны край і людзі навукі не шкадуюць сродкаў і моцы, каб назьбіраць магчыма болей рэчаў старасьветчыны, што засталіся ад тых адлеглых часоў: гэта нямыя, але красна моўныя апаведачы аб мінулых часох, ад якіх у нас нічога больш не засталося. Іх зьбіраюць у музэі, клясыфіцыруюць, і шляхам параўнаньня, з дапамогай іншых навук: краніолёгіі, топаграфічных назваў, мовы народу, гісторыі і г. д.—прыходзяць да таго ці іншага вываду ў адносінах да першых насельнікаў краю, устанаўліваюць іхні нацыянальны тып, межы іх расьсяленьня, культурнасьць, адносіны да іншых народаў і г. д.

Нажаль, у нас наогул, надта мала музэяў (Віленскі, пры публічнай бібліятэцы, два Магілёўскіх і Вітабскі). Ды і тое, што ў іх ёсьць, дзякуючы невялікаму ліку, зьяўляецца толькі беднымі радкамі з вялікай кнігі аб мінуўшых тысячалецьцях нашых продкаў. Бяда гэта ўзмацняецца яшчэ тым, што большасьць музэйных рэчаў патрапілі ў музэй выпадкова, нібыто падарункі, ахвяры, без апісаньня яны зусім няцікавы і некарысны. І гэткіх-та рэчаў у музэях, як гэта ўсе кажуць, дзевяць дзесятых!

Вось чаму мы павінны даражыць кожнымі зноў знойдзенымі рэчамі нашай старасьветчыны і прымаць усе заходы да выратаваньня і ад зьніштажэньня. Пасыўныя адносіны адукованага чалавека да гэтай справы павінны лічыцца ганебнымі, як адмаўленьне ад сьвядомых адносін да пакінутага вякамі прамінулага, як дапамога да бясьсьледнага выкасаваньня лічбіны з лічбіны магчымага ў будучыне капіталу веды.

У гэты час адна толькі навука працягвае сваю руку дапамогі дзеля выратаваньня на карысьць пакаленьням няпрызнанага грамадзянствам багацьця.

Гэтым нарысам мы маем мэтай гукнуць на дапамогу навуцы культурную моц грамадзянства і даць галоўныя рукавадзячыя паказаньні чытачом, якія-б дапамаглі ім орыентавацца ў выпадку знаходкі старасьветчыны.

Перкл. А. Г.

# ПАСЬМЕРТНЫЯ ЎСПАМІНЫ.

## ЯДВІГІН Ш. (АНТОН ЛЯВІЦКІ).

† 24. II. 1922 г.

Антон Лявіцкі быў патомкам старога роду беларускай шляхты. Як сьведчаць старыя дакуманты, Лявіцкія мелі вялікія зямельныя маёнткі ў Меншчыне і Віленшчыне, але паволі ўсё гэта пайшло ў нябыцьцё, і ўжо бацьку нашага пісьменьніка астаўся толькі невялічкі хвальварак у Віленшчыне.

Бацька Ядвігіна Ш., Ян Лявіцкі, доўгі час служыў на вояннай службе і быў афіцэрам падчас вайны Расіі з туркамі. У часе паўстаньня, каб не пайсьці, як расійскаму салдату, проці паўстанцаў, ён выйшаў у адстаўку. У скорым часе пасьля гэтага ён ажаніўся з Вольгай Валіцкай. У той час Ян Лявіцкі служыў у маёнтку Дабосьня, Магілёўск. губ. Рагачоўск. павету, які належыў тагды да Булгака, і меў там пасаду кіраўнічага.

У гэтай Дабосьні на Магілёўшчыне ў 1869 годзе радзіўся Антон Лявіцкі. Там-жа ён правёў і першыя годы свайго дзяцінства.

З Дабосьні бацькі Ядвігіна пераехалі ў маёнтак Першаі, на Меншчыне, графа Тышкевіча. Там Ян Лявіцкі меў пасаду падлоўчага (па лясной часьці). Адтуль малы Ан. Лявіцкі паступіў у Менскую гімназію, але, не ня скончыўшы, паехаў у Маскву, дзе, падгатаваўшыся, паступіў на мэдыцынскі факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. У часе забурэньняў у ўнівэрсытэце быў арыштаваны і сядзеў у Бутырскай турме, а пасьля ў Петрапаўлаўскай крэпасьці.

Да гэтага часу адносіцца яго вядомы пераклад на беларускую мову Гаршына «Сыгнал».

Выйшаўшы з «Петрапаўлаўкі» А. Лявіцкі ў унівэрсытэт не вярнуўся, а здаў экзамен на аптэкарскага практыканта і паступіў на практыку ў вадну з Маскоўскіх аптэк. Атрымаўшы званьне памоцніка правізара, А. Лявіцкі вярнуўся ў Радашковічы, Віл. губ., дзе паступіў на службу ў мясцовую аптэку. Адтуль яму было блізка да свайго хвальварку, дзе гаспадарыла яго заўдавеўшая маці.

Слабае здароўе не пазволіла яму доўга служыць у аптэцы. Ён пакінуў

аптэку і праз нейкі час служыў у хаўруснай краме ў Радашковічах. У гэтым часе (ў 1895 г.) ён ажаніўся з Люціяй Гнатоўскай і яшчэ пару лет пражыў у Радашковічах, служачы ў памянёнай краме.

Да літаратурнай працы тага часу належыць шмат вершаў, апавяданьняў вершамі і прозай, большая частка якіх яшчэ й цяпер ненадрукована. Часьць літаратурных твораў таго часу нябожчык хацеў перарабіць, часьць лічыў зусім нявартымі ўвагі і дзеля таго ня меў іх нават запісаных. Да такіх астатніх, як прыклад, можам назваць яго прамову пабеларуску, на разьвітаньне д-ру Яну Оффэнбэргу, які выяжджаў з Радашковіч. Да твораў гэтага часу належыць і яго п'еса «Злодзей».

У 1897 г. А. Лявіцкі з сям'ёй пераехаў на жыцьцё ў свой хвальварак. Тут ён з замілаваньнем займаецца садаўніцтвам: засадзіў вялікі фруктовы сад, абсадзіў свой дом ліпамі, клёнамі і рознымі другімі дрэвамі, пазасаджаваў у садзе альтаны і алеі. Але побач з гэтым, ён ня кідае і літаратурнай працы.

У 1903 годзе ён выяжджае ў Вільню, дзе супрацоўнічае ў мясцовых расійскіх газэтах. На жаль, твораў гэтага часу не захавалася: яны згінулі ў часе разгрому у 1917 г. хвальварку Лявіцкага.

Праз год А. Лявіцкі вярнуўся з Вільні да хаты. Тут ён супрацоўнічае ў Менскіх расійскіх газэтах («Бѣлорусскій Вѣстникъ»), у віленскім польскім тыднёвіку «Zorza Wileńska» і др.

1906 год застае А. Лявіцкага дома, а першае друкаванае слова пабеларуску знаходзіцца зараз-жа ў яго хапе. Да гэтага і крыху ранейшага часу належыць знаёмства Ядвігіна з Я. Купалам, які заўсёды лічыцца тут жаданым госьцем.

На старонках «Нашае Нівы» адными з першых зьяўляюцца творы Ядвігіна Ш. Творы гэтыя добра знаёмы ўсёй чытаючай Беларусі, і дзеля гэтага мы затрымлівацца на зьмесьце яго твораў ня будзем. А. Лявіцкі пасылае матэр'ялы то з хаты, то выяжджае ў Вільню, дзе супрацоўнічае у «Нашай Ніве», вядзе с-гасп. месячнік «Саху», а праз нейкі час вядзе фактычнае рэдактарства газэты «Biełarus». Гэты пэрыяд—найболып пладавіты ў яго літаратурнай працы: ён напісаў шмат апавяданьняў, цікавых дапісаў, с-гасп. артыкулаў і брашур. У гэтым-жа часе выйшлі з друку і яго тры кніжкі—перш невялічкая поэма—«Дзед Завала», потым «Бярозка» і «Васількі»—зборнікі апавяданьняў.

Увесну 1914 г. Антон Лявіцкі пераяжджае ў Менск, дзе рэдагуе «Саху» і «Лучынку». Вайна спыняе гэтыя выданьні, але А. Лявіцкі застаецца ў Менску, каб утрымаць «Беларускую Кнігарню», адзінае ў той час вогнішча беларускага слова і думкі. Улетку 1915 г. арганізуецца ў Менску, галоўным чынам заходамі і працай Ядвігіна, «Беларускае Т-ва помачы ахфярам вайны».

Увесь цяжкі час з 1914—па 1917 год, чорны час уціску і безнадзейнасьці, А. Лявіцкі разам з маленькай жменькай культурных беларускіх працаўнікоў, згуртаваных у Менску адным клічам любасьці да бацькаўшчы-

ны, стараецца, як мага, падтрымаць «беларускае вогнішча». Зарабляючы на старане на кусок хлеба (быў кіраўніком «Минским Центральным Бюро Труда», кіраваў «починочными мастерскими по военному обмундированию» і др.), ён усе вольныя часіны ахвяроўвае працы на беларускай ніве. Ён працуе ў «Бел. Т-ве», арганізоўвае сталоўкі, ставіць спэктаклі, у якіх сам іграе на сцэне, стараецца падтрымаць беларускае друкаванае слова. гак, яго коштам і заходамі была выдана кніжачка «Беларускія Жарты», некалькі с.-г. брашурак і др.

У той час А. Лявіцкі галоўным чынам мабыць і схапіў зародак тае страшнае хваробы, якая зьвяла яго ў магілу: навала працы, цяжкія матар'яльныя варункі, нездаровая кватэра—вот гэтыя галоўныя недахваты жыцьця ўсіх, а прынамсі большасьці нашых культурных і палітычных працаўнікоў,—уходалі яго здароўе, падкасілі сілы.

Яшчэ ў пачатку рэвалюцыі 1917 г. А. Лявіцкі працуе падаўнейшаму: выступае на ўсякіх зьездах, мітынгах, уваходзе як сябра ў склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Але здароўе яго ўсё часьцей западае. Зіму 1918 г. ён праляжаў у Менскім шпіталі; вясною, крыху ачуняўшы, вярнуўся да хаты.

Здавалася, што здароўе А. Лявіцкага пайшло на папраўку. Ён, седзячы дома, зноў пачаў займацца літаратурнай працай: супрацоўнічае ў газэце «Беларусь», дзе пачаў друкаваць адну з вялікшых сваіх рэчаў, повесьць «Золата», пачаў прыводзіць да парадку сваё «Студэнцкія ўспаміны», узяў некалькі перакладаў.

Але здароў'е яго зноў аслабела і, зусім нядужы, ён выехаў пад восень 1920 г. ў Вільню, каб ужо адтуль не вярнуцца.

«Лічу я дні і гадзіны, калі вярнуся да хаты»—пісаў ён адтуль жонцы:—«яшчэ можа дасьць Бог з вамі ўбачыцца»...

Калі-ж граніца разьдзяліла Вільню з бацькаўшчынай А. Лявіцкага, надзея на паварот да хаты мабыць аслабела. У адным пісьме, атрыманым выпадкова, праз дзесятыя рукі, ён пісаў дзецям:

«Бедныя вы мае гаротнікі, як вы даеце сабе рады? Шануйце, дзеці, маму—бо больш ужо ў вас няма нікога на сьвеце»...

А ў пачатку марца 1922 г. ў Менску атрымаліся весткі, што Ядвігіна Ш. ня стала.

Прымусовая разлука з сям'ёй, неспакой і цяжкія ўмовы жыцьця, заранье зьвялі яго ў магілу.

Вечная памяць табе, цярплівы працаўнік на роднай ніве!

**Ванда Лёсік.**

## ЯДВІГІН Ш. (АНТОН ЛЯВІЦКІ).

У Вільні 24 лютага сёлета, 1922 г., памёр беларускі пісьменьнік і дзеяч Ядвігін Ш., уласнае імя яго Антон Лявіцкі. Памёр ён ад гарлавых сухот, на бальнічнай насьцелі, далёка ад любімае сямейкі.

Зноў беларускае грамадзянства з вялікай скаргай адмеціла ў душы сваёй цяжкую, нічым незамянімую страту.

Халодная зямля прыняла ўжо навек агнявую душу аднаго з лепшых сыноў сваіх, аднаго з тэй арлінай нашаніўскай сям'і, якая першая пачала змаганьне за долю шчасьлівую дзеткам патомным, за край наш бедны, край наш родны, за слова беларускае, сталецьцямі загнанае ў падпольле.

Яны, гэтыя першыя ластаўкі волі народнай, праваднікі вялікай ідэі адраджэньня заняпаўшага беларускага народу—ўміраюць адзінока, часта далёка ад роднай сям'і, ад бацькаўшчыны мілай, так адзінока памёр і Іван Луцкевіч.

Родная душа ня схілілася і над пасьцеляй Ядвігіна Ш. Дачка пісьменьніка, Ванда Лесік, вельмі любімая ім, сама выдатная беларуская дзяўчына, у свой час, нічога не магла расказаць аб апошніх днёх жыцьця нябожчыка; толькі горкія сьлёзы каціліся з яе вачэй, і гэты сум яе, ёсьць сум і наш.

Сумна чуць, як адзінока, на бальнічнай пасьцелі ўміраюць лепшыя беларускія дзеячы і пісьменьнікі ў гэты цяжкі час падзелу нашае бацькаўшчыны.

Не полем і лясамі прайшла граніца наша з Польшчай, а прайшла яна па сэрцы і душы жывога беларускага народу. Бацька адзелен ад сына, а сын ад бацькі. Праўду кажа Якуб Колас у сваім адным з лепшых вершаў «Беларускаму народу», зьмешчаным у «Водгульлі»—

Хіба забудзем мы тыя межы,
 Што правадзілі бяз нас?
Раны глыбокі, ох, яшчэ сьвежы!
 Помсты агонь не пагас.
Змоўкні-жа, сьціхні, песьня пакуты!
 Заварушыся, наш край!
Люд! Вызваляйся, рві свае путы,
 Новыя песьні сьпявай!

Але ўжо ня будзе сьпяваць новыя песьні Ядвігін Ш. Навек заплюшчыў ён вочы і не пабачыць ужо яму таго часу, калі злучыцца беларускі народ ў адну магутную сям'ю.

Ядвігін Ш., як пісьменьнік, шырока вядомы беларускаму грамадзянству. Але творы яго, параскіданыя па журналах і газэтах, далёка ня ўсе вядомы шырокаму кругу чытачоў. Апрач некалькіх расказаў гумарыстычнага зьместу, сабраных у зборніку «Васількі», да яшчэ другіх некалькіх апавяданьняў, з якіх «Гаротная» зьвярнула на сябе агульную ўвагу, грамадзянства беларускае нічога ня мае перад сваімі вачамі з яго твораў.

А паміж іншым, як вядома, ёсьць у Ядвігіна Ш. такі выдатны твор, як «Дзед Завала», аб якім толькі ведаюць з рэцэнзыі. У гэты час адраджэньня беларускае культуры, у часы, калі прыходзіцца яшчэ не на жыцьцё, а на сьмерць змагацца з ворагамі беларускага друкаванага слова, неабходна патрэбна выдаць зборнік усіх твораў Ядвігіна Ш.

Праўда, што за апошнія часы выдаецца ўжо шмат чаго, дзякуючы бязупыннай працы беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў.

Будзем спадзявацца, што і творы Ядвігіна Ш. будуць выданы ў хуткім часе.

*Ядвігін Ш., як грамадзянскі дзеяч.*

Гэты жывы, заўсёды шукаючы праўды чалавек, жыў толькі Беларусьсю і для Беларусі. Усе лепшыя маладыя гады свайго жыцьця ахвяраваў ён на цяжкую, тагды вельмі няўдзячную працу нацыянальнага і культурнага адраджэньня беларускага народу.

З моманту заснаваньня «Нашай Нівы», ён быў там адным з бліжэйшых супрацоўнікаў. За ўвесь час яго працы на працягу больш дваццацёх гадоў, ён бязупынна працаваў то ў культурных, то ў бежанскіх, то ў палітычных беларускіх арганізацыях. Ня было той беларускай газэты, у якой-бы ён ня прымаў удзел, ні той арганізацыі, дзе Ядвігін Ш. не займаў-бы пачэснага месца. Хоць сілы пісьменьніка былі вельмі слабыя, а здароўе моцна парушана галодным і халодным жыцьцём і цяжкай працай.

Здаецца, ён не належыў ні да якой палітычнай партыі. Аднак-жа гарачая душа яго заўсёды была з тымі, хто ў адпаведныя часы агнявога паўстаньня проці ўгнетацеляў змагаўся за волю для свайго народу, за шчасьце агульна-людзкое.

Праўда, набожчык не спадзяваўся, што так скора просты беларускі селянін і работнік забіты і загнаны панамі і чыноўнікамі, абдураны папамі і ксяндзамі, пакінуты сваёй уласнай інтэлігэнцыяй,—зможа нарэшце разьбіць ланцугі няволі і зразумець сваю адвечную нацыянальную крыўду.

Ён ненавідзеў стары парадак, але ня верыласія яму, што новае жыцьцё пабудуецца разумна. Нямала спрачаўся ён з намі, маладым пакаленьнем, шмат чаго чорнага казалі мы адзін другому. А толькі наступаў час шырокай працы, і ён, стары, сьмела йшоў з намі, гарачымі і маладымі галавамі. У такія часы і ён пачынаў верыць у народныя сілы. Пакідала яго і звычайная асьцярожнасьць, ня тая трусьлівая асьцярожнасьць, якая прымушае нягодных і жалкіх людзей адыходзіць ад беларускага руху з страху загубіць сваю кар'еру,—а асьцярожнасьць мудрага, пражыўшага жыцьцё барацьбіта. Ён быў з намі, ён сьветла верыў і з вялікім захапленьнем да бацькаўшчыны зноў прымаўся за справу беларускую.

*Пісьменьнік сярод сям'і.*

Як сем'яніна і чалавека, пазнала я Ядвігіна Ш. летам 1918 году, калі мне здарылася правясьці больш месяца сярод яго сям'і на хутары Карпілаўцы, у 30 вярстох ад Менску.

Мы выехалі разам з пісьменьнікам з Менску на хурманцы раніцай у ясны вясеньні дзень. Ехаць трэба было па дзіўнай мясцовасьці. Прыгожыя узгорачкі, прыветныя хутаркі з белымі вакенцамі і садзікамі спатыкалі нас на кожным кроку, а перад вачамі шырока і далёка раскінулася мора лясоў.

Сьвежае паветра, сіняе неба, усё гэта выклікала ў душы жывую радасьць жыцьця.

Пісьменьнік глядзеў кругом сябе радаснымі сьветлымі вачамі. Усякую птушачку, усякае дрэўца праводзіць ён любоўным словам.

— Угледзьцесь, казаў ён мне, у гэту роскаш, у гэтае нязвычайнае харастко нашай беларускай прыроды! Як яна міла, як прыгожа! Колькі ў ёй ціхага задуменьня, а разам з тым нейкага ўнутранага няспыняючагася ні на хвілінку жыцьця.

Здаецца, што і людзі і сосны, і хаткі думаюць сваю глыбокую патаемную думку, захаваную на дне душы ад усіх сваіх ворагаў. А гэта мора лясное! Гэта таямніца гушчароў!—Гдзе ёсьць другая такая старонка?!—

І я пачынала глядзець кругом сябе другімі вачамі. Поэты на тое і родзяцца на сьвет, каб абуджаць у душы самыя лепшыя струны.

Кожны куточак свайго невялікага хутару паказаў мне пісьменьнік. Павёў на сваё беднае пяскаватае поле. Рэдзенькае жытца, якое трэба было няжаць, а касіць, жаўцела на неўраджайнай камяністай зямельцы.

— Гляньце к лесу,—зьвярнуўся пісьменьнік да мяне,—вы сабе нават уявіць ня можаце, колькі тутака, над тымі каменьнямі, мною з сынам поту праліта, колькі сіл палажана. Вось гэтыя кучы каменьня мы ўдвох паскладалі, падымаючы з поля кожны каменьчык. А вялікія каменьні па некалькі пудоў узвалівалі на калымажку і вывозілі сюды.—

Я паглядзела на гэта зборышча вялікіх, сярэдніх і малых каменьняў... і сэрца мае сьціснулася.

— Гэтае каменьне падарвала маё здароўе, казаў ён далей.—Мой жывот баліць ужо шмат гадоў. А першыя болі пачуў я, цягаўшы гэтае каменьне.—

Цярністы шлях твой, думала я, слухаючы расказ аб цяжкай працы, аб галодным жыцьці пісьменьніка. Нездарма-ж разумееў ты гэтак добра гора народнае і з гэтакай цёплай задушэўнасьцю апісаў яго ў сваёй «Гаротнай».

Вечныя недахваткі зрабілі тое, што малодшыя дзеці пісьменьніка засталіся без асьветы. А жонка ласкавая, ціхая, як анёл, з чулым сэрцам разьвітым розумам кабета, усе жыцьцё сваё паклала на шэрую цяжкую працу, даглядаючы без ядынага папроку свайго вечна занятога беларускай справай і хворага мужа, нясучы на сваіх кволых плячох і ўсю гаспадарку і клопаты аб сям'і.

Добрым прыкладам можа паслужыць гэта няпрыкметная гэроіня для тых жанчын, якія адрываюць сваіх мужоў ад беларускай працы дзеля сваіх асабістых выгад. Ня ўспоміць іх народ беларускі добрым словам. А такіх як жонка Ядвігіна Ш., ніколі не забудзе ўдзячны наш народ.

Ніколі не забуду я тых ціхіх вечараў, якія мы праводзілі на ганачку каля хаты пісьменьніка.

— Усё гэта пасадзіў я сам,—казаў ён.—І гэты сад, і клёны, і бэз, і маладзенькія дубкі.

Пасадзіць дрэва—гэта значыць павялічыць хараство прыроды. Мой

невялікі хутар сваім характвом будзіць зайздрасьць нават у багатых памешчыкаў.

Нішто мяне гэтак ня радуе, як пільнаваць узрост маладзенькага дрэўца. Пэўна, ад дзядоў і прадзедаў засталася мне гэтая нейкая містычная любоў да дрэва.

Як нажом па сэрцы рэжа мяне, калі я бачу, як безгаловыя людзі глумяць дрэўца. Я заўсёды замазываю гэтыя раны на дрэўцы ня толькі ў садзе, але і ў лесе.

Баліць мае сэрца за наш беларускі лес. Паглумяць яго чужаніцы. Страціць тады наша Беларусь сваю дзіўную жывую вопратку. Лес--кармілец нашае зямелькі. Бяз лесу зямля наша высахне і запусьцее, рэчкі павысахнуць. Пяскі запануюць, і хлеба ня хопіць народу. Ой, як-бы трэба зразумець народу, што лес--бацька наш, і ня можна глуміць яго без вялікай патрэбы!—

Гэткі быў завет пісьменьніка, над гэтымі славамі трэба ўсім нам думаць і ніколі іх не забываць.

У халодныя вечары, калі сядзела ўся сямейка ў хаце, пісьменьнік расказваў аб сваёй працы ў «Нашай Ніве», бо ведаў, як гэта моцна цікавіць мяне. Успамінаў ён аб Янку Купале, як той першы раз прыехаў да Вільні.

— Саўсім яшчэ малады чалавек быў і такі ціхі, а яго вялікія здольнасьці да поэзіі і тагды ўжо мы ацанілі. Зьмітра Жылуновіча мы вызвалі таксама ў Вільню, прачытаўшы яго некалькі вершаў.

Наогул, мэтай рэдакцыі «Нашай Нівы» было згуртаваць каля сябе ўсе культурныя беларускія сілы і прабудзіць сьвядомасьць сярод несьвядомых беларускіх мас і інтэлігэнцыі.—

Аб Цётцы Пашкевіч ён гаварыў з нейкім натхненьнем. На худым твары яго загараўся жывы румянец, а вочы блішчалі чыстым агнём вялікага пачуцьця да першае беларускай рэвалюцыянэркі, якае жыцьцё сваё ахвяравала свайму простаму народу беларускаму.

За некалькі дзён да майго ад'езду пісьменьнік быў вельмі хворы. І трэба было бачыць, як жонка яго, гэты анёл-храніцель нашага пісьменьніка, не адыходзіла ад яго, па тры разы ў дзень рабіла яна яму ванны, цягаючы з надворку вялікія чугуны з гарачай вадой. Яе маленькая, худзенькая хвігурка то зьяўлялася ў хаце, то зноў счазала на дварэ... Гэтак цягнулася многа дзён. Трэба заслужыць такую любоў, каб на працягу многіх гадоў гэтак любілі і даглядалі чалавека. І ўся сям'я жыла і дыхала пісьменьнікам і дзеля пісьменьніка.

Ужо фурманка чакала мяне каля ганку, а добры гаспадар усё яшчэ ня пускаў мяне ехаць. Ён ужо апраніўся і вельмі прасіў мяне яшчэ пагасьцяваць у іх. Але праца чакала мяне ў Менску, і хоць з вялікім жалем, але я мусіла пакінуць прыветную сямейку. І ніколі ня думала я тагды, што бачу Ядвігіна Ш. у апошні раз. Памёр... але памяць аб ім не памрэ ў сэрцы беларускага народу.

²/₁—1922 г. **П. Бадунова.**

## ПАМЯЦІ А. БУРБІСА.

† 20/III—1922 г.

...І няма на сьвеце так вялікай меры,
І няма на сьвеце так каваных дзьвераў,
Каб хоць на часіну ў будні ці ў нядзелі
Беларусь са мною разлучыць пасьмелі.

Гэткімі цьвёрдымі, як сталь, а гарачымі, як веснавое сонца славамі лепшага беларускага поэта Я. Купалы пачну я свае ўспаміны аб А. Бурбісе, магілка якога яшчэ стаіць перад нашымі вачамі і выклікае цяжкія думкі аб яго недакончанай працы, аб яго ранней часу загубленым жыцьці.

І сапраўды, няма такой меры, якую можна было-б прылажыць да яго бязьмерна гарачага пачуцьця для справы народнай. Ні каваныя дзьверы, ні граты вастрожныя не адарвалі яго ад працы для роднай, загубленай ворагамі, старонкі. Ні ў будні ні ў нядзелі ня ведау ён спакою, дбаючы толькі аб адным, як ратаваць сваю бацькаўшчыну ад заняпаду, ад цемры і зьдзеку.

І ня можа быць такой меры, якая-б паказала, як моцна кахаў ён народ свой. Здаецца, ніколі ў яго ня было іншай мэты, іншага пераконаньня, як толькі жаданьне адкрыць вочы свайму люду на яго праўдзівае становішча, падняць яго—цёмнага забітага, абдуранага—да вышыні поўнай вольнасьці і разуменьня агульна-чалавечых інтарэсаў. Вывесьці народ свой на шлях сьветлага і шчасьлівага істнаваньня—гэта галоўная мэта яго кароткага поўнага працы, жыцьця.

І ўсё-такі А. Бурбіс ніколі ня быў тым нацыяналістам-шавіністам, які, аплюшчыўшы вочы на ўсе агульна-чалавечыя і сацыяльныя пытаньні, жыве толькі аднымі нацыяналістычнымі думкамі. Ён ніколі ня быў падобен, напрыклад, на тых польскіх сацыялістаў, якія для мэтаў нацыянальных кінулі пад ногі ўсе сацыяльныя пытаньні, усе добра - суседзкія адносіны. Гэткія сацыялісты-шовіністы паўна-ж вядуць да згубы свой нарад. Не такім быў наш выдатны палітычны дзеяч. Ён любіў свой народ, але любіў яго разумнай, сьветлай любоўю, якая не перашкаджала яму любіць чалавецтва.

Гэты маленькі ўзростам чалавек з вялікай жывой душой рупліва ўзіраўся сьветлымі, поўнымі жыцьця і розуму вачамі ў кожнага, хто называў сябе беларусам. Цьвёрдым, громкім голасам, нязвычайна моцным для яго маленькай хвігуркі, ён проста ставіў пытаньне:

— Ты хто? Мо' ты за грошы любіш свой народ? Можа толькі з карысными мэтамі падыходзіш да справы агульнай?—

І гора таму, каго яму ўдавалася злавіць на месцы праступку. Няшчадна кляйміў ён яго самымі ганебнымі, самымі цяжкімі словамі:

— Гэта злодзей!—грымеў ён. — Гэта той, хто, як Каін, забівае на сьмерць свайго брата-беларуса, аддаючы яго на загубу то масkалю, то паляку, то пану, то чыноўніку...

Сацыяльныя мэты ніколі ня ставіліся ім на апошні плян, як рабілася і робіцца заўсёды шавіністамі. Але ніколі ён так-сама не забываўся таго, што нацыянальны ўціск ёсьць загуба душы народнай, што вызваленьне нацыі з уціску ня менш патрабуе энэргіі і працы, як і дасягненьне сацыяльнай роўнасьці. Ня толькі зямля патрэбна народу, але патрэбна яму і поўная свабода, як нацыяльная, так і палітычная. Свабодная душа А. Бурбіса не магла выносіць ніякога ўціску. Гэтым і тлумачыцца тое, што ён часта быў за-партыйным.

*Першае знаёмства.*

Першы раз спаткалася я з А. Бурбісам у Маскве, у 1917 г. Туды прыехалі мы з З. Жылуновічам з Петраграду, на зьезд Бел. Сац. Грамады. Старыя сябры Б. С. Г., Бурбіс і Дыла, былі чамусь невдаволены рэзалюцыямі першага пасьля рэвалюцыі зьезду Б. С. Г., які адбываўся вясною 1917 г. ў Петраградзе. І хаця ўжо быў выбраны Ц. К. партыі, мы ўсёт'кі не адмовіліся паехаць на той зьезд, які хацелі склікаць старыя заснавацелі Б. С. Г. Мы пастанавілі не пярэчыць новым выбарам Ц. К., каб толькі пагадзіць і старых і маладых працаўнікоў. Чакалі мы ад А. Бурбіса вялікай буры. Усю дарогу мне толькі і казалі: «Вось будзе Бурбіс лаяцца! Ну, і дасьць Бурбіс дыхту!»

Да гэтага часу я ня ведала Бурбіса, толькі чула аб ім, як аб шчырым і вельмі гарачым чалавеку, які аддае і аддаваў усё сваё жыцьцё для працы, як беларускі сацыяліст.

У Маскву тады прыехалі з Менску Прушынскі (Алесь Гарун) і Смоліч. Але наогул людзей сабралася мала, і зьезд не адбыўся. Мы ўсе затрымаліся на кватэры ў Бурбіса. Позна вечарам зьявіўся і Бурбіс,—ён некуды выяжджаў і яго ня было ў Маскве. Шпаркімі крокамі ўбег ён у пакой.

Маленькі, жывы, з бледым тварам, маленькімі і далікатнымі, як у кабеты, рукамі і рыжаватымі валасамі на аблысеўшай галаве,—ён на першы погляд рабіў ня надта прыемнае ўражаньне. Але трэба было яму толькі загаварыць, як адразу рабілася на душы радасна і весела. Перад вамі стаяў чалавек з гарачай, жывой душой, з дзіўным, натхнёным каханьнем да ўсяго жыцьця.

Яго глыбокая любоў к тым абяздоленым, хто сваім мазалём корміць сьвет, адразу адкрывалася перад вамі і лілася ракой прамоў, поўных моцы і характва. Часта перасыпаў ён сваю прамову сьмешнымі жартамі, цікавымі народнымі прыказкамі, што яшчэ больш давала сьвежасьці яго думкам.

— Дык вось ён, той Бурбіс, аб якім я гэтак многа чула —думала я, пільна ўслухіваючыся ў яго агнявыя словы.—Ён сапраўды шчыра хоча дабра народу, не здарма-ж ён сябра першай беларускай рэвалюцыянэркі, Цёткі-Пашкевіч, арганізатаркі Б. С. Г.

Выказаўшы ўсе сваё думкі, палаяўшы тых, хто здаваўся яму некарысным для працы, адзначыўшы ўсе нашыя абмылкі, ён нарэшце ўгаманіўся і стаў слухаць нас.

Пад канец вечара мы ўжо добра зразумелі адзін другога, і доўга яшчэ ў познюю ноч гаварылі і дзяліліся свамі думкамі.

*На Усебеларускім Бежанскім Зьезьдзе.*

Другі раз спаткаліся мы з Вурбісам на Ўсебеларускім Бежанскім Зьезьдзе, у Маскве. Зьезд гэты быў сабраны пад кіраўніцтвам вядомага беларускага дзеяча, Язэпа Васілевіча, пры блізкім удзеле А. Цьвікевіча, Ф. Турука і іншых беларусоў, якія жылі пад той час у Маскве, і жадалі дапамагчы сваім няшчасным уцекачом, раскіданым па ўсёй Расеі.

Добрая мэта зьезду надта зацямнялася непаразуменьнямі паміж беларускімі палітычнымі партыямі, якія зьявіліся на зьезд.

Бел. Сац. Грамада адразу папалася пад град абразьлівай падазрэнасьці. Пасьля маіх прамоў на зьезьдзе некаторыя маскоўскія беларусы пыталіся ў мяне пашпарту, каб пераканацца, ці я сапраўды праваслаўная, а не каталічка, падасланая езуітамі, як яны казалі.

Для іх вуха здавалася дзікім, што Беларусь—гэта не Расія, што беларусы, як нацыя, маюць права на вольнае незалежнае істнаваньне.

— Гэта правакацыя! Гэта правакацыя!—неслось з усіх куткоў.—Нашто нам здалася беларуская мова? Гэтая грамада пасланая палякамі!—

Бедныя людзі! Як горка было ім пасьля, калі яны ўбачылі сваю абмылку! Як сорамна ім было пасьля глядзець нам усім у вочы!

Алесь Прушынскі, які толькі што вярнуўся з ссылкі з Сібіры, цэлымі гадзінамі надрываў свае хворыя грудзі, каб пераканаць зьезд, што мы тут усе аднолькава беларусы, што мы ўсе роўна хочам шчасьця народу, хаця адны з нас каталікі, а другія—праваслаўныя.

Язэп Дыла стараўся ўсіх прымірыць, прывясьці к агульнаму паразуменьню.

А. Бурбіс, як і заўсёды, заставаўся верным сабе. Ён, як пярун, грымеў на ўсю салю. Здавалася, яго маленькая хвігурка некудысь счэзла, а толькі адзін голас, поўны гневу і моцы грыміць і пужае тых русыфікатараў, якія сумысьле зьявіліся сарваць зьезд, каб ня даць магчымасьці беларусам арганізавацца.

Бурбіс зьбірае нас на фракцыйны сход, ён дапамагае мне апрацовываць нашы партыйныя рэзалюцыі. У часы перарыву ён, як бура, носіцца паміж дэпутатамі зьезду і ўсюды чуецца яго голас:

— Гэта, гэта русыфікатары, чорная сотня, яны зноў хочуць Міколу II на трон пасадзіць. Яны дапамагалі рускім царом душыць беларусоў, дык што ім трэба на гэтым беларускім зьезьдзе?

Толькі вялікая тактоўнасьць старшыні зьезду Язэпа Васілевіча, які горача стараўся прымірыць усе напрамкі, зрабіла тое, што з'езд не разваліўся, а дакончыў сваю цяжкую працу.

*На вечарынцы.*

Было гэта летам у 1918 г. ў часы нямецкай акупацыі. Шмат людзей сабралася на маленькай кватэры Язэпа М. Былі тут і беларускія артысты, і пісьменьнікі, і палітычныя дзеячы.

Многа гарачых прамоў гаварылася там, дэклямаваў адрыўкі з Бутрыма Няміры сам аўтар, Аляхновіч, сьпявалі беларускія рэвалюцыйныя песьні.

Пад канец вечару загаварыў і А. Бурбіс. Гэта яго прамова назаўсёды засталася ў маёй памяці. Гаварыў ён прыблізна гэтак:

— Некалісь мы з цёткай Пашкевічанкай хадзілі па Менскіх хвабрыках і заводах і звалі ўсіх работнікаў да забастовак. Цётка памёрла. Засталіся другія. Мы сядзелі за гэта ў Менскім вастрозе. А выйшаўшы, ня кінулі, не апусьцілі ў гразь наш рэвалюцыйны чырвоны штандар.

Не, мы зноў падынялі яго высока і панясьлі к народу, клічучы яго на змаганьне за волю, за зямлю, за роўнасьць людзкую.

Мы аслабелі ў гэтыя часы, сілы часта нас пакідаюць, змаганьне, голад і турмы змучылі нас, высушылі нашы грудзі. Некаторыя мае сябры ўжо пакінулі гэты сьвет. Але-ж мы стварылі вас, новых маладых працаўнікоў. Вы выйшлі нам дапамагчы, нас замяніць.

Памятайце-ж, ня кідайце і вы рэвалюцыйнага сьцягу, пакуль ня скажа наш народ і другія прыгнечаныя народы: Мы вольныя і роўныя! Гдзе той хто прыгнятаў нас ! Ня кідайце рэвалюцыі, пакуль ня скінеце сусьветны капіталізм. Пакуль ня зробіце так, каб больш ня ліліся сьлёзы гаротнікаў сялян.

Аб суседзях нашых скажу вам.—Маскалі і палякі нас хочуць зьесьці. Няма ў нас паміж імі прыяцеляў, не запамінайце аб гэтым ніколі.

Польскія паны і ксяндзы стараліся загубіць наш народ,—прышчапляючы нам каталіцызм, цягнулі яны нас да палякаў. А маскоўскія чыноўнікі, стаўленьнікі рускіх цароў, стараліся перакана́ць наш народ, што ён не беларускі, а рускі.

Няхай-жа загінуць тыя, хто хацеў загубіць нашу нацыянальную душу!— дакончыў ён гэтак сваю незабытную прамову.

*Спатканьне ў 1920 годзе.*

Гэта было ў Маскве, куды я прыехала з Менску, уцякаючы ад польскіх жандараў. Шмат пытаньняў тутака ў Маскве трэба было мне разьвязаць. А. Бурбіс быў у гэтыя часы за-партыйным, але праца яго, як сацыяліста і адраджэнца, ня спынялася.

У шмат якіх справах дапамагаў ён мне. Кожны дзень пытаўся, як і што робіцца, які скутак дае маё тутака жыцьцё і мая палітычная праца. Іншы раз нападала на яго цяжкая задума, ці выйдзе што-колечы з усёй нашай працы, ці падымецца народ з цяжкай нядолі сваёй. Тагды ўжо я старалася падняць у ім веру ў дзела народнае.

Часамі слабеў яго дух і цяжкія думкі клалі глыбокія маршчыны на яго нахмуранам чале, але ўсёж-такі ён ня спыняў сваёй працы, не складаў рук.

Яму было даручана напісаць даклад аб Беларусі. Даклад павінен быў ахапіць усё беларускае жыцьцё, як эканамічнае, так і другія галіны гэтага жыцьця.

Тры чалавекі працавалі тагды над гэтай справай дзень і ноч. На маіх вачох праходзіла гэта праца.

Алесь Бурбіс усю гэтую працу злучаў, арганізаваў, даваў кірунак. Як асілкі працавалі тры чалавекі, не шкадуючы ні сіл, ні здароўя, не адтрымліваючы за гэта амаль-што нічога. Гэткая работа недарма праходзіць для людзей: яна часта вядзе іх да магілы.

*У апошні раз.*

За тры-чатыры тыдні да сьмерці Алеся Бурбіса я прыйшла даведацца яго. Доўгі час мяне ня было ў Менску, але ад другіх я даведалася, што цяжкая праца ў камісарыяце загранічных спраў адняла ад яго апошнія сілы, і дактары кажуць, што яму жыць ня больш трох-чатырох тыдняў.

Калі я ўвайшла ў вялікі пакой гасьцініцы, дзе ён дажываў сваё жыцьцё, дык сэрца маё ўпала, а сьлёзы самі паліліся з вачэй.

Я ўбачыла сама тое, чаму не хацелася верыць. Я зразумела, што сьмерць павісла над яго яшчэ такім маладым жыцьцём.

Супакоіўшыся крыху я падыйшла да яго бліжэй і прывіталася. Ён быў белы, як папера, і цяжка дыхаў. Казалі, што ў яго ўжо няма лёгкіх.

Толькі жывыя вочы, як і раней, зьялі розумам і ажыўлялі ўжо амаль што мёртвы твар.

Ён стаў гаварыць аб сваёй хваробе, жаліўся на пралежні, якія мучаць яго няшчадна.

—Ах, каб сонейка хутчэй грэла, мо' я яшчэ-б папраівіўся,—казаў ён, ня ведаючы горкай праўды, якую ўжо ўсе ведалі.

— Хачу я паехаць у Закапанае, там-бы я паправіўся. Там Прушынскі лячыўся.

— Там ён памёр,—вырвалася ў мяне неасьцярожнае слова. Вам туды ня трэба ехаць. Далёка, ды й беларусы ня выносяць гэтых Закапаных. Вы і тутака на сонцы паправіцеся.

— А куды-ж я паеду,—сказаў ён горка.—У Крым—памрэш ад тыфусу па дарозе, а калі даедзеш,—там з голаду памрэш. У Швайцарыю мяне ня пусьцяць.

— Вы тутака паправіцеся. Толькі вот сонейка выбліСьне. Вёска, сасновы лес, сьвежае малако...

Я так і горача і доўга гаварыла яму аб вясьне і сонейку, што ён павесялеў і саўсім паверыў, што яшчэ паздаравее. Ці маніла я яму тагды?—стаўлю я сабе запытаньне. Не, я сама ад глыбіні душы паверыла, што яго яшчэ можна выратаваць. Што трэба толькі перанясьці яго з цёмнай гасьцініцы на летняе сонейка і ён паздаравее. Мне не хацелася верыць у яго сьмерць, як ня хочацца верыць нічаму, што цяжка і горка для нас. А сам ён моцна верыў, што будзе яшчэ жыць, што шмат чаго зробіць.

Хто-ж мае права гаварыць хвораму праўду? Вот выпадак, дзе праўда—грэх.

К вечару падыйшоў В. і мы ўжо ўтрох да поўначы сядзелі і гутарылі

аб тым, як трэба будаваць школу, тэатр, жыцьцё. Ён мне абяцаў прыняць усе крокі, каб Цяраўскі зноў мог працаваць на карысьць беларускага тэатру.

Некалькі разоў падымаліся мы, каб пакінуць яго, даць яму магчымасьць заснуць. Ён ня пушчаў нас гэтак энэргічна, што мы зноў садзіліся ў крэсла.—Я ня буду вячэраць бяз вас. Мне так яшчэ хочацца, каб вы пасядзелі ў мяне,—казаў ён горача і вачамі прасіў нас застацца.

Позна ноччу па ціхіх вуліцах Менску несьлі мы з сабой цяжкія думкі аб нашым дарагім хворым... Праз тры тыдні Аляксандра Бурбіса ня стала...

Але не... Ён жывы і павек будзе жыць у памяці і сэрцы беларускага працоўнага народу і яго правадыроў. Ён помнік сам сабе стварыў сваёй гарачаю любоўю да волі роўнасьці і братэрства. Такія людзі не падлягаюць сьмерці.

П. Б.

30—V—1922 г.

---

# Кроніка Беларускага Культурнага жыцьця.

### Інстытут Беларускай Культуры.

У пачатку 1922 году пры Акадэмічным Цэнтры залажылася вышэйшая культурна-навуковая ўстанова на Беларусі—Інстытут Беларускай Культуры. Залажэньне гэтай культурнай навукова-дасьледчай установы выклікана самым жыцьцём. Няўхільным скуткам узросту нацыянальнай самасьвядомасьці зьяўляецца жаданьнем ведаць тыя матар'альныя й духоўныя скарбы, якія захаваны на Беларусі; бо быць нацыянальна сьвядомым—гэта значыць перш за ўсё ведаць культурнае багацьце сваёй нацыі.

Але мы мусім заўважыць, што да самых апошніх часоў дасьледчая праца на Беларусі бадай-што не знаходзіла сабе месца. Захапіўшы ў свае рукі і ўладу і навуку, расейцы з навуковага боку зусім ня цікавіліся Беларусьсю, бо яна для іх, па выражэньню аднаго рускага царадворца, была прыгожай нявестай, але без пасагу, і яна для іх навуковага дасьледаваньня давала мала карысьці. Толькі ад другой паловы мінулага сталецьця пачалася дасьледчая праца на Беларусі. Але й гэтая праца мела не сыстэматычны, а чыста выпадковы характар. Яна вялася зрусыфікаванымі ці спалянізаванымі беларусамі-вучонымі, якія ў большасьці глядзелі на беларускую культуру не як на культуру самастойную, а як на пабочную прыбудову да агульна-рускай ці польскай культуры. Ня наша справа іх вінаваціць за гэта; у тыя часы сапраўднага нацыянальнага ядра ня было, і яны проста, быць можа, аддавалі даніну свайму веку.

Але мы павінны памятаць, што іх вывады заўсёды носяць характар тэндэнцыйны, і з гэтае прычыны часта трацяць сваю навуковую вартасьць.

Трохі інтэнсыўней дасьледчая праца вядзецца ў 20 сталецьці. Над дасьледаваньнем Беларусі ўжо працуюць ня толькі рускія, польскія і нямецкія вучоныя, але й самі беларусы, якія ўжо цьвёрда стаяць на нацыянальным грунце і падходзяць да справы бяз усякай тэндэнцыйнасьці. Гэтыя лепшыя сыны Беларусі адразу зразумелі, што для нацыянальнага адраджэньня народу перш за ўсё патрэбна выяўленьне яго культурнага багацьця, і яны стараюцца аддзяліць сваё ад чужога, прасачыць у глыбі вякоў, як адбіваўся культурны ўплыў другіх народаў на беларускую культуру, яны стараюцца выявіць чыста твар свайго народу і яго культурных здабыткаў.

Але трэба зазначыць, што і ў гэты час, як і раней, дасьледчая праца мае несыстэматычны, а выпадковы характар. Тады як некаторымі вучонымі зроблены паважныя дасьледаваньні па мове, этнографіі, гісторыі, праву,—ёсьць яшчэ цэлыя галіны навук, якія да гэтага часу зусім не закрануты. Вось унесьці сыстэматызацыю ў гэту працу й рэгуляваць яе можа толькі сталая ўстанова, якою па сваім заданьням і зьяўляецца Інстытут Беларускай Культуры.

Такім чынам, адна з асноўных за-

дач Інстытуту Беларускай Культуры, гэта—дасьледаваньне па ўсіх галінах навукі, больш-менш цесна зьвязаных з беларускай культурай, а разам з тым і рэёвае кіраваньне ўсімі навуковымі сіламі, якія працуюць на гэтай глебе. З гэтага боку Інбелкульт набліжаецца да тыпу тых дасьледчых інстытутаў, якія ў пошнія часы сталі закладвацца у Расіі й на Украіне.

Але наш Інстытут носіць назву Інстытуту Беларускай Культуры і гэта назва абмяжоўвае круг яго дзейнасьці. Наш Інстытут павінен ня толькі тварыць беларускую культуру, ня толькі быць лябараторыяй гэтай культуры, а стаяць і на варце яе. З гэтага боку наш Інстытут ня можа замкнуцца ў сваіх габінэтах і весьці толькі дасьледчую працу, але яму павінна быць дарага, і ён мусіць апякавацца аб кожнай беларускай справе. Аднэй з такіх галоўных спраў, бязумоўна, яўляецца ўтварэньне навуковай літаратуры на беларускай мове, а для гэтага перш за ўсё патрэбна навуковае апрацаваньне беларускай тэрміналёгіі і ўкладаньне падручнікаў для пачатковай і сярэдняй школ. Некаторыя могуць заўважыць, што ўкладаньне падручнікаў—гэта не компэтэнцыя навуковай інстытуцыі, якою зьяўляецца Інбелкульт, што дзеля гэтага мала патрэбна навуковасьці; аднак на такое запытаньне мы мусім адказаць, што даваць першы падручнік у беларускай мове можа куды трудней, чымся пісаць унівэрсытэцкі курс на рускай мове; пісаць першыя падручнікі пабеларуску—гэта значыць працярэбліваць новыя шляхі. Апрача ўтварэньня навукі ў беларускай мове, Інбелкульт павінен руліцца і аб усялякай іншай культурнай беларускай справе: усё роўна, ці будзе гэта беларуская выдавецтва, ці школьная, ці тэатральная справа, — усё гэта, бязумоўна, ня можа ня цікавіць Інстытут Беларускай Культуры і павінна ўвайсьці ў круг яго компэтэнцыі. З гэтага боку Інбелкульт удзяляе шырокае месца культурна-грамадзянскаму жыцьцю, і вось гэта менавіта культурна - грамадзянская справа зьяўляецца другім абавязкам Інстытуту Беларускай Культуры.

Думка аб залажэньні Інстытуту Беларускай Культуры зарадзілася ў беларускім грамадзянстве ўжо даўно. Блізка году таму назад на сходзе беларускага грамадзянства С. Некрашэвічам быў прачытаны на гэту тэму даклад, у рэзультаце якога была выбрана камісія для распрацаваньня статуту Інбелкульту. Апрацаваны гэтай камісіяй пад старшынствам З. Жылуновіча проект статуту Інбелкульту адводзіў толькі шырокае месца культурна-грамадзянскім пытаньням, надаючы, такім чынам, Інстытуту характар больш грамадзянскай, чымся навукова-дасьледчай установы.

Адначасна з працаваньнем камісіяй статуту ў Менску Праўленьне Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў асобе яго рэктара В. Пічэты, апрацавала ў Маскве статут Інбелкульту па тыпу дасьледчых інстытутаў. Каб не адчыняць двох навуковых інстытуцый, якія маглі весьці паралельную працу, прышлося гэтыя проекты пагадзіць і апрацаваць адзін статут, які ў аснове свайй захаваў абодва прынцыпы—і навукова-дасьледчай установы і культурна-грамадзянскай.

Згодна свайму палажэньню, Інбелкульт падзяляецца на сэкцыі, а сэкцыі ў сваю чаргу на камісіі. Кожная сэкцыя зьяўляецца аўтаномнай адзінкай і самастойна вядзе працу па ўсім пытаньням, якія яе датыкаюцца. Прымаючы пад увагу занадта абмяжаваны лік супрацоўнікаў Інбелкульту, пры ім покуль-што заснованы толькі дзьве сэкцыі — народна - мовазнаўчая і прыродазнаўчая. Але з паляпшэньнем эканамічнага становішча Рэспублікі бязумоўна штат Інбелкульту будзе павялічан, і пры ім будуць заснованы новыя сэкцыі. Намечаны да адчыненьня гэткія сэкцыі: культурна-гістарычных, грамадзянска-эканамічных навук, літэратуры й мастацтва.

Супрацоўнікі Інбелкульту падзяляюцца на ганаровых і супраўдных членаў, навуковых супрацоўнікаў і членаў-карэспандэнтаў. Супраўдныя члены і

навуковыя супрацоўнікі займаюць штатныя пасады, а апошнія — няштатныя. Ганаровыя і супраўдныя члены выбіраюцца з асоб, якія могуць кіраваць навуковай працай Інбелкульту і маюць асаблівыя вялікія заслугі перад беларускай культурай: ці гэта будуць заслугі навуковага зьместу, ці агульна-культурнага характару. Навуковыя супрацоўнікі выбіраюцца з асоб, якія выказалі асаблівую здольнасьць да навуковай працы. Членамі-карэспандэнтамі Інбелкульту састаяць тыя асобы, якія сваімі карэспандэнцыямі ці іншаю працаю з месц дапамагаюць разьвіцьцю й замацаваньню Беларускай культуры.

У склад Інбелкульту назначаны: старшынёй С. Некрашэвіч, сэкратаром У. Дзяржынскі, сапраўднымі членамі: Е. Карскі, І. Луцэвіч (Янка Купала), К. Міцкевіч (Якуб Колас) і Я. Лёсік; навуковымі супрацоўнікамі: М. Грамыка, А. Круталевіч, Ф. Бурак, В. Міхальскі, Ч. Родзевіч, М. Азбукін, М. Гуткоўскі, С. Плаўнік (З. Бядуля), М. Байкоў, М. Піотуховіч і Л. Більдзюкевіч.

У далейшым часе да памянёных працаўнікоў, бязумоўна, многа далучыцца яшчэ ганаровых і супраўдных членаў і членаў-карэспандэнтаў. Інбелкульт у першы чарод павінен рупіцца аб тым, каб кадр яго членаў-карэспандэнтаў быў па магчымасьці большы, каб да гэтых членаў карэспандэнтаў былі прыцягнены лепшыя культурныя працоўнікі з усёй этнографічнай Беларусі і каб разам з тым члены-карэспандэнты былі жывымі нэрвамі, здольнымі адбіць і перадаць усё культурнае жыцьцё ўсіх нашых мясцовасьцяў.

Вышэй мы зазначылі, што Інбелкульт залажыўся на першы час у складзе двох сэкцый, народна-мовазнаўчай і прыродазнаўчай. Як той, так і другой сэкцыі дасталася вялікая і няскончаная спадчына ад Навукова-Тэрмінолёгічнай камісіі. З прычыны таго, што Навукова-Тэрміналёгічнай камісіяй была зроблена вялікая праца па беларускай лексыколёгіі—камісіяй канчаткова апрацавана каля 3.000 беларускіх тэрмінаў і проектавана звыш 5.000—мы мусім больш падрабязна спыніцца на яе дзеяльнасьці.

Беларуская Навукова-Тэрміналёгічная Камісія ўтворана была Навукова-Літаратурным аддзелам Наркамасьветы 20 лютага 1921 году для чыста практычных мэтаў: яна павінна была апрацаваць беларускую тэрміналёгію па ўсіх галінах навукі ў аб'ёме курсу б. сярэдняй школы. Але жыцьцё праз некалькі месяцаў значна пашырыла яе дзеяльнасьць, і Камісія павінна была распрацоўваць беларускую тэрміналёгію шырэй і паўней. Да компэтэнцыі яе было аднесена апрацаваньне праўнай тэрміналёгіі, тэхнічнай, сельска-гаспадарчай і інш.

Чыннасьць сваю Камісія пачала ў лютым 1921 г. Да працы ў Камісію былі запрошаны спэцыялісты па розных дысцыплінах навукі, добра ведаючыя беларускую мову.

Каб надаць больш сталасьці працы Камісіі, яна была падзелена на тры сэкцыі: гуманітарных навук, прыродазнаўчых і матэматычных. У кожную сэкцыю ўвайшлі адпаведныя спэцыялісты. Парадак працы ўстанавіўся такі: кожны з членаў сэкцыі браў на сябе апрацаваньне тэрміналёгіі па пэўнай галіне навукі, і свой проект у некалькіх мовах падаваў на разгляд адпаведнай сэкцыі. Прынятая сэкцыяй тэрміналёгія зацьвярджвалася агульным сходам, які складаўся з усіх членаў Камісіі. Некалькі проектаў тэрміналёгіі падана было з боку ня членамі Камісіі.

Самае важнае значэньне ў дзеяльнасьці Камісіі мелі агульныя сходы. Звычайна агульны сход прымаў тэрміналёгію аднагалосна. Толькі спрэчныя словы, па якіх нельга было атрымаць поўную згоднасьць усіх членаў Камісіі, прымаліся $^{3}/_{4}$ прысутных на сходзе членаў.

Такім чынам, кожны проект тэрміналёгіі праходзіў праз падвойны фільтр—сэкцыі і агульнага сходу. Такім парадкам дасягаліся дзьве мэты: з аднаго боку разгледжаная два разы праца набывала большую грунтоўнасьць, а з

другога боку, атрымлівалася поўная згоднасьць паміж працаю ўсіх сэкцый.

Што датыча самага характару тэрміналёгіі, то ў аснову яе браліся словы, істнуючыя ў жывой народнай мове, ак **астача** (остаток), **хмызьняк** (заросль), **насеньне** (семена), **параваньне** (испарение) і г. д. Але тэрмінаў у сьціслым значэньні гэтага слова ў жывой народнай мове надта мала. Трохі імі багацей батанічная і энтомолёгічная номэнклятуры, але што тычыцца больш абстрактных разуменьняў,— матэматычных, псыхолёгічных і т. п.— то ў народнай мове іх вельмі мала. У такіх выпадках перад Камісіяй паўставала дылема: ці ўтвараць новыя словы, нэолёгізмы, ці браць словы (тэрміны) з чужых моваў. Камісія, па прыкладу чэхаў, трымалася таго пагляду, што лепш утвараць згодна з законамі беларускай мовы нэолёгізмы, чымся браць чужыя, зусім незразумелыя словы; такім чынам былі ўтвораны такія нэолёгізмы, як напр., **рэчавістасьць** (действительность), **мошкаедныя расьліны** (росянка), **солелюбы** і т. п.

Але больш за ўсё Камісіяй было ўтворана нэолёгізмаў на аснове істнуючых у народнай мове слоў: напр., **торбачныя** (сумчатые жывотные), **нібыножкі** (ложные ножки), **каморка** (клетка), **алеістыя расьліны** (маслянистые растения). Ад слова **дзяліць** утвораны такія словы-тэрміны, як **дзеліва**, **дзельнік**, **падзел**, **вададзёл** і т. п. Пры ўтварэньні новых слоў, Камісія заўсёды лічылася з тым, каб надаць гэтым словам адпаведны і ў поўнай меры дакладны сэнс, дзеля чаго падбіраліся такія канчаткі (суфіксы), якія дакладна перадавалі сутнасьць разуменьня, напр., суфікс **ік** для азначэньня дзейніка: множнік (множитель), лічнік (числитель), **альн—ы** ў тым-жа значэньні: **апісальны** (описательный), **азначальны** (означающий) і г. д.

У некаторых выпадках Камісія прымала па два беларускіх тэрміны. Рабілася гэта дзеля таго, што такія словы часта істнуюць у жывой народнай мове (напр., **кветка** і **краска**), а з другога боку, як компроміс пры асабліва спрэчных тэрмінах, па якіх нельга было атрымаць поўнай згоднасьці ўсіх членаў Камісіі.

Само сабой разумееца, што Камісія павінна была браць і чужыя словы. Але гэта рабілася толькі тады, калі 1) у народнай мове ня было адпаведнага беларускага тэрміну, 2) калі ўтвораныя нэолёгізмы былі надта штучныя і 3) калі гэтыя чужаземныя словы былі пашыраны ў мовах культурных народаў. З чужых слоў больш за ўсё бралася з найбольш блізкіх моваў— расейскай і польскай. Шмат якія з такіх слоў і даўней ужываліся ў беларускай мове ў часы поўнага расьцьвету яе пісьменства, а таксама яшчэ й цяпер ужываюцца некаторымі беларускімі падмовамі, як правінцыялізмы. Многа з такіх слоў, пашыраных у расейскай ці польскай мове, зьяўляюцца вельмі спрэчнымі, адкуль яны паходзяць. Скарэй за ўсё, што гэта старыя беларускія словы. Але ўжо гэтыя пытаньні павінна высьсьніць беларуская гістарычная граматыка. Апрача расейскіх і польскіх, браліся лацінскія тэрміны, пашыраныя ў мовах усіх культурных народаў, і некаторыя іншыя. Часта траплялася так, што даваўся беларускі тэрмін, а побач з ім астаўлялася й чужаземнае слова, калі беларускі тэрмін ня зусім дакладна выражаў паняцьце.

Для сваёй працы Камісія карысталася беларускімі слоўнікамі Насовіча, Дабравольскага й Гарэцкага, а таксама слоўнікамі расейскімі, польскімі, украінскімі, чэскімі, лацінскімі, грэцкімі і інш.

Апрацаваная Нав.-Тэрм. Камісіяй тэрміналёгія зьяўляецца **дыскусыйнай**, а дзеля гэтага кожны жадаючы можа падаваць свае ўвагі, якія будуць разгледжаны. Для настаўнікаў і аўтараў падручнікаў гэтая тэрміналёгія зьяўляецца абавязковаю, па сколькі ў ёй ня будзе зьмен, зробленых сэкцыямі Інбелкульту.

Аб значэньні працы Камісіі гаварыць ня прыходзіцца. Гэта першая навуковая праца па беларускай лексы-

колёгіі, калі ня лічыць працы Насовіча, Грыгаровіча, Цішынскага й некаторых другіх, якія, праўда толькі зафіксавалі жывыя народныя словы, а не апрацоўвалі іх. Апрацаваньне тэрміналёгіі бязумоўна павінна папярэджваць усялякую іншую працу на беларускай мове. Тэрміналёгія патрэбна нам для школ, для састаўленьня падручнікаў і навуковых кніг, патрэбна для разьвіцьця беларускай мовы і бязумоўна, праца Н.-Гн. Камісіі будзе тым фундамэнтам, на аснове якога будзе састаўляцца поўны слоўнік беларускай мовы.

Аднак апрацаваньне Навукова-Тэрміналёгічнай Камісіяй беларускай тэрміналёгіі зьяўляецца далёка няскончаным. І вось дакончыць гэтую пільную і вельмі патрэбную працу састаўляе чарговую задачу Інбелкульту. Утвораныя пры абедзьвюх сэкцыях тэрміналёгічныя камісіі робяць далейшы працяг працы і маюць на мэце поўнае апрацаваньне тэрміналёгіі па курсу сярэдняй школы і выданьне яе ў бягучым годзе. Але праца Інбелкульту не абмяжоўваецца апрацаваньнем тэрміналёгіі. Пры народна-моваэнаўчай сэкцыі ўтворана слоўнікавая камісія, якая працуе над апрацаваньнем руска-беларускага слоўніка, і камісія па дасьледаваньню народнай творчасьці, якая зараз апрацоўвае анкеты для распаўсюджваньня іх на Беларусі. Для тых жа самых мэт апрацаваны анкеты прыродазнаўчай сэкцыяй. Дзякуючы анкетам, Інбелкульт спадзяецца ўвайсьці ў зносіны з самымі глухімі куткамі Беларусі і атрымаць для сябе многа каштоўных матар'ялаў. Гэтыя матар'ялы будуць апрацоўвацца ў Інбелкульце і друкавацца ў яго навуковай часопісі. Інбелкульт спадзяецца, што вясковая інтэлігэнцыя—дактары, настаўнікі, аграномы не адмовяцца супрацоўнічаць у Інбелкульце і гэтым дапамогуць у яго вялікай працы.

Улетку члены Інбелкульту рыхтуюцца, супольна з тутэйшымі навуковымі таварыствамі зрабіць некалькі навуковых экскурсый і гэтым ажыцьцёвіць нашу дасьледчую працу, якая зусім спынілася ў апошнія годы.

На агульных сходах Інбелкульту абгаварваюцца пытаньні агульна-культурнага зьместу, выдавецтва, школ і інш.

Члены Інбелкульту так-сама працуюць па ўкладаньню і перакладу падручнікаў для беларускіх школ.

Гэтак на першых парах працуе Інбелкульт.

У далейшым праца яго бязумоўна пашырыцца. Першы крок да гэтага— выданьне навуковай часопісі, якая прымусіць кожнага члена Інбелкульту весьці больш інтэнсыўную працу і дзяліцца ёю з беларускім грамадзянствам. Прыходзіцца толькі пашкадаваць, што камісія па скарачэньню штатаў бязьлітасна аднеслася да нашай галоўнай культурнай установы і пакінула так мала актыўных працаўнікоў. Нельга так-сама не ўспамянуць і аб тым, што члены Інбелкульту зусім не забясьпэчаны. Сьмешна сказаць, большасьць з іх атрымлівае па даваенных цэнах толькі па 5 руб. на месяц.

Але мы хочам верыць, што ўсё гэта часовае і ў далейшым Інбелкульт ня будзе пасынкам, якім ён зьяўляецца да апошняга часу.

Трэба берагчы і шанаваць нашу маладую ўстанову, бо яна мозг і галоўны нэрв нашага культурнага жыцьця.

**С. Н.**

# ПАВІНШАВАНЬНІ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ.

РОССИЙСКАЯ
АКАДЕМИЯ НАУК
Непременный секретарь.
*24 апреля 1922 г.*
№ 677.
Петроград.
Тел. адрес: Петроград РАН.

*Институту Белорусской Культуры.*

Российская Академия Наук горячо приветствует открытие Института Белорусской Культуры, убежденная, что только углубленным изучением каждой национальности, имеющей свои особенности, может быть достигнуто истинное понимание человека вообще, во всей его многогранности и разносторонности. Научное изучение человека более усовершенствованными методами, чем это до сих пор имело место, является ближайшей задачей науки, стремящейся изучение наук так называемых гуманитарных ввести в одно общее русло с изучением наук, так называемых естественно-исторических. Культура каждого народа стоит в такой тесной связи с физическими условиями страны, в которой он обитает, и стран, которые его окружают, что именно в деле изучения культуры об'единяются все научные дисциплины.

Российская Академия Наук уверена, что новый Институт вступит на новый путь всестороннего изучения культуры, и желает ему в этом деле самого полного преуспения.

Непременный Секретарь Академии *Сергей Ольденбург.*
Управляющий Делами Конференции *Блок.*

---

*Председателю Института Белорусской Культуры.*

Я очень тронут избранием меня в действительные члены Института Белорусской Культуры. Вся моя научная деятельность связана с изучением настоящего и прошлого Белоруссии; думаю, что и остаток моей жизни будет посвящен тому-же.

Весьма прошу передать мой сердечный привет представителям научных белорусских институций и пожелание процветания новому учреждению.

Прошу принять уверение в моем к Вам уважении и преданности.

Академик Р.А.Н. *Е. Карский.*

20/III 1922 г.

---

Телеграмма.

*Наркомпросу Белоруссии.*

Наркомпрос Украины приветствует открытие Института Белорусской Культуры, надеясь установить тесную связь во всех научных достижениях. Нр. 82/284, февраля 23, Замнаркомпрос.

*Ряппо.*

---

*Менск, Інстытуту Беларускае Культуры.*

Беларускае Студэнцтва Горыгорацкага Інстытуту вітае адчыненьне Інстытуту Беларускае Культуры, які павінен стаць правадыром усёй навукова-дасьледчай працы нашай старонкі

Старшыня Беларускай Сэкцыі *Д. Закрэўскі.*

Телеграмма.

*Минск, Акцентр Наркомпросбела.*

Об'единенное Собрание студентов белоруссов Москвы, открывая Белорусский Клуб, искренно приветствует открытие Института Белоруской Культуры и желает плодотворной работы. № 152. Председатель *Горецкий* и *Мороз*.

---

*Минск, Наркомпрос, Академический Центр.*

Горецкий Институт приветствует открытие научного учреждения Белорусского края. Переживаемый кризис не позволяет принять участие в празднике открытия.

Проректор *Винер*.

---

**Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт і Агранамічны Інстытут.**

30-га кастрычніка 1921 г. ў Менску адчыніўся Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт з двума факультэтамі: 1) Факультэт гуманітарных навук (парасійску Факультэт общественных наук, або скарочана—Фон) і 2) Мэдыцынскі факультэт, або скарочана—Мэдфак.

Факультэт гуманітарных навук мае сваім заданьнем гатаваць адукаваных спэцыялістаў у галіне гаспадаркі, пэдагогікі, права і моваанаўства. Подлуг гэтага факультэт разьбіты на чатыры аддзяленьні: *экономічнае*, *пэдагогічнае*, *прававое і этнолёго-лінгвістычнае*. Як асаблівасьць Факульт. гуманітарных і сацыяльных навук варта зазначыць тое, што этнолёга-лінгвістычнае аддзяленьне разьбіта на тры нацыянальныя сэкцыі: *беларускую*, *расійскую і жыдоўскую*, «соответствующие основным культурам нашей республики», як выславіўся лектар гістарычнага матэрыялізму ў Унівэрсытэце С. Вальфсон у артыкуле «Факультет Общест. Наук Белор. Госуд. Университета», зьмешчаным у «Вестнике Наркомпроса» № 3 за 1922 г. Мусім паведаміць, што на Беларусі асноўною культурай зьяўляецца культура *беларуская*, і дарэмна хваліцца шырокім лібэралізмам. Гэтыя тры нацыянальныя сэкцыі патрэбны не Беларускаму Унівэрсытэту, а расійскаму імпэрыялізму, якому хочацца сказаць: «А скінь шкурку, дабрадзею, бо зубкі відаць!»

На чале Унівэрсытэту стаіць рэктар проф. В. Пічэта, аўтар вядомай працы ў расійскай мове «Аграрная реформа Сигизмунда-Августа» і некаторых другіх работ па гісторыі Беларусі.

На Факультэце гуманітар. навук у прошлым, 1921—1922 годзе, чыталіся для І-га курсу такія прадметы:

а) для ўсіх аддзяленьн.: Лёгіка і Мэтадалёгія і Гісторыя навуковага сьветапагляду—проф. *В. Н. Івановскі*; Гісторыя социялізму—*І. Я. Герцык*; Гістарычны матэрыялізм—*С. Я. Вальфсон*; Гісторыя Беларусі—*І. М. Ігнатоўскі*; Беларуская мова—*Я. Ю. Лёсік*; Конституцыя Р. С. Ф. С. Р.—*Г. С. Гурвіч*; Экономіка пераходнага часу—*В. Кнорын*; Пролетарская рэвалюцыя—*С. З. Кацанбогін*;

б) для аддзяленьн. экономічнага і прававога: Гісторыя Народнай гаспадаркі ў Расіі і Беларусі—*В. І. Пічэта*; Формы гаспадаркі і працы і Навука аб фінансах—*В. В. Якунін*;

в) для экономічнага, прававога і пэдагогічнага: Гісторыя навейшай Эўропы—*В. Н. Перцаў*; Політычная экономія—*І. Я. Герцык*; Гісторыя навейшай Расіі—*Д. А. Жарынаў*;

г) для этнолёга-лінгвістычнага аддзяленьня: Гісторыя расійскай літаратуры ў XIX в.—*А. Н. Вазьнясенскі*; Гісторыя вуснай творчасьці — *Н. В. Шараў*; Гісторыя Заходняй Эўропы—*В. Н. Дзякоў*; Гісторыя расійскай культуры—*В. І. Пічэта*; Уводзіны ў гісторыю мастацтв—*М. Г. Сыркін*;

д) для прававога аддзяленьня: Дзяр-

жаўнае права—*Г. С. Гурвіч*; Талкаваньне норм права—*Д. Я. Мейчык*;

е) для пэдагогічнага аддзяленьня: Псіхалёгія—*І. М. Салаўёў*, Гісторыя прыгоннай (панцічыннай) Расіі—*А. А. Савіч*, Гісторыя Ўсходу—*Н. М. Нікольскі*, Гісторыя новых эўрапэйскіх асоцыяцый—*В. Н. Дзякоў* і

ж) для жыдоўскай сэкцыі этнолёга-лінгвістычнага аддзяленьня: Гісторыя жыдоўства ў Літве і Польшчы—*В. Н. Пічэта* і Гісторыя жыдоўскага мастацтва—*М. Г. Сыркін*.

Катэдру беларускае літаратуры для лінгвістычнага аддзяленьня па сьмерці проф. Н. А. Янчука, каторы ня ўсьпеў распачаць сваіх лекцый, заняў член Інстытуту Беларускае Культуры *М. Пятуховіч*. З будучага году адчыняцца катэдры па Гісторыі жыдоўскага народу (С. Т. Лазінскі), Параўнальнага мовазнаўства (Панасюк), Беларусазнаўства (Т. Т. Турук) і некаторыя другія.

На Мэдыцынскім факультэце чыталіся лекцыі такімі профэсарамі: *Н. Н. Андрэеў*—фізыка, *Б. М. Беркангэйм*—арганічная хімія, *В. В. Ляпёшкін*—батаніка, *М. Б. Кроль*—пэрвовых хвароб, *А. А. Лунц*—часова займаўш. катэдру анатоміі і гісталёгіі, *П. І. Карузін*—анатомія, *Фядзюшын А. Б.*—зоолёгія, *Сьмірноў Н. А.*—асістэнт па катэдры фізыкі і некат. другія.

*Студэнты*. На Факультэт гуманіт. навук было падана 1157 заяў, а прадставіла патрэбныя дакумэнты 1010 чалавек; з гэтага ліку 736 чалавек далі аб сабе ў анкетах такія весткі: мужчын 256, жанок 480; па нацыянальнасьці студэнты падзяляліся так:

| | | |
|---|---|---|
| жыдоў | 498 чал. | (67%) |
| беларусінаў | 193 » | (26%) |
| велікарусаў | 26 » | (4%) |
| палякоў | 4 » | (1/2%) |
| іншых | 16 » | (2 1/2%) |

Як родную мову паказалі:

| | | |
|---|---|---|
| беларуская | 112 чал. | (15%) |
| жыдоўская | 380 » | (52%) |
| расійская | 201 » | (27%) |
| польская | 7 » | (1%) |
| іншая | | (5%) |

Месцам пастаяннага пражываньня паказалі:

| | |
|---|---|
| г. Менск | 409 чал. |
| Слуцкі павет | 67 » |
| Бабруйскі » | 48 » |
| Барысаўскі » | 32 » |
| Менскі » | 31 » |
| Ігуменскі » | 31 » |
| Мазырскі » | 9 » |
| Гомельшчына | 36 » |
| Віташчына | 19 » |
| Магілёўшчына | 13 » |
| Расія | 29 » |
| Заграніцай | 22 » |

На мэдфак было падана 1300 заяў. Усяго залічана на I курс Мэдфаку 293 студэнты і 26 кандыдатаў. Склад студэнтаў Мэдфаку ў ліку 345 слухачоў падзяляўся так: мужчын 201, жанок—144; па нацыянальнасьці—

| | |
|---|---|
| жыдоў | 233 чал. |
| беларусінаў | 94 » |
| велікарусаў | 14 » |
| палякоў | 4 » |

Пры Унівэрсытэце адчынен Рабочы факультэт, заданьнем якога зьяўляецца падгатоўка кадраў студэнтаў з рабочых і сялян для паступленьня ў Унівэрсытэт. Усіх слухачоў Рабочага факультэту было 285 чалавек, каторыя па нацыянальнасьці падзяляліся так:

| | |
|---|---|
| жыдоў | 173 чал. |
| беларусінаў | 109 » |
| велікарусаў | 3 » |

Усяго студэнтаў, прынятых на I-ы курс факультэтаў—гуманіт., мэдыцынскага і рабочага—было 1705 чалавек. З гэтага ліку 1366 чалавек далі аб сабе такія весткі:

| | | |
|---|---|---|
| сялян | 409 чал. | (30,6%) |
| рабочых | 152 » | (11%) |
| служачых | 524 » | (39%) |
| невызн. стану | 281 » | (20,4%) |

Па нацыянальнасьці ўсе студэнты падзяляліся так:

| | | |
|---|---|---|
| жыдоў | 904 чал. | (66,1%) |
| беларус. | 396 » | (29%) |
| велікарус. | 43 » | (3,2%) |
| палякоў | 8 » | (0,6%) |
| іншых | 15 » | (1%) |

Вось такі твар мае Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. З прадметаў бела-

русазнаўства ў Унівэрсытэце абавязковы для ўсіх: Беларуская мова і Гісторыя Беларусі. Беларуская літаратура чытаецца толькі на Лінгвістычным аддзяленьні для беларускай сэкцыі.

Па аддзяленьням Факультэту гуманітарных навук студэнты падзяляліся так: этнолёга-лінгвістычнае аддзяленьне—86 чалав., пэдагогічнае—220 ч. прававое—192 ч., і эконамічнае—237 ч.

З будучага году меўся адчыніцца Агронамічны факультэт, але апошнім часам пастаноўлена адчыніць Агронамічны Інстытут з рэктарам Кірсанавым на чале. Такім парадкам, у 1922 г. ў Менску будуць дзьве вышэйшыя школы—Унівэрсытэт і Інстытут.

**Урачыстае ўшанаваньне беларускага нацыянальнага песьняра і пісьменьніка Янкі Купалы.**

19-га сакавіка сёлета ў актавай залі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту адбылося ўрачыстае ўшанаваньне беларускага нацыянальнага песьняра і пісьменьніка Янкі Купалы.

Урачыстасьць пачалася афіцыяльным пасяджэньнем, якое адчыніў рэктар азначанага Унівэрсытэту праф. В. І. Пічэта.

У сваёй уступнай прамове ён сказаў, што зараз выяўлены ўсе адзнакі ў творчасьці Янкі Купалы, па якім беларусы маюць права лічыць яго вялікім беларускім нацыянальным пісьменьнікам. Адзначыўшы, што Я. Купала мае для беларусаў такую вартасьць, як Т. Шаўчэнка для ўкраінцаў, А. Міцкевіч для палякаў і А. Пушкін для расійцаў, паважаны прафэсар правёў паралель між творчасьцю Я. Купалы і творчасьцю ўкраінскага нацыянальнага песьняра і яскрава давёў, што значэньне Я. Купалы для беларускай літаратуры шмат большае, чымся значэньне Т. Шаўчэнкі для ўкраінскай літаратуры.

З другім дакладам выступіў лектар Унівэрсытэту М. Я. Пятуховіч. Яго даклад быў самым вялікім і багатым па зьместу і захопліваў разнаітыя бакі творчасьці Я. Купалы. Даклад зьявіўся запраўднай навуковай лекцыяй аб творчасьці шаноўнага пісьменьніка і заслужвае таго, каб спыніцца на ім падрабязьней. Шкада толькі, што даклад быў сказаны не ў беларускай мове.

Разглядваючы досыць падрабязна творчасьць Я. Купалы, дакладчык адзначыў, што ён зьяўляецца выдатным індывідуалістам, і, як у індывідуалісты, у яго творах прыкмячаецца самаўглыбленьне і імкненьне к адзіноцтву. Пясьняр цешыцца прыродай—гэтай невысыхаючай крыніцай чыстай радасьці.

У параўнаньні з расійскімі пісьменьнікамі—індывідуалістамі; (К. Бальмонт, Ф. Салагуб. і інш.) творчасьць Купалы знаходзіцца на больш жыцьцёвым групе з тэй прычыны, што адзначаныя расійскія індывідуалісты ў шмат якіх сваіх творах сталі на няпэўны шлях дэкадэнства, якое не расквятнеўшы памёрла. Купала-ж, на вялікую карысьць для беларускай літаратуры, зусім ухіліўся ад такога шляху. Яго індывідуалізм, па думцы дакладчыка, знаходзіцца ў цеснай сувязі з агульна-грамадзянскім настроем. З адзначанага кірунку Я. Купала ня выходзіць у працягу ўсяе сваё літаратурнай дзейнасьці.

Далей С. Пятуховіч адзначыў, што ў Я. Купалы ёсьць нешта супольнае з расійскім пісьменьнікам Лермантавым, як, напрыклад, самаўглыбленьне і імкненьне к адзіноцтву, але гэта зусім ня значыць, што ён пазычыў думкі з твораў расійскага пісьменьніка.

У многіх сваіх вершах Я. Купала зьвяртаецца к слаўнаму мінуламу сваёй Бацькаўшчыны і шчыра сумуе, што ў часе царызму ў розных галінах жыцьця Беларусі прыкмячаецца поўны заняпад і панаваньне цемры, калі прыходзілася толькі марыць аб залатой волі.

Моцным і яскравым пратэстам супроць усіх цёмных сіл, якія бязьлітасна прыгнячалі ў гэтыя часы беларускі народ, зьявіўся мастацкі верш «Ворагам беларушчыны».

Абмаляваньню цяжкага палітычнага і эканамічнага стану беларусаў,

пісьменьнік пасьвячае шмат сваіх вершаў і даходзіць у некаторых з іх да праўдзівага рэвалюцыйнага пафосу. Выхад з палітычнага тупіку, у якім доўгі час знаходзілася Беларусь, Я. Купала бачыць толькі адзін—гэта ўпартае рэвалюцыйнае змаганьне. Яго творы заклікаюць беларусаў на вялікі сход, пад якім разумеецца нішто іншае, як рэвалюцыя. Найбольш выяўна гэты кліч прыкмячаецца ў яго драме «Раскіданае гняздо».

Малюючы цяжкі палітычны і эканамічны стан Беларусі, пясьняр не заплюшчывае вачэй і на прыродныя заганы роднага яму беларуса. З некаторых яго твораў відаць праконаньне песьняра ў тым, што кожны чалавек у значнай меры, каваль свайго шчасьця. Грунтуючыся на гэтым праконаньні, пясьняр даводзіць, што шмат якія няшчасьці беларуса залежаць ад яго ўласнай нядбаласьці і адсутнасьці моцнай волі.

Паміж гарачых заклíканьняў к барацьбе за лепшае жыцьцё, Я. Купала ў сваіх творах часта імкнецца ўвысь —к сонцу і зорам—і адтуль сумна аглядае цярнёвы шлях, па якім ён вёў свой родны народ з цяжкае няволі.

Сымбалізм так-сама займае, па думцы дакладчыка, выдатнае месца ў творах Я. Купалы. Так, напрыклад, раскіданае гняздо беднай беларускай сям'і, апісанае ў драме пад тэй-жа назвай, зьяўляецца вялікім сымбалем шмат вякоў пакутуючай Беларусі. Адзін з гэрояў драматычнай поэмы «Сон на кургане»—Сам ёсьць ніхто іншы, як беларус, каторы шукае свайго шчасьця.

Пасьля М. Пятуховіча зрабіў даклад на беларускай мове аб сацыяльна-палітычных матывах у творах Я. Купалы прафэсар Унівэрсытэту У. М. Ігнатоўскі.

У пачатку свайго дакладу ён адзначыў, што беларус спрадвеку быў прадстаўніком працоўнай клясы, і таму сацыяльна-палітычнае адраджэньне беларускага народу зьяўляецца адным з галоўных матываў творчасьці Я. Купалы. Яго нацыяналізм заўсёды грунтуецца на сацыяльных пытаньнях. Гэты нацыяналізм нідзе не выглядае ў песьняра, як нешта асобнае, а заўсёды знаходзіцца ў цеснай сувязі з думкамі аб родным народзе і яго палітычна-сацыяльным становішчы. Вышэй за ўсё пясьняр ставіць працу, якая зьмяняе нават самы выгляд зямлі. Апісваючы ў сваіх творах жыцьцё беларуса з усіх бакоў, пясьняр бачыць прычыны яго цяжкага стану ў нацыянальнай няволі, у безьзямельлі, у поўнай залежнасьці ад панскай ласкі, у адміністрацыйным уціску, у несьвядомасьці і цемнаце. Соцыяльна-палітычны элемэнт знаходзіцца ў большасьці лепшых вершаў Я. Купалы і выяўна характарызуе яго, як аднаго з магутных правадыроў беларускага народу на шляху к сучаснаму сацыяльнаму яго адраджэньню.

Наступны дакладчык прафэсар Вазьнясенскі гаварыў аб сувязі лірыкі Я. Купалы з народнай творчасьцю. Дакладчык адзначыў, што як у народнай поэзіі, гэтак і ў творах Я. Купалы зьяўляюцца адны і тыя-ж матывы.

Нарэшце выступіў З. С. Каганбогін, які ў сваім цікавым дакладзе адзначыў, што лірыка Я. Купалы зьяўляецца надта правідловай люстрай жыцьця беларускага народу. Сваё галоўнае лірычнае натхненьне пясьняр чэрпае з адвечнай пакуты беларусаў і зьяўляецца вельмі выдатным ідэолёгам нацыянальнага адраджэньня Беларусі. Ідэя нацыянальнага адраджэньня, па словах дакладчыка, зьяўляецца лейт-матывам усёй яго творчасьці. У гэтым дакладчык бачыць вялізарную заслугу песьняра перад Бацькаўшчынай.

Далей адбылася літаратурна-вакальная часьціна ўрачыстасьці, якая пачалася сьпевам міжнароднага гымну.

У літаратурна-вакальнай часьціне прыймалі ўдзел артысткі і артысты Беларускага Дзяржаўнага Акадэмічнага Тэатру, а таксама і хор памянёнага Тэатру.

Дэклямацыя і сьпевы—музыкі Ул. Тэрраўскага—складаліся выключна з твораў Я. Купалы.

Як сьпевы, гэтак і дэклямацыя былі выкананы вельмі добра.

У канцы літаратурна - вакальнай часьціны па просьбе арганізатараў урачыстасьці, Я. Купала прачытаў свой уласны верш «Перад будучынай». Як толькі шаноўны пясьняр узыйшоў на катадру, публіка зрабіла яму вялізарную, бурную авацыю.

Пасьля гэтага студэнт Унівэрсытэту, малады пясьняр Міхась Зарніца з шчырым пачуцьцём прадэклямаваў уласны верш, прысьвячоны ўслаўляемаму песьняру пад назвай «Вялікаму песьняру Бацькаўшчыны».

Урачыстасьць скончылася сьпевам беларускае марсэльезы «Ад веку мы спалі»...

Актавая заля Унівэрсытэту была перапоўнена самай разнаітай публікай, якая прыйшла ўшанаваць беларускага нацыянальнага песьняра.

Відаць было, што ўрачыстасьць зрабіла моцнае ўражаньне на публіку, якая з захопліваючай цікавасьцю слухала даклады, сьпевы і дэклямацыю.

Сярод публікі адчуваўся ўзвышаны настрой. Наўкол у залі, у часы антракту, была чутна беларуская мова.

У вокны залі ліліся моцныя праменьні сонца. І хоць на вуліцы была яшчэ поўная зіма, але па ўсяму відаць было, што ўжо хутка прыйдзе жыватворная, сьветлая вясна.

Прадвясновае сонца сярод зімовай прыроды, якое так яскрава сьвяціла ў гэты дзень, зьявілася вялікім сымбалем нацыянальнага адраджэньня Беларусі, якое, ня гледзячы на ўсе перашкоды, ідзе магутнымі крокамі наперад.

**Я. Журба.**

### Урачыстае ўшанаваньне беларускага пісьменьніка ЯКУБА КОЛАСА.

30 красавіка бягучага году ў актавай залі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту адбылося ўрачыстае пасяджэньне Рады Унівэрсытэту, ахвяраванае ўшанаваньню беларускага пісьменьніка Якуба Коласа. Заля была перапоўнена зацікаўленым грамадзянством, амаль выключна беларускім.

Урачыстасьць адчыніў Рэктар Унівэрсытэту прафэсар Пічэта. У яго кароткай прамове была відаць шчырасьць да беларускага адраджэньня. Прафэсар адзначыў, што Якуб Колас, як нацыянальны пісьменьнік, у навейшай беларускай літаратуры займае першае побач з Янкам Купалам месца. Твор часьць яго вельмі багатая і рознакалярова і зьяўляецца выяўленьнем думак і настрою сялянства.

Я. Колас мае вялікае значэньне для беларускага народу ня толькі як мастак-пісьменьнік, але і як грамадзянскі дзеяч, прымаўшы ўдзел у палітычным жыцьці народу і ў барацьбе за яго культурна-нацыянальнае вызваленьне. Ён ясна бачыў, і галасна казаў, што дзеля разьвіцьця народу, дзеля дасягненьня лепшай будучыны патрэбна яму школа ў яго роднай мове.

Я. Колас быў сябром апазыцыйнага Настаўніцкага Саюзу, разам з якім у часы царскай рэакцыі папаў на лаўку падсудзімых і тры гады адпакутаваў у турме, ня страціўшы вызваленчаскіх ідэй і каханьня да роднага прыгнечанага народу.

Прысутныя ў залі грамадзяне гучнымі воплескамі віталі пісьменьніка, які, па запрашэньню старшыні, заняў пачэснае месца ў прэзыдыуме.

Даклады аб жыцьці і творчасьці Я. Коласа зрабілі: прафэсар Ігнатоўскі на тэму «Асноўныя моманты жыцьця Я. Коласа», лектар Пятуховіч «Я. Колас, як нацыянальны пісьменьнік» і лектар Лёсік—«Нацыянальны элемэнт у творчасьці Я. Коласа».

Якуб Колас, як абмалёўвалі дакладчыкі, сын беднага селяніна Менскага павету, в. Мікалаеўшчыны. Радзіўся ён у суседняй вёсцы, куды матар'яльныя недахваткі змусілі выехаць яго бацькоў у заработкі. Няпрыемнасьць уласнага жыцьця павялічвалася ад няпрыемнасьці агульнай наўкол яго. Пры гэткіх абставінах зарадзілася ў сэрцы будучага пісьменьніка моцнае каханьне да свайго беднага прыгнечанага народу, да роднай. маляўнічай

прыроды любоў, якая мела рашучае значэньне ў кірунку яго далейшага жыцьця і творчасьці.

Будучы выхаванцам Несьвіскай Настаўніцкай Сэмінарыі, ён складаў апазыцыю таму «выправленьню языка», якое звычайна рабілася ў сэмінарыях, насьмешкам з беларускай мовы, як з мужыцкай. Завяршаючы пратэст свайго абуранага сэрца на пасадзе настаўніка, яму прышлося перажыць увесь цяжар праследаваньня царскага жандара, а пасьля і трохгадовую турму. Няма чаго і казаць, як цяжка адбілася на яго псыхіцы і здароўі гэтае здарэньне. Але Я. Колас ня страціў сярод цяжкіх выпрабаваньняў кахан[ьня] да свайго народу; наадварот, сэрца яго яшчэ больш загартавалася, аб чым сьведчыць сучасная яго творчасьць. і

Грунтоўная асаблівасьць творчасьці Я. Коласа—а[пі]саньне прыроды Бацькаўчыны, як «маладой-бо[га]сасажніцы», розных бакоў быту роднага народу, выяўленьне яго псыхікі і філёзофіі. Пісьменьнік жаліцца на няшчасную долю беларуса, на яго беднасьць і прыгнечанасьць. Толькі на могілках знойдзе працоўнік сабе адпачынак; і могілкі нават выяўляюць малюнак беднаты і разбуранасьці.

Але пісьменьнік ня трапіць надзеі на лепшую будучыну беларуса-селяніна. Рознакаляровымі малюнкамі і ласкавым юмарам ён стараецца падбадрыць сваіх братоў, загартаваць у іх сэрцы каханьне да ўсяго роднага.

Дакладчыкі аднагалосна жадалі Я. Коласу дачакаць поўнага адраджэньня любімага ім народу, і спадзяваліся, што гэты шчасьлівы момант хутка настане, і пісьменьнік будзе сьпяваць радасныя гымны вольнаму, шчасьліваму народу. Прысутныя ў залі далучыліся да гэтага пажаданьня моцнымі аплёдысмэнтамі.

Пасьля дакладаў, Я. Колас, па прос[ьбе] старшыні ўрачыстасьці і прысутных грамадзян, прачытаў нов[ы] свой твор, адрывак з поэмы «Новая Зямля», які ўсе слухалі з вялікім захапленьнем і цікавасьцю.

Беларускі хор Равінскага выпаўніў некалькі вершаў Коласа, палажаных на музыку, і пад сьпеў інтэрнацыяналу і беларускай марсэльезы «Ад веку мы спалі», прысутныя разыйшліся, выносячы ў сэрцы вялікі пад'ём, прадбачачы набліжаючыя гадзіны поўнага росквіту роднай культуры.

*Даклад Я. Лесіка—«Нацыянальны элемэнт у творчасьці Якуба Коласа і Тараса Гушчы».*

Я хачу пагаварыць аб тым, як адбілася ў творчасьці Якуба Коласа і Тараса Гушчы нашая нацыянальная справа, беларускае нацыянальнае адраджэньне. Я ня буду чапаць мастацкага боку яго творчасьці, бо мяне цікавіць не поэта і пісьменьнік, як такі, а поэта і пісьменьнік, як грамадзянін, які робіць добрую грамадзянскую справу, «пасяліў добрае», як некалі пісаў наш слаўны перакладчык Бібліі, Скарына.

Зазначу толькі, што, як поэта і пісьменьнік, Якуб Колас дасяг надзвычайнай вышыні, і цяпер талент яго стаў на ступень найвышэйшага росквіту. Гэта сапраўды наш геній, беларускі клясык. Па свайму таленту, па шырыні і глыбіні свае творчасьці яго, калі й можна да каго прыраўнаваць, то толькі да нашага слаўнага земляка, вялікага польскага поэта—Адама Міцкевіча ў яго поэме «Пан Тадэуш». Каб бачыць гэта, даволі пазнаёміцца хоць з некаторымі часьцінамі яго поэмы «Новая Зямля». Напісана поэма вершам надзвычайнай прыгожасьці з чаруючай мілагучнасьцю. Але калі ў «Пане Тадэушу» малюецца ўклад жыцьця нашага беларускага шляхецтва поўнага час[оў], то заданьні «Новае Зямлі» далёка шырэйшыя. «Новая Зямля»—гэта беларуская «Іліада». У «Новай Зямлі», як у люстры, прыгожа адбіваецца сялянскае жыцьцё ўсяе многапакутнае Беларусі, а харaство, багацьце і рознастайнасьць нашае айчыны выступае ў поэме перад усім культурным сьветам першы раз і прымушае кожнага сказаць, што Беларусь

бясспрэчна «красавіца невеста», хоць і без пасагу, як некалі казаў міністар маскоўскага цара Мікалая I, Навасільцаў, прыязджаўшы на Беларусь гасіць апошнія іскры нацыянальнай сьвядомасьці нашага народу. І цікава, што і «Пан Тадэуш» Адама Міцкевіча і «Новая Зямля» Я. Коласа пачынаюцца аднакімі думкамі, аднолькавымі пачуцьцямі — звароткам да свае ўкаханае краіны, да роднай Беларусі. Адам Міцкевіч у перакладзе Марцінкевіча кажа: «Родная зямелька! Ты, маўляў, здароўе: той цябе ашануе, каму безгалоўе, хто жыў калісь на ніўцы тваёй, як у раі, і вось крывавы роніць сьлёзкі ў чужым краі! Цяпер то, як ты красна, я чую, я бачу і апішу, б горка ўсьцяж па табе плачу!» А Якуб Колас цьвердзіць: «Мой родны кут, як ты мне мілы: забыць цябе ня маю сілы! Ня раз, утомленны дарогай—жыцьцём вясны мае ўбогай—к табе я ў думках залятаю і там душой сапачываю». Тут яны ня толькі два вялікія поэты, землякі і аднафамільцы, —бо і Якуб Колас па свайму сапраўднаму прозьвішчу Міцкевіч,—тут яны і родныя браты па вялікаму заміланьню да роднае краіны, што гарачым полымем шугае з іх агністага сэрца. Яны чуюць, яны ведаюць, што «ў родным краі ёсьць крыніца жывой вады», што ў ім толькі «можна пазбыцца свае нуды», як геніяльна выславіўся другі наш слаўны поэта Максім Багдановіч. Тут, калі ўжо зайшла гутарка пра «Новую Зямлю», то трудна стрымацца, каб ня прывесьці, хоць для ўзору, таго хараства ў апісаньні нашае смутна-прыгожае прыроды, каторае зіяючымі дыямэнтамі рассыпана па ўсёй поэме. Успамінаючы шырокія прасторы свае роднае краіны, седзячы ў мурах Менскага астрогу, куды ўкінуў царызм поэту за любоў да свае айчыны, Якуб Колас у поэме «Н. З». кажа:

Вось як цяпер перада мною
Ўстае куточак той прыгожы,—
Крынічкі вузенькае ложа!
І елка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час каханьня,
У апошні вечар расставаньня.
І бачу лес я каля хаты,
Дзе калісь весела дзяўчаты
Сьпявалі песьні дружным хорам,
З работ ідучы позна борам.
Нясьліся зыкі песень здольных,
Ў лясох раз-по-раз адбіваліcь,
Ім ўсюды ўзгоркі адклікаліcь,
І чулась радасьць ў песьнях вольных.
А хвоі, елкі векавыя
Пад зыкі песень маладыя
Маўчком стаялі ў сумнай думе,
І ў іх ціхусенечкім шуме
Няслось вячорнае маленьне
Ўгару—сьвятое аддаленьне.
Каля пасады лясьніковай
Цягнуўся зграбнаю падковай
Стары высокі лес цяністы.
Тут верх асіны круглалісты
Сплятаўся з хвоямі, з дубамі,
А елкі хмурнымі крыжамі
Высока ў небе выдзяляліcь
І сумна з хвоямі шапталіcь.
Заўсёды смутныя, як ўдовы,
Яны найбольш адны стаялі
І так маркотна пазіралі
Іх задуменныя галовы.
Лес наступаў і расступаўся,
Лужком зялёным разрываўся.
А дзе прыгожыя загібы
Так міла йшлі каля сялібы,
Што проста-б імі любаваўся.
Ўнізе кустоўнік расьсьцілаўся
Ды густа з лесам ён сплятаўся.
Глядзіш, бывала, і здаецца,
Што скрозь галін сьцяну жывую,
Скрозь гэту тканку маладую
Ні мыш ні птушка не праб'ецца.
Цякла тут з лесу невялічка,
Травой зарошая, крынічка,
Абодва берагі каторай
Лазьняк, алешнік абступалі,
А ў іх цяньку бруіліcь хвалі...
Зялёны луг, як скінуць вокам,
Абрусам пышным і шырокім
Ад хаты зараз пачынаўся
І ўшыр і ўдоўж ён расьсьцілаўся
Ды йшоў квяцістай раўніною
З высокай мяккаю травою...
Эх, луг шырокі! Як жывы ты,
Лучамі сонейка заліты,

Стаіш ў мяне ты прад вачыма!
Ты міл і смуцен, як радзіма,
Як наша ціхая старонка,
Дзе смагі сіняя пялёнка
У паўднёвы час дымком зьвісае
І даль задумай спавівае.
Хоць я няволяй цяжка змучан,
І з родным берагам разлучан,
Але душой я ажываю,
Як вокам мысьлі азіраю
Цябе, мой луг і бераг родны,
Дзе льлецца Нёман срабраводны,
Дзе дубы дружнай чарадою
Стаяць магуча над вадою...
І толькі тут, пад іх чародкай,
У пятроўку, добраю пагодкай,
Касьбой утомлены спачынеш
І думкі клопату пакінеш,
Заснуўшы крэпка і салодка.
Тут так цяніста і прывольна!
А птушкі голасна і здольна
Шчабечуць ў куссьціках, сьпяваюць,
Сваіх, знаць, дзетак забаўляюць.
А на ду ох, як шапкі тыя,
Чарнеюць гнезды бусьляныя...
У дубох крычаць сіваваронкі,
І сьвіст над лугам рэзкі, звонкі
Каршун маркотна так раняе
І смутак ў душу закідае.

Эх, луг шырокі! Як жывы ты,
Травой мурашнаю закрыты,
Стаіш зялёны прада мною
І зьяеш сумнаю красою!

Каля хаты, у садочку,
Схіліўшысь ціхенька ў куточку,
Стаялі вербы дзьве старыя,
А на акола маладыя
Дзярэўцы пышна разрасталісь
І згодна з ветрыкам шапталісь,
Гальлё спусьціўшы над парканам,
Расла тут груша з тонкім станам,
А ўдоўж паркану пышным валам
Стаяў вішняк густы, прыўдалы...

На прыгуменьні, поруч з садам,
Павець з гумном стаяла радам,
А пад паветкай ўсе прылады:
Вазок, калёсы, панарады,
Старыя сані, восі, колы.
І вульляў некалькі на пчолы,
Яшчэ няскончаных; судзінка,
Стары цабэрак, паўасьмінка
І розны хлэм і лом валяўся,
Ад сонца, дожджыку хаваўся...
У глыбі двара стаяла хата
І выглядала зухавата
Паміж запушчанай будовы,
Як-бы шляхцянка засьцянкова,
Што ў дзень сьвяты каля касьцёла,
Чуць-чуць падняўшы край падола,
Так важна ходзіць з парасонам.
Спадніцай верціць, як ветрагонам,
З дарожак пыл, пясок зганяе
І хлопцам ў вочы заззірае.
За хатай поле пачыналась,
І жыта хараша гайдалась...

Гэта малюнак таго уточку Беларусі на Меншчыне, дзе рос і гадаваўся поэта, але—ці-ж гэта не агульны малюнак усяе Беларусі, «заўсёды смутнае, як удовы»? Ці-ж ня гэта-бы абмаляваў сваю мясцовасьць кожны з нас, у якім-бы куточку Беларусі ён не рад іўся? Яна—наша айчына—усюды прыгожая усюды мілая, і ўсюды смутная, як тая ўдава. А чаму яна смутная? Па кім яна нудзіцца? А нудзіцца яна, журбуе яна па сваім дзецям; гаруе яна па свайму скарбу—пасагу, што парасьцягалі яе дужэйшыя суседзі ў часе яе нацыянальнага заняпаду. Гаруе яна па дзецях сваіх, што не вярнуліся яшчэ з многавяковага нацыянальнага палону. Дык ці-ж можа быць вобраз Беларусі ня смутны? Язык прыліпае к гартані поэты, калі ён хоча сьпяваць пра вясёлае

Ня пытайце, не прасеце
Сьветлых песень у мяне,—

кажа Колас у сваім першым зборнічку вершаў «Песьні Жальбы»—

Бо як песьню засьпяваю,
Жаль ўсю душу скалыхне.
Я-б сьмяяўся, жартаваў-бы,
Каб вас чуць разьвесяліць,
Да на жыцьце як паглянеш,
Сэрца болем зашчыміць.

Не, рана яшчэ весяліцца, грэх танцаваць, калі маці-айчына носіць жалобу, калі дзеці яе блудзяцца яшчэ дзесь па чужых старонках, калі ня скончылася яшчэ наша баб ёнс ае паланеньне. Вось калі вернецца зноўні блудны сын Беларусі, тады заррадуецца яна рад сыну вялікім. А покі

што—яна і радасьць наша і смутак наш. І калі Якуб Колас хацеў нарысаваць агульны вобраз роднага краю, то мусіў нарысаваць яго і мілым і смутным. Мілы ён—бо гэта крыніца жыцьця, смутны—бо не перажыта яшчэ наша нацыянальная няволя, бо мы блудзім яшчэ па пустыні, як тое жыдоўства, што вывеў некалі Майсей з няволі эгіпецкай. Вось гэты агульны вобраз нашай айчыны ў апісаньні Я. Коласа ў яго натхнёным вершы «Родныя вобразы»:

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасьць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я
К вам. мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя смутнай красы?
Толькі я лягу і вочы закрыю,
Бачу я вас прад сабой:
Ціха праходзіце вы як жывыя,
Зьлючы мілай красой.
Чуецца говар мне сьпелае нівы,
Ціхая жальба палёў,
Лесу высокага гоман шчасьлівы,
Песьня магутных дубоў.
Вобразы мілыя, вобразы смутныя,
Родныя вёскі і люд!
Песьні цягучыя, песьні пакутныя,
Бачу і чую вас тут!

Вось такі то вобраз нашай айчыны: ён і мілы, ён і смутны і іншы быць ня можа, покі ня скончылася нашае нацыянальнае палапеньне. Гэтае вялікае замілаваньне да свае айчыны, поўнае смутку і жальбы-нядолі, агністаю пасмаю праходзіць праз усю творчасьць Якуба Коласа. Якуб Колас не пратэстуе, ён і ня бунтуе, як Янка Купула—гэты волат у беларускім пісьменсьцьве, каторы кажа:

За што, о божа праведны, магучы,
Караеш так няшчасны твой народ?
Чаму на стогн маўчыць твой гром блiскучы,
На стогн, што да цябе йдзе з году ў год?..
Паўзводзіў царствы, даў ім панаваньне,
І над пасадамі ўзьнёс свой пасад,
А нашу бацькаўшчыну на'т прыстаньня
Пазбавіў, выгнаў чэзнуць сярод крат.

Прадаў на глум і годным і нягодным
Усё, што ёсьць сьвятым для нас і ў нас.
Мы дома, як ня дома: правам родным
Сваім, ня сьмеема пажыць хоць раз.

Вадзяцца кінуў па бязьмерным сьвеце,
Нявольнікамі кінуў нас гібець
За тую веру, што бацькі і дзеці
У моц тваю вучыліся бек мець.

І ты глядзіш на гэта ўсё з патоляй,
Глядзіш, маўчыш, як падзямельны мур,
Мальбы няшчасных—праўды, шчасьця, долі—
Ты глух паняць, пасланц маланкі бур...

Паймі, пачуй! Сон наш і свой стрывожы!
Закон і суд свой правядні пашлі!
Вярні нам бацькаўшчыну, Божа,
Калі ты цар і неба і зямлі!

Не, Якуб Колас ня бунтуе. Ён, як тыя прарокі, толькі распаляе агонь любві да палоннай айчыны і сваёю жальбай, сваім плачам на раках бабілёнскіх будзіць засну шых, кліча нас успомніць свой страчаны Сіон і ня мірыцца з палонам. Ён навучае нас любіць сваю прыгожую, але пакрыўджаную бацькаўшчыну, цьвёрда верыць у лепшую будучыну свайго народу і распаляе ў нас агонь сьвятога абурэньня. Калі Няслухоўскі таль і марыў аб тым, што «сонца навукі скрозь хмары цёмныя прагляне ясна над нашай нівою, і будуць жыці дзеткі патомныя добраю доляй—доляй шчасьлівою», то Якуб Колас гаворыць аб гэтым цьвёрда, упэўнена, як уладу маючы. Вось што мы чытаем у другой яго поэме «Сымон Музыка» на пачатку яе:

О край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей ёсьць ў сьвеце божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы-бары гудуць.

Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць?!
Дзе над гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе ўвясну лугі цьвітуць
І шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?!
Гэй, адвечныя курганы,
Сьведкі прошласьці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыёй воляю, рукой
Вы раскіданы па полі
Даўных спраў варгаўнікі?..
Край мой родны! Дзе у сьвеце
Край другі такі знайсьці,
Дзе-б магла так, поруч з сьмецьцем,
Гожасьць пышная ўзрасьці?
Дзе-бы об руку з галечай
Расьцьвітаў багацьця цуд,
І дзе-б з долі чалавечай
Насьмяяліся, як тут?
Скрозь вяночкі дрэў вясёла,
Над мястэчкам ці сялом,
Божы цэрквы і касьцёлы
Узносяць вежы к небясом.
Брацьця мае, беларусы!
Ў страшнай кнізе людзкіх спраў
Мусіць сам бог для пакусы
Гэты край наш адзначаў?
Тут сходзіліся ўсе плямёны
Спорку сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць
І самых нас ўзяць ў няволю,
Путы зьдзеку налажыць,
Кінуць у цяжкую гатолю,
Аб нас памяць ўсю замыць.
І лілася кроў нявінна.
Швэд набытак наш паліў,
І маскаль тут самачынна
Гвалт над намі утварыў,
І бяз жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку з ярынамі
Талачыў і драсаваў;
І на нашых станавішчах
Білісь Польшча і Літва,
Каб на гэтых пажарышчах
Ўзмацавалася Масква.
Толькі-ж, брацьця, край ня згінуў,
Не пагнуўся яго стан,
І із нас душы ня вынуў
Ні маскаль ні польскі пан.
Гэй, суседзі, нашы брацьця!
Ня згубілі мы свой шлях,
Ня ўламала нас няшчасьце,
Не сагнуў нас жыцьця гмах!
Дык хіба-ж мы праў ня маем,
Сілы—шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць?!

Нажаль, шмат дзе поэту не хапае гістарычнай веды: іначай ня можна сабе вытлумачыць вось хоць-бы таго месца ў поэме «Сымон Музыка», дзе гаворыцца, што па Беларусі «бяз жалю капытамі конь казацкі ступаў і збажын у з ярынамі талачыў і драсаваў» і што «на нашых станавішчах білісь Польшча і Літва». Гісторыя сьведчыць, што конь казацкі ніколі беларускай збажыны не талачыў і не драсаваў, а гістарычная Літва — гэта сама Беларусь...

Калі Якуб Колас сваёю поэтыцкай творчасьцю, пісанаю вершам, знаёміць нас з хараством роднага краю, навучае любіць яго і верыць у яго лепшую будучыну, то ў прозе, пад займеньнікам (псэўданімам) Тараса Гушчы, ён ужо выступае як грамадзянін-абаронца справы адраджэньня свайго народу. Ды йначай і быць не павінна, калі разумець, што пісьменства—гэта водгульле жыцьця.

А значэньні пісьменства гаварыць ня прыходзіцца. Даволі таго, што пісьменства заўсёды становіць косьць ад касьці і плоць ад плоці самога жыцьця. Але толькі тое пісьменства варта свайго слаўнага найменьня, калі яно сапраўды адбівае народнае жыцьцё. Пісьменства павінна выступаць уцехаю ў жыцьцёвай будзёншчыне, падымаць чалавечы дух і прывучаць людзей займаць свае думкі ня будзённым і скора прамінаючым, а дамагацца вышэйшага і лепшага, што бязупынна жане чалавека ўсё ўперад і далей. Пісьменства выяўляе творчыя сілы свайго народу, выстаўляе яго ідэалы і служыць пабудчыкам грамадзянскага змаганьня за лепшыя ўмовы жыцьця.

Але апрача гэтых, агульна-людзкіх

заданьнь, пісьменства народу нацыянальна-прыгнечанага мае свае асабістыя, адмыслова - нацыянальныя заданьні. Перад беларусінскім, напрыклад, пісьменствам стаіць яшчэ адна справа, невядомая тым шчасьлівым народам, што жылі бясьпечна ад нацыянальнага прыгняценьня. Нашае пісьменства, выяўляючы духоўную істоту свайго народу і рысуючы яго жаданьні, ідэалы, мусіць бараніць яшчэ сваю народнасьць ад загубы, пагражаючай ёй збоку захватніцкіх імкненьняў сваіх дужэйшых суседзяў. Пісьменства народу нацыянальна-прыгнечанага нямінуча становіцца абаронцам свае народнасьці, нацыянальнай самабытнасьці свайго народу, свайго асобнага ўкладу жыцьця, а ў першую чаргу свае мовы. Бо калі мова для народаў нацыянальна дужых, служыць толькі спосабам для лягчэйшага ўзаемнага паразуменьня, то для нас, беларусінаў, як і для кожнага нацыянальна заняпалага народу, мова становіць аснову культурнага жыцьця. Калі немец, француз, ангелец ці расіец карыстаюцца сваёю мовай натуральна, як натуральна карыстаецца здаровы чалавек сваім здароўем, не адчуваючы навет яго, то мы, беларусіны, рвомся да свае мовы, як хворы да здароўя. Як рыба вады, як кожнае стварэньне патрабуе воздуху, так мы ня можам не бараніць свае нацыянальнай асобнасьці, каб не памерці. Натуральнае імкненьне кожнае жывое істоты, кожнага стварэньня— жыць як можна лягчэй і прыемней, а найбольшай прыемнасьці і лёгкасьці можна дасягнуць толькі ў сваіх родных, прызвычаеных умовах жыцьця. Вось чаму кожны народ мусіць бараніць сваю нацыянальную незалежнасьць, калі ня хоча памерці. І пісьменства, адбіваючы жыцьцё свайго народу і выяўляючы імкненьні, становіцца ў першых радох у барацьбе народу за сваю нацыянальную самабытнасьць. Роль нацыянальнага заступніцтва ўзяло на сябе нашае пісьменства даўно, яшчэ з часу палітычнай супольні з Польшчай, калі першы раз востра пачулася нацыянальная небясьпека. Ужо ў XVI-м сталецьці наш слаўны перакладчык біблії Францыск-Георгі Скарына з Полацку выступіў на абарону свае нацыянальнасьці. Ён пісаў: «панежа ад прыраджэньня зьверы, хадзяшчыя ў пустыні, знаюць ямы свая; пціцы, лятаюшчыя па воздуху, ведаюць гнезды свая; рыбы, плываюшчыя па моры і ў рэках, чуюць віры свая; пчолы і тым падобныя бароняць вульляў сваіх,—такжа і людзі, і гдзе зрадзіліся і ускормлены суць па бозе, к таму месту вялікую ласку імаюць». Скарына бачыў, як перакідаліся вышэйшыя станы ў польскі бок, як сваё роднае закідаецца і зьневажаецца і, прыступаючы да свае вялікае літаратурнае працы, (пабеларуску, ане па ц.-славянску, як практыкавалася да таго часу) пісаў, што робіць ён гэта «найболей з тае прычыны, іжа мя міласьцівы бог з таго языка на сьвет пусьціў». І вось, пачынаючы з Скарыны нашае пісьменства ані на момант не забывала свае нацыянальнае справы, справы абароны свае народнасьці. І калі за нашую памяць беларушчына зьневажалася і душылася, калі ніхто не прызнаваў нас за народ, калі расійскія і польскія вучоныя навукова даводзілі, што ніякіх беларусінаў ня было, няма і быць не павінна, калі народ наш называлі расійскім імпэрыялістычным тэрмінам «заладна-рускіх» (на жаль, ня іззжытага і дагэтуль, бач - журнал «Труды беларускага унів. арт. Савіча»),—тагды Якуб Колас пад займеньнем Т. Гушчы, як прозаік, выступіў з апавяданьнем «Дудар». У гэтым апавяданьні у вобразе трох братоў выступаюць: беларусін, украінец і расіец або велікарус. На падгаворы велікаруса забыць сваю беларускаю мову, бо гэта мова нямая, бо яна не дала сьвету нічога, чым-бы можна было пахваліцца, беларусін адказаў:

«Брат!, раскажу табе казку. Пасадзіў пан дудара ў глыбокім склепе за каменныя сьцены і кажа яму: «Грай мне на дудцы, каб я чуў твае песьні, і тады я пазволю табе сьпяваць людзям песьні і дам табе права расказаць сьвету пра твае думкі». Праз

каменныя сьцены не прабілася песьня дудара. і ніхто яго не пачуў. А ці-ж беларускі народ ня быў тым дударом, якога пасадзіў пан, расійскі царызм, у мураванае скляпеньне? А расійскае грамадзянства, тымчасам, казала нам: чаму-ж ня чутно вашых песень? Дзе ваша літаратура, чаму ня відаць яе? Значыць, мова ваша—нямая мова: яна ня здольна гаварыць з сьветам. Прымайце нашу мову!... Так, за мураванымі сьцянамі ня чуваць былі стогны нашага народу...

Найбольшай увагі з нацыянальнага боку заслугуе сцэнічні абразок Я. Коласа-Т. Гушчы пад назовам «На дарозе жыцьця». Тут выступаюць чатыры асобы: старая бедная жанчына, маладая прыгожая дзяўчына, хлопец Васіль — сын жанчыны, і падарожны. Бедная жанчына— гэта Беларусь, дзяўчына— маладая беларуская інтэлігэнцыя, Васіль—беларускае грамадзянства, а падарожны—людзкая веда. Беларусь-жанчына стаіць на шырокім шляху. Перад ёю распаўзаюцца ва ўсе бакі дарогі і сьцежкі. Пасярод дарогі стаіць стары сагнуты крыж. Паволі апускаецца на зямлю ноч. Беларусь-жанчына садзіцца на прыдарожны камень і кажа: «Прызначыў мне бог сьвяты ў адвечнай кнізе жыцьця вялікае гора... Асудзіў ён мяне на доўгае-доўгае блуканьне». Потым жанчына нізка схіляе галаў, доўга і моцна задумваецца, а далей зноў кажа: «Сказаў мне бог сьвяты, што тады *толькі* скончыцца мая дарога пакуты, *толькі* тады я выйду на прасторную пуціну і пазнаю радасьць даўгажаданага сапачынку пасьля труднай дарогі, калі пазьбіраю я дзетак сваіх. Дзе-ж вы, мае дзеткі? Пакінулі вы мяне і разышліся па сьвеце, а я хаджу, шукаю вас, каб зноў сабраць вас у адну сямейку». Угледзіўшы Васіля, яна пазнала, што гэта сын яе, і кідаецца да яго, але той засаромяўся беднасьці свае маткі і з пагардаю адвярнуўся ад яе. А маці моліць: «Васілька, Васілёк! Ты зірні мне ў вочы, зірні, саколік, хоць на адзін мамэньцік! На галоўцы тваёй, пад праваю броўкай, ёсьць маленькі шрамок». —Шрамок—гэта нашыя беларускія нацыянальныя асаблівасьці.—Але В сіль не зважае на гэта і крычыць: «Прэч, шалёная кабета!» Тагды дзяўчына, з якою быў Васіль, паглядзела на яго халоднымі, злымі, поўнымі зьневажэньня, вачыма ды сказала: «Ты—пусты, нікчэмны, дрэнны чалавек! Ты пасаромяўся свае беднае маткі, ты не пасаромяўся людзей, ты плюнуў у твар свае мацеры. Да каго-ж ты падобен цяпер? Ты падобен, выбачай, да тэй сьвіньні, што наеўшыся жалудоў, стала лычом рыць карэньні таго дуба, на каторым вырасьлі яны».

Сустрэўшы далей падарожнага, жанчына апавядае яму, што яна шукае дзетак сваіх, каторыя разышліся па сьвеце. Яна хоча сабраць іх у адну сямейку і пачаць жыць сваім жыцьцём. Яна хоча, каб род яе не растросься, ня зьнішчыўся і не расьсеяўся, як тое парахно над прасторамі палёў. Але дзеці цураюцца яе: адна беднасьць і прастэча адганяе іх ад яе. А падарожны ёй адказаў: «У цябе, кабетка, вялікая мэта, дзеля каторай варта жыць. Дык ідзі, ідзі, старэнькая, ня бойся: твой голас дойдзе да сэрца тваіх дзетак! Яны пачуюць яго, і душа іх моцна-моцна занудзіцца па родным парозе. Людзі, бы дзеці: ты бачыла, як маленькія дзеткі ганяюцца, бегаюць, ловяць па сьцяне зайчыка. Але іх ручкі ловяць голыя сьцены, а зайчык або прапаў або перабег у другі бок. Так і людзі на чужыне... Не, галубка, толькі на роднай глебе, на ўласных каранёх дае дрэва багаты плод»...

«На дарозе жыцьця»—гэта жывы абраз Беларусі. Беларусь не сабрала яшчэ сваіх дзетак, яна не пачала яшчэ жыць сваім жыцьцём і не дачакала яшчэ даўгажаданага сапачынку. А беларускае грамадзянства, гэты Васіль-хам, усё яшчэ не прызнае і выракаецца свае маці—Беларусі. Мы яшчэ і сёньня чуем, як крычыць на яе пэўная частка нашага грамадзянства: «Ідзі прэч ад мяне, шалёная кабета!» І яна йдзе, становіцца на камень ка-

зя крыжа—эмблемы хрысьціянскай веры—ды як тая жанчына ў сцэн. творы «На дарозе Ж.» моліцца найвышэйшай сіле: «Божа, расьпяты на крыжы! Зьнімі з мяне цяжкі крыж мой і пакажы мне дарогу ў сэрца маіх дзетак!» Але мы ведаем, мы ўжо бачым, што тая дарога ўжо знойдзена, і па ёй агромністай чарадой варочаюцца беларусіны да дому. А значыць, сапачынак ужо блізка. Блізка нашая Абяцаная Зямля. Беларусь падышла да мяжы яе. Ужо можна ўзайці на тую высокую гору, а куль відаць шырокія прасторы свайго ўласнага нацыянальнага жыцьця. Там, у межах нашае Абяцанае Зямлі, мы будзем гэтак сама жыць, працаваць і змагацца, але праца наша, барацьба наша асалодзіцца нявымоўнай радасьцю свае нацыянальнае творчасьці, бо толькі на роднай глебе, на родных карэньнях дае дрэва багаты і пажаданы плён... Яшчэ ня раз мы спатыкнемся, яшчэ ня раз акрываяцца рукі нашы і ногі нашы па каменістай дарозе да новага жыцьця, але Абяцаная Зямля відаць. Ясным сонцам яна сьвеціць нам і нагародзіць тых, хто так прагнуў яе, што й душу сваю аддаваў за краіну сваю. Так, Беларусь яшчэ ў муках адраджэньня, але падыходзіць ужо час яе доўгачаканага сапачынку...

Беларусь у вобразе няшчаснай мацеры, шукаючай сваіх пагубленых дзяцей—гэта ўлюбёнае ўвасабленьне Якуба Коласа. На гэтую тэму мы маем яго вялікай натхненнасьці верш «Няшчасная маці» у новым зборніку вершаў «Водгульле» (стр. 32):

У кожную ночку, як сьвет запіхае,
І зоркамі гляне гара,
Халодныя нутры зямля раскрывае,
З тых нутраў выходзіць мара.

Ідзе яна ціха, як ночка, панура,
Ідзе пад крыжы-растанцы,
Стаіць нярухома, выглядвае хмура—
Усё аглядае канцы.

І далей бяз шуму ідзе на балоты,—
Ідзе не крануўшысь расы;
І плачуць ёй сьледам пудліва чароты,
І ціха шумяць ёй лясы.

Абходзіць магілы, на прыклад садзіцца,
І сёлы вартуе яна;
Па роднаму краю снуе і пяніцца
Заўсёды панура, адна...

* * *

І людзі гавораць, што часта чувалі
А поўначы плач па палёх,
І часта кабету адну сустрачалі,
Гаротную, ўсю ў рызмацох.

І чулае вуха той плач улавіла:
«Ой, дзетанькі!»—плача яна,
«Ці-ж я затым вас на сьвет парадзіла,
Каб век заставалась адна?!

Каб крыўд ілі людзі і жыць не давалі?
За што-ж вы зракліся мяне?
За што вы матулю жывой пахавалі?»
Так плача ўсё здань ў цішыне...

Тут мне ўспамінаюцца словы старасьвецкага польскага поэты Кахаҥоўскага: «А калі адчынены каму дзьверы да неба, то гэта тым, хто служыў айчыне». Калі праўду сказаў Кахаҥоўскі, калі заслугі, паложаныя для айчыны, адчыняюць дзьверы да неба, то наш найслаўнейшы поэта Якуб Колас будзе цешыцца вечным райскім жыцьцём, несьмярценнаю славай поэты-беларусіна, бо ён верна слугаваў і слугуе свайй айчыне пяром, абмочаным у сьлязах смутку і жальбы. Любоў яго да маці-Беларусі, што парадзіла і выгадавала яго, шырокая, як мора, і безгранічная, як сьвет. Мы маем поэтыцкую творчасьць Якуба Коласа, пранятую такім агністым заміlаваньнем да свае няшчаснае айчыны, якога ня выявіў ніводзін славянскі народ, не выключаючы і Польшчы. А гэта ўжо скарб ня толькі беларусінскі, гэта ўжо дыямэнт у кароне агульна-людзкой літаратуры.

Уся літаратурная творчасьць Я. Коласа—творчасьць нацыянальная. У ёй, як у люстры, адбіваецца нашая прырода, дух і характар нашага сялянскага народу, аднолькава, як у па-

дзеях дадатных, так і адмоўных, як у добрай, так і благой долі. І апрача таго, літ. твор. Я. Коласа ня толькі люстра ўсяе сучаснае Беларусі,—я а наша і настаўніца; бо вучыць нас любіць сваю краіну моцна, аж да сьмерці. Літаратура—гэта выдатнейшая азнака жыцьцёвасьці і будучыны народу. «Літаратура кожнага народу,—кажа польскі гісторык літаратуры. Брадзінскі—стан віць маральны быт яго; яна бясьпечна ў сваіх граніцах і ніякаму зьнішчэньню не падлягае».

27. IV. 22.
МЕНСК.

### Урачысты акт выпуску слухачоў Менскіх Беларускіх 9-цёх месячных лектарскіх курсаў.

У сераду, 29-га сакавіка г. г., у памяшканьні Беларускага Рабочага Клюбу адбыўся ўрачысты акт з прычыны выпуску слухачоў Менскіх Беларускіх 9-цёх-месячных лектарскіх курсаў.

Азначаная ўрачыстасьць мае вялікае значэньне ў гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэньня наогул і ў гісторыі разьвіцьця беларускае культуры ў асобку. Выпуск кваліфіцыраваных лектароў па беларусазнаўству сьведчыць аб тым, што беларускае нацыянальнае адраджэньне і беларуская культура стаяць ужо на моцным грунце. З гэтай прычыны першы выпуск памянёных лектароў трэба лічыць вялікім гістарычным зьяўленьнем.

Урачыстасьць была адчынена загадчыкам вышэй-памянёных курсаў М. М. Пятуховічам. Пасьля адчыненьня ўрачыстасьці беларускім хорам Равінскага была выканана беларуская марсэльеза. Далей сэкратар курсаў Апацёнак прачытаў афіцыяльны даклад, у якім абмаляваў гісторыю курсаў за ўвесь час іх істнаваньня.

Сваю працу курсы пачалі 9 месяцаў таму назад, у ліпені 1921 г. Умовы, у якіх яны істнавалі, былі вельмі цяжкія. Гэтыя ўмовы добра вядомы кожнаму, хто хоць троху мае дачыненьня да школьнай працы. Недагледжанае памяшканьне, у якім пануе холад,—характэрная адзнака школ. Яшчэ ў горшых умовах знаходзіліся розныя кароткатэрміновыя курсы, да якіх належаць і лектарскія.

Слухачом памянёных курсаў прыходзілася пераносіць холад ня толькі ў памяшканьні курсаў, але і ў сваіх інтэрнатах. Апроч холаду, слухачы часта адчувалі і голад. Але ня гледзячы на ўсё гэта, яны перамаглі і холад і голад.

Трэба мець вялізарную моц волі, каб у працягу 9-х месяцаў перамагаць цяжкія ўмовы жыцьця ў той час, калі можна было, працуючы ў школе, адчуваць сябе шмат лепей. (Амаль што ўсе слухачы да паступленьня на курсы былі школьнымі працаўнікамі). Гэтую моц волі слухачы мелі. Іх трымала на курсах вялікая, захапіўшая іх ідэя, ідэя нацыянальна-культурнага адраджэньня свайго народу.

Можна спадзявацца, што слухачы курсаў, загартаваўшы сябе ня толькі ідэёва, але і фізычна, пры самых цяжкіх умовах не адракуцца ад сьвятой ідэі, якая падтрымоўвала іх на курсах і якая павінна быць пуцяводнай зоркай у іх далейшай працы на карысьць свайму народу і свайй Бацькаўшчыне.

Скончылі курсы 38 чалавек: з іх 23—лектарамі і 15—настаўнікамі.

Па сканчэньні афіцыяльнага дакладу пачаліся прамовы.

*Прамова М. М. Пятуховіча.*

Дарагія таварышы,— лектары і настаўнікі!

Вітаю вас з заканчэньнем курсаў, шчыра жадаю вам посьпеху ў прадстаячай працы.

Вам ня прыходзіцца выбіраць кірунак і шлях гэтай працы; свой выбар вы ўжо зрабілі, паступіўшы на лектарскія курсы беларусазнаўства; ужо самым паступленьнем у гэтую ўстанову вы самаазначылі сябе, як працаўнікі на ніве беларускага нацыянальнага адраджэньня, і вось зараз

разьляцецёся па розных глухіх кутках нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны і панясеце туды сьвятло гэтага адраджэньня, і можа больш калючых церняў, чым пахучых прыгожых кветак, спаткаеце вы на шляху сваёй працы; ня раз можа пачуеце вы поўныя змусты галасы сірэнаў, якія будуць нашоптываць вам, што вы выбралі неправідловы шлях, што ня варта адраджаць тое, што ўжо памёрла, будуць можа казаць вам, што лепш ісьці бойкім, расьпярэбленым шляхам вялікай сучаснай, але небеларускай, культуры, чым шукаць вузкай сьцежкі да культуры, маючай грунт толькі ў мінулым.

У чым-жа вы можаце знайсьці падтрыманьне і апору сярод гэтых варажых галасоў і настрояў?

Вялікі расійскі пісьменьнік Тургенеў у вадным сваім вядомым вершы ў прозе кажа, што яму ў дні цяжкіх сумненьняў і задумленьняў аб лёсе яго Бацькаўшчыны апорай і падтрыманьнем была для яго родная яго мова. Магчыма сказаць, што і для нас, беларусаў, апорай і падтрыманьнем у думках аб лёсе нашай Бацькаўшчыны можа служыць наша родная беларуская мова.

Ня гледзячы на ўвесь уціск, на ўсе зьдзекі ворагаў, ня гледзячы на ўсе імкненьні навязаць нам чужое, народ наш праз вякі сваёй шмат-пакутнай гісторыі, як нейкі сьвяшчэнны скарб, пранёс сваю родную мову незачэпленай і цэлай. Дарэмна кажуць нашы ворагі, што памерла беларуская культура: пакуль істнуэ беларуская мова, пакуль істнуюць багатыя творы на гэтай мове—жыве і будзе жыць і беларуская культура.

Гісторыя дае нам шмат прыкладаў адраджэньня народаў, якія, здавалася, ужо беспаваротна згубілі свой нацыянальны твар. Быў, напрыклад, час, калі Чэхія ўжо затоплівалася хвалямі нямецкага мора, калі на вуліцах Прагі амаль што ня чулася чэшская мова; быў час, калі паўднёва славянскія старонкі, Сэрбія і Баўгарыя, гэтак сама стагналі пад ігам чужакоў і губілі свае нацыянальныя каштоўнасьці. Але паглядзеце, як расквітнелі зараз гэтыя старонкі, якім багатым нацыянальным жыцьцём зараз жывуць яны; гэтыя старонкі маюць нацыянальную школу, багатую літаратуру, маюць навуку ў роднай мове... Што-ж выклікала гэты росквіт нацыянальнай культуры? Воля да жыцьця.

Наш беларускі народ так-сама мае гэтую волю. Уся гісторыя яго сьведчыць аб гэтым. Ня гледзячы на ўсе спробы суседніх народаў, Беларусь не паддалася асыміляцыі, яна захавала свой нацыянальны твар і галоўную адзнаку гэтага твару — сваю родную мову. А пакуль жыве мова, жыве і народ. Гэта агульны гістарычны закон. Народ, які губіць сваю мову, заўсёды робіцца гноем для чужой культуры. Успомніце лёс славянскіх пляменьняў, жыўшых каля́сь на узьбярэжжы Балтыцкага мора: яны згубілі сваю мову і растварыліся ў нямецкім моры. Успомніце лёс фінскіх пляменьняў, загінуўшых у хвалях расійскага мора...

Беларуская нацыянальнасьць у працягу некалькіх сталецьцяў уяўляла сабой выспу, якую ззахаду імкнуліся затапіць польскія хвалі, а з усходу, пазьней, хвалі расійскія. Але не паддаўся беларускі народ, вытрымаў гэты націск і моцна стаіць, захаваўшы свае нацыянальныя і этнаграфічныя асобнасьці; ён мае свой асобны псыхічны склад, свае асобныя гістарычныя традыцыі. У гэтым відаць жывучасьць і вытворчасьць народнага беларускага арганізму. Гэты арганізм не памёр, толькі часова затрымалася яго нармальнае разьвіцьцё, яго рост.

Ваша мэта і назначэньне — адбудзіць гэта нармальнае разьвіцьцё. Як сьпячая казачная царэўна, чакае вас наша родная Беларусь, і вы, пэўна, маеце жывую ваду, каб абудзіць гэтую царэўну. Такой жывой вадой у вас зьяўляецца веда, асабліва веда роднае мовы.

Народ наш даўно ўжо прагнецца да сьвятла навукі, але, на вялікі жаль, яму часта замест хлеба давалі камень.

давалі страву, ад якой не ўзмацняўся, а занядужваў народны арганізм.

Нясеце-ж для гэтага арганізму здаровую, карысную для яго страву, страву веды ўсяго роднага, блізкага сэрцу і душы.

Вы, перадавыя байцы на аванпостах беларускага нацыянальнага адраджэньня!

Але перадавыя байцы часта надта захапляюцца ў працэсе змаганьня, і гэта надмернае захапленьне часта замест карысьці прыносіць для справы шкоду. Я хацеў-бы перасьцерагчы вас ад гэтай крайнасьці. Ёсьць здаровы нацыяналізм і ёсьць шавінізм, які прывод іць к духоўнай абмежнасьці а, значыць, і к духоўнай сьмерці.

Мая шчырая рада вам ісьці ў сваёй працы толькі па шляху здаровага нацыяналізму. Няхай вашым дэвізам будуць залатыя словы вялікага нацыянальнага песьняра Украіны—Т. Шаўчэнкі: «Свайму навучайцесь і чужога ня чурайцесь».

Апроч таго, я хацеў-бы вам напомніць яшчэ аб тым, што і здаровы нацыяналізм тады толькі можа даць добрыя вынікі, калі ён мае моцную сацыяльную базу. Не дарэмна ў сучасных беларускіх пісьменьнікаў нацыянальныя матывы цесна пераплятаюцца з матывамі сацыяльнымі. І запраўды, калі наш селянін будзе жыць у цісках нуды, дык ня можа быць і гутаркі аб нацыянальнай школе, аб нацыянальным адраджэньні. Такім чынам, адраджэньне нацыянальнае побач з адраджэньнем сацыяльным—вось што павінна быць ідэалам вашай працы. І калі вы будзеце імкнуцца да гэтага ідэалу, дык тады ажыцьцёвяцца словы беларускага песьняра Янкі Лучыны:

«Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай нівай.
І будуць жыці дзедкі патомныя
Добраю доляй, доляй шчасьлівай».

*Прамова У. М. Ігнатоўскага.*

Вітаючы былых слухачоў з заканчэньнем курсаў і шчыра жадаючы ім выкачаць сьвятыя ідэі, У. М. Ігнатоўскі адзначае, што беларускі нацыянальны рух запэўнен гістарычнымі законамі. Галоўным грунтам гэтага руху зьяўляецца культурная праца масаў, якая мае ўсе правы на гістарычнае істнаваньне. Далей прамоўца. радзіць будучым лектаром быць асьцярожнымі з вёскай, бо рух часта ідзе туды, куды вёска можа й ня хоча. Ёсьць такія сяляне, якія, па свайй цемнаце, думаюць, што беларуская культура і беларуская мова—нешта выдуманае, зьяўляецца нейкай модай. Будучыя лектары павінны праканаць такіх сялян, што іх погляд на беларускую культуру, як на нейкую моду, ёсьць вялікая абмылка. Ідэалам сьцыялізму і інтэрнацыяналізму зьяўляецца злучэньне ўсіх народаў сьвету ў адну сям'ю. Але злучацца ўсе народы ў адну сям'ю толькі тады, калі кожны асобны народ добра разаўе свае нацыянальныя адзнакі. Зараз гэта дарога яшчэ надта вузкая, але час ідзе, і яна паступова робіцца шырэйшай.

Далей с. Ігнатоўскі заўважыў, што ўлада Беларусі дала для ўтрыманьня лектарскіх курсаў усё, што было магчыма даць у сучасны момант, у які галоўную сваю ўвагу ўлада павінна была пакіраваць на чырвоную армію, з прычыны няспыняючыхся пагроз з боку нашых ворагаў.

У канцы сваёй прамовы Ігнатоўскі выказвае цьвёрдую надзею, што ў будучыне, пры лепшых умовах, рабоча-сялянская ўлада Беларусі зможа даць беларускай вёсцы лектароў з унівэрсытэцкай асьветай.

*Прамова лектара курсаў Я. Лёсіка.*

Маладыя лектары і настаўнікі!

Ад імя Рады Курсаў віншую вас з заканчэньнем навукі і ад усёй душы вітаю вас з пераходам са стану звычайных грамадзян Беларусі ў пачэсны стан настаўнікаў і лектароў.

Што-ж сказаць вам на разьвітаньне? Якімі словамі папрашчацца з вамі?

Многа абяцалася, але ня мала зроблена. Ня гледзячы на самыя цяж

кія ўмовы жыцьця, ня гледзячы на тое, што навука наша прыпынена без пары, заўчасу,—ня гледзячы на гэта, справа даведзена да канца, за гэты кароткі час самае важнае, самае патрэбнае зроблена і зроблена добра. Калі вы перанясецеся думкамі назад і параўнуеце сябе з тым, якія вы былі раней і цяпер, то адразу пачуеце сябе людзьмі новымі, духоўна перароджанымі. Вы ўжо ня тыя, што былі, бо пакаштавалі пладоў з таго дрэва, што называецца *беларускай справай*, беларускім адраджэньнем. Вы былі ўведзены ва сьвятое сьвятых беларускае справы, і адчыніліся вам вочы вашы, і пазналі вы таямніцы ўваскрасеньня айчыны нашай, Маці-Беларусі.

Няма такой школы, каб давала гатовую веду. Школа гэта ня крама, дзе можна дастаць гатовы прадукт. Школа —гэта сьвяцільня, што асьвячае сьцежкі да крыніц веды. Школа толькі запаляе сьвечкі чалавечага імкненьня да веды. Яна толькі дапамагае чалавеку скарэй і вярней знайсьці дарогу да тае крыніцы, што цячэ вадою жывучаю і гаючаю.

Вашы сьвечкі запалены, і вы становіцеся апосталамі беларускае справы. Цяпер, як ясныя зоркі, разыдзецеся вы па Беларусі, каб панесьці з сабою вялікую радасьць аб уваскрасеньні Беларусі. Вы скажаце народу беларускаму, што айчына яго ўваскросла, што ўжо разьбіта дамавіна яго і далёка адкінут камень ад гроба яго. Вы скажаце яму, што Беларусь жыла, жыве і жыць будзе, і што недалёка ўжо «Абяцаная Зямля» яе. А калі знойдзецца Хама няверны, што усумніцца ў праўдзе слоў вашых, дык скажэце яму, што вы самі бачылі яе, сваю Маці-Беларусь, і ўкладалі пальцы свае ў раны яе. А калі і гэта не паможа, то адыйдзецеся ад яго прэч, а пасьпяшайце туды, дзе ждуць вас, дзе слова ваша ня будзе голасам, гукаючым у пушчы. Але бойцеся, каб не пагасла сьвечка ваша, бо ня раз бура захопіць вас у дарозе, і не адну навальніцу давядзецца перажыць вам часе свае падарожы. Пільнуйце і бойцеся, каб не пагасла сьвечка замілаваньня вашага да свае многапакутнае Маці-Беларусі! Пільна сачэце за сабою і не забывайце падліваць алею ў сьвяцільні вашы, каб было з чым сустрэць яе, сваю Белую Русь, калі яна прыдзе судзіць нас ва ўсёй славе сваёй».

Далей з гарачымі прывітальнымі прамовамі выступалі прадстаўнікі розных беларускіх культурна-асьветных установаў і арганізацый: ад Пэдагогічнага Тэхнікуму дырэктар Васілевіч, ад Цэнтральнага Саюзу Спажывецкіх Таварыстваў Беларусі Дыла, ад лектарскіх курсаў М. А. Грамыка, ад Інстытуту Беларускай Культуры старшыня Інстытуту С. М. Некрашэвіч, ад Управы Саюзу Працаўнікоў Асьветы і мастацтва М. Марэзоўскі, ад Беларускага Рабочага Клюбу Шымански, ад студэнтаў Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту Кіпель, ад студэнтаў Пэдагогічнага Тэхнікуму Александровіч.

З адказнай прамовай ад імя быўшых слухачоў лектарскіх курсаў выступіў Я. Плашчынскі.

*Прамова Я. Плашчынскага.*

Паважаны Камісар Асьветы і шаноўныя лектары! Дазвольце ад імя скончыўшых лектарскія курсы беларусазнаўства сказаць вам шчырае беларускае дзякуй ад гарачых, як праменьні сонца, нашых пачуцьцяў за вашу вялікую і шчырую працу.

Мы адчуваем, што, будучы на лектарскіх курсах, мы ўзброіліся аднэй з вамі ідэяй, ідэяй культурна-нацыянальнага адраджэньня нашай дарагой Бацькаўшчыны.

У працягу дзевяцёх месяцаў вашыя навукова-адраджэнцкія словы і думкі знаходзілі жывы водклік у нашых сэрцах—сэрцах сыноў гаротнае Беларусі. Вы, як шчырыя сейбіты на родных загонах, поўнаю жменяю сеялі зерні навукі ў нашыя сэрцы. Верце, што гэтыя зерні прарасьлі і гоняць угару маладыя адросткі. Мы, узмацнёныя сьвятлом навукі, пойдзем у беларускую вёску, да загнанага свай-

го народу. Мы пойдзем к беларускаму гаротніку, каб прасьвятліць яго і выявіць перад ім гістарычны шлях яго жыцьця, на якім павышываны дзіўныя ўзоры яго слаўнай мінуўшчыны, пышнага росквіту яго роднай культуры. Тады толькі ён пазнае сам сябе, так-сама пазнае і тое, як трэба кіраваць сваё жыцьцё, каб хутчэй заняць пачэснае месца сярод культурных народаў.

Праз усё жыцьцё нашы сэрцы будуць хвалявацца салодкімі ўспамінамі аб нашым супольным жыцьці, аб нашай супольнай працы.

Хай пышна закрасуе беларуская культура на карысьць нашаму роднаму народу!

Шчыра дзякую так-сама і ўсіх прывітаўшых нас з заканчэньнем курсаў».

Пасьля Плашчынскага выступалі з гарачымі прамовамі—слухач курсаў с. Каршукоў ад Усходняй Беларусі і слухачка с. Дзявіцкая ад Заходняй Беларусі.

Афіцыяльная часьціна ўрачыстасьці скончылася міжнародным гымнам, які быў выканан аркестрам духавой музыкі.

Далей адбылася літаратурна-вакальная часьціна, у якой прымалі ўдзел беларускі хор с. Равінскага і бышыя слухачы лектарскіх курсаў, а зараз лектары і настаўнікі. Слухачы курсаў: с. Пасьрэнка, Лоцкі і Беларусаў дэклемавалі свае ўласныя вершы, прысьвячоныя ўрачыстасьці.

**Я. Ж.**

## Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Т-ва «АДРАДЖЭНЬНЕ».

Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Т-ва «Адраджэньне» было заложана па ініцыятыве Акадэмічнага Цэнтру сёлета ў сакавіку. У склад яго ўвайшлі: Народны камісарыят асьветы (5704 паёў), Цэнтрабелсаюз (2852 паёў), Наркамзем (100 паёў), Народны Камісарыят унутраных спраў (25 паёў), Цэнтрабелсельгас (25 паёў), Беларускі Акадэмічны Тэатр (25 паёў) і прыватныя асобы (7 паёў); усяго (8738 паёў).

Пай лічыцца па 10 рублёў золатам па курсу Госбанку. Кіруючы орган Т-ва—Праўленьне. За старшыню Праўленьня абраны т. Баліцкі, заступнікам яго на правох дырэктара Т-ва т. Некрашэвіч, члены Праўленьня: т.т. Дыла, Біруля,Валадкевіч.

Т-ва паставіла на мэце выданьне мастацкіх твораў і падручнікаў для беларускіх школ. Да апошняга часу выйшлі ў сьвет: 1) Ячнук: *«Гісторыя беларускай літаратуры»*, 2) Якуб Колас, зборнік вершаў *„Водгульле“*, 3) Янка Купала, зборнік вершаў *«Спадчына»*, 4) Бядуля, зборнік вершаў *«Пад родным небам»*, 5) Багушэвіч, зборнік вершаў *«Дудка беларуская»* і *«Смык Беларускі»*, 6) Кудзелька, *«Босыя на вогнішчы»*, поэма. 7—8) Валасковіч і Лукашэвіч. *«Зборнік арытмэтычных задач ч. I і II.* 9) Ix-жа, *«Мэтодыка арытмэтыкі»*. 10) Кармавыя расьліны—Сарадэля і Пялюшка (брашура), 11) Дзіцячая часопіс «Зоркі» № 4 (10), 12) Язэп Лёсік, *«Практычная граматыка ч. I»*, 2-е перапрацаванае выданьне.

Прыгатаваны да друку: 1) Язэп Лёсік *«Практычная граматыка ч. II*, 2) Грамыка, *Радзіназнаўства* 3) Азбукін, *Геаграфія Эўропы*, 4) Круталевіч, *Альгэбра ч. II.*, 5) Міцкевіч, *Методыка роднае мовы*, 6) Некрашэвіч, *1-ая пасьля лемантара кніга*. 7) Каганец, *Поўны збор твораў*.

Да працы ў выдавецтва запрошаны лепшыя знаўцы друкарскай справы, дзякуючы чаму надрукаваныя кнігі і з тэхнічнага боку маюць даволі добры выгляд.

Для прадажы кніг заложана Т-вам «Адраджэньне» кнігарня па Губарнатарскай вуліцы ў доме б. гасьцініцы «Эўропа».

Арганізавана прадажа кніг на камісыйных асновах у Маскве, Гомлі і павятовых гарадох Савецкай Беларусі.

Зацікаўленасьць у выдавецтве Нар-

камасьветы Беларусі і іншых культурных і грамадзянскіх арганізацый зьяўляецца поўнай гарантыяй сталасьці выдавецтва, і можна спадзявацца, што яно ў справе нашага адраджэньня адыграе вялікую ролю і гэтым апраўдае тую вялікую назву «АДРАДЖЭНЬНЕ», якую яно сабе прысвоіла.

## Беларускі Дзяржаўны Акадэмічны Тэатр.

У палавіне верасьня 1921 году пры Акадэмічным Цэнтры Наркамасьветы Беларусі злажыўся Беларускі Дзяржаўны Акадэмічны Тэатр (пастанова Саўнаркому Беларусі ад 17 верасьня 1921 г.). Для Тэатру адведзены будынак быўшага гарадзкога тэатру з усёю яго маемасьцю. Да апошняга часу ў склад тэатру ўваходзілі:

Беларуская драматычная трупа з 25 асоб, хор з 18 асоб, балет з 8 асоб і аркестр з 15 асоб. Адміністрацыйна-гаспадарчая справа тэатру была даручана дырэктару тэатру—артысту Ляжневічу-Бяздольнаму. Мастацкім бокам справы кіруе мастацкая рада тэатру пад старшынствам Нам. Старшыні Акцэнтру С. Некрашэвіча і галоўнага рэжысэра тэатру Е. Міровіча.

За час свайго істнаваньня тэатр карыстаўся дапамогай ад Ц. В. К. Беларусі, Наркамасьветы Беларусі і Цэнтрабелсаюзу.

Да 15 ліпня 1922 г. Акадэмічным тэатрам было пастаўлена 94 спэктаклі, з іх прэмьер—20. За мінулы час рэпэртуар тэатру папоўніўся 34 новымі п'есамі; і з іх арыгінальных 13 і перакладных 21. З арыгінальных п'ес асаблівую ўвагаю публікі карысталася п'еса М. Кудзелькі «На Купальле», якая на працягу сэзону ставілася 29 раз.

Улетку гэтага году Беларуская трупа ставіла свае спэктаклі ў летнім памяшканьні тэатру «Беларуская Зорка» (б. Рэнэссанс). Апрача Менску, Акадэмічная беларуская трупа ставіла свае спэктаклі ў Гомлі, куды яна выяжджала ў верасьні 1921 г. і ў красавіку 1922 г.

Характарызуючы Акадэмічную Беларускую трупу наогул, трэба сказаць, што гэта першая сталая Беларуская трупа ў Менску. За год яна дала такія пастаноўкі, якіх яшчэ ня бачыла беларускае грамадзянства. Разам з тым, яна значна ўзбагаціла беларускі рэпэртуар. Апрача бытавых беларускіх п'ес, рэпэртуар папоўніўся клясычнымі п'есамі Мольера, Славацкага і іншых.

Сярод беларускіх артыстаў па ігры выдзяляюцца: Грыгоніс, Ждановіч, Крыніца, Крыловіч, Новік, Ржэцкая. Можна з поўнасьцю сказаць, што цяпер тэатр у сваёй працы стаў на правільны шлях і застаецца толькі пажадаць яму далейшай працы на карысьць нашай бацькаўшчыны.

## Драматычная студыя Беларускага Дзяржаўнага Тэатру ў Маскве.

У канцы 1921 году Народным Камісарыятам Асьветы з зацьвярджэньня Ц. В. К. Беларусі была адчынена Драматычная Студыя Беларускага Тэатру ў Маскве. Мэта Студыі—даць маладому беларускаму Тэатру працаўнікоў высокай кваліфікацыі, артыстаў-мастакоў, якія павінны будуць палепшыць з мастацкага боку працу Тэатру. Арганізацыя Студыі і кіраўніцтва ёю было даручана Дырэктару Студыі *Т. Гурскаму.* Настаўнікамі ў Студыю былі запрошаны знаныя артысты і артысткі Маскоўскага Мастацкага Тэатру (А. Бондараў, Б. Афонін, В. Смышляеў, С. Гіяцынтава, М. Усьпенская). Матар'яльнае становішча Студыі, часамі, было надта цяжкае. Апрача падняцьця мастацкай і агульнай адукацыі студыйцаў, у мінулым годзе быў праведзен рад лекцыяў: у галярэях і гістарычным музеі (лектары Акадэмічнага Цэнтру Р. С. Ф. С. Р.) псыхалёгія і дыкцыя беларускай мовы (Т. Гурскі), гісторыя і географія Беларусі, гісторыя беларускай літэратуры і беларуская граматыка, гісторыя рэвалюцыйнага руху на Беларусі (Кудзелька і Стагапоўскі).

У мінулым годзе ў Студыі было 15 чалавек. На наступны год пасьля калёквіуму Радай Ст дыі застаўлена 15 чалавек (з 29 чалавек, камандыраваных Акадэмічным Цэнтрам).

Поўны курс Студыі разьлічаны на тры гады. Па сканчэньні курсу маладыя артысты вернуцца ў Менск і аддадуць сваю веду і сілы роднаму тэатру.

**Беларуская дзяржаўная і унівэрсытэцкая бібліятэка.** У б. юбілейным доме, што каля архіерэйскай цэркві, у маі месяцы адчынілася Беларуская дзяржаўная і унівэрсытэцкая бібліятэка. Бібліятэка мае даволі вялікае аддзяленьне кніг па беларусазнаўству і ўсе выданьні ў беларускай мове.

У аснову бібліятэкі легла каля 40.000 томаў, сабраных у часе рэвалюцыі Наркамасьветам Беларусі, потым 5000 томаў з іншых крыніц, больш за 20.000 томаў б-кі б. Духоўнай сэмінарыі і каля 5.000 томаў з Цэнтральнай Беларускай б-кі, што закладалася ў Менску да адчыненьня унівэрсытэту. У агульнай лічбе б-ка мае цяпер каля 70.000 томаў. Апрача гэтага, у хуткім часе будуць набыты для б-кі кніжніца акад. Карскага і кніжніца нядаўна памёршага профэсара у-ту М. А. Янчука. Ад Расійскай Акадэміі Навук у б-ку паступіла 2.800 томаў поўнага кампленту выданьняў акадэміі, археаграфічнай камісіі і ўрадовых архіваў.

Бібліятэка адчынена штодзенна, у будзённыя дні ад 11 гадз. раніцы да 10 г. увечары, а ў сьвяточныя — ад 11—4 г.

Карыстаньне кнігамі бібл. адчынена для ўсіх.

**Беларускі музэй.** У б. архіерэйскім доме на другім паверсе адчынен Беларускі Музэй. Музэй займае 6 пакояў. Добра абстаўлен этнографічны аддзел. Матар'ялаў найбольш са Случчыны. Для малюнкаў адведзена вялікае месца; найбольш рэчаў італійскай і галяндзкай школы. Ёсьць рэчы пачатку XVI веку. Іншыя школы прадстаўлены слаба. Скульптуры мала. Цікавыя мініатуры на пэргаменце XV—XVI веку і шмат ангельскіх, францускіх і расійскіх гравюр. Ёсьць гравюры Дюрэра, вядомага нямецкага мастака і гравёра XVI в., аўтографы Сьцяпана Баторага, Л. Талстога, Аляксандра I. У музэй-жа пераданы ўсе рэчы літаратурнага і этнографічнага характару А. Бурбіса. Ёсьць даволі значная колекцыя грашавых знакаў рэвалюцыйнага часу (украінскія, паўночнай Расіі, Уладывастоцкія і інш.). Маюцца рэчы каменнага веку з раскопаных курганоў Магілеўшчыны і Меншчыны. Ёсьць даволі цікавы ложак 1672 г., шмат партрэтаў мясцовых дзеячоў, а так-сама малюнкі мясцовых мастакоў. Цікавы вялікія білы — кавалкі залеза, якімі даўней званілі ў цэркаў заместа званоў, шлюбныя вянкі, сплеценыя арыгінальна з саломы, старасьвецкія царкоўныя царскія дзьверы, абразы, крыжы і розныя касьцельныя рэчы. Шмат старасьвецкіх царкоўных рэчаў было вывезена ў Маскоўшчыну, а ці вернуцца яны назад—няма ведама.

У Музэй часта арганізуюцца вучнёўскія экскурсіі. Вельмі пажадана, каб калекцыі Музэю папаўняліся рэчамі беларускага характару. Дзеля гэтага трэба, каб беларускае грамадзянства аднеслася да музэю з вялікай уваг й і ўсе рэчы, якія маюць гістарычную, этнографічную ці мастацкую вартасьць, аддавала ў Музэй.

**Новыя беларускія кнігі.** Выдавецкім Таварыствам «Адраджэньне» выданы такія кнігі:

1) *«Нарысы па гісторыі беларускай літэратуры»* Н. Янчука (Старасьвецкі пэрыад, 120 стр.).

2) *«Водгульле»* — зборнік вершаў Якуба Коласа (112 стр.).

3) *«Спадчына»* — зборнік вершаў Янкі Купалы (236 стр.).

4) *«Пад родным небам»*—зборнік вершаў З. Бядулі (Ясакара) (136 стр.).

5) *«Дудка беларуская»* і *«Смык беларускі»*—зборнік вершаў Ф. Багушэвіча, кірыліцай у адной кнізе.

6) «*Босыя на вогнішчы*»—поэма з рысункамі М. Чарота (48 стр.).

7) «*Зборнік арытмэтычных задач*» ч. I, С. Валасковіча і Т. Лукашэвіча (128 стр.).

8) «*Зборнік арытмэтычных задач*» ч. II, С. Валасковіча і Т. Лукашэвіча (152 стр.).

9) «*Мэтодыка арытмэтыкі*». С. Валасковіч і Т. Лукашэвіч (148 стр.),

10) «*Практычная грам тыка*» беларускае мовы. ч. I. Я. Лёсіка (112 стр.).

Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам выдана:

11) «*Практычная граматыка*» беларускае мовы, ч. II. Я. Лёсіка (318стр.).

---

# КРЫТЫКА І КНІГАПІС.

П. Любецкі

**1. Янка Купала. СПАДЧЫНА.** *Беларускае Коопэрацыйнае Выдавецтва «Адраджэньне». Менск 1922, іп $^{1}/_{8}{}^{0}$, стр. 221.*

Цэлых дзевяць год прайшло ад таго часу, як вышаў апошні зборнік Я. Купалы: «Шляхам жыцьця». І вось цяпер, пасьля доўгага перарыву, калі так зьмяніўся сьвет, зьмяніліся людзі й эканічнасьці нашага жыцьця, выходзіць кніжка вершаў нашага любімага песьняра, чыё імя неразрыўна зьвязана з беларускім рухам, беларускім адраджэньнем. Хапаешся за кніжку, гартаеш яе і ўрэшце—застаешся трохі расчараваны: усё пастарому! І толькі праз некаторы час, пераглядуючы зноў гэтую кніжку, бачыш, што ня ўсё тут старое. Ёсьць і новае.

У зборніку зьмешчаны вершы з розных часаў Купалаўскай творчасьці, пачынаючы ад эпохі яго першых спроб (1906 г.) і аж да 1919 году ўключна. З ранейшага пэрыяду творчасьці Я. Купалы зьмешчаны вершы, дзеля тых ці другіх прычын не ўвайшоўшыя ў ранейшыя зборнікі яго твораў. Дзеля гэтага, у «Спадчыну» папала шмат такіх вершаў, якія звычайна астаўляюцца да поўнага «Збору твораў». У такіх варунках кніжка нейкага ядынага, цалкавітага ўражаньня ня робіць, ні з боку мастацкага, ні з боку ідэолёгічнага. Побач з вершамі высокай вартасьці ёсьць вершы зусім слабыя па зьместу й форме.

Калі параўнаваць «Спадчыну» з ранейшымі зборнікамі, а так-сама ў гэтым адным зборніку вершы ранейшыя й пазьнейшыя, то мы заўважым, што вершы з ранейшых часаў характэрны цеплатой свайго ўчуцьця, лірычным пад'ёмам, напеўнасьцю вершу і яго блізкасьцю да песьні. Вершы-ж пазьнейшых часаў маюць больш спакойны характар і вызначаюцца сьвядомым мастацтвам формы. Поэта ужо ня проста бярэ ўсё, што нахлыне ў душу, а робіць сьвядома-мастацкі выбар і ў тэмах і ў способах іх апрацоўкі.

Характэрным у гэтым сэнсе зьяўляецца самы першы верш, пачынаючы кнігу і даўшы ёй назву—«Спадчына»:

«Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына,
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай».

Тэма вершу старая, тыпічная для Купалы—каханьне да роднай старонкі,—але тут мы бачым такую апрацоўку тэмы, што яна адцясьняе на задні плян самую тэму. Тут мы бачым нават зухаваньне багатымі рыфмамі. Ранейшымі вершамі поэта ставіў сваім заданьнем будзіць у нас тыя ці іншыя ўчуцьці, адпавядаючыя яго ўласным; тут апрача гэтага і нават перш за гэта,—даецца эстэтычна-гастранамічнае задаваленьне. Мы ня столькі наядаемся, колькі пагурманску смакуем страву.

Адраджэнцкія-ж матывы, якімі напоўнена кніжка, узятыя самы па сабе, ужо не захапляюць нас так, як захаплялі раней. Адраджэнцкія матывы да апошняга часу былі поўнымі гаспа-

дарамі ў нашай поэзіі, і нават тыя поэты, якім палітычна-адраджэнцкія кірункі творчасьці былі чужымі (як напр., Багдановіч), складалі ім дань.

Цяпер-жа адраджэнцкая хваля ўжо настолька шырока заліла наш край, што адраджэнцтва ў літаратуры ўжо зьяўляецца перажыткам, яно аджывае свой век; адраджэнцкія вершы ўжо не захапляюць нас, бо тая вера, якую яны павінны разбудзіць у нас, ужо моцна сядзіць у нашым сэрцы; нам хочацца чагось новага. Мы ўжо ня будзем захапляцца тымі творамі Я. Купалы, годзе ён пытаецца: хто такія беларусы—ці людзі, ці скаціна; або тымі, гдзе ён выказвае жаданьне беларусаў «людзьмі звацца»; або тымі, дзе ён усьлед за Багушэвічам даводзіць, што беларуская мова—ня толькі мужычая, але й такая людзкая, як і ўсякая іншая. Усе гэтыя пытаньні для нас ужо разьвязаны. Мы цяпер цьвёрда ведаем, што мы—людзі, што мы ня горшыя за другіх людзей; што наша мова—ня мужыцкая толькі, але й наогул такая-ж добрая, як і іншыя. Цяпер мы самі ведаем па паўдзесятку, а то й па дзесятку чужых моваў і аднака ня цураемся свае роднае, разумеем яе хараство. Дзеля гэтага адраджэнцкія матывы ў вышэйпаказаным сэнсе для нас ужо аджылі свой век. Мы іх болей не патрабуем. Пэўна-ж, на пэрыфэрыі адраджэнцкага руху (а такая пэрыфэрыя ёсьць і яшчэ доўга не прападзе) творы з адраджэнцкім зьместам яшчэ доўга ня страцяць свае беспасрэднае вартасьці і ўплыву.

Адраджэнцкія матывы ў «Спадчыне» вельмі сходны з такімі-ж матывамі «Шляхам Жыцьця». Далей поэта не пайшоў, бо далей, мусіць, і йсьці то некуды. «Шляхам Жыцьця»—вяршына разьвіцьця беларускай адраджэнцкай ідэолёгіі ня толькі Я. Купалы, але й наогул. Тая нездаволенасьць цяперашнім і тая безнадзейнасьць, што так яскрава выяўлены ў малюнку пустой, балотнай дарогі на вокладцы «Шляхам Жыцьця», пануюць і ў «Спадчыне»:

«Як мы жывём, чаго чакаем,—
Ня знаем мы, ня знае сьвет;
Ніто ўжо мром, ні то ўскрасаем,
Змагчы ня ў сілах мук і бед».

Гэтая пакойная безнадзейнасьць рэзка кантрастуе з выкрыкамі «маладых» і «пралятарскіх» поэтаў, якія зьявіліся-былі ў нас у апошнім часе. Пэўна-ж, кожнаму з нас хацелася-б, каб нашы поэты пелі радасныя гымны радаснаму жыцьцю. Але гэтага пакуль што няма, і да тых пор, пакуль наша жыцьцё ня зьменіцца, радасных песень мы не пачуем, бо песьня родзіцца з жыцьця.

Беспрасьветная сучаснасьць і пачуцьцё бязьсільнасьці свае і свайго народу застаўляюць поэта зьвяртацца да найвышэйшай сьветавой улады—да Бога. Яшчэ ў канцы 1912 году поэта зьвяртаецца да Бога з натхнёнай малітвайвершам, поўнай горкіх скаргаў і дакораў. Гэтая «ода» «Цару Неба й Зямлі» (стар. 40), гэты ў істоце свай абвінісельны акт процiў Яго, належыць да наймацнейшых вершаў Купалы, і ня толькі Купалы, але і ўсяе беларускае поэзіі, і ня толькі ўсяе беларускае паэзіі, але таксама й сьветавой поэзіі.

Сярод другіх вершаў першага аддзелу кніжкі зьвяртаюць на сябе ўвагу «Моладзі» і «Песьні вайны». Верш «Моладзі» друкаваўся ў аднэй з першых кніжак часопісі «Лучынка», якая пачала была выходзіць у канцы 1913 і пачатку 1914 году, прысьвячоная спэцыяльна моладзі беларускай.

З пачаткам вайны 1914 году пад гістарычныя выкрыкі нацыянал-шавіністаў нават некаторыя значныя поэты, што цяпер сьпяваюць у Маскве гымны акцябраўскай рэвалюцыі і камунізму,—настроіліся-былі на ўра-патрыотычны лад і «пелі» аб Басфоры, Константынопалю і т. д. Зусім іначай адбілася вайна ў творах Купалы. Толькі на момант затуманілася яго прытомнасьць адвечнай пакорлівасьцю беларускага хлопка. «Кажуць ісьці—трэба ісьці, кажуць забіваць—трэба забіваць»—вось сэнс аднаго з вершаў

напісаных Купалаю пры пачатку вайны («Ськлік», стар. 31), але наогул пачатак вайны адбіўся ў яго творах тым трывожным чаканьнем чагось страшнага і невядомага, якім тагды быў напоўнен наш край. Хутка пасьля гэтага ён ужо рашуча асуджае вайну («1914-ты», «Вясна 1915», ст. 36—38).

«1914-ты» сустракае суровы дакор поэта за тое, што:

«Не забіваці—ты стрывожыў права,
На сэрца і душу наклікаў цьму,
Людзей на зьвераў пошасьцяй крывавай
Ператварыў і здаў насьледніку
свайму».

Дзеля гэтага поэта з горачу прадсказвае «1914-му»:

«Касьцьлявай зморай з гібелі сталецьцяў
Ты, як праклятьце, будзеш вызіраць,
І будзе маці страшыць табой дзеці,
Ды клікаць той, хто ўздумае ўміраць».

Але нават у такі момант поэта верыць у прыход лепшых часаў:

«Аж прыйдзе іншы год з рукою
лёгкай
Агледзіны рабіці новых дзён,
Дзе меч нявідзімага Бога-Рока
Напіша бескрывавы свой закон».

Гэтаю ацэнкаю вайны Я. Купала выгадна вызначаецца ад хаўры ўрапатрыотаў у сваім часе, а цяперашніх «інтэрнацыяналістаў».

У другім аддзеле кніжкі ёсьць вельмі наіўныя насьледаваньні Кальцоўскім песьням. Зьвяртаю па іх увагу дзеля таго, што падобныя вершы далі повад аднаму з прафэсароў Менскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту па ўрачыстым сьвяткаваньні юбілею Купалы далікатна назваць яго беларускім Кальцовым толькі слабейшым. Аб абсурднасьці такой думкі ня прыходзіцца гаварыць, хоць-бы дзеля аднаго таго, што на Купалаўскай творчасьці апрача Кальцова можна прасьлядзіць уплывы Сыракомлі, Канапніцкай, Някрасава, нават Надсана, не гаворачы ўжо аб пунктах сваяцтва Купалы з навейшымі поэтамі. Ніводная літаратура ня жыве цяпер асобным, зусім самастойным жыцьцём. Гэта бязумоўна справядліва і аб нашай маладой літаратуры; але творчасьць кожнага больш-менш значнага поэты складаецца з уласных элемэнтаў плюс рознастароньнія ўплывы другіх поэтаў. Так што нізвадзіць Купалу да Кальцова № 2 можа толькі профэсарскае нявуцтва.

Справа, як відаць, можа быць растлумачана проста. Многія людзі, незнаёмыя з беларускай літаратураю і беларускім жыцьцём, судзяць аб Купале па зборніку яго вершаў у перакладах расейскіх поэтаў. Незалежна ад таго, што гэты зборнічак тэматычна не ахапляе ўсіх бакоў творчасьці Купалы,— трэба мець яшчэ на ўвазе вось што: вершы Купалы з першай палавіны яго творчасьці вызначаюцца інтуіцыйнай напеўнасьцю рытму пры прымітыўным зьмесьце; зьмест у іх ня толькі разварачвае які сюжэт, сколькі праз свае вобразы ў зьвязку з рытмам мае на мэце ўзбудзіць у нас пэўныя эмоцыі. Такія вершы цяжка паддаюцца перакладу і звычайна трацяць пры гэтым большую часьць свае вартасьці, якую яны мелі ў арыгінале. Так сама здарылася і з Купалаўскімі вершамі, і той хто судзіць аб Купале па гэтых перакладах, хай заранеё ведае, што яго вывады будуць няправідловымі.

Найбольшую мастацкую вартасьць з усяе кніжкі маюць вершы, што пападаюцца ў III, IV-м і V аддзелах, гдзе мэты чыстага мастацтва пануюць над прыкладнымі дамешкамі. Першым з іх зьяўляецца першы верш у III аддзеле «Млечны шлях». Звычайна ў Купалы блізка што да ўсякага апісаньня прыроды далучаюцца грамадзянскія думкі. Верш чыніць на нас двоякі ўплыў—і эстэтычны і грамадзянскі, і быць можа, справу можна разглядаць так, што грамадзянскія ўчуцьці бываюць галоўным, апісаньне

прыроды—тэлькі фонам, аправаю. Зусім ня тое ў першых вершах III-га разьдзелу: яны ня маюць ніякіх грамадзянскіх думак і зьяўляюцца чыстым мастацтвам высокай пробы.

Другі верш з гэтага разьдзелу «Званы» вельмі цікавы з тэхнічнага боку: даведзенай да найвышэйшай ступені інструмэнтоўкай гукаў. Альлітарацыі й гукавыя паўторы пападаюцца ў вершах Купалы вельмі часта, мілагучнасьць яго вершаў шмат залежыць ад іх, але пры звычайным чытаньні, калі ўвага компэтэнтнага чытара не зьвяртаецца спэцыяльна на іх, то яны ня відаць. Тут-жа гэтая інструмэнтоўка гукаў адразу кідаецца ў вочы кожнаму чытару:

«Гудуць званы, з дня ў дзень гудуць
мядзяныя званы,
Як стогн, гук-водгульле гучыць мальбою жудзі,
Дрыжыць званіцы мур сьцюдзёны, цагляны,
Дрыжыць званар, надорваныя рвучы грудзі».

Поэты даволі часта задаваліся заданьнем падрабіць у вершах розныя гукі жывой прыроды. Найбольш вядомы і звычайны пяпер імітацыі шуму лесу праз альлітарацыі і паўторы шыпячых. Таксама прыцягваў увагу поэтаў і звон. Шмат каму вядомы, напр., такія радкі расейскага поэты Сяргея Гарадзецкага:

«*Стоны—звоны*, перезвоны,
*Звоны—стоны*, *звоны—сны*,
Хороши крутые *склоны*,
Крутосклоны зелены».

Галоўную вагу мае тут паўтор гуку «н», які ў зьвязку з рытмам і паўторам «з» і «с» дае ільлюзію вясёлага веснавога перазвону.

Іначай пабудован верш Купалы і дае зусім другое ўражаньне. Паўторам у Купалы захоплен большы лік гукаў. Паўтор гукаў «н», «з», «д» і «г» дае імітацыю званоў, якая праз дамешку «д» і «г» у зьвязку з рытмам ахварбоўваецца ў мрочны, патаемны колёрыт; а паўтор гукаў «ж», «ц» і «р» у другой палове чатырохрадкоўкі малюе мур сьцяны, яго дрыжаньне ад магутных званоў і магасільнасьць званара перад такімі грамадамі.

Так сама нельга не заўважыць другога такога вершу, дзе гукавая інструмэнтоўка з другараднага, часта нават несьвядомага мастацкага сродку, робіцца галоўным. Гэта верш «Сьмейся» (стар. 90). Дзеля прыкладу выпісваем тут дзьве страфы з яго:

«Сьмейся сьмехам, сычэньнем праз
скрогат
Перадсьмертны зубоў і расьсейся
У грэзь жыцьця, ў пекла Дантава рогат!
Каб аж косьці ўстрасаў дзікі дрогат,
На пацеху сьляпой дзічы, сьмейся!
. . . . . . . . . . . . . . .
Сьмейся сьмехам-скавытам вядзьмачым,
У віхровым пасьвісьце разьвейся
І над сьветам разьюшаным, сьпячым,
Над жывымі трупамі і плачам
Ты лунай, вочы рві сабе... й сьмейся!»

Але зноў такі, трэба не забывацца, што апрача гэтых прыкладаў, дзе паўтараньне гукаў вылазіць наверх, як сьвядомы мастацкі сродак (і здзін з галоўных), у Я. Купалы ёсьць вялікае багацьце гукавой інструмэнтоўкі наогул, гукавыя паўторы розных тыпаў. *Але* гэтая старана яго творчасьці яшчэ чакае сваіх дасьледчыкаў. У нас яшчэ зусім няма ні крытыкі, ні крытыкаў. А вядома з другіх літаратур, што грунтоўныя досьледы фармальнай стараны твораў поэзіі (мэтрыкі, эўфоніі, вобразнасьці—як мастацкага сродку і г. д.) зьяўляюцца вельмі позна, ужо пасьля таго, як зьмест будзе зжован і перажован на ўсе лады.

У трэцьцім-жа разьдзеле зьмешчана некалькі сонэтаў Купалы, якія сьведчаць аб усё большым і большым праніканьні поэты ў сэнс гэтай поэтыцкай формы.

Верш «На вуліцы» (стр. 87) таксама вельмі цікавы з боку тэхнікі

Звычайна, у Купалы незаметна пагоні за яркай вобразнасьцю. Зьмест у яго пануе над усім другім, і вобразы маюць толькі падсобнае, другараднае значэньне. Гэты-ж верш цікавы імянна, як спроба (і высока-ўдачная спроба) даць нізку яскравых вобразаў, выклікаемых вуліцай места. Вось дзеля прыкладу адна страфа гэтага вершу:

«У дроце, што паміж слупамі віўся
густа ўдоўж,
Як-бы напяты былі там людзкія жылы,
Гудзеў, заводзіў вецер, бы па дроце
рэзаў нож,
Як вісельнік, выў, вырваўшыся з-пад
магілы».

Прыгожы верш «Мая навука» ў канцы III разьдзелу мае аўтобіографічны характар.

Поэма «Яна і Я», пачынаючая сабою IV разьдзел, мае вялікую мастацкую вартасьць. Гэта кусок грубага будзённага жыцьця, з якога ўтворана высока-мастацкая і поэтычная легэнда. Гэта, як пісаньне даўнейшых, старасьвецкіх кніжнікаў: кожная літара, кожная рысачка, кожная драбніца выпісваецца з вялікім стараньнем і заміласаваньнем у адным стылю, прахо-дзячым праз усю працу. Па стылю гэтую поэму раўнуюць з творамі індускага поэты Рабіндраната Тагора.

V разьдзел пачынаецца пераказам народнай легэнды аб разбойніку Машэцы, што калісьці жыў на тым мейсцы, дзе цяпер стаіць Магілеў (Магіла Лева). За выключэньнем некаторай слабасьці псыхолёгічнай канвы, тут рэшта ўсё добра.

Што належыцца да «Бандароўны», то праўда, гэта бледны, рэторычны пераказ народнай колёрытнай бальляды. Самая галоўная розьніца яе з народным творам такая, што «Бандароўна» народная—твор строга эпічны, хоць там і гаворыцца аб вельмі трагічнай справе. У Купалы-ж пры пераложэньні гэтай бальляды наплыло шмат рэторычнага суб'ектывізму (напрыкл., у III адрыўку). Пападаюцца і вульгарныя прозаізмы:

«Тая, жартаў не пазнаўшы,
*Зьехала* па твары».

Купала, як відаць, карыстаўся тлумачэньнем Кастамарава, зьмешчаным у I томе I часьці Шэйна і прыведзеным там адным украінскім варыянтам «Бандароўны», але-ж усё роўна там такога выразу «зьехала па твары» няма. (Бандароўна махнула рукой, адбіваючыся, і **зачапіла** пана).

Шмат больш беспасрэднасьці й поэзіі так-сама ў пераказе народнай легэнды «Страшны вір» (стар. 167).

«Казка аб песьні»—высока мастацкі адраджэнцкі твор.

Так-сама вельмі добрымі зьяўляюцца: вырасшая на грунце народных вераваньняў «Рунь» (стар. 177) і «Забытая карчма» (стар. 178) у пазьнейшай пераробцы.

Высока поэтычны замысел у вершы «Буслы» (ст. 182). Не разьбіраючы яго падрабязтова, можна ўказаць на адну няпрыемную драбностку: «жабры», папаўшыя дзеля рыфмы к слову «сябры». Гаварыць аб птушках і ўжываць слова «жабры» ніяк ня можна, а то хто-небудзь прачытае ды стане яшчэ вінаваціць поэту ў нязнаньні аб прыродзе таго, што ведае кожны.

Наастатак два словы аб рыфмах у «Спадчыне». Наогул, Купала вялікі ў нас масьцер рыфмы, але ў гэтым зборніку мы сустракаем тое, чаго раней у яго не сустракалі: такія складковыя рыфмы, як «аповесьць—даўно весьць», «слаў-бы—слабы» і др.

Чым-жа зьяўляецца «Спадчына»? Рэцэнзэнт «Савецкай Беларусі» грам. Дзяржынскі назваў яе крокам напе-рад. З гэтым ніяк ня можна згадзіцца. Каб назваць «Спадчыну» крокам наперад, трэба было-б прызнаць, што ў ёй ёсьць вершы больш вартныя, чым у ранейшым пэрыядзе творчасьці Купалы. А гэта ня так. Лепшыя адраджэнцкія вершы «Спадчыны» толькі дасягаюць вышыні ранейшых Купалаўскіх твораў, а другія высока-мастацкія творы, зьмешчаныя ў кніжцы, зьяўляюцца спробаю творчасьці ў новым для поэты кірунку.

Так што «Спадчына» ня крок наперад, а паварот: тэматычны і фармальны. З боку тэматычнага гэты паварот характарызуецца меншым захапленьнем поэты адраджэнцкімі матывамі і апрацоўкаю тэмаў чыстага мастацтва; з боку фармальнага—прыметна большая мастацкая сьвядомасьць у карыстаньні вобразнасьцю, рытмікай, рыфмай, інструмэнтоўкай гукаў і т. д. Мераючы на расійскую мерку, я-б сказаў, што ў «Спадчыне» вызначаецца паварот Купалы ад інтуіцыйнай, эмоцыянальнай напеўнасьці Бальмонта да сьвядома-мастацкай шліфоўкі вершаў Брусава. Гэта зусім не азначае, што раней Купала быў вучнем Бальмонта, а цяпер паступіў вучнем у школу Брусава. Не, сэнс ўпамінаньня тут Бальмонта й Брусава такі, што так, як расійская літаратура млада-беларусам лепш вядома, чым беларуская, то адно трапнае параўнаньне, узятае з яе, лепш асьветліць справу, чым доўгі артыкул.

Цяпер некалькі слоў аб надворным выглядзе кніжкі, прычым, сказанае будзе датычыць і другіх выданьняў «Адраджэньня». Вокладка просьценькая, бяз усякіх хітрыкаў, мусі дзеля таго, каб зрабіць кніжку больш таннай і даступнай. На другой старонцы вокладкі адбіт каталёг выдавецтва, так што першая старонка робіцца шурпатай і з прастаты становіцца кепствам.

На апошняй старонцы вокладкі кляймо фірмы з пралятарскай сымвалістыкай (серп і молат, рука з разарванымі кайданамі, факел) і надпісам «Пролетарыі ўсіх краёў злучайцеся!» „Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Т-ва «Адраджэньне»“.

Баюся паказацца неблаганамераным, але мушу выступіць проціў такога кляйма на культурна-асьветных кніжках. У Маскве гэтак ня робяць ужо нават на казённых выданьнях, апрача выданьняў агітацыйных і партыйных. Тут-жа, у правінцыі, гэтым зай[illegible]лецца «коопэр. выд. т-ва». Але гэта пяхай сабе: правінцыя ўсюды благанамернай цэнтру. Справа вось у чым. Для нас, беларусоў, чыя бацькаўшчына разьдзелена паміж варожымі сабе дзяржавамі, важна, каб падтрымліваўся культурны зьвязак між гэтымі разарванымі часьцінамі краю, трэба, каб культурная кніжка, выданая па адзін бок мяжы, маглі цыркуляваць і па другі бок мяжы. Тымчасам гэтае кляймо адразу робіць кніжку падазронай у вачох польскай дэфэнзывы і загараджвае ёй (кніжцы) дарогу к чытачу.

Што належыцца да зьмяшчаньня па два-тры вершы на адну старонку, то трэба памятаць, што цяпер няма каму траціцца на кніжку, выданую «як мае быць». А вось што да абмылак, якія тут пападаюцца (хоць і не ў такой меры, як на беларускіх савецкіх вывесках), то трэба было-б выганяць іх пры карэктуры і выпраўленьні карэктуры больш старанна.

**П. Любецкі.**

2. **Якуб Колас. ВОДГУЛЬЛЕ.** *Беларуск. Коопэр.—Выдав. Т-ва «Адраджэньне». Менск 1922 г. стар. 107+III. in* ¹/₈⁰.

У другіх старых літаратурах ёсьць правіла, што на адным поэце, як грыбы на пні, узрастаюць і кормяцца дваццаць крытыкаў. У нас зусім наадварот: на дваццаць поэтаў няма ліводнага крытыка. Зразумела, што справа так стаіць пакуль-што і з часам зьменіцца, але ўсё роўна шкода, што няма каму навучыць нашу някемную і неасьвечаную публіку шанаваць і цаніць тое, чаго яна зусім не прымячае. А з другога боку—шкода, што няма якога-небудзь сярдзітага крытыка, які-бы час ад часу навальваўся на ўжо прызнаных поэтаў і перашкаджаў ім псаваць рэномэ сваёй фірмы, выпускаць пад старым вядомым іменьнем гнілы, нядобры тавар. Калі-б у нас меўся хоць адзін такі крытык, то напэўна Коласаўскае «Водгульле» мела-бы іншы выгляд.

Чым зьяўляецца гэтае «Водгульле»? — ъметнікам, на які бяз усякага па-

Дзеля прыкладу ўзята другая страфа, бо ў першай у 2 радку замест пэону 2-га пастаўлен 4-ты.

Верш «Сьнег» (стар. 24) цікавы з другога боку: як спробы розных строф і рознай расстаноўкі рыфмаў. Першыя тры страфы, перабіраючыя магчымыя параўнаваньні сьнегу, маюць дактылічна-рыфмуемыя два радкі, а трэці—з мужскою рыфмаю. Другая часьць (5 строфаў) мае тэрнарныя рыфмы, прычым, 1—4 радкі маюць дактылічную рыфму, 2—5—мужчынскую, 3—6—жаночую; слова «сьнег» можна разглядаць, як прыступ. Канец вершу (5 стопаў)—складаецца з звычайных чатырох-радковак з крыжаванымі рыфмамі. Апрача вытрыманасьці складкавай структуры і зьменаў яе, верш надзвычайна прыгожы сам па сабе, сваёй вобразнасьцю й настроем.

Асаблівасьцю вершу «У дзічыне» (ст. 27) зьяўляюцца кватэрнарныя рыфмы і проба пастаноўкі радам розных трох-складовых стопаў: анапэстычных і амфібрахічных:

«Нявідочны хтось даль аздабляе
Блакітам яскравым,
На кволых, пушыстых абшарах
Ткуць лёгкія полагі цені.
Ціпыня мёртвым крокам гуляе
Па дрэвах кудравых
І сее навокала мары—
Ппаніцы бруштынавай жмені».

Складковасьць рытму яшчэ паглыбляецца частымі іпостасамі. У першай страфе анапэстычныя вершы й пяты радкі маюць іпостасы першай стапы амфімакрам, так што радок становіцца як-бы дактылічным з харэічнаю басаю. Выпісаная-ж намі другая страфа фактычна мае такі выгляд:



Паміж іншым, просьба заўважыць вось што: першы радок кожнай чатырохрадкоўкі пісаны анапэстам, другі—трэці—чацьвёрты— амфібрахіем, але ў першым радку маецца лішні (іпэркаталектычны) склад. Дзеля гэтага ўсе чатыры радкі могуць быць пастаўлены адзін за адным у адзін радок і атрымаецца адна доўгая анапэстычная пэласьць; так што ня гледзячы на зьмену разьмераў, гармонія не згвалтована.

Гэта трэба адзначыць дзеля таго, што далей прыдзецца сустрэцца з неправідловым і няўдачным ужываньнем у адным вершы розных разьмераў.

Так-сама з фармальнага боку зьвяртае на сябе ўвагу верш «Можа быць» (стар. 35):

«Можа быць—родны тата
Пятлю мне надзеніць,
Можа быць—мая маці
Мне ката заменіць».

Верш гэты можна разглядаць двайка: як пробу ў стара-народнай рытміцы (лічэньне лёгічных націскаў), а з другога боку—як на пробу сыльлябічных вершаў, бо ў народных старадаўных песьнях лік складоў у радку ня мае значэньня; тут-жа мы бачым вытрыманую зьмену 7 і 6 складовых радкоў. Але як-бы ні разглядаць гэты верш, проба ў кожным разе ўдачная.

На гэтым можна й закончыць агляд першага разьдзелу кніжкі: «Год за годам». Другі аддзел называецца «Грымоты й ціпы».

У ім зьвяртае на сябе ўвагу верш «Шатан сьмерці» (стар 41), пісаны сямі-ступовым харэем з вялікаю цэзураю пасьля 4 стапы. Верш сымвалічны, пісан пад уражаньнем вайны.

Верш «Кат» (стар. 42) цікавы, як ільлюстрацыя сказанага вышэй аб пчэпліваньні розных разьмераў:

«Першы кур пяе... Паўночная гадзіна.
Маўклівы, чорны кот праз мой пакой бяжыць.
Жудасьць, сьмерць і страх пляцуцца павуцінай.
Зданьнё вядзе свой сьпеў, зданьне як ліст. дрыжыць».

Не бяручы пад увагу іпостасаў, мы скажам, што верш пісан у няпарных радкох няўсечаным (акаталектычным) шасьці-ступовым хорэем і ў парных радкох—шасьці-ступовым ямбам.

Ужываньне ямбу з трохэем у адным вершы—рэч звычайная нават у народнай поэзіі, напр.:

«Шла паненка цераз бор,
На ёй сукенка у дзевяць пол».

Але тут мы бачым вось што: трохэічны радок канчаецца каталектычна (адзін ненаціскны склад адкідаецца), так што трохэічны і ямбічны радок пры чытаньні могуць зусім вольна прыстаўляцца адзін да аднаго.

Зусім ня тое ў Бядулі. Калі-б папрабаваць пры чытаньні зьвязваць радкі папарна, ня робячы паўзаў, то будзе ясна чуваць рытмічны перабой. Гэта інстынктыўна чуў і сам поэт, і дзеля гэтага кожны радок першых трох строфаў мае пасьля сябе паўзу. У 4-ай і 5-ай страфе, дзе зьмест такіх паўзаў не дапушчае, мы бачым цікавую «абмылку» проціў прынятай поэтам схэмы: *трэці радок 4-ай і 5-ай страфы замест трохэю напісан ямбам*:

«Кур другі пяе... Як госьць магільны б'ецца
Груган аб шкло вакна. Сякера круць і верць
На каменнай сьцяне: у рукі мае рвецца,
Бо рэзаць хоча ўсіх, усюды тварыць сьмерць».

У 6-й страфе зьяўляюцца ізноў паўзы пасьля радкоў і дзеля гэтага ізноў вяртаецца ранейшая схэма радкоў: трохэй-ямб-трохэй-ямб. Усё гэта ў зьвязку з нязусім удалымі падчас іпостасамі паказвае, што поэт меў тагды (верш азначан 1915 г.) здаровае поэтыцкае пачуцьцё, але не здавальняючыся інтуіцыйнай, песеннай напеўнасьцю, шмат займаўся тэорэтычна й рабіў розныя спробы.

Канчатковы вэрдыкт у справе гэтага вершу, з мастацкага боку,—вінавальны, але бяручы пад увагу зьмест і настрой, можна парадзіць аўтару папрабаваць перарабіць яго.

Верш «Там» (стр. 42) — адзін з двух «Галодных» вершаў (на тэму аб голадзе), зьмешчаных у кнізе. Другі «Галодны» верш на стр. 122: «Голад». Абодва яны пісаны пад уплывамі найвейшых расійскіх сымбалістаў. «Там», памечаны 1921 годам, мае зьмену разьмераў, дактылічныя і іпэрдактылічныя рыфмы. «Голад», памечаны 1922 годам, ня толькі корміцца вобразнасьцю сымбалістаў, але мае й рытм вольнага вершу у «сымфоніях» А. Белага.

Верш на стр. 49:

«Ад плачу птушкі невядомай я прачнуўся раніцой,
Гушчар драмаў на мшалай горцы пад туманістай імглой»

напісан 8-ступовым ямбам з вялікаю цэзураю пасьля тэзіса 5 стапы, так што радок як-бы разьбіваецца на два колы (паўрадкі), прычым, трохэй зьбіваецца на пэон 3, а ў ямбе пападаецца пэон 4.

Другі верш на гэтай-жа старонцы цікавы сваімі ўнутранымі рыфмамі й усечанай канцоўкаю:

«Над пусткай цень расьце віль**готны** і дры**готны**,
І сеецца журба над б**орам**, каса**горам**.
Дух цьмы плыве ўгару дры**мотны** і бал**отны**,
Імкнецца ўліш нябёс да з**ораў** на прас**торы**.
. . . . . . . . . . . . . . .
І ноч схав**ала** сьвет, бязьлітасна стапт**ала**,
І змрочнасьць саранчой агіднаю нясецца,
І шчасьце на зямлі навекі ўжо пра**пала**
І так што ноч здаецца»...

Трох-радкоўкі на стр. 50 цікавы, як проба ігры рухомаю вялікаю цэзураю, так-сама як і верш «На Гольгоце» (стр. 109, хоць там гэтая ігра ня так вытрымана).

«Псальмы паўночныя»—проба дактылічнай вялікай цэзуры.

Строгай вытрыманасьцю формы, яскравасьцю вобразаў і глыбокай філёзофічнасьцю думкі выдаецца верш: «Я—спадчына вякоў» (стр. 52).

Харошым вершам пры канцы другога аддзелу зьяўляецца верш на стр. 53:

«Гэй на золак рана ўстаньце,
У полі бродзіць нейкі бог.
На зялёнай на палянцы
Сьлед расістых яго ног».

Ад вершу так і вее першабытнаю прастатою міфу.

Трэці аддзел кнігі называецца: «Зачарованы край» ад поэмы з такоюжа назваю, займаючай цэнтравае мейсца ня толькі ў гэтым аддзеле, але так-сама і ўва ўсёй кнізе, і быць можа, ня толькі ў гэтай кнізе, але ўва ўсёй датыхчасовай творчасьці Бядулі, пасколькі мы яе знаем. Але аб гэтай поэме яшчэ гутарка наперадзе. Перад ёю зьмешчана так-сама мастацкі-зробленая поэма «На хутары».

Тэмаю гэтай поэмы служыць восень на хвальварку, малацьба, і на гэтым фоне абмалёўка калёрытнай фігуры «Дзеда», старога беларускага селяніна, які нездаволен новымі парадкамі, ганіць усё новае, хваліць усё старое; якому не падабаецца нават, што цяпер пачалі есьці хлеб без мякіны. Астаючыся без работы, да якой ён прывык за свой доўгі працоўны час (усю работу робяць дзеці і ўнукі і, шкадуючы дзеда, не даюць яму пяжкай працы), дзядок соўгаецца па хвальварку, усім цікавіцца, усім нездаволены, мае нават ахвоту палаяцца за стары вышчарблены тапор так, што аж куры разьлятаюцца навакол.

Монолёгі дзеда: аб старыне, аб ядзе, аб хлебе з мякінай вельмі цікавы й характэрны для такіх старых людзей. Пасколькі ад абмалёўкі фігуры дзеда залежыць удача поэмы, яе трэба прызнаць вельмі ўдалай. Трошкі няпрыемнае ўражаньне носіць хоць і мала-прыметны, гіранічны суб'ектывізм аутара, згаблíва ў гісторыі з вышчарбленай сякерай. Нават словы дзеда тут сфальшаваны пад уплывам гэтага аўтарскага суб'ектывізму. Гэта бязумоўна псуе твор, і канец трэба было-б перарабіць.

У той рэдакцыі поэмы, як яна надрукована *ёсьць* адна маленькая недарэчнасьць, друкарская памылка, але вельмі няпрыемная. Гэта месца, дзе дзед, раздумаўшыся аб ранейшых гадох, пачынае шуфляваць да горбы збожжа мякіну й пазадкі (апошняя страфа ў VII разьдзеле):

«— А мякіна у хлебе ня шкодзіць,
Не зашкодзіць і франтам маім»,—
Аднак дзед зглянуўся, як злодзей,
Пры учынку агідным сваім».

У такой рэдакцыі слова «агідным» шмат псуе справу, як занадта рэзкая, несправядлівая суб'ектыўная аўтарская ацэнка ўчынку старога.

Поэма пісана трох-ступовым анапэстам з мужчынскімі й жаночымі крыжаванымі рыфмамі, даволі частымі іпостасамі, прычым, водлуг Бядулінскай прывычкі пападаюцца неправідловыя іпостасы бакхіем у першай стапе, напр.:

«Мазоль трэцца, крывавіцца пот»
(ст. 61)
«Дзядок вечна работу знаходзіць»
(ст. 64) і др.

З боку вобразнасьці, поэма надта ўдалая. Пападаюцца вобразы вельмі трапныя, якія стоячы ў гармоніі са зьместам, апрыгожваюць цэлы кавалак поэмы, цэлую сцэну. Напрыклад:

«Туманом апранае фальварак,
Нібы ў шэры, вільготны кажух»
(стар. 58, аб восені)
«Нібы ладзіцца тут набажэнства
Да бажышчаў сялянскіх турбот»
(ст. 61, аб цяжкай, маўклівай і рытмічнай працы)
«Там, апрануты ў яркія зоры,
Волат лапці з праменьняў пляцё»
(ст. 66, аб выглядзе неба пры заходзе сонца).

Ёсьць мейсцы з цэлымі вязкамі пекных вобразаў.

З боку эўфоніі справа стаіць рона. Узяць, напрыклад, рыфму. Пераважваюць рыфмы аднакавых граматычных формаў (імяньні назоўныя ў адным склоне, дзеясловы ў аднакавай форме), але побач з гэтым ёсьць і вельмі багатыя рыфмы і, наадварот, страшэнна бедныя («дні—лугі», ст. 58; «плыве—глымзане», ст. 61).

Пры аднакавасьці граматычных катэгорый і формаў аднакавасьць толькі аднаго гучнага пры розных апорных зычных робіць зусім нядобрае ўражаньне.

Пападаюцца вельмі добрыя альлітэрацыі й гукавыя паўторы (нават. бяручы пад увагу толькі такія, што падкрэсьліваюць зьмест), напр.:

«Вось зарыпалі хрыпла вароты».
(ст. 67).

Поэма ў цэлым робіць дужа добрае ўражаньне.

Поэма «Зачарованы край» з тэхнічнага боку вызначаецца тымі-ж заганамі й тымі-ж дадатнімі старонамі. толькі мусіць быць ацэнена значна вышэй.

Зьмест яе ўзяты з народных беларускіх казак космогонічнага характару, галоўным чынам з Сяржпутоўскага: «Сказки и разсказы бѣлорусовъ-полѣшуковъ. Спб. 1911». Матар'ял, узяты з народнай творчасьці, перапляўлены поэтам у горне ўласнай душы і адшліфованы з вялікім мастацтвам.

У «Зачарованым краі» інтуіцыя й сьвядомае мастацтва сплялiся разам: гэта чуецца і ў рытме (ня гледзячы на скандальныя іпостасы*), і ў рытмах, і ў вобразах і нават у асаблівай мілазычнасьці мовы.

Ёсьць дужа добрыя альлітэрацыі з імітацыяй гукаў і падкрэсьліваньнем зьместу, напр.:

«Лес шуміць і дрыжыць, і зьвініць,
і дрыжыць» (ст. 85).

Ёсьць шмат новых і вельмі добрых рыфмаў, але ёсьць і зусім слабыя («пляце-запяе», стар. 76). Наогул-жа, аб рыфмах у «Зачарованым Краі» можна сказаць вось што. Рыфмамі пастаўлены такія словы, што яны ня вылазяць наверх і не даюць уражаньня ігры рыфмамі, як напр. у «Там» і др. вершах. Тут, калі рыфма й вельмі добрая, то яна ўсё роўна не адцягвае на сябе ўвагі і не перашкаджае адчуваць рытм і вобразнасьць.

Паміж іншым, трэба адзначыць, што рыфма дужа часта замяняецца ассонансам. Гэта надае вершу характар прастаты (хоць гэтая прастата цяжэй не-прастаты) і вельмі гармонічна лучыцца са зьместам.

Урэшце, трэба адзначыць адну няпрыемную рэч: той самы іранічны суб'ектывізм, аб якім ішла гутарка раней. У 6-м разьдзеле: «Як Бог стварыў Палесьсе», мы чытаем пра Бога такія радкі:

«І сівую патыліцу чухаў»

---

«Бог—**вялікі штукар на ўсе рухі**».

---

«Бог бярэ на вагу, Бог прабуе на
смак,
**Такіх зерняў ня еў Ён і змалку**».

**У** 8-м разьдзеле: «Як чорт украў у Бога насеньне, а Бог нібы-то ня прымеціў»:

«Бог маўчаў—Яму што? Кончыў пра-
цу, назад
Па вяроўцы **ўскарабкаўся** ў неба.
На аблоках ляжыць. Спачывае і **рад**.
**Што нацацкаўся болей, чым трэба»**

Такое лёгкадумнае адносіньне да Бога, такая фамільярнасьць з ім, зьяўляюцца дысонансам у эпічным творы і не апраўдываюцца народнай творчасьцю. Няма там і ніякіх намёкаў на маленства Бога (хоць ён і выяўляецца старым чалавекам), няма там і погляду на тварэньне сьвету, як на цацканьне. Але нават, каб гэта й было, то словы «болей, чым трэба» асталіся-б недапусьцімай адсябяцінай аўтара.

Поэмка «Ў Ясных Крушнях» зроблена даволі добра, але фальш замы-

*) Напр. „Шуміць бор весавы, Лісун гойкае—страх". (ст. 84).

слу гэтым не маскіруецца. Бедная ўдава аддае васьмёх-гадовага хлопчыка за пастушка ў савецкі маёнтак—камуну. Потым суседзі раяць ёй забраць хлопчыка, бо:

«Цар ангельскі едзе, скача,
Перарэжа ўсіх, няйначай».

Маці забірае сына з хвальварку і прывязвае ўдому да тапчана:

«Тры дні хлопец прывязаны
Быў у хаце да тапчана:
Адарваўся на чацьвёрты
І абшарпаны, абдзёрты
Паляцеў назад вясёлы,
Падкасаўшы свае полы»...

Такая ідылія была-б на мейсцы толькі ў выданьні палітпрасьвету, назначаным на прапаганду ідэі савецкіх маёнткаў.

«Тамуз і Егова»—поэма, напісаная на біблійныя тэмы, вызначаецца адпаведнымі асаблівасьцямі тэхнікі, як напр., часты паральлелізм, біблійнасьць вобразаў. Поэма робіць добрае ўражаньне.

Так-сама на біблійны лад напісан верш-поэма «Вечны агонь». Тэма яго ўзята з легэнды, маючайся ў Бібліі, што калі народ жыў у цноце, то на аўтары ў аўтарным агні ляжаў леў, а калі не,—дык сабака. У зьвязку з велічай сюжэту, поэма напісана пяціступовым белым ямбам (драматычным). У Бядулі ён з перэдзьвіжной вялікай цэзурай.

Дагэтуль у беларускай літаратуры мерылі асобнаю меркаю, і часта бывала так, што тое, што па гэтай мерцы выходзіла значным, у параўнаньні з другімі літаратурамі выходзіла зусім нязначным. Гэтая-ж кніжка Бядулі мае рэчы, заслугоўваючыя пільнай увагі, нават, калі іх мерыць не беларускай меркай.

*П. Л.*

**4. Ф. Багушэвіч. I. ДУДКА БЕЛАРУСКАЯ. II. СМЫК БЕЛАРУСКІ.** *Бел. Кооп.-Выдав. Т-ва „Адраджэньне". Менск 1922. стар. 92 іп 1/8°.*

Творы Ф. Багушэвіча, як першага нацыянальна-сьвядомага беларускага адраджэнца, маюць вялікае гісторыка-літаратурнае значэньне. Шмат якія з іх ня страцілі сваей чыста літаратурнай вартасьці аж да пашага часу. Але дзеля таго, што ўсе ранейшыя выданьні выходзілі лацінкаю, яны заставаліся мала вядомымі ва Ўсходняй і Цэнтровай Беларусі сярод беларусоў, узгадаваных маскоўскаю школаю. Цяпер, пры пашырэньні беларускага руху ў народных мала-асьвечаных нізох, якраз на часе зьяўляецца выданьне твораў Багушэвіча кірыліцай, што зробіць іх даступнымі для ўсіх.

Адно толькі не падабаецца ў гэтым новым выданьні: гэта выкідка некаторых вершаў бяз усякага пера-дуведамленьня ў прадмове ад выдавецтва (выкінуты: «Немец», «Падарожны яжыды» і інш.).

Быць можа, яно й праўда, што зьмяшчэньне гэтых вершаў у нашым часе ня зусім магчыма дзеля значна пашыранага цяпер антысэмітызму, але ў кожным разе аб гэтым трэба сказаць у прадмове.

Застаецца яшчэ толькі пажадаць, каб выдавецтва зацікавілася нявыданымі творамі Ф. Багушэвіча («Скрыпка беларуская» на схове ў Эпімах-Шыпілы і др.) і выдала іх хоць адзін раз. Дзеля цэнзурных прычын (вострыя выпады проціў цара) яны не маглі быць надрукаваны ў сваім часе і дагэтуль вядомы толькі паадзінокім асобам, а тымчасам яны маюць вялікае значэньне дзеля характэрыстыкі творчасьці Ф. Багушэвіча і наогул, як беларускі гісторыка-літаратурны матар'ял.

**5. Францішак Аляхновіч. «ЗАРУЧЫНЫ ПАЎЛІНКІ».** *П'еса ў 1 акце з песьнямі й скокамі. Вільня 1921, стар. 22 іп 1/8°.*

Заручыны Паўлінкі зьяўляюцца пробаю дарабіць канец да Купалаўскай драмы, бо папраўдзе кажучы,—факт, што Купала ў сваім творы пакідае дзеячых асоб у заблутаным становішчы. Усе драматургі звычайна

робяць так, што ў сярэдзіне драмы заблутываюць адносіны між дзейнымі асобамі, а ў канцы твору гэтая блутаніна знайходзіць сабе шчасьлівае ці нешчасьлівае, але канчатковае разьвязаньне. Калі глянуць з такога боку, то «Паўлінка» Купалы здасца творам няскончаным: хацелася-б ведаць, якжа далей разьвярнуліся справы? Ф. Аляхновіч папробаваў адказаць на гэтае пытаньне і пяўдала. Па сваёй прывычцы, Аляхновіч і гэтую сваю працу скіраваў у бок опэрэткі, што ў кожным разе выдаецца дысонансам з Купалаўскім творам. Па-другое, псыхолёгічная матывацыя ў «Заручынах Паўлінкі» вельмі слабая: усё прыцягнута за валасы і пастаўлена так, як хочацца аўтару. Агульны выгляд кніжкі робіць уражаньне чарнавых эскізаў: усё-роўна, як-бы кравец, які шыў гарнітур, пасшываў кавалкі матэрыі белымі ніткамі ды на тым і супакоіўся. Гэтыя белыя ніткі так і лезуць у вочы і псуюць уражаньне.

Дзеля ілюстрацыі і падмацоўкі сказанага аб эскізнасьці «Заручын Паўлінкі», не ўваходзячы ў дэталічны разгляд твору, прыводжу толькі два радкі з Паўлінкавага пяяньня (стар 7):

> «Дык-жа сьцішся, сэрцайка, ў грудзёх,
> Хай з мяне апошні ўжо выйдзе ўздох».

«Мэлёдычнасьць» і «беларускасьць» гэтага «вершу» гаворыць сама за сябе.

Паскольку Аляхновіч вядомы нам, як аўтар другіх драматычных твараў, мы ўправе былі-б чакаць ад яго больш стараннай работы.

Паміж іншым, яшчэ адна ўвага. Пры дарабляньні чужога твору трэба абавязкова ўказаць, чый гэта твор дарабляецца і ці гэта робіцца з дазволу аўтара, ці не. Я, напрыклад, не належу да тых, што лічаць дазвол аўтара абавязковым, але я лічу бязумоўна абавязковай маленькую прадмову ў вышэйшым сэнсе. Гэтага ў «Заручынах Паўлінкі» ня зроблена, і гэта ёсьць хібаю (хоць твор і ахвяруецца Я. Купале), але гэта ўжо хіба не літаратурнага, але этычнага характару.

6. **НАШ ШЛЯХ.** *Штомесячнік беларускага студэнцтва. № 2—3. Красавік-Травень. Вільня 1922 г., стар. 28 іп.* $^1/_4{}^0$.

Наш шлях зьяўляецца часопісяй Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні і выходзіць пад рэдакцыяй Б. Туронка. З першага погляду і ў канчатковай ацэнцы часопісь робіць даволі добрае ўражаньне. Стылізаваная вокладка мае сымболічны характар і адразу выяўляе нацыянальна-палітычную фізіаномію часопісі: поле, дарога з надпісам «Наш Шлях» і ўсходзячае сонца з «Пагоняй». Што належыцца да зьместу, то ён трошкі слабаваты: полемічнага задору ў ім больш, чымся навуковай павагі.

З артыкулаў зварачае на сябе ўвагу «Аб нашым мэсыянізьме» С. Радзіміча. Гэта—прыемнае сэрцу беларуса фантэзіраваньне аб тым, што на долю беларускага народу можа выпасьці роля аб'яднацеля славянства, бо маскоўцы—гэта крайні ўсход, а палякі заналта прапіталіся заходнім духам і аказаліся няздатнымі да гэтай ролі.

У часопісі ясна прыметна орыентацыя на Менск, які «зьяўляецца цэнтрам палітычнай і навуковай думкі», і, ў зьвязку з гэтым, значная цікавасьць да таго, што ў ім робіцца. У аддзеле хронікі даюцца весткі аб Менскім Акцэнтры, яго камісіях, аб Інбелкульце і т. д. Ёсьць нават корэспондэнцыя аб беларускіх-студэнтах у Маскве.

Міжнацыянальная вайна ў Заходняй Беларусі, як відаць, ідзе вельмі горача, бо ў «Нашым Шляху» ёй адведзена аж два артыкулы. З боку прынцыповага беларусу цяжка штонебудзь казаць проціў іх; толькі з боку практычнага можна было-б парадзіць рэдакцыі болей умеркаванасьці, бо іначай ставіцца пад знак запытаньня самае істненьне часопісі. Тым часам, пакуль-што беларуская тактыка павінна кіравацца такім прынцыпам:

кожная беларуская арганізацыя, якая ўжо існуе, мусіць канечна існаваць, што-б там ні было!

З боку рэдакцыйнага можна было-б занатаваць зьмяшчэньне матар'ялаў, ня маючых стасунку да Беларусі і беларусаў («Фрагмэнты з сучаснасьці»).

7. **МАЛАДОЕ ЖЫЦЬЦЁ.** *Перыядычная часопісь беларускае моладзі. № 1. 6-га красавіка 1922 г. Вільня, стар. 24 in 1/8°.*

Часопісь выдаецца вучнямі Беларускае Віленскае Гімназіі і робіць досыць прыемнае ўражаньне. Зьмешчаны творы вучняў і вельмі цікавая кроніка гімназіі.

Вокладка мае так-сама, як і ў «Нашым Шляху» сымвалічнае значэньне: маладая парасьль і ўсходзячае сонца (клішэ з «Беларускага Календара» за 1913 год).

Наогул трэба прызнаць, што ў асобах маладых супрацоўнікаў «Маладога Жыцьця» падрастае паважная беларуская сіла, якая потым цьвёрда возьме справу адраджэньня ў свае рукі.

8. **БЕЛАРУСКІ ТЭАТР.** Спытак першы. **П'есы.** *Выдавецтва У. Знамяроўскага. Вільня, стр. 32 in 1/16°. Год не пастаўлен.*

Зьмешчаны «Модны Шляхцюк» К. Каганца, інсцэнізованае Л. Родзевічам апавяданьне Т. Гушчы (Я. Коласа), «Стараста» і драматычны абразок Л. Родзевіча «У кавалёвай хаце».

9. **ДЭКЛЯМАТАР.** *Вільня, 1921. Адбітка з «Беларускіх Ведамасьцей». Пад рэдакцыяй М. Гарэцкага. Стр. 48 in 1/16°.*

Аўтар гэтага «Дэкляматару» пры выбары вершаў зварачаў увагу ня столькі на літаратурна-мастацкі бок іх, сколькі на пэўную тэндэнцыю зьместу, так што па характару свайму зборнік можа быць прыраўнаваны да зборнікаў маскоўскай поэзіі, уложаных у сваім часе П. Якубоўскім - Мельшыным і В. Боня-Бруевічам. Толькі там тэндэнцыя адна, а тут—другая. Але нават, глядзячы з боку вытрыманасьці праводзімай тэндэнцыі падбор вершаў нельга прызнаць удачным.

10. **АНТ. НАВІНА. Пуцяводныя ідэі беларускай літаратуры.** *Выданьне «Нашае Думкі». Вільня, 1921, стр. 31 in 1/16°.*

Хоць гэтага і ня сказана, але названая тут маленькая кніжачка зьяўляецца, мусі, конспэктам публічнай лекцыі паважанага беларускага дзеяча. Агляд беларускай літаратуры зроблен коратка і вельмі трапна.

11. **Е. Ѳ. КАРСКІЙ. БѢЛОРУССЫ.** *т.* III. *Очерки словесности бѣлорусского племени.* 2. *Старая западно-русская письменность. Петроград.* 1921, *стр.* VIII+248 *in* 1/8°.

Гэтая кніжка паважанага акадэміка зьяўляецца далейшым працягам яго вядомай капітальнай працы «Бѣлоруссы».

Перш за ўсё зварачае на сябе ўвагу правапіс кніжкі: яна выдрукавана ў маскоўскай мове старым правапісам, дзеля таго, што пачалася друкам яшчэ ў 1917 г.

Імя акадэміка Карскага, як беларусаведа, ужо досыць вядома, і тут няма патрэбы ў падрабязговым разборы кніжкі. Як і ў першым выпуску трэцьцяга тому, у ёй няма ні бліскучых самастойных тэорый, ні ашаламляюча-новых горызонтаў, але ёсьць спакойны, навуковы, сумленны і старанны агляд таго, што вядома цяпер аб нашым старым пісьменьстве. Дзеля гэтага, а так-сама дзеля таго, што ў прыкладах захаваны нават палеографічныя асаблівасьці, кніжка зьяўляецца неацанёнай падмогаю ўсім тым, хто хоча пачаць грунтоўнае абзнаямленьне з нашым старым пісьменствам.

Цікавыя і прыемныя ноткі чувацъ у прадмове да кніжкі, азначанай студзенем 1921 г.: *)

«...Волею судеб западной окраине истерзанной продолжительной войной и внутренними междоусобиями России теперь опять прыходится жить особой жизнью, отчасти в контакте с Литвой и Польшей. Старые соседи и былые правители Западной Руси прошли вместе с последнею суровую историческую школу, в которой хорошо узнали друг друга и, кажется, должны бы беспристрастно оценить прежние ошибки своей совместной жизни. Настоящей работой автор в той или другой степени старается содействовать освещению этого прошлого с целию уяснения взаимных сил и способности, столь необходимых для нового и лучшего устроения жизни, без повторения прежних ошибок, при сложившихся обстоятельствах. Если читателю станет ясно, что новые связи и отношения должны основываться не на прынципе подавления и угнетения народностей, а на гармоническом и всестороннем свободном развитии каждой из них, автор сочтет свой труд не пропавшим даром»...

12. **Праф. Н. А. ЯНЧУК. Нарысы па Гісторыі Беларускай Літаратуры. Старадаўны пэрыад.** *Пад рэдакцыяй Ул. Дзяржынскага. Курс прачытаны ў Маскоўскім Унівэрсытэце. Бел. Кооп. Выд. Т-ва «Адраджэньне». Менск*, 1922, *стр.* 118 *in* $^1/_8{}^0$.

Кніжка нябожчыка Янчука мае на мэце служыць падручнікам пры унівэрсытэцкіх студыях, напісана досыць навукова і разам з тым папулярна, мае прыклады даўнай беларускай мовы і зусім прыемлема па сваіх поглядах.

Палеографічныя асаблівасьці разглядаемых памяткаў нашага старога пісьменства не маглі адбіцца ў кніжцы, дзякуючы чыста друкарскім прычынам. Пры параўнаваньні з кніжкаю Карскага трэба не забывацца, што тая друкавалася ня ў Менску, але ў Петраградзе, у друкарні Навуковай Акадэміі.

Наогул, хто ведае нябожчыка па яго кніжцы «Очерки белорусской литературы. Москва, 1920», той будзе прыемна зьдзіўлены, пабачыўшы яго новы твор.

13. **Максім Гарэцкі. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРЫ.** *Кошт І. Знамяроўскага і Э. Будзькі. Вільня 1920, стар. 208 in* $^1/_8{}^0$.

Прыгожа выданая кніжка зьяўляецца першаю спробаю даць папулярны падручнік па беларускаму пісьменству для сярэдняе школы і ахапляе сабою пэрыад ад першага зьяўленьня хрысьціянства і пісьменства на Беларусі аж да 1920 году. Як першая такая проба, яна мусіць быць ацэнена высока, тым болей, што пры зьбіраньні і групаваньні матар'ялу гатовых схэмаў ня было ні з боку пэдагогічнага, ні нават з боку навуковага, бо пытаньні беларускага пісьменства яшчэ недастатачна дасьледаваны.

Кніжка мае патрэты пісьменьнікаў, прыклады пісьменства, падчас нават з палеографічнымі асобнасьцямі. Усё гэта павышае цану яе, як падручніка.

Але разам з тым яна мае й пэўныя заганы, і даволі няпрыемныя. Па-першае, сухасьць выкладу; па другое, цяжкі стыль, уласьцівы Гарэцкаму. Гарэцкі настолькі закаханы ў сваёй Амсьціслаўшчыне, што садзіць яе ўсюды. Ня маючы нічога проціў прыўнясеньня Гарэцкім мясцовых і ўсходне-беларускіх элемэнтаў у беларускую літаратурную мову ў яго апавяданьнях і ў яго повесьці «Дзьве душы», (бо гэта ўзбагачвае літаратурную мову), трэба аднак пратэставаць проціў зваротаў і стылю, ацежаляючых *падручнік*.

У падручніку галоўная ўвага павінна быць зьвернута на тое, каб памагчы вучням разьбірацца ў ходзе лі-

*) Прыводзіцца ў сучасным правапісе.

таратурнага разьвіцьця, а не забіваць іх голымі фактамі. Тымчасам з гэтага боку кніжка Гарэцкага падобна да тыповых даўнейшых падручнікаў: факты і факты, а ў зьвязку з гэтым—зубрысьціка, калі папробаваць вучыць і вучыцца па гэтай кніжцы. Мала таго, стараючыся прыдаць кніжцы характар паўнаты, аўтар затрымліваецца больш, чым трэба, на такіх пісьменьніках, якія для нашага краю і нашай літаратуры ня мелі ніякага значэньня, напр. Шпілеўскі, якому адведзены блізка дзьве старонкі. Наогул, ад ст. 56 да 102 можна было-б значна ўрэзаць, задаволіўшыся толькі агульным нарысам і ўспамінамі аб такіх «дзеячох» бел. літаратуры, як Шпілеўскі і др.; у III аддзеле можна было-б урэзаць Пшчолку, Косіч, Арлоўскага. Портрэт Пшчолкі зусім не на месцы, бо Пшчолка больш пашкодзіў, чым паспрыяў беларускаму адраджэньню. Раней творы Пшчолкі кваліфікаваліся, як глум і зьдзек беларускага селяніна, а цяпер водлуг Гарэцкага выходзіць, што яму блізка што помнік трэба ставіць. Гэта зусім ня так. Падробны разгляд усіх гэтых Пшчолак, Арлоўскіх, Шпілеўскіх і шмат каго з шляхцюкоў належыць да поўнай гысторыі грамадзянскага і літаратурнага жыцьця, а не да падручніка.

Наогул-жа, як першая популярная кніжка па бел. літаратуры, кніжка Гарэцкага мусіць быць ацэнена высока. Пры добрым настаўніку, яе адмоўныя эдзнакі, як падручніка, могуць быць значна паменшаны.

**14. Труды Белорусского Государственного Университета в Минске.** 1922 г. **№ 1.** *Госиздат Белоруссии. Минск, стр.* 218 *in* 1/8.

Кніжка гэтая зьмяшчае першыя працы профэсароў і лектароў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. З першага-ж погляду зварачае на сябе ўвагу адсутнасьць усяго таго, што так ці йначай было-б зьвязана з тым беларускім краем, назву якога носіць Унівэрсытэт. Ядыны артыкул у гэтым сэнсе проф. Пічэты „Волочная устава королевы Боны и Устава о волоках“ зьяўляецца перадрукам III главы працы таго-ж аўтара, выдрукаванай у Маскве ў 1918 г.: „Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в литовско-русском государстве“.

Гэта, што датычыцца заданьня, выстаўленага ў прадмове ад рэдакцыі: „Белорусский Государственный Университет имеет областной характер и это ставит ему особые задачи. Он должен быть также и ферментом развития национальных культур края и, прежде всего, культуры белорусской, столь долгое время подвергавшейся внешним стеснениям, развивавшейся при крайне неблагоприятных условиях“.

Узятыя, самі па сабе, артыкулы, зьмешчаныя ў „Трудах“, вельмі вялікай і самастойнай навуковай вагі ня маюць: рэцэнзіі аб книжках, прамовы і ўступныя лекцыі, компіляцыі і комэнтары. Наогул, гэта ня столькі яшчэ навука, колькі популярызацыя навукі.

Аднэю з галоўных прычын гэтага зьявішча ёсьць (водлуг мае думкі) тое **ня зусім добрае** матар'яльнае становішча, у якім знаходзіцца нова-паўстаўшы унівэрсытэт і яго працаўнікі, якое перашкаджае ім аддацца скутэчнай навукова-творчай працы.

Будзем спадзявацца, што калі матар'яльнае становішча унівэрсытэту палепшыцца, а профэсары і лектары трошкі „акклімотызуюцца“, прыгледзяцца да нашага краю, то праграмнае пажаданьне, выстаўленае ў прадмове, выйдзе з рамак програмнага пажаданьня і заменіцца ў жывую і скутэчную працу на карысьць краю.

**Павал Любецкі.**

# ЗЬМЕСТ ПЕРШАГА СШЫТКА

## I.

### Прыгожае пісьменства.



## II.

### Навуковы аддзел.



---

Главлітбел 2607. 1-я Дзярж. друкарня. Зак. № 3405 Друк у ліку 1000 экз.